УДК 940(476.7)
ББК 63.3(2Б-4Бр)
Ш 42

**Шэлехаў М. У.**
Ш 42 Давыд-Гарадок. Час і людзі. – Брэст: Брэсцкае упр. па друку, 2000. – 304 с.: іл.
ISBN 985-6093-26-0

**УДК 940(476.7)**
**ББК 63.3(2Б-4Бр)**

**ISBN 985-6093-26-0**

## ЗМЕСТ

# ДА ЧЫТАЧА

Радзіма аўтара – ваколіцы Мінска, але лёс амаль паўстагоддзя назад прывёў яго ў самую глыбінку Палесся.

Трапіўшы ў Давыд-Гарадоцкі раён, я пачуў, што ў Давыд-Гарадку жывуць татары ды мяшчане, што ўсе яны рамеснікі і гандляры. І кожную вясну іх можна сустрэць на базарах не толькі Беларусі, але і Мурманска, і Уладзівастока, Каўказа і Сярэдняй Азіі з насеннем кветак і гародніны.

А калі я пачаў працаваць у Давыд-Гарадку, то сам непасрэдна пераканаўся, што на самай справе гарадчукі, як яны самі сябе называюць, – з'ява ўнікальная, найцікавейшы народ, адметны жыццёвым укладам, мараллю, традыцыямі.

Іх карані – у глыбіні вякоў.

Іх мова – гэта толькі гаворка, найбольш блізкая з усіх беларускіх гаворак да старажытнарускай мовы.

Іх веданне шматлікіх рамёстваў і гандлёвая хватка – ад жыхароў Гарадка татараў і яўрэяў.

Іх культурныя традыцыі – ад некалі існаваўшага закрытага духоўна-мяшчанскага асяроддзя.

Іх вера – старажытная, праваслаўная.

Іх звычаі – жывыя і народныя, якіх няма нідзе. Ну, напрыклад, гэта адзінае месца на Беларусі, дзе штогод праводзіцца зімовы святочны карнавал, у якім удзельнічаюць усе жыхары горада.

Першы мастацкі твор аб людзях гэтых мясцін быў створаны амаль пяцьдзесят гадоў назад маскоўскай пісьменніцай Лідзіяй Абухавай. Гэта яе аповесць "Глубынь-Гарадок".

Беларускі класік Уладзімір Караткевіч у сваіх падарожных замалёўках назваў Давыд-Гарадок "Палескай Венецыяй".

Пісьменнік з Давыд-Гарадка Георгій Марчук стварыў шэраг раманаў і п'ес, і сярод іх – вядомы раман і аднайменны фільм "Кветкі правінцыі".

Другі гарадчук Леанід Дранько-Майсюк – аўтар шматлікіх вершаў і песень пра сваё Палессе.

Ураджэнец Давыд-Гарадка Ул. Глушакоў сваёй аповесцю "Насенне" пазнаёміў Беларусь з цікавымі адметнымі рысамі жыхароў сваіх мясцін.

Шмат гадоў я збіраў звесткі аб гісторыі гэтага горада, які стаў для мяне блізкім і родным.

Мая работа складаецца з двух кніг. Гэта – першая.

Гісторыя Давыд-Гарадка – гэта часцінка гісторыі нашага народа, а таму яна падаецца на фоне гістарычнага працэсу, які праходзіў у розныя часы ў розных умовах. Гэта – для глыбейшага разумення падзей невялікага рэгіёна.

Аб некаторых фактах аўтар выказвае асабістае меркаванне, таму яно можа адрознівацца ад агульнапрынятай ацэнкі.

Што з гэтага атрымалася – мяркуйце самі.

Аўтар будзе ўдзячны парадам і заўвагам чытачоў, якія дапамогуць удасканаліць гэту работу.

**М. ШЭЛЕХАЎ**

# ВЕЛЬМІ ПАТРЭБНАЯ КНІГА

*Чытач трымае ў руках вельмі патрэбную і вельмі карысную кнігу М. Шэлехава "Давыд-Гарадок. Час і людзі".*

*Кніга прысвечана аднаму з самых цікавых куточкаў нашай зямлі – старажытнаму Давыд-Гарадку. На працягу 900-гадовай гісторыі ад свайго ўзнікнення гэты згублены ў нетрах Палесся невялічкі гарадок зведаў на сваім вяку нястачы і ліхаімствы падзей часу, але не згубіўся ў гісторыі свайго народа, захаваў адчуванне свайго адзінства з ім.*

*Кніга напісана кваліфікаваным гісторыкам і зацікаўленым краязнаўцам, што прыйшоў на гэту зямлю 50 год назад ужо свядомым чалавекам і адукаваным гісторыкам, цесна ўвайшоў у мясцовы быт за паўстагоддзя штодзённага жыцця ў самай гушчы народа, атрымаў давер і прызнанне сумленнай працай на розных пасадах, выбраны мясцовым насельніцтвам. Ён глыбока ўвайшоў у жыццё мясцовых людзей, зведаў і палюбіў іх за неўтаймаваную працавітасць і прадпрымальнасць, шчырую добразычлівасць, шматвекавую самаадданую вернасць памяці і заветам продкаў, вартую глыбокай павагі нашчадкаў. Толькі маючы такую вялікую павагу і любоў людзей, можна прысвяціць усе 50 год свядомага жыцця збіранню звестак аб гісторыі гэтай зямлі і народа.*

*Так узнікла гэта кніга. А яе аўтар стаў мясцовым летапісцам, Герадотам Палесскага краю. Падобна свайму далёкаму грэчаскаму пачынальніку па справах, мэтанакіравана і цярпліва на дакументах і даследаваннях, архівах і сховішчах, па мясцовых паданнях і ўласных назіраннях дзесяцігоддзямі збіраў ён звестачкі аб сваім краі, што стаў для яго блізкім і родным, сапраўднай другой Радзімай.*

*Кніга М. Шэлехава прадстаўляе сабой несумненную цікавасць у першую чаргу для жыхароў Давыд-Гарадка. Бо менавіта аб ім вядзе размову аўтар з чытачом. Гэтым колам чытачоў, здавалася, магла б абмежавацца аўдыторыя зацікаўленых асоб. Аднак аўтар свядома пашырае геаграфію даследавання і ўводзіць матэрыялы з суседніх тэрыторый, уключае ў тэму даследавання агульныя звесткі аб гістарычных падзеях на больш шырокай тэрыторыі, у якіх прымала ўдзел цэнтральнае Палессе. Гэтым значна пашыраецца кола зацікаўленых чытачоў, што знойдуць у кнізе звесткі не толькі аб мясцовых падзеях, але і аб больш шырокай тэрыторыі разам з суседнімі Туравам, Столінам, Дубровіцай і больш аддаленымі Пінскам і Мазыром. І яшчэ больш пашыраецца кола зацікаўленых чытачоў за кошт выкладання матэрыялаў аб шырокамаштабных падзеях сярэднявечча, у якія было ўцягнута Палессе і палешукі, у тым ліку і давыд-гародцы.*

*Несумненная і вялікая цікавасць для шырокага кола чытачоў – першая адметная дадатная якасць гэтай кнігі.*

*Другой, несумненна, дадатнай якасцю кнігі з'яўляецца яе наватарскі ўклад у папулярнае пашырэнне гістарычных ведаў пра гісторыю на-*

*шай зямлі. Здаўна павялося, што асаблівую ўвагу гісторыкаў і пісьменнікаў прыцягвала Полацкая зямля. Аб ёй пісалі свае творы І. Бяляеў, А. Семянтоўскі, У. Ластоўскі. Гэта стварала ёй арэол надзвычайнасці ў гісторыі Беларусі як адзінага цэнтра ў развіцці дзяржаўнасці і культуры. І тым самым скажала сапраўдную карціну дзяржаўнага і культурнага развіцця Беларусі. У канцы XIX і пачатку XX стст. гэта тлумачылася тым, што гістарычнымі даследаваннямі была ахоплена ў асноўным Полацкая крывіцкая зямля. На жаль, загіпнатызаванымі такім падыходам, ацэнкай аказаліся і сучасныя пісьменнікі (У. Арлоў, В. Іпатава, Т. Бондар). У гісторыі і культуры працягваецца праслаўленне адной толькі Полацкай зямлі як аднаасобнага лідэра рознабаковага развіцця Беларусі. А ў гэтым як раз і заключаецца асноўны хіб такога падыходу да падзей X–XIII стст. Шматлікія гістарычныя і археалагічныя даследаванні Цэнтральнай і Паўднёвай Беларусі, Панямоння і Падняпроўя паказваюць, што адначасова з Полацкай зямлёй існавалі іншыя цэнтры ў іншых рэгіёнах Беларусі, што па ўзроўню свайго сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця яны ніколькі не саступалі Полацкай зямлі, развіваліся самастойна, а не пад уплывам і ў залежнасці ад яе. Гэта больш поўна і рознабакова характарызуе сапраўднае, а не аднабаковае развіццё Беларусі, як гэта было ў канцы XIX – пачатку XX стст. І асвятляць гэта развіццё трэба з пазіцый сённяшніх ведаў, а не ведаў стогадовай даўнасці.*

*Кніга М. Шэлехава апавядае аб самастойным развіцці цэнтральнага Палесся (Давыд-Гарадок, Пінск, Тураў і інш.), запаўняючы прабел у гэтых адносінах, і яскрава сведчыць аб высокіх дасягненнях у горадабудаўніцтве, эканоміцы і культуры мясцовага насельніцтва. Гэтым яна служыць выпраўленню гістарычнай няпраўды, што даволі часта і сёння дапускаецца ў гістарычных творах і мастацкай літаратуры.*

*Кніга выходзіць у свет у год слаўнага 900-годдзя старажытнага беларускага горада, што атрымаў сваю назву ад імя свайго заснавальніка, князя Давыда Ігаравіча. Сумна вядома гэта імя па злавесных і злачынскіх учынках гэтага князя, што абурылі сучаснікаў і нашчадкаў. Старажытны летапісец не пашкадаваў цяжкіх і горкіх папрокаў на старонках летапісу ў яго адрас. А ведаў ён гэтыя падзеі дакладна і падрабязна і апісвае дзеючых асоб паіменна, а падзеі – падзённа. І гэты князь на старонках летапісу выглядае як адзін з самых адмоўных герояў у доўгай гісторыі старажытнай Русі. Тым не менш, факты – упартая рэч, і слова з песні не выкінеш, не сказіўшы самой песні. Менавіта ён, гэты князь, Давыд Ігаравіч, пазбаўлены рускімі князямі сваёй спадчыннай бацькаўскай Валынскай зямлі за шматлікія звады, зманы, міжусобныя войны, за свой нязносны нахабны характар, атрымаў у надзел Пагарынскія землі і заснаваў новы горад у нізоўях Гарыні, які і атрымаў назву ў гонар свайго заснавальніка.*

*М. Шэлехаў знаходзіць у асобе гэтага князя і прывабныя рысы ха-*

*рактару – настойлівасць, рашучасць, смеласць, прадпрымальнасць, несумненныя ваенныя і дыпламатычныя здольнасці. І гэта, як відаць, адпавядае сапраўднасці і больш рознабакова малюе партрэт заснавальніка горада.*

*І яшчэ адну якасць трэба адзначыць у кнізе М. Шэлехава. Гэта шырокі агляд падзей з пазіцый кваліфікаванага гісторыка. Падзей, што ахопліваюць гісторыю цэнтральнага Палесся ад засялення яго чалавекам – да 1920 г. Крыніцамі яго ведаў з'яўляліся навуковыя творы і палявыя даследаванні рэгіёна археолагамі, якія часценька наведваў аўтар. Спіс выкарыстанай літаратуры сведчыць аб пастаяннай увазе аўтара да новых распрацовак розных пытанняў сярэдневяковай гісторыі Беларусі. А разам з тым нямала матэрыялаў выкарыстана ў рабоце, не адзначаных у спісе літаратуры. Аўтар выкарыстоўвае архіўныя і фондавыя матэрыялы, мясцовыя легенды і паданні, паведамленні мясцовых жыхароў і сур'ёзныя навуковыя даследаванні. Аўтар не абмяжоўваецца матэрыяламі толькі аднаго Давыд-Гарадка, а прыцягвае звесткі з больш шырокага рэгіёна, калі вымагае гэтага больш шырокае і маштабнае апісанне падзей, у якіх прымаў удзел Давыд-Гарадок і гарадчукі.*

*Структура і храналагічная перыядызацыя кнігі не выклікаюць пярэчанняў. Напісана яна простай і даходлівай мовай, апісанне падзей вядзецца цікава і захапляльна, у асобных месцах – на ўзроўні сапраўднага мастацкага твора. Кніга чытаецца лёгка, аўтар дасканала валодае словам, уменнем у арыгінальнай форме падаваць фактычныя звесткі. Сапраўды, гэта гісторыя людзей і часу, выкладзеная ў цікавай захапляльнай форме.*

*Асобна трэба сказаць некалькі слоў пра пазіцыю аўтара кнігі. Розныя падзеі адбываліся на тэрыторыі Беларусі за доўгі шлях яе гістарычнага існавання. Аўтар не абыходзіць у кнізе вострых момантаў асобных падзей. Асобныя чытачы, можа, і не зусім пагодзяцца з ацэнкай аўтарам тых ці іншых падзей. Розныя могуць быць прычыны такой нязгоды. Аднак аўтар, як сапраўдны гісторык і грамадзянін займае сваю мужную прынцыповую навуковую пазіцыю, што вызначаецца існуючымі фактамі, іх прычынамі і наследкамі. Гэта заслугоўвае павагі і пашаны. Аўтар мае права на сваю ацэнку, сваю пазіцыю, нягледзячы на магчымую нязгоду асобных апанентаў. Тым больш, што ацэнкі і высновы аўтара грунтоўна падмацаваны прыведзенымі фактамі, спасылкамі на аўтарытэтныя крыніцы і фундаментальныя даследаванні.*

*У заключэнне магу толькі сказаць самыя шчырыя словы віншавання М. І. Шэлехаву з выхадам вельмі ўдалай і патрэбнай кнігі "Давыд-Гарадок. Час і людзі".*

*Я віншую з выхадам гэтай кнігі таксама ўсіх жыхароў Давыд-Гарадка. Нямногім гарадам пашанцавала мець і свайго гісторыка-летапісца, і кніжку па гісторыі горада за ўвесь час яго існавання: ад узнікнення да сённяшніх дзён.*

*Невялічкі Давыд-Гарадок падараваў беларускай культуры паэта Леаніда Дранько-Майсюка, пісьменнікаў Георгія Марчука і Уладзіміра Глушакова, пісьменніка, кінарэжысёра і сцэнарыста Міхаіла Шэлехава (дарэчы, сына аўтара М. Шэлехава) і мастака Уладзіміра Уродніча, скульптара Аляксандра Дранца, народнага скульптара малых формаў Уладзіміра Казелку. Цяпер да ліку славутых землякоў давыдгарадоццы з поўным правам могуць далучыць і свайго земляка-гісторыка Міхаіла Шэлехава, свайго, мясцовага Герадота і летапісца.*

*Я віншую з выхадам кнігі М. Шэлехава аматараў старажытнай гісторыі з усёй тэрыторыі Беларусі, што атрымалі карысную кнігу аб мінулым нашай Радзімы.*

*Я хачу звярнуцца да нашых краязнаўцаў, вучоных, пісьменнікаў, дзеячоў культуры. Гісторыя нашай зямлі і нашага народа багата велічнымі ўчынкамі і трагічнымі падзеямі, што могуць стаць аб'ектамі даследаванняў і вывучэння, тэмай навуковых і мастацкіх твораў.*

*Іх чакае ўважлівы і ўдзячны чытач, наш суайчыннік і сучаснік. Іх чакае беларуская культура, патрэбы пашырэння ведаў і выхавання грамадзян. Узорам такіх твораў можа стаць кніга піянера гэтай справы, давыдгарадзецкага гісторыка і краязнаўца Міхася Шэлехава "Давыд-Гарадок. Час і людзі".*

***Доктар гістарычных навук,***
***прафесар П. ЛЫСЕНКА***

*Спадарожніцы жыцця, стваральніцы творчых умоў Ніне Аляксандраўне Шэлехавай гэту кнігу прысвячаю.*

***Аўтар***

❖❖❖

## АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

XII–XIV стагоддзі – ГАРАДОК
XV–XVI стагоддзі – ГАРАДОК ДАВЫДАЎ
пач. XVII стагоддзя – ДАВЫД-ГАРАДОК

| | |
|---|---|
| 1100. | Замак удзельнага Пагарынскага княства. |
| 1112. | Цэнтр удзельнага Гарадзецкага княства Тураўскай зямлі. |
| Сяр. XIV ст. | Цэнтр удзельнага Гарадзецкага княства ў складзе Вялікага княства Літоўска-Рускага. |
| 1413. | Цэнтр удзельнага Гарадзецкага княства Трокскага ваяводства. |
| 1521. | Горад у Замкавай воласці Пінскага павета. Кароннае ўладанне каралевы Боны. |
| 1551. | Цэнтр Замкавай воласці Пінскага павета, прыватнаўласніцкі горад князёў Радзівілаў з Магдэбургскім правам. |
| 1793, 23.01. | Уваход у склад Мінскай губерні Расійскай імперыі. |
| 1795. | Цэнтр Гарадзецкага павета Мінскай губерні. |
| 1796, 22.01. | Указ аб прысваенні гораду Давыд-Гарадку герба. |
| 1797. | Мястэчка Мозырскага павета Мінскай губерні. |
| 1861. | Мястэчка Хорскай воласці Мозырскага павета Мінскай губерні. |
| 1921, 01.03. | Мястэчка Хорскай гміны Столінскага павета Палескага ваяводства. |
| 1939, 17.09. | Вызваленне ад польскай акупацыі. Уваходжанне ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. |
| 1940, 15.01. | Горад, цэнтр Давыд-Гарадоцкага раёна і гарадскога савета Пінскай вобласці. |
| 1954, 8.01. | Цэнтр Давыд-Гарадоцкага раёна і гарадскога савета Брэсцкай вобласці. |
| 1961, 19.01. | Цэнтр гарадскога савета Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. |
| 1990, 27.07. | Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР (з 19.09.91 г. – Рэспублікі Беларусь). Адміністрацыйны падзел не зменены. |

## ДАВЫД-ГАРАДОК У ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫХ ВЫДАННЯХ І ДАВЕДНІКАХ

ЖИВОПИСНАЯ РОССИЯ. Под общей редакцией П. П. Семенова-Тянь-Шанского. С.- Петербургъ. Типография М. К. Вольфа. 1882 г., стр. 380.

На островах реки Горыни расположено местечко Давид-Городок... По присоединении этого края к России, Давид-Городок назначен был уездным городом, но в 1796 г. оставлен за штатом. В местечке на реке Горыни есть пристань. Торговля довольно значительная, как в центре, куда стекались даже из дальних местностей окрестные жители, чтобы продать или передать комиссионерам для развоза по другим городам свои домашние заготовления, как например, ветчину, сушеную рыбу, дичь в разных видах, грибы, сушеные сливы и т. п.

Все это ежегодно привозится в Вильно и в другие города. Местные жители также известны отличною отделкою плетеных бричек, в роде известных "нетычанок".

ЭНЦИКЛОПЕДИЧЕСКИЙ СЛОВАРЬ. Издатели Ф. А. Брокгаузъ, И. А. Ефронъ. С.-Петербургъ. 1893 г., стр. 9.

Давид-Городок – м. Минской г., Мозырского у., на р. Горыни... В 1665 г. кн. Волконский разбил здесь поляков, при чем сжег местечко. В 1795 г. сделано уездным гор. Минской губ., затем упраздненным. В 1890 г. по Горыни в Д.-Городок прибыло 6 т. п. хлеба и 49 т. п. поваренной соли, а отправлено 24 т. п. леса. Жит. около 4 т. ч., 2 православные церкви, костел, 3 евр. молитвенных дома.

ЭНЦИКЛОПЕДИЧЕСКИЙ СЛОВАРЬ РУССКОГО БИБЛИОГРАФИЧЕСКОГО ИНСТИТУТА ГРАНАТЪ. С.-Петербургъ. 1913 г., т. 17, стр. 473.

Давид-Городок, м. Минской губ., Мозырского уезда на р. Горыни. 13217 жит., занимаются огородничеством, рыбной ловлей, постройкой судов; торговля лесом и солью.

АРКАДЗЬ СМОЛІЧ. ГЕАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ. Вільня. Выд-ва Б. А. Клецкіна. 1919 г. стар. 281.

Давыд-Гарадок ляжыць на вастравах р. Гарыні. Жыхары займаюцца будоўляй судзінаў, а таксама – рыбалоўствам, гародніцтвам, разводзяць цыбулю, служаць лоцманамі на судзінах і г. д.

Тутэйшыя мяшчане – народ прамысловы. Яны вырабляюць вяндліну, кілбасы і сыры, загатаўляюць дзічыну, сушаную рыбу й грыбы, сушаную садавіну і вывозяць усё гэта ў вялікія беларускія месты, а таксама далёка за межы Беларусі (нават у Бесарабію). Рамеснікі вырабляюць спецыяльныя боты з доўгімі халявамі, якія таксама вывозяць на старану; робяць тут вельмі добрыя пляцёныя брычкі.

БОЛЬШАЯ СОВЕТСКАЯ ЭНЦИКЛОПЕДИЯ. Москва. 1930 г., том 20, стр. 103.

Давид-Городок, по-польски – Давидгрудек, гор. в Полесском воеводстве Польши (до 1918 г. – местечко Мозырского уезда Минской губ.) на правом берегу р. Горыни, в 20 км от границы Белорусской ССР. 9.851 ж. (1921), в т. ч. (по данным польской статистики) 5.724 белоруса и 2.452 еврея.

БОЛЬШАЯ СОВЕТСКАЯ ЭНЦИКЛОПЕДИЯ. 2-е изд. Москва, 1952 г., том 13, стр. 258.

Давид-Городок – город, центр Давид-Городокского района Пинской области Белорусской ССР. Пристань на р. Горынь, в 15 км от впадения в р. Припять. Расположен в 23 км к С. – З. от ж.-д. станции Лахва (на линии Гомель – Пинск).

В Д.-Г. – судоверфь, кирпичный завод, предприятия лесопильной и пищевой промышленности. Имеются 2 средние школы, Дом культуры, 2 библиотеки, кинотеатр.

КРАТКАЯ ГЕОГРАФИЧЕСКАЯ ЭНЦИКЛОПЕДИЯ. Москва, 1960 г., том. 1, стр. 513.

Давид-Городок – город, ц. Давид-Городокского р-на Брестской области БССР, в 41 км от ж.-д. ст. Горынь, 9 т. ж. (1959). Овощесушильный и маслодельческий заводы.

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ. Мінск, 1971 г., т. 4, стар. 110.

Давыд-Гарадок – горад у Столінскім р-не Брэсцкай вобл., прыстань на р. Гарынь (прыток Прыпяці). За 35 км на Пн-У ад Століна, 280 км ад Брэста, 41 км ад чыг. ст. Гарынь. Аўтобусная станцыя. 8,9 тыс. жыхароў (1970).

У Д.-Г. раённае аб'яднанне сельгастэхнікі, інструментальны завод, масласырзавод, камбінат быт. абслугоўвання, хлебазавод, 2 сярэднія школы, школа рабочай моладзі, дзіцячыя яслі-сад, муз. і спарт. школы, Дом піянераў, Дом культуры, кінатэатр, 2 масавыя бібліятэкі, бальніца, дыспансер.

БОЛЬШАЯ СОВЕТСКАЯ ЭНЦИКЛОПЕДИЯ. 3-е изд. Москва. 1972 г., том 7, стр. 481.

Давид-Городок... Основателем города считается владимиро-волынский князь Давид Игоревич, которому после съезда князей в Витичеве (1100) принадлежало также и Погорынье.

ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ. БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ. Мінск. 1984 г., стар. 348–350.

АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадок. Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. Гарадзішча. Георгіеўская царква. Грунтовы могільнік. Магіла Юрчанкі. Помнік Леніну. Помнік у гонар 40-годдзя Савецкай улады.

ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ. Мінск. 1985 г., том 2, стар. 252–255.

АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадок. Давыд-Гарадоцка-Тураўскі строй. Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква. Давыд-Гарадоцкая званіца. Давыд-Гарадоцкі замак. Давыд-Гарадоцкія куфры.

АРХЕАЛОГІЯ І НУМІЗМАТЫКА БЕЛАРУСІ. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ. Мінск. 1993 г., стар. – гл. арфавіт.

АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадок. Давыд-Гарадоцкі замак. Давыд-Гарадоцкія археалагічныя помнікі.

Археолагі, якія вывучалі Давыд-Гарадок:

Кухарэнка Юрый Уладзіміравіч (1919–1980),

Лысенка Пётр Фёдаравіч – нар. 1931 г.

Якімовіч Раман Іванавіч (1889–1951)

АРХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК. Мінск. 1993 г., стар. 190–192.

АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадок. Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква. Давыд-Гарадоцкі замак.

ПАМЯЦЬ. БЕЛАРУСЬ. РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КНІГА. Выд-ва “Беларуская энцыклапедыя”. Мінск. 1995 г., стар. 105.

Раздзел “Столінскі раён”, у які ўваходзіць артыкул – “Давыд-Гарадок”.

ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ. Мінск. 1996 г., том 3, стар. 189–191.

АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадок. Давыд-Гарадоцкае паўстанне 1648–1650 гг., Давыд-Гарадоцкі замак. Давыд-Гарадоцкі павет. Давыд-Гарадоцкі раён. Давыд-Гарадоцкія баі 1943 г.

БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ. Мінск. 1997, том 5, стар. 567–569.

Давыд-Гарадок, горад у Столінскім раёне Брэсцкай вобласці, прыстань на р. Гарынь. За 35 км ад г. Століна, 280 км ад г. Брэста, 41 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец – Сарны. 7,2 тыс. ж. (1997).

ДРУГІЯ АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадоцкае княства. Давыд-Гарадоцкае паўстанне 1648–50 гг. Давыд-Гарадоцка-Тураўскі строй. Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква. Давыд-Гарадоцкі замак. Давыд-Гарадоцкі павет. Давыд-Гарадоцкі раён. Давыд-Гарадоцкі электрамеханічны завод. Давыд-Гарадоцкія баі 1943 г. Давыд-Гарадоцкія куфры.

ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ. Мінск. 1989.

АРТЫКУЛЫ: Давыд-Гарадоцка-Тураўскі строй. Давыд-Гарадоцкія куфры.

# ГЕРАДОТАВА МОРА

*Это море великое и пространное:*
*там пресмыкающиеся, которым нет числа,*
*животные малые с большими.*

***Псалтирь, псалом 103, стих 25***

У далёкія дагістарычныя часы Беларусь разам з Паўночным паўшар'ем некалькі разоў падвяргалася абледзяненню.

Падчас апошняга абледзянення, каля 50 тысяч гадоў назад, на поўдні Беларусі з'явіўся чалавек. Ён прыйшоў сюды з поўдня і сяліўся на высокіх схілах рачных далін і другіх вадаёмаў.

Самым старажытным паселішчам на Палессі, як і наогул на Беларусі, з'яўляецца стаянка каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці, якая існавала каля 25 тысяч гадоў назад. Яна знаходзілася на беразе Прыпяці на схіле старажытнага яра на 25-мятровай вышыні ад цяперашняга ўзроўню ракі, а гэта сведчыць аб тым, што ў тыя далёкія часы вадзяное покрыва знаходзілася куды вышэй, чым сёння, а значыць, Прыпяць была больш паўнаводная і магутная.

Знойдзены рэшткі жылля, складзенага з пліт валуннага паходжання, розных камянёў, а таксама чарапоў і трубчатых касцей маманта, на якога паляваў старажытны чалавек. Усяго выяўлены косці 20 мамантаў, якія выкарыстоўваліся як будаўнічы матэрыял і як сыравіна для вырабу прылад працы і зброі.

Але асноўная частка апошніх была зроблена з крэмню – нажападобныя пласціны, скрабкі, адбойнікі, праколкі. Тут быў знойдзены вялікі крамянёвы клінок-кінжал – надзвычай рэдкі экземпляр зброі гэтага перыяду.

На пяць тысяч гадоў маладзей за Юравічы старажытная стаянка каля в. Бердыж Чачэрскага раёна гэтай жа вобласці.

Абодва пасяленні былі адкрыты ў 20-я гады нашага стагоддзя беларускім археолагам Палікарповічам К. М. (1889–1963).

Выяўленыя рэшткі жытлаў, гаспадарчых ям, агнішчаў, дзе ў якасці будаўнічага матэрыялу выкарыстоўваліся косці маманта, а таксама крамянёвыя і касцяныя прылады працы і зброі, сведчаць аб адзіным перыядзе развіцця чалавека. У гісторыі ён называецца каменным векам, таму што асноўным матэрыялам у жыцці людзей той эпохі, у час вайны і міру разам з дрэвам былі камень і косць. Але драўляныя рэчы таго часу да нас не дайшлі.

Па археалагічных знаходках, якія гавораць аб узроўні матэрыяльнай культуры таго часу, каменны век падзяляецца на тры перыяды: палеаліт (старажытны), мезаліт (сярэдні) і неаліт (новы).

Каля 24 тысяч гадоў назад наступіў апошні этап абледзянення, які працягваўся некалькі тысячагоддзяў. Ледавік пакрыў паўночную і цэнт-

ральную Беларусь. Гэтая частка нашай краіны і зараз адметна тым, што на яе тэрыторыі мы сустракаем мноства камянёў і нават валуноў, чаго не знаходзім на поўдні.

Поўдзень ператварыўся ў лесатундравую зону з прыпалярным кліматам. Гэта была паласа Прыпяцкага Палесся, дзе на берагах Прыпяці, Гарыні і сярэдняга Дняпра захаваліся пасяленні людзей.

Нарэшце зноў наступіла пацяпленне, паступова знікла ледзяное покрыва і пачала нанава аднаўляцца жывая прырода. Патокі расталай вады сцякалі на нізіннае Палессе, ператварыўшы яго на пэўны час у суцэльнае мора.

У гэты час фарміруецца даліна Прыпяці, якая робіць прарыў у бок Дняпра, чым садзейнічае змяншэнню падтаплення краю. Азёры памяншаліся ў сваіх памерах, паступова зарасталі і ператвараліся ў дрыгвяністыя балоты. Захаваліся толькі Чырвонае (Князь-возера), Выганаўскае, Чорнае, Спораўскае, Бабровіцкае, Белае, даволі многа невялікіх старажытных азёр.

Афармілася Прыпяць з прытокамі: злева – Піна, Ясельда, Бобрык першы, Цна, Лана, Случ, Бобрык другі, Пціч, Грэмля, Іпа; справа – Стыр, Гарынь, Сцвіга (з Маствой), Убарць.

Глебавае покрыва Прыпяцкага Палесся даволі стракатае: частая змена дзярнова-падзолістых, дзярнова-забалочаных і тарфяна-балотных глеб. На павышаных участках тэрас пераважаюць малападзолістыя пясчаныя глебы, у паніжаных месцах – дзярнова-падзолістыя і дзярнова-супясчаныя.

Але ёсць тут і ўнікальны аграглебавы раён. Гэта Тураўска-Давыд-Гарадоцкі, размешчаны вузкай паласой уздоўж правага берага Прыпяці, на яе надпоймавай тэрасе на тэрыторыі Пінскага, Столінскага і Жыткавіцкага раёнаў плошчай 1 тыс. км² (0,5% тэрыторыі Рэспублікі).

Гэты раён выдзяляецца найбольш урадлівымі ва ўмовах Беларусі глебамі. Утварэнне іх звязана з дзейнасцю старажытных водных патокаў, якія са схілаў Валынскага ўзвышша прыносілі рэшткі разлажэння чарназёмных глеб. Яны сустракаліся з водамі Прыпяці, якія ў сваю чаргу неслі дадатковыя часткі чорнага глею і гліны, а таксама іншыя кампаненты, і адбываўся працэс асядання і фарміравання глебавага пласта, таўшчынёй да аднаго метра і больш.

Гэта – дзярнова-карбанатныя і перагнойна-карбанатныя глебы, па свайму складу суглiністыя і супясчаныя.

На Прыпяцкім Палессі балоты зараз займаюць каля 20 працэнтаў тэрыторыі краю; лясы – каля 35, з іх у Жыткавіцкім раёне – 57, Столінскім – 35, Пінскім – 31 працэнт.

Гэта зараз... А ў той далёкі пасляледавіковы перыяд, калі прырода Палесся набыла новы выгляд, гэты край нагадваў страшэнныя нетры, якія складаліся з непраходных балотаў і непралазных пушчаў. Велічныя

тысячагадовыя дубы, высачэзныя сосны, серабрыстыя бярозы, ясень, клён, вольха – асноўныя стваральнікі старажытных палескіх лясоў. Балоты былі пакрыты бясконцым дыванам разнатраўя. З першабытных часоў людзі паступова выяўлялі карысныя для іх якасці раслін. Апрача харчовага прымянення многія з іх станавіліся лекавымі, застаюцца такімі і цяпер.

Багатым быў і жывёльны свет. У вадаёмах пладзілася мноства рыбы: шматпудовыя самы, двухмятровыя шчупакі, велізарныя судакі і сазаны, безліч іншых відаў, а таксама шматлікія калоніі баброў.

Колькасць прадстаўнікоў птушынага царства была таксама даволі вялікай. Самай буйной была вадаплаваючая частка птушынага народу: лебедзі, гусі, качкі. Журавы і буслы ўпрыгожвалі вільготныя нізіны, зялёныя выспы і астравы сярод бязмежных балот. (Дарэчы, чорны бусел, які занесены ў "Чырвоную кнігу Беларусі", захаваўся ў асноўным толькі на Палессі і адна з найбольш вялікіх яго калоній знаходзіцца ў ваколіцах Давыд-Гарадка.) У небе кружылі драпежныя сокалы, каршукі, ястрабы. Царом жа птушынага царства быў велічны лясны арол.

А ў саміх пушчах пасвіліся статкі тураў, аленяў, ласёў, коз, дзікіх коней і, вядома, паважных зуброў. Мядзведзі, ваўкі, рысі, дзікія каты, лісіцы і іншыя драпежнікі трымалі пад напружаннем слабейшую частку лясных жыхароў.

За 20–15 тысяч гадоў назад у пушчах Палесся яшчэ пасвіліся чатырохтонныя маманты з трохметровымі біўнямі – шасціпудовай вагі кожны.

Косці маманта знойдзены на Беларусі ў 150 мясцінах. Астанкі аднаго з іх захоўваюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі. Іх знайшлі ў Давыд-Гарадку на пясчанай касе ракі Гарынь ва ўрочышчы Хабішча.

У перыяд апошняга абледзянення маманты і шарсцістыя насарогі, якія ступалі некалі па зямлі сучаснага Давыд-Гарадка, назаўсёды вымерлі.

Напамінам аб былой велічы старажытнай прыроды з'яўляецца сёння лясны масіў, што знаходзіцца на паўднёвым усходзе Брэсцкай і паўднёвым захадзе Гомельскай абласцей, а таксама месца на тэрыторыі паўночнай Украіны. Частка гэтай былой пушчы называецца Мярлінскім лесам, які на Століншчыне цягнецца на многія кіламетры і ахоплівае трэцюю частку раёна.

І хаця ў апошнім стагоддзі пушча панесла з-за войнаў і гаспадарчай дзейнасці чалавека балючыя і непапраўныя страты, аднак і зараз яна з'яўляецца ўнікальным кутком прыроды.

Тут водзяцца лось, дзік, казуля, заяц-бяляк і заяц-русак, ліс, куніца, вавёрка, выдра, бабёр, воўк, янотападобны сабака, андатра.

Звыш 20 жывёл і птушак, занесеных у Чырвоную кнігу, сустракаюцца толькі тут. Сярод іх барсук, пугач, вялікая белая чапля, раней памянё-

ны чорны бусел, белая блакітніца, шэры журавель і інш. З вялікай колькасці рэдкіх раслін толькі тут сустракаюцца сальвінія плывучая, гарлачык белы, сон шыракалісты, наперстаўка буйнацветная, лілея царскія кучары, чароўнік двухлісты і іншыя зялёныя рэдкасці.

Улічваючы ўсё гэта і з мэтай зберагчы каштоўнасці прыроды нашага краю, на ўсход ад Давыд-Гарадка – на тэрыторыі Жыткавіцкага, Лельчыцкага і Петрыкаўскага раёнаў размясціўся самы вядомы на Беларусі пасля Белавежскай пушчы запаведнік. Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік з навуковым цэнтрам у г. п. Тураве – сведчанне цікавасці навукі да Палесся, да яго загадкавай гісторыі.

❖

Першыя сляды пражывання чалавека на цэнтральна-паўднёвым Палессі – Тураўшчыне і Століншчыне – адносяцца да 10 тысячагоддзя да н. э. Гэта было ўстаноўлена археолагам Ісаенкам У. Ф., які даследаваў 14 стаянак каменнага і бронзавага вякоў. Вынікам гэтай работы стала яго навуковая праца "Неолит Припятского Полесья".

На Століншчыне самыя старажытныя стаянкі людзей выяўлены ў басейне р. Гарыні ў Століне, Адвержычах, Хатомелі і Велямічах. Знойдзеныя тут нешматлікія прылады працы і зброі ўсе каменныя і касцяныя. Гэта галоўным чынам крамянёвыя скрабкі і нажападобныя сколы. Сустракаліся фрагменты глінянага ляпнога посуду.

Усяго на тэрыторыі Прыпяцкага Палесся выяўлена каля 70 паселішчаў. У кожным з іх пражывала 20–30 чалавек. Гэта быў род – першапачатковая адзінка першабытнага грамадства. Ён уяўляў з сябе прымітыўную абшчыну, суполку родзічаў, асновай жыццядзейнасці якой было калектыўнае выкананне грамадскіх абавязкаў і валоданне маёмасцю.

Вучоны У. Ф. Ісаенка лічыць, што на Палессі ў той час пражывалі не больш за тры тысячы чалавек. Значыць, на Століншчыне прыкладна ў дзесяці паселішчах жылі каля трохсот супляменнікаў.

Гэта былі ўжо людзі сучаснага фізічнага тыпу (Homo Sapiens). Яны жылі аседла і карысталіся дарамі пушчы і азёр. Рыбалоўства і збор арэхаў, ягад і грыбоў забяспечвалі іх добрым харчаваннем. Але асноўным было паляванне: калі наўкола на тутэйшай Століншчыне блукалі маманты і шарсцістыя насарогі, алені і быкі, клопат аб кавалку мяса ў рацыёне быў не такім ужо і вострым.

У эпоху мезаліта (IX–V тыс. да н. э.) жыхары Палесся валодалі агнём, карысталіся лукам і стрэламі, іх прыладамі працы былі крамянёвыя і касцяныя нажы, сякеры, праколкі і інш. Паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва набываюць рысы майстэрства і сур'ёзнай гаспадарчай дзейнасці.

У эпоху неаліта (V – II тыс. да н. э.) людзі ўжо займаліся земляроб-

ствам і жывёлагадоўляй, аднак вядучую ролю ў гаспадарчым жыцці, як і раней, адыгрывала паляванне. І гэта не дзіўна – лясныя багацці верна служылі чалавеку. Але вопыт і таленты людзей растуць: каменныя прылады працы становяцца шліфаванымі, пачаў выраблядца паўсюдна гліняны абпалены посуд.

Па меркаванню большасці навукоўцаў, гэта быў росквіт мацярынска-радавога ладу, развіцця сямейных адносін, фарміравання плямён.

Каменны век змяніўся бронзавым. На Беларусі ён наступіў найперш на Палессі – у пачатку II тысячагоддзя да н. э. Гэта не выпадкова. Паўсюдна ў гісторыі паўднёвая прырода дапамагала людзям хутчэй крочыць у тыя часы да цывілізацыі.

Паўднёвае Палессе, у тым ліку і Століншчына, адносіцца да культуры шнуравой керамікі, якую адкрылі і вывучылі ў пасляваенныя гады археолагі У. Ф. Ісаенка і Ю. У. Кухарэнка. Такую назву гэтая культура атрымала ад якаснага выгляду керамічных вырабаў. Посуд вырабляўся з рачной гліны, куды дамешваўся пясок і шамот – абпаленая вогнетрывалая гліна. У верхняй частцы згладжанай пасудзіны яе ўпрыгожвалі шнураванымі адбіткамі лінейнага ўзору.

Прылады працы па-ранейшаму крамянёвыя і касцяныя, толькі больш дасканалыя. Бронзавых і медных трапляецца мала. Гэта перш за ўсё ўпрыгожванні, а таксама наканечнікі коп'яў, сякеры, шылы і некаторыя іншыя прыстасаванні, якія трапілі сюды шляхам абмену. Большасць прадметаў шнуравой керамікі знойдзена на Піншчыне.

❖

Першыя пісьмовыя звесткі аб жыхарах Палесся мы сустракаем у "бацькі гісторыі", старажытнагрэчаскага вучонага Герадота, які жыў у V ст. да н. э. У сярэдзіне свайго стагоддзя на працягу дзесяці гадоў ён аб'ехаў многія краіны тагачаснага свету, збіраючы матэрыялы па гісторыі грэка-персідскіх войнаў.

Падзеям папярэднічаў паход персідскага цара Дарыя на скіфаў. І, збіраючы звесткі аб гэтым, Герадот наведаў шэраг грэчаскіх гарадоў Паўднёвага Прычарнамор'я, так званага Понта Эўксінскага, і асобныя раёны, дзе сяліліся скіфы. Звесткі аб тых далёкіх плямёнах, дзе яму пабываць не давялося, Герадот атрымліваў ад сучаснікаў-відавочцаў і запісваў іх.

Вынікам гэтага шматгадовага падарожжа і з'явілася яго славутая "История" – першы вядомы ў заходняй традыцыі высокамастацкі сістэматызаваны навуковы твор, маштабная панарама сусветнага агляду, з велізарнай колькасцю фактычнага матэрыялу.

"История" Герадота выклікала такую цікавасць і гордасць элінаў – сваіх суайчыннікаў, што аўтара запрасілі чытаць яе на Алімпійскіх гульнях 445 г. да н. э., і ён атрымаў узнагароду як пераможца, алімпійскі чэмпіён – алімпіёнік.

Аб Скіфіі, да якой прылягалі і землі тагачаснага палескага краю, Герадот расказвае ў чацвёртай кнізе "Мельпомена" – у сувязі з паходам Дарыя ў 512 г. да н. э.

Спачатку ён расказвае аб рэках, якія працякаюць па гэтай малавядомай краіне. У прыватнасці, аб іх гаворыцца:

"Истр – первая река Скифии, за ней идет Тирас. Последний начинается на севере и вытекает из большого озера на границе Скифии и земли невров... Третья река – Гипанис берет начало в Скифии. Вытекает она также из большого озера"...

Месцам знаходжання вялікага возера, адкуль выцякалі Цірас і Гіпаніс, Герадот лічыць Няўрыду – нейкую міфалагічную краіну, да якой і належала сучаснае Палессе, адкуль і цяклі рэкі. Але што гэта за велічэзнае возера на Палессі?

Аб гэтым таямнічым возеры праз некалькі стагоддзяў успамінаў другі вялікі вучоны Элады Пталемей, які ў сваёй славутай і капітальнай "Географии" назваў яго – морам Герадота. І сапраўды, вясною Палессе ўяўляла сабою сапраўднае мора, калі ўлічыць, што вады тады было больш, і ўзровень рэк быў куды вышэйшы. Ды і наогул, шматлікая колькасць азёр, якія пасля высахлі і сталі балотамі, стварала ўражанне існавання адзінага вадаёму.

Згаданыя вышэй рэкі Істр, Цірас і Гіпаніс – гэта Дунай, Днепр і вытокі Дняпра, а неўры – жыхары Няўрыды, дзе знаходзілася Герадотава мора.

Апісанне Скіфіі і яе плямёнаў Герадот вядзе з поўдня на поўнач, пачынаючы ад царскіх скіфаў, якія мелі сваю дзяржаву:

"Наконец еще выше их (скифов-земледельцев) живут невры, а севернее невров, насколько я знаю, идет уже безлюдная пустыня".

І далей:

"У невров обычаи скифские. За одно поколение до похода Дария им пришлось покинуть всю свою страну из-за змей, ибо не только их собственная земля произвела множество змей... Поэтому-то невры вынуждены были покинуть свою землю и поселиться среди будинов. Эти люди, по-видимому, колдуны. Скифы и живущие среди них эллины по крайней мере утверждают, что каждый невр на несколько дней ежегодно обращается в волка, а затем снова принимает человеческий облик. Меня эти россказни, конечно, не могут убедить; тем не менее так говорят и даже клятвенно утверждают это".

Буйнейшым даследаваннем звестак Герадота аб Скіфіі з'яўляецца работа савецкага акадэміка Б. А. Рыбакова "Геродотова Скифия". У ёй змешчана некалькі карт, дзе акрэслена геаграфічнае становішча апісваемых Герадотам плямён. Няўрыда знаходзіцца на Палессі ў басейне Прыпяці, а рака Гарынь з'яўляецца паўночна-заходняй граніцай Скіфіі. Пад змеямі Рыбакоў мае на ўвазе нашэсце балтаў, культам якіх была змяя. Што ж датычыць пераўтварэння неўраў у ваўкоў, то даследчыкі лічаць,

што нешматлікія відавочцы жыцця гэтых лясных людзей маглі быць уражаны іх адзеннем са звярыных шкур.

Герадот падрабязна апісвае аб паходзе Дарыя на Скіфію ў 512 г. да н. э. і адносінах скіфскіх плямён да гэтай вайны. Велізарнае персідскае войска несла Скіфіі пагрозу рабства і разбурэння, і яе цары звярнуліся да родных ім плямён за дапамогай. Аднак іх правадыры, у тым ліку і неўраў, далі такі адказ:

“Мы ничем не обидели этих людей и теперь первыми вовсе не будем враждовать с ними. Если же персы вступят и в нашу страну и нападут на нас, то мы не допустим этого. Но пока мы этого не видим, то останемся в нашей стране”.

Царскія скіфы самі даволі паспяхова выступілі супраць захопнікаў, і да таго мужна змагаліся з ворагам, што нашэсце Дарыя правалілася. А дрымотная зялёная Няўрыда, да якой персы так і не дайшлі, і далей жыла ў сваім лясным і балотным сне.

❖

Вывучаючы археалогію Няўрыды, вучоныя пацвердзілі факт існавання на яе тэрыторыі ў VIII–III ст. да н. э. асобнай культуры. Яна атрымала назву мілаградскай – ад в. Мілаграды Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці, дзе ў 1935 годзе А. Д. Каваленя адкрыў першыя гарадзішчы і селішчы неўраў.

Да цяперашняга часу адкрыта каля 150 месцаў падобных паселішчаў. На Прыпяцкім Палессі яны размяшчаліся часцей за ўсё на ўзвышшах забалочаных мясцін, на берагах рэк і азёраў. Умацаваныя землянымі валамі і агароджамі, гарадзішчы з’яўляліся цэнтрам рода і месцам, дзе развіваліся быт і культура, а таксама крэпасцю для абароны ў неабходны час.

Селішчы знаходзіліся недалёка ад гарадзішча і складаліся з двухтрох дзесяткаў жытлаў паўземлянога тыпу – першыя хаты старажытных продкаў палешукоў нагадвалі звычайныя зямлянкі, якія вярнуліся сюды ў гады страшэннай Другой Сусветнай вайны, што нібыта абрынула нас у дагістарычную эпоху.

Знойдзеныя на раскопках селішчаў прылады працы, зброя, упрыгожванні – скіфскага паходжання. Сярод каменных прылад – значная частка бронзавых, сустракаюцца і жалезныя. Асноўныя заняткі неўраў – земляробства і жывёлагадоўля; з’явіліся новыя віды рамяства – ткацтва і зачаткі металургіі.

На Століншчыне адкрыты і даследаваны два помнікі мілаградскай культуры – Дубайскі і Давыд-Гарадоцкі.

Першы з’яўляецца буйнейшым помнікам гэтага перыяду на Беларусі. Ён знаходзіцца на паўднёвай ускраіне в. Дубай на пясчаным узвышшы і складаецца з трох груп курганоў. Яны былі адкрыты ў 1955 го-

дзе Ю. У. Кухарэнкам. Да першай групы належыць 60 курганоў, да другой – 20, да трэцяй – 22 курганы. Іх вышыня – 0,5 – 2,5 метра, дыяметр – 5 – 22 метра. Даследаваны яны не ўсе: у 80-я гады Кухарэнка апрацаваў вынікі раскопак трынаццаці курганоў, а Г. М. Залашка – чатырох.

Усе яны з'яўляюцца месцамі пахаванняў. У кожным кургане на ўзроўні гарызонта пахаваны 1–3 нябожчыкі. Пахаваныя ляжалі на спіне, у выцягнутым становішчы, галовамі на паўднёвы ўсход. Ва ўсіх выпадках каля ступняў ног пахаваных стаялі гліняныя пасудзіны, як можна ўявіць – з рэшткамі ежы для нябожчыка на тым свеце. А ў пяці выпадках каля шкілетаў неўраў былі знойдзены жалезныя наканечнікі коп'яў – вялікая каштоўнасць у тыя часы, што сведчыць аб мужнасці гаспадароў і аб павазе да герояў, якім прадвызначалася змагацца з ворагамі племені і пасля смерці.

Таксама былі знойдзены жалезны нож і залатая завушніца – самы старажытны прадмет з гэтага металу на Століншчыне.

Над усімі пахаваннямі ўзводзіліся драўляныя дамавіны, а потым насыпаўся курган. У сучасны момант з агульнай колькасці каля 100 курганоў на Століншчыне захаваліся толькі 28, астатнія пераўтвораны ў поле.

Непадалёку ад Дубайскага могільніка каля в. Бор-Дубянец выяўлены 20 курганоў падобнага тыпу, але да гэтага часу яны не вывучаны: таямніцы іх належаць нашчадкам новага тысячагоддзя.

На правым беразе р. Гарынь, за два кіламетры на поўнач ад Давыд-Гарадка, ва ўрочышчы Леваноўшчына ў 1981 годзе быў адкрыты бескурганны могільнік мілаградскай культуры. Яго даследаваў археолаг Г. М. Залашка.

Быў зроблены раскоп плошчай 24 м². На глыбіні каля метра ў ім была выяўлена прамавугольная яма з усходу на захад, у якой знаходзіліся рэшткі попелу і перапаленых касцей. Непадалёк знаходзіліся рэчы, якія суправаджалі продкаў у апошні шлях – вялікі кругладонны гаршок, а з краю кар'ера – меншы, з адагнутым вонкі венчыкам, што сведчыла аб удасканаленні тэхналогіі керамічнай вытворчасці.

У гэтым жа годзе Г. М. Залашка зрабіў вельмі цікавае адкрыццё каля в. Хільчыцы, у пяці кіламетрах ад Турава. На селішчы неўраў былі знойдзены фрагменты ляпной керамікі, звыш 600 частак гаршкоў, праслiцы, сярпы, рэшткі жалезных вырабаў, падвескі, пярсцёнкі, шпілька, рымская шкляная пацерка. Але самай важнай знаходкай былі 13 бронзавых наканечнікаў стрэл скіфскай вытворчасці VII ст. да н. э. Такой колькасці і такога ўзросту гэтай збройнай прылады на Беларусі яшчэ не знаходзілі. Сюды яны трапілі, верагодна, двума шляхамі: альбо ў выніку абмену, альбо як ваенны трафей неўраў.

Такім чынам, тры тысячы гадоў таму на тэрыторыі Палесся, у старажытнай Няўрыдзе, на тэрыторыі так званага Герадотава мора, пра-

жывалі неўры на ўзроўні развітога першабытна-абшчыннага ладу. Гэта быў пачатак жалезнага веку, аб чым сведчаць селішчы і сівыя курганы – маўклівыя сведкі наступлення новага часу, бо менавіта з жалезнага веку і пачынаецца сучасная цывілізацыя.

Акадэмік Б. А. Рыбакоў лічыў, што плямёны мілаградскай культуры, у тым ліку неўры, былі праславянскага паходжання. Гэтай жа думкі прытрымліваюцца беларускія вучоныя Л. Д. Побаль і В. М. Мельнікоўская.

Зробім прыемную для палешукоў здагадку і мы, мяркуючы, не без падставы, што Беларусь пачынаецца з Палесся, а Палессе – са старажытнай Няўрыды.

## ЗАРУБІНЦЫ

*Подлинно, человек ходит подобно призраку; напрасно он суетится, собирает и не знает, кому достанется то.*

***Псалтирь, псалом 38, стих 7***

На змену мілаградскай культуры неўраў прыйшла зарубінецкая, якая існавала на Палессі пяць стагоддзяў – з III ст. да н. э. па II ст. н. э. Яна атрымала сваю назву ад сяла Зарубіцы на Кіеўшчыне, дзе ў 1899 годзе археолаг В. В. Хвойка адкрыў бескурганны могільнік з трупаспальваннем і невядомай раней археалагічнай, ужо не існуючай на зямлі культурай.

Буйнейшым даследчыкам гэтага перыяду з'яўляўся супрацоўнік інстытута археалогіі Акадэміі навук СССР доктар гістарычных навук Юрый Уладзіміравіч Кухарэнка (1919–1980). Большую частку свайго творчага жыцця ён прысвяціў вывучэнню археалогіі Палесся – жалезнага веку і ранняга славянства. Помнікі, адкрытыя і даследаваныя ім, сталі класікай беларускай археалагічнай навукі.

Ю. У. Кухарэнка першым даў вычарпальную характарыстыку зарубінецкай культуры, акрэсліў яе межы, распрацаваў храналогію, выказаў думку аб яе паходжанні і месцы ў гісторыі Палесся. Ён першым з вучоных аднёс зарубінцаў да ранніх славян, і гэты погляд у навуцы зараз з'яўляецца дамінуючым.

Сваім адкрыццям зарубінецкага перыяду вучоны прысвяціў работы – "Зарубинецкая культура" і "Полесье и его место в этногенезе славян".

Чым цікавыя для нас сёння гэтыя кнігі? І што нам, людзям на мяжы трэцяга тысячагоддзя, да тых, каго хаваюць ад нас маўклівыя курганы, выспы ў лясах ды рачныя берагі? Аб гэтым мы зараз і збіраемся паразважаць. Папярэдне адно зразумела: мы павінны ведаць продкаў, культура якіх, як аказваецца, не была падзелена ўмоўнымі межамі нашчадкаў. І Палессе арганічна ўваходзіла ў адзінае кола праславянства, распасціраючыся ад Дняпра па Дунаю і далей – на поўнач і ўсход.

Найбольшую колькасць помнікаў зарубінецкай культуры Кухарэнка адкрыў на Століншчыне. Гэта – вёскі Велямічы, Адвержычы, Рубель, Рамель. Сярод іх самым буйным з'яўляецца археалагічны комплекс ля Велямічаў – у чатырох кіламетрах на поўдзень ад Давыд-Гарадка.

На працягу 1953–1957 гадоў Кухарэнка адкрыў і вывучыў тры селішчы. І тры бескурганныя могільнікі. На могільніках было адкрыта каля 300 пахаванняў, якія сведчылі аб агульных звычках нашчадкаў старажытных арыяў.

Агульным пахавальным абрадам было трупаспальванне. Спаленыя

за межамі могільніка косці ссыпаліся галоўным чынам у гліняныя ўрны, якія ўяўлялі сабою невялікія гаршкі. Пахаванне рабілася ў ямах 50х80 см, куды клаліся спаленыя косці альбо ўрна з імі.

Пахавальны інвентар размяшчаўся на поўнач ад урны. Гэта быў разнастайны посуд, прылады працы – жалезныя нажы, наканечнікі коп'яў і стрэл, тачыльныя брускі, прасліцы, сярпы. Калі гэта была жанчына, то ля яе месца пахавання знаходзіліся ўпрыгожванні – вялікія шпількі з бронзавага дроту, бронзавыя падвескі ў выглядзе трапецыі, жалезныя і бронзавыя пярсцёнкі, шкляныя пацеркі.

Было знойдзена звыш 150 фібул – вялікіх металічных пружынных шпілек – упрыгожванняў, якімі сашчэплівалі адзенне з тканіны ці скур. Цікава, што мода на фібулы, калі можна так сказаць, у гэты час трымалася ў антычных народаў Грэцыі і Рыму. І вось толькі адна такая рыса сведчыць аб даўнішніх сувязях старадаўніх народаў.

Усе даследаваныя селішчы знаходзіліся каля могільнікаў і, вядома, былі месцам жыхарства тых людзей, якія на іх пахаваны. Былі адкрыты рэшткі чатырох жытлаў і звыш дзесяці гаспадарчых ям. Адно з жытлаў было зрубнае, прамавугольнай формы 4 х 6 м, некалькі заглыбленае ў зямлю. У гэтай пабудове знаходзілася вогнішча з абпаленым каменнем. Былі знойдзены жалезны нож, фрагменты каменных жорнаў, а таксама асколкі грубаляпнога і глянцавага посуду, бронзавыя падвескі.

Сярод адходаў гаспадарчых ям – мноства касцей як хатніх, так і дзікіх жывёл. Гаспадарчыя ямы наогул самая цікавая крыніца гістарычных ведаў аб мінуўшчыне, хаця па-сутнасці – звычайны сметнік. Але ж прыгадаем, як нядаўна ганарыліся французскія археолагі, калі знайшлі на сметніку каралеўскага палаца ў Парыжы чорную скурку ад банана, якому амаль што шэсць стагоддзяў.

Апрача Веляміч Кухарэнкам былі адкрыты недалёка ад Давыд-Гарадка – каля вёсак Рамель і Рубель, а таксама ля Століна ў в. Адвержычы – аналагічныя веляміцкім селішчы і могільнікі.

Іх даследаванне працягвала яго вучаніца, навуковы супрацоўнік дзяржаўнага Эрмітажа ў Ленінградзе, кандыдат гістарычных навук Ксенія Васільеўна Каспарава. Асабліва значная работа была выканана ёю ў Адвержычах у 1963–1968 гг. Былі даследаваны два селішчы і бескурганны могільнік.

Знойдзенае жытло паўзямлянкавага тыпу памерам 5 х 3 м мела пясчаную падлогу, глінабітную печ, мноства фрагментаў ляпнога і глянцавага посуду, а таксама глінянай абмазкі. У розных месцах селішчаў былі знойдзены крамянёвы нож для жніва, каменныя жорны, сякеры, жалезная круглая спражка – звычайныя рэчы мінуўшчыны. У гаспадарчых ямах былі кавалкі разбітай керамікі і касцяных рагоў, косці жывёл.

У бескурганным могільніку даследавана каля ста магіл. Усе яны – вынік пахавальнага абраду трупаспальвання, якое рабілася на могілках. Як і ў Велямічах, спаленыя косці высыпаліся ў ямы ці клаліся ў спецы-

яльныя ўрны. Характэрна, што дзіцячыя пахаванні зроблены толькі ў урнах. Пахавальны інвентар – галоўным чынам разнастайны посуд: рознага памеру гаршкі, міскі, кубкі, нават чаркі, а з упрыгожванняў – бронзавыя і жалезныя фібулы; пры гэтым былі знойдзены нават два экземпляры складаных двухэлементных падвесак.

Навукова-выніковай працай К. В. Каспаравай з'явілася манаграфія "Могильник и поселение у деревни Отвержичи".

Велямічы былі прызнаны навукай эталонам зарубінецкай культуры, іх апісанне ўвайшло ва ўсе гістарычныя выданні і даведнікі.

Для экспазіцыі ў Эрмітажы аддзела старажытнасцяў усходніх славян Каспарава падрыхтавала багаты і ўнушальных памераў стэнд, на якім размешчаны найбольш цікавыя экспанаты зарубінецкай культуры з Веляміч.

Вывучэнне зарубінецкай культуры на Століншчыне працягваў у 80-я гады навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР Г. М. Залашка. Значныя раскопкі былі праведзены ім у чатырох кіламетрах на поўдзень ад Давыд-Гарадка ля в. Харомск.

Ва ўрочышчы Чортава гара было даследавана старажытнае пасяленне людзей, якія жылі на працягу апошняга тысячагоддзя да нашай эры. Найбольш рэдкія знаходкі датуюцца мілаградскай культурай, а пазнейшыя – зарубінецкай. Сярод апошніх – мноства фрагментаў керамікі (відавочна, посуду станавілася ўсё больш і білі яго, відаць, не толькі на бяду, але і на шчасце), зноў жа жалезныя нажы і прасніца з двух конусаў.

Была зроблена і ўнікальная знаходка – пакуль што адзіная ў Беларусі. Гэта – гліняныя грузілы ад вертыкальнага ткацкага станка. Прынцып яго работы заключаўся ў тым, што тканіна выраблялася пэўнага памеру, які адпавядаў даўжыні рамы, пры гэтым ніткі асновы ўмацоўваліся нерухома, а знізу нацягваліся грузіламі. Вось такія арыгінальныя прыстасаванні і былі знойдзены на Чортавай гары.

Па-сутнасці, гэта адна з састаўных частак першых на Беларусі старажытных кроснаў. Магчыма, што гэтае старажытнае прыстасаванне сканструявана нашым далёкім продкам неўрам-зарубінцам менавіта тут, ля Давыд-Гарадка, і яно з'яўляецца першым і адзіным сярод праславянаў з тых часоў, калі ў галаве нейкага дзівака і вынаходніка бліснула нечаканая думка прыладзіць рыбацкае грузіла ад сеткі да першабытнага ткацкага станка.

Што датычыць арыгінальнай назвы ўрочышча, то мясцовыя старажылы расказваюць, што на гэтым месцы летам даволі часта ўзнікалі віхры, якія вінтом неслі ўгару слупы пяску і пылу. Не інакш, як чэрці вяселле спраўляюць, – лічылі людзі. Адсюль і назва – Чортава гара.

Бескурганны могільнік гэтага перыяду быў адкрыты ў час земляных работ у Альшанах, за сем кіламетраў на ўсход ад Давыд-Гарадка. Настаўнікі мясцовай школы выказалі пахвальную цікавасць да гістарыч-

най спадчыны і сабралі шэраг зарубінецкіх рэчаў – гліняны посуд, некалькі фібул, жаночыя шпількі.

У канцы 80-х гадоў адкрыты і даследаваны селішча і бескурганны могільнік у Давыд-Гарадку. Першае даследаваў навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР кандыдат гістарычных навук А. А. Ягарэйчанка.

Гэтае селішча знаходзіцца на левым беразе Гарыні і займае плошчу звыш гектара. Было адкрыта наземнае жытло слупавой канструкцыі, прамавугольнай формы памерам 4 х 3,6 м. У адным з вуглоў яго знойдзена глінянае вогнішча, на якім захаваліся вугаль і попел. Ля жытла знаходзілася гаспадарчая яма са змесцівам, якое ўласціва для такіх месцаў, – абломкамі, асколкамі, рэшткамі рэчаў. Людзі жылі тут доўга – і паламалі многа нажоў і сякер, ды набілі посуду: каля двух тысяч фрагментаў знойдзена тут, кавалкі тыгляў – у гэтых грубых пасудзінах выплаўляліся каляровыя металы і шкло.

Зарубінецкі бескурганны могільнік знаходзіцца побач з мілаградскім, аб якім гаварылася раней, ва ўрочышчы Лявонаўшчына. Як і цяперашні, так і папярэдні помнік гісторыі даследаваў Г. М. Залашка. Ён выявіў тры пахаванні. Як і ўсюды ў зарубінцаў, абрад пахавання быў традыцыйны – нябожчыкаў спальвалі. Перапаленыя косці клаліся ў пахавальныя ўрны – глянцавыя гаршкі з двума выступамі для таго, каб трымаць пасудзіну ў руках. Зарубінцы не клапаціліся аб рыцці глыбокіх магіл – урны пахаваны на глыбіні паўметра. Пахавальны інвентар не выяўлены: ці ён быў раскрадзены, ці гэтыя неўры пашкадавалі для сваіх нябожчыкаў на тым свеце зброі і посуду. Хто ведае, былі яны вельмі бедныя альбо хцівыя? А можа, былі першымі матэрыялістамі і не дужа верылі ў той свет? Маўчаць экспанаты ў Эрмітажы. Маўчаць зарубінецкія курганы і могільнікі.

Селішча і могільнік Давыд-Гарадка датуюцца I ст. да н. э. – I ст. н. э.

❖

А цяпер згадаем легенду з часоў старажытнага Рыма, у якой галоўнае месца, як не дзіўна, займае... Давыд-Ґарадок!

На рубяжы новай эры ў Рыме жыў і працаваў выдатны паэт антычнасці Авідзій (43 г. да н. э. – 17 г. н. э.). За апазіцыйную дзейнасць імператарам Аўгустам ён быў высланы ў Прычарнамор'е, дзе і памёр, далёка ад радзімы. Творчасцю паэта і яго трагічным лёсам захапляліся буйнейшыя літаратары самых розных народаў на працягу двух тысячагоддзяў і прысвяцілі Авідзію свае творы. У 1970 годзе верш "Авідзію" напісаў і наш славуты Максім Танк.

Вось тут і пачынаецца легенда. Эпіграфам да свайго верша паэт узяў вытрымку з твора польска-беларускага паэта XIX ст. Уладзіслава Сыракомлі – "Авідзій на Палессі":

У Давыд-Гарадку, на выгнанні, з тугі
Па радзіме далёкай Авідзій памёр.

А вось фрагмент з верша М. Танка:

Толькі дзе ты спачываеш –
Не знаюць
Ні хвалі крутога Дунаю,
Якія ў выгнанні твой цень адбівалі,
Ні вулкі Канстанцыі,
Дзе галубоў ты карміў,
Ні нават нашчадкі сарматаў,
Якім склаў на мове іх некалькі песень,
За што табе падарылі яны
Мядзведжую шкуру
І лук
З паланянкай дзяўчынай.
Магчыма яна цябе звабіла
У край наш паўночны,
Дзе Прыпяць не ведае берагоў,
Дзе пушчы трубілі
Ў сто туравых рагоў,
Гарэла зямля ад вясёлак суквецця,
І неба – ад зор.

Аб чым сведчаць гэтыя вершы? Звернемся да гісторыі.

У ссылцы Авідзій правёў дзевяць гадоў. У сваіх творах-успамінах таго часу ён сапраўды ўпамінае аб сармацкіх падарунках, у тым ліку і аб дзяўчыне-рабыні. Згадваюцца антычным паэтам суровыя землі на поўнач ад Скіфіі, далёкі край, які нагадвае Няўрыду.

Вядома, што Авідзій у ссылцы падарожнічаў і згодна з афіцыйнымі звесткамі таго часу памёр у г. Томы (сучасны Канстанца ў Румыніі).

У "Пісьмах-элегіях з Понта" Авідзій многа піша аб Скіфіі, аб тым, што ён жыве сярод варвараў, аб палярных бязлюдных раёнах, здзіўляецца льду, празрыстаму, як шкло, які пакрывае мора, і скрозь які можна бачыць жывых рыб, піша аб замарожаным зімою чырвоным віне, кавалак якога можна ўзяць у руку...

Але ўспамінаў аб Няўрыдзе ў Авідзія няма. Ці да нас дайшла не ўся яго літаратурная спадчына?

На тэрыторыі Няўрыды па сучасных звестках ніякіх гарадоў у той час не было. Дык чаму Сыракомля месцам смерці Авідзія назваў Давыд-Гарадок, а Максім Танк падтрымаў яго думку – гэта застаецца загадкай.

Ні адзін з даследчыкаў жыцця і творчасці Авідзія не выказаў думкі аб наведванні ссыльным паэтам нашага Палесся, а вось прыгожая легенда ўзнікла. Паэты дапоўнілі вучоных.

А магчыма, штосьці і было?

❖

Зарубінцы сяліліся на гарадзішчах і селішчах сваіх папярэднікаў. Найбольш распаўсюджаным тыпам пасяленняў таго часу з'яўляліся гарадзішчы – узвышаныя мясціны, у мэтах абароны абнесеныя агароджай. Жытлы былі аднакамерныя ці аднапакаёвыя, да 25 м$^2$, з каменным вогнішчам альбо глінабітнай печчу. Селішчы не ўмацоўваліся, а жытламі на іх былі звычайныя паўзямлянкі, напалавіну меншых памераў, чым на гарадзішчах, аднак меліся і слупавай канструкцыі з двусхільнымі стрэхамі. Ля жытлаў знаходзіліся ямы-скляпы, у якіх захоўваліся харчовыя запасы.

Паселішчы зарубінцаў на Палессі звычайна займалі плошчу ў некалькі гектараў, бо выкарыстоўвалі многа зямлі ў сельскагаспадарчых мэтах. У кожным з іх пражываў род, які быў, па сутнасці, гаспадарчай абшчынай. Зарубінцы ўстойліва займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, а дадаткова – паляваннем і рыбалоўствам.

Вядучай формай земляробства было – ляднае, падсечнае. Выбраны ўчастак лесу (ляду) калектыўна расчышчалі і выпальвалі, рыхтуючы пад ворыва.

Новае, адваяванае ў пушчы такім чынам поле выкарыстоўвалася на працягу некалькіх гадоў – да поўнай страты ўрадлівасці, а потым ператваралася ў выган, альбо папар.

Цяглавай жывёлай з'яўляліся валы, асноўнай прыладай на полі – драўлянае рала. Найбольш пашыранай сельскагаспадарчай культурай была пшаніца, другое месца займаў ячмень. Вырошчвалі таксама проса, гарох, віку, палявыя бабы. Муку атрымлівалі ад перацірання зерня каменнымі зерцацёркамі, пазней жорнамі.

Жывёлагадоўля на Палессі ўзнікла ў часы неаліта каля IV тысячагоддзя да н. э. Першымі хатнімі жывёламі лічацца сабака, свіння, бык, пазней – конь. У зарубінецкі перыяд найбольш распаўсюджанымі былі буйная і дробная рагатая жывёла, свінні і коні, паступова з'яўляецца птушкагадоўля. Знікалі пушчы, мялелі рэкі, і ўслед за гэтым паляванне і рыбалоўства сваё першае месца ў жыцці палешукоў уступілі земляробству і жывёлагадоўлі.

Керамічныя вырабы – найбольш распаўсюджаныя прадметы рамесніцтва, якія сустракаюцца пры археалагічных раскопках. Посуд па-ранейшаму быў грубаляпны, але з'явілася і новая яго форма – глянцавая. Гэта былі міскі і высокія гаршкі з адагнутым краем вянца.

Існавала ўжо архаічная металургія, яшчэ прымітыўная і не вельмі прадуктыўная. Аб гэтым сведчаць знаходкі тыгляў, льячкоў – посуду для розліву, формачак, зліткаў бронзы, а таксама шэраг бронзавых упрыгожванняў – пацеркі, бранзалеты, пярсцёнкі, шпількі.

З'явіліся неўзабаве новыя прылады працы і зброі – сякеры-кельты клінападобнай формы з прамавугольнай утулкай для тапарышча, сярпы

з чаранком, лістападобнай формы наканечнікі коп’яў – такія ж, як і ў антычных народаў, дроцікі з некалькімі шыпамі. Чалавечая думка не стаяла на месцы – хаціны станавіліся больш утульнымі, ежа больш смачнай, адзенне – прыгажэйшым, гарадзішчы – трывалымі і грознымі, а зброя – больш эфектыўнай і небяспечнай.

Плямёны зарубінцаў падтрымлівалі сувязь і ўдзельнічалі ў гандлёвым абмене са сваімі заходнімі і паўднёвымі суседзямі. Сведчаннем гэтаму могуць быць многія скіфскія і грэчаскія рэчы, якія станавіліся ўзорам майстэрства і культуры для мясцовага вырабу.

Большасць даследчыкаў лічыць зарубінцаў праславянамі. Іх грамадства бачыцца бяскласавым. Гэта быў апошні перыяд першабытна-абшчыннага ладу, які закончыўся яго разлажэннем і ўзнікненнем новага гістарычнага перыяду, новага народу.

Прыйшла новая культура, новыя героі і майстры, новыя правадыры і плямёны. Прыйшлі новыя багі.

Так і закончылася гісторыя Герадотавай Няўрыды. На змену неўрам прыйшлі славяне.

# ПЕРУНОЎ ХАТОМЕЛЬ

*"В год 6488 (980 – от Рождества Христова). И стал Владимир княжить в Киеве один, и поставил кумиры на холме за теремным двором: деревянного Перуна с серебряной головой и золотыми усами, затем и Хорса, Даждьбога, Стрибога, Симаргла и Мокоша. И приносили им жертвы, называя их богами..."*

***"Повесть временных лет"***

На правабярэжжы Гарыні ў пятнаццаці кіламетрах на паўднёвы захад ад Давыд-Гарадка знаходзіцца адна з буйнейшых палескіх вёсак – Рубель, а на паўднёвай яго ўскраіне, фактычна з ім, Рублём, злучыўшыся, – вёска Хатомель.

Пачынаючы з канца 50-х гадоў назва вёскі Хатомель трывала ўвайшла ва ўсе падручнікі па гісторыі, даведнікі, энцыклапедычныя выданні. Справа ў тым, што ля Хатомеля знаходзіцца археалагічны комплекс раннеславянскага пасялення VI – X стагоддзяў, які, безумоўна, стаў эталонам для вывучэння і датавання іншых аб'ектаў ранняга славянства не толькі на Палессі, але і па ўсёй Беларусі.

Старажытную старонку гісторыі вёскі, на першы погляд, звычайнай, як і тысячы другіх, адгарнуў у час раскопак Замкавай гары ў Давыд-Гарадку польскі археолаг Раман Якімовіч. Здарылася гэта ў 1938 годзе, а ў 50-я гады падземныя таямніцы сціплай палескай вёскі вывучалі археолагі Б. В. Міралюбаў і І. П. Русанава.

Але самае глыбокае даследаванне помніка правеў вядомы ўжо нам па рабоце ў Велямічах, найстарэйшым эталоне гісторыі Няўрыды, вучоны Ю. У. Кухарэнка.

Раскопкі праводзіліся ім на працягу чатырох летніх сезонаў 1954–1957 гадоў. Свае адкрыцці і вывады ён выклаў у рабоце "Полесье и его место в этногенезе славян". Яны ж ляглі ў аснову і яго доктарскай дысертацыі, якую ён прысвяціў Палессю і іншым мясцінам.

Раннеславянскі комплекс Хатомель складаецца з гарадзішча, селішча і бескурганнага могільніка. Ён знаходзіцца на паўднёвым усходзе ад вёскі ля хутара Гарадзішча, назва якога, як бачым, стала старадаўняй памяткай аб далёкіх часах.

Каля хутара, паміж балоцістай нізінай і ручаём, знаходзіцца пясчаны пагорак. На яго заходняй ускраіне размешчана авальнай формы пляцоўка памерам 40 х 30 м. Яна ў свой час была акружана глыбокім ровам, які запаўняўся грунтовай балотнай вадою. Роў злучаўся з рэчкай, якая таксама прыкрывала ад нападу няпрошаных гасцей, людзей ці дзікіх звяроў, – адзін з бакоў пляцоўкі. Вядома ж, голы і пусты пляц – гэта ўсё, што захавалася ад жывога і шумнага гарадзішча.

Сама паверхня пагорка была ўмацавана землянымі валамі – вышынёю да трох метраў, якія будаваліся проста – клеці з бярвенняў засыпаліся зямлёю і абкладваліся дзярнінай.

Ні рэштак сцен, ні варот – засталіся толькі часткі рава, згладжанага стагоддзямі, ды нізкаватага валу з усходняга і заходняга бакоў, а тагачасная рэчка ператварылася ў старыцу.

Культурны пласт гарадзішча – 0,5–2,5 м. У ніжэйшым пласце, які належыць да V– VII стагоддзяў, было знойдзена шмат фрагментаў посуду не толькі ляпнога, але і больш складанага і дасканалага – ганчарнага вырабу.

Ляпны посуд быў упрыгожаны насечкамі ў выглядзе хваінак, уцісканнямі, хвалістымі баразёнкамі, неглыбокім гарызантальным рыфленнем. Ганчарная кераміка была больш майстэрская і прыгожая: экземпляры яе маюць добра выражаныя плечукі, арнаментоўка посуду самая разнастайная і складаная.

На хатомельскім гарадзішчы былі знойдзены пласціны воінскіх даспехаў, наканечнікі коп'яў і стрэл, жалезная спражка, срэбныя скроневыя кольцы і такі ж бранзалет. Усе металічныя вырабы адрозніваюцца ад рэчаў няўрыдскіх селішчаў складанасцю і носяць сляды сур'ёзнай кавальскай апрацоўкі.

Гэтыя знаходкі сведчаць аб тым, што ў першыя два-тры стагоддзі свайго існавання гарадзішча было месцам агульнага пасялення родзічаў.

Аднак пазней VII стагоддзя рэштак жытлаў тут не сустракаецца. У чым справа? Гарадзішча існуе, сцены яго высяцца, але пастаянныя жыхары адсюль знікаюць. Справа ў тым, што мяняецца характар гарадзішча і яго прызначэння. Дасканала і ўмела ўмацаванае, нават з дапамогай прыроды, гарадзішча, гэты старажытны на свой лад замак, стала месцам сховішча і абароны жыхароў селішча, якое выносіцца за яго межы.

Гарадзішча становіцца ганаровым месцам, дзе праводзіліся сходы супляменнікаў, хутчэй за ўсё – старэйшын і дружыннікаў, якія і тады, і пазней належалі да самага прывілеяванага класа грамадства.

Але самае цікавае ў тым, што гарадзішча з селішчам і жытламі людзей становяцца селішчам з жытламі тагачасных багоў. Тут узнікае рэлігійна-культавы цэнтр племені, дзе жыхары селішча, а магчыма, і суседніх, выконвалі свае язычніцкія, як мы сёння называем – паганскія, абрады.

Але першабытныя славяне ў сваіх багах нічога паганскага не бачылі: у выглядзе багоў імі былі ўслаўлены стыхіі прыроды – так, як яны іх разумелі. Агонь, вада, зямля і неба – гэтыя першапачатковыя сілы знайшлі сваё адлюстраванне і ў капішчы, якое існавала ў Хатомелі.

На хатомельскім гарадзішчы былі адрыты рэшткі вогнішчаў і слупавых ям. Першыя – запоўнены вуголлем, каменнем, рэшткамі керамікі, форма іх – карытападобная. Ямы – у сярэднім метровай глыбіні і пры-

значаліся для ўстанаўлення слупоў з выразанымі на іх выявамі – ідаламі язычніцкіх багоў. Можна ўявіць жывапісныя карціны тых часоў, калі на гэтым капішчы праводзіліся разнастайныя абрады з пакланеннем ідалам, якія часта прывязваліся да канца ці пачатку сельскагаспадарчых работ, да вясны, лета ці зімы з іх адметнымі рысамі новага і старога года.

Абрады славян не былі такімі жорсткімі і крывавымі, як у многіх народаў Азіі ці Афрыкі, але ў тыя часы першабытныя славяне таксама рабілі ахвяраванні – і не толькі раслінамі, ад прыпасаў ці ўраджаю, але і жывымі істотамі сваіх статкаў.

Найбольшай павагай карыстаўся ва ўсходніх славян Пярун – бог грому, вайны і мужчынскай славы. Асаблівай папулярнасцю ён карыстаўся, зразумела, у правадыроў плямён, жрацоў і вояў-дружыннікаў. Пярун уяўляўся волатам – з чорнымі, густымі валасамі да плеч, з залатой барадой і такімі ж доўгімі раскошнымі вусамі, які трымаў у руках два вялікія камяні ад жорнаў. На думку старажытных славян, гэтымі жорнамі Пярун выціскае з хмар дождж, а калі б'е імі – тады гучыць гром і вылятае маланка. Добрае надвор'е многа значыла ў жыцці сельскагаспадарчых народаў. І Пярун, які, на іх думку, кіраваў навальніцамі і дажджамі, быў у вялікай пашане.

Жонкай Перуна лічылася Цёця – Каляда. Яе ўшаноўвалі як багіню лета і ўрадлівасці і ўяўлялі як прыгожую жанчыну велічнай постаці з вянком са спелай залатой пшаніцы на галаве ды багатай садавінай у руках.

Сынам Перуна і Цёці-Каляды лічыўся Дажбог – бог сонца, міру і дабрабыту. Разам са сваім бацькам Перуном ён з'яўляўся адным з самых папулярных багоў усходніх славян. Яго жонкай была багіня вясны і прыгажосці Лада – альбо Ляля. Сынам Дажбога і Лялі лічыўся бог кахання і ўрадлівасці, пладавітасці і багацця Ярыла.

Паляўнічыя прасілі аб дапамозе ўзброенага ваяра, які лятаў па небе са світай вялізных шэрых ваўкоў, пазней яго звалі Юры. Земляробы пакланяліся заступніку жывёл і пастухоў Вялесу ці Воласу.

Пярун, Дажбог і Вялес найбольш часта згадваюцца ў народным фальклоры і казках, пра іх упамінаюць і першыя рускія летапісы, бо менавіта з гэтымі прадзедаўскімі багамі давялося сутыкнуцца першым хрысціянам пры хрышчэнні Русі.

З мноства багоў, якія акружалі людзей таго часу, нам вядомы яшчэ бог зімы Зюзя, бог падземнага свету – Карачун, бог агню і апякун кавалёў Жыжаль, летні бог Купала, які ўшаноўваўся ў дзень павароту сонца на зіму. Гэты дзень святкаваўся скатваннем з гары ў ваду аблітага смалою і запаленага кола. Цікава, што ў Еўропе гэты абрад захаваўся толькі ў славян і немцаў. Пазней, з прыходам хрысціянства, гэта свята абвясцілі Іванавым днём.

Вось як піша славуты вучоны, знаўца славянскага фальклора

А. М. Афанасьеў у сваёй капітальнай многатомнай працы "Поэтические воззрения славян на природу":

"У белорусов, с рассветом Иванова дня, крестьянки выбирают из своей среды самую красивую девушку, обнажают ее и опутывают с ног до головы гирляндами из цветов; затем отправляются в лес, где Дзеўко-Купало (так называют избранную девушку) обязана раздавать своим подругам заранее приготовленные венки. К этой раздаче она приступает с завязанными глазами – в то время, как вокруг нее движется веселый девичий хоровод".

Багі былі нябесныя, як, напрыклад, грозны бог вятроў Стрыбог, і былі зямныя, якія жылі на палетках, як Жытнёвая Баба, на двары, у хляве ці адрыне, у дровах, а таксама ў лазні. Гэта былі ўжо нават не багі, а бажаняты, з якімі людзі размаўлялі і сварыліся, а маглі за дрэнныя паводзіны і пабіць. Шанавалі Клецніка, хавальніка хатніх кляцей і кладовак.

Афанасьеў 150 гадоў назад пісаў:

"Белорусы до сих пор рассказывают, что у каждого хозяина есть свой Чур – бог, оберегающий границы его поземельных владений; на межах своих участков они насыпают земляные бугры, огораживая их частоколом, и такого бугра никто не посмеет разрыть из опасения разгневать божество... От тесных стен избы и двора охранительная власть домового распространилась на весь поземельный надел, принадлежащий роду. Чур, по белорусскому преданию, оберегает поля и паши, состоящие в определенной меже".

Забыліся многія багі, а Чур застаўся. І хаця ўзнікае ён у гаворцы міжволі, несвядома, але ж жыве, як абломак сівой даўніны.

"Заклятия: "чур меня!", "чур наше место свято!" произносятся при рассказах о злых духах, при совершении гаданий и волшебных чар; сила этих слов заключается в призыве светлого, дружелюбного божества, присутствие которого заставляет удаляться демонов мрака", – пісалася некалі фалькларыстам. Але ж сёння мы часцей клічам Бога, а не Чура, забытага ахоўніка.

Страшным богам некалі лічыўся Яшчур – распаўсюджвальнік хвароб, само імя якога нагадвае яшчарку, дракона. І да нашых дзён жыве чорны бог Яшчур, але ўжываецца яго імя для абазначэння інфекцыйнага захворвання жывёлы.

З далёкага язычніцкага часу да сённяшніх дзён захаваліся ў нашай мове некаторыя вышэйназваныя імёны. Згадваючы сваё дзяцінства, кожны можа ўспомніць, што грымотны ўдар у час навальніцы называлі дарослыя Перуном ці стрэлам Перуна. Аб халодным надвор'і на вуліцы дзецям казалі, што там Зюзя. Перасцерагаючы ад спроб пазнаёміцца блізка з небяспечным агнём, гаварылі маленькім, што гэты чырвоны звер – Жыжа. Немаўлятка часцей за ўсё называлі Ляляй, а зайшоўшую ў хату маладжавую жанчыну – Цёцяй. Ну, а ў дрэнным выпадку – аб раптоўна памершым чалавеку казалі, што яго схапіў Карачун.

Усё гэта было вядома і тым людзям, што жылі некалі на Палессі і менавіта тут, на гарадзішчы вёскі Хатомеля.

На ўсход і захад ад гарадзішча на плошчы каля пяці гектараў размяшчалася селішча таго племені, якое пабудавала гэты ўмацаваны пункт для сваіх грамадскіх і духоўных патрэб. У адрозненне ад гарадзішча – селішча не было агароджана і не мела ніякіх абарончых збудаванняў.

Жытлы будаваліся ўздоўж землянога валу ў два рады, але такіх мелася менш; большая частка была забудавана без належнай планіроўкі. Жытлы – паўзямлянкі з аднасхільным або двухсхільным дахам, зробленым з жэрдак ці бярвенняў. Бывала, што засыпалі іх зямлёй і абкладвалі дзёрнам. Сцены клалі з бярвенняў ці плялі з галля і абмазвалі глінай.

Звычайна жытлы будаваліся прамавугольнымі хацінамі плошчай 12–30 м$^2$. Падлога – земляная. У адным з куткоў знаходзілася глінабітная печ на драўляным каркасе. Археолагам І. П. Русавай раскапана 16 такіх жытлаў і гаспадарчых ям, што знаходзіліся побач.

Раскопкі далі каштоўны матэрыял. Знойдзены шматлікія прылады працы, сярод якіх сярпы і долаты, жалезныя нажы і тачыльныя брускі, рыбалоўныя восці, цуглі ад конскай аброці, праслíцы для прадзіва. Посуд як ляпной, так і ганчарнай вытворчасці.

Але самай сенсацыйнай знаходкай быў жалезны плуг – першая і адзіная знаходка такога тыпу ў Беларусі, якая датуецца X стагоддзем. Дзіўна тое, што плуг цалкам жалезны, а не толькі яго лямеш, як гэта магло быць. Так што, хутчэй за ўсё, хрысціліся нашы продкі з драўлянымі сохамі, а адкуль узяўся адзіны жалезны плуг – можна толькі здагадвацца.

Разам з тым, значная колькасць жалезных прылад сярод рэчаў сведчыць аб устойлівым развіцці мясцовай металургіі і кавальскай справы.

Акрамя гарадзішча і селішча трэцім аб'ектам комплекса з'яўляецца грунтовы могільнік. Ён знаходзіцца за 200 метраў на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. На ім на глыбіні каля метра быў знойдзены перакулены гаршчок з перапаленымі касцямі нябожчыкаў. Гэта сведчыць, што трупаспальванне было ўласціва ранніх славянам, як і іх папярэднікам – зарубінцам. І новы пахавальны абрад, больш міласэрны, прынесла да іх, відавочна, толькі хрышчэнне Русі.

Матэрыялы хатомельскіх раскопак зберагаюцца ў музеях Мінска, Брэста і Пінска.

Археалагічны комплекс Хатомеля сведчыць аб паступовым пераходзе ад родава-абшчыннага ладу да класавага грамадства. Археолагі паднялі адзін за другім культурныя пласты, і нібыта перагортвалі старонкі летапісу, схаванага ад вачэй. І летапіс зямлі ўсё расказаў – век за векам...

Невялікае гарадзішча радавой абшчыны ператварылася ва ўмацаваны пункт, які стаў з цягам часу месцам пражывання знатнай старэйшыны і яе ўзброенай ваеннай дружыны, якая ўжо была прафесійнай. Усім

неабходным іх забяспечвалі пражываючыя побач на паселішчы іх супляменнікі-суродзічы, якія аралі, сеялі, збіралі ўраджай, гадавалі жывёлу, займаліся рамесніцтвам.

Затое ў час небяспекі, ваеннай пагрозы заступнікамі народа выступалі яго старэйшыны са сваёй дружынай. Такі пасёлак ужо быў нечым накшталт раннефеадальнага маленькага замка і папярэднікам будучага горада.

Старажытны Хатомель праіснаваў звыш пяці стагоддзяў. А потым, недзе ў сярэдзіне X ст., знік. Жыццё тут спынілася. Ніякіх слядоў разбурэння, ваеннага нападу няма. Проста людзі самі пакінулі месца свайго пражывання і некуды сышлі. Але куды? Гэта ж не стэпавыя вандроўнікі, а аседлыя разважлівыя земляробы. На што лепшае разлічвалі яны змяніць сваё радавое кубло?

Вядомы старэйшы беларускі археолаг Г. В. Штыхаў лічыць, што сыход хатамлян выкліканы гістарычным працэсам, які адбываўся на землях усходніх славян.

Гэта быў час стварэння Кіеўскай Русі, аб'яднання плямён, узнікнення адзінага народа. Час цэнтралізацыі і асэнсавання славянамі сябе на бязмежжы прасторы. Час кансалідацыі і духоўнага росквіту ўсходніх славян, які заканамерна і асэнсавана быў увянчаны Вялікім Хрышчэннем, з якога пачалася новая гісторыя народаў.

Эпоха селішчаў і гарадзішчаў завяршалася. Наступала эпоха гарадоў, якія станавіліся цэнтрамі племянных зямель. Менавіта таму некаторыя старыя гарадзішчы былі пакінуты яго жыхарамі. Людзі перасяляліся ў больш выгадныя для іх куткі, бліжэй да цэнтра, а, магчыма, і ў сам цэнтр.

Верагодна, так здарылася і з Хатомелем, дзе пражывала прыкладна 200 сем'яў. Але ж які цэнтр змаглі знайсці яны ў палескай векавечнай глушы?

Бліжэйшым горадам быў Тураў, да якога сёння па роўнай прамой – 50 кіламетраў, а тады, праз лясы і рэкі – значна даўжэй.

Тураў на доўгі час стаў цэнтрам дрыгавіцкай зямлі. Гучнае імя Турава прыцягвала людзей – тур спрадвеку быў самым магутным лясным волатам дзікіх пушчаў. У той час людзі сур'ёзна ставіліся нават да асабістага імя ці мянушкі. Магутны Тураў, на іх погляд, абяцаў багатае і бяспечнае жыццё.

Але хто ведае? Значная частка перасяленцаў, магчыма, пасялілася там, а некаторыя маглі абраць другі лес. Апошнія былі больш самастойныя, свабодалюбівыя, нават авантурныя. Яны пайшлі ў другое месца, у другі бок.

Іх радавым кутком мог стаць прыгожы зялёны пагорак на правым беразе Гарыні, не вельмі далёка ад яе ўпадзення ў цемнаводную Прыпяць. Хутка пагорак быў ператвораны ў гарадзішча, якое зазяла свежымі жоўтымі бярвеннямі.

І калі праз сто гадоў вандроўны князь-згой Давыд Ігаравіч заснаваў свой Гарадок, то ён, хутчэй за ўсё, будаваў яго не на пустым месцы. Яго першымі жыхарамі маглі быць менавіта перасяленцы-хатамляне. Дык колькі тады гадоў Давыд-Гарадку?

На гэтае няпростае пытанне можа адказаць толькі маці-сырая зямля, якая помніць усё. І невыпадкова таму, пералічваючы старажытныя гарады Тураўскай зямлі, Г. В. Штыхаў першым з іх называе менавіта Давыд-Гарадок.

❖

Першай айчыннай крыніцай, якая дае нам звесткі аб насельніках Палесся гэтага часу, з'яўляецца "Повесть временных лет", складзеная кіеўскім летапісцам Нестарам у 1113 годзе.

Ужо ў самым пачатку "Повести" сярод рэк Усходняй Еўропы ўпамінаецца Прыпяць (назва паходзіць ад старарускага слова "прыпечь" – пясчаны нанос на беразе ракі). Расказ аб гісторыі ўзнікнення Русі летапісец пачынае з геаграфічнага апісання рассялення славян:

"Так же и эти славяне пришли и сели по Днепру и назвались полянами, а другие – древлянами, потому что сели в лесах, а еще другие сели между Припятью и Двиною и назвались дреговичами, иные сели по Двине и назвались полочанами по речке, которая впадает в Двину и носит название Полота".

Такім чынам, мы бачым, што славянскім племенем, якое пражывала на Палессі, былі дрыгавічы. Лічыцца, што гэту назву яно атрымала ад свайго геаграфічнага месцазнаходжання – нізіннага і вельмі забалочанага – дрыгвы, непраходнага ("дрыжачага") балота.

Аднак ёсць і іншая думка: імя дрыгавічоў гэтае племя атрымала ад свайго першага правадыра – князя Дрыгавіта.

Што датычыць назвы народа і яго мовы, то першы Летапіс аб гэтым гаворыць:

"...И так разошелся народ, а по его имени и грамота называлась "славянская"... Вот кто только говорит по славянски на Руси: поляне, древляне, новгородцы, полочане, дреговичи, северяне, бужане, прозванные так, что сидели по Бугу, а затем ставшие называться волынянами".

Значыць, хатомельскія славяне былі дрыгавічамі. Іх бліжэйшымі суседзямі на захадзе былі валыняне. На працягу некалькіх стагоддзяў Палеская і Валынская землі перажывалі адзіны гістарычны працэс.

У другой палове IX стагоддзя кіеўскі князь Алег падпарадкаваў сабе большасць суседніх славянскіх плямён. Аднак у пераліку заваяваных дрыгавічы не значацца, і не згадваюцца яны з прычыны цікавай, а не дзякуючы памылцы летапісца. Перагорнем яшчэ адну старонку гісторыі...

Не былі дрыгавічы ўдзельнікамі паходаў на Царград (Канстанцінопаль) князёў Алега ў 907 годзе і Ігара ў 944 годзе, таму што ў дагаворах гэтых князёў з візантыйскім імператарам дрыгавічы не ўпамінаюцца.

Значыць, у гэты час Дрыгавіцкая зямля кіеўскім князям не падпарадкоўвалася. Што ж, непраходныя пушчы і дрыгва дапамаглі палешукам застацца самастойнымі.

Першая дакладная дата з упамінаннем дрыгавічоў – гэта 948 год, калі візантыйскі імператар Канстанцін VII Парфірародны напісаў трактат "Об управлении империей". Апісваючы суседнія народы, імператар пісаў і аб русах:

"Зимний и суровый образ этих руссов таков. Когда наступит ноябрь месяц, князья их тотчас выходят со всеми руссами из Киева и отправляются в полюдье, т. е. круговой объезд, и именно в славянские земли вервионов, другувитов, кривичей, севериев и остальных славян, платящих дань руссам".

Гутарка ідзе аб штогадовым зборы даніны з падуладных кіеўскім князям зямель. Другувіты – гэта і былі дрыгавічы, а згадванне іх сярод даннікаў Кіева сведчыць аб іх безумоўным падпарадкаванні магутнаму ўладару.

З канца X стагоддзя асноўная частка тэрыторыі дрыгавічоў уваходзіць у склад Тураўскай зямлі.

Другое летапіснае ўпамінанне аб дрыгавічах належыць да 1116 года, калі князь Мінскі "...Глеб бо бяше воевал дреговичи и Случеск пожег"... Відавочна, Слуцк быў горадам дрыгавіцкім і знаходзіўся на іх этнічнай тэрыторыі.

Апошні раз дрыгавічы ўзгадваюцца ў Лаурэнцьеўскім летапісе ў 1149 годзе. Тут гаворыцца, што вялікі князь Кіеўскі Юрый Даўгарукі аддаў князю Чарнігаўскаму Святаславу Алегавічу "...и Случеск и Клечьск и вси дреговичи".

Пасля прыняцця на Русі хрысціянства і распаўсюджвання славянскага пісьменства, дрыгавічы, як і ўсе ўсходнеславянскія плямёны, сталі састаўной часткай вялікай краіны на ўсходзе Еўропы – Русі. Вядома, са сваімі асаблівасцямі.

У параўнанні з зарубінцамі, гаспадарка жыхароў Палесся ў канцы першага тысячагоддзя стала больш дасканалай.

У X–XIII стагоддзях вырошчваліся амаль усе вядомыя ў наш час культуры. Значнага развіцця дасягнула агародніцтва. І не таму, што з хрысціянствам прыйшлі шматдзённыя Пасты, а з прычыны таго, што з кожным годам даніны феадалам даводзілася аддаваць усё больш; звяроў жа ў лесе ды рыбы ў рэках станавілася ўсё менш. Даводзілася трымацца агародам. Вырошчвалі тады капусту ды моркву, агуркі ды цыбулю, шчаўе ды рэпу, бульбы яшчэ не было. Пачало развівацца садоўніцтва – з вырошчвання ягадных і костачкавых пасадкаў. Фруктовыя дрэвы

сталі высаджваецца пазней, а прыйшлі яны з двух бакоў – з Поўдня і Заходняй Еўропы, якой сады пакінулі яшчэ рымляне.

Жывёлагадоўля набывала, як сёння мы гаворым, мяса-малочны накірунак: гадаваліся каровы, свінні, авечкі. Не абыходзіліся палешукі і без хатняй птушкі – качкі ды гусі пасвіліся ля кожнай хаціны вялікімі статкамі, дзякуючы таму, што вады наўкол хапала. Асноўнай цяглавай сілай з'яўляліся па-ранейшаму вол, у меншай ступені – конь.

І хаця многія пушчы і лясы былі ўжо княжацкімі, як і рэкі з бабрамі і самамі, але ж паляванне і рыбалоўства па старой звычцы дапамагалі людзям.

Цяжка сказаць, калі пачалося ў дрыгавічоў пчалярства. Лясоў хапала, і спачатку проста бралі мёд з дуплаў. Але потым бортніцтва – збор мёду з борцяў – штучных дуплаў, у якія садзілі пчаліныя раі, – захапіла на стагоддзі. І не проста захапіла, а стала славутай рысай славянскага дабрабыту: з Русі ў свет звычайна купцы везлі адно і тое ж: лес ды дзёгаць, хлеб ды рыбу, футры ды мёд.

Можна толькі здагадвацца, чаму так прыжыўся мёд на Русі. Ці то любоў да салодкага? Альбо пяшчота да дзяцей, дзеля якіх даводзілася цягаць той мёд з вышыні, з рызыкай для жыцця? Адказ, хутчэй за ўсё, больш просты – вялікая павага да хмяльных напояў, бо сказана ж яшчэ Уладзімірам Хрысціцелем: "веселие Руси есть пити". Гэтыя словы – з таго ж летапісу Нестара.

Вось так яно і пачалося – з простых пчолак... Але ж у апраўданне продкаў скажам, што не толькі ў палешукоў ды на Русі, але паўсюдна ў Еўропе на працягу доўгага часу хмельныя напіткі выраблялiся толькі з мёду.

Шчодра збіраліся ў лясных краях грыбы і ягады, а разам з тым і розныя дзікарослыя травы, кветкі, карані раслін, якімі лячыліся, маладзіліся, варажылі.

Прадметы археалагічных раскопак сведчаць аб значным развіцці рамесніцтва. Гандляры ды купцы на Палессе траплялі не так часта, асабліва ў глухія куткі. Фактычна, усе прылады працы, палявання, рыбалоўства, значная частка зброі выраблялiся на месцы. А гэта гаворыць аб вялікім майстэрстве кавалёў, якія былі на ўсе рукі майстрамі.

Людзі самі выраблялі жалеза з балотнай руды, выпальвалі вугаль. Мясцовыя жыхары Хатомеля, Турава ці Давыд-Гарадка выраблялі для сябе ўсё неабходнае – сярпы ды косы, сякеры ды зернецёркі, ступы і сохі, бароны і замкі на дзверы. Мудрагелістыя механізмы замкоў прыйшлі да нас з Захаду. У краязнаўчых музеях заўсёды здзіўляюць россыпы гэтых старажытных замкоў – значыць, было што зачыняць і што хаваць.

Адзенне і абутак выраблялiся ў кожнай сям'і самастойна. Адзяваліся ў ільняныя і шарсцяныя тканіны, вопратка была грубай, але даўгавечнай: колькі баек захавалася да нашага часу пра нагавіцы, якія насілі

ўнук, сын, бацька, дзед, прадзед, а ім няма зносу... Скураных вырабаў было не многа. Самым распаўсюджаным абуткам з'яўляліся лапці – лыкавыя, вяровачныя, скураныя.

Уся гаспадарка і быт насілі натуральны характар. Грошай тады не было, гандаль знаходзіўся фактычна на стадыі абмену. Жыццё цягнулася павольна, як цячэнне рэк, як шум бароў. Звычкі гаспадаркі і быту жыхароў Палесся захаваліся тут нязменнымі на многія стагоддзі.

# ЗОРНЫ ЧАС ТУРАВА

*Днесь весна красуется оживляющи*
*земное естество,*
*И бурнии ветры тихо повевающе*
*плоды умножают,*
*И земля семена питающи,*
*зеленую траву ражаеть...*
*Бурнии же ветри – грехотворнии*
*помыслы*
*Иже покаянием претворьшеся*
*на добродетель.*

***Кірыла Тураўскі. Слова на Пасху***

У сярэдзіне X стагоддзя на поўдні Беларусі на землях дрыгавічоў утварылася княства, якое ўвайшло ў склад старажытнарускай дзяржавы, за якой у гісторыі замацавалася назва Кіеўскай Русі.

Цэнтрам Дрыгавіцкага княства стаў горад Тураў. У перыяд яго найбольшага развіцця княства займала даволі значную тэрыторыю. Заходнім пунктам з'яўляўся горад Пінск, паўночнымі – Клецк і Слуцк, усходнімі – Чачэрск і Гомель, паўднёвымі – Дубровіца і Брагін.

Найбольшы ўклад у вывучэнне раннефеадальнага перыяду гісторыі Тураўскай зямлі ўнёс доктар гістарычных навук прафесар Пётр Фёдаравіч Лысенка, які зараз з'яўляецца загадчыкам аддзела сярэдневяковай археалогіі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. У 1993 годзе па яго ініцыятыве было створана Тураўскае навукова-асветніцкае таварыства, кіраўніком якога ён з'яўляецца і сёння.

З 1964 года Лысенка амаль кожны год праводзіў археалагічныя раскопкі. Ім вывучаліся курганы XI–XII стагоддзяў, старажытныя гарады Тураўскай зямлі – Тураў, Пінск, Слуцк, Давыд-Гарадок, Рагачоў, Мазыр, Бярэсце.

Усюды Лысенкам дасканала вывучаліся абарончыя ўмацаванні, планіроўка, забудова, рамёствы, гандаль, структура гарадской гаспадаркі, культурныя сувязі. Ім былі рэканструяваны даследаваныя часткі старажытных Турава і Пінска.

Але самай выдатнай справай, сапраўдным навуковым подзвігам вучонага было адкрыццё старажытнага Бярэсця на тэрыторыі Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці.

Вывучэнне горада XI–XIV стагоддзяў праводзілася ў 1969–1981 гадах. Было ўскрыта каля 2 тысяч м². Выяўлены рэшткі 224 жылых і гаспадарчых пабудоў, насцілы трох вуліц, дваровыя вымасткі, платы. Унікальнасць адкрытага старога горада заключаецца ў тым, што тут захавалася гістарычная спадчына, якой нідзе няма – жыллёвыя пабудовы на 12–13 вянкоў з аконнымі праёмамі. А гэта значыць, што хаты тагачас-

ных берасцейцаў былі вялікімі, высокімі і, што важна, – з прарубленымі вокнамі – паўзямлянкі зніклі. Лысенка таксама ўстанавіў, што Бярэсце было заснавана дрыгавічамі.

На працягу трох гадоў была праведзена не толькі археалагічная работа. Калі вучоныя ўбачылі, што перад імі ўзнік з-пад зямлі сапраўдны старажытны горад, гэта стала сенсацыяй. Прынята было рашэнне зберагчы Бярэсце для нашчадкаў. Так узнік горад у горадзе: у сучасным Брэсце – яго славуты летапісны продак Бярэсце.

Звычайна раскопкі завяршаюцца тым, што знойдзенае становіцца экспанатамі музеяў, а ямы зарываюцца. Не так было ў Бярэсці. Вучоныя зрабілі навуковы подзвіг па зберажэнню знойдзеных каштоўнасцей.

Падземныя забудовы былі прапітаны спецыяльнымі смоламі, каб зберагчы ад уздзеяння паветра і вільгаці. Гэтая цяжкая праца ішла адначасова з раскопкамі. Тры гады змагаліся вучоныя ў палявых умовах, і вось кансервацыя была завершана. І ў 1982 годзе адкрыўся Археалагічны музей “Бярэсце” – адзіны на Беларусі культурна-навуковы комплекс такога тыпу.

Аб сваіх навуковых даследаваннях Лысенка напісаў шэраг твораў. Найбольш буйнымі з іх з’яўляюцца “Города Туровской земли” (1974), “Киев и Туровская земля” (1982), “Берестье” (1985), “Дреговичи” (1991), “Древний Пинск” (1997) – манаграфія, выдадзеная да 900-годдзя горада, “Туровская земля” (1999).

Доўгі час у гісторыяграфіі ўтворанае на дрыгавіцкай зямлі княства называлі Турава-Пінскім. У сваіх творах Лысенка паказаў гістарычную недакладнасць гэтай назвы.

На працягу другой паловы X – да другой паловы XII стагоддзяў адміністрацыйным і культурным цэнтрам зямлі быў Тураў – тут знаходзілася рэзідэнцыя князёў, епіскапская кафедра. Пінск, як горад, узнік у канцы XI стагоддзя і ролю цэнтра стаў адыгрываць значна пазней.

Улічваючы палітычныя і эканамічныя адносіны, якія склаліся ў той перыяд вакол буйнейшых гарадоў – цэнтраў удзельных княстваў, – найбольш прыймальнай агульнарускай назвай, якая аб’ядноўвала людзей і рэгіёны, стала – зямля. Кіеўская, Наўгародская, Полацкая, Смаленская, Валынская і іншыя землі па-сутнасці сталі ў некаторых рысах дзяржавамі – з асаблівасцямі гаспадарчага ўкладу, быту і мовы.

Менавіта таму найбольш слушна зямлю дрыгавічоў, на якой утварылася вакол Турава княства, называць Тураўскай зямлёй. У сучасны момант гэта назва стала найбольш ужывальнай.

❖

Сучасны гарадскі пасёлак Тураў Жыткавіцкага раёна, які знаходзіцца на правым беразе Прыпяці ў цэнтры Палесся – гэта другі пасля Полацка цэнтр старажытнаславянскай дзяржаўнасці і культуры на Беларусі.

Старажытнае гарадзішча Турава цалкам не захавалася, аднак яно і зараз з’яўляецца адным з буйнейшых у рэспубліцы.

Першае слова аб Тураве мы знаходзім у “Повести временных лет” пад 980 годам:

“В лето 6488. Рогволод пришел из-за моря и держал власть свою в Полоцке, а Тур держал власть в Турове, почему и прозвались туровцы...”

Тураў быў заснаваны на славутым у той час водным ваенна-гандлёвым шляху “из варяг в греки”, якім актыўна карысталіся ваяўнічыя скандынаўскія нарманы, альбо – варагі, як звалі іх на Русі. Варагі – назва таямнічая, як і само племя гэтых людзей. Сярод меркаванняў такія: варагі належалі да аднаго са славянскіх плямёнаў, як, напрыклад, палабскія славяне, таму яны былі не зусім чужыя на Русі. А яшчэ слова “вараг” магло быць назвай вайсковага чалавека, службовага і нават прафесійнага, як пазней былі казакі на Палессі, у тым ліку і ў Давыд-Гарадку.

Улічваючы ўсё гэта, не дзіўна, што правадыры варагаў – канунгі – станавіліся валадарамі асобных славянскіх зямель.

Варагам быў заснавальнік першай расійскай дынастыі Рурык, варагамі былі кіеўскія князі Аскольд і Дзір і іх пераемнік Алег, а таксама яго пераемнік Ігар Рурыкавіч. Іх нашчадкі сталі сапраўднымі русічамі.

Згодна з вышэйпрыведзенай вытрымкай з летапісу, Рагвалод і Тур таксама былі варагамі і, магчыма, братамі. Сцвярджэнне аб тым, што яны былі выхадцамі з мясцовай пляменнай знаці, гучыць непераканаўча.

У 988 годзе язычніцкая Русь у асобе вялікага князя Кіеўскага Уладзіміра Святаслававіча прыняла хрысціянства ўсходняга (грэчаскага) накірунку. Летапіс Нестара цікава піша аб тым, як Уладзімір выбіраў веру, падрабязна распытваў місіянераў ад каталікоў, мусульман і іўдзеяў. Праваслаўная вера з Візантыі спадабалася яму, як самая прыгожая, поўная спеваў і хараства, а яшчэ таму, што абраднасць не была вельмі суровай.

Распаўсюджванне новай рэлігіі працягвалася даволі доўга і не заўсёды – мірным шляхам, бо сутыкнулася са старымі звычкамі, старымі ідаламі.

Так адбылося і ў Тураве.

Уладзімір накіраваў у Тураў свайго сына, Святаполка, разам з грэчаскімі місіянерамі. Тураўцы аказалі ўзброенае супраціўленне, у выніку якога легендарны Тур загінуў.

Святаполк стаў першым гістарычна дакладным Тураўскім князем. З новай уладай Тураў стаў пасля Полацка другім горадам, дзе ў 1005 годзе была заснавана епіскапская кафедра. Першым епіскапам Тураўскай зямлі стаў Фама.

Жонкай Святаполк выбраў дачку польскага караля Баляслава. Яна прыехала ў Тураў разам са сваім духаўніком біскупам Рэйнбернам. Святаполк трапіў пад уплыў жонкі, і ўсе ўтрох, разам з наваяўленым духоўным айцом, пачалі рыхтаваць змову супраць Уладзіміра – з мэтай яго зрынення.

Уладзімір пасадзіў іх у цямніцу, дзе біскуп памёр, а Святаполк быў вызвалены па просьбе цесця.

Пасля смерці бацькі Святаполк становіцца вялікім князем, забіўшы сваіх братоў Барыса, Глеба і Святаслава, за што сучаснікі празвалі яго Акаянным, а Барыс і Глеб сталі першымі рускімі праваслаўнымі святымі.

Барацьба Святаполка за ўладу з братам Яраславам закончылася перамогай апошняга. У "Повести временных лет" аб гэтым гаворыцца:

"К вечеру же одолел Ярослав, а Святополк бежал. И во время бегства напал на него бес, он не мог сидеть на коне, и несли его на носилках. Принесли его к Берестью, убегая с ним... пробежал он через Польскую землю, гонимый Божиим гневом, и прибежал в пустынное место между Польшей и Чехией, и там кончил бесчестно жизнь свою".

Гэта адбылося ў 1019 годзе, калі летапіс упершыню згадвае "Берестье" – наш сучасны Брэст. Такім быў пачатак летапіснай гісторыі Турава, такім быў першы Тураўскі князь.

Праз некаторы час Яраслаў Мудры накіраваў у Тураў свайго старэйшага сына Ізяслава, які пасля смерці бацькі ў 1054 годзе становіцца вялікім князем, захаваўшы за сабой уладу ў Тураве.

Яшчэ пры сваім жыцці Яраслаў кожнаму са сваіх сыноў перадаў ва ўладанне адзін з гарадоў, якія з'яўляліся тагачаснымі цэнтрамі зямель. Гэта, фактычна, было пачаткам феадальнай раздробленасці, якая прывяла да распаду Кіеўскай Русі і бясконцым міжусобным войнам.

У 1067 годзе ўпершыню ў летапісе ўзгадваецца Менеск (Мінск), а таксама Няміга. Вось якія падзеі адбыліся ў гэтым годзе згодна з "Повестью временных лет":

"В год 6575. Начал междуусобную войну Всеслав Брячиславич полоцкий и занял Новгород. Трое же Ярославичей, Изяслав, Святослав, Всеволод, собрав воинов, пошли на Всеслава в сильную стужу. И подошли к Минску и минчане затворились в городе. Братья же взяли Минск и перебили всех мужчин, а женщин и детей захватили с собой как военную добычу, и пошли к Немиге (реке), и Всеслав пошел к ним навстречу. Они встретились на Немиге 3 марта; и был снег великий, и войска пошли друг на друга. И был бой жестокий и много людей пало, и одолели Изяслав, Святослав, Всеволод".

Усе памятаюць аб трагічным здарэнні, якое адбылося на Сёмуху 30 мая 1999 года у Мінску на Нямізе. Усе адзначалі нейкую жахлівую апантанасць і бяспамяцтва, якія авалодалі натоўпам. Шаленства і раз'юшанасць моладзі былі такія, нібыта пачаўся канец свету – Апакаліпсіс. Сярод прычын, якія выклікалі гэтую трагедыю, некаторыя выказалі і такую: пляц, які моладзь абрала для сваіх скокаў, – гэта месца старадаўняй бітвы на Нямізе. І трагедыя на сучаснай Нямізе – гэта пратэст душ продкаў, якія загінулі тут, супраць скажоных бязбожных ігрышчаў.

І ўспамінаюцца радкі са “Слова о полку Игореве”:

“На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи хоролужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела. Немизе кроваве бреги не добром были посеяни, посеяни костьми руских сынов”.

Як не ўспомніць тут славутае папярэджанне скіфаў, з якім звярнуліся яны да магутнага цара персаў Дарыя: “не чапай нашых магіл!” Дарый не звярнуў на гэта ўвагі – і быў разбіты. Так што трэба паважаць продкаў і не скакаць на старых і, на жаль, забытых могілках.

А мы вернемся на Тураўскую зямлю.

У 1073 годзе Ізяслаў быў выгнаны з Кіева братамі Святаславам і Ўсеваладам. Вялікае княжэнне перайшло да Святаслава, а ў Тураве князем становіцца Ўсевалад. З 1078 года пасля смерці абодвух братоў ён заняў кіеўскі стол, а сваю ўладу ў Тураве перадаў разам з Уладзімірам Валынскім – Яраполку Ізяславічу (1078–1088).

З гэтага часу паміж Яраполкам і яго стрыечным (альбо дваюрадным) братам Давыдам Ігаравічам пачынаецца жорсткая барацьба за валоданне Валынскай зямлёй. Аб гэтых падзеях будзе падрабязна расказана ў главе “Князь Давыд”.

Пасля Яраполка князем Тураўскім стаў яго брат Святаполк Ізяславіч, а пасля смерці Ўсевалада Яраславіча ў 1093 годзе ён становіцца вялікім князем Кіеўскім, захаваўшы за сабой Тураў.

У барацьбе за ўладу Тураў быў для Святаполка важнай палітычнай і ваеннай апорай. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў Кіеве ў яго была свая тураўская дружына, якую летапісец называе – “молодая, новая, несмышленая”. Апошняе вызначэнне выказвае рэўнасць аўтара летапісу і яго крыўду, што вялікі князь аддае перавагу віцязям другога горада, нетутэйшым, некіяўлянам.

У склад Тураўскай зямлі ўваходзілі новыя гарады – Бярэсце і Пінск, якія Святаполк Ігаравіч часта наведваў. Бліжэйшым суседам Турава стаў Гарадок, узнікшы пры Святаполку.

Пасля смерці Святаполка ў 1113 годзе вялікім князем стаў яго стрыечны брат Уладзімір Усеваладавіч Манамах. Сына Святаполка – Яраслава – ён пазбавіў Турава, пакінуўшы за ім Валынскую зямлю. У міжусобнай барацьбе Яраслаў загінуў.

Пасля смерці Уладзіміра Манамаха ў 1125 годзе вялікім князем становіцца яго сын Мсціслаў, які перадаў Тураў свайму брату Вячаславу. Сын Манамаха Мсціслаў Уладзіміравіч быў апошнім аўтарытэтным вялікім князем Кіеўскай Русі.

Смерць Мсціслава зрабіла кіеўскі стол арэнай барацьбы паміж рускімі князямі. Кіеў паступова страчваў значэнне палітычнага цэнтра, аднак заставаўся па-ранейшаму, як казалі сучаснікі, – “матерью городов русских” – цэнтрам духоўнага жыцця.

Адзін год пабыў вялікім князем і Вячаслаў Уладзіміравіч, князь Тураўскі. У 1142 годзе Туравам стаў валодаць вялікі князь Усевалад Оль-

гавіч, аднак пасля яго смерці сюды зноў вярнуўся Вячаслаў, што выклікала незадавальненне новага вялікага князя Ізяслава Мсціславіча.

Вячаслаў быў пераведзены на Валынь, а ў Тураў накіраваны сын Ізяслава Яраслаў.

У гэты час у барацьбу за Кіеў уступіў сын Уладзіміра Манамаха Растова-Суздальскі князь Юрый Даўгарукі. У 1149 годзе ён захапіў Кіеў, а сыну свайму Андрэю, пазней названаму Багалюбскім, аддаў Тураў і Пінск.

Аднак улада бацькі і сына тут была нядоўгай: праз год ім давялося пакінуць захопленыя гарады. Але ў 1155 годзе Юрый зноў захапіў Кіеў і абвясціў сябе вялікім князем. Тураў ён перадаў ужо другому свайму сыну Барысу, які прабыў тут толькі два гады.

Выкарыстаўшы адсутнасць у Тураве Барыса Юр'евіча, які паехаў у Кіеў на пахаванне бацькі, уладу захапіў бліжэйшы дарадчык Юрыя Даўгарукага – Юрый Яраславіч, унук ужо вядомага нам Святаполка Ізяславіча. Такім чынам Юрый меў дынастычныя правы і на кіеўскі стол.

Гэта акалічнасць вызвала рэзкую рэакцыю Кіева. У 1158 годзе вялікі князь Ізяслаў Давыдавіч разам з князямі Смаленскім, Валынскім, Галіцкім і іншымі выступіў супраць Турава.

Адбылася небывалая да гэтага часу ў рускай гісторыі аблога. Войскі аб'яднаных князёў аблажылі горад. Тураўцы мужна абараняліся, адбівалі ўсе спробы захопу горада, рабілі нечаканыя вылазкі з-за сцен, наносячы значныя страты нападаючым. Становішча апошніх значна ўскладнілася з-за эпізаатыі, якая прывяла да падзяжу коней.

Дзесяць тыдняў працягвалася аблога Турава і закончылася безвынікова. У паходзе на Пінск разам з княжацкімі атрадамі ўдзельнічалі і стэпавікі – берандзеі, аднак і гэта ваенная аперацыя закончылася беспаспяхова:

"...ничтоже возвратишася во свояси не створивши с ним мира", – пісаў летапісец.

Праз два гады Тураву давялося вытрымаць чарговую аблогу. У летапісе гаворыцца:

"Тои же зиме ходи Мстислав Изяславич и Ярослав брат его Ярополк Андреевич Владимир брат его Ярополк к Турову на Гюргя на Ярославича и стояше в поле три неделе и не вспевше ему ничтоже возвратишася"... Летапісец тут ужывае тагачасны варыянт імя Юрый – Гюргі, якое гучыць для нас сёння на стэпавы манер.

Толькі ў 1162 годзе Юрый Яраславіч дабіўся прызнання самастойнасці Тураўскага княства. Шляхам доўгай і ўпартай барацьбы, дзякуючы дыпламатычным здольнасцям і воінскаму майстэрству Юрыя Яраславіча, яго аўтарытэту сярод насельніцтва і падтрымцы людзей простых, было здзейснена аднаўленне дынастыі Ізяславічаў на тураўскім стале, – менавіта так тады зваўся княжы трон і ўлада.

Далейшае княжэнне Юрыя было спакойным. Яго нашчадкі знаходзяцца ў Тураве, а пазней і ў Пінску.

А што ж Давыд-Гарадок, які ляжаў на шляху з Турава – у Пінск? Ён таксама прымаў удзел ва ўсіх падзеях княжацкіх сутыкненняў, ва ўсіх усобіцах. Жыхары Гарадка Давыдава былі людзьмі актыўнымі, дзейснымі. Але княства Гарадзецкае было не моцным, і Гарадок Давыдаў не быў вялікай крэпасцю, таму тое, што тут адбывалася, не заўсёды трапляла на старонкі летапісаў.

У 1162 годзе Святаполк Юр'евіч удзельнічае ў паходзе на полаўцаў, пазней – у барацьбе за кіеўскі стол на баку Мсціслава Ізяславіча.

Гісторыя яго родзічаў такая: Іван Юр'евіч удзельнічаў у зборы князёў у 1170 годзе. Глеб Юр'евіч у 1183 годзе са сваёй дружынай хадзіў на полаўцаў. Сярод удзельнікаў гэтага паходу ўпершыню згадваецца "Ярослав князь Пиньский".

Другі раз у 1190 годзе Пінскім князем называецца Яраполк. Гэта сведчыць аб устанаўленні ў Пінску самастойнага княжацкага праўлення з дынастыі тураўскіх Юр'евічаў. Упершыню ў летапісе ўпамінаюцца князі Дубровіцкі і Гарадзенскі. Усё гэта сведчыць аб тым, што ў другой палове XII стагоддзя на тэрыторыі Тураўскага княства ўтварыліся ўдзельныя княствы Тураўскае, Пінскае, Дубровіцкае і Гарадзенскае.

Пасля мангола-татарскага нашэсця хана Батыя ўшчэнт разбураны Кіеў страціў канчаткова сваё палітычнае значэнне. На паўднёвым захадзе найбольш моцным аб'яднаннем стала Галіцка-Валынская Русь. З сярэдзіны XIII стагоддзя пад яе ўплыў трапіла Тураўская зямля. А праз год яна ўвайшла ў склад новай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага.

❖

XI–XII стагоддзі былі перыядам адметнага развіцця тураўскай зямлі. Тураў стаў другім пасля Полацка палітычным цэнтрам Заходняй Русі – Беларусі. Ён быў буйнейшым гандлёвым пунктам на заходняй галіне воднага шляху "из варяг в греки" – Прыпяцка-Бужскай. З XII стагоддзя гэты шлях стаў асноўным, па якім падтрымліваліся гандлёвыя сувязі Заходняй Русі з Заходняй Еўропай.

Раскопкі старажытнага горада далі вялікі матэрыял, які сведчыць аб наяўнасці ў тыя часы на Палессі і канкрэтна ў Пінску – даволі развітой рамеснай вытворчасці, сярод якой найбольш складанымі былі – металургічная, ювелірная, ганчарная, шкляная, збройная.

Тураў быў і другім культурным цэнтрам Заходняй Русі. У 1006 годзе ў Тураве была адкрыта другая пасля Полацка епіскапская кафедра, якая распачала культурна-асветніцкае развіццё краю – царква выконвала ў той час ролю школы.

Пачала распаўсюджвацца славянская пісьменнасць, створаная першымі асветнікамі славянства – братамі святымі Кірылам і Мефодзіем. Гэтая пісьменнасць, царкоўна-славянская, захавалася да нашага часу і ўжываецца разам з юліянскім календаром Праваслаўнай Царквой.

Летазлічэнне ў той час вялі па візантыйскаму календару – "от Сотворения мира". Розніца з сучасным календаром складала 5508 гадоў. Гэта значыць, цяперашні 2000 год па гэтаму календару будзе: 5508 + + 2000 = 7508 год ад Стварэння Богам свету.

Назвы месяцаў і сямідзённы тыдзень былі ўзяты з рымскага календара, дні тыдня атрымалі славянскае гучанне. Новы год спачатку пачынаўся 1 сакавіка, а з 1492 года – 1 верасня. Візантыйскі каляндар у Расіі быў заменены юліянскім – 1 студзеня 1700 года.

У краінах заходняй Еўропы каталіцкага накірунку з 325 года існавала летазлічэнне ад Ражаства Хрыстова на аснове юліянскага календара. З канца XIV стагоддзя, пасля прыняцця вялікім князем Літоўскім Ягайлам каталіцтва, юліянскі каляндар пачаў ужывацца і на Беларусі. З 15 кастрычніка 1582 года ў Рэчы Паспалітай, тагачаснай Польшчы, дзейнічае грыгарыянскі каляндар. Расія ж увяла яго 14 лютага 1918 года.

Вядучую ролю ў распаўсюджванні пісьменства і асветніцтва адыгрывала Праваслаўная Царква. Цэнтрамі духоўнай культуры сталі манастыры, дзе перапісваліся кнігі, пісаліся іконы, манахі па-майстэрску займаліся рамяством і агародніцтвам, рыбнай гаспадаркай і вырошчваннем садоў. У манастырах вучылі просты народ грамаце, займаліся навукамі, тут вялося летапісанне, гэта значыць – стваралася гісторыя. Пісаўся летапіс і ў Тураве, хутчэй за ўсё у Барысаглебскім манастыры, найстарэйшым у горадзе. На вялікі жаль, гэты тутэйшы летапіс не захаваўся.

У XI стагоддзі было напісана Тураўскае Евангелле – самы старажытны помнік пісьменнасці на Беларусі.

Гэта рукапісная, напісаная на пергаменце кніга, упрыгожана складанымі ініцыяламі, якія выкананы на зялёным фоне і размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі. Тэкст Евангелля размешчаны ў парадку царкоўнага чытання па днях тыдня на ўвесь год. На жаль, захавалася толькі 10 яго аркушаў (20 старонак). Арыгінал захоўваецца ў Акадэмічнай бібліятэцы Літвы.

Пасля хрышчэння Русі адукаваных людзей тут стала многа. "Маці гарадоў рускіх" Кіеў высока ставіў імя князя. Для князёў таго часу было характэрна быць граматным і высокаадукаваным, строга выконваць абрады царквы, акрамя воінскай падрыхтоўкі штодзённа многа гадзін праводзіць у малітве.

Адукаваным чалавекам быў Тураўскі, а пазней вялікі князь Кіеўскі Святаполк Ізяславіч (1050–1113). Вось так апісваў яго вядомы расійскі гісторык XVIII стагоддзя В. М. Тацішчаў:

"...Сей князь великий был ростом высок, сух, волосы черноваты и прямы, борода долгая, зрение острое. Читатель был книг и вельми памятен, за многая лета бывше мог сказать, яко написанное. Болезней же ради мало ел и весьма редко и то по нужде других упился... Притом был вельми сребролюбив и скуп... Наложницу свою поял в жену и так ее

любил, что без слез на малое время разлучиться не мог, и, много ее слушая, терпел поношение"...

Любімай наложніцай тут завецца другая жонка Святаполка – грачанка Варвара. У Тураве яна заснавала жаночы манастыр, які быў названы Варварынскім, у гонар вялікамучаніцы Варвары. Пасля смерці князя яна з двума дзецьмі вярнулася ў Тураў, у свой манастыр, стала яго ігуменняй і была ёю да канца свайго жыцця, памершы ў 1125 годзе.

Перыядам выключнага рэлігійнага і асветніцкага руху была другая палова XII стагоддзя. Буйнейшых асветнікаў агульнарускага значэння дала ў той перыяд Заходняя Русь – тагачасная Беларусь. Імі з'яўляюцца Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі – самыя вялікія зоркі сузор'я святых праваслаўнай Беларусі.

Унучка Усяслава Чарадзея і Уладзіміра Манамаха Еўфрасіння Полацкая, свецкае імя якой было Прадслава (1101–1167) – заснавальніца Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра, цэнтра асветніцтва на Полацкай зямлі.

Яна была першай жанчынай, якая была кананізавана Рускай Праваслаўнай царквой і атрымала званне прападобнай. Святая Еўфрасіння – зорка жаночай славянскай святасці. У яе гонар устаноўлена ўзнагарода – ордэн Крыжа Прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Адным з першых ім быў узнагароджаны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.

У другім раўнаважным цэнтры культуры Заходняй Русі – Тураве праходзілі жыццё і дзейнасць сучасніка Еўфрасінні Полацкай, выдатнага асветніка і пісьменніка епіскапа Кірылы Тураўскага, які і жыў прыкладна колькі і яна (каля 1113 – каля 1190).

Ён паходзіў з багатай сям'і тураўскага гараджаніна і ўсё свае жыццё прысвяціў служэнню праваслаўнай царкве і асабліва – духоўнаму слову. Яго манаская будзённасць была аскетычнай, звычайнай для таго часу, для той багатай подзвігамі эпохі: у той жа час у Кіеве манахі рылі пячоры, жылі пад зямлёю, будавалі падземныя цэрквы, тварылі многа цудаў.

Доўгі час і Кірыла быў пустэльнікам, жыў у стаўпе, ізалявана ад людзей. Тут ён пачаў пісаць свае славутыя "Слова" – пропаведзі для вернікаў, якія разыходзіліся па Русі. На яго звярнуў увагу князь Тураўскі Юрый Яраславіч. У "Житии святителя Кирилла" гаворыцца:

"...Молением князя Юрья Ярославля и людей того града возведен был на епископский престол и митрополитом поставлен был епископом граду Турову, что близ Киева".

Гэта адбылося ў 1158 годзе, а мы асабліва адзначым гэтыя словы "близ Киева" – нават сёння, з нашым транспартам і асфальтавымі дарогамі да Кіева шлях не блізкі, дык чаму так піша летапісец? Ён падкрэслівае цесныя духоўныя сувязі, якія існавалі тады паміж Кіевам і паўднёвымі землямі Заходняй Русі.

Як сведчыць "Житие...", новапастаўлены іерарх "добре подвизается о Церкви Божией": ён умела і актыўна кіруе епархіяй, наведвае прыхо-

ды і манастыры, павучае ў сваіх бліскучых пропаведзях прыхаджан і папоў. Несумненна, ён наведваў нядаўна заснаваны Гарадок, да якога было недалёка – асабліва водным шляхам, па Прыпяці.

Епіскап Кірыл быў выдатным прапаведнікам, а сказаныя і запісаныя ім "Слова" – гэта шэдэўры царкоўна-праваслаўнай рыторыкі. Гэта – "Слово в Великую субботу", "Слово о страхе Божием", "Слово о втором пришествии", "Слово о мытарствах", "Притча о душе и теле" і інш.

Пропаведзі Кірылы насычаны высокароднай кніжнай мудрасцю, але вобразы яго – зразумелыя, блізкія да народнага фальклору: таму яны былі так папулярны і ў асяроддзі манаства і свяшчэнства, і сярод простага народа. У яго творах назіраецца захапленне чалавека хараством прыроды, радасцю жыцця, яны лірычныя і напісаны з вялікай мастацкай сілай.

Як асветнік, Кірыла Тураўскі не мог абысці значэння кнігі, рукапіснага слова. У сваім "Слове о книжном почитании" ён гаворыць:

"Сладок сок медовый и добро есть сахар, но его же добрее книжный разум".

А далей, адзначаючы абыякавасць некаторых вернікаў да сваіх духоўных абавязкаў, святы Кірыла іх гнеўна дакарае:

"Если бы я в церкви раздавал мед или пиво, сколь же быстро шли бы все сюда, опережая друг друга; а ведь я произношу в церкви слово Божие, лучшее пива и меда!"

Заўважым, што і праз шмат стагоддзяў гэтыя словы вялікага прапаведніка Палескай зямлі гучаць актуальна і сёння.

Адным з лепшых твораў Кірылы Тураўскага царква лічыць яго патрэбныя і сёння "Молитвы на всю седмицу", што значыць, на ўвесь тыдзень. Па пытаннях царкоўнага жыцця Тураўскі епіскап меў перапіску з Растова-Суздальскім князем Андрэем Багалюбскім, які пазней таксама быў абвешчаны святым. Дзякуючы перапісцы, захаваліся многія думкі і погляды ободвух славутых дзеячоў асветніцтва на Русі. Але гэта не ўсё, а толькі частка спадчыны.

Літаратурныя творы Кірылы Тураўскага распаўсюджваліся ў шматлікіх рукапісных копіях па ўсёй славянскай прасторы. Можна ўявіць, колькі такіх спісаў было на самой справе, калі больш за 60 твораў Кірылы Тураўскага захавалася да нашага часу – неверагодная для сярэдневяковага пісьменніка колькасць.

Шматлікія войны, міжусобіцы князёў, мангола-татарскае нашэсце, ворагі з захаду не змаглі знішчыць спадчыны епіскапа з Турава. Але мы дрэнныя нашчадкі – творы славутага святара не вядомыя сёння шырока народу, не ўваходзяць яны і ў школьныя хрэстаматыі, як і іншыя творы праваслаўных філосафаў і красамоўцаў. Дагэтуль няма і зборніка твораў вялікага асветніка. Чаму б на Палессі не выйсці такому карыснаму збору спадчыны?

Сучаснікі вельмі шанавалі і з вялікай павагай назвалі прапаведніка – "Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси".

Апошнія гады свайго жыцця, пакінуўшы кафедру епіскапа, Кірыла Тураўскі правёў у Барысаглебскім манастыры горада. Недзе ў XIII стагоддзі было напісана невядомым аўтарам "Житие святителя Кирилла, епископа Туровского". Тады яшчэ хадзіла па Русі мноства павучэнняў святара і яго "Слова", напісаныя на ўвесь год – на ўсё кола Божых святаў. Як вядомы багаслоў і Залатавуст, Кірыла Тураўскі атрымаў званне Свяціцеля ад Праваслаўнай Царквы і ўваходзіць у сабор Беларускіх святых.

А ўсяго кананізаваны чатыры дзеячы Тураўскай зямлі. Усе яны сучаснікі Кірылы Тураўскага. Гэта яго пераемнік – свяціцель Лаўрэнцій, пустэльнік Пячэрскі, прападобры Марцін, пустэльнік Тураўскі і праведны Барыс Юр'евіч, князь Тураўскі і Пінскі.

Так што ў Турава, а значыць і ў нашага палескага краю ёсць свой сонм святых. На нашай Берасцейшчыне наогул многа было святасці: тут здзейснілі свае подзвігі ў імя праваслаўя прападобна-мучанікі – Афанасій, ігумен Брэсцкі і Макарый, ігумен Пінскі, прападобны Андрэй, іярэй Пінскі, ды і святая праведная Сафія, княгіня Слуцкая таксама – наша, бо з Палессем Случчына тады была моцна звязана, а вянчалася княгіня Сафія ў брэсцкай царкве.

Калі цікава, дык дзень памяці святога Кірылы Тураўскага – 11 мая, а вось дні памяці іншых нашых палескіх святых: Марцін Тураўскі – 10 ліпеня, Лаўрэнцій, епіскап Тураўскі – 11 лютага, Афанасій, ігумен Брэсцкі – 18 верасня, Макарый, ігумен Пінскі – 20 верасня, Барыс Юр'евіч, князь Тураўскі і Пінскі – 6 ліпеня, аб Андрэі, іярэі Пінскім, звестак няма. А дзень памяці Сафіі, княгіні Слуцкай – 1 красавіка.

Жыццяпіс нашых палескіх святых не вельмі падрабязны. У XIII стагоддзі Тураў і многія іншыя гарады заняпалі ад мангола-татарскага нашэсця. І ў полымі і бядзе згінулі многія звесткі з жыцця ў тым ліку і тураўскіх святых XII стагоддзя Кірылы, Марціна і Лаўрэнція, і іншых свяціцеляў.

Традыцыйная пераемнасць у арганізацыі тэрытарыяльных праваслаўных аб'яднанняў захавалася ў тым, што і зараз існуе Тураўска-Мазырская епархія.

У час археалагічных раскопак у 1962 годзе П. Ф. Лысенкам у Тураве былі знойдзены некалькі мініяцюрных свінцовых абразкоў XII–XIII стагоддзяў. На адным з іх маецца выява лысага барадатага чалавека з высокім ілбом. Накінуты на плечы амафор сведчыць, што ён меў сан епіскапа, а прытуленая да грудзей кніга – што гэта значны хрысціянскі асветнік і багаслоў. Прааналізаваўшы хрысціянскія абразы, даследчык прыйшоў да высновы, што перад намі своеасаблівы партрэт славутага Кірылы Тураўскага.

У гэты ж час ленінградскі археолаг М. К. Каргер раскапаў рэшткі старажытнай царквы – першага каменнага будынка на Палессі. Мяркуецца, што гэты храм быў пабудаваны Кірылам Тураўскім. Тут жа былі выяўлены тры захаванні ў саркафагах.

Аднак яшчэ раней на Барысаглебскіх могілках быў выкапаны каменны саркафаг, унутры якога знаходзіліся астанкі пахаванага і рэшткі вышыванай тканіны з кавалачкамі залатых нітачак. Магчыма, гэта быў епіскап Кірыла, які закончыў сваё жыццё ў Барысаглебскім манастыры. Але гэта мог быць і другі святар, – пытанне засталося.

З таго часу захавалася даволі шмат каменных крыжоў, якія ўстанаўліваліся ў горадзе і навакольных вёсках. Акрамя музеяў, некалькі з іх захоўваюцца ў Тураўскай Усясвяцкай царкве.

У 1993 годзе на гарадзішчы старажытнага Турава ўстаноўлены велічны помнік выдатнаму старажытнарускаму асветніку свяціцелю Кірылу, епіскапу тураўскаму – у асобе якога ўслаўлены многія святыя нашага краю.

У гэтым жа годзе на ўстаноўчым сходзе навукоўцаў і аматараў старажытнасці было створана Тураўскае навукова-асветніцкае таварыства. Старшынёй яго праўлення абраны Пётр Фёдаравіч Лысенка, які так многа зрабіў для Турава, Давыд-Гарадка і наогул – Берасцейшчыны. Намеснікам стаў таксама прафесар, доктар гістарычных навук Леанід Давыдавіч Побаль, які ўнёс свой значны ўклад у вывучэнне гісторыі Тураўскай зямлі ранняга сярэднявечча.

Згодна са Статутам, галоўнай мэтай дзейнасці таварыства з'яўляецца паглыбленне навуковых ведаў пра гэты рэгіён і распаўсюджванне іх ў грамадстве. Мэта не такая простая, бо нават выданне новых навуковых даследаванняў сёння – рэч складаная і патрабуе дапамогі.

Разгледзім адно з апошніх выданняў Таварыства, якое выйшла ў 1999 годзе. Гэта пераклад "Слова о полку Игореве" са старарускай мовы на тураўска-палескую. Нагадаем, што гэты геніяльны і таямнічы твор напісаны таленавітым сучаснікам няўдалага паходу на полаўцаў Ноўгарад-Северскага князя Ігара Святаславіча ў 1185 годзе.

Пытанне аб аўтарстве "Слова о полку Игореве" не вырашана да цяперашняга часу. Сярод шматлікіх гіпотэз ёсць і такая, якая лічыць аўтарам гэтага твора Кірылу Тураўскага, бо мяркуюць, што Залатавуст славянства памёр пасля 1190 года. Ёсць думкі, што ён меў дачыненне да напісання Тураўскага летапісу, таксама страчанага ў час татарскага іга. Так ці інакш, але творца "Слова о полку Игореве" быў не меншым залатавустам, чым Кірыла Тураўскі, хаця і застаўся ананімным.

"Слово" перакладзена на шматлікія мовы; на беларускую празаічныя і паэтычныя пераклады былі зроблены Я. Купалам, М. Гарэцкім, Р. Барадуліным. І вось пераклад на палеска-тураўскую мову. Што гэта за мова, і чаму выкарыстана менавіта яна?

Справа ў тым, што тураўская гаворка з'яўляецца самай архаічнай на Беларусі і стаіць бліжэй за іншыя да старарускай мовы. Рэгіён гэтай гаворкі ці мовы знаходзіцца ў Жыткавіцкім і Столінскім раёнах і мае строга акрэсленыя дакладныя межы.

У Жыткавіцкім – гэта правабярэжжа Прыпяці на Тураўшчыне з на-

селенымі пунктамі: Тураў, Азяраны, Буразі, Бярэжцы, Варонін, Верасніца, Дварэц, Запясочча, Крэмна, Любавічы, Малое Маляшава, Пагост, Рыдча, Рычаў, Сямурадцы, Старажоўцы, Хачэнь, Хільчыцы, Чэрнічы.

У Столінскім – гэта правабярэжжа Гарыні на Гарадоччыне з населенымі пунктамі: Давыд-Гарадок, Аздамічы, Альгомель, Альпень, Альшаны, Велямічы, Кароцічы, Лутківі, Вялікае Маляшава, Мачуль, Рамель, Рубель, Сямігосцічы, Талмачава, Хатомель, Цераблічы.

А цяпер возьмем першы абзац твора і прачытаем яго ў арыгінале і перакладзе.

На старарускай мове:

“Не лепо ли ны бяшеть, братие, начяти старыми словесы трудных повестии о пълку Игореве, Игоря Святъсловлича? Начяти же ся тъи песни по былином сего времени, а не по замышлению Бояню!”

На палеска-тураўскай мове:

“Не лепшэ ці нам будзе, брацie, пойначыці старым словом трудных повесцеў поход Ігараў, Ігора Святаславліча? Пойначыці да й песнею по булінах сего урэм’ені, а не замусленню Боянову!”

Падабенства вялікае. А розніца – 800 гадоў.

Аўтарам “Слова пра паход Ігараў” на турава-палескай (а мы ад сябе дададзім – і гарадоцкай) з’яўляецца актыўны дзеяч Тураўскага навукова-асветніцкага таварыства навуковы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі кандыдат фізіка-матэматычных навук Мікалай Аляксеевіч Саскевіч. Яго радзіма на Тураўшчыне – вёска Пагост. Яго родная мова – палеска-тураўская, фальклорную спадчыну на якой ён збірае многа гадоў.

Праца М. А. Саскевіча – вялікі творчы ўклад у нашу нацыянальную гісторыю, літаратуру, культуру.

Павольна нясе свае воды Прыпяць-Струмень, як называюць яе палешукі, старэйшая дачка велічнага Дняпра, ласкаючы правы бераг горада Турава.

Больш за тысячу гадоў старажытны дзяцінец наводзіць на роздум аб часовасці велічы і вечнасці быцця. І бронзавы мудры Златавуст Кірыла з самага высокага месца сваёй задуменнай варты маўкліва глядзіць праз мітусню стагоддзяў на сучасны Тураў.

А недалёка ад Кірылы знаходзіцца калодзеж Тура з жывой вадой, якою лячыліся і ратаваліся нашчадкі легендарнага князя Тура, заснавальніка горада, харобрыя рускія віцязі, абаронцы зямлі і героі многіх бітваў, ды і ўсе насельнікі горада.

Аб гэтым калодзежы ведаюць і зараз, як і пра тое, што вада ў ім асвячоная, таму што трапляла яна сюды з Барысаглебскага храма, першага каменнага храма на Палессі, пабудаванага епіскапам Кірылам Тураўскім. Вада біла не з-пад зямлі, а цякла са святога сабора. Такое вось паданне.

І не толькі калодзежам Тура славуты і цікавы Тураў. Ёсць тут і другія таямніцы: напрыклад, крыжы, якія самі прыплылі ў горад па вадзе. Гэтыя крыжы сталі святынямі.

Не было б ніякага цуда, калі б крыжы былі драўлянымі, але ж яны былі каменнымі, высечанымі майстрамі з белага пясчаніка. Прыпяць прынесла крыжы з Кіева – першага хрышчонага горада на Русі. І ў гэтым – першы цуд.

Але Кіеў знаходзіцца значна ніжэй Турава на поўдзень, і да таго ж ён стаіць на Дняпры. Як жа прыплылі праваслаўныя крыжы? І ў гэтым – другі цуд. Каменныя крыжы трапілі ў горад Тураў па рацэ супраць цячэння.

Ці не пра тое ж самае пісаў наш Максім Багдановіч у вершы, які я памятаю з дзяцінства:

> "Проці цячэння вады
> Зможа толькі жывое паплыць,
> Хвалі ракі заўсягды
> Тое цягнуць, што скончыла жыць".

Некалі ў Тураве было многа гэтых каменных кіеўскіх крыжоў. Некаторыя з іх захоўваюцца і зараз у цэрквах.

У першым рускім летапісе "Повести временных лет" Тураў згадваецца дваццаць восем разоў. Гэта значыць, столькі адбылося значных падзей на погляд гісторыка-летапісца – у першыя два стагоддзі жыцця горада Турава. Гэта быў зорны час Турава, аднаго з самых вядомых і старажытных гарадоў Русі.

Але гэты час прайшоў, і толькі рэха яго жыве ў сціплым правінцыйным гарадку над Прыпяццю.

Дваццаць гадоў назад адзначалася тысячагоддзе Турава. Адзначалася яно ціха, без патрэбнай для гэтай агульнабеларускай падзеі святочнасці, удзелу навуковых і грамадскіх колаў, без дзеячоў мастацтва і эстрады, такіх актыўных у розных масавых акцыях. Тураўскае свята прайшло незаўважаным рэспубліканскімі ўладамі, друкам і тэлебачаннем, якому, здаецца, да ўсяго ёсць справа.

І нікому з навукоўцаў не прыйшло ў галаву паставіць такое пытанне: а чаму, уласна кажучы, Тураў з'яўляецца гарадскім пасёлкам, гэты найстарэйшы горад Беларусі, старажытная каштоўнасць усёй Русі, гістарычны помнік праваслаўнага славянства? І на якой падставе ў славутага Турава адабралі статус горада?

Знайшліся ж разумныя людзі, што ў 1940 годзе вярнулі старажытнаму Давыд-Гарадку званне горада. А старэйшы за яго Тураў, які ў летапісах сустракаецца разам з Кіевам, калі ні Масквы і ні Мінска яшчэ не было, сёння так незразумела і незаслужана пакрыўджаны.

У сузор'і Палескага краю – тры старажытныя браты: Пінск, Давыд-Гарадок і Тураў, якія больш за іншых захавалі сваё духоўнае аблічча,

сваю адметнасць, заслугоўваюць права насіць аднолькавае ганаровае званне – горад.

І я спадзяюся, што так і будзе, і сённяшнія нашчадкі выдатнай гісторыі Турава зробяць гэта, выправяць недарэчнасць. І горад славутага і легендарнага князя Тура зноў атрымае статус горада.

# КНЯЖЫЯ МАГІЛЫ

*Род проходит, и род приходит,*
*а земля пребывает вовеки.*
***Екклезиаст, гл. 1, стих 4***

Усё пачалося з пажару. 6 мая 1936 года, у дзень святога Юр'я, у першай палове дня, калі большасць гараджан былі на богаслужэнні ў Юр'еўскай царкве – за Сежкай, ва ўсходняй частцы Давыд-Гарадка ўспыхнуў пажар. Вецер, які раптам узняўся, нібыта страшэннымі крыламі раскідаў агонь ва ўсе бакі, і полымя літаральна за некалькі хвілін ахапіла кварталы.

Спалоханыя людзі, якія прыбеглі сюды з усіх бакоў, у жудаснай спякоце амаль што не змаглі змагацца са стыхіяй, у выніку чаго згарэла трэць гарадка.

З гэтага ж боку, на правым беразе ракі Гарынь, знаходзіцца векавечная Замкавая гара, на якой размяшчалася драўляная Васкрасенская царква. У гэты святочны дзень яна не працавала. Пад уплывам моцнага ветру пажар дацягнуўся сваімі чырвонымі рукамі і сюды, узняўся па схілах гары, і пакуль гэта заўважылі, ахапіў царкву, якая разам стала вялізнай палаючай свечкай.

У роспачы стаялі гараджане перад чорнай Замкавай гарою. Царква згарэла разам з сотнямі дамоў. Чорным стаў для Давыд-Гарадка гэты святочны веснавы дзень.

Па ініцыятыве праваслаўных прыхаджан было вырашана пабудаваць на гэтай жа старажытнай гары новую, толькі ўжо мураваную царкву. Пачалі капаць катлаван для падмурку і ніяк не маглі дакапацца да прыроднага грунту. Замкавая знаёмая гара аказалася, як гаворыцца, з начынкай – як той пірог.

Пры капанні ўвесь час сустракаліся рэшткі невядомых забудоў і прадметы гаспадаркі: калы, дошкі, бярвенні, насцілы, якія распілоўвалі і выкідвалі. Траплялася многа будаўнічага смецця, нейкіх незразумелых старажытных дробязяў – асколкі цэглы, якой ніколі не бачылі, керамічная плітка, рэшткі посуду.

Здзіўленню гараджан не было канца – на пустой Замкавай гары, аказваецца, жылі людзі. І жылі не адно стагоддзе – культурны пласт аказаўся звыш чатырох метраў!

Урэшце дайшлі да памосту з тоўстых дубовых струхлелых дошак, груба апрацаваных. Памост разабралі, і пад ім убачылі таямнічы склеп, у якім у рад стаялі трынаццаць масіўных трунаў.

Людзі былі ўсхваляваны – адкуль труны пад царквою, у Замкавай гары? Паклікалі святара.

І тут мясцовы свяшчэннік Бяляеў зрабіў недаравальную памылку. Ён палічыў, што гэта астанкі нейкіх паганцаў – людзей дахрысціянскага

часу... Па яго распараджэнню труны былі разбіты, астанкі перамешаны і закапаны ў другім месцы. Ці былі ў трунах якія рэчы – засталося невядома.

Атрымаўшы звесткі аб дзіўнай знаходцы, з Вільні, якая была у той час цэнтрам грамадска-культурнага жыцця беларусаў у Польшчы, у Давыд-Гарадок прыехаў вядомы вучоны і грамадскі дзеяч Антон Іванавіч Луцкевіч (1884–1946). Луцкевіч зразумеў, што пры капанні катлавану адбыліся нечаканыя археалагічныя раскопкі. Ад Замкавай гары ў Давыд-Гарадку пачуўся подых старажытнай Белай Русі.

Вось вытрымкі з пратакола Луцкевіча, частка якога была змешчана ў віленскім літаратурна-навуковым часопісе "Калоссе" № 2 за 1937 год у рэдакцыйным артыкуле "Княжыя магілы ў Давыд-Гарадку".

"Гэтак званая Замкавая гара ў Давыд-Гарадку прадстаўляе круглаватае ўзвышша, схілы якога да Гарыні шмат вышэйшыя. Верх гары абведзены земляным валам. У паўднёвай частцы валу – выемка: уезд... Вакол перарэзаў у розных месцах рэшткі драўлянага замка. У паўночнай частцы гарадзішча, на глыбіні 4–5 метраў пад драўляным памостам адкрылі склеп, у якім правільнымі радамі, у адступах каля паўметра, стаялі дубовыя труны – лікам 13. Пры нас былі адкрыты ў выкапе яшчэ дзве такія труны.

Труны прадстаўляюць вельмі цікавы і рэдка сустракаемы тып. Гэта скрыні з дубовых дошак, даўжынёю 2,30 метра. У канцах днішча і крышкі зроблены пазы, у якія ўстаноўлены канцавыя і бакавыя сценкі без нахілу да дна і крышкі. Нідзе няма цвікоў і наогул слядоў жалеза. Дошкі грубыя, высечаныя сякерай, знакаў ужывання пілы няма.

У трунах былі косці, але падчас пераносу ўсе яны перамяшаліся. Ніякіх рэчаў пры іх не было знойдзена, апрача туфляў з ласінай скуры (дзве пары іх прывезены ў Беларускі музей)... Пад чэрапамі ўсюды сляды густых валасоў".

Пасля вывучэння месца знаходак і іх саміх Луцкевіч прыйшоў да высновы, што землякопы дайшлі да рэшткаў замка і месца пахавання яго ўладароў – мясцовых князёў.

Гэтае месца ён так і назваў – Княжыя магілы.

Чарапкі посуду, знойдзеныя Луцкевічам у раскопе, былі дасланы на экспертызу буйному спецыялісту па славянскай кераміцы прафесару Пастэрнаку ў Львоў. Вучоны адказаў, што чарапкі з ніжніх пластоў адносяцца да XII стагоддзя, а з верхніх – да XVII – XVIII стагоддзяў.

Адкрыццё Княжых магіл у Давыд-Гарадку стала сенсацыяй і абышло ўсю польскую прэсу. Палякі меркавалі, што знойдзены сляды польскай старасвеччыны, яны лічылі ўсе замкі сваімі, і ніякай рускай старажытнасці не ўяўлялі. А што, на іх думку, магло быць на Замкавай гары, акрамя польскага замку? Але гэта была руская старажытнасць. І рускі замак.

Навіной зацікавілася афіцыйная навука. У Давыд-Гарадок была на-

кіравана археалагічная экспедыцыя, каб паставіць усе кропкі над “і”. Узначаліў экспедыцыю доктар філасофіі і гісторыі Раман Іванавіч Якімовіч (1889–1951).

Беларус па паходжанню, ён нарадзіўся ў горадзе Юр’еве-Польскім Уладзімірскай вобласці ў Расіі. Быў удзельнікам рэвалюцыі 1905–1907 гадоў. Вучыўся ва універсітэтах Львова і Кракава. Яго навуковая дзейнасць была звязана з археалогіяй не выпадкова, Якімовіч любіў гэту цяжкую, клапатлівую працу.

З’яўляючыся прафесарам Познаньскага універсітэта, арганізаваў там Археалагічны музей, кіраўніком якога і быў у гэты час. Адначасова ён рэдагаваў польскі навуковы часопіс “Вядомосці археологічнэ”. Чытаў лекцыі ў Віленскім універсітэце. Пасля Другой сусветнай вайны быў прафесарам Торуньскага універсітэта. Даследаваў гісторыю Беларусі ранняга сярэдневечча. У навуковых колах карыстаўся аўтарытэтам.

Пад кіраўніцтвам доктара Якімовіча раскопкі Замкавай гары ў Давыд-Гарадку вяліся два летніх сезоны 1937–1938 гадоў.

Быў раскапаны сярэдневяковы населены пункт гарадскога тыпу, самы старажытны пласт якога адносіцца да XII стагоддзя.

Галоўная вуліца была выкладзена колатымі дубовымі плашкамі, якія трымаліся на своеасаблівым драўляным каркасе са шматлікіх моцных лаг, пакладзеных пад насцілам уздоўж і ўпоперак.

Другія вуліцы былі вузкімі, шырынёю 1,5–2 метры, яны не мелі суцэльнага пакрыцця, а толькі з аднаго боку былі своеасаблівыя тратуары – кладкі з абчэсаных доўгіх бярвенняў. Уздоўж вулачак, амаль упрытык адна да другой, стаялі жылыя хаціны. Было раскапана дванаццаць такіх пабудоў. Кожная з іх уяўляла сабой аднапакаёвы квадрат 4 х 4 метры і будавалася з вельмі трывалай хвоі. Са знешняга боку хаціны абмазваліся жывёльным гноем, змешаным з карою. У хаціну вялі дзверы шырынёю каля паўметра, у хаце была падлога і глінабітная печ. Да хаціны туліліся плеценыя з лазы пабудовы, якія былі хлявамі для хатняй жывёлы.

Пры раскопках была знойдзена значная колькасць гаспадарчых прылад і прадметаў хатняга ужытку, галоўным чынам – драўляных і касцяных. Гэта клёпкі і днішчы драўлянага посуду, вычасаныя сякерай, двухстворкавыя грабяні, лыжкі, лучына для асвятлення.

З косці і рога знойдзены шылы, іголкі для пляцення рыбацкіх сетак, пліткі мастацкага вырабу для ўпрыгожвання. З металічных прадметаў – нажы, наканечнікі коп’яў, шыла з рога з бронзавай ручкай, бронзавы званочак.

На цэнтральнай вуліцы знойдзена шмат кавалачкаў шкляных бранзалетаў рознага колеру – паўднёва-ўсходняга паходжання. У кучах-сметніках – шмат касцей, сярод якіх разам з хатнімі – косці дзікіх жывёл.

І усё-такі самае цікавае – гэта Княжыя магілы, як назваў іх А. І. Луцкевіч. Асабістыя ўдачы чакалі тут і Р. Якімовіча – ён знайшоў новыя пахаванні.

Якімовіч адкрыў рэшткі двухкамернай невялікай царквы з кавалкамі драўлянага крыжа, побач са званіцай, пад якой былі папярэднія збудаванні. Пад царквою зноў быў адкрыты склеп, дзе знаходзілася дзесяць драўляных саркафагаў, як іх назваў вучоны; яны былі звыш двух метраў даўжыні, зроблены з чырвоных дубовых дошак, вельмі дасканала апрацаваныя сякерай.

Якімовіча і гараджан, якія дапамагалі яму на раскопках, вельмі ўразілі тыя саркафагі. Злучэнне асобных частак – выключна шчыльнае, з прымяненнем пазавых запускаў без адзінага цвіка. У саркафагах, а ўсяго іх было знойдзена 25, ляжалі астанкі дарослых мужчын і жанчын, дзяцей. Гэта былі людзі з прыгожым гібкім складам цела, з густымі валасамі светлага колеру.

У трунах ніякіх каштоўнасцей не знайшлося. Захаваліся толькі рэшткі адзення з палатна, фрагменты абутку з мяккай скуры, жаночы каптур, кавалкі вельмі тонкай далікатнай тканіны, а таксама карункі з тасьмой блакітнага шоўку.

Можна толькі здагадвацца, чаму ў княжых саркафагах не было нічога, акрамя касцей. Вядома, прайшлі стагоддзі і войны. Але хутчэй за ўсё, задоўга да археолагаў XX стагоддзя, у склепах Княжых магіл пабывалі другія, хцівыя “археолагі” – і багатыя магілы былі проста раскрадзены.

Доктар Якімовіч пагадзіўся з А. І. Луцкевічам, што ў саркафагах Княжых магіл знаходзіліся астанкі першых гаспадароў гэтага старажытнага горада, які атрымаў імя свайго заснавальніка.

У польскай газеце “Слова” ад 22 снежня 1936 года Якімовіч пісаў: “Аб тым, што на Замкавай гары ў Давід-Гарадку пахаваны князі, ня можа быць ніякага сумніву. Малы свінтарык у межах княжага гораду можа зьмяшчаць толькі магілы князёў і іхніх сем’яў, найбольш яшчэ – ваенных начальнікаў і княжых духаўнікоў”.

Такім чынам, Якімовіч выказаўся адназначна: у Замкавай гары ляжалі ўладары старажытнага горада – рускія князі, мясцовая руская арыстакратыя, а, можа, і духоўнікі.

Па выніках свайго даследавання доктар Якімовіч выдаў цікавую работу "Давыд-Гарадок", якая выйшла ў 1939 годзе на польскай мове.

Прааналізаваўшы гістарычныя крыніцы XI–XII стагоддзяў, ён зрабіў вывад, што заснавальнікам Давыд-Гарадка быў адзін з Рурыкавічаў – князь Давыд Ігаравіч (1060–1112), унук Яраслава Мудрага, а Княжыя магілы – гэта сямейныя склепы пахаваных нашчадкаў – уладароў заснаванага імі горада і замка.

Матэрыялы даследаванняў і экспанаты былі перададзены А. І. Луцкевічам Беларускаму музею ў Вільні, а Р. Якімовічам – Археалагічнаму музею ў Варшаве, такім чынам, гістарычнаму музею ў Мінску з гэтых першых знаходак нічога не дасталося.

Наступныя, і ад сябе дададзім, – і апошнія, раскопкі Замкавай гары

праводзіліся праз 30 гадоў – у 1967 годзе. Яны былі праведзены Тураўскім атрадам археалагічай экспедыцыі інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, пад кіраўніцтвам Пятра Фёдаравіча Лысенкі – зараз доктар гістарычных навук, прафесар.

На ўсходняй частцы Замкавай гары быў зроблены раскоп, у якім адкрыты культурны пласт аказаўся таўшчынёй звыш чатырох метраў. У сваю чаргу гэты пласт дзеліцца на пяць стратэграфічных пластоў, кожны з якіх належыць да адпаведнага перыяду, што ахоплівае адно-два стагоддзі.

Тут зноў былі адкрыты рэшткі пабудоў, якія ўзводзіліся ярусамі – адна на другую – па меры разбурэння папярэдніх. Жылыя і гаспадарчыя памяшканні адносяцца да аднаго тыпу, які быў у Тураве і Пінску. На старажытнай Русі жыллё традыцыйна будавалася вугламі па напрамках свету. Улічваючы гэта, вуліцы горада на Замкавай гары мелі паўночна-заходні напрамак.

Было адкрыта 15 пабудоў, якія адносіліся да шасці будаўнічых ярусаў. Самы ніжні ярус належыць да сярэдзіны XII стагоддзя. Галоўны будаўнічы матэрыял – бярвенні да 20 см таўшчыні з трывалай смалістай сасны, а ніжнія падрубы даволі часта – дубовыя.

Своеасаблівым падмуркам былі тоўстыя бярвенні пад вугламі. Падлога – з тоўстых колатых дошак, пакладзеных на лагі. Былі знойдзены адны дзверы вышынёю ў адзін метр. Дзвярныя праёмы – квадратныя.

Асаблівасць культурнага пласта заключаецца ў тым, што ў зямлі Замкавай гары добра захаваліся прадметы як арганічнага, так і неарганічнага паходжання.

З прадметаў узбраення знойдзены наканечнік кап'я, некалькі наканечнікаў стрэл, свінцовая булава.

Археолагаў парадавала мноства прадметаў працы – кавальскія абцугі, прабойнік, долата, бандарны разец, сякера, нажніцы, многа розных нажоў, сапожныя калодкі, шылы, верацёны, сярпы, касцяныя іголкі для вязання рыбалоўных сетак.

Ювелірных вырабаў мала: віты бронзавы бранзалет, вісочнае кольца, медны пярсцёнак, свінцовая падвеска. І хутчэй за ўсё, не таму, што жанчыны Давыд-Гарадка не любілі ўпрыгожвацца, а проста прыгажуні былі беражлівымі да падарункаў мужчын і рэдка гублялі свае любімыя рэчы. Нагадаем, што культурны слой, які даследуюць археолагі, – гэта тое, што застаецца на месцы былых будынін. Хаціны раслі, як грыбы, адна на другой. Так што здабыткам вучоных хутчэй за ўсё становяцца рэчы, якія згубіліся ці проста былі паламаны. Рэдка, але трапляюцца і клады.

З кладамі на раскопках Замкавай гары не пашчасціла. Сустракаліся загатоўкі касцяных вырабаў – мабыць для ўпрыгожвання адзення, фрагменты скуранога абутку.

Добра захаваліся ў сухой зямлі вырабы з дрэва. Больш за ўсё сустракаліся клёпкі і донцы бандарнага посуду, лыжкі, прадметы ткацтва, ры-

балоўныя рэчы. Многа фрагментаў глінянага посуду, вельмі блізкага да керамікі Турава і Пінска.

Жыхары старажытнага Давыд-Гарадка займаліся рознымі відамі рамяства: яны былі кавалямі і ганчарамі, цеслярамі і бондарамі, ткачамі і шаўцамі, рэзчыкамі па дрэву і косці.

Значнае месца ў гаспадарцы займала земляробства. З прылад працы выдзяляюцца сярпы, па тыпу старажытнарускага перыяду – лепшае з таго, што давялося сустракаць археолагам. На лязе іх маюцца насечаныя зубілам зубцы, што паляпшала іх рабочую якасць. Давыд-Гарадоцкія кавалі наогул парадавалі сваім майстэрствам: на сякерах навараваліся стальныя пласцінкі ляза – мабыць з лепшай сталі.

Цікава, што мала было знойдзена воінскіх прадметаў – горад уяўляецца больш гандлёвым, гаспадарчым і як крэпасць сябе мала праяўляў. Спачатку гэта быў невялічкі гарадок паміж вядомым Туравам і Пінскам.

Жывёльныя астанкі ў гаспадарчых ямах сведчаць, што жывёлагадоўля пераважала над паляваннем: лясоў і зараз вакол Давыд-Гарадка няма – відаць, што мала было іх і ў старажытнасці. Жылі больш рыбалоўствам. І знойдзеныя рыбныя косці сведчаць, што рыбы хапала, і была яна вялізная – у рэках і на азёрах, у ямах і старыцах. Плялі з лазы спецыяльныя кашы, куды рыба набівалася, рабілі сеткі ды прыносілі ў горад багаты ўлоў.

Адным з шаноўных рамёстваў была будоўля лодак. Без лодкі на Палессі, больш паўнаводным, чым сёння, натуральным Герадотавым моры, было не абыйсціся. Але фрагментаў старажытных лодак у Замкавай гары не знойдзена. Мабыць, рачны порт быў значна ніжэй, на беразе, – і не захаваўся.

Вынікі вывучэння старажытнага горада XII – XIII стагоддзяў сведчаць, што яго матэрыяльная культура была на ўзроўні агульнарускіх паказчыкаў.

Вынікам вывучэння гісторыі Тураўскай зямлі ранняга сярэдневечча П. Ф. Лысенка прысвяціў работы “Города Туровской земли” (1974) і “Туровская земля” (1990).

Археалагічнымі раскопкамі патрывожана зусім нязначная плошча Замкавай гары ў Давыд-Гарадку. Наперадзе даследчыкаў чакае мноства цікавых адкрыццяў.

# КНЯЗЬ ДАВЫД БУЙНЫ І ЯГО ГОРАД

*Рассцеле жнівень па дарозе стынь.*
*Загасне ноч пад пылам далягладу.*
*Пад ногі пенай кінецца Гарынь,*
*Дзе пад вярбой кудлатаю прысяду.*
*Цень ад яе па хвалі прабяжыць,*
*Нібы таропкі коннік з доўгай дзідай.*
*І ўявіцца за рэчкай на мяжы*
*Ледзь бачны прывід грознага Давыда.*

**Раіса Баравікова**

Найвышэйшага эканамічнага, палітычнага і культурнага росквіту старажытная Русь дасягнула ў перыяд княжання Яраслава Мудрага (978–1054). Сын Уладзіміра Святога і Полацкай князёўны Рагнеды Рагвалодаўны, ён стаў вялікім князем у 1019 годзе, пасля шматгадовай барацьбы за кіеўскі стол.

Кіеў, "маці гарадоў рускіх", з'яўляўся найвялікшым горадам у Еўропе, мацнейшым горадам-крэпасцю, славутым горадам-портам, цэнтрам унікальнага рамяства і багатага гандлю, горадам каменных цэркваў і магутных бастыёнаў. Пад даглядам моцнай улады ствараюцца першыя кнігі, пішуцца літаратурныя творы, поўныя мудрасці, як соты духавітага мёда. Пачынаецца летапісанне.

У пачатку XII стагоддзя летапісец Нестар стварае славутую "Повесть временных лет", якая сёння з'яўляецца асноўнай крыніцай ведаў па гісторыі старажытнай Русі. Вось і для гэтай главы асноўныя факты і падзеі расказваюцца на аснове аповесці Нестара.

У міждзяржаўных адносінах аўтарытэт Яраслава, а значыць, і Русі, быў даволі высокім. Жонкай самога Яраслава была дачка шведскага караля Олафа Інгігерда – Ірына. Яго старэйшая дачка Ганна была жонкай караля Францыі Генрыха I, другая дачка Лізавета – жонкай нарвежскага караля Гаральда, трэцяя – Анастасія – жонкай венгерскага караля Каламана. Роднасныя сувязі з іншымі краінамі былі і ў нашчадкаў вялікага князя.

Аднак яшчэ пры жыцці Яраслава далі парасткі прычыны, якія прывялі да распаду старажытнай Рускай дзяржавы. Адна з іх – падзел зямель Русі Яраславам паміж сваімі сынамі. Іх было шэсць. Звяртаючыся да іх, бацька сказаў:

"Я поручаю заместить меня на столе моем, в Киеве, старшему сыну моему и брату вашему Изяславу; слушайтесь его, как слушались меня, пусть он заменит вам меня".

Ізяслаў разам з вялікім княжаннем атрымаў і Тураў, Уладзімір ужо княжыў у Ноўгарадзе, Святаслаў атрымаў Чарнігаў, Усевалад – Пераяслаў, Вячаслаў – Смаленск, Ігар – Уладзімір-Валынскі.

Полацкае княства ў той час пры князі Усяславе Чарадзеі дабілася самастойнасці ад Кіева.

Пасля смерці ў 1054 годзе Яраслава Мудрага кіеўскі стол паслядоўна займалі яго старэйшыя сыны Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад. У цэнтрах зямель Кіеўскай Русі ўстанавілася ўлада дынастый Яраславічаў (Рурыкавічаў), якія лічылі сябе спадчыннікамі выдзеленых удзелаў. З часам вялікія княствы пачыналі драбіцца на меншыя ўдзелы, якія выдзяляліся бацькамі сваім нашчадкам. Дзяцей і пляменнікаў станавілася ўсё больш – і кожны хацеў княжыць самастойна і мець свой асабісты удзел.

Усё развівалася па народнай мудрасці: мой дом – мая крэпасць. Яно і нядрэнна, але гэта вяло да расколу адзінага цэлага. Вялікія княствы знікалі, на месцы іх узнікала мноства дробных і непаслухмяных. Ваенная моц і эканамічная магутнасць Русі слабелі. З'явіліся першыя згоі – князі Рурыкавічы, якія па розных сямейных прычынах засталіся без удзелаў. Лёс гэтых людзей быў цяжкі, часам нават трагічны.

Палітычнае жыццё на Русі з другой паловы XI стагоддзя заключалася галоўным чынам у інтрыгах князёў, якія ўсё шырэй вырашаліся ваеннымі сродкамі: князі спачатку варагавалі, а потым змагаліся адзін з другім.

Улада вялікага князя паступова слабела і ўсё больш станавілася намінальнай. Родавае права на спадчыну вялікакняжацкага стала паступова замянілася выбраннем вялікага князя з'ездам удзельных князёў, а даволі часта вырашалася зброяй, і стол займаў мацнейшы. Паступова манархічнасць вялікага князя страчвае свой змест, яго тытул становіцца пачэсным, а сам ён сярод князёў лічыўся першым сярод роўных. Аднак вялікі Кіеў па-ранейшаму заставаўся культурна-рэлігійным цэнтрам усходняга славянства.

Пяты сын Яраслава Мудрага – Ігар атрымаў ад бацькі княжанне ва Уладзіміры на Валыні, але ў 1057 годзе пасля смерці свайго брата Вячаслава па рашэнню старэйшых братоў-князёў ён быў пераведзены ў Смаленск, дзе праз тры гады памёр і сам.

Жонкамі ободвух братоў Вячаслава і Ігара былі саксонскія графіні Ода і Кунігунда. Пасля смерці мужоў яны вярнуліся на сваю радзіму ў Германію.

Адзіным сынам Ігара быў Давыд. Ён нарадзіўся, відавочна, ва Уладзіміры каля 1055 года. Яго маці была саксонка Кунігунда, якая вярнулася ў Саксонію ні з чым – без мужа і дзіцяці. У тыя часы такое вяртанне на радзіму тытулаваных удоў, выдадзеных замуж за іншаземцаў, было не рэдкасцю.

Пасля смерці бацькі княжыч Давыд застаўся дзіцем гадоў пяці-шасці. Дзе і як выхоўваўся княжыч, як прайшло яго сірочае жыццё, нам невядома. Мабыць, ён зведаў адзіноту і горыч сіраты-пляменніка пры княжацкім двары аднаго з сваіх дзядзькоў. А можа, нават, часова жыў пры адным з багатых кіеўскіх манастыроў.

Вядома толькі, што ён стаў згоем, таму што ніякага княжацкага ўдзелу не атрымаў. Ужо з дзяцінства ў яго фарміраваўся пратэст роўнага сярод роўных, абыдзенага імі і пакінутага без вотчыны. З дзяцінства ён зразумеў, што спакойнае жыццё – гэта не яго лёс, і ён можа спадзявацца толькі на сябе.

У Давыда выпрацаваўся характар жорсткага, мужнага і беспрынцыпнага князя-воіна, які дзейнічаў па правілу – мэта апраўдвае сродкі. А мэтай яго жыцця было: вярнуць сабе вотчыну бацькі, якую той атрымаў ад дзеда Яраслава Мудрага Уладзіміра-Валынскае княства.

У 1078 годзе ў міжусобнай барацьбе загінуў вялікі князь Ізяслаў Яраславіч і кіеўскі стол заняў яго брат Усевалад. Згодна з летапісам ён перадаў Уладзімір-Валынскі і Тураў свайму пляменніку Яраполку Ізяславічу. Аднак гісторык В. Н. Тацішчаў пісаў, што ў гэтым годзе вялікі князь "... Давиду, сыну Игореву, дал Туров".

Пад 1081 годам у "Повести временных лет" мы чытаем першае ўпамінанне аб Давыдзе:

"В лето 6589. Бежал Давыд Игоревич с Володарем Ростиславичем, 18 мая. И пришли они к Тмутаракани, и захватили Ратибора, и сели в Тмутаракани".

Вышэйназваны гісторык Тацішчаў пісаў больш канкрэтна: уцёкі Давыда адбыліся з Турава.

Няма ніякага сумнення ў тым, што прычынай уцёку былі вынікі міжусобнай барацьбы, якую Давыд вёў з Турава за авалоданне Валынню. Гэта было выступленне не толькі супраць Валынскага князя Яраполка, але і самога вялікага князя. Яно закончылася паражэннем Давыда, і ён вымушаны быў пакінуць Тураў.

Яго паплечнікам быў пляменнік Валадар Расціславіч, такі ж самы князь-згой. Згубіўшы Тураў, з гэтага часу Давыд становіцца бяздомным вандроўнікам, князем-бадзягай. У яго не было ні зямлі, ні дружыны, ні грошай – нічога, акрамя княжацкага тытулу. Такіх бадзячых рыцараў удачы многа вандравала ў той час па дарогах Еўропы, у тым ліку былі яны і на Русі.

Але менш за ўсё Давыд быў падобны на іспанскага ідальга Дон-Кіхота, хаця знешне ў вандроўным жыцці між імі ёсць некаторае падабенства. Сам сабе гаспадар, Давыд быў падобны на князя-разбойніка. Ні адзін з рускіх князёў таго часу не рабіў такіх учынкаў і столькі авантурных дзеянняў, як Давыд.

На самым краі паўднёва-ўсходняй Русі, на Таманскім паўвостраве, знаходзілася рускае княства, цэнтрам якога з'яўляўся горад Тмутаракань у вусці ракі Кубані (зараз г. Тамань Краснадарскага краю).

Гэта быў паўднёвы фарпост Русі, яе далёкі бастыён. Княства з усіх бакоў было акружана стэпавікамі-полаўцамі, хазарамі, аланамі, з якімі русічам пастаянна даводзілася весці смяротную барацьбу за выжыванне.

Да V стагоддзя Таманскі паўвостраў уваходзіў у склад Баспорскага царства грэкаў, якое было знішчана гунамі. Але старажытныя грэчаскія гарады ў Крыме захаваліся. Яны былі пад пратэктарам Візантыйскай імперыі, якая не выпускала з поля зроку і былыя грэчаскія калоніі, у тым ліку і Тмутараканскае княства.

У разглядаемы намі час тут княжыў стрыечны брат Давыда – Алег Святаславіч. Ён актыўна змагаўся з хазарамі – саюзнікамі Візантыі, аднак пацярпеў паражэнне. Хазары захапілі князя Алега і адаслалі палоннага ў Візантыю ў ссылку.

Імперыя даволі часта прымала саноўных аднаверцаў, і там пабывала нямала рускіх князёў. Гэта быў адзін з метадаў свайго ўплыву на ўнутраныя справы Русі. Трэба яшчэ мець на ўвазе, што канстанцінопальскі патрыярх з'яўляўся кіраўніком і рускай праваслаўнай царквы – свайго патрыярха тут многія стагоддзі не было, толькі мітрапаліт.

У тыя часы кожны князь імкнуўся мець асабістую дружыну, якую утрымліваў за свой кошт. Гэта былі воіны-прафесіяналы. Пазней яны атрымлівалі за слаўную і верную службу зямельныя надзелы, станавіліся васаламі свайго князя.

На чале такой дружыны разам з Валадаром Давыд захапіў Тмутаракань. Аб гэтым сведчыць другі запіс аб ім у летапісе, які канстатуе гэтае здарэнне. Згаданы ўжо Рацібор быў у Тмутаракані пасаднікам.

У Тмутаракані Давыд прабыў два гады. Наступныя звесткі аб ім даюцца ў летапісе пад 1083 годам:

"Пришел Олег из Греческой земли к Тмуторокани и захватил Давыда и Володаря Ростиславича, и сел в Тмуторокани. И перебил хазар, причастных к убийству брата его и умышлявших против него самого, а Давыда и Володаря отпустил".

Валадар вярнуўся на Русь і пайшоў служыць Яраполку Ізяславічу ва Уладзімір-Валынскі.

Згой Давыд паступіў інакш. У вусці Дняпра на гандлёвым шляху з Візантыі ў Кіеў знаходзіўся тады горад Алеш'е (сучасны Цюрупінск Херсонскай вобласці). Алеш'е было важным пунктам па перагрузцы тавараў з марскіх суднаў на рачныя. Тут знаходзілася тагачасная мытня, сустракаліся купцы розных краін, гучала гаворка розных народаў, звінела золата.

Са сваёй дружынай, такой жа авантурнай, як і ён сам, Давыд захапіў Алеш'е, а разам з багатым горадам – і маёмасць грэчаскіх купцоў. Але гандлёвыя людзі нічога не ведалі аб тым, што ўлада ў горадзе перамянілася. Караблі прыходзілі адзін за другім. Падарожнікаў сустракаў, гаворачы на сучаснай мове, сапраўдны рэкет. Прыбываючыя купцы падвяргаліся ледзь не рабаванню.

Чаму Давыд так паводзіў сябе ў чужым горадзе? Такімі паводзінамі князь, які лічыў сябе пакрыўджаным, хацеў прыцягнуць да сябе ўвагу вялікага князя – і дабіўся гэтага.

У Кіеве занепакоіліся парушэннямі гандлёвых зносін. Усевалад Яраславіч выклікаў Давыда ў Кіеў і даў яму, каб супакоіць, горад Дарагабуж – усходнюю ўскраіну Валыні (зараз у Ровенскай вобласці).Такі падарунак дзёрзкаму Давыду не прынёс спакою.

Гэтым быў незадаволены князь Валынскі Яраполк Ізяславіч – і выступіў супраць Кіева.

Усевалад накіраваў супраць Яраполка свайго сына Уладзіміра Манамаха, які разам з Давыдам нанёс каля Луцка яму паражэнне.

Давыд быў пакінуты ў стольным Уладзіміры, аднак доўга там не ўтрымаўся. Яраполк знайшоў дапамогу ў Польшчы, і, вярнуўшыся адтуль з войскам, перахапіў ініцыятыву – са згоды вялікага князя ён зноў займае Уладзімір.

Акрамя Давыда Ігаравіча, прэтэндэнтамі на Валынскія землі былі два браты Расціславічы – Валадар і Васілька, стрыечныя ўнукі вялікага князя. Як сцвярджае летапіс, яны арганізавалі ў 1088 годзе забойства Яраполка.

Аднак некаторыя даследчыкі лічаць, што гэта не абышлося без Давыда, які застаўся ва Уладзіміры-Валынскім. З таго часу пачалася яго шматгадовая бескампрамісная барацьба за ўтрыманне бацькавай вотчыны, да якой нарэшце дацягнуліся яго рукі.

Гэтая міжусобіца, у якую ўцягнуліся ўсе князі Паўднёвай Русі, даволі падрабязна апісана ў "Повести временных лет".

Браты Расціславічы валодалі Чэрвеньскімі гарадамі: Валадар – Перамышлем, Васілька – Церабаўлем. Былы паплечнік Давыда па тмутараканскай авантуры Валадар умацоўвае свае пазіцыі ў Прычарнамор'і. Ён стаў цесцем візантыйскага імператара Ісаака Камніна.

У барацьбе паміж сабою князі даволі часта выкарыстоўвалі іншаземцаў, у тым ліку і даўніх ворагаў Русі – полаўцаў. Такая беспрынцыповасць дорага каштавала, як і пастаянная варожасць між гарадамі і землямі, адной у прынцыпе вялікай дзяржавы – Кіеўскай Русі. Узброеныя канфлікты, калі часам брат ішоў на брата, наносілі вялікую шкоду насельніцтву рускіх зямель, іх гаспадарцы і гандлю. Гэта аслабляла Русь і радавала яе ворагаў за межамі, што і прывяло пазней да катастрофы і крывавага нашэсця мангола-татараў.

Пасля смерці Усевалада ў 1093 годзе вялікім князем стаў сын Ізяслава – Святаполк, які адначасова захаваў уладу і над Туравам.

Новаму вялікаму князю давялося весці барацьбу і з Расціславічамі, і з Чарнігаўскім князем Алегам Святаславічам. Давыд падтрымліваў вялікага князя.

Пасля некалькіх жорсткіх бітваў, якія заканчваліся з пераменным поспехам, Святаполк заклікаў удзельнікаў міжусобіц пайсці на перамовы.

З'езд князёў праходзіў у 1097 годзе ў горадзе Любечы на Дняпры (зараз у Чарнігаўскай вобласці). У міратворчым з'ездзе ўдзельнічалі

шэсць князёў – усе блізкія родзічы. Летапісец перадае хвалюючымі словамі змест міратворчых перамоў і прынятае рашэнне:

"Зачем губим Русскую землю, сами на себя ссоры навлекая? А половцы землю нашу расхищают и радуются, что нас раздирают междоусобныя войны. Да с этих пор объединимся чистосердечно и будем охранять Русскую землю, и пусть каждый владеет отчиной своей... И на том целовали крест".

Патрыятычны заклік да сумесных дзеянняў супраць агульнага ворага меў важнае аб'яднальнае значэнне. З другога боку, зацвярджэнне вотчыны – удзелаў – за князямі канчаткова ўзаконьвала раздробленасць на Русі. Разам з тым, з'езд у Любечы быў падзеяй дзяржаўнага значэння, спробай супрацьстаяць трагедыі, якая доўжылася на рускіх землях. Тое ж было і ў Еўропе, але ёй пашанцавала – нашэсце з Азіі не пакарала за тую феадальную раздробленасць еўрапейскія краіны. А Русь ужо адчувала подых бяды.

Але міру паміж родзічамі не атрымалася.

Пасля з'езда вялікі князь Святаполк і Давыд прыбылі ў Кіеў. І тут нядобразычліўцы рыхтуюць змову супраць яго і Святаполка.

Давыд, у характары якога была падазронасць і недавер да ўсіх, спяшаецца расказаць аб гэтым Святаполку. Уражаны такой хуткай пераменай у настроі міралюбівых князёў, Святаполк выклікаў Васільку да сябе, але той прыехаць адмовіўся. Летапісец расказвае далей трагічную гісторыю:

"И сказал Давыд Святополку: "Видишь ли, не думает о тебе, ходя под твоей рукой. Если уйдет в свою волость, сам увидишь, что он займет твои города Туров, Пинск и другие города твои. Тогда вспомнишь меня. Но, призвав его теперь, захвати и отдай мне". (Звернем увагу, што тут упершыню у "Повести временных лет" згадваецца Пінск – 1097 год. Як бачым, горад ужо існаваў, прычым нароўні з вядомым Туравам).

У гэтай гісторыі і наступных падзеях цалкам праявіўся буйны і нават шалёны ў сваёй падазронасці характар Давыда. Яго націск на вялікага князя працягваецца, Святаполк падпадае пад жорсткі ўплыў Давыда, які проста іграе на патаемнай палахлівасці князя.

Ён другі раз выклікае Васільку, які нічога не ведае і не дапускае ніякай здрады. Святаполк абяцае яму святочны пір, але калі Василька прыбыў у Кіеў і прастадушна наведаў вялікага князя, ён быў схоплены і выдадзены Давыду.

Нейкая вар'яцкая варожасць захоплівае Давыда: ён не слухаецца ні розуму, ні сумлення. Недалёка ад Кіева бедны Василька, якога абгаварылі, быў асляплены. Акрываўленага, яго прывезлі ва Уладзімір-Валынскі.

Гэта калецтва па візантыйскаму ўзору было здзейснена на Русі ўпершыню, што відаць са слоў Уладзіміра Манамаха:

"Такого зла не было в Русской земле ни при дедах наших, ни при отцах наших".

Гэтае вераломства выклікала хвалю новай міжусобнай барацьбы. Уладзімір Манамах і браты Святаславічы Давыд і Алег спешна прыехалі ў Кіеў з патрабаваннем тлумачэння гэтага зладзейства.

Святаполк усю віну пераклаў на мсціўнага Давыда, які абгаварыў Васільку. Князі патрабавалі пазбавіць Давыда княжання на Валыні, а Святаполку выступіць вайной супраць яго.

У гэты час вызвалены сляпы Васілька з братам Валадаром асадзілі Уладзімір-Валынскі і заставілі Давыда выдаць ім выканаўцаў знявечання, якіх і павесілі перад сценамі замка.

Выконваючы патрабаванні князёў, выступіў супраць Давыда і Святаполк. Абодва бакі шукалі дапамогі ў ляхаў. Аднак, атрымаўшы ад Давыда 50 грыўняў золата (10 кілаграмаў), а ад Святаполка яшчэ больш, польскі кароль Уладзіслаў-Герман не аказаў дапамогі нікому, пры дапамозе хлусні добра нажыўшыся на рускіх князях. Гэта была тактыка паводзін ляхаў у адносінах да сваіх усходніх суседзяў. Так што тут няма нічога дзіўнага. Можна прыгадаць і другое, што сведчыла вельмі красамоўна аб характары адносін між рускімі і ляхамі.

З летапісаў вядома, што рускія князі вельмі часта бралі жонак за межамі сваёй зямлі па ўсёй Еўропе. Аднак амаль што ніколі тытулаваныя палячкі не станавіліся жонкамі рускіх князёў.

Але Давыд і Святаполк надта спяшаліся да перамогі, таму заплюшчылі вочы на тое, што добра ведалі. Аднак падман караля-ляха высвятліў сітуацыю. Гэта была Божая кара за варожасць між рускімі, між родзічамі. Кара за тое, што ў асляпленні яны звярнуліся за дапамогай да іншаземцаў, да закаранелых ворагаў Русі.

На жаль, рускіх князёў гэта не супыніла. З Бярэсця, дзе адбываліся перамовы, Святаполк прыйшоў у Пінск, дзе папоўніў сваю дружыну і зноў пайшоў на Давыда.

Цяпер Святаполк аблажыў Давыда ў горадзе Уладзіміры-Валынскім. Аблога Уладзіміра цягнулася сем тыдняў. Давыд не разлічваў на такую ўпартасць вялікага князя, але той, падмануты ляхамі і раз'юшаны няўдачамі, дзейнічаў цвёрда.

Горад не быў падрыхтаваны да доўгай аблогі, ды і не было на Русі традыцыі штурмаваць свае ж гарады. Жыць у горадзе стала невыносна, і Давыд здаўся. Гэта было і трэба вялікаму князю – змірыць ганарыстага Давыда: ніякай помсты не было.

Князь Давыд быў выпушчаны з дружынай з Уладзіміра на пачэсных умовах – і накіраваўся ў Польшчу, бо ён так і не супакоіўся.

Святаполк заняў Уладзімір і пасадзіў князем свайго сына Мсціслава. Вялікі князь прадоўжыў наводзіць парадак. Не разлічыўшы сваіх магчымасцяў, Святаполк выступіў супраць сваіх саюзнікаў Расціславічаў – і пацярпеў жорсткае паражэнне. Ён вярнуўся ў Кіеў, але пакінуў на Валыні сваіх сыноў Мсціслава і Яраслава.

Яраслаў трывожыўся, бо чакаў звестак аб Давыдзе: нездарма ж ён

зноў у Польшчы? Яраслаў накіраваўся ў Венгрыю і атрымаў ваенную падтрымку ад караля Каламана, з дзедам якога у Яраслава Мудрага, як мы памятаем, былі роднасныя адносіны.

У гэты час з Польшчы вярнуўся Давыд – ляхі зноў падманулі і не дапамаглі. Для прадаўжэння барацьбы з Кіевам, ён становіцца саюзнікам сваіх ворагаў Расціславічаў, едзе да полаўцаў і прыводзіць іх войска на чале з ханам Баняком.

Ваенная інтрыга закручваецца ўсё больш. На адным полі сустракаюцца атрады стэпавікоў-полаўцаў і войска венграў, ці уграў, як тады іх звалі. Іншаземцы змагаюцца за інтарэсы рускіх князёў: так часам бывае ў гісторыі.

У жорсткай бітве Давыд з полаўцамі разграмілі ўгорскае войска. Давыд зноў ідзе на Уладзімір. Цяпер ролі змяніліся: Давыд сам бярэ ў аблогу горад, у якім не так даўно прасіў міра.

У час аблогі горада Давыдам загінуў сын вялікага князя Мсціслаў, пакінуты тут бацькам. Але Давыд апёкся – яго аблога не прывяла да поспеху.

Не здолеўшы ўзяць свой горад самастойна, Давыд зноў прызваў Баняка з яго качэўнікамі і з дапамогаю полаўцаў каля Луцка разбіў сваіх праціўнікаў – і заняў Уладзімір.

Вось такія, падчас заблытаныя і трагічныя, падзеі адбываліся на працягу трох гадоў на Валыні. У цэнтры іх знаходзіўся Давыд Ігаравіч, які ўвесь час дамагаўся сваёй вотчыны, каб не лічыцца князем-згоем. Ён рабіў гэта ўпарта і жорстка, нягледзячы на абставіны і перашкоды. Можна па-рознаму ставіцца да яго асобы і яго дзейнасці. Ён быў і мужны, і карысталюбівы, і вераломны, і аддана адной высакароднай мэце – вярнуць сваю зямлю.

Давыд змагаўся за бацькоўскае імя, за яго спадчыну. Гэта выклікае павагу. Але робіць ён гэта, на жаль, не мірам, а вайною, ды яшчэ супраць сваіх родзічаў.

У 1100 годзе адбыўся другі з’езд паўднёва-рускіх князёў, на якім канчаткова быў вырашаны лёс гэтага дзёрзкага князя.

Цікава тое, што з’езд сабраўся па прапанове самога Давыда. Ён звярнуўся да ўдзельнікаў міжусоб’я з заклікам спыніць барацьбу і вырашыць пытанне аб замацаванні вотчын больш дакладна.

З’езд праходзіў у Віцічаве на Дняпры 10 жніўня. Яго ўдзельнікамі былі пяць князёў, і ўсе яны з’яўляліся адзін другому стрыечнымі, гэта значыць – дваюраднымі братамі: вялікі князь Святаполк Ізяславіч, князь Пераяслаўскі Уладзімір Усеваладавіч Манамах, Ноўгарад-Северскі князь Давыд, Чарнігаўскі Алег Святаславіч і Уладзіміра-Валынскі князь Давыд Ігаравіч.

Сустрэча ледзь не сарвалася з-за ганарыстасці Давыда. Князі не сталі з ім размаўляць, селі на коней і сталі раіцца са сваімі дружынамі.

Момант быў крытычны, бо ніхто не перашкодзіў бы з’ядналым

князям з войскамі паставіць кропку ў гэтай балючай справе. Давыд устрывожыўся. Але князі абыйшліся з ім высакародна, яны нічога не зрабілі яму, акрамя таго, што абвясцілі рашэнне. Каб падкрэсліць нежаданне выслухоўваць Давыда, яго перадалі праз сваіх дарадцаў.

Летапісец так яго пераказвае:

"Не хотим тебе дать стола Владимирского, потому что ты вонзил нож в нас, чего не было в Русской земле. И вот мы тебя не трогаем и никакого иного зла тебе не сделаем, но вот что даем тебе – садись в Бужском остроге, а Дубен и Чарторыйск дает тебе Святополк, а Владимир дает тебе 200 гривен, а Давид с Олегом 200 гривен".

Сам ініцыятар гэтага з'езда Давыд, вядома, не чакаў, што яго пазбавяць вотчыны. Ён меў значныя сілы, яго саюзнікамі былі зараз Расціславічы і даволі магутны палавецкі хан Баняк. Але аспрэчваць рашэнне стрыечных братоў, такіх жа, як і ён – унукаў Яраслава Мудрага, Давыд не стаў.

Можна ўявіць сабе, як хвалявалася яго дружына, гэтыя смелыя воіны, якія траплялі з Давыдам не ў адзін пераплёт, скакалі з ім ад Чорнага мора да Кракава, сядзелі ў галоднай аблозе, і самі штурмавалі горад, біліся ў смяротных бітвах і ўжо зведалі смак цяжкіх перамог... Адносіны князя і дружыны ў той час былі братэрскія, і ад дружыны залежала вельмі многа.

Несумненна, дружыннікі патрабавалі ад Давыда працягваць барацьбу і вырваць перамогу. Яны жадалі рызыкнуць яшчэ раз. Але, дзіўна, на гэты раз не хацеў ніякіх крывавых прыгод сам Давыд, той самы Давыд, які падтрымліваў баявы дух дружыны, ставіў усё на карту і да апошняга моманту верыў у свой шанц.

Відаць, бясконцыя войны і інтрыгі, гульня са смерцю, неўтаймаванае жаданне валодаць вялікім княствам, прага да багацця стамілі сэрца Давыда, змянілі характар буйнага князя.

Давыд стаў удзельным князем выдзеленай яму Пагарыні – зямель басейна ракі Гарынь. Акрамя вышэйназваных гарадкоў гэтай зямлі, Святаполк дабавіў яму Дарагабуж, якім некалі валодаў Давыд. Гэты горад і стаў яго апошнім прыстанішчам. А ва Уладзімір-Валынскі, вакол якога ішлі спрэчкі і грымелі войны, Святаполк паставіў свайго сына Яраслава.

Недзе ў гэты час Давыд і заснаваў Гарадок, аб якім мы раскажам ніжэй.

Праз тры гады адбыўся трэці з'езд рускіх князёў, на гэты раз па ініцыятыве Уладзіміра Манамаха. Ён праходзіў ля Далобскага возера (на левым беразе Дняпра, насупраць Кіева).

Згодна з рашэннем з'езда, аб'яднаныя сілы князёў вырашана было накіраваць на бітву з полаўцамі, каб апярэдзіць іх ваяўнічыя намеры. Удача была на баку рускіх. Княжацкія войскі нанеслі моцнае паражэнне

полаўцам, якія рыхтавалі паход на Русь. Сярод удзельнікаў з'езда і пераможнага пахода Давыда не было.

Аднак набегі стэпавікоў працягваліся, і ў 1111 годзе Уладзімір Манамах здзейсніў супраць полаўцаў паспяховы паход на Дон. У гэтым паходзе, як сведчыць гісторык М. М. Карамзін, якому былі вядомы недаступныя нам летапісы, прымаў удзел і Давыд Ігаравіч.

Памёр князь Давыд у 1112 годзе, пасля пераможнага пахода з рускімі князямі, супраць якіх ён раней ваяваў, у Дарагабужы ва ўзросце каля 60 гадоў. Аб яго смерці ў "Повести временных лет" гаворыцца:

"В год 6620. Индикта 5.

В том же году скончался Давыд Игоревич месяца мая 25 и погребено тело его 29 в церкви святой Богородицы Влахерны на Клове".

Кловай называлася невялікая рэчка на тэрыторыі Кіева-Пячэрскага манастыра. Князь памёр у Дарагабужы, а пахаваны ў цэнтры праваслаўнай святыні Русі. Магчыма, апошнія гады жыцця ён праяўляў шчырую набожнасць і рабіў значныя ахвяраванні, чым заслужыў у царквы прэстыжнае месца вечнага супакою.

Няшмат захавалася да нашых дзён прадметаў таго часу, асабістых рэчаў князёў, наогул, – адзінкі. Але князю Гарадзецкаму пашчасціла. У Ровенскім музеі знаходзіцца знойдзеная ў Дарагабужы свінцовая пячатка з рэльефнымі літарамі "ДАВДЪ", якая, несумненна, належала Давыду Ігаравічу, дваюраднаму брату і свату славутага рускага князя Уладзіміра Манамаха, унуку Яраслава Мудрага, праўнуку Уладзіміра Святога і Рагнеды Полацкай, Рурыкавічу.

❖

А цяпер уявім сабе, як князь Давыд выбіраў месца для свайго пагранічнага горада.

Дзесяць лоддзяў плылі па рацэ. Мерна падымаліся і апускаліся вёслы, паскрыпвалі ўключыны. Сонца толькі што ўзышло; бялявы туман плыў над вадою, і людзі здаваліся незвычайнымі жывымі істотамі, якія як быццам да чагосьці падкрадваліся. У кожнай з іх знаходзілася не менш дзесяці віцязяў. Аб тым, што гэта яны, сведчылі шаломы на галовах, кальчугі, рукаяці мячоў ды шчыты, на якіх яны напаўляжалі. Да бартоў лоддзяў былі прыстаўлены лукі з калчанамі; весляры – без кальчуг: так зручней веславаць. Усе маўчалі.

Шырокая Прыпяць здавалася спакойнай, цяжка адразу адзначыць, куды нясе яна свае цёмныя воды. Берагі – густа пакрыты лесам і хмызняком, безліч птаства насілася над ёю, не перастаючы, плёскала вялікая рыба.

На пярэдняй ладдзі выдзялялася фігура віцязя з непакрытай галавой у больш багатым адзенні. Сівыя валасы і барада, велічная постаць, увесь яго выгляд паказваў на даволі сталы ўзрост. Побач сядзеў малады віцязь.

Гэта былі князь-згой Давыд Ігаравіч і яго сын Усевалад. Са сваёй дружынай князь вяртаўся з горада Турава, куды адправіўся для сустрэчы з вялікім князем Кіеўскім і Тураўскім Святаполкам Ізяславічам, сваім стрыечным братам. Абодва яны былі ўнукамі вялікага і магутнага князя Яраслава Мудрага, і дваюраднасць іх многа значыла ў тыя часы: яны былі адзінымі галінамі на залатым дрэве легендарнага Рурыка.

Спачатку князь Давыд накіраваўся ў Пінеск, дзе павінен быў сустрэць Святаполка, аднак там яго не застаў. Ваявода Тарчыла сказаў, што вялікі князь з коннай дружынай накіраваўся ў град-Тураў, адкуль вернецца ў стольны Кіеў.

Давялося спяшацца. Наскора павячэраўшы, князь Давыд адправіўся з дружынай назад. Пры запаленых смаляках, каб не сутыкнуцца, яны плылі ўсю ноч – і раніцай былі ў Тураве.

Святаполк сустрэў князя-згоя насцярожана, спачатку не дазволіў пускаць яго дружыннікаў у замак, і віцязі Давыда ўвесь дзень правялі ў лоддзях. Аднак вечарам ім дазволілі ўвайсці ў горад. Пад уважлівымі позіркамі варты яны падняліся наверх, прайшлі мост і высокія вароты – і разышліся па цесных вуліцах.

Тры дні вялі перамовы браты-Рурыкавічы. Князь-згой прасіў у вялікага князя дазволу заснаваць свой град у гэтых мясцінах. Святаполк вагаўся. Ён асцерагаўся непакорнага Давыда. Баючыся, што той можа быць пагрозай, калі заснуе свой град-замак паміж Пінескам і Туравам – гарадамі вялікага князя, а гэта значыць, у любы момант зможа перарэзаць дарогу і кантраляваць сітуацыю. Вялікі князь добра памятаў паводзіны Давыда, калі той у Тмутаракані захапіў горад, а за ім гандлёвы порт і мытню.

Святаполк не дазволіў Давыду будаваць свой замак на Прыпяці, якую лічыў ракой стратэгічнай, а толькі на Гарыні, ды і то не ў яе вусці. Гэты дагавор быў замацаваны ў новай царкве, пабудаванай жонкай Святаполка грачанкаю Варварай.

І вось зараз князь Давыд са сваімі віцязямі набліжаўся да Гарыні. Яны падышлі да яе, калі ліпеньскае сонца было амаль што на палавіне дня.

Лоддзі павярнулі за княжацкай, якая ішла наперадзе, перасекшы роўную, як адведзеную шнуром паласу, што раздзяляла цёмную Прыпяць ад светлай Гарыні. Весляры адразу ж адчулі моцнае супраціўленне плыні і больш энергічна запрацавалі вёсламі.

Суровы і нахмураны князь уважліва глядзеў то на адзін, то на другі бераг ракі. Але вось ён усміхнуўся: на левым беразе заўважыў двух зуброў. Магутныя быкі насцярожана глядзелі на раку, па якой рухалася нешта дзіўнае і нечаканае. Чорныя вочы старэйшага зубра сутыкнуліся позіркам з князем Давыдам. Стары князь сваёй велічнай постаццю быў падобны на сівога зубра.

Рухавы малады княжыч Усевалад схапіў кап'ё, але было далекавата. Чорныя рудаватыя быкі ў адзін момант зніклі ў гушчары...

Лоддзі паволі рухаліся ўверх па рацэ.

Было далёка за поўдзень, а яны так і не спыніліся – ўсё ішлі ўверх, супраць цячэння. Па гэтай воднай дарозе яны ўжо рухаліся некалькі дзён назад, выйшаўшы з Дарагабужа ў Тураўскую зямлю.

Весляры сталі мяняцца часцей – прытаміліся. Трэба было недзе зрабіць прыпынак, адпачыць, падсілкавацца. Але князю хацелася хутчэй знайсці тое месца, дзеля чаго ён і рушыў не конным, а водным шляхам.

Давыд яшчэ раз уважліва паглядзеў налева – і ля невялікай рэчкі, якая ўпадала ў Гарынь, убачыў невысокі пагорак. На ім гарэла вогнішча, ля якога сядзеў чалавек. Першы чалавек у гэтай глушы. Гэта была нечаканая, але патрэбная сустрэча.

Князь махнуў рулявому, ладдзя павярнула да берага і мякка ткнулася ў прыбярэжны пясок. Віцязь хацеў дапамагчы князю, але Давыд, папраўіўшы на поясе меч і не надзяваючы шалома, лёгка саскочыў на бераг. За ім пачалі выходзіць на бераг і дружыннікі – з зычным гоманам і звонам даспехаў, абрадаваныя даўгачаканым прыпынкам.

Князь паволі падышоў да вогнішча. Чалавек падняўся, абапіраючыся на лук. Ля вогнішча ляжалі тушы аленя і дзіка.

– Ты хто? Чый смерд? – спытаў князь Давыд.

– Дрыгавіч я, з роду Хатомеля, – адказаў паляўнічы.

– А чым ваш род займаецца, хто старэйшына?

– Палюем мы, рыбу ловім, бортніцтвам займаемся, а старэйшына у нас – Ляшук, – без хвалявання гаварыў дужы палясоўшчык.

Князь яшчэ раз уважліва паглядзеў навокал. Месца добрае, Гарынь тут шырокая, а бераг прасторны, можна зрабіць добрыя прычалы для лоддзяў, ды і невялікія рэчкі, што абмываюць прыгожы пагорак, будуць надзейнай аховай.

Давыд паглядзеў у правы бок: і Прыпяць недалёка. Вельмі зручная дарога ў Тураў і Пінеск. Вось толькі зямлі многа трэба, каб зрабіць гару накшталт той, якая ў градзе Туравым. Але ніштo, будзе і гара, будзе на ёй і замак.

– Замак Давыда!

Князь уздыхнуў: вось і канец яго вандраванням, яго клопатам і бедам. Лёс прывёў яго ў гэты палескі кут, каб ён пабудаваў тут пагранічны замак – на заходняй мяжы Русі. Замак, каб бараніць Русь.

Давыд агледзеўся. Месца стратэгічна чымсьці нагадвала Тмутаракань, але там горад быў фарпостам супраць полаўцаў. Там – паўднёвы бастыён, а тут – заходні. Што ж, такая воля князёў рускіх, яго братоў, такая Божая воля.

– Адпачывайце, другі, падмацоўвайцеся! – крыкнуў князь сваім дру-

жыннікам, а княжычу Усеваладу, які ўзняўся да яго на пагорак, сказаў цвёрда:

– Тут будзе горад Давыдаў! І ты, сыне, будзеш першым князем Гарадзецкім.

І быў гэта 6608 год ад стварэння свету па візантыйскаму календару, альбо 1100 год ад ражаства Хрыстова.

❖

Лёс князя Давыда нам больш-менш вядомы. У адрозненні ад іншых князёў, рускія летапісы прысвячаюць яго авантурнаму бурнаму жыццю даволі шмат месца.

Куды менш вядома аб жыцці заснаванага ім горада. Гэта быў невялічкі дзяцінец для яго дружыны, які з часам стаў разрастацца і пераўтварацца ў сапраўдны горад. Давыд заснаваў горад для сваіх нашчадкаў – і спачыў. Праз два гады ўсімі справамі, гаспадарчымі і ваеннымі, давялося займацца яго сыну Усеваладу. Гэта быў малады князь, які апынуўся не ў простым становішчы: княства – невялічкае, небагатае.

Многа давялося сыну Давыда займацца будаўніцтвам – горада, гандлёвага прычалу для рачных суднаў. Трэба думаць, ён быў цвёрды і ўпарты – у бацьку, і жадаў зрабіць Гарадок Давыдаў такім жа багатым і вядомым, як былі ў той час – Тураў, Бярэсце, Пінеск. Не ўсё атрымалася, як хацелася, і справы ішлі марудна: у глухім палескім куце проста не хапала народу для вялікіх намаганняў.

Адно было нязменным – насельніцтва: пашанцавала з народам, які быў тут на Палессі простым, добразычлівым, таленавітым у працы – прыродны прыгожы народ.

Гарадзецкае княства пачалося з новабудоўлі – насыпу для высачэзнага замка, падыходаў да яго, рвоў і мастоў.

А цяпер разгледзім некаторыя пытанніі, якія ўзнікаюць, калі мы ўглядаемся ў той далёкі час. Гарадок Давыдаў і яго заснавальнік і зараз прыцягваюць да сябе гісторыкаў.

У папярэдняй главе "Княжыя магілы" было расказана аб выніках раскопак Замкавай гары. У сваёй грунтоўнай рабоце "Туровская земля" П. Ф. Лысенка нагадвае, што ніжэйшы культурны пласт гарадзішча, дзе знойдзены прадметы матэрыяльнага значэння, па якіх можна датаваць тагачасны горад, адносіцца да X стагоддзя, гэта значыць, да часу ўзнікнення Турава.

У главе "Пеpуноў Хатомель" расказвалася, што жыхары гэтага язычніцкага паселішча – дрыгавічы – пакінулі яго ў сярэдзіне X стагоддзя і перасяліліся ў больш выгаднае для іх месца. Частка хатомлян магла пасяліцца ў Тураве, а другая – недалёка ад яго.

Недалёка ад упадзення Гарыні ў Прыпяць, на яе правым беразе, яны

знайшлі зручны для іх пагорак і пабудавалі на ім сваё гарадзішча. Жыццё пачало новы адлік.

Прайшло паўтара стагоддзя. Князь Давыд, які княжыў тут кароткі час, пазбаўлены Уладзімірскага стала, нядрэнна ведаў сваё Пагарынскае. Ведаў ён і гарадзішча хатомлян на Гарыні. І, магчыма, быў тут, калі некаторы час княжыў у Тураве.

Давыд быў ужо стары, але характар у яго застаўся ваяўнічы. І калі ён вырашыў у нізоўях Гарыні пабудаваць замак – для нагляду за Туравам і Пінескам, – то лепшага месца і жадаць не трэба было.

Падмурак пабудаваны, людзі ёсць, ад Прыпяцкай магістралі – вёрст дзесяць. Так узнік горад, які на працягу чатырох стагоддзяў называўся Гарадок, пазней – Гарадок Давыдаў, а з канца XVII стагоддзя – Давыд-Гарадок. Імя князя-заснавальніка засталося ў назве горада назаўсёды.

Заўважым, што на геаграфічных картах такіх гарадоў вельмі мала: імёны заснавальнікаў, падчас славутыя, не захаваліся ў памяці. А князь Давыд застаўся.

Першае ўпамінанне аб Гарадку маецца ў Іпацьеўскім летапісе. Яно звязана з паходам на Полацк, арганізаваным вялікім князем Мсціславам Уладзіміравічам, які стаў ім у 1125 годзе пасля смерці свайго бацькі Уладзіміра Манамаха.

У паходзе ўдзельнічала значная колькасць князёў. Адбыўся ён у 1127 годзе:

“...посла князь Мстислав братию свою четырьмя пути: Вячеслава из Турова, Андрея из Володимира, Всеволодка из Городна, Вячеслава Ярославича из Кляческа... ити к Изяславлю”.

“Всеволодок” – гэта Усевалад, сын Давыда Ігаравіча; змяншальнае імя падкрэслівае, што быў ён князем маладым, можа, нават наймалодшым і не вельмі саноўным. А Городна – гэта заснаваны Давыдам Гарадок.

У савецкай гісторыяграфіі ўсталявалася думка, што адзначаны Гародна – гэта сучасны беларускі Гродна.

Аднак вядомыя расійскія гісторыкі, якія ведалі крыніцы, што да нас не дайшлі, лічылі інакш.

В. М. Тацішчаў (1686–1750), аўтар шматтомнай “Истории Российской”, лічыў, што Гарадзень знаходзіўся на Дняпры, а Усевалада ён называў князем Гарадзецкім, апошняе было гістарычна правільным.

М. М. Карамзін (1766–1826), аўтар славутай “Истории государства Российского” у 12 кнігах, размяшчаў месца княжання Усевалада ў Мінскай губерні.

С. М. Салаўёў (1820–1879), аўтар 29-томнай “Истории России с древнейших времен”, пагаджаецца з Тацішчавым і Карамзіным і піша ў сваіх каментарыях аб гэтай падзеі:

“Городно считаю местечком Минской губерни Пинского уезда”.

Гэтай жа думкі прытрымліваецца і старэйшы беларускі гісторык

М. В. Доўнар-Запольскі (1876–1934), аўтар першай фундаментальнай "Гісторыі Беларусі".

Сучасны вядомы знаўца гісторыі ранняга сярэднявечча Беларусі М. І. Ермаловіч у сваім выключным па глыбіні даследавання творы "Старажытная Беларусь" адзначае, што сцвярджэнне аб тым, нібыта Усевалад быў князем з Гродна, з'яўляецца бездоказным.

Гэтаму пытанню гісторык прысвяціў асобны раздзел "Дзве загадкі". Адной з загадак, на якую яшчэ канчаткова няма яснага адказу, ён лічыць месцазнаходжанне летапіснай Гародні Усевалада.

Ермаловіч піша:

"Хутчэй за ўсё пад ім трэба разумець іншае княства побач з Туравам і Пінскам, магчыма, бліжэй да апошняга... Гарадзеняў, як і Гарадных, у той час было нямала, і таму да іх геаграфічнай лакалізацыі трэба падыходзіць вельмі асцярожна, улічваючы ўсе іншыя даныя".

Думкі гэтых знакамітых вучоных для нас важныя і пераканаўчыя ў тым, што ўсе яны лічаць: князь Усевалад Давыдавіч княжыў у горадзе, які ніяк не з'яўляецца сучасным Гродна.

Іншы раз, у сувязі з праблемай, згадваецца населены пункт Гарадная, які знаходзіцца зараз у Столінскім раёне амаль на аднолькавай адлегласці – паміж Туравам і Пінскам. Упершыню ў дакументах Гарадная ўпамінаецца ў XV стагоддзі. Не маючы воднага шляху і добрых дарог для зносін, знаходзячыся ў глухамані, Гарадная проста не магла ў той час быць цэнтрам княства. Слядоў існавання замка тут няма, ніякіх князёў тут ніколі не было.

У вырашэнні нашага пытання дапамагла археалогія, якой у часы былых расійскіх гісторыкаў-класікаў яшчэ сур'ёзна не займаліся.

Свае першыя вынікі раскопак Замкавай гары і высновы аб адкрытых там Княжых магілах доктар Раман Якімовіч выказаў у вялікім артыкуле на старонках віленскай газеты "Слова" ад 22 снежня 1936 года. Ён выказаў меркаванне, што нейкі Давыд выкарыстаў паселішча, якое ўжо тут было, і заснаваў на яго аснове горад.

Якімовіч быў першым адкрывальнікам Перунова Хатомеля, але яму ў той час было невядома, што хатомляне перасяліліся ў другое месца. Ён устанавіў, што імя Давыд мелі дзесяць рускіх князёў XI – пачатку XIII стагоддзяў. З гэтых дзесяці ён спыніўся на Давыдзе Ігаравічы, князі Пагарынскім.

Свой вывад ён абасноўвае:

"Самы назоў мясцовасці выразна кажа, што Давыд-Гарадок заснаваў нейкі Давыд, або ён падняў даўнейшае паселішча да годнасці горада... Ім быў князь Пагарынскі Давыд Ігаравіч з 1100 году.

Гэты князь, дастаўшы пад сваю ўладу землі паўз Гарыні, мусіў ацаніць усё значэнне валодання вадзяным шляхам, які прадстаўляла Прыпяць і ўпадаўшая ў яе ў адзінаццаці вёрстах ад Давыд-Гарадка Гарынь.

Прыпяць і Гарынь – гэта былі вадзяныя шляхі, якія з Валыні, Галіцкага княства, зямель заходнебеларускіх, і з краю ляшскага вялі да Дняпра, а па Дняпры – на міжнародны гістарычны шлях "из варяг в греки", якім можна было папасці і да Чорнага, і да Балтыцкага мора.

У той час, калі Давыд Ігаравіч атрымаў Пагарынскае княства, галоўным местам яго быў Дарагабуж. Але ён стаяў на сярэднім цячэнні Гарыні – далёка ад Прыпяці. Дык трэба лічыць зусім натуральным, што гэты вельмі актыўны і далёказоркі князь надумаў перанесці сталіцу свайго ўдзелу ў ваколіцы ўтоку Гарыні ў Прыпяць. Гэта давала яму магчымасць налажыць сваю руку і на Прыпяць, ды мець з гэтага вялікія матэрыяльныя выгоды".

Як бачым, каментарыі тут не патрэбны – свае погляды доктар Якімовіч выклаў проста і пераканаўча. Але да гэтага трэба дадаць яшчэ і палітычную прычыну: з заснаванага Гарадка праз Тураў куды зручней наглядаць за вялікакняжацкім Кіевам, чым з далёкага заходняга Дарагабужа.

Другі даследчык Давыд-Гарадка, П. Ф. Лысенка ў сваіх вывадах не такі катэгарычны, як яго папярэднік, аднак і ён лічыць погляды Р. Якімовіча правільнымі. У сваёй кнізе "Туровская земля" па гэтаму пытанню ён піша:

"Вещевой материал из раскопок Давид-Городка позволяет говорить о возникновении города в начале XII века. В связи с этим получает подкрепление версия об основании города Давыдом Игоревичем после изгнания его с Владимирского княжества в 1100 году".

Але ёсць меркаванне, што горад быў заснаваны раней. Яго выказаў А. М. Рапаў у рэцэнзіі на кнігу П. Ф. Лысенкі "Города Туровской земли" (журнал "Вопросы истории", № 7 за 1976 год). Там гаворыцца:

"Что касается Давид-Городка, то он стоит при впадении Горыни в Припять, в непосредственной близости от Турова, как бы прикрывая его с юга. Вряд ли киевский князь Святополк Изяславич мог разрешить такому коварному князю, каким являлся Давид, построить свою крепость по соседству с Туровом, ему в ту пору принадлежавшим. Скорее всего Давыд-Городок был основан Давыдом Игоревичем, когда он был, согласно татищевским изувестиям, туровским князем, то есть в 1078–1081 годах".

А што? Вельмі цікавы вывад. І выключна гістарычна абаснаваны – палітычна і псіхалагічна. Аднак ён застаўся незаўважаным беларускімі гісторыкамі. Ніяк не адрэгаваў на гэту рэцэнзію і Лысенка. Наша сучасная беларуская гісторыяграфія прыняла дату заснавання Давыд-Гарадка – 1100 год, а яго заснавальнікам назаўсёды прызнаны Валынскі князьзгой Давыд Ігаравіч.

Хаця ўсё магло быць трошкі інакш. І 1100 год – гэта ўмоўная дата заснавання ваеннай крэпасці, якой на самой справе на чвэрць стагоддзя больш, а можа і на цэлае стагоддзе. Калі ўлічыць, што тут было месца

старога паселішча дрыгавічоў. Пытанняў многа, але адкажуць на іх толькі новыя археалагічныя даследаванні, калі яны адбудуцца.

А зараз мы кіруемся агульна прынятым пунктам гледжання. Аб гэтым сведчаць артыкулы ва ўсіх акадэмічных выданнях апошніх гадоў.

Пачатак гэтаму быў пакладзены "Беларускай Савецкай энцыклапедыяй". У яе чацвёртым томе (1971) у артыкуле "Давыд-Гарадок", напісаным М. У. Шэлехавым, аб заснаванні горада сказана:

"Паводле археалагічных даследаванняў узнік у пачатку XII ст. як горад Кіеўскай Русі. Магчыма, назва ад імя валынскага князя Давыда Ігаравіча, які атрымаў на валоданне Пагарынне ўзамен адабранага ў 1100 г. Уладзімірскага княства".

Такога ж зместу гістарычная даведка змешчана і ў артыкуле "Давыд-Гарадок" у трэцім томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (1996). У акадэмічным выпуску першай часткі "Нарысаў гісторыі Беларусі" (1994) у раздзеле аб узнікненні гарадоў у XI–XIII стагоддзях згадваецца і Давыд-Гарадок як адметны населены пункт таго часу:

"Устаноўлена існаванне Давыд-Гарадка, узнікшага на р. Гарынь на рубяжы XI–XII стст.".

У гонар гэтай выключнай падзеі ў Давыд-Гарадку быў праведзены ў 1987 годзе першы Дзень горада, прысвечаны 50-годдзю адкрыцця яго старажытнай гісторыі і Княжых магіл. На Замкавай гары, дзе былі тады адкрыты карані старасвеччыны і магілы князёў Гарадзецкіх, устаноўлены памятны камень з надпісам:

"Отсюда есть пошел Городок Давыда. XII век".

А ў дзень святкавання 900-годдзя горада будзе ўстаноўлена велічная бронзавая статуя яго заснавальніка князя Давыда работы ўраджэнца гэтых мясцін скульптара Аляксандра Валянцінавіча Дранца.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

# *У ЛІТОЎСКА-РУСКІМ ГАСПАДАРСТВЕ*

**(XIV – 1-ая палова XVI стагоддзя)**

# КНЯСТВА ГАРАДЗЕЦКАЕ

*Всему свое время,*
*и время всякой вещи под небом.*

***Екклезиаст, глава 3, стих 1***

Штучна створанае княства Пагарынскае праіснавала нядоўга. Праз год пасля смерці Давыда Ігаравіча памёр у 1113 годзе вялікі князь Святаполк Ізяславіч, новым князем стаў Уладзімір Усеваладавіч Манамах, адзін з дваюрадных братоў, унукаў Яраслава.

Нашчадкі князя Давыда замацаваліся ў заснаваным ім Гарадку, стварыўшы невялікае княства і новую дынастыю князёў Гарадзецкіх, якое праіснавала чатыры стагоддзі.

Жонка Давыда Ігаравіча ў "Повести временных лет" упамінаецца толькі адзін раз у сувязі з ваеннымі падзеямі, якія адбываліся у 1097 годзе:

"Ярослав же Святополчич пришел с венграми... и стали они около Перемышля, а Володарь затворился в городе. Ибо Давыд в это время вернулся из Польши и поместил жену свою у Володаря, а сам пошел к половцам. И встретил его Боняк, и воротился Давыд, и пошли они на венгров".

Ёсць меркаванне, што жонкай князя Давыда была палаўчанка, дачка хана Баняка. Жаніцьбы рускіх князёў на прынцэсах драпежных стэпавікоў з мэтай пазбавіцца ад іх пастаяннага рабавання, ад знішчальных нападкаў сустракаліся ў той час. Полаўцы былі пастаяннымі суседзямі, а з суседзямі, нават дрэннымі, жывуць па-рознаму. Часам нават ствараюць саюзы. Хаця саюзы з ворагамі бываюць толькі часовымі.

Але жонка не рукавіца, з рукі не скінеш. Тым больш, што гэты шлюб даваў Давыду калі не прывілеі, дык палітычныя перавагі і ваенныя выгоды. І хан Баняк, як мы бачылі, не аднойчы дапамагаў свайму зяцю ў яго барацьбе за ўтрыманне саваёй улады.

Адзіным сынам Давыда быў Усевалад. У летапісе ён упершыню прыгадваецца ў 1127 годзе як князь Гарадзенскі (Гарадзецкі). У гэты час ішла напружаная барацьба Кіева з Полацкам.

Вялікі князь Мсціслаў Уладзіміравіч арганізаваў ваенны паход, да якога прыцягнуў значныя сілы. У групоўку, якая наступала на Ізяслаўль (сучасны горад Заслаўе), уваходзілі дружыны суседзяў-князёў: браты Мсціслава – Андрэй з Уладзіміра-Валынскага і Вячаслаў з Турава, Вячаслаў Яраславіч з Клецка і Усевалад Давыдавіч з Гарадка.

Паход для саюзнікаў закончыўся паспяхова. У ліку іншых Усевалад прымаў удзел у аблозе і ўзяцці горада. Расказваючы аб гэтых падзеях, айчынны гісторык М. І. Ермаловіч яшчэ раз падкрэслівае, што Гарадзенскае княства не трэба блытаць з Гродзенскім.

У 1131 годзе Мсціслаў арганізаваў паход на Літву, саюзніцу Полац-

ка. У ім удзельнічалі яго сыны, чарнігаўскія князі, а таксама Усевалад Гарадзецкі. Паход закончыўся перамогай.

Аб смерці князя ў "Истории Российской" В. М. Тацішчава напісана так:

"6649. (1141 – ад аўтара). Того же году преставился Всеволод Давыдович, городецкий".

На працягу вякоў да канца 30-х гадоў ХХ стагоддзя вытворным словам-паняццем ад Гарадка было – Гарадзецкі: Гарадзецкае княства, Гарадзецкі павет, гарадзецкія мяшчане.

Жонкай Усевалада Давыдавіча была Агаф'я, дачка Уладзіміра Манамаха. У іх было тры сыны і дзве дачкі. Аб дочках ёсць толькі адна звестка ў Іпацьеўскім летапісе, якую прыводзіць В. М. Тацішчаў:

"6652. (1144). Тоя ж зимы отдаде Всеволод две Всеволодовны Володимера внуки, едину за Володимера Давыдовича, другую за Володимера Ярославича".

Гэта значыць, зімою, на адным тыдні згулялі два вяселлі. Дзве князёўны, дочкі нябожчыка Усевалада Давыдавіча, унучкі Уладзіміра Манамаха, былі выдадзены замуж вялікім князем Усеваладам II Вольгавічам. Абодва мужы былі князямі: першы – Дарагічынскім, другі – Тураўскім.

Сынамі Усевалада Давыдавіча і Агаф'і былі Барыс, Глеб і Мсціслаў. Іх імёны сустракаюцца ў летапісах як удзельнікаў міжусобнай барацьбы на Русі, якой не было відаць канца.

У год вяселля сваіх сёстраў Барыс і Глеб у складзе тураўскай дружыны Вячаслава Уладзіміравіча прынялі ўдзел у паходзе вялікага князя Усевалада II – на Галіцкае княства. Паход быў для ўдзельнікаў паспяховым. Галіцкі князь Уладзімірка выплаціў вялікую кантрыбуцыю – 1200 грыўняў срэбра, якую пераможцы падзялілі між сабою. Сваю долю, вядома, атрымалі Барыс і Глеб.

Пасля смерці Усевалада II зноў разгарэлася барацьба за Кіеўскі стол. Яго пераемнік, брат Ігар Вольгавіч, пратрымаўся толькі год і быў забіты саперніками.

Кіяўляне падтрымалі ўнука Уладзіміра Манамаха – Ізяслава Мсціславіча, які і стаў вялікім князем у 1147 годзе. Трэці Вольгавіч, князь Чарнігаўскі Святаслаў, брат папярэдніх двух вялікіх князёў, аднак вырашыў працягваць барацьбу за Кіеў.

Ён звярнуўся за дапамогай да Растова-Суздальскага князя Юрыя Даўгарукага, сына Уладзіміра Манамаха. Юрыю Даўгарукаму гэта было на руку, і ён, як гаворыцца, ухапіўся за сітуацыю аберуч. Але рука дапамогі князя Юрыя Даўгарукага была своеасаблівая. Ён дбаў пра сваё. І, маючы на мэце пашырыць свой уплыў на Кіеў, Юрый (за што яго і празвалі "Доўгая рука") запрасіў Святаслава да сябе ў заснаваную ім Маскву:

"Приди ко мне, брате, в Москов".

Гэта і было першае ўспамінанне Масквы ў летапісе – 1147 год, афіцыйны год яе заснавання.

Абвясціўшы, што як старэйшы з Манамахавічаў, ён мае найбольшыя правы на Кіеўскі стол, Юрый уключаецца ў барацьбу. "Доўгая рука" ведаў сваю справу. У 1149 годзе ён захапіў Кіеў.

У гэтай барацьбе князь Гарадзецкі Барыс выступае на баку Ізяслава Мсціславіча. На чале сваёй дружыны ён прымаў удзел у абароне Кіева, ахоўваючы Ляхаўскія (Польскія) вароты, якія знаходзіліся недалёка ад славутых Залатых варот. Калі войскі Юрыя пачалі адступаць, Барысу было даручана праследаваць іх, і ён лесам даганяў суздальцаў, не даўшы ім захапіць Белгарад Кіеўскі. Гэта было ў 1151 годзе. Больш у летапісе Барыс Усеваладавіч не згадваецца.

А Юрый Даўгарукі ўсё ж такі зноў захапіў Кіеў і прабыў там вялікім князем два гады. Але ён не меў падтрымкі мясцовага баярства, і ў 1157 годзе быў атручаны імі ў час застолля.

Глеб Усеваладавіч у 1166 годзе па закліку вялікага князя Расціслава Мсціславіча ўдзельнічаў у барацьбе з полаўцамі, якія абклалі Кіеўскую Русь з поўдня, і народ цярпеў ад іх вялікі ўціск. Стэпавікі кантралявалі суднаходства на Дняпры і рабавалі купецкія караваны.

У гэты час Кіеў чакаў вялікі караван з Царграда. І каб арганізаваць ахову і яго бяспечны пераход, быў накіраваны Глеб Усеваладавіч. Ён знаходзіўся ў Каневе, адганяў полаўцаў і пакінуў сваю справу, калі караван без перашкод прайшоў у Кіеў.

З 1167 года сустракаецца ў летапісах імя малодшага сына Усевалада Давыдавіча – Мсціслава. Глеб і Мсціслаў па-ранейшаму падтрымліваюць вялікага князя Расціслава Мсціславіча, а потым – Мсціслава Ізяславіча і Глеба Юр'евіча. У 1169 годзе яны ўдельнічалі ў абароне Кіева, які быў захоплены Растова-Суздальскім князем Андрэем Багалюбскім.

Але праз некаторы час браты мяняюць свой курс і выступаюць на баку Андрэя Багалюбскага, самага энергічнага і папулярнага ў той час князя на Русі. Відавочна, тут у нейкай ступені дапамагло і сваяцтва.

Маці братоў Усеваладавічаў была дачкой Уладзіміра Манамаха, родная сястра Юрыя Даўгарукага, а гэта значыць, Усеваладавічы і Андрэй Багалюбскі былі стрыечнымі (дваюраднымі) братамі. Акрамя таго, Андрэй, пасаджаны бацькам на княжэнне, некаторы час быў князем Тураўскім, а Гарадок знаходзіўся у васальнай залежнасці ад Турава.

У 1173 годзе Глеб і Мсціслаў разам з тураўцамі і пінянамі ўдзельнічалі ў штурме Кіева ў складзе войска Андрэя Багалюбскага. Гэта апошні год упамінання Глеба Усеваладавіча ў летапісе.

Чорная бяда насілася па рускіх землях. Выкарыстоўваючы міжусоб'е, полаўцы амаль кожны год рабавалі паўднёвыя землі Русі. Ворагу патрэбна было даць адказ, паставіць яго на месца, але для гэтага трэба было збіраць Русь.

У 1183 годзе вялікі князь Кіеўскі Святаслаў Усеваладавіч сабраў

даволі значныя сілы і здзейсніў паход на палавецкага хана Канчака ў стэпы паўднёва-усходняга Задняпроўя. Полаўцы былі разбіты: у палон трапілі каля сямі тысяч стэпавікоў, рускія войскі захапілі многа коней, зброі, прадметаў вандроўнага ўжытку.

У гэтым паходзе пад сцягамі і харугвамі з Хрыстом-Спасам выступілі і ўдзельныя князі-суседзі: браты Святаполк, Яраслаў і Глеб – князі Тураўскі, Пінскі і Дубровіцкі, а таксама Мсціслаў Усеваладавіч, князь Гарадзецкі. Больш у летапісах імя Мсціслава не сустракаецца. З нашчадкаў Усеваладавічаў толькі адзін раз згадваецца Юрый Барысавіч.

Раман Якімовіч лічыць, што раскапаныя на Замквай гары Давыд-Гарадка так званыя Княжыя магілы (знойдзена 25 захаванняў) – гэта сямейны склеп мясцовых уладароў XII стагоддзя. Другога тлумачэння не знойдзена.

Пачынаючы з XIII стагоддзя да сярэдзіны XIV, звестак аб княстве Гарадзецкім і дакументаў не захавалася. Яны, вядома, былі ў мясцовых летапісах Турава і Пінска, аднак у віхуры шматлікіх войн і бедстваў страчаны назаўсёды. Будзем спадзявацца, магчыма, што-небудзь яшчэ і знойдзецца.

У другой палове XII стагоддзя Тураўская зямля падзялілася на ўдзельныя княствы: Тураўскае, Пінскае, Гарадзецкае, Дубровіцкае і Клецкае. У 1241 годзе епіскапская праваслаўная кафедра была перанесена з Турава ў Пінск.

У гэты час на тэрыторыі сучаснай Заходняй Украіны ўтварыліся два палітычныя цэнтры – Галіч і Уладзімір-Валынскі, якія ў асобныя перыяды складалі адзінае цэлае – аб’яднанае Галіцка-Валынскае княства. На працягу XIII стагоддзя яно адыгрывала вядучую ролю ў гістарычным працэсе Заходняй і Паўднёва-Заходняй Русі.

Тураўская зямля была ўцягнута ў арбіту падзей, якія былі звязаны з дзейнасцю князёў Галіцка-Валынскай Русі. У гісторыю ўвайшоў Даніла Раманавіч Галіцкі (1201–1264) – князь Галіцка-Валынскі, пры якім былі дасягнуты значныя поспехі ва ўсіх галінах палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця.

Пінскія князі, выкарыстоўваючы дапамогу літоўцаў, спрабавалі аказаць супраціўленне магутнаму Данілу. У 1227 годзе князь Расціслаў каля Чартарыйска пацярпеў паражэнне.

У наступным годзе вялікі князь Кіеўскі Уладзімір Рурыкавіч сабраў даволі значную кааліцыю паўднёва-рускіх князёў, полаўцаў, у ёй прынялі ўдзел Пінскі, Тураўскі і Гарадзецкі князі. Гэта была апошняя спроба Кіева дабіцца ад Данілы хаця б традыцыйнага прызнання свайго старшынства, але яна закончылася паражэннем Кіева.

Адначасова Даніла нанёс некалькі паражэнняў літоўскаму племені яцвягаў і двойчы свае перамогі адзначаў у Пінску. Ён актывізаваў барацьбу з набіраючай сілу Літвой і ў 1247 годзе з Пінска здзейсніў паспяховы паход на Навагародак (Навагрудак).

Нашэсце мангола-татараў зруйнавала Паўднёвую Русь. Ад самага буйнога горада Еўропы Кіева, з яго залатымі купаламі і 100-тысячным насельніцтвам, засталіся толькі руіны і некалькі соцень жыхароў. Нават праз чатырыста гадоў там пражывалі толькі 15 тысяч чалавек.

Другая палова XIII стагоддзя прайшла ў палітычным і ваенным суперніцтве паміж Галіцка-Валынскай Руссю і набіраўшым моц Вялікім княствам Літоўскім.

❖

У першай палове XIII стагоддзя на тэрыторыі паўднёвай Літвы і беларускага Панямоння ўтварылася новая дзяржава, якой было наканавана адыграць выключна важную ролю ў гісторыі нашага народа. Гэта было Вялікае княства Літоўскае, створанае славянска-літоўскімі правадырамі. Яго заснавальнікам і першым вялікім князем быў Міндоўг (1235–1263). Першай сталіцай дзяржавы быў Навагародак.

Стварэнне дзяржавы на землях былой Кіеўскай Русі адбывалася звыш стагоддзя. Захопу зямель сілай амаль не было. У большасці выпадкаў адбывалася добраахвотнае ўступленне ўдзельных рускіх князёў у склад новай дзяржавы. Гэтаму садзейнічала некалькі фактараў: міжнародны, прававы, асабісты, эканамічны і культурны.

Першы фактар заключаўся ў знешняй пагрозе, якая склалася ў той час на Русі. З пачатку XIII стагоддзя ў Прыбалтыцы з'явіліся нямецкія ордэны крыжакоў, якія агнём і мячом праводзілі сваю місіянерскую дзейнасць, каланізуючы і нават знішчаючы карэнныя, пражываючыя там народы і ведучы сістэматычны наступ на славянскія землі.

З сярэдзіны гэтага ж стагоддзя на поўдні з'явілася татарская Залатая Арда, якая існавала галоўным чынам за кошт грабежніцкіх паходаў на рускія землі. Як паказалі падзеі, невялікія ўдзельныя княствы не маглі процістаяць як паўночным, так і паўднёвым нашэсцям драпежнікаў.

Другі фактар – прававы. Прысягаючы вялікаму князю, удзельныя рускія князі захоўвалі тэрытарыяльную цэласць свайго ўдзела на правах шырокай аўтаноміі, права сваёй дынастыі на спадчыннае наследаванне зямель і маёмасці, станавіліся суб'ектамі феадальных адносін, якія не былі цалкам новымі, а мелі пераемнасць і падабенства сувязяў у Кіеўскай Русі, з яе вялікім князем Кіеўскім.

Трэці фактар – асабісты. Перыяд стварэння і кансалідацыі новай дзяржавы не меў бы такі паслядоўна паспяховы характар, калі б на чале яе не стаялі такія таленавітыя і энергічныя асобы, якімі былі князь Гедзімін, Альгерд, Вітаўт.

Чацвёрты – эканамічны. Рускае баярства і гандлёва-прамысловыя колы Русі былі зацікаўлены ў стабільнай, моцнай вярхоўнай уладзе, якая магла абараніць іх дзейнасць.

І нарэшце – культурны. Літоўцы былі ўпартымі язычнікамі, ці, як

сёння мы гаворым, паганцамі, што было ў той час даволі дзіўна. Ужо чатырыста гадоў Еўропа жыла з хрысціянствам, і Русь тут не адставала ад іншых. Хрысціянства прынесла народам вялікую культуру, вялікі розум іх правіцелям, вялікі станоўчы імпульс да новага, больш свабоднага і развітога жыцця. Але літоўцы трымаліся старых паганскіх звычак.

Тым не менш у іх валадароў хапіла энергіі, каб пачаць ствараць дзяржаву. Вядома, яе ўлада і ўклад жыцця не маглі заставацца язычніцкімі. Рускія землі ва ўсіх адносінах стаялі намнога вышэй у сваім развіцці. Літоўцы наогул былі непісьменнымі. Таму натуральна ва ўтвораным Вялікім княстве дзяржаўнай мовай стала руская, пазней – старабеларуская. Да канца XIV стагоддзя ўсе вялікія князі былі праваслаўнымі, як і магнаты і шляхта мясцовага паходжання.

У сваёй рабоце “Внешняя политика русского царизма” Ф. Энгельс пісаў:

“В то время, когда Великороссия попала под монгольское иго, Белоруссия и Малороссия нашли себе защиту от азиатского нашествия, присоединившись к так называемому Литовскому княжеству”.

Першым буйным збіральнікам зямель Кіеўскай Русі стаў Гедзімін (1316–1341). Пачатае мірным шляхам аб’яднанне з уваходу Гарадзенскай і Полацкай зямель – завяршылася ўваходжаннем амаль усёй тэрыторыі Беларусі ў склад Вялікага княства Літоўскага. У гэты ж час увайшлі і ўсе ўдзельныя княствы Тураўскай зямлі, у тым ліку і Гарадзецкае. Гэта было пры Гедзіміне.

У 1323 годзе сталіца княства была перанесена з Навагарадка ў Вільню. У ваенных мэтах пры ім было разгорнута будаўніцтва замкаў. Гедзімін запрашаў з Заходняй Еўропы на пастаяннае жыхарства ўмелых рамеснікаў, гандляроў, адукаваных людзей. Пры Гедзіміне была ўтворана незалежная ад Масковіі літоўска-руская праваслаўная мітраполія.

Энергічным дзеячом, таленавітым военачальнікам быў сын Гедзіміна вялікі князь Альгерд (1345–1377). Пры ім у склад княства ўвайшлі паўднёва-ўсходнія землі Беларусі, у тым ліку смаленская, а таксама землі Украінскай Русі – Валынь, Кіеўская, Чарнігаўская, Ноўгарад-Северская. Княжанне Альгерда прайшло ў войнах з крыжакамі, татарамі, Масковіяй. Сярод яго значных перамог – разгром крыжакоў на Нёмане, разгром татар ля Сініх Вод.

Прэтэндуючы на расшырэнне сваёй дзяржавы за кошт усходніх рускіх зямель, Альгерд сутыкнуўся з Вялікім княствам Маскоўскім, дзяржаўным аднагодкам Літвы і аднолькава маладым і ваяўнічым.

Мэта ў абедзвюх дзяржаў была адна – аб’яднаць пад сваёй уладай як мага больш зямель, родных ім геаграфічна, а разам з тым – блізкіх па агульнай гісторыі, культуры, рэлігіі.

Гэта спаборніцтва ішло чатыры стагоддзі. З гэтага часу і да канца XVIII стагоддзя паміж Літвой і Масковіяй існавалі жорсткія антагані-

стычныя адносіны, шматлікія войны, якія не раз даводзілі бакі да крытычнага стану.

Падкрэслім, што не адзін век войны ішлі паміж дзяржавамі адной веры. І калі выкарыстаць гістарычныя аналогіі, дык войны Літвы з Масковіяй былі прадаўжэннем княжацкіх міжусобіц, якія давялі магутную Кіеўскую Русь да знікнення. Новыя войны былі паўтарэннем старых, калі адны праваслаўныя княствы біліся з суседнімі, такімі ж блізкімі па крыві і братэрскімі.

Сёння можна шкадаваць аб гэтых войнах, якія аслаблялі славян і русічаў у прыватнасці – на карысць іх шматлікіх ворагаў. Яны і да нашых дзён не змянілі свайго аблічча. Гэта ім пісаў вялікі А. С. Пушкін, маючы на ўвазе былыя войны двух Вялікіх княстваў – Маскоўскага і Літоўскага:

> "Что возмутило вас? волнения Литвы?
> Оставьте: это спор славян между собою,
> Домашний, старый спор, уж взвешенный судьбою..."

"Хатняя, старая спрэчка" для двух магутных суседзяў скончылася па-рознаму. Літва, якая спакусілася саюзам з Польшчай, падманулася: згубіла веру, заняпала. Гэты драматычны лёс тычыўся ўсёй Беларусі, але ў асаблівасці Палесся і нашага краю – і менавіта Давыд-Гарадка.

Але аб усім па парадку. Маладыя волаты – Масковія і Літва – яшчэ толькі набіралі сілу і міжволі дужаліся ў спрэчках.

У артыкуле "Стенька Разин" Карл Маркс аб гэтым часе пісаў коратка і зразумела:

"Русь тогда была разделена на два государства – Москву и Литву".

Гедзімін называў сябе вялікім князем літоўцаў і рускіх. Пазней афіцыйнай назвай дзяржавы згодна са статутам была – Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, а гербам стала знакамітая сёння Пагоня – коннік з мячом і шчытом, на якім быў крыж з шасцю канцамі, так званы крыж Еўфрасінні Полацкай.

Афіцыйнай дзяржаўнай мовай стала руская (руськая, як пісалі тады), якая паступова набывала мясцовыя асаблівыя якасці і пазней стала беларускай. Літва пагаджалася з беларускай мовай, мовай праваслаўнага народа, які многаму навучыў літоўцаў. Не тое было пад паступовым уціскам Польшчы. Ужыванне беларускай мовы было канчаткова забаронена Сеймам Рэчы Паспалітай у 1696 годзе.

На працягу доўгага часу славянскае насельніцтва Княства (Гаспадарства) называла сябе рускімі (русінамі). У той жа час за ўсёй тэрыторыяй дзяржавы замацавалася агульная назва – Літва.

"Літвою" называлі жыхароў Княства яго супрацўнікі – у тым ліку і маскавіты. У самім Княстве агульная назва ўсяго насельніцтва была – ліцвіны. Аднак у этнічным плане праваслаўных называлі – ліцвіны рускай веры, ліцвіны-беларусцы. Ф. Скарына называў сябе і русінам, і ліцвінам.

Пасля смерці Альгерда вялікім князем стаў Ягайла, яго сын ад цвярской князёўны з Русі Ульяны. Яго княжанне пачалося з барацьбы за ўладу са сваім дзядзькам Кейстутам, які быў ім забіты. Барацьбу з Ягайлам прадоўжыў сын Кейстута – Вітаўт.

У 1386 годзе Ягайла прыняў каталіцтва, ажаніўся з польскай каралеўнай Ядвігай і быў выбраны каралём пад іменем Уладзіслава II. Сваім намеснікам у Княстве Ягайла назначыў брата Скіргайлу.

Заключаная імі Крэўская ўнія прадугледжвала аб'яднанне абедзвюх дзяржаў і прынясце літоўцамі каталіцтва. Гэта вяло да поўнага заняпаду і страты самастойнасці.

І хаця Вітаўт спачатку пагадзіўся з уніяй і прыняў каталіцтва, аднак праз некаторы час ён аднавіў барацьбу за ўладу і самастойнасць Княства Літоўскага. Гэта барацьба закончылася перамогай Вітаўта. У 1392 годзе Ягайла прызнаў Вітаўта вялікім князем Літоўскім. Самастойнасць Княства была адноўлена.

Гады праўлення Вітаўта Кейстутавіча (1392–1430) – гэта час найвышэйшага развіцця дзяржавы ў палітычнай і эканамічнай галінах. Пры Вітаўце Княства дасягнула самых вялікіх тэрытарыяльных памераў і было самай буйной у Еўропе дзяржавай.

Вялікае княства мела выхады ў Балтыйскае і Чорнае моры. Пагранічным горадам на ўсходзе была Вязьма – усяго толькі каля 200 вёрстаў ад Масквы. Дачка Вітаўта Соф'я стала жонкай вялікага князя Маскоўскага Васілія І, сына Дзмітрыя Данскога.

А на захадзе справы былі горшыя. Крыжацкая экспансія працягвалася.

У 1409 годзе пачалася так званая Вялікая вайна Княства і Польшчы з тэўтонамі: тэўтонскі ордэн працягваў традыцыйную нямецкую навалу. 15 ліпеня 1410 года на тэрыторыі Усходняй Прусіі ля вёскі Грунвальд адбылася рашаючая бітва. Бітва закончылася поўным разгромам крыжакоў, загінула ўсё вышэйшае кіраўніцтва Ордэна. Тэўтонамі камандаваў магістр ордэна фон Юнгінген, для якога бітва пры Грунвальдзе стала чорным днём.Саюзнымі войскамі з другога боку кіраваў Вітаўт, перамога якога праславіла Вялікае княства ў свеце. Трэба дадаць, што пасля гэтага няўдалага "Drang nach Osten!" – націск на Усход прыкметна аслаб.

Пасля смерці Васіля І Маскоўскага ў 1425 годзе яго ўдава Соф'я Вітаўтаўна стала рэгентшай і прыняла пратэктарат бацькі, гэта значыць Масковія стала васалам Літоўска-Рускага княства. Пасля Грунвальда гэта было самай вялікай перамогай Вітаўта на ўсходзе. Так было на працягу некалькіх гадоў – да смерці Вітаўта.

Скажам прама, маскоўскія князі не пацярпелі б гэтага, калі б не парадкі пры Вітаўце. Літоўскае княства, авеянае славай Грунвальда, перамогай над ворагамі Русі крыжакамі, дасягнула свайго найвышэйшага росквіту. У Княстве ўстанавілася нацыянальная і рэлігійная цярпімасць.

Праўленне Вітаўта было надзвычайным, як і яго ўчынкі. У час ваенных паходаў Вітаўт вывеў з Таўрыі значную колькасць татараў і рассяліў іх у Княстве. Ён прыняў уцякаючых ад інквізіцыі ў Германіі яўрэяў, зразумеў будучую выгаду ад іх як гандляроў і творцаў багацця, даў ім для гэтага ўсе правы і стварыў патрэбныя для эканамічнай дзейнасці ўмовы.

Улічваючы тое, што большасць насельніцтва дзяржавы складалі праваслаўныя русіны, Вітаўт у 1415 годзе ў Навагарадку ўтварыў самастойную мітраполію на чале з Рыгорам Цымблакам. На ўсёй тэрыторыі Княства побач з цэрквамі і касцёламі будаваліся мячэці і сінагогі. Такая палітыка, вядома, вяла да рэлігійнай разнароднасці і адцясняла тутэйшае праваслаўнае насельніцтва. Гэта быў толькі пачатак драматычнага лёсу праваслаўных на Беларусі, толькі далёкі грукат навальніцы – будучага ўніяцтва, акаталічвання, знішчэння беларускай пісьменнасці – пісьменнасці вялікага Скарыны... Так што не такім ужо лагодным і гарманічным было праўленне Вітаўта, літоўца па паходжанню.

І наогул, у Вялікім княстве Літоўскім і Рускім вялікімі князямі асабіста рускія князі ніколі не былі, хаця Беларусь ўся была ў складзе Княства. Гэта, дарэчы, красамоўна гаворыць аб фактычным характары адносін да русінаў: да ўлады іх не дапускалі. Як гаворыцца, дружба дружбай, а тытунец паасобку: літоўскія князі ўнутрана асцерагаліся рускіх князёў.

Але падкрэслім, эпоха Вітаўта – гэта вяршыня княства Літоўскага, калі праваслаўныя былі роўнымі між роўных, а не заложнікамі ўціску Рэчы Паспалітай. Разнароднасць грамадства пры Вітаўце была карыснай: так у будучай беларускай нацыі выпрацоўвалася яе лепшая якасць – памяркоўнасць.

У Еўропе Вітаўт карыстаўся вялікім аўтарытэтам. Імкнучыся яго замацаваць і дабіцца поўнай самастойнасці ад Польшчы, ён устанавіў добрыя адносіны з Ватыканам. Рымскі папа Марцін V прысвоіў яму каралеўскі тытул і даручыў спецыяльнай дэлегацыі правесці каранацыю.

Двойчы збіраліся – спачатку ў Луцк, а потым у Вільню – запрошаныя на гэтае вялікае для гаспадара Вітаўта свята каранаваныя суседзі. Сярод іх былі яго ўнук Васіль II Маскоўскі з мітрапалітам Фоціем, вялікі князь Цвярскі Барыс Аляксандравіч, паслы з Ноўгарада Вялікага, Пскова, Разані, кароль Польшчы Ягайла, імператар Рымска-Германскі Сігізмунд і кароль Венгрыі, гаспадар Валошскі (Малдаўскі), хан Перакопскі Хаджы Гірэй, паслы Візантыйскага імператара.

Аднак з-за інтрыг Ягайлы і каталіцкай царквы Польшчы карону для Вітаўта затрымалі ў Германіі. Вітаўт яе не дачакаўся. Здрадніцтва палякаў так уразіла яго, падарвала сілы, што ён злёг і, не адужаўшы хваробы, праз два месяцы памёр. Карона будучага караля Вялікага княства Літоўскага і Рускага вярнулася ў Рым.

Сыноў у Вітаўта не было. Адзіная яго дачка Соф'я была маскоўскай княгіняй. Але пераемнасць захавалася.

Адразу ж пасля пахавання Вітаўта ў Вільні на з'ездзе князёў і магнатаў, насуперак волі Ягайлы, перамагла праваслаўная партыя: вялікім князем быў абраны актыўны прыхільнік праваслаўя дваюрадны брат Вітаўта, родны брат Ягайлы – Свідрыгайла Альгердавіч.

Ацэньваючы гэты перыяд у гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы, сучаснік Вітаўта Мікола Гусоўскі ў сваёй паэме на лацінскай мове "Песня пра зубра" пісаў:

"Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы росквітам княства Літоўскага, нашага краю, і называюць той век залатым".

❖

Пасля доўгага перапынку ў другой палове XIV стагоддзя з'яўляюцца першыя дакументы і гістарычныя крыніцы, у якіх згадваецца наш Гарадок, князі Гарадзецкія і падзеі, звязаныя з імі.

У гэты час быў складзены адзін з першых рускіх геаграфічных твораў, які быў змешчаны ў адным з Наўгарадскіх летапісаў.

Гэта – "Список городов русских, дальних и ближних". Усяго іх у спісе 358. Усе гарады размешчаны па групах: балгарскія і валошскія, падольскія, кіеўскія, валынскія, літоўскія, смаленскія, разанскія, залескія, наўгародскія і пскоўскія, цвярскія.

Усе гэтыя гарады знаходзіліся ў розных дзяржаўных утварэннях, самымі буйнымі з якіх былі вялікія княствы Літоўска-Рускае і Маскоўскае. Падыход невядомага аўтара быў культуралагічны: гэтыя гарады аб'ядноўвала еднасць мовы (за выключэннем балгар і валахаў – малдаванаў) і еднасць праваслаўнай веры.

У спісе гарадоў Тураў адносіцца разам з Мазыром да гарадоў кіеўскіх, Пінск і Брэст – да валынскіх, Мінск – да літоўскіх. Сярод апошніх значыцца і Городна, аб якім буйнешы знаўца рускага летапісання акадэмік М. Н. Ціхаміраў у сваёй рабоце "Русское летописание" адзначаў:

"Остается невыясненным положение города Городно, так как названий "городок", "городец" встречается очень много. Ясно только, что это Городно не имеет никакого отношения к Гродно, названому выше, как Городец на Немане".

У главе "Князь Буйны і яго горад" гаварылася аб Гародні і яе князях, сыне і ўнуках Давыда. Самыя вядомыя расійскія гісторыкі, а таксама такія аўтарытэтныя беларускія, як Доўнар-Запольскі і Ермаловіч, не атаясамляюць Гародню з Гродна, а лічаць, што першая знаходзілася на поўдні Беларусі. Верагодна, што ў "Списку городов русских" Городна гэта і ёсць наш Гарадок.

У 1895 годзе ў Варшаве выйшла адзінае ў сваім родзе генеалагічнае даследаванне польскага гісторыка акадэміка Юзафа Вольфа (1854–1900) "Князі літоўска-рускія з канца XIV ст.".

У гэтай рабоце ў алфавітным парадку пералічаны ўсе вядомыя ў гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы княжацкія рады. Пры іх апісанні даецца ўся радаслоўная роду, роднасныя і маёмасныя адносіны з другімі радамі, іх удзел у дзяржаўна-палітычных падзеях.

Княжацкі тытул існаваў на Русі з IX стагоддзя і быў самым высокім і ганаровым у пануючым класе феадалаў. Яго мелі толькі нашчадкі першага легендарнага князя Рурыка, якія і зваліся таму – Рурыкавічамі. Яны былі вялікімі князямі Кіеўскімі, а потым князямі ўсіх удзельных княстваў раздробленай Русі. Дынастыя Рурыкавічаў правіла Маскоўска-Рускай дзяржавай да канца XVI стагоддзя.

У XIV стагоддзі ў Літоўска-Рускай дзяржаве з'явілася другая галіна князёў – Гедзімінавічы, нашчадкі вялікага князя-літоўца, заснавальніка Гедзіміна.

Тытулы князя надаваліся імператарамі Свяшчэннай Рымскай (Германскай) імперыі асобным феадалам-магнатам за вялікія асабістыя заслугі. З пачатку XVIII стагоддзя такі ж метад заахвочвання – узнагароды – прымянялі і расійскія імператары. Тытул князя быў спадчынным, захоўваецца ён і зараз.

У вышэйназваным творы даведка аб князях Гарадзецкіх даецца пасля галіны славутых у гісторыі гаспадарства князёў Гедзімінавых. У пачатку даведкі гаворыцца:

"Гняздом князёў Гарадзецкіх, існуючых на Літве з канца XIV і да пачатку XV ст. ды належачых да групы князёў Пінска-Тураўскіх, з'яўляецца мясцовасць Гарадок на Піншчыне, званая потым Гарадок Давыдаў, цяпер Давыд-Гарадок".

Старэйшая па часу дата, якая прыводзіцца Ю. Вольфам, – гэта 1382 год. У кнізе генеалагічных дрэваў гаворыцца:

"Дакладна, што князь Давыд жаніўся з Марыяй, дачкою вялікага князя Альгерда, удавою Войдылы з 1382 г. Менавіта гэты князь Давыд Дзмітрыевіч Гарадзецкі з сваёй княгіняю Марыяй запісаны ў Любецкім сінодзіку".

У знойдзеных найстарэйшых дакументах згадваецца імя князя Дзмітрыя Гарадзецкага. Яго сын Давыд Дзмітрыевіч, як відаць з вытрымкі, быў зяцем Альгерда, а яго жонка Марыя – сястрой правіўшага ў гэты час вялікага князя Ягайлы.

У 1388 годзе Давыд Гарадзецкі разам з князем Карыбутам Наўгарад-Северскім прысягнулі на вернасць каралю Ягайлу, каралеве Ядвізе і кароне Польскай.

Каля 1390 года ў Любецкім сінодзіку сустракаюцца знаёмыя нам імёны – "князь Давыд Димитриевич Городецький со своя княгыня Мария", што сведчыла аб адсутнасці іх сярод жывых.

Іх адзіны сын Мітка (Дзмітрый) спачатку, як і бацька, у складзе знатных юнакоў знаходзіўся ў 1412–1416 гадах пры двары караля Ягайлы ў

Кракаве. Можна з упэўненасцю сказаць, што ён быў удзельнікам славутай Грунвальдскай бітвы.

Вярнуўшыся ў Гарадок, ён становіцца падданым Вітаўта, якому прысягае, а пазней і Свідрыгайлу Альгердавічу, свайму дзядзьку. Кароткае княжанне Свідрыгайлы (1430–1432) характарызавалася яго апорай на праваслаўнае насельніцтва, што не падабалася феадалам-каталікам, якіх актыўна падтрымлівала Польшча.

Супраць Свідрыгайлы была арганізавана змова, якую ўзначаліў брат Вітаўта Жыгімонт Кейстутавіч, які быў абвешчаны вялікім князем – магнатамі-каталікамі. Дух Вітаўта яшчэ лунаў над дзяржавай, а ў Княстве ўжо расла напружанасць. Галоўным для ўлады станавілася веравызнанне, і не якое-небудзь, а каталіцкае. Каталіцкія колы Польшчы ўзяліся перакоўваць Княства Літоўскае і Рускае на свой лад.

Чым скончылася гэта апрацоўка – вядома. З часам самастойнае Вялікае княства Літоўскае і Рускае, найвялікшае ў Еўропе і славутае сваёй духоўнай сілай і народам, пераўтвараецца ў другасную правінцыю Польшчы, губляюць старажытныя прэарытэты Кіеўскай Русі і высакародныя прывілеі Рурыкавічаў нашчадкі праваслаўных князёў, павінныя падпарадкоўвацца польскай шляхце. А назва Вялікае княства Літоўскае і Рускае сцвярджала, што дзяржава спалучае два народы – літоўскі і рускі, у нашым выпадку – беларускі.

Для каталіцтва такое двуадзінства, нармальнае ў "залаты век" Вітаўта, пры якім народы не пагарджаліся, а развіваліся, як роўныя між роўных, было прыкра. Княства павінна было стаць аднародным – за кошт праваслаўных, за кошт народа беларускіх зямель, правы якога і само існаванне, як роўнага, падкрэслівалася ў афіцыйнай назве Княства.

Але гэта быў толькі пачатак уціску. Праз некаторы час пры дапамозе ўніяцтва – гэтага траянскага каня Ватыкана – ідзе новы наступ на свядомасць рускай часткі княства: разбураецца і знішчаецца айчыннае Праваслаўе, атрыманае ад Візантыі і Кіева, спадчынная вера продкаў.

Прайшлі стагоддзі, але і сёння ва ўжытку беларускай гістарыяграфіі былое славаўтварэнне, да якога ўсе прывыклі, але якое памылковае і прапольскае: Вялікае княства Літоўскае. Назва, як кажуць, кульгае: яна скарочана за кошт Рускага княства (беларускага). І мала таго, што гэта назва не дакладная па сутнасці, яна яшчэ і зневажае памяць вялікага князя Вітаўта, генія дзяржавы, які інтрыгамі Польшчы быў пазбаўлены кароны і тытула караля. Хто ведае, як склаўся б лёс Вялікага княства пад эгідай караля Вітаўта? Думаецца, што не горш, а куды лепш, чым гэта адбылося ў рэальнасці.

З каралямі Вялікага княства літоўскага і Рускага не проста было б змагацца Польшчы. Больш таго, хутчэй за ўсё Вялікае княства скасавала б саюз з Польшчай і пайшло б самастойным шляхам. Так што ў кароне Вітаўта быў захаваны вялікі сэнс, вялікая будучыня Княства і разам з тым – добрая будучыня праваслаўнага народа беларускіх зямель.

Адстойванню гэтых каранёў і прысвечаны драматычны лёс праваслаўнага насельніцтва, многія пакаленні якога змагаліся супраць паланізацыі, акаталічвання, уціску польскай шляхты на правы і прывілеі бацькоў і дзядоў.

Ёсць адно вялікае адрозненне гістарычных працэсаў у суседзяў: Вялікага княства Літоўскага і Рускага – і Вялікага княства Маскоўскага, хаця абодва яны былі нашчадкамі Кіеўскай Русі. Феадальная барацьба ў Маскові не была рэлігійнай, а ў княстве Літоўскім і Рускім з умяшальніцтвам Польшчы яна хутка набыла выключна рэлігійны характар.

Пастаўлены каталіцкімі коламі вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч, хаця і быў родным братам Вітаўту, загубленаму інтрыгамі Польшчы, і сынам свайго бацькі Кейстута, які супрацьстаяў апалячванню ўлады, трымаўся аднак другога шляху. Ягайла і Польшча былі яму бліжэй, чым спадчына вялікага брата.

Уладу новага вялікага князя прызналі Літва, Жамойція, Падляшша, Берасцейская, Прынёманская і Менская землі.

Астатнія землі Беларусі, Украіны і Севернай Русі падтрымалі Свідрыгайлу Альгердавіча, абаронцу праваслаўнага люду. Галоўнай мэтай рускіх (беларускіх і ўкраінскіх феадалаў) было ўраўнаважанне іх з феадаламі-каталікамі.

Гэту барацьбу ўлады вымушаны былі ацаніць па заслугах. Ягайла і Жыгімонт праз сілу мусілі выдаць прывілеі, згодна з якімі пашыраліся маёмасныя і асабістыя правы праваслаўных феадалаў. Зроблена гэта было з вядомай спакусай, з мэтай падкупіць і раскалоць адзінства праваслаўнага княства. Што і адбылося – значная частка феадалаў адышла ад Свідрыгайлы.

Гэта была трагедыя праваслаўнага руху. У бітве пад Вількамірам у 1435 годзе Свідрыгайла быў разбіты. У наступным годзе барацьба закончылася перамогай Жыгімонта.

У гэтай вайне на баку Свідрыгайлы прымаў удзел і князь Мітка Гарадзецкі. Ужо пасля заканчэння вайны ён быў выселены з Гарадка і пражываў на Курачы ў Ровенскім павеце, дзе знаходзіўся і Свідрыгайла. Яго жыццё закончылася трагічна. Ягоны службоўца Радзівіл падаў на яго данос аб тым, што князь Мітка Гарадзецкі рыхтуе змову супраць Жыгімонта. Гэта быў паклёп, аднак падазроны і жорсткі вялікі князь аддаў загад кінуць змоўшчыка Мітку, паплечніка свайго ворага Свідрыгайлы, ў турму, дзе ён і загінуў у 1440 годзе. Нам невядома, ці была ў Міткі сям'я. Хутчэй за ўсё, дзяцей у яго не было, таму што па феадальных законах таго часу ўладаром княства стаў бы нашчадак, а яго не аказалася.

Жыгімонт Кейстутавіч быў фанатычным каталіком, занадта падазроным, усюды ён бачыў інтрыгі і шукаў змоўшчыкаў, хапаў правых і няправых, выкрываў уяўных ворагаў і паслядоўнікаў Свідрыгайлы, жорстка караў і выносіў смяротныя прыгаворы. Для барацьбы з пратэстан-

тызмам ён адзіны з князёў увёў інквізіцыю, якая праіснавала 43 гады і нарабіла гора многім. У сваіх паводзінах Жыгімонт браў прыклад з фанатыкаў-каталікоў Заходняй Еўропы, якія распалілі ад мора да мора дзесяткі тысяч кастроў для сваіх ахвяр.

Супраць Жыгімонта была арганізавана змова паўднёва-рускіх князёў Івана і Аляксандра Чартарыйскіх, а таксама віленскага і трокскага ваяводаў Даўгірда і Лялюша. Ад гэтай змовы залежаў лёс дзяржавы і большасці насельніцтва, змоўцы рызыкавалі жыццём. Але вынікі яе былі паспяховымі – Жыгімонт быў забіты.

Гэта здарылася ў год гібелі апошняга князя Гарадзецкага – Міткі (Дзмітрыя) Давыдавіча. Гэта было глыбока сімвалічна: нібыта мсціўны і гнеўны заснавальнік роду князёў Гарадзецкіх легендарны Давыд з магілы Замкавай гары, са свайго саркафагу, моцнай рукой пакараў забойцу – Жыгімонта.

Тры з паловай стагоддзі Гарадзецкая княжацкая галіна Рурыкавічаў валодала непарушна Гарадком і сваім удзелам – і згасла, як згаслі многія княжацкія роды: Алелькавічы – Слуцкія, Астрожскія, Гальшанскія, Бельскія.

У 1445 годзе княства Гарадзецкае было перададзена ва ўласнасць пражываўшаму на Валыні былому вялікаму князю Свідрыгайлу. Гэта зрабіў для свайго дзядзькі новы вялікі князь сын Ягайлы Казімір, які пазней быў абраны і каралём Польшчы.

У 1452 годзе Свідрыгайла памёр. Гарадзецкае княства перайшло да яго ўдавы Ганны Іванаўны з роду цвярскіх князёў. Але памяць аб гарадзецкіх князях не згубілася. Традыцыя наследнай вотчыннай спадчыны была настолькі трывалай, што, падпісваючы дакументы, княгіня пасля свайго імя пісала – “по князю Митка”, што азначала безумоўна адно – рысу пераемнасці. Княгіня падкрэслівала, што яна валодае княствам пасля князя Міткі.

А можа Ганна Іванаўна, у мінулым князёўна Вялікага княства Маскоўскага, рабіла гэта ў гонар і памяць аб мужным Мітку, абаронцы святога Праваслаўя, які быў апошнім, хто лёг у радавы склеп Гарадзецкіх князёў на Замкавай гары ў Гарадку Давыдаве.

Менавіта так падпісана даравальная грамата княгіні аб перадачы зямель царкве святога Мікалая. Княгіня Ганна памерла ў 1486 годзе. Нашчадкаў у Свідрыгайлаў не было, і па тагачаснаму закону ўласнасць аб'яўлялася – вымарачнай, гэта значыць пераходзіла да дзяржавы ў асобе вярхоўнага Гаспадара.

Новым уласнікам княства Гарадзецкага стаў прадстаўнік князёў Рурыкавічаў з Маскоўскай дзяржавы. Серпухаўскі князь Яраслаў Уладзіміравіч Харобры быў зяцем вялікага князя Альгерда. Ушаноўваючы памяць свайго славутага продка, яго нашчадкі называлі сябе князямі Яраславічамі.

За актыўную апазіцыйную дзейнасць супраць вялікага князя Мас-

коўскага Васіля II сын Яраслава Харобрага Васіль быў арыштаваны. Відавочна, па парадзе мужа яго жонка з сынам Іванам з'ехалі ў Літву, што было ў той час выйсцем для розных уцекачоў ад улады Маскоўскага княства. Тым больш, што на гэты раз бежанцы былі родзічамі Казіміра IV.

Сын Васіля Іван і стаў наступным уладальнікам Гарадка і гарадзецкіх зямель, але не толькі іх. Іван Васільевіч Яраславіч спачатку атрымаў Гарадзецкае княства. Гэта адбылося да 1492 года, таму што згодна з архіўнымі дакументамі, ён у гэты час ужо тут гаспадарыў. Некалькі пазней ён дадаткова атрымаў Клецкае княства і Рагачоўскую воласць. Атрымалася даволі вялікая феадальная гаспадарка на паўднёвых землях.

Падобныя падзеі адбыліся і ў Пінску. Пасля смерці князя Юрыя Сямёнавіча, не маючага нашчадкаў, княства, як пазней Гарадок, стала фактычна вымарачным.

У 1470 годзе памёр Кіеўскі князь Сямён Алелькавіч. Кіеў адышоў пад уладу вялікага князя, а ўдава Сямёна Алелькавіча Марыя Іванаўна з дзецьмі атрымала Пінск – "на кормление".

У 1498 годзе сын князя Івана Гарадзецкага – Фёдар ажаніўся з дачкою княгіні Марыі Пінскай – Аленай Сямёнаўнай і пераехаў з Гарадка ў Пінск. У дакументах аб гэтым гаворыцца: "дочку ее милости княгини Марии Семеновной с тым замком Пинским понял".

У 1501 годзе памерла цёшча, княгіня Марыя Іванаўна, а ў 1508 годзе – бацька, князь Гарадзецкі Іван Васільевіч Яраславіч, і Фёдар становіцца адзіным гаспадаром значнай часткі тэрыторыі Палесся – Пінскага, Гарадзецкага і Клецкага княстваў і Рагачоўскага старраства.

Каб не дапусціць драблення ўладання, пад націскам вярхоўнай улады Фёдар Яраславіч разам з жонкай падпісалі ў 1509 годзе з вялікім князем Аляксандрам Казіміравічам пагадненне, згодна з якім у выпадку адсутнасці роднасных нашчадкаў усе іх уладанні пераходзяць ва ўласнасць вялікага князя, а пакуль ім забаранялася завяшчаць, перадаваць альбо дарыць асобныя зямельныя надзелы ў княствах.

У 1508 годзе адбылося паўстанне праваслаўных феадалаў на чале з князем Міхаілам Глінскім. Цэнтрам паўстання стаў Тураў – прыватнаўласніцкі горад князя. Мэтай Глінскага было стварэнне самастойнага ад Польшчы Княства, у якім асноўнай сілай і апорай будзе "рускі" шляхціч, праваслаўе, традыцыі продкаў.

Вядома, што гэта выступленне падтрымала Масква, але яно пацярпела паражэнне. Глінскія сышлі ў Маскву, дзе сталі адной з самых уплывовых груповак. Вялікі гетман Канстанцін Астрожскі, дзеянні якога канчаткова вырашылі лёс паўстання, атрымаў у прыватнае ўладанне Тураў. Пінска-Гарадзецкае княства ў гэтым выступленні ўдзелу не прымала.

Пасля Аляксандра Казіміравіча вялікім князем і каралём польскім стаў яго брат Жыгімонт I (1606–1648).

У 1512–1522 гадах адбылася чарговая маскоўска-літоўская вайна. 8 верасня 1514 года на рацэ Крапіўна пад Оршай меншае па колькасці войска літоўска-рускае нанесла паражэнне маскоўскаму. Вынікі бітвы прагучалі на ўсю Еўропу, якая была прыемна ўражана. Еўрапейскія манархі віншавалі Літву з перамогай над маскавітамі.

Пераможца, гетман князь К. Астрожскі, быў задаволены: так ён адпомсціў Масковіі за свой сямігадовы палон, адкуль ён уцёк. Аднак гэтая бітва не мела рашаючага значэння, гэта быў адзінкавы, выключны выпадак. Смаленск Літва не адваявала, а вайна закончылася на карысць Масквы. У гэтай вайне пінска-гарадзецкія харугвы не сустракаюцца. Магчыма, неабходныя сілы былі патрэбны нашым землякам для абароны ад татараў.

У 1518 годзе памерла княгіня Алена (Аляксандра) Сямёнаўна, а 24 жніўня 1520 года памёр князь Фёдар Іванавіч Яраславіч. Дзяцей у іх не было. Так згасла яшчэ адна галінка з велізарнага дрэва Рурыкавічаў, якое магутна раскінулася і гучна шумела на неабсяжных землях Усходняй Еўропы мноства вякоў. Нейкі нядобры рок дзейнічаў на гарадзецкіх землях: яны ўвесь час гублялі сваіх гаспадароў.

Нашчадак серпухаўска-бароўскіх Рурыкавічаў князь Фёдар Іванавіч Яраславіч (каля 1470–1520) – выдатная асоба ў сярэдневяковай гісторыі Палескага краю. Ён быў высокаадукаваным чалавекам, добрым адміністратарам і гаспадаром, вялікім прыхільнікам рускай культуры, актыўным дзеячом праваслаўнай царквы.

Да нашага часу дайшло даволі многа дакументаў князя Фёдара. Гэта граматы і прывілеі, напісаныя на пергаменце. Самы ранні з іх – ад 10 чэрвеня 1501 года. Дзякуючы гэтым дакументам, мы маем магчымасць устанавіць першапачатковыя даты ўпамінання шматлікіх пунктаў значнай часткі Паўднёвага Палесся, у тым ліку і Століншчыны. У дакументах князя Фёдара згадваецца шэраг розных асоб, іх прозвішчы, а таксама гаспадарчыя аб’екты.

Усе дакументы, як правіла, князь падпісваў: “сполна со княгиней своей Оленей”, і яны замацоўваліся іх асабістымі пячаткамі. Аб гэтым сведчаць пацвярджальныя прыпіскі, якія захаваліся на некаторых граматах: “Нашу печать привесистую приложили”, “Печати есмо своя привесили”.

Фёдар Іванавіч быў вялікім прыхільнікам мастацтва. У яго замку ў Пінску працавалі лепшыя майстры краю, народныя таленты, прадстаўнікі мастацкіх прафесій. Сярод мастакоў былі выхадцы з Гарадка – Навоша і Цімошка. Першы быў мастаком, а другі – залатых спраў майстрам. Аб Навошы гутарка будзе ісці ў главе “Мастак і каралева”, а зараз мы спынімся на згаданай вышэй віслай пячатцы князя Фёдара Іванавіча.

Зараз вядомы тры васкавыя пячаткі, якія захаваліся на двух граматах 1509 года і грамаце 1513 года. Усе яны захоўваюцца ў Вільнюсе ў Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы. У лепшым стане віслая пячатка

на апошняй грамаце. Гэта – даравальная на зямлю Прачысценскай царкве святой Багародзіцы ў Пінску. Дакумент напісаны на пергаменце, у якога знізу на чырвоным шаўковым шнуры знаходзіцца карычневая васкавая пячатка. Воск сашчэплівае канцы шнуроў. Адбітак пячаткі рабіўся на падагрэтым круглым кавалку воска і ўяўляе прамавугольны шчыт, вакол якога зроблены надпіс у выглядзе кола. Тэкст надпісу традыцыйны – гэта імя, імя па бацьку і тытул уладальніка пячаткі:

"Федор Иванов Ярославич князь Пиньский".

Радыяльнае размяшчэнне літар паміж двума кругавымі палосамі стварае прыгожае спалучэнне з цэнтральнай часткай пячаткі. У надпіс даволі дасканала і па-майстэрску ўпісаны рускай формы шчыт з выявай конніка.

Пячатка князя Фёдара была залатая, зробленая майстрам Цімошкам з Гарадка, як звычайна звалі яго, у пачатку XVI стагоддзя.

Князь Фёдар быў шырокай душы, высока цаніў чалавечыя таленты, кажучы сучаснай мовай, быў шчодрым мецэнатам. У ліку іншых князь, як добраму майстру залатых спраў, дараваў Цімафею Дзмітрыевічу зямлю ў вёсцы Жыдча, хаця той меў ужо добрую сядзібу ў самім Пінску.

Відавочна, князь Пінска-Гарадзецкі займаўся і літаратурнай дзейнасцю, таму што эпітафію да свайго помніка склаў сам:

"Широкии панства Федор Ярославич Иванович
отдедичивший многою сиял я знатностью."

Ён пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры, як і заснавальнік Гарадка знакаміты князь Давыд.

Велізарныя ўладанні пінска-гарадзецкіх, ужо не існуючых, князёў адышлі да дзяржавы. Яе ўвасабляў кароль і вялікі князь Жыгімонт І. Ён аддаў гэтыя мясціны сваёй маладой жонцы-каралеве, італьянцы Боне з роду герцагаў міланскіх Сфорца. Наступіў новы перыяд у гісторыі Паўднёвага Палесся.

Пачынаючы з XVI стагоддзя Гарадок пачынае называцца Гарадком Давыдавым. Пад такой назвай ён з'яўляецца і на геаграфічных картах. Але яшчэ доўга ў дакументах выкарыстоўвалася першапачатковая назва, а ў мясцовым будзённым ужытку і зараз гучыць старажытнае і мілагучнае, ад часоў Давыдавых – Гарадок.

# ТАТАРСКАЯ ЛАГЧЫНА

*Мы на пярэднім краі хрысціянства*
*заставай*
*Орды варожыя грудзі на грудзі*
*прымаем.*

***М. Гусоўскі. Песня пра зубра***

Страшэнным бедствам для значнай часткі народаў Азіі і Еўропы было мангольскае нашэсце ў першай палове XIII стагоддзя.

Своеасаблівай разведкай быў першы іх паход з Каўказа на Паўднёвую Русь у 1223 годзе. У бітве на рацэ Калка ў Прыазоўі рускія войскі пацярпелі паражэнне. Загінула большасць князёў разам з вялікім князем Кіеўскім Мсціславам Раманавічам. У складзе дружыны князя Валынскага Данілы Раманавіча быў князь Дубровіцкі Аляксандр, які таксама загінуў.

У рускіх летапісах і творах з сярэдзіны XIII стагоддзя заваёўнікаў з Азіі ўжо называюць толькі татарамі. Адно гэта імя наводзіла жах. У Еўропе з дахрысціянскіх часоў ведалі ад грэкаў пра існаванне жудаснай краіны смерці – міфалагічнага Тартара. Дзікія качэўнікі нагадвалі яе жыхароў.

Нашэсце мангола-татараў на Русь на чале з ханам Батыем, унукам Чынгіс-хана, адбывалася ў 1237–1240 гадах. Яно суправаджалася страшэнным разбурэннем і спусташэннем краіны, зруйнаваннем гарадоў і здзічэннем палёў, знішчэннем культуры і гібеллю многіх тысяч людзей, нявольніцтвам і палонам.

Заваёўнікам садзейнічала раздробленасць Русі, адсутнасць адзінства паміж удзельнымі князямі. Толькі Наўгародская зямля і Заходняя Русь (Беларусь) не падвергліся нашэсцю.

Восенню 1240 года Батый авалодаў Кіевам. Як і другія гарады, ён быў спустошаны: воіны і жыхары былі перабіты, тысячы людзей захоплены ў рабства. Сталіца старажытнай Русі перастала існаваць, цэрквы і палацы сталі руінамі, і на доўгія стагоддзі Залаты Кіеў, маці гарадоў рускіх, застаўся невялікім горадам.

Адсюль Батый рушыў на Галіцка-Валынскую зямлю. Галіч і Уладзімір спасціг лёс Кіева. Ацалелых жыхароў татары “изби не щадя”. Тое ж было з “инии гради мнози, им же несть числа”. Потым трыма калонамі мангола-татары пайшлі на захад: пыл і смурод ад арды падымаліся да сонца, так што змрок ахінаў зямлю, знішчаную бедную Русь. Так гавораць фальклорныя крыніцы, якія захаваліся ад тых гаротных часоў.

У рускіх летапісах пры апісанні гэтага паходу ўпамінання аб утаржэнні татараў на поўдзень Беларусі няма. Аднак у многіх гістарычных выданнях сцвярджаецца, што орды Батыя прайшлі і тут.

У сінадальным выданні 1867 года "Воспоминание о древнем православии Западной Руси" аб нашэсці Батыя на Палессе гаворыцца так: "Татары, покончив с Туровом, двинулись к Давид-Городку; Давид-Городок постигла такая же участь, что и Туров. Но, завладевши Давид-Городком, татары почему-то полюбили это место и засели в Давид-Городке".

Згадванне такога цікавага факта цвёрда і без акалічнасцяў наводзіць на думку, што аўтары гэтай кнігі валодалі нейкімі дакументальнымі крыніцамі, якія невядомы сучасным гісторыкам.

Адзін з вядомых беларускіх гісторыкаў Л. С. Абэцэдарскі (1916–1975) лічыў, што манголы прайшлі на поўдзень Беларусі і што ў Давыд-Гарадку знаходзіўся баскак – ханскі намеснік Тураўскай зямлі. Гэты факт быў выкладзены ў першым выпуску "Нарысаў па гісторыі Беларускай ССР" (1949), а таксама ў першым томе акадэмічнага выдання "Гісторыя Беларускай ССР" (1972).

Але гэты гісторык савецкага часу, на жаль, не прыводзіць ніякіх доказаў свайго сцвярджэння аб баскаках у Гарадку. Як няма таго ж самага і ў кароценькім гістарычным паведамленні, змешчаным у часопісе "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" (№ 1 за 1988 год):

"Упершыню татарскія атрады з'явіліся на поўдні Беларусі ў 1240 годзе. Крывавы след арды пад камандай ханаў Гаюка і Кайдана прайшоў па зямлі Турава-Пінскага княства праз Мазыр, Тураў, Петрыкаў, Клецк, Слуцк... Галоўная стаўка арды размяшчалася ў Давыд-Гарадку, куды татарская раць звозіла даніну з усіх навакольных гарадоў і мястэчак".

Як бачым, апетыты гісторыкаў растуць: баскакператварыўся ў галоўную стаўку арды – і зноў жа ніякіх доказаў. Ці трэба чакаць, што заўтра напішуць аб Бату-хане, які таксама сядзеў у Давыд-Гарадку, бо ён яму палюбіўся?

Разгледзім факты. Верагодна, татары паўночнай групоўкі военачальніка Бурундая прайшлі вузкай паласой Прыпяці з усходу на захад, разграбіўшы Мазыр, Петрыкаў, Тураў, Гарадок, магчыма, і Пінск. Далей на поўнач яны не заходзілі. Ёсць звесткі, што яны абрабавалі і Бярэсце перад уваходам у Польшчу.

У час гэтага паходу ніякіх баскакаў яшчэ не назначалася: у імклівым наступе было не да таго. Гэта пачалося пасля таго, калі орды Батыя праз два гады вярнуліся з Еўропы і пасяліліся ў Ніжнім Паволжжы, стварыўшы грабежніцкую дзяржаву Залатую Арду. Ханскія намеснікі – баскакі – назначаліся для ўмацавання ардынскай улады ва ўсе рускія княствы Усходняй Русі. На Беларусі іх ніколі не было.

Першае па часе ўпамінанне пра нашэсце татараў на Беларусь належыць да 1263 года. Яно змешчана ў "Хронике литовской и жмойтской". Унук Батыя хан Кайдан быў разбіты князем Міндоўгам у вусці Прыпяці і выратаваўся ўцёкамі.

Рабаўнічыя паходы ардынцаў былі ў 1275 і 1287 гадах. Да гэтага

часу яны абжыліся ў Крыме, а стэпавыя прасторы паўднёвай Украіны сталі выганам для іх шматлікіх табуноў. Адсюль яны і рабілі свае набегі – галоўным чынам на Беларусь.

Першы адчувальны ўдар па грабежніках нанёс вялікі князь Альгерд. У 1362 годзе ў бітве на рацэ Сінія Воды (левы прыток Паўднёвага Буга) ён разграміў групоўку з трох ордаў, якія ўладарылі на гэтых стэпавых прасторах. Пераможцы завалодалі вялікім абозам – і ўздоўж Паўднёвага Буга дайшлі да Чорнага мора.

У гэтым паходзе прымала ўдзел Пінская дружына князя Патрыкія Нарымунтавіча, у якой, магчыма, быў і князь Гарадзецкі Дзімітрый. Вынікам гэтага пераможнага паходу было канчатковае далучэнне Кіеўскай, Чарнігаўскай, Падольскай і Валынскай зямель да Вялікага княства Літоўска-Рускага.

Вялікі князь Вітаўт быў першым, хто ахвотна браў да сябе на службу татараў. А ў 1937 годзе ён прыняў хана Залатой Арды Тахтамыша, пацярпеўшага паражэнне ў міжусобнай ардынскай барацьбе. Гэта быў той самы Тахтамыш, які праз два гады пасля Кулікоўскай бітвы, выкарыстаўшы адсутнасць князя Дзімітрыя Данскога, падманным шляхам захапіў на кароткі час Маскву.

А зараз безуладны хан лісліва прасіў у Вітаўта дапамогі замацавацца ў Крыму. Татары былі вялікай сілай, якая адна магла прыпыніць узмацненне Масковіі, а прыярытэты ў Вітаўта былі ранейшыя: з насцярогай глядзеў ён на вялікага суседа – княства Маскоўскае. Вядома, што вялікі князь Літоўскі Ягайла быў саюзнікам хана Мамая і на Кулікоўскім полі літоўскія войскі, якія спяшаліся туды, не з'явіліся выпадкова, бо спазніліся.

Нягледзячы на грабежніцкія набегі ардынцаў на беларускія землі Княства, Вітаўт меў зносіны з татарамі – у барацьбе з Масковіяй ён не цураўся нічога. Славутая Кулікоўская бітва, як выбух, уразіла яго – растаптаная Масковія падымалася на ўсходзе велічным волатам.

І Вітаўт пайшоў Тахтамышу насустрач. Летам са сваім войскам ён дайшоў да нізоўяў Дона, а адтуль выступіў у Крым каля Кафы (зараз Феадосія). Там Вітаўт разбіў крымчакоў і дапамог замацавацца Тахтамышу. З Крыма Вітаўт вывеў вялікі палон татараў, якія былі расселены ім у розных гарадах Княства.

Спробы Тахтамыша захапіць уладу ў Ардзе пасля Крыма зноў для яго закончыліся ўцёкамі да Вітаўта. Апошні паабяцаў дапамогу хану ў захопе трона Залатой Арды, за што Тахтамыш павінен быў выдаць яму ярлык (дазвол на ўладанне) – на Вялікае княства Маскоўскае, якое і пасля поля Кулікова яшчэ плаціла даніну, а таксама – на Наўгародскую і Пскоўскую землі.

Прагнасць Вітаўта да маскоўскіх зямель мела свой канчатак, як і яго небяспечныя гульні з ханамі Залатой Арды. Канчатковая і вялікая бітва з Залатой Ардой за трон Тахтамыша адбылася ў жніўні 1399 года на

рацэ Ворскле (левы прыток Дняпра). Вітаўт у asляпленні сваімі геапалітычнымі планамі не разлічыў сілаў і пацярпеў страшэннае паражэнне. У той лютай бітве загінулі лепшыя войскі Княства – некалькі тысяч воінаў, у тым ліку 16 літоўска-рускіх князёў. Удзел у бітве прымалі воіны з Пінска, Турава, Гарадка.

Велічная Кулікоўская бітва зламала хрыбет Залатой Ардзе, і праз паўстагоддзя яна распалася на некалькі ханстваў. Геапалітычным авантурам Вітаўта на ўсходзе прыйшоў канец – ніхто і ніколі цяпер ужо не мог даць яму ярлык на Вялікае княства Маскоўскае. Але самым жывучым з ханстваў, на якія разбілася Арда, аказалася менавіта Крымскае, створанае ў 1443 годзе ў барацьбе за ўладу, дзе з дапамогай Польшчы і Літвы замацавалася дынастыя Гірэяў.

Надзея была на тое, што татары будуць змагацца з Маскоўскай Руссю, і гэтая надзея спраўдзілася. Але татары, гэтая драпежная стыхія, грабілі і землі Княства. Ды і княства Маскоўскае неаднаразова выкарыстоўвала татараў у сваіх мэтах.

Крымскае ханства, нашчадак Залатой Арды, было дзяржавай-драпежнікам. Развіццё прадукцыйных сіл тут знаходзілася на даволі нізкім узроўні, але шырока была развіта вандроўная конегадоўля і вырошчванне авечак.

Традыцыйна з часоў Чынгіс-хана адным са звычайных спосабаў матэрыяльнага забеспячэння свайго дабрабыту для качэўнікаў заставалася ваеннае грабежніцтва, якому падвяргаліся суседнія краіны. Гэта было прымітыўнае, нахабнае жыццё за кошт другіх, значна вышэй развітых народаў.

Каб здзяйсняць грабежніцтва рэгулярна ў вялікіх маштабах, ды яшчэ паспяхова, трэба было асаблівае выхаванне. Ваенная арганізацыя татараў была дасканалай. Кожны мужчына з дзяцінства выхоўваўся жорсткім воінам, для якога інтарэсы племені і падпарадкаванне непасрэдным военачальнікам было вышэй за ўсё.

Татары лічыліся выдатнымі нястомнымі коннікамі і за кароткі тэрмін рабілі глыбокія рэйды на сотні кіламетраў, на сваіх трывалых напаўдзікіх конях. У паход кожны воін-татарын адпраўляўся з двума-трыма коньмі.

Акрамя матэрыяльных каштоўнасцяў, якіх качэўнікі самі зрабіць не маглі з-за сваёй адсталасці, дарагіх тканін, зброі, упрыгожванняў, важнейшай крыніцай абагачэння быў палон. Гэта былі рабы – маладыя мужчыны і жанчыны, прыгожыя і моцныя, якія маглі перанесці доўгія спякотныя дарогі качэўяў, і нават дзеці. Палонныя, статныя і высокія, з доўгімі і светлымі, як жнівеньскае жыта, валасамі і сінімі гораснымі вачыма, прадаваліся пасля набегаў крымчакоў на нявольніцкіх базарах Бахчысарая, Кафы, Стамбула, Каіра, папаўняючы рады рабоў Асманскай імперыі. Трэба сказаць, што чорныя валасы ў насельніцтва, цёмныя вочы і маленькі рост на Русі з'явіліся толькі пасля ардынскага іга.

Ёсць пісьмовыя сведкі замежных падарожнікаў, якія апісвалі Русь да нашэсця з Азіі: рускія былі залатакудрыя, стройныя і высокія, як прыгожыя кіпарысы.

Прыгажосць была лепшым таварам у гандляроў людзьмі. Дзяўчынкі славянскага паходжання для гарэмаў каштавалі даражэй за іншых, а хлопчыкі даволі часта выхоўваліся як будучыя воіны-захопнікі. Для гэтага яны павінны былі не памятаць сваёй радзімы. Гвардыя султана – янычары – ў сваёй большасці складалася з выхадцаў славянскага паходжання.

Набегі крымчакоў сталі яшчэ больш частымі і разбуральнымі пасля прыходу да ўлады дынастыі Гірэяў. У другой палове XV стагоддзя быў такі перыяд, калі набегі адбываліся штогод на працягу 20 гадоў. Асабліва лютымі і спусташальнымі яны былі ў 1482 і 1496 гадах. Абрабаванню падвергліся Валынь, Падолія, Навагарадчына і Палессе.

У 1497 годзе ўварванне адбылося тройчы, але ўпершыню ўсе тры разы татары атрымалі належны адпор ад літоўска-рускага войска на чале з князем Канстанцінам Астрожскім. У адной з бітваў татарскія атрады каля Мазыра былі літаральна загнаны ў Прыпяць, дзе і загінулі. Палессе не так пацярпела ад хана Батыя, як ад крымчакоў.

У 1500 годзе татары зноў шырокім фронтам прайшлі па Валыні і Заходняму Палессю і дайшлі да Бярэсця. У летапісе сказана:

“У литовское земли воевали Бересте и посад попалено, а з городу выкуп взяли, ды воевали Каменец-Литовский...” Але Белую Вежу татары ўзяць не змаглі.

Для арганізацыі барацьбы з рабаўнікамі патрэбны былі значныя сродкі. Для гэтай мэты ў XV–XVI стагоддзях у княстве Літоўскім быў уведзены дзяржаўны падатак – татаршчына (ардыншчына), які ішоў на ўтрыманне войска і даніну крымскаму хану. Ваенны падатак – на войска – называўся сярэбшчынай і збіраўся грашыма, бо без срэбра шляхта не служыла. А даніна хану збіралася пераважна пушнінай. Гэтым падаткам абкладваліся воласці, гарады і мястэчкі, і спаганяўся ён толькі з мяшчанскага і сялянскага саслоўяў.

Татаршчына ішла на дыпламатычныя выдаткі, а гэта былі, галоўным чынам, падарункі ханам, іх жонкам, найпершым саноўнікам.

Татарскія падаткі ў першыя гады кіравання Жыгімонта і складалі больш за палову дзяржаўнага скарбу.

У 1513 годзе было заключана пагадненне з ханам, паводле якога саюз з ім і бяспека зямель дзяржавы былі куплены цаною штогадовай даніны ў 6 тысяч коп грошаў (напалам з Польшчай). Так лёс караў Літву і Польшчу як памочнікаў у стварэнні драпежнага ханства.

Выплата татаршчыны спынілася пасля ўтварэння Запарожскай Сечы ўкраінскага казацтва, якая стала моцным заслонам на поўдні Княства. Запарожская Сеч стала ратаваць славянства Русі не толькі ад нашэсця татар, але і ад наступстваў каталіцтва.

Масковія, Літва і Польшча на працягу чатырох стагоддзяў выкарыстоўвалі татараў Залатой Арды, а потым і Крымскага ханства як наёмную сілу ў сваёй знешняй ваеннай палітыцы.

❖

У 1502 годзе татары двойчы ўрываліся на Палессе. Яны абрабавалі і спалілі Тураў, асаджалі, але беспаспяхова, Слуцк.

Няма ніякага сумнення, што шмат разоў рабаваўся і гарэў, разам з другімі ахвярамі татараў, і Гарадок.

У наступным годзе татары зноў прыйшлі па гэтаму ж шляху, імкнучыся захапіць багаты, але добра ўмацаваны Слуцк. Аб гэтым у "Хронікі Быхаўца" напісана:

"В год 7012 от початка света, а от Божьего нароженья 1503 приходили татаре, три тысячи их, и бывши под Слуцком и под Новым Городком и много учинив зла, пошли назад дорогою, чрез Гричинское болото ко Городку. А паны-рада Петрович, зовемы Кишка да пан Ольбрах-Гаштольд да пан Юрый Немирович ведали. К ним приеде князь Семен Михайлович Слуцкий и совокупившися все пошли за ими, и перешли реку Припять, дошли их за Городком в мили, и з ними поставили бой. З Божьей помощью наши побили татарове, полон весь освободили, и з великою честью и здобытком возвратилися".

Удакладнім шлях адыходу, абцяжаранага нарабаваным скарбам і захопленымі ў палон людзьмі татарскага войска. Ад Слуцка яно рухалася на поўдзень уздоўж ракі Случ праз Грычынскае балота, асноўная частка якога знаходзіцца ў Жыткавіцкім раёне.

Пераправіўшыся каля Турава праз Прыпяць, татары павярнулі на захад і пайшлі правым берагам Прыпяці, а потым Гарыні. Відавочна, яны ўжо заўважылі пагоню ліцвінаў, таму што і ў Тураў, і ў Гарадок не заходзілі. Ліцвіна-рускія дагналі іх за Гарадком і разбілі.

Гэта адбылося ў двух кіламетрах на поўдзень ад Гарадка. Гэтую мясціну і зараз называюць Татарскай лагчынай.

А цяпер аб тым, навошта было даваць бой татарам у чыстым полі? Гэта была рызыкаваная і смелая аперацыя, без якой, на першы погляд, можна было абысціся. Несумненна, замак Гарадка аказаў бы грабежнікам супраціўленне. У замку хапала месца: змясціліся б у ім і ўсе жыхары горада. Але ў іх была па-за сценамі замка маёмасць, акрамя таго побач пражывалі залежныя ад замка сяляне. Гэта і вызначыла смелы рэйд.

Аднак у сялян таксама было сваё сховішча. Куды ж хаваліся яны? І вось тут нам, магчыма, дапаможа яшчэ адзін помнік гісторыі.

Насупраць Давыд-Гарадка, на левым беразе Гарыні, ёсць вёска Туры. На паўднёвы захад ад яе, на адлегласці каля кіламетра, у лесе, знаходзіцца даволі цікавае месца, якое тутэйшыя жыхары называюць Замчышчам.

Гэта вялікая пляцоўка дыяметрам сто метраў, размешчаная на прыродным грунце. Яна абнесена земляным валам пяці-сямі метраў вышыні і шырынёй у дванаццаць-пятнаццаць.

Час пабудовы гэтага гарадзішча невядомы, але з упэўненасцю можна сказаць, што ў XV стагоддзі яно ўжо існавала. Яно не было месцам пастаяннага жыхарства, а толькі прытулкам – сховішчам людзей з іх маёмасцю на нейкі абмежаваны час, галоўным чынам у выпадку ваенных дзеянняў, якіх тады хапала.

Былі гэта жыхары як Гарадка, так і навакольных селішчаў. Калі ўзнікала неабходнасць, сховішча ператваралася ў абарончы лагер.

Летам 1506 года крымчакі зноў уварваліся на Беларусь. Зноў яны ішлі на Слуцк і Навагарадак. І зноў яны былі разгромлены войскам Княства на чале з князем Міхалам Глінскім у бітве на рацэ Лань каля Клецка.

Васьмітысячнае войска Глінскага гналася за татарамі некалькі соцень кіламетраў, ловячы іх і забіраючы ў палон. Рэйд Глінскага прайшоў ад Слуцка да Прыпяці, ён рушыў каля Петрыкава на Украіну. 12-тысячнае татарскае войска перастала існаваць. Клецкая бітва была буйнейшай і найбольш пераможнай у барацьбе з крымчакамі. Было вызвалена звыш 30 тысяч чалавек, захопленых татарамі нявольнікаў, некалькі тысяч татараў захапілі ў палон, узялі звыш 20 тысяч коней.

А вось у 1521 годзе крымчакі беспакарана разграбілі тэрыторыю паміж Слуцкам і Пінскам, спалілі Мазыр – і з людскім палонам і нарабаваным дабром вярнуліся ў Крым.

Вясной і летам на Палессі разлівалася мора, восенню яго рабілі непраходным дажджы – сама прырода ратавала людзей ад ворагаў, і татары гэта ўлічвалі. Таму крымчакі ўтаргаліся сюды даволі часта ў зімовы час. Так было і ў 1526 годзе.

Вялізны татарскі атрад рушыў раз'юшанай лавай праз Валынь на Пінск. Аднак да горада яны дайсці не паспелі. Іх дагнаў са сваім войскам выйшаўшы з Турава князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі. Недалёка ад Пінска, ва ўрочышчы Бераждцы на Прыпяці, татары былі разбіты ўшчэнт, застаўшыхся ў жывых захапілі ў палон.

Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460–1530) належаў да першага рускага княжацкага роду князёў Рурыкавічаў. Яго продкі сталі ўладальнікамі горада Астрог на Гарыні (зараз у Ровенскай вобласці).

Князі Астрожскія былі адным з самых уплывовых магнацкіх родаў у Літоўска-Рускай дзяржаве. Князь Канстанцін дасягнуў найвышэйшых дзяржаўных пасад, стаў славутым палкаводцам свайго часу. Ён удзельнічаў у 60 бітвах(!), многа разоў выганяў са сваёй зямлі крымчакоў, ваяваў з Масквою. Звыш трыццаці гадоў да самай смерці займаў вышэйшую ваенную пасаду – быў найвышэйшым гетманам Княства.

У бітве на рацэ Вядрашы ў 1500 годзе пацярпеў паражэнне ад маскавітаў, быў узяты ў палон, адкуль уцёк у 1507 годзе. У Аршанскай бітве

1514 года ён меншымі сіламі таленавіта дабіўся перамогі над маскоўскім войскам. Яго апошнімі перамогамі былі разгромы татараў: ва ўжо згаданай бітве пад Пінскам і ў 1527 годзе – на рацэ Альшанцы паміж Кіевам і Каневам.

Князь К. І. Астрожскі быў адным з буйнейшых землеўладальнікаў. Багацце магнатаў і шляхты было адзіным паказчыкам іх абавязковага ўкладу ў вайну. Такім укладам была колькасць конных воінаў, якіх магнат павінен быў выстаўляць ад сваіх маёнткаў. У канцы жыцця Астрожскі быў другім у дзяржаве пасля Віленскага ваяводы Гаштольда – ён выстаўляў 426 воінаў.

Але князь быў не толькі праслаўленым палкаводцам, дзяржаўнікам і патрыётам, але і грамадскім дзеячом. І тут ён зрабіў дабра свайму народу не менш, чым на ратным полі. Князь Канстанцін быў не проста праваслаўным вернікам, але і актыўным абаронцам веры сваіх продкаў ад наступства каталіцызму. Каб выстаяць, Праваслаўе павінна было быць моцным, незалежным і абапірацца не толькі на просты народ, але і на шляхту, магнатаў, феадалаў, якія маглі на сваіх землях абараніць людзей і веру.

Такім узорам духоўнага гераізму і быў славуты князь. Канстанцін Іванавіч Астрожскі ў адрозненне ад іншых шляхціцаў цвёрда трымаўся сваіх каранёў, не гледзячы на агульны ўціск і спакусы, якімі ўлады дзяржавы і каталіцкія колы цягнулі да сябе нашчадкаў Кіеўскай Русі і літоўска-рускіх традыцый часоў Вітаўта.

Князь быў фундатарам значнай колькасці цэркваў у Віленскай зямлі, на Беларусі і Украіне. Ім была пабудавана царква і ў Тураве, якім ён валодаў і дзе жыў з 1508 года. Тут ён і памёр і быў пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры, ва Успенскім саборы. Вялікі змагар за Праваслаўе знайшоў вечны спакой і прытулак у манастырскай зямлі разам са святымі зямлі рускай.

Яго сын Канстанцін Васіль (1527–1608) выхоўваўся сваёй маці Аляксандрай Слуцкай у Тураве. Ён быў прадаўжальнікам справы свайго бацькі па абароне Праваслаўя, праціўнікам сумна вядомай Брэсцкай уніі, з якой пачалося масіраванае знішчэнне тутэйшай гісторыі і веры. Князь падтрымліваў праваслаўныя брацтвы, заснаваў школы ў Слуцку, Тураве, Астрозе. Ім была заснавана Астрожская друкарня, у якой працаваў першы рускі друкар Іван Фёдараў.

У 1988 годзе, у юбілейны год 1000-годдзя хрышчэння Русі, у Мінску адбыліся шостыя епархіяльныя навукова-багаслоўскія чытанні, прысвечаныя памяці благавернага князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага. Адкрываючы чытанні, мітрапаліт Філарэт сказаў:

“Наибольшая заслуга князя Константина Острожского пред Господом, Церковью и Отечеством как раз и состоит в том, что его политическая, церковная, издательская и благотворительная деятельность, в конечном счете, была направлена на сохранение этой простой,

сердечной, совестливой любви народа к Богу и к Святой Церкви. Именно силою этой любви была упразднена уния и восстановлена вера отцов”.

А цяпер вернемся да выніку разгрому татараў каля Пінска гетманам Астрожскім. Вядома, адной з мэтаў грабежніцкіх набегаў татараў быў захоп палонных, гэтай жывой каштоўнасці – самых здаровых і працаздольных мужчын і жанчын, якімі можна было гандляваць нароўні са статкамі коней ці авечак.

Але захопам у палон мірнага насельніцтва для продажу ў рабства займаліся не толькі татары, якія налятаeasy перад калряднымі маразамі, калі сяляне адпачывалі пасля летняй працы і на сядзібах хапала зімовых прыпасаў.

Практыку “вываду” рамеснікаў і сялян з Заходняй Русі (Вялікага Літоўска-Рускага княства) шырока практыкавалі маскоўскія князі, якія рассялялі іх па сваіх землях. Хаця ў меншай ступені, але гэта рабілі і літоўска-рускія князі. І ў маскавітаў, і ў ліцвінаў прычына была адна: малая колькасць свайго насельніцтва. Гэта была адмоўная практыка, але хто ведае, дзе людзі ў той час знаходзілі сваё шчасце: усё ж такі ў Масковіі ўціску для простага люду з прычыны веравызнання не было. Да таго ж, гэта была своеасаблівая міграцыя насельніцтва ў два бакі, між якімі было шмат агульнага і больш за тое – роднаснага.

У канцы XIV стагоддзя ў Княстве з’явіліся першыя “тутэйшыя” татары. Яны былі запрошаны на ваенную службу вялікім князем Вітаўтам, і лепшыя з іх атрымалі правы саслоўя шляхты. Значную колькасць татарскіх сем’яў Вітаўт вывеў з Крыма ў час свайго паходу. Яны былі расселены ў Вільні і некаторых іншых гарадах.

У Мінску на правабярэжжы Свіслачы некалькі стагоддзяў існавала Татарская слабада з мячэццю, якая была разбурана ў 60-я гады нашага стагоддзя ў раёне старой Старажоўкі.

У цяперашні час невялікая татарская абшчына пражывае ў гарадскім пасёлку Іўе Гродзенскай вобласці, дзе існуе адзіная на Беларусі мячэць. Гэтыя татары захавалі сваю мусульманскую веру, звычаі, традыцыі.

У Вялікім княстве Літоўска-Рускім правы і абавязкі татараў рэгламентаваліся вялікакняжацкімі і каралеўскімі граматамі і дзяржаўнымі статутамі. Улічваючы іх ваенныя здольнасці і вывучку, усе яны ў залежнасці ад знатнасці атрымлівалі зямельныя надзелы і ўліваліся ў свабоднае саслоўе. Аб гэтым сведчыць асноўны закон дзяржавы – Статут 1588 года.

У атрыкуле першым другога раздзела ў лік ваеннаабавязаных уключаны і татары, якія павінны былі з’яўляцца на ваенную службу па выкліку вялікага князя.

Артыкул 48 трэцяга раздзела забараняе асобам, маючым зброю і ваенныя прыпасы, прадаваць іх іншаземцам. Сярод уладальнікаў зброі згаданы і татары.

Артыкул 76 чацвёртага раздзела адзначае, што сведкам у судзе можа быць толькі хрысціянін, а таксама "...татаре те, которые на службу нашу военную ездят..."

Артыкул 14 дзесятага раздзела мае азначэнне, што татары могуць быць землеўласнікамі.

Артыкул 33 адзінаццатага раздзела носіць назву "О разбое, учиненном татарами". У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "И после проведения такого дознания, при наличии каких-нибудь верных признаков... суд так должен судить, как выше о разбое, учиненном шляхтичу шляхтичем..."

Аднак татарам забаранялася мець больш адной жонкі, браць хрысціянак карміцелькамі дзяцей, валодаць прыгоннымі хрысціянамі.

Усё гэта гаворыць, разам з тым, аб высокім узроўні адносін з прадстаўнікамі гэтага чужога этнічнага народа, аб павазе да новай шляхты з татарскімі прозвішчамі. Татары шчасліва пазбеглі ўціску з пункту гледжання веры, акрамя тых, хто хрысціўся ў праваслаўе. Не мелі яны і тых праблем другога малога народа – яўрэяў, якія з часам апынуліся за мяжой аселасці.

❖

Татары ў Гарадку з'явіліся недзе ў сярэдзіне XV стагоддзя, а магчыма і раней. Хутчэй за ўсё, гэта былі паселеныя тут ваеннапалонныя. Захавалася грамата княгіні Ганны Свідрыгайлавай, якая ў гэты час валодала Гарадзецкім княствам. У грамаце гаворыцца аб вызваленні нейкага Машляка ад выплаты татаршчыны пры захаванні за ім абавязкаў ваенна-коннай павіннасці. Гэта вельмі цікавы дакумент, які сведчыць аб мудрай палітыцы ў княстве Гарадзецкім у адносінах да праблемы татараў.

Татарын Машляк плаціў татаршчыну – падатак на абарону ад татарскага нашэсця. Такім чынам, гэты чужынец хутчэй уліваўся ў грамадства, звязаны агульным лёсам і абавязкамі. З другога боку, плоцячы такія падаткі, Машляк не адчуваў сябе, так сказаць, "пятай калонай" сярод тутэйшых жыхароў – вядома, хрысціян.

Гартаючы старонкі гісторыі, цікава сачыць за лёсам нашчадкаў гэтага татарына з яго татаршчынай. У наступным стагоддзі Машлякі залічаны ўжо да баяр панцырных (зямян).

Адкуль баяры ў Гарадку? Ды яшчэ баяры-татары! Тут трэба растлумачыць. Так атрымалася, што для нас найбольш звыклая назва вышэйшага саслоўя ў тыя часы – шляхта, якая аб'ядноўвае ўсе класы і адценні кіруючага асяроддзя: багатага і збяднелага, саноўнага і сціплага.

Не так было ў старажытнасці. Перш-наперш, баяры – больш старажытнае імя, чым шляхта, і азначала ваенна-служылых людзей. Спачатку існавалі баяры і дружыннікі вялікіх князёў Літоўска-Рускай дзяржавы. Потым яны сталі звацца – баяры-шляхта. Некаторыя з іх былі буй-

нымі феадаламі, а большасць не мела ніякіх сялян і маёмасці і знаходзілася паміж панамі і сялянамі.

Акрамя вышэйшага слоя баяр, якія мелі саслоўныя прывілеі феадалаў, хаця фактычна маглі імі і не быць, былі прадстаўнікі самых дробных баяр, якія вылучаліся з багатага сялянства.

Гэтыя выхадцы з простага люду падзяляліся на некалькі катэгорый – баяры панцырныя, баяры путныя, слугі путныя і дамавыя. За ваенную службу баяры атрымоўвалі надзелы зямлі, найбольш здольныя і спрытныя пераходзілі ў баяры-шляхту. Але калі адна частка баяр стала шляхецкім саслоўем, то другая з цягам часу зрабілася звычайным сялянствам, выконвала павіннасці, плаціла чынш.

Але нашчадкі татарына Машляка-гарадзецкага выбіліся ў людзі: спачатку ў панцырныя баяры з вайсковай павіннасцю, а потым і вышэй. У XVIII стагоддзі Машлякевічы (так змянілася іх прозвішча) ужо афіцыйна лічацца шляхтай герба Куша.

Вось так жылі, між іншым, гарадзецкія баяры.

Другім гарадзецкім татарынам, аб якім маюцца дакументальныя звесткі, быў Ігнат Ахмат. У пачатку XVI стагоддзя ён атрымаў ад князя Пінскага Фёдара Яраславіча грамату-прывілей на атрыманне землеўладання ў Гарадзецкім княстве і залічэнні яго да баяр путных. Калі панцырныя баяры былі воінамі і некалі насілі панцыр, то путныя баяры выконвалі паштовую службу як у мірны, так і ў ваенны час. Як бачым, татары ў Гарадку былі людзьмі кемлівымі і надзейнымі, бо паштовую службу даверыць маглі не кожнаму.

Значная частка татар трапіла ў палон пасля іх разгрому ў 1503 годзе каля Гарадка, а праз чвэрць стагоддзя, у 1526 годзе, яны апынуліся ў палоне і пад Пінскам.

І ў першым, і ў другім выпадках ваеннапалонныя татары не былі выкуплены ханам, ды, магчыма, пераможцы і не жадалі гэтага. Ім самім патрэбны былі рабочыя рукі. Княства, з яго балотамі і пушчамі, як і ў часы дрыгавічоў, было маланаселеным.

Так зрабіў і князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі. Пасля бітвы пад Пінскам ён сустрэўся з тагачаснай гаспадыняй Пінска і Гарадка каралевай і вялікай княгіняй Бонай. Трэба адзначыць, што князь уваходзіў у акружэнне блізкіх да каралевы асобаў. У свой час ён быў у складзе дэлегацыі, якая сустракала Бону пры яе прыездзе ў Кракаў, браў удзел у шлюбнай ды каранацыйнай урачыстасцях караля і вялікага князя Жыгімонта І і каралевы Боны.

Каралева і князь вырашылі рассяліць палонных татар на Піншчыне. Частка іх была паселена ў самым Пінску. Як добрая гаспадыня, Бона не абмінула і Гарадок. Некаторая ж колькасць татар была паселена Астрожскім і ў яго гарадах – Астрозе і Тураве.

Як прыроджаныя коннікі і воіны, татары папоўнілі ваенна-службовую групу абслугі замкаў, у тым ліку і Гарадка.

Але новае жыццё паставіла перад імі цяжкую задачу нацыянальна-культурнага характару. Вядома, што гэтыя якасці ў народа дапамагае захоўваць яго радзіма і яе найменшая ячэйка – сям'я. І першага, і другога ў татар ужо не было.

Але для іх у новых умовах было створана нармальнае жыццё свабодных людзей. У Княстве, вядома, былі іншыя законы, звычаі, культура, рэлігія, нават свая прырода – больш суровая, чым паўднёвыя землі. І новыя жыхары краіны, татары, паступова ўжываліся ў яе асяроддзі.

Прысягнуўшы на вернасць новай уладзе і пачаўшы выконваць свае абавязкі, часам небяспечныя, як вайсковая служба, татары пачалі ствараць сем'і. Гэта было нялёгка для мусульман, таму што жонак іх веры тут не было. Мясцовыя жыхары аддавалі замуж сваіх дачок за татар толькі пры ўмове, калі яны прымуць хрышчэнне.

Большая частка новых грамадзян так і рабіла. З гэтага і пачаўся працэс асіміляцыі, які прывёў да знікнення большай часткі татар як народнасці і пераўтварэння іх у беларусаў. Гэта было цячэнне самаго жыцця, і ніякіх карных законаў самой дзяржаваю не прымалася. Татары самі пагадзіліся і парадніліся са звычкамі і традыцыямі мяккага і добрасумленнага народа. Адзначым, што ў гісторыю сваёй новай Бацькаўшчыны татары ўвайшлі не толькі нечаканымі і нечуванымі дагэтуль прозвішчамі, але і сваімі ўчынкамі і справамі як патрыёты і цвёрдыя абаронцы радзімы, добрыя гаспадары.

А гарадчукоў, жыхароў Давыд-Гарадка, і зараз часам клічуць татарамі, каб падкрэсліць іх цвёрдасць ці незгаворлівасць у чым-небудзь. Ды і аб татарскім паходжанні некаторых сведчаць іх прозвішчы, якія даволі часта сустракаюцца ў Давыд-Гарадку і наваколлі: Бясан, Булыга, Булат, Казак, Каліта, Каратай, Кардаш, Кунай, Курган, Кучук, Крым, Майсюк, Мазан, Машляк, Місюра, Сеген, Шабан, Шарамет – і іншыя, паходжанні якіх не заўсёды проста вызначыць, бо з цягам часу татарскія прозвішчы змянялі аблічча.

А ў вёсцы Беразцы, недалёка ад Пінска, дзе адбылася ў 1526 годзе бітва, амаль палова жыхароў носіць прозвішчы Бут-Гусаім і лічаць сябе нашчадкамі хана Гусаіма. І маюць рацыю, таму што ў Пінскім рэгістры 1567 года згадваецца татарын Фёдар Бут-Гусаім, прыняўшы хрысціянства. Пазней гэты род атрымаў шляхецтва. Але не трэба думаць, што ў Вялікім княстве Літоўска-Рускім чужынцы-татары так проста пераходзілі ў саслоўе арыстакратыі – шляхтай станавіліся выхадцы з татарскіх князёў і саноўнікаў.

З цюрска-татарскай мовы ў мову ўсходніх славян з тых часоў прыйшло нямала слоў, якія ўжо сталі сваімі, тутэйшымі, народнымі. Напрыклад: атаман, базар, баран, богатырь, диван, халат, сарай, сундук, пурга, тюрьма, чулок, шайка, яма і іншыя.

А я з дзяцінства памятаю, як маці называла малое цяля ласкавым словам – рахманае.

Мне не раз бацька рабіў заўвагу, якую я ўжо сам пазней адрасаваў дзецям і ўнукам, калі яны прыбягалі ў хату са двара:

– Адкуль гэта ты з'явіўся такі мурзаты?

І вось толькі зараз, праз некалькі дзесяцігоддзяў, успомніўшы гэта, я адзначыў, што і першы прыметнік – рахманы, і другі – мурзаты – цюркскага паходжання.

Рахманы – гэта спакойны, лагодны, паслухмяны, прыкладна гэта азначае і корань слова. А вось з другім словам – больш цікавая гісторыя. Мурза – гэта татарскі князь, а ў народзе ад гэтага імя атрымалася жартаўлівае слова, сэнс якога – падабенства на смуглявага, цёмнага, нават запэцканага чалавека (такімі здаваліся чорныя ад сонца і вандраванняў госці), але ж, заўважым, – не абы каго, а князя. Дык, можа, некалі гэта слова мела нават адносна пахвальны сэнс?

Трэба берагчы беларускую мову, адну з найстарэйшых у славянскіх народаў. Мова народа – мова гісторыі.

# МАСТАК І КАРАЛЕВА

*Путь доброй женщины, действительно,*
*усеян цветами, но они являются*
*за пройденными ею шагами,*
*а не впереди их.*

***Л. Н. Толстой. “Мысли мудрых людей”***

У пачатку пяцідзесятых гадоў мне даволі часта даводзілася наведваць Пінск, які быў у той час абласным цэнтрам, а для мяне, апрача таго, адным з цэнтраў беларускай старасвеччыны.

І кожны раз я з вялікай цікавасцю і задавальненнем аглядаў помнікі старажытнай мінуўшчыны. Асабліва захапленне і нейкую ўрачыстую ўзнёсласць выклікаў велічны касцёл Успення Дзевы Марыі ў акружэнні прыгожага архітэктурнага ансамбля кляштара францысканцаў, каталіцкага манастыра.

У мясцовым музеі я даведаўся, што ён заснаваны ў 1396 годзе для манахаў францысканскага ордэна. Спачатку касцёл быў драўляным, а ў 1510 годзе на яго месцы пабудавалі мураваны. Ён аказаўся пашкоджаны ў час нацыянальна-вызваленчай вайны пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага ў 1648 годзе, але кляштар захаваўся. У першай палове XVIII стагоддзя былі пабудаваны мураваныя карпусы кляштара і перабудаваны касцёл, а пазней пастаўлена і чатырох’ярусная званіца – адзін з найбольш высокіх будынкаў горада.

З супрацоўнікам музея А. І. Лазіцкім мы абышлі велічны комплекс і спыніліся на беразе мнагаводнай Піны, партовая набярэжная якой лічыцца адной з самых прыгожых. Памаўчаўшы, як бы нешта ўспамінаючы, Аляксандр Іванавіч сказаў:

– А вы ведаеце, што тут, у Пінску, працаваў адзін з першых вядомых беларускіх мастакоў пачатку XVI стагоддзя?

Гэтага я не ведаў, і мой субяседнік сказаў:

– Дарэчы, ён ваш зямляк – родам з Давыд-Гарадка. Мастак Навоша.

І расказаў мне кароткую легенду, якая усхвалявала мяне сваёй навіной і прыгажосцю. Я пачаў збіраць матэрыялы, і легенда ажыла для мяне ў падрабязнасцях і фарбах палескай даўніны.

З гэтай легенды мы і пачнём.

❖

Каралева пакідала каралеўства. А перад тым, як пакінуць яго, аб’язджала свае велізарныя ўладанні ў Вялікім Літоўска-Рускім княстве. Зараз яе шлях быў накіраваны ў Пінск...

Некалькі шыкоўных карэт шпарка імчалі па Берасцейскаму шляху.

Наперадзе, збоку і ззаду іх, гойдаючыся ў сёдлах, гарцавалі ахоўнікі каралевы – рыцары з лепшых шляхецкіх радоў.

Калі паказаліся першыя будынкі прыгожага палескага горада, над якім здалёк былі відаць званіцы, каралеўская кавалькада спынілася. Да пярэдняй, найбольш прыгожай карэты з пышным гербам, падбеглі два рыцары, імгненна саскочыўшы з коней.

Рыцары адчынілі дзверы і, грацыёзна пакланіўшыся, дапамаглі выйсці з карэты высокай пажылой жанчыне ў прыгожым касцюме амазонкі, прызначаным для конных прагулак.

– У гэты горад я ўеду вярхом на кані, – цвёрда заявіла яна.

Ёй зараз жа падвялі каня, але не з дамскім, а з рыцарскім сядлом. З дапамогай вяльможных рыцараў яна села на каня, і кавалькада рушыла наперад.

Лета канчалася. На нівах ўсё было сабрана. У прыдарожных гумнах чуваць было, як весела білі цапы – ішла малацьба. Праз вуліцы сялян і рамеснікаў карэты і коннікі выехалі на гарадскую плошчу, што знаходзілася на самым высокім месцы горада. За плошчай узвышаўся белымі сценамі касцёл Успення Дзевы Марыі.

Ля храма стаяў вялікі натоўп людзей, узрушаных надзвычайнай падзеяй. З яго выйшлі некалькі самых паважаных шляхціцаў на чале са старастам і рушылі насустрач ехаўшай вярхом каралеве. Яны нізка пакланіліся, а староста дапамог ёй сысці з каня на зямлю горада. Каралева агледзела натоўп, выслухала першыя красамоўныя прывітанні гарадской шляхты...

Потым, як бы між іншым, паклікала старасту бліжэй і нешта ціха яму прамовіла. Староста гэтак жа непрыкметна перадаў загад аднаму з сваіх памочнікаў. Той жвава некуды падаўся.

Пасля выслуханых прывітанняў і прыняцця падарункаў каралева пайшла ў касцёл, дзе была сустрэча з манахамі-францысканцамі на чале з прыёрам кляштара.

Каралева пасядзела ў крэсле, слухаючы арган, памалілася, але нядоўга, устала і пачала абыходзіць касцёл, уважліва гледзячы на роспісы на сценах. Яе вочы нешта шукалі.

Ля аднаго з роспісаў яна спынілася і стаяла асабліва доўга. Гэта былі постаці Адамы і Евы, яны былі намаляваны без усялякага адзення ля райскага дрэва. Ева працягвала Адаму яблык, яе вусны ўсміхаліся, а Адам трошкі палахліва адхіляўся ад яе. Змей-спакуснік вісеў на дрэве з яблыкамі, абкруціўшыся вакол ствала.

У змроку касцёла на халоднай сцяне жывым цяплом дыхалі постаці мужчыны і жанчыны. Нешта знаёмае бачыла каралева ў прыгожых фігурах першых людзей. І калі б хто мог уважліва паглядзець на яе твар у гэты час, то ўбачыў бы, што Ева і каралева ўсміхаюцца на дзіва аднолькава. У іх тварах было падабенства.

Да каралевы падышоў староста і нешта прамовіў. Яна адвяла вочы

ад роспісу, уздыхнула, павярнулася і пайшла да адных са шматлікіх дзвярэй касцёла: ёй тут было ўсё даўно знаёма.

Каралева рухам паказала, каб яе не суправаджалі, адчыніла дзверы з боку ад алтара, зайшла туды і зачынілася. Нейкі манах адразу ўзнік ля дзвярэй, але з'явіўся адзін з ахоўнікаў каралевы і адціснуў манаха. Манах знік у змроку.

За дзвярыма было цемнавата, і некаторы час яна стаяла, прывыкаючы да гэтага паўзмроку. Сэрца яе стукала па-ранейшаму гучна.

– Ну, дзе ты тут? – запытала яна.

На гук яе голасу адказаў нейкі шорах. Ад сцяны аддзялілася высокая фігура чалавека з непакрытай галавой. Ён падышоў да каралевы, нізка пакланіўся ёй і апусціўся на адно калена.

Каралева ўглядзелася ў постаць маўклівага чалавека, уздыхнула і працягнула яму рукі. Той пачціва іх пацалаваў, пакрыўшы сваімі доўгімі сівымі валасамі, што падалі яму на плечы, і прамовіў:

– Прывітанне Вам, каралева. Я ўжо і не думаў, што калі-небудзь удасца Вас убачыць яшчэ.

Каралева ўзяла чалавека за руку, падняла з кален і пайшла ў куток, куды трохі падала святло ад высокага каляровага вітражу. Яна падышла да драўлянай разной канапы, села сама і пасадзіла ля сябе свайго субяседніка.

– Даўно мы не бачыліся з табой, Ян, – сказала ціха.

– Даўно, мая каралева, больш за дваццаць гадоў, – адказаў мужчына імкліва.

– Я доўга разглядала твой роспіс, ты яго некалькі паправіў, – каралева ўсміхнулася.

– Вы пакрыўдзіліся? – з трывогай спытаў мужчына.

– Няхай будзе па-твойму, – адказала яна. – Магчыма, ты ведаеш праўду. І яшчэ. Ты зрабіў Адама і Еву сталейшымі, больш зямнымі і цялеснымі. Ты сапраўдны мастак, Ян.

– У гэту работу я імкнуўся ўкласці свае пачуцці... і ўсё сваё ўмельства, – адказаў мастак з хваляваннем.

– І сэрца, – падказала яна.

– І сэрца, – як рэха, адгукнуўся ён.

– Табе гэта ўдалося... Ну, а як ты жывеш, як сям'я? – спыталася каралева.

– Ваша тагачасная міласць многа дапамагла мне. Я і зараз жыву ў дараванай Вамі сядзібе. Жонка памерла, а дзеці ўжо дарослыя, – адказаў мастак. – Працую трохі для людзей, але сілы ўжо не тыя...

– Так-так. Мы ўжо не тыя, што былі раней, Навоша, – уздыхнула каралева. – Пастарэлі. А некалі, памятаеш, мы сустракаліся тут з табою даволі часта, – голас яе пацяплеў.

Мастак уважліва паглядзеў на яе, зноў схіліўся і стаў цалаваць яе рукі. Яна пагладзіла яго па белай галаве.

– Мая Катажына нечым нагадвае цябе, – азірнуўшыся, сказала каралева. – Яна скора будзе каралевай Швецыі.

Мастак устрапянуўся, таксама азірнуўся, гледзячы ў змрок даволі спалохана, і шэптам сказаў:

– Ці можна аб гэтым гаварыць уголас? Не дай Бог хто пачуе!..

Каралева сумна ўздыхнула, памаўчала, зноў пагладзіла мастака па галаве, як дзіця.

Мастак імкліва шаптаў ёй ласкавыя словы, вочы яго гарэлі. Яна паглядзела на каляровыя вітражы ў вышыні. За імі быў вялікі свет: Еўропа, Італія, мора...

Гукі аргана сціхлі, зараз яны змоўкнуць. Яна глядзела на мастака. Зараз яна скажа яму, што гэта іх апошняя ў жыцці сустрэча. Каралева пакідала каралеўства – і развітвалася са сваёй маладосцю...

❖

Бона Сфорца д'Аргона (1494–1557) была італьянкай, яе радзімай быў горад Мілан, бацькам – герцаг міланскі Галеаца Сфорца, маці – прынцэса неапалітанская Ізабэла Арагонская. Бацька памёр рана, аднак дзяўчынка выхавалася ў атмасферы гуманістычнага італьянскага Адраджэння.

Яшчэ ў юным узросце ў Мілане яе браў з сабою вялікі Леанарда да Вінчы, калі пісаў сваю "Тайную вячэру". У Парме, Неапалі, Рыме яна атрымала выдатную адукацыю: вывучала мову навукі таго часу – лацінскую, філасофію, права, тэалогію, гісторыю, прыродазнаўства, матэматыку; наведвала тэатр, захаплялася музіцыраваннем і танцамі, сама ўдзельнічала ў прадстаўленнях і маскарадах.

У Рыме прыгажуня-прынцэса была заўважана папам Львом I і германскім імператарам Максімільянам I. Яны хацелі яе здольнасці, энергію і прыгажосць выкарыстаць у палітычных мэтах. Вось чаму шлюб Боны адбыўся, калі ёй споўнілася 24 гады.

У польскага караля Жыгімонта I (1467–1548) памерла жонка. А Польшча ўжо тады знаходзілася пад пільным наглядам Ватыкана як асноўны фарпост барацьбы супраць Праваслаўя. Тут і ўзнікла на арэне геапалітычных намаганняў папы рымскага прынцэса Сфорца. Яе прыгажосць павінна была замацаваць саюз Рыма і Кракава.

Сватам быў германскі імператар, а пасаджаным бацькам – папа Леў X. Адразу адзначым, што атрыманыя ад папы інструкцыі аб барацьбе супраць Рэфармацыі ёю не выконваліся, ды і свайго мужа, які цярпіма адносіўся да гэтага, яна не стрымлівала. Выхаванне Боны было свецкім, і рэлігійны фанатызм ёй быў не ўласцівы.

У 1518 годзе герцагіня Бона Сфорца стала каралевай польскай і вялікай княгіняй літоўскай. Перад ад'ездам у Польшчу яна сустракалася ў Рыме з Міколам Гусоўскім, які ўваходзіў у склад польска-літоўскай дып-

ламатычнай місіі. Гутарка з шырокаадукаванай сваёй будучай каралевай глыбока ўразіла паэта. І калі па прапанове папы Льва Х у Рыме ім была напісана на лацінскай мове славутая "Песня пра зубра", то прысвяціў яе аўтар каралеве Боне:

"Да найяснейшай уладаркі і пані Боны з ласкі Божай каралевы Польшчы, вялікай княгіні Літвы, Русі, Прусіі і іншай пані".

У гэтым прысвячэнні было і такое пажаданне:

"Мне добра вядома, найсвятлейшая пані, якога вялікага шчасця ты зычыш гэтаму каралеўству і як шмат разважаеш і дбаеш аб палажэнні ягонага становішча. Калі ж ты праявіш сябе добразычлівай, схільнай да апякунства навукі і мастацтва, тады ад іх будзе і дзяржаве вялікая карысць, а высокая слава імя твайго распаўсюдзіцца такім чынам яшчэ вышэй з ухвалой тваіх выхаваўцаў".

"Песня пра зубра" напісана на лацінскай мове па жаданню Льва Х. На гэтай жа мове яна і выдадзена ў Кракаве ў 1523 годзе з дапамогай каралевы.

Бона была маладзей караля на 27 гадоў. І ён быў вельмі задаволены ёю: маладая жонка падарыла яму пяцёра дзяцей, сярод якіх – і будучага спадчынніка, уладара трона.

Але ў гісторыю Бона ўвайшла перш за ўсё сваім розумам і адукацыяй, сваімі дзеяннямі неардынарнай асобы ў эканоміцы і кіраванні дзяржавай. Мала хто ў каралеўстве мог параўнацца ў адукаванасці з каралевай. На ўсход Еўропы яна прывязла з радзімы святло Адраджэння і яго гуманізм.

Маладая каралева мела характар і волю свабоднай і таленавітай італьянкі: і, нарадзіўшы пяцёра дзяцей, яна не стала хатнім ценем караля. Яна хацела ўчынкаў сапраўднай каралевы. Тытаны Адраджэння і асабіста Леанарда да Вінчы былі яе сумленнем, як людзі справы і вялікія практыкі.

Многа ўладароў зведала наша зямля: вялікіх – і дробных, мудрых – і не вельмі кемлівых, жорсткіх – і бязвольных. У шэрагу іх каралева Бона не згубілася. Сярод каранаваных і тытулаваных асобаў яна на адным з першых месцаў як практык і чалавек справы. І ў гісторыю Беларусі яна трапіла як буйны рэфарматар і эканаміст.

Дзейнасць каралевы Боны праходзіла галоўным чынам на тэрыторыі Вялікага княства Літоўска-Рускага. І пачалася яна ў 1521 годзе, калі пасля смерці пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча, які не меў нашчадкаў, яго велізарныя ўладанні перайшлі ва ўласнасць вялікага князя.

Княствы Пінскае, Гарадзецкае, Кобрынскае, Клецкае, воласць Рагачоўская і шэраг іншых зямель у Польшчы па жаданню Боны былі перададзены ў карыстанне ёй.

І ў Кароне, і ў Княстве яна рознымі спосабамі вярнула каралю тыя землі, якія былі закладзены ім магнатам дзеля грошай ці па палітычных

матывах. Удакладняючы іх юрыдычныя правы на зямельныя абшары, Бона наступала на магнатаў цвёрда і рашуча: у нямаючых тытулаў уласнасць забіралася без выкупу.

З мэтай аслаблення магнатаў, некаторыя спрэчныя землі замацоўваліся за імі пажыццёва. Адначасова каралева распачала абарону дробнай шляхты ад уціску магутных уладальнікаў. І ўсе гэтыя пытанні вырашаліся галоўным чынам у судзе. І хаця не ўсе працэсы мелі пад сабою юрыдычны грунт, аднак выйгравала іх амаль заўсёды каралева.

Прыгонныя сяляне належалі феадалам-магнатам і сярэдняй шляхце, а зямля, якую яны апрацоўвалі, – абшчыне-грамадзе. Грамада мела самакіраванне, выконвала павіннасці – на феадала і дзяржаву, сачыла за станам сялянскіх гаспадарак, дапамагала бедным і пагарэльцам. Аднак у землекарыстанні сялянскай грамады не было сістэмнасці і яно не давала плённых вынікаў.

Каралева Бона пачала на сваіх землях аграрную рэформу, якая атрымала назву – валочная памера. Перш-наперш у гаспадарчым плане ў былых княствах былі створаны староствы – адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі, якія займаліся галоўным чынам зямельнымі справамі.

У аснове рэформы ляжаў абмер і перадзел зямлі на стандартныя ўчасткі – валокі, якія станавіліся і адзінкай абкладання сялян павіннасцямі. Валока як адзінка вымярэння плошчы складала 21,36 гектара. Яна складалася з трох роўных палёў, што адпавядала трохпольнай сістэме земляробства.

У залежнасці ад якасці зямлі валокі падзяляліся на добрыя, сярэднія, дрэнныя і вельмі дрэнныя. Пры дрэннай зямлі памер валокі павялічваўся да 30 гектараў. Валока давалася не больш чым на дзве сям'і. Ліквідавалася цераспалосіца.

У выніку валочнай рэформы становішча сялян у валоданні зямлёй стала больш стабільным, аднак паншчына і чынш (плацяжы за зямлю) павялічыліся. Умацаваліся панскія фальваркі за кошт лепшых зямель, якія адышлі ад сялян.

У час правядзення валочнай рэформы каралева Бона мноства разоў бывала на землях сваіх старостваў, у гарадах, у тым ліку – і ў Гарадку.

Яе мерапрыемствы былі падтрыманы вышэйшымі дзяржаўнымі органамі, ухвалены сеймам, панамі-радай, і ў 1557 годзе кароль Жыгімонт II Аўгуст выдаў "Уставу на валокі". На яе аснове была праведзена валочная памера ў большасці гаспадарскіх, царкоўных і прыватных уладанняў Вялікага княства.

Энергічная каралева займалася ўсім. Яна цікавілася Палессем і рабіла спробы меліярацыі з мэтай канчатковай камасацыі (ліквідацыі цераспалосіцы), прадпрымала дзеянні ў абарону прыроды, пабудавала канал у ваколіцах Пінска і мост цераз Буг, апрацоўвала пустэчы і закладала сады. Па яе ініцыятыве будаваліся замкі і касцёлы, лячэбніцы і школы, млыны і грэблі.

У непраходных пушчах узнікалі новыя паселішчы. Перспектыўныя мястэчкі атрымлівалі Магдэбургскае права. Нагадаем, што гэта быў такі гарадскі статут, пры якім саслоўе гараджан жыло па сваіх эканамічных і маёмасных законах. Магдэбургскае права высока ўздымала гонар і ролю гарадоў. Гараджане мелі свой магістрат і вызваляліся ад павіннасцяў, ад суда і ўлады дзяржаўных служачых. І ў нейкім сэнсе гэта была амаль што вольная грамата гораду.

Як бачым, крокі і захады каралевы Боны ва ўсім адпавядалі ідэалам Адраджэння, якімі яна захаплялася ў маладосці. Атрымаўшы ў свае рукі дзікаваты і далёкі ад асветы край, яна пачала дзейнічаць, як і ўсе заходнія місіянеры, – рашуча, без ценю сумненняў. З Вялікага Княства Бона хацела зрабіць сапраўдную Заходнюю Еўропу ў яе каталіцкім, рацыянальным варыянце.

Дарэчы, Магдэбургскае права, якое каралева Бона давала беларускім мястэчкам і гарадам, было супынена рукамі другой асветніцы, расійскай царыцы Екацярыны II.

Адной з лепшых якасцей каралевы Боны пры яе вытанчаным арыстакратызме быў на дзіва шырокі і дзяржаўны дэмакратызм. Гаспадарчымі кіраўнікамі-аканомамі Бона ставіла пераважна прадстаўнікоў дробнай шляхты. Яны служылі больш добрасумленна. Такім чынам, рэфармуючы дзяржаву, ствараючы моцную эканоміку, культуру землекарыстання і землеўладання, дзейнасць каралевы спрыяла дробным і сярэднім зямянам. Гэта польскае слова азначала саслоўе тых жа самых баяр, аб якім мы гаварылі вышэй, і шырокае ўжыванне яго замест слова першароднага і тутэйшага сведчыла аб новых уплывовых працэсах у Вялікім княстве Літоўска-Рускім, якое ўжо страціла сваю “рускасць” і дзе афіцыйна ўкаранялася польская тэрміналогія.

❖

А цяпер вернемся да легенды.

Італьянка па паходжанню, гуманістка па выхаванню, каралева Бона з павагай ставілася да мастацтва і цікавілася ім. Замкі, якія яна будавала, і касцёлы, якія ўзводзіліся на яе вачах, былі ўсе ў стылі Рэнесансу. Афармленне звонку і ўпрыгожванне ўнутры было святочным, не аскетычным і занадта строгім, як гэта адзначалася ў Сярэдневеччы. Аздабленне і роспісы ствараліся ў новым стылі, калі рэлігійныя лікі і сюжэты перадаюцца як жывыя вобразы рэальных людзей у рэальным асяроддзі і натуральных абставінах, у адзінстве іх фізічных і духоўных якасцей.

У акружэнні каралевы было многа італьянцаў-эстэтаў, але нямала было і русінаў: таленавітая і вытанчаная каралева Бона не магла абысціся без тутэйшых талентаў – праваслаўныя былі дойлідамі, мастакамі, разьбярамі.

Да ліку апошніх адносіўся і Нявон Навоша, ураджэнец Гарадка.

У пачатку XVI стагоддзя ў Гарадку ўзнік новы від рамяства – вытворчасць высакароднага царкоўнага ўбранства. Вырабы мясцовых майстроў сталі шырока вядомымі за межамі Гарадка, з'явіліся заказчыкі з іншых месцаў. І Гарадок стаў цэнтрам царкоўнага мастацтва своеасаблівага палескага накірунку.

Майстры выраблялі крыжы, надмогілкі, драўляныя і металічныя ўпрыгожванні; мастакі пісалі іконы, распісвалі цэрквы. Гэты выдатны від рамеснага мастацтва захоўваўся да канца XVIII стагоддзя. Ды і пазней заўсёды знаходзіліся сярод жыхароў Гарадка мастакі-іканапісцы, кавалі і разьбяры па дрэву і камені – умельства гэта традыцыйна жыве ў народзе. Ёсць умелыя майстры і мастакі і зараз.

У 1911–1912 гадах вядомы беларускі этнограф і археолаг У. А. Сербаў (1871–1943) падарожнічаў па Палессі. Яго мэтай стаў збор матэрыялаў па этнаграфіі і вуснай народнай творчасці. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на Давыд-Гарадок. Вучоны прыйшоў да высновы, што на Палессі ўсе крыжы і іконы старажытнай вытворчасці зроблены менавіта ў Давыд-Гарадку. Аб гэтым ён напісаў у сваёй абагульняючай працы "Паездкі па Палессі ў 1911 і 1912 гадах".

Вучоны наўрад ці памыляўся: у Давыд-Гарадку, які меў Магдэбургскае права і даволі часта ўпамінаўся ў хроніках Вялікага княства Літоўска-Рускага, спрадвеку існавала атмасфера павагі да майстэрства і высокай чалавечай годнасці. Тут былі старажытныя цэхі майстроў. Але адкуль яны ўзяліся і чаму расквітнелі?

Вытокі гэтага, вядома, у характары насельніцтва, але не толькі ў ім, а і ў стаўленні да ўмельства мясцовых валадароў. Услед за князем Міткам і іншымі, як мы ведаем, і Пінска-Гарадзецкі князь Фёдар Яраславіч быў вялікім прыхільнікам праваслаўя і яго мастацтва, ён сваёй воляй і сродкамі падтрымліваў дзейнасць гарадзецкіх майстроў і, як уладальнік, даволі часта бываў у Гарадку. Князь Фёдар шукаў у іншых землях і заахвочваў творчымі заказамі таленавітых праваслаўных людзей, перацягваў іх да сябе.

Як мецэнат, князь Фёдар і запрасіў да сябе ў свой стольны горад Пінск мастака Навошу. Гэта адбылося недзе ў сярэдзіне першай чвэрці XVI стагоддзя.

Пінск быў даволі буйным горадам таго часу, адным з паважаных цэнтраў Праваслаўя. У ім мелася 15 цэркваў, 2 манастыры і кляштар францысканцаў з касцёлам.

Навоша стаў прыдворным жывапісцам князя. Ім быў распісаны княжацкі палац, які велічна ўзвышаўся на тэрыторыі замка. Ён упрыгожваў цэрквы горада, а таксама, магчыма, выконваў заказы мясцовага магнацтва. Нягледзячы на тое, што князь Фёдар меў дамову з каралём Жыгімонтам I "никому ничого роздавати", Навошу ён узнагародзіў шчодра, надзяліў яго маёмасцю, як рыцара шляхты. Мастак меў двор у Пінску, а таксама два зямельныя надзелы за ваколіцай горада.

Пасля смерці князя Фёдара Яраславіча гаспадыняй усяго велізарнага ўладання князя, як вядома, стала каралева Бона. Уладанні нябожчыка-князя сталі яе маленькім асабістым каралеўствам, дзе яна ўстанавіла свае парадкі. На гэтых землях і праходзіла яе рэфарматарская дзейнасць, а Пінск быў тут яе галоўнай рэзідэнцыяй.

Месцамі часовага яе пражывання маглі быць альбо княжацкі палац у замку, альбо кляштар – прыгожы манастырскі комплекс францысканскага ордэна каля касцёла, які выглядаў як сапраўдны замак. Хутчэй за ўсё гэта быў палац князя Фёдара, бо каралева, як гаварылася, была жанчынай свецкай, не аскетычнай.

Каралева Бона любіла мастацтва, і спадчына для гэтай высакароднай італьянскай герцагіні ад рускага князя Фёдара, вялікага мецэната і таксама аматара мастацтваў, дасталася самая найлепшая. Палац быў упрыгожаны ўмельствам многіх талентаў. Вельмі хутка актыўная і цікаўная каралева пазнаёмілася з усімі майстрамі, апекуном якіх быў князь Фёдар.

Маладая каралева, якая любіла ездзіць і ўсё бачыць сама, несумненна, была і ў Гарадку, дзе пазнаёмілася з мясцовымі прадстаўнікамі рамеснага мастацтва. Ёй былі патрэбны майстры для асабістай рэзідэнцыі, а, магчыма, і для афармлення культавых пабудоў. Адным з такіх майстроў, на якога яна звярнула ўвагу, быў знакаміты Нявон Навоша.

Аб гэтым сведчыць грамата самой каралевы. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца:

"Навоша, малер наш пинский поведал, што князь Федор Иванович Ярославич дал ему два дворищи в селе нашом в Серниках, а еще дал ему двор в месте нашом Пинском, на што и лист князя Федоров нам вказывал и бил нам челом. Ему на то дали наш лист и то ему нашым листом подтвердили, бачачи того ремесника нам к месту нашому быть потребного и попиточного тые две приречные дворища и двор Пиньска ему самому, и его жене, и детем их и потомках их... абы он и его дети и его потомства нашым потомком служили тою службою малярскою...

Дано в Кракове 1525 году 20 апреля от Божьего нарождения".

Відавочна, у Навошы ўзніклі нейкія праблемы з новымі мясцовымі ўладамі аб яго праве на валоданне дараванымі яму князем Фёдарам сядзібамі. І ён звярнуўся асабіста да сваёй гаспадыні. У грамаце ўказваецца, што ён паказаў грамату ("лист") самой каралеве. Сам Навоша названы "нашым пінскім мастаком", што сведчыць аб яго творчай залежнасці ад каралевы, бо ён быў патрэбны для горада ("к месту") рамеснік.

А можа, усё было інакш. І сама каралева Бона звярнула ўвагу на незвычайнага прыдворнага мастака, які быў уладальнікам трох сядзібаў. І выказала незадаволенасць таму, што князь Фёдар не меў права так вольна распараджацца маёмасцю караля, а зараз – каралевы. Яна загадала паклікаць да сябе мастака, і тут адбылося іх знаёмства, якое ўразіла каралеву. Гэта відаць са слоў яе граматы, якія гучаць так урачыста.

Навоша і сапраўды, відаць, быў унікальным мастаком, калі былую італьянскую прынцэсу, выхаваную ў Рыме з яго тысячамі помнікаў архітэктуры, сярод магутных твораў старажытных майстроў, пачынаючы з часоў антычнасці, у гэтым горадзе-музеі, магла ўразіць яго творчасць.

Практычная каралева адразу замацоўвае сваёй граматай творчы саюз улады і мастака, каб і нашчадкі Навошы служылі сваёй творчасцю каралеве і яе нашчадкам.

І ўсё ж такі тут ёсць пытанне. Вядома, што каралева Бона выхоўвалася Рэнесансам і была надзвычай чалавечнай і дэмакратычнай асобай. Але ж неяк незвычайна гучаць гэтыя словы каралеўскай граматы: "абы он и его дети и его потомство нашым потомком служили". Нашчадкі звычайнага "малера" неяк дзіўна ўраўноўваюцца з каралеўскімі нашчадкамі. Так вольна і смела выказваліся каралі і князі архаічных часоў, а польская каралева, няхай і італьянка, з чалавекам наўрад ці шляхецкага саслоўя параўноўваць сябе не магла. А тым больш, і сваіх нашчадкаў.

Да таго ж, Навоша быў праваслаўным. І такая міласцівая сувязь схізматыка (так зняважліва называлі праваслаўных у Польшчы) з каталіцкім каралеўскім родам, несумненна, была надзвычайнай. І, калі ўглеДзецца ў словы каралевы Боны, то гучыць у іх, нават у афіцыйнай грамаце, нешта асабістае, нават інтымнае.

❖

Ну, а як жа з легендай аб каханні каралевы і мастака? Ці можна сцвярджаць што-небудзь станоўчае?

Пачнём з таго, што ўжо вядома. Бона была выхаванкай колаў вышэйшай арыстакратыі Італіі XVI стагоддзя, дзе норавы нават у папскім Ватыкане былі, мякка кажучы, свабоднымі. А ў грамадстве, тым больш у раскошы магнацкага асяроддзя, забарон наогул было мала. Аб гэтым сведчыць славуты "Дэкамерон" італьянскага пісьменніка-гуманіста Дж. Бакачча, а яшчэ больш Ф. Рабле, які, дарэчы, быў манахам.

Бона выйшла замуж не дзяўчынкай, а 24-гадовай жанчынай, якая пры сваёй выключнай прываблівасці і прыгажосці мела вялікі поспех сярод лепшых кавалераў Італіі і, верагодна, усёй Еўропы, калі яе ведаў і шанаваў германскі імператар. Нагадаем і тое, што шлюбы тады браліся з 14 – 16 гадоў, прыкладна ў гэтым ўзросце пачыналіся для залатой моладзі першыя прыгоды Венеры.

Так што маладая герцагіня Сфорца д'Арагона ўжо добры дзесятак гадоў правяла ў гульнях, балях і каханнях, калі пажаданне папы рымскага раптоўна накіравала яе ў Польшчу. Халодная Польшча – гэта не вясёлая цёплая Італія, дзе ўсё жыццё – як баль. І можна ўявіць, што прыгажуня Бона згадзілася на гэта пасля нейкай заблытанай рамантычнай гісторыі з дуэлямі і смерцю. Тады гэта было звычайнай справай.

І вось такая прыгажуня, крыху стомленая і расчараваная, з'яўляецца ў Кракаве. Жыгімонт быў старэйшы за сваю жонку, як мы памятаем, на 27 гадоў і цалкам знаходзіўся пад уплывам Боны не толькі ў сямейных, але і ў дзяржаўных справах.

Маладая каралева была непаседлівай асобай. І ў час сваіх паездак па Польшчы, і асабліва па Беларусі, у яе мелася шмат сустрэч, знаёмых. Яна асабіста назначала кіраўнікоў сваіх гаспадарак, разглядала скаргі падданых, мноства разоў вырашала свае пытанні ў судах. Судзілася яна па-майстэрску, хутчэй за ўсё была нават сама абаронцам і следчым і выйгравала многа працэсаў.

У асяроддзі каралевы былі музыканты, артысты, мастакі, вучоныя, бліскучыя рыцары. Усё гэта ёй мог даць польскі Кракаў, бо не дарэмна існуе такая крыху жартоўная думка, што палякі – гэта італьянцы сярод славян.

Але каралева Бона жыла больш у княстве Літоўска-Рускім, ды не ў Вільні, а ў Пінску. Штосьці яе трымала ў нашых мясцінах, глухой правінцыі Еўропы, якія не маглі ісці ў параўнанне з вяльможным Кракавам. Тым больш, што Палессе, у тым ліку Пінск і Гарадок, з'яўлялася краем у асноўным праваслаўным. А магчыма, каралеву Бону прываблівала паляванне?

Хутчэй за ўсё гэта было каханне. Доказаў, прамых і дакументальных, што мастак Навоша і каралева знаходзіліся ў блізкіх адносінах, няма. Ніхто не ведае гэта, акрамя Бога. Але, як кажуць, дыму без агню не бывае, калі легенда дажыла да нашых дзён. На пустым месцы такія неверагодныя гісторыі не ўзнікаюць.

І калі аўтар гэтай кнігі паспее, ён абавязкова напіша пра мастака і каралеву рамантычны мастацкі твор.

Акрамя агульных псіхалагічных і эмацыянальных разважанняў, ёсць адно цікавае сцвярджэнне, якое не толькі гіпотэза. Гэта думка наконт характару прыгажуні-італьянкі: яна была даволі супярэчлівай асобай. Вельмі багатай, але скупой – судзілася за кожны кавалачак зямлі.

А вось Навошы, як сведчыць вышэй прыведзены дакумент, яна аддавала тры сядзібы: "ему самому, и его жене, и детем их и потомком их"... Гучыць, згадзіцеся, як песня. Так што падабаўся каралеве Боне ўсё ж такі мастак, калі выказвала яна такі шчодры каралеўскі клопат.

Па тагачаснай шчыльнасці гарадской забудовы выкраіць участак у горадзе было не проста, але для Навошы гэта было зроблена. Яго сядзіба мясцілася непадалёк ад Ануфрыеўскай царквы, на правым беразе Піны, ля замка, побач з дваром гарадскога старосты Івана Падэбскага. Такое месца многа значыла тады.

У 1552 годзе пераглядаліся дакументы на землекарыстанне. Навошы ўжо не было ў жывых. Вышэйпрыведзеную каралеўскую грамату Боны прад'явіў ягоны сын Міхно Навошыч, які бацькоўскага рамяства

“не вмел”. Боны ўжо не было ў каралеўстве і Княстве, але аўтарытэт яе, трэба думаць, дапамог нашчадку Навошы захаваць маёмасць.

Так закончыўся гэты палескі раман. Бона перажыла майстра на некалькі гадоў. Магчыма, у далёкай Італіі яна расказвала маладым прыгажуням гісторыю пра Мастака і Каралеву, зрэшты, не называючы імён...

❖

Каралева Бона вельмі любіла свайго сына Жыгімонта Аўгуста і дамагалася яго каранавання яшчэ пры жыцці бацькі. Жыгімонт-бацька заўсёды слухаўся сваёй жонкі, а ў гэтым пытанні тым больш, імкнучыся яшчэ пры сваім жыцці замацаваць трон за сваёй дынастыяй Ягелонаў. У 1529 годзе дзевяцігадовы хлапчук быў абраны соймам Княства – вялікім князем, а сеймам Польшчы – каралём. З гэтага часу яго бацьку-караля Жыгімонта і сталі ў дадатак зваць Старым.

Па палітычных меркаваннях Жыгімонт II Аўгуст ажаніўся з дачкою наследніка імператарскага трона Германіі Лізаветай, але праз два гады маладая каралева памерла ва ўзросце дзевятнаццаці гадоў – у 1545 годзе.

І вось у гэты час у Вялікім Літоўска-Рускім гаспадарстве, а больш дакладней – на Беларусі, пачынаецца зорны час Радзівілаў, які цягнуўся тры стагоддзі.

Русіны і праваслаўныя па паходжанню, Радзівілы ў гэты час ужо былі каталікамі і займалі прыкметныя дзяржаўныя пасады, хаця да іх з пагардаю адносілася каралева Бона і падбухторвала супраць Радзівілаў караля.

Але здарылася адна падзея, якая зрабіла Радзівілаў славутымі не толькі ў Кароне (Польшчы) і Княстве, але і ў Еўропе. Гэта было так званае каханне стагоддзя, як назвалі яго сучаснікі: каханне Жыгімонта II Аўгуста і Барбары Радзівіл.

Іх сустрэча адбылася ў Вільні, дзе яны жылі. Яму – 23, ёй – 20. У яго – хворая жонка, яна – маладая ўдава.

Сучаснікі лічылі Барбару самай прыгожай жанчынай Літвы і Польшчы. У сваёй рабоце “Чорная дама Нясвіжскага замка” К. Шышыгіна-Патоцкая дае ёй такую характарыстыку:

“Яна была паўночнай чараўніцай – смуглявай бландынкай. Яе тонкую прыгажосць, злучаную з вялізнай абаяльнасцю, дапаўняла незвычайная элегантнасць. Тых, хто сутыкаўся з Барбарай, захаплялі пяшчотнасць яе погляду, ласкавая гутарка, павольнасць і веліч рухаў... Барбара мела вельмі бурны тэмперамент, якім яна прычаравала Аўгуста так моцна, што той гатоў быў лепш страціць карону, чым яе каханне”.

Апошняе ён даказаў сваімі паводзінамі. Пасля смерці жонкі Аўгуста яго маці каралева Бона мела намер ажаніць яго з адзінаю дачкою ўладара Прусіі, мяркуючы, што ў будучым ён будзе правіць і гэтай краінай. Аднак з гэтага нічога не атрымалася.

Бона даведалася, што прычына яго адказу – Барбара, і пачала разам са старым каралём жорсткую барацьбу супраць літоўскай прыгажуні, асабліва калі Жыгімонт II абвясціў у 1547 годзе, што ён ажаніўся з Барбарай. Гэты шлюб арганізавалі брат Барбары Мікалай Руды (1512–1584) і іх дваюрадны брат Мікалай Чорны (1515–1565).

Бона падняла на ногі ўсю Польшчу і Літву супраць выскачкі-ліцвінкі. Яна літаральна залівалася слязьмі адчаю, лічачы шлюб сына жыццёвай катастрофай, якая закрэслівала дынастычныя і сямейныя планы. Стары Жыгімонт быў на яе баку ў гэтай драме.

Вясной 1548 года Жыгімонт I Стары памёр. Першым крокам маладога караля было жаданне дабіцца прызнання Барбары каралевай. Аднак сейм і большасць біскупаў патрабавалі скасавання шлюбу. Гэты цяжкі для яго час цягнуўся доўга.

Адбыўся разрыў з маці, і старая каралева разам з дачкамі, сёстрамі караля, пакінула сталічны Кракаў. А малады кароль заявіў, што ён хутчэй адрачэцца ад польскай кароны, чым пакіне каханую. І ён перамог. Дзяржаўная апазіцыя адступіла перад гарачым сэрцам і націскам караля.

Барбара прыехала ў Кракаў, была каранавана прымасам і стала законнай каралевай і вялікай княгіняй. Але прабыла яна на троне ўсяго толькі паўтара года. Няпрадбачаная цяжкая хвароба ў маі 1551 года закончылася яе смерцю. Яна пражыла толькі 30 гадоў. Перад яе канчынай нелюбімую нявестку прызнала і Бона.

Пасля смерці Барбары адносіны караля з маці яшчэ больш пагоршыліся. Справа ў тым, што ўзніклі цьмяныя чуткі, як быццам Бона мела дачыненне да смерці абодвух жонак сына, аб чым апошні гаварыў уголас.

Усё гэта рабіла знаходжанне Боны ў чужой для яе, па-сутнасці, дзяржаве небяспечным. Гарачы характар караля таксама не абяцаў нічога добрага ў будучым. І Бона вырашыла пакінуць Польшчу і вярнуцца на радзіму, у Італію. Перад ад'ездам яна і наведала Пінск і Палессе, дзе прайшлі яе маладыя гады і дзе здзяйсняліся яе ініцыятывы.

З цягам часу высветлілася, што акрамя гуманізму і ідэй Рэнесансу каралева Бона мэтанакіравана ўзбагачалася. Гэта адукаваная італьянка з рацыяналістычным светапоглядам вырашыла ўзбагаціцца на Літве і Польшчы, каб забяспечыць сваю старасць. А жыць Бона хацела доўга.

І вось яе таемная праграма была выканана. Яна мела велізарныя багацці, частка з іх ужо знаходзілася ў Італіі. З вялікімі цяжкасцямі Бона пераадолела супраціўленне караля і дзяржаўных устаноў, якія не хацелі губляць такія агромністыя сродкі, якія нагадвалі казну цэлай краіны.

З Польшчы Бона вывезла 24 вазы з золатам, срэбрам і іншымі каштоўнасцямі. Гэта быў натуральны залаты караван.

У Італію яна трапіла ў красавіку 1556 года і пасялілася ў Неапалі, у палацы, падараваным ёй каралём Іспаніі і Неапаля Філіпам II. Не бескарысліва. Бона пазычыла яму 430 тысяч залатых дукатаў, за што павінна была браць з караля 10 працэнтаў гадавых.

Цяпер яна магла жыць да ста гадоў – шыкоўна і без клопатаў. Бона была яшчэ ніштаватая, яна цяпер магла купляць лепшых кавалераў. Але яна раптоўна памерла.

Роўна праз паўтара года пасля прыезду ў Італію, як і яе прыгажуня-нявестка, так ненавідзімая ёй Барбара Радзівіл – пасля прыезду ў каралеўскі замак. Пагадзіцеся, у гэтым ёсць нейкі надзвычайны сэнс, нібыта нейкая кара.

Каралева Бона была фізічна моцнай і здаровай жанчынай, тэмпераментнай і валявой асобай. Аб прычынах яе смерці існуюць розныя меркаванні. Найбольш распаўсюджанае ў гісторыі падрабязна выказана польскім гісторыкам Эдвардам Рудзскім у яго даследаванні “Польскія каралевы Пястаў і Ягелонаў”. Ён піша, што Бона Сфорца была атручана яе асабістым лекарам Янам Антоніо Макерата па даручэнню караля Філіпа II. Гэта праўдападобна, таму што інквізітар-кароль сваёй жорсткасцю пераўзыходзіў свайго сучасніка ў паўночнай дзяржаве – цара Івана Грознага. І знайшла ж каму Бона рабіць такую пазыку! Італія гэта была ёй не Вялікае княства Літоўска-Рускае, дзе інквізіцыі амаль што не было. За доўгае жыццё на Палессі і наогул у Беларусі з яе мяккасцю і добразычлівасцю, каралева Бона страціла пачуццё бяспекі. І лёс пакараў яе.

Доўг кароль-інквізітар так і не вярнуў. І ўсе польскія каралі, узыходзячы на трон, на працягу двух стагоддзяў прад’яўлялі італьянскім каралям патрабаванні аб вяртанні пазыкі. Безвынікова.

Так і згубіліся 24 вазы з золатам. Што яшчэ тут дадаць? Магіла каралевы Боны захавалася, а вось дзе спіць палескі мастак Навоша – невядома.

Няшчасны кароль Жыгімонт II Аўгуст пераўжыў сваю маці на 15 гадоў. У каханні ён ведаў толькі гора, а вось у дзяржаўнай дзейнасці Жыгімонт II аказаўся шчаслівы. Дзейнасць караля і вялікага князя была адметнай з’явай у гісторыі Польшчы і Літоўска-Рускай дзяржавы. Час яго кіравання адзначаны буйнымі гаспадарчымі мерапрыемствамі. У рэфарматарскіх справах ён быў падобны на сваю маці. Сярод яго дзеянняў – правядзенне “волочной померы” на базе прынятай у 1557 годзе “Уставы на валокі”, якая была ажыццёўлена каралевай Бонай на значнай тэрыторыі Беларусі.

У 1556 годзе ўведзены ў другой рэдакцыі новы Статут Вялікага княства – больш сістэматызаваны і лепей кадэфікаваны звод законаў, які дапамог захавацца ў цяжкія часы самастойнасці княства Літоўска-Рускага з яго традыцыямі і асаблівасцямі. Гэта адбылося пры Жыгімонце II Аўгусце.

Але самай найвялікшай падзеяй у дзейнасці караля было стварэнне федэратыўнай дзяржавы – Рэчы Паспалітай у 1569 годзе на падставе Люблінскай уніі.

Гады праўлення гэтага караля вызначаліся верацярпімасцю, раз-

віцём пратэстантызму, свабоднай культурна-рэлігійнай і грамадскай дзейнасцю прадстаўнікоў гуманістычнага Рэнесансу. Двума прывілейнымі граматамі надаваліся аднолькавыя сацыяльна-эканамічныя правы шляхце Княства незалежна ад яе рэлігійнай арыентацыі.

Нягледзячы на канфрантацыю каралевы Боны і Жыгімонта II Аўгуста, ён застаўся сынам сваёй маці – выхаванкі Рэнесансу, і збярог традыцыі, якія насаджала ў княстве Літоўска-Рускім гэта надзвычайная жанчына. Судзіцца ў афіцыйных судах, як рабіла яна, гэта, пагадзіцеся, не адно і тое ж, як прыцягваць да судовай справы інквізіцыю і сакрэтныя службы. А менавіта так практыкавалася на Захадзе Еўропы, якая, як чумой, была ахоплена здзекамі і вар'яцтвам інквізітараў. Ды і на ўсходзе, у Масковіі, у цара Івана Грознага адбывалася тое ж – там лютавала апрычніна.

Уплыў каралевы Боны быў сапраўды дзіўным у той час: дзяржава жыла без хваляванняў і ўзрушэнняў, без уціску і апантанасці рэлігійнага фанатызму: не сакрэт, што вялікія багацці на Захадзе збіраліся пры дапамозе палаючых кастроў інквізіцыі. У параўнанні з апрычнай Масковіяй гэтага часу і асветленага вогнішчамі інквізіцыі Захаду, дзяржаву Жыгімонта II Аўгуста называлі – "абетаванай зямлёй".

Непрымірымы праціўнік папства Марцін Лютэр прысвяціў перакладзеную ім на нямецкую мову "Біблію" менавіта каралю і вялікаму князю Жыгімонту II.

Кароль быў жанаты тройчы, але нашчадкаў не пакінуў. Разам з яго смерцю закончылася дынастыя Ягелонаў, якая ўладарыла ў Польшчы і Беларусі амаль дзвесце гадоў. Невыпадкова Жыгімонт II быў Аўгустам – так сябе называлі некалі славутыя рымскія імператары. Ён і сапраўды быў Цэзарам – разумным, высакародным уладаром. Пры яго жыцці Палессе і Давыд-Гарадок з яго Магдэбургскім правам, якое мелі тады вельмі многія мястэчкі Беларусі, жылі без войнаў і жорсткай рукі ўладаў. У параўнанні з другім слаўным валадаром Вітаўтам, Жыгімонт быў каралём міру і ладу.

З 1572 году, пасля Ягелонаў, дынастычнае наследаванне перастала існаваць: каралі выбіраліся прадстаўнікамі шляхты выбарчым сеймам толькі аднагалосна.

❖

Пасля каралевы Боны і яе бяздзетнага сына-караля на палескіх землях з'яўляюцца новыя ўладальнікі. Лёс Палесся і Давыд-Гарадка немагчыма ўявіць без Радзівілаў, якія пакінулі ў тутэйшых месцах незабыўны след. Напрыклад, той жа горад Столін: як упрыгожвае яго старажытны парк славутых арыстакратаў!

Русінскі род Радзівілаў вядомы з сярэдзіны XV стагоддзя. Яго роданачальнікам быў віленскі кашталян Осцік. Сын яго Радзівіл у 1475 го-

дзе наследаваў пасаду бацькі. Яго імя стала прозвішчам славутага магнацкага роду, які трывала ўвайшоў у гісторыю Беларусі.

Радзівіл прыняў каталіцтва, але яго шматлікія нашчадкі заўсёды лічылі сябе ліцвінамі (русінамі) і былі патрыётамі Літоўска-Рускага гаспадарства да канца яго існавання.

Сын Радзівіла Мікалай Стары ў канцы свайго жыцця займаў пасаду канцлера – начальніка канцылярыі вялікага князя, якая была пажыццёвай. Гэтую ж пасаду займаў і яго сын Мікалай Малодшы. Другі сын Мікалая Старога Юрый апошнія дзесяць гадоў свайго жыцця быў вялікім гетманам гаспадарства (галоўнакамандуючым войскамі).

Як і яго папярэднік Канстанцін Астрожскі, Юрый Радзівіл вядомы як таленавіты военачальнік, удзельнік у шматлікіх ваенных паходах супраць крымскіх татараў і маскавітаў. За перамогу ў трыццаці бітвах ён быў празваны літоўскім Геркулесам. У 1523 годзе Юрый Радзівіл стаў уладальнікам Нясвіжа, дзе пабудаваў драўляны замак. Пазней Нясвіж стаў сталіцай велізарнага магнацкага ўладання, дзе быў створаны буйнейшы ў дзяржаве замак, шэдэўры архітэктуры і мастацтва, – музей, карцінная галерэя, тэатр, друкарня. Памёр Юрый Радзівіл у 1541 годзе. Некалькі пазней памёр і яго зяць, трокскі ваявода Станіслаў Гаштольд – дачка Юрыя Барбара засталася 20-гадовай удавой. Яе старэйшы брат Мікалай Руды і дваюрадны брат Мікалай Чорны (мянушкі ім дадзены па колеру валасоў) прынялі дзейсны ўдзел у збліжэнні Жыгімонта II Аўгуста і Барбары.

Але гэтаму каханню, аднаму з найвялікшых у гісторыі, рамантычнаму і ўзнёсламу, трагічна не пашанцавала. І да сваёй смерці кароль Жыгімонт II, якому не пашчасціла на зямлі, найбольш вылучаў Радзівілаў у сваёй дзяржаве, памятаючы Барбару і смуткуючы аб ёй.

Мікалай Руды (1515–1584), як і яго папярэднікі, таксама займаў вышэйшыя пасады ў гаспадарстве. З'яўляўся трокскім і віленскім ваяводам, вялікім гетманам і канцлерам, быў удзельнікам Лівонскай вайны. У час заключэння Люблінскай уніі ўзначальваў антыпольскую групоўку шляхты. У 70-я гады бескаралеўя да абрання Стэфана Баторыя з'яўляўся неабмежаваным уладаром Вялікага княства, кіраваў падрыхтоўкай трэцяга Статута, быў адным з пачынальнікаў рэфармацыйнага руху.

Найбольш цесныя, сапраўдныя сяброўскія адносіны склаліся ў Жыгімонта II Аўгуста з дваюрадным братам Барбары і Мікалая Рудога – Мікалаем Чорным (1515–1565). Рана страціўшы бацьку, ён быў узяты да каралеўскага двара, дзе выхоўваўся разам з нашчадкам караля. Добра ведаючы міжнародную мову таго часу – лацінскую, Мікалай Радзівіл даволі часта выконваў дыпламатычныя даручэнні.

У 1547 годзе ён вёў перамовы з імператарам Свяшчэннай Рымскай (Германскай) імперыі Карлам V. Яму ўдалося станоўча вырашыць даручаныя яму пытанні. Ацаніўшы яго здольнасці, імператар дараваў Мікалаю Чорнаму тытул князя Нясвіжскага: у тыя часы тытулы арыстакра-

тыі Еўропы раздаваў германскі імператар. Тытул Мікалая Чорнага быў прызнаны каралём і зацверджаны за ўсім магнацкім родам Радзівілаў назаўсёды.

Праз некалькі гадоў Мікалай зноў вёў перамовы з імператам Карлам V. На гэты раз ён выступаў у якасці свата. Яму ўдалося атрымаць згоду ад імператара на шлюб дачкі яго нашчадка Фердынанда з каралём Жыгімонтам II Аўгустам. Па старому звычаю, каб зацвердзіць факт сватання, Радзівіл у поўным рыцарскім убранні прылёг на ложак каля будучай жонкі караля.

Дзейнасць Мікалая Чорнага была патрыятычнай. Як і Мікалай Руды, ён быў праціўнікам аб'яднання Літоўска-Рускага княства з Польшчай. З-за сваёй непрымірымай пазіцыі, займаючы пасаду вялікага канцлера, ён дамогся адтэрміноўкі уніі на некалькі гадоў. За гэты час у перыяд Лівонскай вайны з Маскоўскай дзяржавай, яму ўдалося Лівонскі ордэн пераўтварыць у пратэктарат Княства.

Мікалай Чорны ўзначальваў рэфармацыйны рух ў Літоўска-Рускім гаспадарстве. Спачатку ён лічыўся лютэранінам, потым стаў кальвіністам. Ён абвясціў Нясвіж цэнтрам пратэстанцтва на Беларусі, адкрыў тут друкарню, пры ім працаваў вядомы асветнік Сымон Будны.

І на Берасцейшчыне Мікалай Чорны пакінуў добры след. Ён з'яўляўся брэсцкім старостам і заснаваў тут першую на Беларусі друкарню, дзе была надрукавана вядомая "Брэсцкая Біблія".

Кароль Жыгімонт II Аўгуст за адданасць і добрую службу надзяліў свайго сябра значнымі зямельнымі ўладаннямі. Вядома, што каралева Бона валодала цэлым падуласным ёй каралеўствам у каралеўстве – велізарнымі зямельнымі абшарамі з гарадамі і вёскамі, рэкамі і лясамі. У гэта своеасаблівае каралеўства Боны ўваходзіла Палессе і нашы мясціны. У час напружаных адносін паміж ёю і каралём-сынам, апошні частку гэтых уладанняў перадаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму ў 1151 годзе, у прыватнасці гарады Клецк і Гарадок.

У даравальнай грамаце аб гэтым гаварылася:

"Радзивил Николай берет подаванья монастырей, костелов и церквей, с местами и волостьми, с именьями бояр-шляхты и со всим правом и волосностью, потому яко тые замки Клецко и Городок... князь Федор Ярославович и Фалимичи князь Василий Сангушкович и по них к рукам королевое ее милости и великое княгини Боны держано".

Зноў у Гарадка з'явіўся новы гаспадар. На гэты раз надоўга. Прыватнаўласніцкія гарады былі пажыццёвай уласнасцю магната і пераходзілі ў спадчыну старэйшаму па ўзросту нашчадку па мужчынскай лініі.

Можна сказаць, што Гарадку пашанцавала. Як і часы каралевы Боны, так і часы Радзівілаў былі нягоршымі ў яго гісторыі. Радзівілы са сваёй патрыятычнай пазіцыяй у дачыненні Беларусі былі гуманнымі гаспадарамі. Іх чалавечнае гаспадаранне дазволіла застацца Пінску і Гарадку

цэнтрамі Праваслаўя, кіраванне Радзівілаў не было рэфарматарска-разбуральным: гарады захаваліся са сваімі традыцыямі, са сваім гістарычным тварам.

Давыд-Гарадок быў уласнасцю князёў Радзівілаў да 1793 года, калі па другому раздзелу Рэчы Паспалітай у ліку іншых зямель Беларусі цэнтральнае Палессе ўвайшло ў склад Расійскай імперыі.

❖

Вялікае княства Маскоўскае, якое стварылася ў канцы XIII стагоддзя, стала цэнтрам барацьбы супраць феадальнай раздробленасці. Першым "собирателем Руси" з'яўляўся вялікі князь Іван Каліта, які правіў з 1325 года і за пятнаццаць гадоў золатам і хітрасцю, вялікім розумам дыпламата і цвёрдай воляй уладара шмат зрабіў для адраджэння Русі. Нездарма яго празвалі Калітою, гэта значыць – мехам з грашыма.

У гэты ж час на паўднёва-заходніх землях Русі ўтварылася дзяржава, валадары якой таксама ставілі сваёй мэтай аб'яднанне зямель былой Кіеўскай Русі – Вялікае княства Літоўска-Рускае. Абодва Вялікія княствы – Маскоўскае і Літоўска-Рускае – вымушаны былі збройнымі метадамі дзяліць спадчыну продкаў.

Адзіныя мэты аб'яднання, альбо, прама кажучы, – захопу адных і тых жа зямель прывялі роднасныя па паходжанню і культуры дзяржавы да шматвяковага проціборства. З другой паловы XIV стагоддзя пачаліся сістэматычныя ваенныя сутычкі, якія паступова перайшлі ў зацяжныя войны. Абодва Княствы адчувалі сябе аднолькава моцнымі і лічылі, што толькі кожнае з іх асабіста і выключна з'яўляецца паўнамоцным нашчадкам велізарных зямель прадзедаўскай Кіеўскай Русі. Кожнае з Княстваў разлічвала перамагчы – раз і назаўсёды, таму войны доўжыліся і доўжыліся.

Масковія прыцягвала да сябе новыя і новыя землі, а Літоўска-Рускае княства трымалася за тое, што мела, абмежаванае на Захадзе Польшчай, якая нацiскала на Княства дзеля яго войнаў з ненавіснай для Польшчы Масковіяй. І цякла, цякла кроў суродзічаў, кроў праваслаўная.

Пры Вітаўце Літоўска-Рускае гаспадарства было самай вялікай еўрапейскай дзяржавай, межы якой на ўсходзе знаходзіліся недалёка ад Масквы. Літоўска-Рускае княства рэальна мела шанс завалодаць маскоўскімі землямі, і Вітаўт, як мы памятаем, пускаўся ў авантуры з татарамі, але нічога не атрымалася.

У XVI стагоддзі адбылося пяць войнаў паміж Літвой і Масковіяй (так узаемна называлі свае дзяржавы-супраціўнікі, а народы, якія жылі ў іх – літвой і маскавітамі). Масковіяй афіцыйна называлі Маскоўскую Русь і ў Еўропе. Напрыклад, буйнейшая праца аб рускай дзяржаве таго часу, надрукаваная ў Еўропе ў 1549 годзе С. Герберштэйнам, называлася "Записки о Московии".

Пяць войнаў Літвы і Масковіі вяліся сорак адзін год. Першыя дзве вайны праходзілі на маскоўскіх землях, але Масковія адціснула Літву на захад.

Пачынаючы з трэцяй вайны 1512–1522 гадоў ваенныя дзеянні адбываюцца амаль выключна на тэрыторыі Літвы (Беларусі), што прыносіць народу і беларускім землям бедствы і разбурэнні. Асабліва значныя страты былі нанесены Беларусі ў час інфлянцкай (Лівонскай) вайны (1558–1583), якую Руская дзяржава Івана Грознага вяла за Прыбалтыку. З 1562 года вайна ішла на землях паўночнай і ўсходняй Беларусі.

Войны XVI стагоддзя не закранулі Палесся, і Гарадзецкі замак не зведаў яшчэ аблогі маскавітаў. Гэта адбылося пазней, у сярэдзіне наступнага стагоддзя. Але мяшчане Гарадка, навакольная і мясцовая шляхта, служылыя баяры і зямяне на аснове існуючых у Княстве законаў, у час войнаў станавіліся ў шэрагі войска.

Гарадоцкі замак не ваяваў, але няспынна быў заняты падрыхтоўкай і, як кажуць, трымаў порах сухім. Акрамя таго, на працягу ўсяго года вяліся работы па падтрымліванню ў належным стане абарончых збудаванняў замка, узбраення; навучаліся і рыхтаваліся абаронцы.

Гэта было выключна неабходна з-за шматлікіх набегаў паўднёвых драпежнікаў – крымчакоў. Яны не раз штурмавалі замак, палілі горад і рабавалі яго і наваколле. Захоплівалі ў палон. І хто ведае, на якія нявольніцкія базары траплялі жыхары Давыд-Гарадка, продкі сённяшніх гарадчукоў, і сярод насельніцтва якіх паўднёвых краін трапляюцца сённяшнія блакітныя палескія вочы і саламяныя валасы?

Асабліва частымі грабежніцкія набегі татар былі ў канцы XV – пачатку XVI стагоддзя. І толькі з сярэдзіны XVI стагоддзя яны значна скараціліся. У крымчакоў, якія мучылі Беларусь, з'явіўся магутны вораг – Запарожская Сеч, гэты надзейны шчыт, які абараніў на поўдні ўкраінскія і беларускія землі.

Запарожская Сеч узнікла на сярэднім цячэнні Дняпра і была ўнікальнай з'явай. Запарожская вольніца, якая стварылася з свабодалюбівых русінаў (украінцаў і беларусаў), стала даволі значнай ваеннай і палітычнай сілай, праваслаўным заслонам на шляху грабежнікаў – і не толькі крымчакоў, але і туркаў, і палякаў.

Запарожцы займалі не толькі абарончую пазіцыю, але даволі часта і самі нападалі на ворагаў, хадзілі ў працяглыя конныя рэйды да Чорнага мора. Іх ваяўнічае братэрства было войскам самага вышэйшага класу, мабільным, мужным і проста легендарным у сваіх подзвігах і авантурах.

З узнікненнем Запарожскай Сечы наступіў перыяд пачатку арганізаванай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў за захаванне сваёй нацыянальнай годнасці, за веру продкаў.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

# *У РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ*

**(1569–1793)**

# ДЗВЕ УНІІ

*Ибо нет ничего тайного,*
*что не сделалось бы явным,*
*ни сокровенного,*
*что не сделалось бы известным*
*и не обнаружилось бы.*

***Евангелие. От Луки, гл. 8, 17***

Гістарычна склалася так, што цэнтрам Хрысціянскай царквы, якая ўзнікла ў першым стагоддзі, стаў Рым – сталіца самай магутнай і цывілізаванай дзяржавы таго часу – Рымскай імперыі.

У 395 годзе імперыя падзялілася на дзве: Заходнюю – з цэнтрам у Рыме, і Усходнюю (Візантыйскую) – з цэнтрам у Канстанцінопалі. У адзінай Хрысціянскай царквы з'явіліся два кіраўнікі: на захадзе рымскі епіскап (пазней ён стаў называцца – папам), на ўсходзе – канстанцінопальскі патрыярх.

Пачалося паступовае аддаленне аднаго цэнтра ад другога. Яно суправаджалася ўмацаваннем самастойнасці патрыярха, які абапіраўся на падтрымку сваёй вярхоўнай улады. Гэта асабліва ўзмацнілася пасля падзення Заходняй Рымскай імперыі ў 476 годзе.

Па ініцыятыве ўсходніх царкоўных іерархаў у 325 годзе прайшоў першы Усяленскі сабор у Нікеі, на якім быў зацверджаны сімвал веры – пералік галоўных дагматаў (іх дванаццаць) хрысціянскага веравучэння. Пазней на саборах гэтыя дагматы ўдакладняліся.

У 870 годзе адбыўся чацвёрты Канстанцінопальскі сабор, на якім былі выяўлены рэзкія супярэчнасці паміж Заходняй і Усходняй хрысціянскімі царквамі. Настойваючы на сваёй перавазе, кожны з цэнтраў адмаўляўся ад узгодненых дзеянняў, стаў па-рознаму тлумачыць асноўныя догмы веравучэння, уносіць свае змяненні ў абраднасць, на свой лад весці царкоўнае жыццё. Справа дайшла да разрыву.

Гэта адбылося ў 1054 годзе. Папа рымскі Леў IX і патрыярх канстанцінопальскі Міхаіл Керуларый узаемна пракллялі адзін другога – аб'явілі анафему. Сёння сэнс анафемацтва – не толькі ў пракляццях і адлучэннях асоб, гарадоў ці нават цэркваў: ён у катэгарычнасці зацвярджэння той ці іншай сітуацыі – ды будзе так!

Але мала хто ў той час думаў, што такі разрыў будзе назаўсёды: жыццё Хрысціянскага свету ў старажытнасці было бурным, царква ўвесь час знаходзілася ў стадыі аднаўлення, яна змагалася з хвалямі, якія ўздымалі шматлікія самазваныя пракокі і ерэтыкі, а разам з тым і мноства іерархаў царквы, якія кіраваліся па-свойму свабодай думак і поглядаў, дараванай Богам. Многія хваробы царквы мелі тэрміновы характар. Хрысціянскі свет заўсёды знаходзіў сілы для аб'яднання і брацкага сумеснага развіцця.

Але на гэты раз мудрасці і цярпення не знайшлося: раскол быў катастрафічным, сусветным, закрануў увесь Стары, а пазней і Новы Свет. Адбылася схізма – раздзел.

Хрысціянская царква раздзялілася на дзве: каталіцкую (ад грэч. каталікос – сусветны) і праваслаўную (ад грэч. артадокс – правільны). Пасля гэтага Сусветныя саборы ніколі не праводзіліся.

Узаемнае пракляцце пратрымалася да 1965 года, калі папа рымскі Павел VI сустрэўся ў Стамбуле (Канстанцінопалі) з патрыярхам Афінагорам I, калі яны аб'явілі аб вечным забыцці анафем 1054 года.

Аднак гэта засталося сімвалічным жэстам і ў аб'ядноўчыя тэндэнцыі не выліласея. Розніца паміж каталіцызмам і праваслаўем у свядомасці і ўкладзе жыцця вернікаў гэтых накірункаў за стагоддзі замацавалася настолькі моцна і пераканана, што не мае тэндэнцыі да паслаблення.

У 1453 годзе Візантыйская імперыя загінула, разгромленая туркамі-мусульманамі. Чатырыста гадоў доўжылася супрацьстаянне каталікаў і праваслаўных, і былыя анафемы перашкодзілі хрысціянам Захаду прыйсці на дапамогу праваслаўнай Візантыі: яны нават з задавальненнем глядзелі, як гіне хрысціянская магутная дзяржава, патопленая ў крыві іншаверцамі. Гэты двайны стандарт многія каталіцкія краіны Захаду захавалі і сёння, калі прыгадаць падзеі на Балканах і, менавіта, у Сербіі.

Святы горад Канстанцінопаль загінуў, хаця некалі адваёўваць яго хадзілі ў паходах рыцары Захаду, стаў атурэчанай сталіцай, згубіў нават імя. Але патрыярх канстанцінопальскі і зараз займае першае месца сярод усходніх праваслаўных патрыярхаў. За ім ідуць александрыйскі, анціахійскі і іерусалімскі. У 1589 годзе патрыярх канстанцінопальскі Іярэмія на Маскоўскім архірэйскім саборы інтранізаваў мітрапаліта Іова як першага патрыярха аўтакефальнай Рускай праваслаўнай царквы. Ён стаў пятым патрыярхам па месцы размяшчэння ў пачэсным шэрагу сусветнай Праваслаўнай царквы. Яго афіцыйны тытул – Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі. У гэтым кароткім, але шматзначным і ёмістым тытуле – агульны лёс праваслаўнага люду Расіі, Беларусі, Украіны – русічаў адных старажытных каранёў, сроднікаў адной духоўнай сям'і.

Праваслаўнае веравучэнне сфарміравалася да царкоўнага раскола XI стагоддзя. Яго ідэалагічная аснова: Свяшчэннае пісанне – Біблія і Свяшчэннае паданне – рашэнні сямі сусветных (усяленскіх) сабораў, працы буйнейшых царкоўных дзеячоў таго часу – бацькоў царквы.

Асновы веравучэння – дагматы – выкладзены ў дванаццаці пунктах Сімвала веры. Ён абавязвае верыць у адзінага Бога, які выступае ў трох асобах – іпастасях: Бога-Айца, Бога-Сына і Бога-Духа Святога (Тройца).

Больш за ўсё дагматычных установак у праваслаўі звязана з шанаваннем Бога-Сына – Ісуса Хрыста. Самым важным з'яўляецца дагмат богаўвасаблення, згодна з якім Хрыстос, застаючыся Богам, стаў чалавекам, нарадзіўшыся бязгрэшным шляхам ад Дзевы Марыі.

Вялікае месца надаецца дагмату збаўлення, згодна з якім Ісус Хрыстос сваімі мукамі і смерцю на Крыжы прынёс сябе ў ахвяру Богу-Айцу за грахі людзей – збавіў іх ад папярэдніх, але пакінуў людзям магчымасць разлічвацца за асабістыя: кажучы па-беларуску – "Хрыстос цярпеў і нам загадаў".

Дагмат аб уваскрэшанні Ісуса Хрыста з'яўляецца правобразам будучага ўсеагульнага ўваскрэшання памерлых, усяго рода чалавечага як рэальнай падзеі.

Уваскросшы Хрыстос узнёсся на неба да Бога-Айца, што падкрэслівае нікчэмнасць зямнога быцця ў параўнанні з вечнасцю, якая чакае чалавека на тым свеце. Прычым многімі і даўно заўважана, што на гэтым шляху да агульнай бессмяротнасці праваслаўе куды менш палохае сваіх вернікаў Страшным Судом і пакутамі, чым каталіцызм, яно больш давярае міласэрнасці Божай, спадзяецца на ласку Багародзіцы і таму больш святочнае.

Вялікае значэнне ў праваслаўі надаецца абраднасці, якая актыўна ўздзейнічае на сэрцы, тут многа для людзей таямнічага і цудадзейнага. Найбольш важнымі элементамі гэтага з'яўляюцца таінствы.

Праваслаўе, як і каталіцызм, прызнае сем таінстваў. Але амаль кожнае з іх у абодвух канфесіях адпраўляецца па-свойму. Напрыклад, пры хрышчэнні ў праваслаўных дзіця апускаюць у ваду, а ў католікаў – кропяць; мірапамазанне ў праваслаўнай царкве робіцца разам з хрышчэннем, а ў католікаў – праз некалькі гадоў; у праваслаўных прычашчаюцца хлебам і віном усе – прыхаджане і свяшчэннікі з клірам, а ў католікаў толькі святары і г. д.

Цэнтрам культавай дзейнасці з'яўляецца храм, алтар якога знаходзіцца на ўсходзе. У алтар, адгароджаны ад службоўні іканастасам, могуць заходзіць толькі мужчыны.

Галоўным храмавым набажэнствам з'яўляецца літургія (абедня) паміж узыходам сонца і поўднем. Толькі ў гэты час адбываецца прычасце.

Характэрна для праваслаўя шанаванне абразоў (ікон) – жывапісная перадача вобраза Бога, Багародзіцы, святых угоднікаў; некаторыя іконы аб'яўлены цудатворнымі. Асаблівыя шанаванні аддаюцца Крыжу, які ўспрымаецца не толькі як атрыбут пакут і смерці Ісуса Хрыста, але і як сродак выратавання вернікаў шляхам пакорнасці Боскай волі.

Галоўная апора праваслаўнай царквы – манашаства. Узнікшы на заранку хрысціянства, яно дасягнула ў сярэдневеччы надзвычайнага росквіту. Манастыры адкрываліся не толькі ў глухамані і пустэчах, як мага далей ад людской мітусні, каб манахі маглі займацца духоўнымі подзвігамі; яны былі ў многіх гарадах, а ў буйных іх было па некалькі. Большасць манастыроў былі мужчынскімі, самыя ўплывовыя ў праваслаўных называліся лаўрамі: Кіева-Пячэрская, Троіца-Сергіева, Аляксандра-Неўская, Пачаева-Успенская.

Епіскапы, архіепіскапы, мітрапаліты і патрыярхі з'яўляюцца манахамі. Жанчыны, у тым ліку і манашкі, святарамі быць не могуць.

Мовай набажэнства з'яўляецца нацыянальная мова, у Рускай праваслаўнай царкве – царкоўна-славянская. У апошнім стагоддзі ў Расіі, Беларусі, Украіне царква паступова пераходзіць на нацыянальныя мовы.

❖

Асаблівасцю каталіцызму з'яўляецца тое, што, з'яўляючыся рэлігійным напрамкам, які мае выключна духоўныя мэты, ён так глыбока пранік ва ўсе сферы жыцця грамадства, так цесна звязаў сябе з яго зямнымі клопатамі, што ўяўленне аб еўрапейскай цывілізацыі сёння немагчыма без уліку месца і ролі ў ёй каталіцкай царквы.

Стрыжнем дзейнасці заходняга хрысціянства стала імкненне аб'яднаць усіх хрысціян пад уладай рымскага папы і забяспечыць вернасць яму, як намесніку Ісуса Хрыста на зямлі. Ідэя адзінства і сваёй універсальнасці даўно адлілася ў формуле – "без царквы – няма выратавання".

Буйнейшымі аўтарытэтамі каталіцызму з'яўляюцца Аўгусцін (V стагоддзе) і Фама Аквінскі (XIII стагоддзе). Першы сфармуляваў закладзеную ў каноне царквы этыку каталіцызму: свабода і прадвызначэнне, прырода чалавека і раскоша, сапраўднае і падманнае дабро, барацьба са спакусамі, шляхі выратавання і інш.

Фама Аквінскі з'яўляецца творцам артадаксальнай схаластыкі, а яго філасофія – афіцыяльнай дактрынай каталіцкай царквы, пацверджанай папам Львом XIII у канцы мінулага стагоддзя. Згодна з вучэннем Фамы, мэта чалавека – дасягненне пасмяротнага шчасця, а дабрачыннае жыццё – сродак да яго дасягнення.

Ён лічыць, што ўсе віды ўлады на зямлі – ад Бога. Галоўная мэта дзяржаўнай улады – садзейнічанне агульнаму дабрабыту, клопаты аб захаванні міру і справядлівасці ў грамадстве. Жорсткага правіцеля народ мае права звергнуць. Прыгэтым Фама Аквінскі выказаў ідэю, што царкоўная ўлада вышэй за свецкую і ўсе гасудары павінны падпарадкоўвацца па́пу рымскаму, улада якога, прычым падкрэсліваецца – сусветная ўлада, уручана яму асабіста самім Ісусам Хрыстом.

Апошні тэзіс быў узяты на ўзбраенне Ватыканам у правядзенні сваёй знешняй палітыкі, жорсткай і наступальнай, пачынаючы з сярэдневечча, і выклікала мноства ўзброеных канфліктаў і нават народных паўстанняў.

Крыніцай веравучэння каталіцкай царквы з'яўляецца не толькі у першую чаргу – Біблія і свяшчэннае паданне, але, у адрозненне ад праваслаўя, уключае ў сябе пастановы праходзячых каталіцкіх сабораў, якія яна, тым не менш, называе – усяленскімі, і выказванні рымскіх па́паў. У той жа час адзначым, што праваслаўе шануе многіх рымскіх па́паў і

лічыць іх святымі, але толькі тых, якія жылі да вядомага расколу агульнай хрысціянскай царквы.

Асаблівасцю каталіцтва з'яўляецца выключна ўзнёслае шанаванне Божай Маці – Дзевы Марыі, прызнанне яе нявіннага нараджэння і цялеснага ўзнясення.

Сімвал веры, агульны для хрысціян, у каталікаў дапоўнены сцвярджэннем аб тым, што Дух Святы зыходзіць не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына. Гэта асноўная дагматычная розніца, але вельмі сур'ёзная, паміж усходняй і заходняй царквамі.

Сцвярджаецца таксама, што на нябесным свеце акрамя рая і пекла існуе яшчэ і чысцілішча.

Заслугоўвае ўвагі і тое, што ўсе святары-каталікі захоўваюць абяцанне бязшлюбнасці, так званы – цалібат.

Яшчэ ў раннім сярэднявеччы склаўся даволі пышны і складаны рытуал правядзення багаслужэнняў, мэта якіх – пераканаць вернікаў у тым, што царква (альбо касцёл, як кажуць на Беларусі на польскі манер) – паходзіць не ад гэтага свету, яна – адбітак царства нябеснага. Каб склалася такое ўражанне, хрысціянамі было зроблена многа: гэта і асаблівая архітэктура, і выключна паліфанічны рытуал, дзе словы малітваў перамяжоўваюцца спевамі і музыкай, пропаведзямі і таямнічымі падзеямі, у якіх удзельнічае святар у алтары і да якіх далучаюцца ўсе вернікі.

Яшчэ ў VI стагоддзі была ўведзена музыка, і арган стаў неад'емнай часткай кожнага каталіцкага храма, і больш за тое – адным з самых прыгожых сімвалаў заходняй культуры.

Мовай набажэнстваў католікаў была спрадвеку лацінская, і толькі ў 1965 годзе Ватыканскі сабор дазволіў ужыванне нацыянальных моў.

Каталіцкая царква выключна цэнтралізаваная, мае адзіны сусветны цэнтр – Ватыкан, які з'яўляецца дзяржавай і мае свой сцяг і гвардыю; адзінага папу рымскага, які стаіць на чале многаступенчатай іерархіі. Папа лічыцца намеснікам Бога на зямлі, бязгрэшным у пытаннях веравызнання і маралі. Улада папы вышэй улады ўсяленскіх каталіцкіх сабораў, а тым больш – зямных уладароў. Такое палажэнне чалавека, хаця і першай царкоўнай асобы, катэгарычна не прымаецца Праваслаўнай царквой.

Актыўная місіянерская дзейнасць хрысціян пачалася, як вядома, з апосталаў Хрыста, якія наведалі мноства краін – ад Індыі да дняпроўскіх берагоў. Потым місіянеры Праваслаўя і Каталіцтва дзейнічалі паасобку, у розных напрамках. Але трэба прызнаць, што місіянерства католікаў было больш маштабным. Актыўная місіянерская дзейнасць каталіцтва прыпадае на ранняе сярэднявечча ў Еўропе, пазней – на Усходзе, у Афрыцы, Амерыцы. Галоўную ролю ў гэтым адыгрывалі манаскія ордэны.

З самага пачатку свайго існавання дзейнасць каталіцкай царквы насіла ваяўнічы характар, межканфесійныя спрэчкі яна заўсёды вырашала з пазіцыі сілы.

Шматгадовыя крыжовыя паходы ў Святую зямлю для заваявання Труны Гасподняй суправаджаліся войнамі і разбурэннямі, у той жа час для саміх католікаў гэтыя паходы не прынеслі ніякіх вынікаў, усе яны скончыліся паражэннем і гібеллю лепшых рыцараў Еўропы. У чымсці гэтыя паходы былі падобныя на ваяўнічае місіянерства, з якім Лівонскі ордэн і іншыя крыжаносцы хадзілі на Русь – такое місіянерства, разбуральнае і жорсткае, скончылася нічым. Але калі каталіцкія місіянеры ішлі без зброі, яны без агня і мяча дабіваліся вялікіх вынікаў.

Створаныя ў сярэдневеччы духоўна-рыцарскія манаскія ордэны былі ў першую чаргу ваеннай сілай, якая большай часткай мячом, а не крыжом намагалася хрысціць народы.

Лёс Беларусі і, у прыватнасці, нашага Палесся, нягледзячы на яго горыч і, часам, трагічнасць, усё ж такі быў больш шчаслівым, чым у некаторых народаў, хаця па нашай зямлі бясконца каціліся чорныя хвалі многіх войнаў. Можна прыгадаць тых жа шматлікіх індзейцаў, гаспадароў Амерыкі, якія ўсталі на шляху каталіцкай цывілізацыі. І гэта тычыцца не толькі далёкіх абарыгенаў. У цэнтры Еўропы непакорныя прусы, старажытнае славянскае племя, былі знішчаны Тэўтонскім ордэнам. Тыя ж вышэйзгаданыя індзейцы з іх высокай і арыгінальнай культурай мільёнамі знішчаліся; на іх палявалі, як на дзікіх жывёл, у толькі што адкрытым Новым свеце не проста па жаданню канкістадораў, вельмі часта крымінальнага асяроддзя Еўропы, але ж з благаславення Рыма. Тое ж было і ў Афрыцы з рабаўласніцтвам, і ў Азіі. А чым лепш было становішча ў Старым Свеце, у Еўропе? На стагоддзі захавалася ў памяці чалавецтва трагічна вядомая крывавая Варфаламееўская ноч. А рэлігійныя войны, якія, як чума, хадзілі па Еўропе і наогул у свеце!

Для барацьбы з вольнадумствам (ерасямі) з XIII стагоддзя дзейнічаў свяшчэнны трыбунал – інквізіцыя, якая прымяняла страшэнныя здзекі і прылюдна паліла на кастрах людзей. Яе ахвярамі ў Францыі стала Жана д’Арк, у Чэхіі – Ян Гус, у Італіі – Джардана Бруна, у Рэчы Паспалітай – Казімір Лышчынскі. Кастры гарэлі яшчэ і ў XVIII стагоддзі – і дзе: у цэнтры Еўропы.

Былі ўведзены індульгенцыі – папскія граматы аб адпушчэнні ўчыненых і нават няўчыненых грахоў, якія выдаваліся за грошы альбо бясплатна – за вялікія заслугі перад царквою. Абаснаваннем гэтых надзвычайных дакументаў, ніколі нечуваных дагэтуль, было дзіўнае сцвярджэнне, нібыта каталіцкая царква валодае нейкім запасам добрых спраў, якія здзейснілі некалі Хрыстос, Дева Марыя і святыя ўгоднікі.

Усё гэта выклікала Рэфармацыю, у выніку якой у шэрагу краін Еўропы – Англіі, Германіі, Швейцарыі, скандынаўскіх краінах зацвердзіўся пратэстантызм – рэлігійны накірунак у хрысціянстве, які не прызнаў улады Ватыкана, увёў дэмакратычную структуру кіравання і спрасціў набажэнства. Рэфармацыя адбывалася ў перыяд Рэнесансу – росквіту эпохі Адраджэння і гуманізму.

Рэакцыяй папства на гэта была Контррэфармацыя – наступ царквы з мэтай аднаўлення сваёй манаполіі ў духоўным жыцці і яе прыстасаванне да новых умоў.

Была створана кангрэгацыя прапаганды веры, выдадзены "Індэкс забароненых кніг", цэнтралізавана дзейнасць інквізіцыі, праведзены Трыдэнцкі сабор, які пацвердзіў усе дагматы.

Але самым надзвычайным тварэннем Контррэфармацыі была арганізацыя ў 1534 годзе брацтва "Найсвяцейшага сэрца Ісуса" – ордэна езуітаў. Заўважым, што імя гэта стала потым адмоўным, а гэта значыць толькі адно: ордэн папскіх служак, які павінен быў змагацца з грахамі, сам нарабіў іх столькі, што назаўсёды езуіцтва стала сінонімам двайнога стандарту.

Мэта стварэння ордэна – гэта ўсямернае ўмацаванне пазіцый каталіцкай царквы ў свеце шляхам пранікнення ў вышэйшае дзяржаўнае асяроддзе, падрыхтоўка кадраў у спецыяльных навучальных установах, падобных на сучасныя школы падрыхтоўкі шпіёнаў і контрразведчыкаў, для работы ў розных умовах. Галоўная ідэя гэтай ваяўнічай арганізацыі Ігнація Лайолы была ў акаталічванні насельніцтва і жорсткім кантролі над структурамі ўлады ў розных краінах свету. Як бачым, маштаб быў надзвычайны, сусветны, і па характару дзейнасці і стандартах – агульна таталітарны.

Ордэн езуітаў узначальваў генерал, які карыстаўся неабмежаванай уладай над радавымі членамі. Генерал падпарадкоўваўся пáпу рымскаму. Уступаючы ў гэты ордэн станавіўся манахам і даваў самую суровую прысягу аб паслушэнстве і безадмоўным выкананні любых загадаў і даручэнняў свайго кіраўніка.

Для кваліфікаванай і дзейснай работы ў розных умовах езуіты атрымлівалі ўсебаковую адукацыю і належнае выхаванне. Яны дзейнічалі афіцыйна на аснове дазволу ўлад дзяржавы і былі ва ўсіх каталіцкіх краінах, а нелегальна – у астатніх. Становячыся дарадцамі дзяржаўных дзеячоў, духоўнікамі знаці, настаўнікамі іх дзяцей, езуіты ўваходзілі да іх у давер і замацоўвалі сваё становішча.

Яны дасканала карысталіся далёка не лепшымі метадамі збору інфармацыі, хаця знешне гэта былі адукаваныя і нават прывабныя асобы з царкоўнымі словамі на вуснах. Але гэтыя хітрыя выведнікі ў сутанах у жыцці рабілі зусім не так, як на словах: для дасягнення сваёй мэты без клапот выкарыстоўваліся падман, паклёп, парушэнне дадзенага абавязацельства, фальсіфікацыя і нават замах на жыццё, дзе лепшымі сродкамі гэтых "рыцараў плашча і кінжала" былі атрута ці ананімная хлусня.

Ордэн дзейнічаў па прынцыпу, вядомаму яшчэ ад рымлян: "мэта апраўдвае сродкі".

Названая вышэй ваенізаваная структура і маральныя прынцыпы з двайным стандартам, а таксама некаторыя прывілеі, дадзеныя папствам

(права нашэння свецкага адзення, вызваленне ад некаторых манаскіх зарокаў, у тым ліку і аб забароне сувязі з жанчынай), дапамагалі стварыць магутную, уплывовую і багатую арганізацыю, якая мела місіі не толькі ў Еўропе, але і ў Азіі, Афрыцы і Амерыцы.

Як "ордэн вучоных", езуіты стварылі у той час лепшую ў свеце сістэму адукацыі. Атрымаўшы ў сваё кіраўніцтва духоўныя семінарыі, езуіты заснавалі даволі многа новых, у тым ліку і вышэйшых, навучальных установаў, дзе навучанне ішло на базе лепшых педагагічных методык. Езуіты хутчэй за другіх пазбаўляліся ад схаластыкі, прывязвалі вучобу да зямнога жыцця, якое яны разумелі на свой капыл – эгаістычна і ваяўнічна.

На працягу двух стагоддзяў яны адыгрывалі значную ролю ў еўрапейскай палітыцы. Аднак метады іх дзейнасці сталі трывожыць не толькі ўлады многіх краін. Уплыў, багацце, адасобленасць езуітаў выклікалі незадаволенасць і Ватыкана, і ў 1776 годзе ордэн быў распушчаны.

Што можна дадаць ад сябе? Як ні дзіўна, але ж ёсць цікавыя гістарычныя аналогіі. Дзейнасць ордэна езуітаў доўжылася два стагоддзі. І, менавіта гэтыя ж два стагоддзі цягнулася існаванне Беларусі і нашага Палесся ў складзе Рэчы Паспалітай. Трагічны перыяд жыцця беларускага народа, у выніку чаго дзяржаўнасць беларускай мовы была страчана, святая вера айцоў і дзедаў – Праваслаўе – было заменена ўніяцтвам, якое спачатку нарадзілася ў "мазгавых цэнтрах" езуітаў, а потым было сілай укаранёна на Беларусі – пад выглядам "народнай рэлігіі". Нават славянская кірыліца была заменена на лацініцу. Беларускі лёс – рэдкі выпадак такой жорсткай духоўнай апрацоўкі народа, бязлітасны эксперымент над беларускасцю.

Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай пацярпела ў першую чаргу ад догляду езуітаў, якія тайна і яўна праводзілі тут работу па выкараненню "усходняга хрысціянства", так званых схізматыкаў. Эксперымент скончыўся роўна праз два стагоддзі, калі Беларусь трапіла ў склад Расіі, і вера айцоў вярнулася і на наша Палессе. Але ж і дагэтуль дзейнасць езуітаў на Беларусі застаецца адной з самых загадкавых і нераспрацаваных праблем, адной з белых, а лепш сказаць, адной з самых чорных плямаў нашай гісторыі, уплыў якой доўжыцца і па сённяшні дзень.

❖

Безліч грахоў – у каталіцкай царквы, і самы галоўны – злачынствы супраць чалавечнасці і чалавецтва. Пачынаючы ад крыжовых паходаў і інквізіцыі – і канчаючы асвяшчэннем дзейнасці нацызму з яго лозунгам – "Got mit uns", што значыць, "бог з намі", выключна цынічным.

І ўсё ж такі прыйшоў час пакаяння.

Гэта адбылося ў год двухтысячагоддзя хрысціянства, 12 сакавіка 2000 года. І зрабіў гэта раб рабоў Божых (адзін з тытулаў папы) Іаан

Павел II, мудры нашчадак славян і, што вельмі цікава, паляк па паходжанню, – у саборы святога Пятра ў Рыме.

Ад імя святога прастола ён папрасіў прабачэння ў людзей і пакаяўся за ўсе грахі каталіцкай царквы перад чалавецтвам. Сярод злачынстваў царквы ён назваў крыжовыя паходы і дзейнасць інквізіцыі, праследаванні яўрэяў і індзейцаў Амерыкі, садзейнічанне нацызму і навуковае цемрашальства. Ну, што ж, даўно пара!

Цікава, што адбылося гэта ў праваслаўную даравальную нядзелю перад Вялікім пастом. Супадзенне? Ці новы і добры крок да збліжэння хрысціян Захаду і Усходу?

❖

З часу раздзялення Хрысціянскай царквы на дзве – Рыма-каталіцкую і Грэка-праваслаўную – на працягу стагоддзяў паміж імі ішла ідэалагічна-багаслоўская барацьба і захоўвалася варожасць.

Параўноўваючы дзейнасць абедзвюх цэркваў, трэба адзначыць, што на працягу ўсёй сваёй гісторыі каталіцкая царква выкарыстоўвала радыкальныя і даволі жорсткія метады ў барацьбе за душы сваіх вернікаў. Яскравае сведчанне гэтаму – сярэдневечча.

Адзіны вярхоўны цэнтр і адзіны яго глава – рымскі папа, улада і ўчынкі якога, на думку Ватыкана, не маглі крытыкавацца нікім на зямлі, далі магчымасць стварыць дысцыплінаваную сусветную арганізацыю, якая, акрамя ідэалагічнага, аказвала значны ўплыў на міжнародныя падзеі ў хрысціянскім свеце.

Значная колькасць рымскіх пáпаў былі выдатнымі рэлігійна-дзяржаўнымі дзеячамі, знаўцамі літаратуры і мастацтва, мецэнатамі.

Каталіцкую ідэалогію ўзбагацілі шэраг буйных багасловаў-філосафаў: усе вышэйшыя прэлаты – кардыналы, легаты і вікарыі былі высокаадукаванымі асобамі, нядрэнную адукацыю мелі і святары ніжэйшага рангу.

Шматлікія манаскія саюзы – ордэны – займаліся не толькі асабістымі малітоўнымі справамі, але і значнай місіянерска-асветніцкай работай. Усё гэта давала магчымасць каталіцкай царкве дзейнічаць энергічна і наступальна.

Грэка-праваслаўная царква саступала каталіцкай па многіх дадзеных. Яна ніколі не была цэнтралізаванай. Яшчэ задоўга да схізмы 1054 года ўтварыліся аўтакефальныя (самастойныя) александрыйская, іерусалімская і анціахійская цэрквы, якія аддзяліліся ад канстанцінопальскай. Апошняя пасля падзення Візантыйскай імперыі толькі намінальна лічылася першай. Руская праваслаўная царква, аўтакефальная з 1448 года, ужо ў той час была самай вялікай па колькасці вернікаў і з увядзеннем патрыярхата фактычна стала займаць першае месца ў праваслаўным свеце.

Адміністрацыйна-рэлігійным цэнтрам спачатку быў Кіеў, потым Уладзімір, а з 1320 года – Масква. У юрысдыкцыю Маскоўскай мітраполіі ўваходзіла і праваслаўная галіна Заходняй Русі (Беларусь і Украіна), аднак Масква паступова губляла свой уплыў у сувязі з пастаяннымі варожымі адносінамі паміж Літоўска-Рускім княствам і Маскоўскай дзяржавай – і наступствам каталіцызму. Разам з тым, мітрапаліты, а пазней і патрыярхі былі цалкам залежнымі ад манарха. Калі ж гаварыць аб іх багаслоўска-творчай дзейнасці, то, за выключэннем патрыярха Нікана, усе яны былі малаініцыятыўнымі.

Змен у царкоўным жыцці амаль не адбывалася, а калі што крыху і мянялася, то толькі па ініцыятыве саміх уладаў. Другая справа – народная вера і подзвігі святароў і манахаў. Вялікая вера ў хрысціянскае праваслаўе стварыла цэлы сонм сапраўдных падзвіжнікаў, якія сваім жыццём і дзейнасцю заслужылі ўсенароднае шанаванне і прызнанне царквою святасці іх навечна.

Праваслаўныя манастыры Расіі, за выключэннем некалькіх самых буйных, не сталі носьбітамі асветы. Фактычна да сярэдзіны XVII стагоддзя не было нават духоўных навучальных устаноў. Значная колькасць, а, магчыма, нават большасць праваслаўных святароў былі неадукаванымі.

Фактычная самаізаляцыя Масковіі, як дзяржавы, існавала да другой паловы XVII стагоддзя. Просты народ знаходзіўся ў невуцтве.

Царква не толькі нічога не рабіла для адукцыі народа, але нават супраціўлялася новаўвядзенням.

Спатрэбіўся Пётр Вялікі, які не толькі расчыніў акно ў Еўропу, але і пачаў выводзіць Расію "варварскімі метадамі з варварскага становішча", як пісалі некалі.

І ўсё-такі тысячагадовыя ідэі праваслаўя былі захаваны народам, дзякуючы магутнай шчырай і сардэчнай веры простых людзей, якія маліліся, дапамагалі сродкамі, ахвяравалі, будавалі цэрквы і манастыры і дзякуючы дзейнасці самой Праваслаўнай царквы. А дзейнасць яе ва ўсе часы была глыбока патрыятычнай.

❖

Гістарычна склалася так, што дзве суседнія дзяржавы – Польскае каралеўства і Літоўска-Рускае гаспадарства жылі і дзейнічалі ў цесных эканамічных, палітычных, культурных і нават сямейных адносінах.

Аднак адносіны гэтыя не былі раўнапраўнымі. Дамінавала Польшча. Яна адразу пачала праводзіць паланізацыю (апалячванне) і акаталічванне свайго суседа з мэтай яго асіміляцыі. Пачалося гэта ў 1385 годзе, калі вялікі князь Ягайла Альгердавіч, ажаніўшыся з каралевай Ядзвігай, стаў польскім каралём Уладзіславам II, заснавальнікам дынастыі Ягелонаў, якая правіла ў абедзвюх дзяржавах да 1572 года.

Адначасова Ягайла і літоўска-рускія князі на чале з Вітаўтам падпісалі Крэўскую ўнію, якая прадугледжвала – "на вечные времена долучить свое земли литовские и русские до польской короны".

Былі ахрышчаны па каталіцкаму абраду літоўцы, а Вітаўт і некаторыя рускія князі перайшлі з праваслаўя ў каталіцтва. Так пачалося апалячванне і акаталічванне Заходняй і Паўднёвай Русі.

Трэба адзначыць, што ў некаторых гістарычных умовах дзяржаўны саюз літоўска-рускі і польскі быў станоўчым. Так адбылося ў час вайны з крыжакамі, калі аб'яднаныя сілы дзвюх дзяржаў разграмілі іх пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Асабістая Крэўская ўнія была пацверджана новай, Гарадзельскай, у 1413 годзе. У дадатковым да яе прывілеі абвяшчалася, што з прыняццем каталіцтва Княства Літоўска-Рускае "далучаецца, уключаецца, злучаецца, перадаецца" Польскаму каралеўству.

Кароль і вялікі князь абяцалі назначаць на вышэйшыя пасады ў дзяржаве толькі каталікаў, даваць ільготы выключна касцёлам, кляштарам і другім каталіцкім аб'яднанням. Прадугледжвалася выбранне караля і вялікага князя са згоды абодвух бакоў.

Польскія феадалы імкнуліся прыцягнуць на свой бок феадалаў заходнерускіх сваёй шляхецкай сімволікай. Сорак сем палякаў-каталікаў надзялілі сваімі гербамі такую ж колькасць каталікаў-русінаў, што азначала прыняцце іх у свае гербовае брацтва. З гэтага часу пачало развівацца шляхецтва ў Княстве, яго дзяржаўная і грамадская ідэалогія польскага накірунку.

Аднак наступства Польшчы і каталіцкай царквы разам з тым сустракала актыўнае супраціўленне большай часткі літоўска-рускіх феадалаў, якія былі праваслаўнымі. Ягайла вымушаны быў адмовіцца ад вялікага княжэння на карысць Вітаўта, пры якім гаспадарства дасягнула найбольш значнага палітычнага і эканамічнага развіцця. Аўтарытэт Вітаўта на Захадзе быў даволі высокім. І калі Вітаўт пажадаў каранавацца каралеўскай каронай, яго жаданне было задаволена па́пам рымскім і павінна было быць выканана рымскім (германскім) імператарам.

Аднак гэтага не адбылося.

Польшча не магла пагадзіцца з тым, каб у апекаванай ёю Літве глава дзяржавы меў таксама каралеўскі тытул. Палякі пайшлі на ўсё, каб толькі не адбылася каранацыя. Два гады "ехала" карона Вітаўта з Германіі, і ў самы апошні момант "згубілася".

Кароткае двухгадовае княжанне Свідрыгайлы было адзіным у гісторыі Гаспадарства, калі сам князь адкрыта ігнараваў Польшчу і касцёл і ў сваёй дзейнасці абапіраўся на праваслаўных тутэйшых феадалаў і праваслаўную царкву. Гэта выклікала незадавальненне магнатаў-каталікаў, якія былі своеасаблівай "пятай калонай", менавіта таму яны пры падтрымцы Польшчы абвясцілі вялікім князем фанатычнага каталіка Жыгімонта Кейстутавіча.

Аднак Свідрыгайла не скарыўся і падняў паўстанне, якое перарасло ў грамадзянскую вайну (1432–1436).

Гаспадарства раздзялілася на два лагеры. Свідрыгайлу падтрымлівалі Полацка-Віцебская, Смаленская, Турава-Пінская, Валынская, Ноўгарад-Северская і Кіеўская землі.

Аб гэтым часе пісалася ў Супральскім летапісе:

"И Литва же посадиша великого князя Жигимонта Кестутевичь на великое княжение на Вилии и на Троцех месяца сентября 1 день. И приде Швидригайло на Полотескъ и на Смоленскъ, и князи руськыи и бояре посадиша князя Швидригайло на великое княжение на Русское".

Адбылася незвычайная падзея, якой палякі і іх прыхільнікі ў Княстве ніяк не чакалі!

Утварыліся дзве дзяржавы – Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Рускае. Княства Жыгімонта і Княства Свідрыгайлы. Гэта быў цудоўны гістарычны момант, калі старажытныя рускія землі маглі застацца з верай продкаў, аднак абраць свой шлях, асобны ад Масковіі, Польшчы і Літвы.

Пачалася грамадзянская вайна. Гэта грамадзянская вайна была вайной паміж сабой толькі пануючых класаў, сяляне і рамеснікі мелі да яе ўскоснае дачыненне. Шкада, што гэта вайна не мела разам з тым прынцыпова канфесіянальнага характару – у той час апалячванне і ўціск на праваслаўных не дасягнулі той жорсткасці, як гэта здарылася пазней, таму барацьба вялася за ўладу, а не за сэрца народа. І праваслаўны люд моцна памыліўся, калі не падтрымаў усёй сілай справу Свідрыгайлы.

Але і сам рускі князь Свідрыгайла дзейнічаў не заўсёды паслядоўна, часта ўступаў у канфлікты са сваімі прыхільнікамі, што прыводзіла да адыходу іх ад барацьбы. Паўстанне пацярпела паражэнне, Рускае княства перастала існаваць.

Гаспадар Жыгімонт быў занадта падазроным, усюды шукаў уяўных змоўшчыкаў, нягледзячы на свае абяцанні аб літасці, жорстка караў, канфіскоўваў маёнткі, выносіў смяротныя прыгаворы.

Для больш актыўнай барацьбы за ўмацаванне пазіцый каталіцызму фанатычны Жыгімонт у 1436 годзе ўвёў інквізіцыю, якая ўжо была добра вядома ў Еўропе як орган тэрору Ватыкана супраць іншадумства і свабоды сумлення, але яна была нечаканай і непрыемнай навіной на нашай зямлі.

Такая ўнутраная палітыка Жыгімонта выклікала рэзкае незадавальненне сярод часткі магнатаў: супраць яго была арганізавана змова і ў 1440 годзе ён быў забіты. Жыгімонт Кейстутавіч быў апошнім вялікім князем, які правіў толькі ў Літоўска-Рускім гаспадарстве.

Ужо Казімір І праз некалькі гадоў стаў і каралём Польскім, а гэта значыць назаўсёды правіцель Літвы і Рускага княства – сучаснай Беларусі – мог быць толькі каталікам з усімі выцякаючымі адсюль паводзінамі. Казімір І перад ад'ездам у Кракаў выдаў прывілей аб недатыкаль-

насці асоб магнатаў, пашырыў правы праваслаўнай царквы, аднак ад яе патрабавалася, каб яна парвала свае адносіны з Масквой і падпарадкавалася канстанцінопальскаму патрыярху.

Станоўчым момантам была забарона ў 1479 годзе дзейнасці інквізіцыі: яна не паспела пусціць свае карані на беларускай зямлі. Біскупы разумелі, што пашырэнне ўплыву каталіцтва пры яе існаванні будзе катастрафічным: інквізіцыя была ваяўнічым легіёнам людзей у сутанах, якія распалілі б на Беларусі сотні кастроў з ахвярамі. Забарона інквізіцыі ратавала Беларусь і праваслаўе.

Аднак наступства разам з тым ішло. Казімір імкнуўся ўмацаваць Польшчу тэрытарыяльна за кошт паўднёва-усходніх зямель Гаспадарства. Гэта было прычынай змовы часткі праваслаўных магнатаў на чале з князем Слуцкім Міхаілам Алелькавічам у 1481 годзе. Змоўшчыкі хацелі замест Казіміра I паставіць праваслаўнага гаспадара і заключыць унію з Масквой. Аднак змова была раскрыта, князі Міхаіл Алелькавіч і Іван Гальшанскі пакараны смерцю.

У 1508 годзе адбылося буйнае паўстанне рускай (беларускай) шляхты на чале з тураўскім магнатам князем Міхаілам Глінскім. Па сутнасці мэта была тая ж самая, як і ў папярэдніх змоўшчыкаў: гэта былі адчайныя спробы выратаваць краіну і народ ад будучай трагедыі.

Паўстанцы заклікалі падтрымаць іх у барацьбе супраць улады Жыгімонта I, якая паставіла перад сабой мэту акаталічвання народа і падпарадкавання яго палякам. Вось толькі калі схамянуліся беларускія князі, даволі позна адчулі яны смяротную пагрозу для сябе і народа ў альянсе з Польшчай, у гэтых гульнях феадалаў з польскімі рыцарскімі гербамі і польскай шляхетнасцю! Польская карона бачыла ў беларускіх землях такую ж спрытна і зручна здабытую тэрыторыю, якой для іспанцаў была амерыканская зямля. Літоўска-Рускае гаспадарства для Кракава было тым самым Новым Светам, здабываць які не трэба было ехаць за мора: зямля, ды якая – з добрасумленным і працавітым насельніцтвам! – знайшлася пад бокам.

Ад такога падарунка Польшча не жадала адмаўляцца і ніякай незалежнасці дапусціць не магла. Ніякіх дэвізаў з двайным стандартам тыпу "за нашу і вашу свабоду" тут не ўзнікала. Стандарт быў адзіны: вялікая Польшча "ад можа і да можа". Для Беларусі настаў час выпрабаванняў. Вялікі і трагічны час барацьбы за свабоду: Беларусь яшчэ магла вырвацца з Рэчы Паспалітай, магла пазбегнуць страшэнных здзекаў над верай продкаў і апалячвання, магла стаць незалежнай.

Паўстанне ахапіла паўднёва-усходнюю частку Княства. Асобныя атрады Глінскага зрабілі спробу авалодаць Менскам і Слуцкам, хадзілі да сталіцы Вільні. У гэты час Княства знаходзілася ў стане вайны з Масковіяй і, вядома, князь Міхаіл Глінскі выкарыстаў гэту акалічнасць, злучыўшыся з маскоўскім войскам.

Але маскоўскі ўрад у той час да ідэі аб стварэнні на тэрыторыі Літвы–

Рускага княства адносіўся без энтузіазму. Магчыма, гэта было прычынай фактычнай няўдачы паўстання: сваіх сіл у паўстанцаў не хапіла, а маскоўскія войскі не атрымалі рашучага загаду. Сёння аб гэтай гістарычнай непрадбачлівасці пісаць сумна.

Але гісторыю не перапішаш. І калі Міхаіл Глінскі пад Оршай (якая цікавая гістарычная паралель!) патрабаваў даць рашучы бой наступаючаму польска-літоўскаму войску, на жаль, гэта не знайшло падтрымкі ў маскоўскіх военачальнікаў. Не прымаючы бою, яны адступілі на ўсход, а разам з імі і паўстанцы.

Зараз цяжка зразумець усе рэаліі таго трагічнага моманту, але, трэба думаць, не эгаізм і абыякавасць перашкодзілі маскоўскаму войску даць бой пад Оршай. Можа, залішняя асцярожнасць у сітуацыі, калі вырашаўся лёс братняга народа. А можа, проста не хапала дастаткова войскаў. Але гэтая адкладзеная бітва пад Оршай не прывяла да дабра. Гісторыя зноў, і вельмі хутка, прывяла маскоўцаў пад Оршу, дзе ў 1514 годзе ў вядомай бітве яны пацярпелі паражэнне – і вядома чаму: таму што на іх баку не было паўстанцаў, тутэйшага насельніцтва краю, якія б змагаліся за сваю волю.

Згодна з пагадненнем паміж Літвой і Масковіяй, кіраўнікі паўстання на чале з князем Міхаілам Глінскім атрымалі дазвол на выезд у Маскву, што яны і зрабілі. У Маскоўскай дзяржаве князі Глінскія займалі найвышэйшыя дзяржаўныя пасады, а Міхаіл Глінскі быў фактычным кіраўніком урада. Яго пляменніца Алена Васільеўна стала жонкай вялікага князя Маскоўскага Васіля III, а пасля яго смерці – рэгентшай Маскоўскай дзяржавы (1533–1538) у гады маленства іх сына Івана IV, будучага сусветна вядомага цара Івана Грознага.

Праўленне караля і гаспадара Жыгімонта II Аўгуста (1548–1572) супала з эпохай Рэфармацыі, калі ідэі Адраджэння і гуманізму з Заходняй Еўропы трапілі ў Польшчу і Літву.

Невялікая частка феадальных вярхоў, сярод якіх самымі ўплывовымі былі Радзівілы, стала прыхільнікамі адной з галін пратэстантызму – кальвінізму. Мікалай Радзівіл Чорны быў найбольш актыўным дзеячом у справе распаўсюджвання гэтага вывучэння. Аднак гэтае захапленне новымі рэлігійнымі ідэямі працягвалася нядоўга – усяго адно пакаленне. Ужо Мікалай Крыштоф Сіротка, сын Мікалая Чорнага, вярнуўся ў каталіцызм.

У 1558 годзе Маскоўская руская дзяржава пачала вайну за авалоданне Прыбалтыкай, якая атрымала назву Інфлянцкай (Лівонскай). У 1561 годзе Лівонскі ордэн перайшоў пад пратэктарат Літоўска-Рускай дзяржавы, якая з гэтага часу станавілася супраціўнікам Масквы. Як мы бачым, зручны момант, калі Масква магла здабыць волю для Беларусі, у той час – Рускага княства, з апорай на людзей тутэйшых, быў у свой час упушчаны.

Дзве краіны ўдарылі ў барабаны вайны – і сталі ворагамі. І тыя бе-

ларускія праваслаўныя князі, якія жадалі змагацца пад чырвонымі харугвамі са Спасам-Хрыстом супраць польска-літоўскіх войскаў, павярнулі свае мячы супраць праваслаўных вояў-маскоўцаў. Коннік Пагоні з мячом і крыжом Еўфрасінні Полацкай рушыў не супраць Захаду, а супраць свайго ж праваслаўнага Усходу.

Вайна Масковіі з Літоўска-Рускім княствам была трагічнай вайною: маскоўскія войскі на гэты раз ламіліся ў дзверы, якія былі ў свой час для іх адчынены Свідрыгайлам, Міхаілам Глінскім і воляй беларускага народа.

У 1562 годзе рускія войскі пад кіраўніцтвам цара Івана Грознага ўступілі на тэрыторыю Беларусі і авалодалі значнай яе часткай. Шэсць наступных ваенных гадоў былі вельмі цяжкімі для Княства. Польшча не дапамагала, як быццам нечага чакаючы. Пад пагрозай апынулася само існаванне Літоўска-Рускай дзяржавы.

У наступным годзе сейм Княства прыняў пастанову аб неабходнасці перамоў з Польшчай аб заключэнні дзяржаўнай уніі. Гэту пазіцыю падтрымлівала большасць феадалаў Княства. Яны бачылі ў ёй магчымасць умацаваць сваё становішча ўнутры дзяржавы і атрымаць ваенную дапамогу ў вайне з Рускай дзяржавай. А менавіта такую дапамогу палякі абяцалі толькі пасля заключэння ўніі.

Такім чынам, канфесіянальныя спрэчкі і пагроза праваслаўю былі адсунуты ўбок перад пагрозай феадальным інтарэсам. І тут магнатам улада Польшчы была бліжэй, чым грозная ўлада маскоўскага цара. Гэта была трагічная памылка, якая пазней скасавала праваслаўе і самую беларускасць. Шкада, але факт, што паводзіны шляхты на Беларусі часта былі двудушнымі, і магнаты дзеля сваіх карыслівых інтарэсаў здраджвалі народу.

Пяць гадоў цягнулася падрыхтоўка ўніі, гэтага ганебнага ланцуга, да якога, безумоўна, прыклалі руку і езуіты. Каталіцкая царква вяла агітацыю сярод каталікоў Княства за ўключэнне яго без усякіх умоў. Ліцвіны цягнулі час, каб знайсці нейкае выйсце, каб зрабіць альянс, канчаткова не згубіўшы твар. А палякі чакалі зручнага моманту, каб заглынуць Княства.

У студзені 1569 года ў горадзе Любліне ў Польшчы адкрыўся супольны польска-літоўскі сейм, які цягнуўся паўгода.

Палякі ўнеслі прапанову аб поўнай ліквідацыі дзяржаўных структур Княства і зліцця яго з Польшчай. Ліцвіны прапанавалі свой праект, які прадугледжваў захаванне сваёй дзяржавы, заключэнне саюза на роўных умовах. Палякі не адступалі, і ліцвіны ў знак пратэсту пакінулі сейм, зняважаныя і абураныя...

Але дзе там! Яны трапілі ў пастку, якую рыхтавалі для іх лепшыя "лаўцы душ" з езуіцкіх школ. І вось цяпер, дачакаўшыся свайго, палякі нанеслі ім сапраўдны ўдар у спіну.

Кароль Жыгімонт ІІ Аўгуст выдаў універсал аб адарванні ад Кня-

ства і далучэнні да Кароны зямель паўночнай Украіны – Падляшскай, Падольскай, Валынскай і Кіеўскай, што павялічвала тэрыторыю Польшчы ў некалькі разоў: маленькая драпежная рыбка паглынала большую і спадзявалася не падавіцца. Тое, за што маскоўскія войскі змагаліся зброяй і кроўю, палякі падманам атрымалі адным росчыркам пяра. Езуіцкае майстэрства тут відавочна.

Можна ўявіць, што адчула беларуская шляхта, які гнеў і абурэнне ахапілі яе ад двудушнасці і прагнасці палякаў! І можа, не аднаму з іх прыйшла ў галаву старажытная байка, вядомая з часоў Эзопа, пра хворага чалавека, якому змяя на дарозе паабяцала вылячыць яго сваёй цудадзейнай атрутай. Чалавек даверліва паклаў яе за пазуху, але калі змяя ўкусіла яго, ён памёр. У жыцці ўсё выглядала не інакш: абяцанні Польшчы дапамагчы выглядалі смяротным укусам.

Нечаканая і падманная анэксія вызвала рэзкую рэакцыю з боку магнатаў-русінаў. Некаторыя з іх, у тым ліку праціўнікі ўніі – князі Радзівілы, Рыгор Хадкевіч, Астафій Валовіч – былі схільны да ваенных дзеянняў супраць Польшчы.

Аднак патрыятычныя сілы Княства былі аслаблены наяўнасцю ўнутры сваёй дзяржавы моцнай каталіцкай агентуры прапольскага накірунку, куды ўваходзіла значная частка шляхты і духавенства. Другая частка шляхты, баючыся згубіць свае маёнткі, пахупілася інтарэсамі дзяржавы і свайго ж народа. Улічваючы гэтыя цяжкія абставіны і адсутнасць волі да перамогі, дэлегацыя ліцвінаў, зразумеўшы, што з пасткі ходу назад няма, вярнулася зноў у Люблін.

Дзённік сейма расказвае, што дэлегаты-русіны на каленях малілі свайго гаспадара Жыгімонта II Аўгуста, каб ён захаваў сваё Княства, – нічога не дапамагло.

1 ліпеня 1569 года ўнія была падпісана.

Калі Астафій Валовіч чытаў на рускай мове тэкст прысягі каралю і Польшчы, то дэлегаты-русіны паўтаралі яе са слязьмі ў голасе.

У "Дзённіку" адзначана:

"З вялікім рыданнем яны ўсталі. І нават сярод нас, палякаў, рэдка хто не плакаў альбо да глыбіні ня быў узрушаны ад жаласці, бо многія з паноў-рады абліваліся слязьмі".

Сёння гэта эмацыянальная афектацыя польскага боку і ўяўнае спачуванне выглядаюць як гістарычны доказ існавання ў некаторых людзей кракадзілавых слёз. Але нам ад гэтага не лягчэй.

Тэкст дагаворнай граматы быў падрыхтаваны ў двух экземплярах: адзін замацоўваўся гербавымі пячаткамі польскіх дэлегатаў, а другі – такімі ж пячаткамі літоўскага боку. Пасля гэтага бакі абменьваліся граматамі.

У грамаце гаварылася:

"З гэтага часу каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўска-Рускае ўяўляюць сабою адно непадзельнае і неаддзельнае цэлае, а таксама

адну Рэч Паспалітую, якая злучылася і злілася ў адзін народ з дзвюх дзяржаў і народаў".

Так узнікла ў Еўропе другая па велічыні пасля Руска-Маскоўскай дзяржава – Рэч Паспалітая (Рэспубліка).

Яе састаўныя часткі называліся Каронай (Польшча) і Княствам (Руская Літва).

Кіраўнік дзяржавы выбіраўся пажыццёва агульным сеймам; ён адначасова з'яўляўся і вялікім князем літоўска-рускім. Праводзілася адзіная міжнародная палітыка, устанаўліваліся пастаянныя ўзаемадапаможныя адносіны ў ваеннай сферы.

Пасля падпісання ўніі Літоўска-Руская дзяржава павінна была спыніць сваё існаванне, аднак гэтага не адбылося. Асноўных прычын было дзве.

У Рускай Літве вельмі ўплывовымі і актыўнымі аказаліся патрыятычныя сілы буйных магнатаў і шляхты, сярод якіх былі ў першую чаргу Радзівілы, Сапегі, Алелькавічы, Валовічы і іншыя, менш вядомыя, але не менш свабодалюбівыя суайчыннікі.

Акрамя гэтага палякі баяліся народных выступленняў і масавага зыходу праваслаўнага насельніцтва ў Рускую дзяржаву, да Масковіі.

Вось чаму вынікам Люблінскай уніі было стварэнне федэрацыі, якая была класічным узорам гэтай формы дзяржаўнага аб'яднання, роўнага якому ў той час яшчэ не было.

Кожны з суб'ектаў федэрацыі меў сваё асабістае заканадаўства, фінансавую і мытную сістэмы, армію, суды, асобную дзяржаўную адміністрацыю. Захаваліся і дзяржаўныя мовы: у Польшчы – лацінская, у Рускай Літве – руская (старабеларуская).

У 1588 годзе быў зацверджаны трэці па ліку Статут Літоўска-Рускага гаспадарства, падрыхтаваны камісіяй пад кіраўніцтвам канцлера Льва Сапегі (1557–1633).

Статут складаўся з 14 раздзелаў, у якія ўваходзілі 487 артыкулаў. Кожны раздзел меў свой прававы змест, а кожны артыкул сваю юрыдычную норму.

Статут пацвердзіў факт заключэння Люблінскай ўніі, аднак змест яго падкрэсліваў самастойнасць Гаспадарства і імкненне да захавання прыярытэту правоў сваіх грамадзян.

Так, адзначалася, што дзяржаўныя пасады маюць права займаць толькі ўраджэнцы сваёй дзяржавы; забаранялася прадаваць зямлю іншаземцам, у тым ліку і палякам.

Асноўная ідэя Статута – гэта умацаванне прававога парадку ў дзяржаве, калі ўсе яе органы ўлады і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў межах закона.

Фактычна, Статут 1588 года – гэта Канстытуцыя дзяржавы, прытым першая ў Еўропе. Яна выкарыстоўвалася ў прававых дакументах Расіі, Польшчы, Прусіі, Балтыі. З беларускай мовы Статут быў перакладзены

і на некаторыя еўрапейскія мовы. Наш народ мае права ганарыцца гэтым шэдэўрам навукова-юрыдычнай думкі эпохі Адраджэння.

Вось чаму ў прэамбуле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1996 года, праз некалькі стагоддзяў, аддаецца даніна павагі продкам і адзначаецца, што яна складзена "абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці".

Ні адна дзяржава не можа існаваць без законаў. Іх змест характарызуе ў першую чаргу прававое становішча грамадзян дадзенай дзяржавы, улічваючы яе адносіны да дэмакратыі, таталітарызму, тэакратыі.

У гэтым сэнсе трэба адзначыць, што Статут 1588 года быў самым дэмакратычным заканадаўчым актам тагачаснай Еўропы.

Ён аказаўся ў поўнай меры дзеяздольным і выключна жывучым. Статут пераджыў Рэч Паспалітую, на працягу паўстагоддзя дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі ва ўмовах Расійскай імперыі і быў адменены толькі ў 1840 годзе.

Аднак некаторыя паняцці, якія былі ўзаконены Статутам, захаваліся да нядаўняга часу. Гэта тычыцца ў першую чаргу метрычнай сістэмы. Яшчэ і зараз не толькі ў мове, але і практычна ўжываюцца меры вагі – фунт і пуд, меры даўжыні – пядзь, аршын, сажань і вярста, меры плошчы – морг і валока.

❖

Нішто так не падкрэслівае факт існавання дзяржавы, як яе законы. Успомнім старажытную Эладу і антычны Рым. Гісторыя не ведае больш такіх прыкладаў, калі на працягу стагоддзяў закон і законнасць у Рыме былі нязменнымі і асэнсавана грамадствам узводзіліся ў культ. "Няхай загіне ўвесь свет, але закон святкуе трыумф". Гэтыя словы рымлян не былі пустым гукам.

Немалая колькасць заканадаўчых актаў літоўска-Рускай дзяржавы сведчыць аб яе жыццяздольнасці.

Створанае на пачатку XIV стагоддзя Літоўска-Рускае гаспадарства было дзяржавай рускага (беларускага, а да люблінскай уніі – і ўкраінскага) народа. У колькасных адносінах ён быў самы шматлікі, у эканамічных – самы прадукцыйны, у культурных – дасягнуўшы вышынь літаратуры і мастацтва.

Руская (беларуская) мова на працягу чатырох стагоддзяў была афіцыйнай і дзяржаўнай.

І мы сёння не вельмі памылімся, калі скажам, што Літоўска-Рускае гаспадарства і ў духоўным, і ў практычным сэнсе было дзяржавай беларускага народа. А захавацца народу і беларускай зямлі, каб не быць ушчэнт купленай палякамі, дапамог Статут, на які абапіраліся беларускія магнаты, якія нават і ў каталіцтве захоўвалі свой тутэйшы патрыятызм.

❖

У новых палітычных умовах, пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай, паланізацыя і акаталічванне беларускага народа працягваліся і насілі больш наступальны характар. Гэта асабліва было відавочна ў праваслаўным жыцці.

Ужо гаварылася, што дзейнасць каталіцкай царквы была дасканала цэнтралізавана. Ідэя акаталічвання схізматыкаў (тых, хто адышоў ад Рыма) была старой, як і сам Рым. Яе ажыццяўленне рабілася каталіцкім касцёлам Польшчы – і пачалося з Крэўскай уніі. Націску польскай адміністрацыі спачатку падвергліся самі феадалы, баючыся страціць свае высокія пасады і шляхецкія прывілеі, яны, русіны па паходжанню, пераходзілі з праваслаўя ў каталіцтва – без жадання і духоўнай мэты, толькі дзеля зямных выгод. Вядома, што часта такім чынам каталіцтва атрымоўвала двудушных вернікаў, якія не па сэрцы, а па розуму падпарадкоўваліся абставінам.

Першым з магнатаў перайшоў у каталіцтва Петр Гаштольд, за ім Радзівіл Осцікавіч, пазней Валовічы, князі Гальшанскія, Сапегі, Ельскія, Агінскія і іншыя.

Вядома, што бацька і сын – князі Канстанціны Астрожскія баранілі веру продкаў і не здраджвалі ёй, да канца засталіся абаронцамі праваслаўя, а вось іх нашчадкі сталі католікамі.

Адзіным буйным магнацкім родам, які да канца свайго існавання захаваў вернасць праваслаўю, былі князі Алелькавічы-Слуцкія.

Кіраўніком (прымасам) каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай быў арцыбіскуп, рэзідэнцыя якога знаходзілася ў горадзе Гнезна і які непасрэдна падпарадкоўваўся па́пу рымскаму. Прымасу ў сваю чаргу было падпарадкавана Віленскае біскупства, якое непасрэдна кіравала дзейнасцю касцёла ў Рускай Літве з XIV стагоддзя.

Біскуп кіраваў і місіянерскай дзейнасцю ксяндзоў. Пазней былі створаны яшчэ некалькі біскупстваў, якія кіравалі дзейнасцю касцёла ў асобных рэгіёнах.

Пачынаючы з Крэўскай уніі на беларускіх землях пачалі шырока будавацца касцёлы. Спачатку яны былі драўлянымі, потым будаваліся выключна мураваныя. І знешне, і ўсярэдзіне яны багата аздабляліся. Вернікі ў касцёлах, у адрозненне ад праваслаўных храмаў, мелі магчымасць праводзіць малітоўны час пад гукі аргана, седзячы.

Праваслаўныя храмы выглядалі значна бядней. Мураваных былі адзінкі – толькі ў буйных гарадах. Астатнія адпавядалі магчымасцям простых людзей. Іх было даволі многа: сваю невялікую цэркаўку, дзе маглі змясціцца ад сілы дваццаць чалавек, мела амаль кожнае сяло.

І вось калі справа з акаталічваннем шляхты ішла, на погляд каралеўскіх улад, нядрэнна, то гэтага нельга было сказаць пра большасць насельніцтва Беларусі, да якога адносіліся сяляне і мяшчане. Яны заста-

валіся вернымі праваслаўю, і ўздзейнічаць на іх метадам палітычнага і нават эканамічнага ўціску, як на шляхту, было амаль немагчыма. Пачаліся б народныя хваляванні, насельніцтва пачало б бегчы за мяжу, у Маскоўскае княства. Гэта б адчулі на сабе магнаты і панства, матэрыяльнае становішча якіх залежала ад жыццядзейнасці і дабрабыту гэтых саслоўяў.

Гэтыя абставіны выклікалі да жыцця старую ідэю Ватыкана аб стварэнні новай, падначаленай яму царквы, шляхам аб'яднання з каталіцкай, – царквы, вядома, належным чынам апрацаванай і ўзначаленай.

Праваслаўная царква на Беларусі ў гэты час перажывала вялікія цяжкасці.

З 1458 года праваслаўныя цэрквы ў Рускай Літве і Масковіі дзейнічалі незалежна. Царква на Беларусі называлася Кіеўскай (цэнтр яе быў у Наваградку) і падпарадкоўвалася канстанцінопальскаму патрыярху, які знаходзіўся у турэцкім Стамбуле.

Прывілеяванае становішча каталіцкай царквы, яе падтрымка вярхоўнай уладай і значнай часткай шляхты рабілі дзейнасць праваслаўнай царквы ўсё больш цяжкай, асабліва пасля Люблінскай уніі. У той жа час структура каталіцкай царквы ўзмацнялася. У першай палове XVI стагоддзя ў 17 паветах Княства дзейнічалі 260 парафій (касцёлаў). Парафіі аб'ядноўваліся ў дэканаты.

Практычнае ажыццяўленне царкоўнай уніі паскорылася пасля стварэння Рэчы Паспалітай. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі езуіты – галоўная мабільная і небяспечная сіла Ватыкана. Па запрашэнню віленскага біскупа Пратасевіча іх першая група ў колькасці пяці чалавек з'явілася ўжо ў час падпісання Люблінскай уніі. Далей – больш. Яшчэ раз падкрэслім, што для ўмацавання "вялікай славы Гасподняй" езуіты не грэбавалі нічым.

Езуіты атрымалі шырокае поле дзейнасці пры каралі Стэфане Баторыі (1575–1586), які пасля заняцця Полацка заснаваў для іх касцёл і калегіум, захапіў і аддаў ім восем праваслаўных цэркваў і манастыроў. У буйнейшых гарадах Беларусі былі адкрыты езуітамі школы, якія сталі цэнтрамі раскольніцкай і калабаранцкай – у духоўным плане, уніяцкай дзейнасці.

Галоўным ідэолагам і арганізатарам правядзення ўніі быў рэктар Віленскай акадэміі езуіт Пётр Скарга, выдаўшы кніжку-заклік, больш падобную на пракламацыю: "О единстве церкви Божьей и о греческом от этого единства отступлении". Яна была прысвечана найбольш актыўнаму абаронцу праваслаўя князю Канстанціну В. Астрожскаму з мэтай перацягнення яго да прыхільнікаў уніі. Але гэтага не адбылося.

Ворагі праваслаўя лоўка і своечасова выкарысталі цяжкае арганізацыйнае і маральнае становішча ў Праваслаўі Рускай Літвы.

Назначэнні вышэйшых духоўных асоб залежалі ад хабараў дзяржаўным асобам і іх акружэнню. Назначаныя ў сваю чаргу бралі хабар ад

благачынных і папоў. У выніку, як вышэйшымі, так і ніжэйшымі свята-рамі станавіліся людзі, мала падрыхтаваныя да выканання духоўных абавязкаў, і нават амаральныя асобы – шарлатаны, п'яніцы, злачынцы. І ўсю гэту кампанію, далёкую ад веры, рыхтавалі і падтрымлівалі тыя, хто хацеў зняславіць царкву людзей тутэйшых, а потым і падпарадка-ваць сабе.

У стварэнні ўніі самы непасрэдны ўдзел прымаў кароль Жыгімонт III Ваза (1587–1632), прыхільнік і апякун езуітаў. Менавіта па іх настойлі-вай прапанове патрыярх канстанцінопальскі ўзвёў на пасаду мітрапалі-та Літоўска-Наваградскага Міхаіла Рагозу, заведамага здрадніка права-слаўя і каталіцкага рэзідэнта.

Група епіскапаў на чале з Рагозаю падпісалі зварот да караля і пера-далі яму праект уніі, які кароль зацвердзіў, спачатку апрацаваўшы яго на сваю карысць. Рагозу гэта ніколькі не бянтэжыла: усё ішло па плану, распрацаванаму дагэтуль.

У Рым да па́пы была накіравана дэлегацыя, якую ўзначальвалі Ігнат Пацей і Кірыл Тарлецкі. У Ватыкане ва ўрачыстай абстаноўцы яны былі прыняты па́пам Кліментам VIII, дзе і было прынята рашэнне аб пры-няцці ўніятаў пад апеку каталіцкай царквы. Пацей і Тарлецкі ад імя епіс-капа і ўсяго народа прынялі прысягу, у якой, у прыватнасці, гаварылася:

“Признаю святую католическую апостольскую Римскую церковь матерью и наставницей всех церквей. А папе римскому, наследнику свя-того Петра, князя апостолов и наместника Иисуса Христа, я обещаю и присягой подтверждаю искреннее послушание. А этой истинной като-лической вере, без которой никто не может получить спасение и кото-рую я тут добровольно исповедую, я буду обучать своих подопечных или тех, которые будут отданы под мою пастырскую опеку”.

Як толькі паслы ўніятаў вярнуліся з Рыма, кароль выдаў універсал, у якім гаварылася:

“...среди других наших государственных забот склонили мы наш помысл и на то, чтобы людей греческой религии в нашем государстве привесть к единству с католическою церковью, римскою... Мы для окон-чания этого дела велели собрать собор вашему митрополиту кир Ми-хайлу Рогозе собрать собор в Бресте”.

Былі абраны дэлегаты ад католікаў, уніятаў і праваслаўных. Дэлега-цыя апошніх была найбольш прадстаўнічай. У яе склад уваходзілі епіс-капы і прыхадское, парафіяльнае духавенства, прадстаўнікі патрыярха і святога Афона, сербскай царквы, прадстаўнікі магнатаў і мяшчан, ся-род якіх былі і князі Астрожскія, а ўсяго – звыш трохсот чалавек.

Католікі, уніяты і прадстаўнікі караля не дапускалі і думкі аб тым, каб удзельнічаць у Саборы разам з праваслаўнымі. Епіскап брэсцкі Па-цей асабіста пазачыняў усе цэрквы, каб не дапусціць у іх збору права-слаўных дэлегатаў: ён толькі фармальна належаў да праваслаўнай царк-вы, а сам тым часам двудушна рабіў сваё.

Католікі і ўніяты адразу пайшлі на раскол і зрабілі ўсё, каб заблакіраваць праваслаўную дэлегацыю і правесці свой сход ды абвясціць яго, вядома падманна, агульным Саборам.

Раніцаю прыхільнікі ўніі тайна сабраліся ў Свята-Мікалаеўскай царкве, якая была кафедральным саборам горада. Пасля малення езуіт Пётр Скарга аб'явіў аб адкрыцці Сабора, хаця на самой справе гэта быў сектанцкі сход групоўкі з намерам зрабіць цёмную змову і захапіць уладу. Праводзіць дыскусіі было забаронена, і таму работа змоўшчыкаў, якія назвалі сваё мерапрыемства святым словам – Сабор, у той жа дзень была завершана.

Праваслаўныя засталіся самі па сабе і вымушаны былі дзейнічаць. Свой Сабор яны правялі ў прыватным доме пратэстанта Райскага, дзе спыніліся князі Астрожскія. Першы дзень праваслаўныя дэлегаты чакалі запрашэння на агульны Сабор, але гэтага не адбылося. І тады яны правялі сваю дыскусію, у якой выступілі амаль усе дэлегаты: у гэты трывожны час у кожнага знайшлося сваё слова для асэнсавання сітуацыі.

На другі дзень іх наведаў езуіт Скарга і спрабаваў схіліць на свой бок, аднак вярнуўся ні з чым. Праваслаўныя асудзілі раскольнікаў, адлучылі іх ад царквы і, як гаварылася ў рэзалюцыі, вырашылі "...стоять твёрдо в нашей святой вере и при истинных пастырях нашей Святой Церкви, особенно при наших патриархах, не оставляя старого календаря".

Католікі і ўніяты ў саборы святога Мікалая ўрачыста прынялі прысягу, уласнаручна падпісалі і прыклалі свае пячаткі да дэкларацыі, якая абвяшчала аб утварэнні Грэка-каталіцкай царквы. Першым мітрапалітам быў абраны Міхаіл Рагоза, які да гэтага дня ўзначальваў праваслаўную царкву.

Адбылося гэта 9 кастрычніка 1596 года. Новая царква прызнала асноўныя дагматы каталіцызму: аб зыходжанні Святога Духа ад Бога-Айца і Бога-Сына, аб чысцілішчы, культ Дзевы Марыі, а ў першую чаргу, для вырашэння зямных спраў – верхавенства папы рымскага. Уніяты заўзята пачалі дзейнічаць. Шматвекавая ўрачыстасць і старажытныя традыцыі былі парушаны.

З праваслаўных храмаў выламваліся і выносіліся іканастасы, і, наадварот, у храмы цягнуліся драўляныя і гіпсавыя скульптуры, устанаўліваліся ў багатых цэрквах арганы.

Для прыцягнення большай колькасці вернікаў было дазволена прытрымлівацца старой практыкі багаслужэння і адпраўлення рэлігійных таінстваў, а таксама дазвалялася, і гэта быў кардынальны крок, праводзіць службы на мясцовай мове. Уніяцкім святарам, у адрозненне ад каталіцкіх, было дазволена жаніцца.

Праз некалькі дзён пасля падпісання ўніі кароль выдаў універсал, аб'явіўшы аб падтрымцы дзяржаўнай уладай уніяцкай царквы. Разам з

тым праваслаўная царква пазбаўлялася ўсіх правоў, яе вернікаў сталі здзекліва называць дысідэнтамі. Што гэта значыла у той час? Толькі адно – рэлігійны генацыд, на які былі асуджаны праваслаўныя людзі на сваёй роднай зямлі, у дзяржаве, якая іх падманула.

Сёння слова "дысідэнт" атрымала выключна палітычную афарбоўку, а ў сярэдневеччы дысідэнцтва мела толькі рэлігійны сэнс. Дысідэнтаў, хрысціян-вернікаў, нязгодных з пануючым веравызнаннем, парадзіў уціск каталіцкай царквы ў краінах Заходняй Еўропы. Дысідэнты прыцярпелі незлічоныя пакуты ад каталіцтва: і інквізіцыя, і езуіцтва былі створаны, каб змагацца і знішчаць нязгодных. Самае вядомае злачынства супраць дысідэнтаў – чорная Варфаламееўская ноч, калі католікі патапілі ў крыві Парыж, выразаўшы дзесяткі тысяч гугенотаў. Акрамя гугенотаў, дысідэнтамі лічыліся анабаптысты і квакеры, кальвіністы і лютэране і інш.

І вось дысідэнтамі былі аб'яўлены праваслаўныя, гаспадары сваёй Бацькаўшчыны. Гэта было дзяржаўнае злачынства, гэта было духоўнае гета, у якое заганялі беларускі народ.

А ў жыцці гэта было куды прасцей – прызнаць над сабою польскага пана, пагадзіцца з апалячваннем. Для гэтага трэба было адмовіцца ад сябе, ад мовы, ад продкаў, ад веры, якую некалі прынёс на дняпроўскія берагі апостал Андрэй ад самаго Ісуса Хрыста. Вядома, народ не мог пайсці на гэта, хаця многіх спакусілі.

Амаль усе святыя мучанікі Праваслаўнай царквы Беларусі, нашы заступнікі перад Богам за Радзіму, з'яўляюцца менавіта ў час злавеснага існавання на беларускай зямлі ўніі і езуітаў, жорсткіх наступстваў каталіцтва. Так было і сярод другіх народаў, дзе ў дысідэнты траплялі людзі сумлення і волі, змагары за чалавечую годнасць і свабоду. Шлях дысідэнтаў, якіх каталіцкая царква ставіла па-за законам, – шлях пакутаў і самаахвяравання.

Грамадзянскія правы дысідэнтаў парушаліся паўсюдна, іх цкавалі, як "адступнікаў".

Улада пачала са шляхты, яна больш не магла трапляць у сеймы, суды, трыбуналы, структуры ўлады і органы мясцовага кіравання. Потым дабраліся і да простага народа.

Пачаўся двухсотгадовы пакутніцкі шлях Праваслаўнай царквы ў ганарлівай шляхецкай Рэспубліцы (Рэчы Паспалітай), якая лічыла сябе самай свабоднай у свеце.

А што ж Палессе і наш Давыд-Гарадок? Нашы мясціны заўсёды традыцыйна былі праваслаўнымі. І без сумненняў можна сказаць, што на раскольным сходзе ўніятаў і католікаў у Брэсце прадстаўнікоў з Гарадка і наваколля не было.

Больш таго, вядома, што толькі адзін пінскі епіскап пазней стаў уніятам, асноўная частка цэркваў засталася з верай продкаў. Думаецца, што з пункту гледжання польскіх уладаў, Давыд-Гарадок і наваколле

заўжды траплялі ў разрад дысідэнцкіх. Гараджане і тутэйшыя жыхары былі людзьмі смелымі, прадпрымальнымі, з высокімі маральнымі якасцямі і вялікім пачуццём чалавечай годнасці. Жаданне мець свой погляд на белы свет і прага да свабоды і зараз існуюць як характэрныя рысы сярод палешукоў і асабліва – сярод жыхароў Давыд-Гарадка. Такія людзі, свабодалюбівыя і стойкія ў сваіх традыцыях, проста не маглі аддаць свае цэрквы, дзе маліліся іх бацькі і дзяды.

Праваслаўе і ў самыя цяжкія часы зберагалася па глухіх кутках Палесся. Аўтару гэтых радкоў давялося пачаць свой настаўніцкі шлях у Плотніцы. Невялічкая палеская вёска, але асобы гонар вяскоўцаў быў у тым, што Пакроўская царква – Пакрава Багародзіцы – ніколі не была ўніяцкай, яна і яе свяшчэннікі не скарыліся перад абразай веры продкаў.

Гэты блакітны драўляны храм, падобны на прыземістага віцязя ў баявым шаломе, яго простую веліч і багатырскую моц, якая зыходзіла ад яго, я запомніў назаўсёды.

❖

Уваходзячы ў склад Рэчы Паспалітай, Палессе перажывала ўсе тыя змены ў сацыяльна-грамадскім жыцці, якія адбываліся ў дзяржаве.

Валочная памера, якая спачатку пачала праводзіцца ў нашым краі, завяршылася ўвядзеннем новай сістэмы землекарыстання і канчатковым запрыгоньваннем сялян.

Пазіцыя праваслаўнай царквы ў падтрымцы насельніцтва традыцыйна тут была даволі моцнай, і яе ўплыў на народ быў вялікім. У час апалячвання людзі асабліва чакалі пастырскага слова, абароны сваіх духоўных інтарэсаў. І праваслаўная царква засталася з простым народам.

Спачатку кафедра епіскапа знаходзілася ў Тураве, а ў 1241 годзе была перанесена ў Пінск.

У прыгарадзе Пінска Лешча быў заснаваны Лешчанскі Прачысценскі манастыр, які стаў рэзідэнцыяй епіскапа. Пінскія князі, асабліва Яраславічы, падтрымлівалі манастыр матэрыяльна. Ён стаў рэлігійным і культурным цэнтрам Палесся. Тут вялося летапісанне, перапісваліся кнігі, знаходзіліся майстэрні рамеснікаў царкоўных упрыгожванняў.

Польскі гісторык М. Стрыйкоўскі ў сваёй "Хроніцы" успамінае, што некаторыя факты з гісторыі края ўзяты ім з Пінскага летапісу Мітрафана. На жаль, Пінскі летапіс, як і Тураўскі, не захаваўся. Яны загінулі ў віхуры і полымі шматлікіх ваенных падзей на Палессі.

Пінская праваслаўная епархія ўваходзіла ў склад Кіеўскай (Наваградскай) мітраполіі. Нават у гэтым мы бачым адметныя паўднёвыя рысы тутэйшага насельніцтва, мясцовай гаворкі і паляшуцкага менталітэту.

Епархія падзялялася на тры пратапопіі: Пінскую, Тураўскую і Гарадзецкую – Давыд-Гарадоцкую, якімі кіравалі пратапопы.

Усяго ў епархіі было звыш двухсот храмаў, з іх у Пінску – 16, у Тураве – 14.

Па рэвізіі 1559 года ў Гарадку значылася чатыры царквы: Дзімітраўская, Васкрасенская, Нікольская і Казьма-Дзямянская. У епархіі было 13 манастыроў.

Епіскап Лявонцій Пальчынскі падпісаў Брэсцкую царкоўную ўнію і стаў першым уніяцкім епіскапам Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі, якая ахоплівала Пінскі павет.

Трэба адразу сказаць, што метады распаўсюджвання ўніяцкай рэлігіі былі ў асноўным гвалтоўнымі, і з простым людам не вельмі цырымоніліся, асабліва з тымі, хто трапіў ў рабскую залежнасць ад панства. Асабліва гвалтоўна працавалі езуіты, якія сотнямі адбіралі ў праваслаўных храмы. Такі прымус рабіўся з поўнага дазволу каралеўскай улады.

Аднак нягледзячы на гэта, распаўсюджванне новага веравызнання ішло ў нашым краі даволі марудна. Сярод уніяцкіх епархій Пінска-Тураўская была самай малалікай па колькасці вернікаў. Праз 80 гадоў пасля прыняцця ўніі, у 1676 годзе было тут няшмат прыходаў – крыху больш дзесяці: ў каралеўскіх прыходах 39 святароў, у шляхецкіх – 48, агульная ж колькасць прыхаджан – 74, як не дзіўна гэта гучыць, але ж менавіта так піша пра "поспехі" у ўніятаў сярод палешукоў апошняя Беларуская энцыклапедыя.

Аднак уніяцтва было не часовай акцыяй, яго пятля зацягнулася на стагоддзі, і яно не мыццём, дык катаннем дамагалася свайго. Таму ў процівагу татальнай апрацоўцы насельніцтва найбольш актыўная частка праваслаўных стала ствараць брацтвы – рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі. Яны ўзнікалі ў гарадах Беларусі і Украіны ў асяроддзі мяшчан і купецтва. Братчыкамі, як яны называлі сябе, былі прадстаўнікі праваслаўнага духавенства, шляхты, значна менш – сялян.

Грашовыя сродкі брацтваў складаліся з уступных узносаў, ахвяраванняў, дарэнняў нерухомай маёмасці – зямлі, пабудоў. Брацтвы кантралявалі цэрквы, выбіралі святароў і ўстанаўлівалі плату за служэнне і трэбы, не дапускалі закладу царкоўнай маёмасці.

Першыя брацтвы ўзніклі ў другой палове XVI стагоддзя ў буйнейшых гарадах Княства – Вільні, Магілёве, Брэсце, Слуцку, Мінску. Як правіла, яны існавалі пры цэрквах і манастырах. Акрамя кантрольна-ахоўных функцый, галоўнай справай брацтваў была асветніцкая дзейнасць. Каб уратаваць народ і яго мову, брацтвы адкрывалі пачатковыя і поўныя школы, якія мелі свае статуты.

Кіраўнік школы (рэктар) і настаўнікі (дыдаскалы), як і праваслаўнае духавенства, выбіраліся і атрымлівалі плату за сваю працу. З ліку братчыкаў таксама выбіраліся назіральнікі за работай школ.

У пачатковай школе вучылі чытаць і пісаць. Падручнікамі былі Псалтыр, Часаслоў, буквары. У школе старэйшай ступені вывучаліся па ўзо-

ру таго часу сем свабодных навук. Вывучаліся царкоўнаславянская, грэчаская, руская (беларуская) і польская мовы.

Урочная сістэма навучання прытрымлівалася катэхізіснага метаду: пытанне – адказ. У кожнай школе быў хор, да святаў рыхтаваліся тэатралізаваныя прадстаўленні. Так званыя школьныя тэатры шырока існавалі на Беларусі і Украіне, тэматыка п'ес ў асноўным была духоўная, рэлігійная. Гэта была арыгінальная з'ява, уласцівая менавіта нашаму краю, як і палескі жывапіс, палескае барока. Нічога падобнага ў Масковіі не было. Беларусь такім чынам пераплаўляла заходнія тэндэнцыі, аздабляючы сваю культуру. І фарпостам тут былі брацтвы і праваслаўныя традыцыі, якія не давалі асімілізаваць народ.

Значную ролю ў ідэйным проціборстве з каталіцызмам і ўніяцтвам адыграла брацкае праваслаўнае кнігадрукаванне. Яно ўзнікла ў 1584 годзе ў Вільні пры Святадухаўскім брацтве. Значны ўклад унеслі заснаваныя пазней Еўінская і Куцяінская друкарні. Час найбольшай актыўнасці іх – канец XVI – першая палова XVII стагоддзя, менавіта ў гэты перыяд наступствы апалячвання дасягаюць небывалага росту, а езуіты адбіраюць у праваслаўных 200 храмаў. Але на ўціск брацтвы адказваюць масавым друкаваннем кніг – кнігай змагаюцца супраць насілля, словам – супраць цемрашальства.

Назаўсёды засталіся ў гісторыі Айчыны яе магутныя асветнікі – браты Лаўрэнцій і Стэфан Зізаніі, Мялецій Сматрыцкі, Спірыдон Собаль.

Большую палову выданняў займала багаслоўская літаратура. Гэта тлумачылася не толькі жаданнем забяспечыць царкву патрэбнымі кнігамі, але і неабходнасцю процістаяць чужому націску.

У Пінску першае брацтва было створана ў 1597 годзе, другое – у 1602, пры Багаяўленскай і Фёдараўскай цэрквах.

Відавочна, нейкія невялікія філіі былі ў Гарадку і Тураве. Улічваючы мяшчанскае асяроддзе гарадоў, несумненна і тое, што ў Тураве і Гарадку было пачатковае навучанне па тыпу брацкіх школ.

# ЗА ВЕРУ І ВОЛЮ

*Ибо каким судом судите,*
*Таким будете судимы;*
*И какою мерою мерите,*
*Такою и вам будут мерить.*
***Евангелие. От Матфея, гл. 7, 4***

На тэрыторыі Расіі і Украіны ў XV–XVI стагоддзях склалася выключна своеасаблівая, нацыянальная па характару, але з цяжкасцю здольная ўжывацца з дзяржаўнымі парадкамі, ваенна-сялянскае саслоўе – казацтва.

На велізарных прасторах свабодных зямель, на самых буйных рэках – Волзе, Доне, Дняпры – збіраліся ватагі смелых халопаў, бяднейшых сялян, збеглых ад панскага прыгнёту, былых астрожнікаў, незадаволеных вайскоўцаў – людзей мужных і рызыкоўных, свабодалюбівых і авантурных. Яны жылі своеасаблівымі камунамі, падобнымі на ваенны лагер ці на бадзячы табар – займаліся лоўляй каштоўнай рыбы, палявалі на дзічыну, а часам “сустракалі” на дарогах і купцоў, якія траплялiся, у тым ліку і татараў.

Гэтых вольных людзей і сталі зваць па-татарску – казакамі (бадзячыя людзі), а іх занятак – казакаваннем. Татарскімі з’яўляюцца і назвы казацкага ваяўнічага стана – кош, і яго састаўной часткі, падраздзялення ці атрада – курэнь.

Казакаў было мноства, і ўсе са сваімі традыцыямі, у залежнасці ад мясцовага каларыту, але самымі старажытнымі і вядомымі былі запарожскія – на Украіне, ды на поўдні Расіі – данскія.

Будучыя славутыя запарожцы – сяляне і мяшчане, якія збіраліся ў невялікія групы і накіроўваліся на лодках уніз па Дняпру ў Дзікае поле: у багатым Дняпры лавілі рыбу, у стэпе палявалі на звяроў. У той час гэта былі небяспечныя прадпрыемствы: у час промыслу на іх кожную хвіліну маглі наскочыць татары. Таму прамыслоўцы павінны былі быць добра ўзброенымі, моцнымі, вынослівымі, смелымі і нават адчайнымі ў розных прыгодах.

Паступова казакі станавіліся выдатнымі воінамі. Яны ўчынялі напады на татарскія дазоры і атрады, захаплівалі іх зброю і коней.

На сваіх рачных караблях – чайках, дзе змяшчалася звыш пяцідзесяці чалавек, казакі выходзілі нават у Чорнае мора, даходзілі да турэцкіх берагоў, нападалі на гарады туркаў з іх мытнямі і рабаўласніцкімі рынкамі, з галер і няволі ратавалі рабоў-хрысціян, помсцілі іншаверцам за іх набегі і беды, якія яны неслі насельніцтву паўночных краёў. Рознымі бывалі казацкія паходы: з адных вярталіся са значнымі багаццямі і вясёлымі песнямі, а пасля другіх – многа казацкіх галоў заставался на піках – па сценах турэцкіх крэпасцяў.

У гэтых паходах нярэдка прымалі ўдзел і данскія казакі. У 1589 годзе запарожцы здзейснілі маштабны напад на Еўпаторыю, у 1604 годзе – на Варну, у 1614 – на Сіноп. Такія аперацыі маглі здзейсніць толькі буйныя вайсковыя аб'яднанні.

У 1615 годзе на 80 чайках казакі з'явіліся пад сценамі Стамбула, сталіцы Асманскай імперыі, і прынеслі туркам нямала клопату. Мужнасць і бясстрашша казакаў выклікалі ў сучаснікаў здзіўленне і захапленне.

Першым месцам жыхарства казакаў былі гарады Чаркасы і Канеў. Тут паступова складвалася казацкае войска, якое па даручэнню мясцовых улад абараняла гэтыя землі ад татараў.

Стваральнікам войска Запарожскага быў князь Змітро Вішнявецкі. З'уляючыся старостам чаркаскім, ён узначаліў казакаў і вёў некалькі гадоў барацьбу супраць татараў і туркаў. У 1555 годзе за дняпроўскімі парогамі на востраве Хорціца (даўжыня – 12 км, шырыня – 2,5 км, сёння – у раёне горада Запарожжа) ім была створана ўмацаваная абарончая засека – Сеч (укр. – Січь), дзе і размясціўся ваенны лагер казакаў, якіх сталі зваць запарожцамі.

Кароль Жыгімонт II Аўгуст пасля заключэння міру з Турцыяй і Крымам патрабаваў ліквідаваць "дняпроўскі замак", а казакам разысціся да сваіх гаспадароў і заняткаў. Можна зразумець заклапочанасць польскага караля: на ўкраінскіх землях, якія Польшча лічыла сваімі і планавала добра пагрэць на іх рукі, раптам узнікла казацкая вольніца, і мала таго, што з тутэйшага насельніцтва, дык яшчэ з выключна праваслаўным напрамкам.

Вольныя схізматыкі і не думалі слухаць польскага караля: ад свабоды ніхто з казакаў не адмовіўся. Казацтва ўмацоўвалася. Дух казацтва і яго традыцыі не абмяжоўваўся стэпам і дняпроўскімі парогамі: ён рухаўся ва ўсе бакі з поўдня – і ў свой час дасягнуў Палесся і Давыд-Гарадка з ваколіцамі. У сітуацыі ўціску і не магло быць інакш: казацтва заставалася прываблівым узорам жыццядзейнасці, мужных і самастойных паводзін, узорам праваслаўнага патрыятызму.

Змітро Вішнявецкі ў час Лівонскай вайны ў знак пратэсту супраць польскага караля перайшоў да Івана Грознага, удзельнічаў у паходах на Крым, потым вярнуўся на Сеч.

У 1563 годдзе ён умяшаўся ў міжусобную барацьбу ў Малдове і быў абвешчаны баярамі гаспадаром. Аднак у бітве з туркамі славуты казацкі атаман параненым быў захоплены ў палон, прывезены ў Стамбул і пасля катавання жорстка пакараны смерцю. Чалавек выключнай смеласці і адвагі, любімы герой казакаў, ён увайшоў у народныя паданні і песні пад імем Байды. У гісторыі Украіны ён лічыцца першым гетманам войска Запарожскага і першым кіраўніком Украінскай дзяржаўнасці.

Казацкія подзвігі – сапраўдны эпічны перыяд нашай гісторыі, бо належалі мы тады да адзінай дзяржавы. Рэхам разыходзіліся ў народзе

чуткі аб падзеях на "казацкім фронце". А яны і сапраўды трымалі яго, абараняючы жыхароў ад драпежных набегаў татар, турэцкага варварства, каталіцкага ўціску.

Казакі былі брацтвам, і больш за ўсё гэта было падобна на ваяўнічы рыцарскі ордэн. А з другога боку брацтва нагадвала манастырскае жыццё. Мяркуйце самі.

Прыйшоўшага да казакаў на Сеч не пыталі – хто ён і адкуль, ці ёсць у яго сям'я. Калі "навабранец" падыходзіў па фізічных якасцях, то яго прымалі ў сваё брацтва на ўмовах, якія ў ім існавалі – своеасаблівым кодэксе. А гэта ў першую чаргу – безагаворачнае выкананне канонаў праваслаўнай веры, у тым ліку і шматдзённых пастоў, агульны тэрмін якіх ў праваслаўі налічвае больш за паўгода; абавязак ваяваць толькі супраць ворагаў праваслаўя; паслушэнства выбраным военачальнікам і камандзірам.

У казацкім кодэксе было многа прававых нарматываў: забараняліся сваркі паміж сабою; за крадзеж рэчаў у казака злодзея вешалі; за насіллі і рабаванні ў праваслаўных вёсках і гарадах выносіліся смяротныя прысуды; забаранялася прысутнасць жанчын і іх прывод на Сеч пад страхам смерці – у Сечы быў строгі цэлебат для ўсіх.

Жылі казакі ў курэнях па сто пяцьдзесят чалавек у кожным; ежа іх – простая, часцей рыбная, мяса – толькі на свята.

Гэта спартанская загартоўка выхоўвала ў казакаў выключную адданасць справе, братэрскую прыязнасць да сваіх таварышаў, і калі сёння нехта думае, што імя "таварыш" прыйшло да нас у рэвалюцыйным XX стагоддзі, то ён глыбока памыляецца: таварышамі называлі сябе казакі ў Княстве Літоўска-Рускім і Рэчы Паспалітай. З тых мужных часоў увайшло ў свядомасць назаўсёды моцнае і дужае братэрскае імя – товариство.

І зусім нездарма казакі Сечы называлі сябе – рицарством війська Запорізьского.

Запарожцы галіліся, пакідаючы на галаве доўгую пасму валасоў – оселедець, які закладвалі за вуха. Характэрнай прыналежнасцю адзення былі шырокія шаравары, выключна доўгі пояс, шабля, абавязкова крывая, турэцкая; парахаўніца, пісталеты і люлька. У паходах запарожцаў, як старажытных грэкаў ці варагаў, суправаджалі кабзары, народныя песняры – часам самі старыя запарожцы.

Каларытныя вобразы казакаў мы можам убачыць на адной з лепшых карцін І. Я. Рэпіна, на якой запарожцы пішуць пісьмо турэцкаму султану: гэтую карціну кожны памятае з дзяцінства, па падручніку гісторыі. А ў жыцці запарожскія вусы і чупрыну і зараз можна сустрэць на нашым Палессі, дзе вясёлая давыд-гарадоцкая гаворка на базары не аднойчы нагадвала мне тэкст таго разудалага і бадзёрага пісьма запарожцаў з яго трапнымі выразамі і смеласцю.

На зіму, калі яны не ўдзельнічалі ў вайне, сямейныя казакі прыходзілі дадому, дзе займаліся сваімі гаспадарчымі справамі.

Большасць казакаў былі беглымі халопамі ад паноў з Украіны і Беларусі. Аднак на Украіне такая самавольная вольнасць ахапіла вялікую плошчу: з поўдня яна распаўсюдзілася на цэнтральную частку Украіны – Кіеўскую, Палтаўскую, Падольскую землі.

Важнейшыя пытанні вырашаліся агульным сходам казакаў – радай. Тут выбіраўся галоўны начальнік – кашавы атаман, куранныя атаманы, вайсковы пісар і есаулы (распарадчыкі). На час паходу асобнага атрада выбіраўся яго палкоўнік. Загады начальнікаў выконваліся безагаворачна.

Як ужо гаварылася, загад караля аб ліквідацыі Сечы выкананы не быў, казацтва пашыралася ў глыбіню дзяржавы і за яго межы.

Ад часоў Люблінскай уніі Украіна перайшла ад Руска-Літоўскага княства ў падпарадкаванне Польшчы. Кароль Стэфан Баторы з мэтаю падпарадкавання казакаў у знак іх прызнання назваў іх вярхоўнага кіраўніка Фёдара Багдана гетманам і адаслаў яму вышэйшыя рэгаліі – булаву, бунчук, пячатку, сцяг з каралеўскім белым ожэлам (арлом). Адпаведным чынам была адзначана і старшына (камандны састаў). Шэсць палкоў (шэсць тысяч казакаў) заносіліся ў рэестр караля і пераходзілі на яго забеспячэнне і ў яго падпарадкаванне.

Але гэта была толькі невялікая частка казакаў. Асноўная маса іх так і засталася запарожцамі, яны дзейнічалі на падставе сваіх інтарэсаў і даволі рашуча. З жадання караля раскалоць казакаў і спакусіць лепшых з іх каралеўскаю службаю і польскімі дармавымі злотымі нічога не атрымалася. Польскі белы арол так і не сабраў казацкую вольніцу пад свае крылы: вельмі ж гэтыя крылы былі падобны на краты астрога.

Кароль, палякі, акаталічаная мясцовая шляхта, уніяты і чужынцы, сярод якіх і яўрэі, баяліся казакаў. І было за што. Чаму?

З боку дзяржавы пасля ўніі палітыка апрацоўкі рускага (беларусаў і ўкраінцаў) народа ў напрамку акаталічвання вялася з усё большай настойлівасцю. А асноўная частка сялянства была цалкам запрыгонена. Іх уладальнікі, каб выжыць, прыймалі каталіцтва, і ў вачах сялян станавіліся палякамі. У сваю чаргу свой жа па крыві рускі (беларускі, украінскі) селянін для “новых палякаў” станавіўся не проста “хлопам” па-польску, ён быў цяпер ужо быдлам (жывёлай), з якім і абыходзіліся належным чынам.

Але акрамя прыгоннага жабрацтва ў сялян і дыскрымінацыі мяшчан, у іх адбіралі адзінае іх суцяшэнне і недатыкальнае святое, што давала ім пачуццё чалавечай годнасці – іх веру.

Да дзяржаўнага і рэлігійнага прыгнёту дадаваўся яшчэ і эканамічны ўціск яўрэяў, якія змаглі падпарадкаваць сабе гандаль і не толькі. Яўрэі пасяліліся ў Польшчы і Рускай Літве ў канцы XIV стагоддзя. Афіцыяльна ў дакументах і заканадаўстве іх называлі тады – жыдамі. Так называлі яны сябе і самі.

За два стагоддзі яўрэі сталі значнай эканамічнай сілай. Акрамя гандлю на землях Кароны ім дазвалялася быць арандатарамі панскіх ула-

данняў. Польскія паны ганарліва лічылі для сябе зняважлівым займацца гаспадарчымі клопатамі – і перакладалі іх на сваіх арандатараў. Апошнія выкарыстоўвалі сваё становішча для павелічэння ўціску хлопаў. Але гэта яшчэ нішто, і ўсюды ў свеце арандатары займаліся ўціскам прыгонных: лёс неграў на плантацыях Амерыкі ці рабоў у Турцыі адрозніваўся ад лёсу прыгонных беларусаў ці ўкраінцаў у Рэчы Паспалітай толькі дэталямі.

Горш было другое. Афіцыйную палітыку апалячвання карона ў Рэчы Паспалітай вяла да поўнай перамогі. Таму тут прымянялі розныя метады, і сярод іх – езуіцкі здзеклівыя, – калі не ведалі як задушыць праваслаўныя прыходы, якія не хацелі знікнуць з твару зямлі. Страшэннай знявагай простага чалавека, беларуса ці ўкраінца, была перадача панамі ў арэнду яўрэям праваслаўных цэркваў. Не будзем бачыць чагосьці надзвычайнага. Сяляне на Беларусі заўсёды жылі з яўрэямі ў добрасуседстве, існавалі яўрэйскія вёскі, дзе яўрэі нават аралі зямлю.

Але ў тыя часы яўрэяў улада проста выкарыстоўвала ў сваёй бруднай палітыцы, і тыя паддаваліся. Палякі правакавалі варожасць паміж праваслаўнымі і яўрэямі, наўмысна ўскладаючы на апошніх арэндныя абавязкі – і тым самым умываючы рукі.

Розныя бывалі арандатары: адныя знаходзілі з прыхаджанамі паразуменне, а другія, не без загаду пана-католіка, адчынялі цэрквы калі хацелі, плату за богаслужэнні бралі сабе. Часта бедныя людзі не мелі магчымасці плаціць, а святары, не маючы ніякай платы, сыходзілі ў другое месца. Царква пусцела. І тады яўрэй-арандатар па загаду пана перадаваў амярцвелую царкву ўніятам.

Усё гэта, разам узятае, прыводзіла найбольш актыўную частку русінаў (украінцаў, беларусаў, рускіх) на Сеч, дзе іх сустракала вольніца і ўмовы, аб якіх кожны марыў. І пакрыўджаны, са зброяю ў руках, станавіўся страшным для тых, хто давёў яго, простага селяніна, да стану ворага і мсціўца.

Праваслаўнае насельніцтва Украіны і Беларусі называла сябе русамі (русінамі), мову – рускай, а сваю краіну – Руссю.

Адной з першых значных работ па гісторыі Украіны з'яўляецца "История Русов или Малой России", напісаная архіепіскапам Беларускім Георгіем Каніскім (1717–1795). А. С. Пушкін вельмі высока ацэньваў багатую духоўнасцю і мудрасцю творчасць беларускага пастыра. Перад сваёй заўчаснай смерцю ён уважліва чытаў яго, і вялікая рэцэнзія з мноствам цытат на кнігу Каніскага – апошняе, што паэт зрабіў на зямлі.

Каніскі лічыў, што ўжо ў XVI стагоддзі існаваў народ маларосы (украінцы), якія займалі землі сучаснай Украіны і паўднёвай Беларусі. Пры тым русамі (маларосамі) ён лічыў толькі праваслаўных.

Так называлі сябе ў той час і жыхары гэтых земель, у тым ліку і казакі. Яны не лічылі русамі сваіх паноў, стаўшых католікамі. Для іх яны былі палякамі. З вялікай нецярпімасцю ставіліся яны да ўніятаў,

у сувязі з езуіцкімі авантурамі панства ворагамі лічыла і яўрэяў.

Яны свята памяталі галоўную частку казацкай прысягі – абараняць сваю веру і знішчаць тых, хто яе хоча знішчыць. Такім чынам, дзякуючы прыгнёту, панства само дапамагло з'явіцца на свет сваім магільшчыкам.

І трэба сказаць, што, калі б не было казацтва, то беларускую мову і праваслаўную веру чакаў бы трагічны лёс. Па сутнасці, толькі казакі з'явіліся той сілай, якая стрымала поўнае знішчэнне нацыянальна-культурнай адметнасці беларусаў і ўкраінцаў – галін аднаго дрэва.

❖

Першае значнае выступленне запарожцаў супраць шляхты адбылося ў 1591–93 гадах на Кіеўшчыне, пад кіраўніцтвам гетмана Крыштофа Касінскага, аднак яно пацярпела паражэнне, а сам гетман загінуў.

Даволі значнае паўстанне адбылося ў час прыняцця ўніі – пад кіраўніцтвам Налівайкі.

Севярын Налівайка – ураджэнец горада Астрога. Яго старэйшы брат быў прыдворным святаром князя Канстанціна Астрожскага, аднаго з славутых барацьбітоў супраць уніі. Севярын выхоўваўся ў княжацкім замку, стаў сотнікам казацкага атрада па яго ахове, можна сказаць, быў у княжацкай гвардыі. Прымаў удзел Налівайка і ў вайне з Касінскім, аднак не на яго баку.

Хутка захапленне Налівайкі шляхецкім жыццём рэзка змянілася жорсткай нянавісцю: паны заставаліся панамі. У яго бацькі быў зямельны ўчастак недалёка ад горада, але пан Каліноўскі захапіў яго, а бацьку так збіў, што той памёр. У Налівайкі адкрыліся вочы: ён разумее, што сярод шляхты праўды шукаць дарэмна.

Налівайка накіраваўся на Сеч, пamірыўся з казакамі, супраць якіх некалі па слепаце змагаўся, пасябраваў з гетманам Рыгорам Лабадою і падараваў казакам табун коней, які ён захапіў у татараў.

З лета 1594 года разам з гетманам ён на чале аднаго з казацкіх атрадаў удзельнічае ў Малдавіі ў вайне супраць туркаў. Вясной наступнага года казакі вяртаюцца назад.

Перамены былі відавочныя і вельмі дрэнныя. Тут ужо дзейнічала і з напорам насаджалася ўнія, адным з актыўнейшых праваднікаў якой быў мясцовы епіскап Луцкі, дэлегат місіі ў Рым да пáпы, Кірыл Тарлецкі.

Кожны дзейнічае, як можа: брат Севярына Дзям'ян складае пісьмы супраць аб'яднання з каталіцкай царквою, а князь Астрожскі рассылае іх па гарадах і мястэчках.

Налівайка падымае паўстанне супраць польскай улады і заключэння ўніі. Папоўніўшы свой атрад мяшчанамі і сялянамі, якія сталі казакамі, Налівайка займае з боем Луцк і захоплівае маёмасць Тарлецкага. У наваколлі запалалі шляхецкія маёнткі, у тым ліку і кароннага канцлера Яна Замойскага.

Супраць Налівайкі палякі накіравалі сямітысячнае войска рэестравых (каралеўскіх) казакаў гетмана Лабады.

У Налівайкі сілы былі намнога меншыя, і, не ўступаючы ў бой, ён рушыў з Валыні на тэрыторыю Княства, на поўдзень Беларусі, які яны лічылі часткай сваёй Украіны.

Магчыма, ідэю гэтага рэйду прапанавалі казакі, выхадцы з гэтых мясцін, якіх у войску Налівайкі было шмат. Усяго ў атамана мелася дзве тысячы казакаў. Паход пачаўся ў кастрычніку 1595 года, які быў незвычайным па надвор'ю і прыродных з'явах: "тогды было зима не зима, ни лето, ни осень, ни весна аж до месяца мая до святого Афанасия снегу не было".

Першым населеным пунктам, які паўстанцы занялі на Палессі, быў Петрыкавічы (Петрыкаў). Не затрымліваючыся, Налівайка рушыў на Слуцк, папярэдне паслаўшы патрабаванне гарадскім уладам аб прадастаўленні яму з казакамі пастою ў горадзе.

У гэтым яму было адмоўлена, і 6 лістапада адзін з буйнейшых гарадоў Княства з моцным замкам быў узяты казакамі штурмам. Але толькі з мэтай яго захапіць і пакарыць, а не разграбіць: казакі разумелі вялікую каштоўнасць Слуцка.

Слуцк у Рускай Літве быў значным культурным цэнтрам Праваслаўя. Тут жылі вядомыя князі Алелькавічы, якія баранілі веру продкаў і не схілілі галавы перад ўніяцтвам і апалячваннем.

Але да гэтага часу род гаспадароў князёў Алелькавічаў па мужчынскай лініі згас. Заставалася апошняя наследніца – дзесяцігадовая Соф'я Юр'еўна. Праваслаўны Слуцк не зведаў разгрому, аднак навакольныя маёнткі былі абрабаваны. Як пісаў літоўскі гетман Крыштоф Радзівіл:

"...не мало вреда многим людем учтивым братии нашей в том краю вблизи Слуцка живущим".

Шляхецкае войска Радзівіла каля Копыля з засады нанесла паражэнне аднаму з казацкіх атрадаў, у той жа час з поўдня рухаўся са значным войскам рэестравых, каралеўскіх казакаў, Лабада. Далейшае знаходжанне ў Слуцку стала небяспечным. Прабыўшы там дваццаць дзён, казакі пакінулі Слуцк, захапіўшы з сабою асноўную частку замкавага арсенала: 12 лепшых гармат, 80 гакаўніц, 700 рушніц, акрамя таго мяшчанская рада выплаціла ім пяць тысяч коп літоўскіх грошаў.

У гэты час было прынята рашэнне ісці ў межы Маскоўскай Рускай дзяржавы. Спачатку паўстанцы рухаліся на Бабруйск, а потым павярнулі на Магілёў. Без усялякага папярэджання 13 снежня горад быў узяты знянацку штурмам. Тут казакі поўнасцю праявілі свае адносіны да ворагаў па веры.

У Баркулабаўскім летапісе гаворыцца:

"Лето Божого нароженя 1595, месяца ноября 30 дня в понеделок за тыдень перед святым Николою – Северин Наливайко; при нем было казаков 2000, дел 14, гаковниц... Место славное Могилев, место набожное, домы, крамы, острог выжгли, домов всех яко 500, а крамов з вели-

кими скарбами 400. Мящан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жен, детей малых побили, порубали, попоганили, скарбов тех незличоных побрали с крамов и с домов".

Два тыдні прабылі казакі ў Магілёве. Да горада падышло шляхецкае войска на чале з М. Буйвідам. Налівайка выйшаў з горада на поўдзень і размясціўся на Ільінскай гары Буйніцкага поля. Па традыцыі казакі ўмацавалі сваю паходную крэпасць, акружыўшы свой лагер некалькімі радамі павозак.

Шляхецкае войска налічвала 18 тысяч чалавек, але ў яго не было артылерыі. Шляхта пераважвала казацкае войска амаль што ў дзесяць разоў і таму ганарліва рушыла на штурм гары.

Паўстанцы сустрэлі шляхту моцным гарматным агнём. Цэлы дзень 27 снежня ішоў упарты бой. Буйвіду не ўдалося зламаць супраціўленне паўстанцаў... Буйніцкае поле – славутае поле рускай мужнасці і волі. Як некалі праваслаўныя казакі Налівайкі, так і нашчадкі іх, слаўныя чырвоныя байцы ў Вялікую Айчынную ламалі тут крывыя кіпцюры чорнаму германскаму арлу.

Ноччу казакі пакінулі свой табар  на гары і пайшлі па Дняпру на поўдзень.

Іх шлях ляжаў праз Быхаў, Рагачоў і Рэчыцу. Адсюль Налівайка павярнуў на захад, перамясціўшыся з Дняпра на Прыпяць. Тут да яго дайшла добрая навіна: ад рэестравых казакаў гетмана Лабады, былога сябра, а зараз прыслугача караля, аддзяліўся загон палкоўніка М. Шавулы, які падтрымаў Налівайку.

У пачатку 1596 года Налівайка рухаўся ўздоўж Прыпяці і наведаў нашы мясціны. Казакі зноў занялі Петрыкаў, а потым – Тураў, Гарадок Давыдаў і Лахву. Усюды казакі, як Божая кара, ачышчалі край: жорстка распраўляліся з варожай шляхтай, вынішчалі езуітаў, бралі выкупы з мяшчан, папаўнялі казацкую скарбонку.

У Гарадку казацкае войска спынілася: тут быў добры горад і добры праваслаўны народ; тут не было жорсткай адміністрацыі, не так многа шляхты і хцівых гандляроў.

Давыд-Гарадок і наваколле падаліся казацкаму атаману ціхім кутком нармальнага чалавечага жыцця – без польскага прыгнёту, без езуіцкай злоўмыснасці, без шляхецкай разбэшчанасці і ксяндзоўскай сквапнасці. І нават яўрэйскія крамы тут не выклікалі ў яго ніякага абурэння. Спакой сышоў на душу грознага Севярына Налівайкі.

Ля Замкавай гары, на рачной прыстані казакі праверылі і падрамантавалі чаўны, на якіх плылі па Гарыні, пераглядзелі і ўзмацнілі прыпасы, падлічылі казацкія скарбы ды захопленае багацце. Давыд-Гарадок аказаўся слаўным месцам для своечасовага адпачынку. Налівайка тут удакладніў свае ваенныя планы, правёў раду са сваімі атаманамі.

Казакі пакінулі ў Гарадку невялікі атрад, а сам Налівайка рушыў на Пінск.

Што адбылося пасля яго адыходу з Гарадка, аб гэтым мне некалі

расказаў амаль апошні хутаранін з вёскі Туры, што ў кіламетры ад Давыд-Гарадка, стары дзед Мікола Кошаль.

Гэта адбылося на Замчышчы, што было абсталявана для ўкрыцця і ратавання жыхароў Гарадка і мясцовых сялян ад ворагаў, аб чым ужо гаварылася раней, у главе "Татарская лагчына". Гісторыя дзеда Кошаля вельмі зацікавіла мяне сваім народным духам, яркімі дэталямі, эпічным настроем. І аднойчы яна стала гістарычнай навелай.

## СЛЕД НАЛІВАЙКІ

### І

Дарога ад вёскі Туры да вёскі Лядзец праходзіць маляўнічым лесам, які мясцовыя жыхары называюць Барком.

Абмінуўшы лясніцтва і прайшоўшы кіламетры два гэтай дарогі, мы заўважаем другую, якая вядзе направа ў глыбіню гушчару. Дарога гэта малаезджаная і карыстаюцца ёю галоўным чынам зімою. Прайшоўшы метраў сто, мы бачым, што яна пачынае спускацца ў нізіну, цераз якую пракладзена невядома калі і кім грэбля, якою карыстаюцца і зараз.

А калі перад узыходам на грэблю ўважліва прыглядзецца, то мы ўбачым цікавую рэч: з абодвух бакоў пад'езду на грэблю ўзвышаюцца невялікія земляныя насыпы, якія нагадваюць не што іншае, як рэшткі варот, якія адчыняліся і давалі шлях да нейкага важнага месца.

Калі мы пакінем за сабою грэблю і звернем крыху направа, то яшчэ здалёк заўважым нешта незвычайнае. На прыгожым стогадовым дубе замацавана гербавая шыльда, на якой напісана:

Міністэрства культуры БССР<br>Гарадзішча<br>Помнік археалогіі<br>Ахоўваецца дзяржавай.

Няма ўжо той савецкай рэспублікі, і шыльду добра пабіла снегам і дажджамі, а старажытнае гарадзішча сабе жыве, спіць у сівым сне пад шэпт дрэваў.

Перад намі – даволі высокі земляны вал, зарослы лесам. Аднак вал гэты незвычайны. Гэта замкнуты круг даўжынёю па акружнасці каля трохсот метраў і ў дыяметры – каля ста. Вышыня земляного вала, густа парослага дзірваном, у асобных месцах дасягае зараз амаль сямі метраў. Значыць, у свой час ён быў значна вышэйшы.

З пункту гледжання навукі – гэта ўнікальны археалагічны помнік. Як і Хатомельскае гарадзішча, ён адзіны ў нас, на Беларусі. Мясцовыя жыхары называюць яго замчышчам і расказваюць, што некалі знаходзілі тут рэшткі старажытнай зброі, абрыўкі скуранога адзення, нават чалавечыя косці. Аднак ніхто не казаў, што тут сустракаліся прадметы сялянскага быту.

Археалагічныя раскопкі тут не праводзіліся. А народную назву гэ-

тай мясціны можна паставіць пад сумненне. Старажытныя гарадзішчы і селішчы, як правіла, асноўваліся людзьмі на высокіх месцах, дзе будаваліся жылыя памяшканні, абарончыя забудовы. Для лепшых гандлёвых і ваенных зносін гарадзішчы будаваліся на рэках. Лепшымі прыкладамі тут з'яўляюцца сам Давыд-Гарадок і Тураў.

Каму ж спатрэбіўся горад у лесе, далёка ад купецкіх шляхоў, наогул схаваны ў сучасным Барку, які безумоўна быў некалі добрым борам са стогадовымі дубамі? Звычайна чалавечае паселішча не хаваюць ад чужых вачэй.

Лясны замак у былым бары ўяўляе сабой круглы вал з упадзінай у сярэдзіне, зробленай з мэтай, яўна абарончай. Калі глядзець на Замчышча зверху, то яно нагадвае велізарны след, пакінуты нейкім цуда-волатам, які загадкава прайшоў па палескай зямлі.

Загадкай з'яўляецца і тое, што вал замкнуты і не мае ніякага праходу. Магчыма, праход быў падземным – і зараз абваліўся. Наогул, Замчышча, руіны таямнічага ляснога замка, маюць шмат загадак і чакаюць свайго часу для іх вырашэння.

Мы не ведаем гісторыю Замчышча. Але безумоўна не аднойчы гэта лясная крэпасць саслужыла добрую службу людзям.

## II

Казакі выглядвалі з-за насыпу і сумна глядзелі на тое, што рабілася ўнізе. Некалькі дзён яны знаходзіліся тут, днём і ноччу адбіваючыся ад акружыўшай іх шляхты.

Іх загон на чале з сотнікам Палукошкам, выхадцам з гэтых краёў, атаман накіраваў на Давыд-Гарадок, а сам усёй залогай рушыў у Пінск.

Палукошка выканаў сваю справу хутка. Зламысная шляхта была пакарана, усе яе маёнткі ў акрузе спалены. Некалькі дзесяткаў лодак былі нагружаны патрэбным для казакаў скарбам і накіраваліся ўверх па Гарыні на Валынь – галоўную базу паўстанцаў.

Перад адыходам казакаў запалаў драўляны замак гарадоцкага кашталяна – намесніка князя Радзівіла. А ў гэты час яго ўладальнік, вялікі гетман Літоўскі Крыштоф Радзівіл, на чале значнага войска даганяў паўстанцаў. Ён думаў, што яны адыходзяць да сябе на Валынь, і разлічваў не даць ім гэта зрабіць, а дагнаць і разграміць у сваіх уладаннях.

Прага помсты і надзея на высокую ўзнагароду караля ахапілі гетмана: ён ганарліва спадзяваўся на хуткую і бязлітасную перамогу над праклятымі схізматыкамі. Радзівіл лічыў, што ён нагнаў атрад, які ўзначальвае сам атаман.

Але шляхціч вельмі памыляўся: атаман быў куды больш лепшым стратэгам і тактыкам, чым гэта ўяўлялі сабе палякі. Справа ў тым, што ён пайшоў на ваенную хітрасць: каб адцягнуць увагу палякаў ад Пінска,

адпраўляючы загон Палукошкі, па загаду атамана былі распаўсюджаны чуткі, што атрад узначальвае сам атаман.

У Давыд-Гарадку казацкі сотнік наўмысна выдаваў сябе за атамана, і падмануты Радзівіл быў упэўнены, што гэта так.

На гары гарэў замак, а насупраць яго перапраўляліся казакі. У кожнага з іх было па два кані, важкія паклажы, зброя. Мясцовыя жыхары пад іх наглядам згрузілі ўсё гэта на звязаныя чаўны і паволі адплывалі ад берага.

Абапіраючыся на мушкет, Палукошка глядзеў зверху на казацтва, ён чакаў весткі, каб адразу ж выступіць на злучэнне з атаманам. І вось у гэты час пачуўся крык казака-наглядальніка:

– Атаман, ляхі!

Але пераправа ўжо заканчвалася. На апошнім плыце пераплылі сотнік з назіральнікам. Аднак палякі аказаліся і на тым беразе. Яны рухаліся двумя берагамі, каб не даць паўстанцам адысці па адным з іх.

Грымнуў стрэл, другі, трэці... Пачаўся бой. Сілы – няроўныя: ляхаў было вельмі многа, і яны пачалі акружаць казакаў. У гэты момант да сотніка Палукошкі прабраўся Грычык, адзін з мясцовых хлопцаў, і прапанаваў выйсце са смяротнай пасткі:

– Я ведаю месца, дзе можна трымацца доўга. Там мае людзі.

Так паўстанцы трапілі ў лясны замак, на Замчышча, дзе да іх далучылася добрая сотня беглых: хлопаў, якія пры чутках аб казацкім вызваленчым паўстанні сабраліся тут для барацьбы з мясцовай шляхтай. Гаспадары Замчышча рыхтаваліся тут, у лесе, каб адстойваць свае правы на зямлю, волю і веру. Яны зрабілі грэблю, падсыпалі абарончы вал.

Казакі схавалі за валам коней, занялі кругавую абарону. Яна нагадвала ўлюбёную іх тактыку ў адкрытым полі: змагацца за вазамі, пастаўленымі кругам. Казакі былі добра ўзброены, мелі запас пораху, захопленага ў гарнізоне гарадоцкай шляхты, але саміх іх было мала.

Хутка палякі даведаліся пра сховішча, увайшлі ў лес і акружылі Замчышча. Пачалася аблога. Высокі земляны вал добра ратаваў абаронцаў. Казакі і халопы не маглі нарадавацца.

Птушкі і лясныя звяры беглі прэч ад страляніны і грознага рэха. Некалькі дзён штурмавалі палякі замчышча, але абаронцы гераічна адбіваліся. Каб не быць захопленымі знянацку ўначы, хлопцы палілі смалякі, аднак і самі шляхцюкі палохаліся і не лезлі з цемры пад стрэлы трапнай варты Гарадзішча.

Аднак сілы былі няроўныя. Амаль трэць казакаў загінула, шмат было параненых, хапала ахвяр і сярод хлопаў. Не было чым карміць коней, і яны рваліся з прывязі, чуючы за валам смачную веснавую зеляніну. Такое ўпартае супраціўленне толькі раздражняла палякаў: яны былі ўпэўнены, што атаман паўстанцаў тут – і любымі сродкамі хацелі яго захапіць, жывым ці мёртвым.

Сотнік Палукошка быў таксама паранены. Каб выратаваць хоць частку людзей, ён вырашыў накіраваць да атамана пасланцаў з просьбай аб дапамозе. Былі адпраўлены два казакі ў суправаджэнні Грычыка, які добра ведаў дарогу. Ноччу яны спусціліся з вала і зніклі ў цемры.

### III

Не ўдалося пасланцам дабрацца да атамана. Грычыка, мусіць, забілі, а абодвух злоўленных казакаў палякі прывялі сюды, да Замчышча. Яны хацелі зрабіць паказальнае пакаранне, каб напалохаць і зламіць волю абаронцаў.

З сумам глядзелі казакі і хлопы зверху на тое, што рыхтаваліся зрабіць іх ворагі. Вывесці бы коней ды абрынуцца на ляхаў – адбіць братоў ды пасячы ворагаў! Але дзе там: аслаблі коні без корму, ды і казакі – ніводнага здаровага і ўцалелага.

А палякі, пасміхаючыся, нагіналі маладыя дубкі і прывязвалі да іх палонных. Адпусцяць верхавінкі, і гнуткія дрэвы выканаюць жудасны прысуд...

Да месца расправы пад'ехаў сам вялікі гетман. Суправаджаючыя яго шляхцічы размахвалі белымі хусцінкамі, даючы знак паўстанцам, каб тыя не стралялі. Адзін з іх пракрычаў:

– Апошні раз пан вялікі гетман прапануе вам выдаць бунтоўцу Налівая, які хаваецца сярод вас, як баязлівы заяц. За гэта вы ўсе атрымаеце магчымасць выбрацца адгэтуль. Калі ж вы гэта не зробіце, то з вамі будзе тое, што зараз будзе з імі.

Падняўшыся на страмёнах і тыцнуўшы шпагай ў бок збітых палонных, Радзівіл гаркнуў:

– Налівай, пся крэў! Глядзі, як будуць зараз енчыць і прасіць літасці твае лайдакі!

Але здзейсніць жудасную расправу карнікі не паспелі. Стрэлы асаджаных казакаў зліліся з моцнай і нечаканай страляніной, якая ўспыхнула за спінамі палякаў.

Праз вал раптоўна перакінуўся жывы Грычык, які нешта радасна пракрычаў сотніку Палукошку. Казакі ўсхапіліся ўсе, як адзін: тут бацька! Тут Налівайка!

А неўзабаве над Замчышчам грымнуў грамавы голас атамана:

– Што, чортавы ляхі, вольнае казацтва думалі знішчыць? Слаўнае таварыства! Сячы іх, праклятых!

### IV

Леў Сапега пісаў Радзівілу:

"Сяляне, нашы падданыя, усё знішчаюць, пануюць над намі, а ў нас рукі як звязаныя: не толькі не можам адплаціць ім, але і абараніцца нават не можам ад іх".

У словах канцлера адчуваецца разгубленасць: Княству, магнатам цяжка было сваімі сіламі трымаць у пакорнасці шматлікія масы прыгонных.

Гледзячы на казакаў Налівайкі, якія ўчора былі такімі ж, як яны, палескія сяляне ўбачылі, што ёсць сіла, якая можа весці барацьбу з панствам за веру і волю – казацтва.

❖

Сам Налівайка непасрэдна кіраваў захопам Пінска. Пінск быў ненавісны Налівайку тым, што гэта была радзіма Кірылы Тарлецкага, епіскапа з яго Валыні, аднаго з арганізатараў уніі, а таксама – месца служэння епіскапа пінскага Лявонція Пальчынскага, здрадніка праваслаўя. Горад быў захоплены, уся маёмасць Тарлецкага знішчана, а каштоўнасці падзелены паміж героямі штурму. У ваколіцах Пінска былі разбураны маёнткі брата Тарлецкага.

Баркулабаўскі летапіс паведамляе: "Тут яны пачалі тварыць вялікую замкам і панам шкоду".

У пачатку вясны Налівайка пакінуў Палессе. Як піша летапісец: "...а Наливайко з Петрикович, бывши в Турове и в Городку болшей, удалсе до Высоцка и на Волынь".

У пачатку красавіка загоны Налівайкі і Шавулы злучыліся каля Белай Царквы на Кіеўшчыне і вырашылі перайсці за рускую мяжу, аднак былі акружаны польскімі войскамі гетмана С. Жалкеўскага. Казакі ўмацаваліся на рацэ Салоніца каля мястэчка Лубны (зараз Палтаўскай вобласці). Два тыдні казакі паспяхова адбіваліся ад палякаў, але апошнім дапамагло здрадніцтва. 17 ліпеня кіраўнікі паўстання на чале з Севярынам Налівайкам былі захоплены, некалькі тысяч казакаў загінула ў акружэнні.

У Баркулабаўскім летапісе сказана:

"Того ж року 95, з войском литовским погонивши в селе Лубни, на речце Суле, козакив побили. Первей Савулу стяли, Панчоху чвертовали, а Наливайка Северина, поймавши по самой суботе, до кроля послали, там же его, зковавши, держали аж до осени святого Покрова: там же его чвертовано".

Гэта адбылося 21 красавіка 1597 года ў Варшаве, якая толькі што стала сталіцай Рэчы Паспалітай пасля Кракава. Каралеўскі статус Варшавы быў замацаваны крывёю народнага героя, праваслаўнага паўстанца. Казацкага атамана секлі на кавалкі пры вялікім наплыве гараджан. Касцёл і езуіты былі задаволены.

Так пачалася Рэч Паспалітая. І так закончылася першае на Беларусі выступленне прадстаўнікоў народа за веру і волю.

Што можна дадаць? Шлях Севярына Налівайкі пралягае з Валыні на Палессе да Давыд-Гарадка і Пінска – і зноў на Валынь. А гэта дзіўна

супадае з жыццёвым шляхам і дарогамі князя Давыда Гарадзецкага. І часам здаецца, што гэта буяны і гнеўны дух князя Давыда Ігаравіча, заснавальніка Давыд-Гарадка, падняўся з труны Кіева-Пячэрскай лаўры, каб дапамагчы свайму народу і заступіцца за палешукоў.

❖

Самую актыўную ролю ў прыняцці і рэалізацыі Брэсцкай уніі адыграў кароль Жыгімонт III Ваза. Змяніўшы на яго месцы М. Рагозу епіскап Іпацій Пацей прыгнятаў праваслаўных асабліва сурова. Кароль перадаў яму ўладу над праваслаўнай царквой і зацвердзіў правы ўніятаў над адабранай імі ў праваслаўных маёмасцю. Пачаліся шырокія ганенні на брацтвы, друкарні: хворыя прылюдна выкідваліся з праваслаўных лякарняў і прыютаў.

Ударнай сілай уніятаў стаў ордэн базыльян, заснаваны мітрапалітам Іосіфам Руцкім, генералам рымскага папы. Папа Урбан III у пісьме да Руцкага асабіста выносіў яму падзяку “за абарачэнне ў святую ўнію каля двух мільёнаў схізматыкаў”.

Прыкладам зневажання чалавечай годнасці і недастойнай царкоўнага іерарха дзейнасці з’яўляюцца “місіянерскія” паводзіны полацкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча, празванага “душахватам”. Аб яго паводзінах у выданні Віленскага праваслаўнага Свята-Духаўскага брацтва “Правда об Иосафате Кунцевиче” у 1896 годзе гаворыцца:

“Могилёвские мещане, не желая впустить его, расставили заряженные пушки и грозили стрелять в него.. В Мстиславле некто Массальский едва не убил его из ружья... В Орше мещане хотели утопить его в Днепре. По распоряжению Кунцевича, во всех этих местах церкви были запечатаны, священники православные разогнаны или разосланы в заключение... В своем диком фанатизме Кунцевич дошел до того, что приказывал вырывать из могил недавно умерших православных, злейших врагов своих, и отдавал их на съедение собакам”.

Дзейнасць Кунцэвіча выклікала незадаволенасць урада Княства, якое баялася народнага паўстання. І да “душахвата” з пісьмом звярнуўся сам канцлер Леў Сапега. Вось што ён, у прыватнасці, пісаў:

“...Вы своим неосмотрительным насилием подстрекнули и принудили народ русский к сопротивлению и нарушению присяги. Разве вам неизвестен ропот нерассудительного народа, выражавшийся желанием его скорее принять турецкое подданство, чем терпеть такое притеснение своей веры и благочестия?..”

Кунцэвіч накінуўся на Сапегу, абвінавачваючы яго, што ён сваім дэмакратызмам садзейнічае супраціўленню ўніятам – і ў апантанасці дапісаўся да поўнай бязглуздзіцы. Сапега ставіць яго на месца:

“Продолжайте, что “вам вольно топить униатов, рубить им головы”

и пр. Нет! Потому что божественное евангелие строго внушает всем мстителям, в том числе и вам: Мне отмщение, Аз воздам.

"Не принимающих унии нужно изгонять из государства", пишите дальше. Избави Бог нашу страну от этого безрассудства!..

Одна уния – виновница всех этих несчастий!.. и так нам опротивела, что мы желали бы лучше остаться без нее"...

Гэта пісаў кіраўнік урада Княства, католік па веравызнанню. Аднак дыскусія з канцлерам, творцам славутага Статута, не дапамагла. Калі пасля закрыцця ўсіх цэркваў у Віцебску праваслаўныя за горадам пабудавалі сабе два буданы для набажэнства, Кунцэвіч у шаленстве разбурыў і іх, а свяшчэннікаў выгнаў наогул з акругі.

Паднялося паўстанне, і 12 лістапада фанатык быў забіты. Аднак гэта народнае выступленне віцебчан было хутка падаўлена, яго ўдзельнікі былі жорстка пакараны: толькі да смяротнай кары асуджана было больш за 100 чалавек, сам горад быў пазбаўлены Магдэбургскага права і вечавога звона. Караць смерцю паўстанцаў у Віцебск звозілі катаў са ўсяго Княства.

За такую жорсткую расправу па́па Ўрбан VIII выказаў каралю Жыгімонту III сардэчную падзяку, а І. Кунцэвіч стаў святым мучанікам. Так крывава крочыла ўнія па нашай зямлі.

Паступова ў рэлігійную барацьбу ўцягваецца казацтва: ад асобных выбуховых выступленняў яно пераходзіць да моцнай неадступнай падтрымкі праваслаўя. Значную ролю ў абароне роднай веры адыграў гетман Запарожскі (1614–1622) Пятро Сагайдачны. Удзельнік некалькіх пераможных паходаў на Крым і Турцыю, ён карыстаўся вялікай папулярнасцю. Гетманам была арганізавана ахова праваслаўных цэркваў і свяшчэннікаў.

Сагайдачнаму належыць заслуга ў аднаўленні ў 1620 годзе Кіеўскай мітраполіі. Новы кароль Уладзіслаў IV вымушаны быў зацвердзіць гэта рашэнне. Сагайдачны быў першым з украінскіх дзеячоў, хто высока ўзняў ідэю аб аб'яднанні Украіны з Маскоўскай дзяржавай і накіраваў у Маскву пасольства.

Выдатнае месца ў адстойванні пазіцый праваслаўнай царквы займае дзейнасць Пятра Магілы, якому патрыярх канстанцінопальскі надаў тытул мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсяе Русі (1632–1647). Галоўнай заслугай П. Магілы з'яўляецца стварэнне першай на Русі вышэйшай навучальнай установы: з брацкіх школ Кіева-Пячэрскай лаўры і гарадской мяшчанскай была створана Духоўная акадэмія, якая атрымала імя свайго заснавальніка – Кіева-Магілянская.

Мітрапаліту ўдалося вярнуць ад уніятаў некалькі цэркваў і манастыроў, аднавіць работу друкарні і выдаць значную колькасць богаслужэбнай і духоўнай літаратуры. У гэтай дзейнасці Украіна ішла ўслед за брацтвамі на Беларусі. Аднак Украіне тут больш пашанцавала: усё гэта рабілася пад аховай і абаронай казакаў. Напярэдадні сваёй смерці мітра-

паліт блаславіў казакаў на барацьбу за веру – з яе прыгнятальнікамі.

Да гэтага часу належыць і барацьба з уніяцтвам ігумена адзінага праваслаўнага манастыра святога Сімяона ў Брэсце Афанасія Філіповіча (1597–1648). Яго дзейнасць была адкрытай і бескампраміснай. Ён двойчы выступаў на сейме перад каралём, патрабуючы "чтобы настоящая греческая вера всемерно почиталась, проклятая же уния была уничтожена и обращена в ничто".

Смелага ігумена некалькі разоў арыштоўвалі, высылалі, але ён быў непахісны. З ім расправіліся ў пачатку вялікага народнага паўстання.

Філіповіча абвінавацілі ў дапамозе паўстанцам зброяй і лістоўкамі. У турме яго спрабавалі схіліць да адрачэння ад сваёй веры і таму катавалі. А ён толькі праклінаў уніятаў.

18 верасня 1648 года ігумен быў расстраляны. Гэты дзень з'яўляецца памінальным прападобнамучаніка Афанасія Брэсцкага. Нятленныя мошчы святога захоўваюцца ў Сімяонаўскай царкве ў Брэсце.

Усё больш і больш хвалявалася Украіна, адкрытыя выступленні пачаліся і на Беларусі. Яны былі накіраваны ў першую чаргу супраць уніяцтва, за сваю рускую праваслаўную веру. Разам з тым барацьба была накіравана супраць прыгоннага гнёту польскай шляхты. Рэч Паспалітая хісталася ва ўсе бакі.

Рускі гісторык В. Ключэўскі па гэтаму пытанню пісаў:

"Церковная уния не объединила этих классов, но дала новый стимул их совместной борьбе и помогла им лучше понимать друг друга: и козаку, и хлопу легко было растолковать, что церковная ўния – это союз ляшского короля, пана, ксендза и их общего агента жида против русского Бога, которого обязан защищать всякий русский. Сказать загнанному хлопу или своевольному козаку, помышлявшим о погроме пана, на земле которого они жили, что они этим погромом защищают обиженного русского Бога, значило облегчить и ободрить их совесть".

Першыя казацкія паўстанні ў канцы XVI стагоддзя яшчэ не мелі выключна рэлігійна-нацыянальнага характару, але з пачатку XVII стагоддзя казацтва ўцягваецца ў праваслаўна-царкоўную апазіцыю. Гетман Сагайдачны з усім войскам Запарожскім адкрыта запісваецца ў Кіеўскае праваслаўнае брацтва, а ў 1620 годзе з дапамогаю іерусалімскага патрыярха самавольна, без дазволу вышэйшых улад дзяржавы, аднаўляе метраполію і вышэйшую царкоўную іерархію.

У 1625 годзе барацьбу з польскімі войскамі вядзе гетман Міхаіл Дарашэнка, і гэта становіцца традыцыяй і прызваннем казакаў. Гетман Тарас Трасіла вёў барацьбу са сваімі ворагамі вельмі жорстка – ён знішчаў палякаў, не шкадаваў яўрэяў, ад яго яны ратаваліся ўцёкамі з Украіны. У 1630 годзе ў начной бітве пад Пераяславам гетман Тарас разграміў буйнейшую польскую групоўку гетмана Каняцпольскага. Тарасава ноч, як яе называлі ў народзе, абышлася Варшаве ў некалькі ты-

сяч забітых палякаў і была першым іх буйным паражэннем ад непакорных падданых.

У 1635 годзе пры вяртанні з паходу на туркаў атаман Паўлюк захапіў і разбурыў пабудаваную палякамі крэпасць Кадак, а потым узначаліў барацьбу запарожскіх казакаў супраць ляхаў, заклікаючы да сябе ўсіх жадаючых. Паўлюк пацярпеў паражэнне, трапіў у палон і пасля катаванняў бесчалавечна пакараны смерцю.

У 1638 годзе чарговае казацка-сялянскае паўстанне на Палтаўшчыне ўзначаліў Якаў Астраніца. Яно таксама было падаўлена, а сам атаман з невялікім загонам сышоў у Расію.

А паўстанне працягвалася ўжо пад кіраўніцтвам адважнага атамана Гуні, які праз два гады вымушаны быў, як і яго папярэднік, перайсці ў Масковію.

Кароль Уладзіслаў IV (1632–1648) рабіў спробы прымірыць варагуючыя бакі, не даць процістаянню перарасці ў вялікую вайну. Аднак гэта яму не ўдалося з-за непрымірымасці фанабэрыстай польскай шляхты і агрэсіўнай каталіцкай царквы. Кароль памёр, калі вайна, якой ён баяўся, ужо пачалася.

Новы кароль Ян Казімір (1648–1668) быў фанатычным каталікам і лічыў так, як і магнаты, шляхта, каталіцкія і ўніяцкія біскупы, што "взбунтовавшуюся чернь следует истребить огнем и мечом и насмерть засечь нагайками".

Усе гэтыя паўстанні так ці інакш закраналі наша Палессе і хвалямі дасягалі Давыд-Гарадка, Турава, Пінска, якія з часам сталі апорнымі кропкамі і нават цэнтрамі рэлігійна-вызваленчай барацьбы праваслаўных беларусаў.

❖

Багдан Міхайлавіч Хмяльніцкі (каля 1595–1657) быў родам з горада Чыгірына (зараз Чаркаскай вобласці). Яго бацькі былі выхадцамі з беларускай праваслаўнай шляхты. Вучыўся ў брацкай школе, скончыў Львоўскі езуіцкі калегіум, ведаў некалькі моў. Удзельнічаў у паходах супраць татараў і туркаў, быў два гады ў турэцкім палоне. На чале наёмнага казацкага атрада ваяваў на баку Францыі супраць Іспаніі. Авантурная біяграфія гераічнай асобы.

Акрамя гэтага ўдзельнічаў у казацка-сялянскіх паўстаннях, быў членам дэлегацый на перамовах з каралём Уладзіславам IV. Дзесяць гадоў быў сотнікам Чыгірынскага палка.

Як актыўны дзеяч вызваленчага руху, ён вымушаны быў уцякаць на Сеч, дзе ў пачатку 1648 года быў абраны гетманам і пачаў ваенныя дзеянні.

Пачалася вызваленчая вайна рускага (украінскага і беларускага) народа за захаванне сваёй праваслаўнай веры, за ўратаванне ад прыгнёту

польскіх паноў і, урэшце, за стварэнне сваёй дзяржаўнасці. Апошняе ў дзеяннях Б. Хмяльніцкага было даволі неакрэсленым, але тэрытарыяльныя межы паўстання, адміністрацыйныя рашэнні па мясцоваму кіраўніцтву, ды і сама асноўная ідэя – барацьба за веру і волю – сведчаць на карысць меркавання, што Хмяльніцкі клапаціўся аб сваёй дзяржаве.

Удзельнікі паўстання аб'яўляліся казакамі, а сам удзел у ім называўся казакаваннем. Асноўная маса паўстанцаў была сялянамі і прыроднымі казакамі, меншая частка – мяшчане і дробнае праваслаўнае духавенства.

Першы год вайны быў даволі паспяховым для паўстанцаў. У маі таго года ў двух бітвах – пад Жоўтымі Водамі і пад Корсунем Хмяльніцкі разграміў авангард і галоўныя сілы польска-шляхецкіх войск. Пасля разгрому палякаў пад Корсунем, узятыя ў палон каронны гетман С. Патоцкі і яго памочнік Б. Каліноўскі былі перададзены татарам.

Польскія ўлады са страхам чакалі з'яўлення казакаў пад сценамі Варшавы, але гэта не ўваходзіла ў планы гетмана. Ён асаджаў Львоў, потым Замосце, а пасля заключэння перамір'я з новым каралём Янам Казімірам накіраваўся ў Кіеў, дзе ўрачыста быў сустрэты народам з царкоўным звонам усіх храмаў старажытнай сталіцы.

Пасля некалькіх перамог у 1649 годзе быў заключаны Зборaўскі дагавор, згодна з якім частка цэнтральнай Украіны атрымала абмежаваную аўтаномію, рэзідэнцыяй гетмана прызнаны горад Чыгірын.

❖

Як ужо адзначалася, гэта вызваленчая вайна насіла ў першую чаргу рэлігійны характар. А ўсе рэлігійныя войны вяліся з асаблівай жорсткасцю і знішчальнасцю. Такімі былі крыжовыя паходы, калі крыжаносцы знішчалі ўсіх нехрысціян у XI–XIII стагоддзях. Крыжовы паход супраць альбігойцаў у Францыі закончыўся поўным знішчэннем гэтага народа ў канцы XIII стагоддзя. Цалкам былі знішчаны каля дваццаці тысяч рыцараў ордэна святога Храма, так званыя тампліеры і храмоўнікі ў пачатку XIV стагоддзя на тэрыторыі Еўропы. Знішчальны характар мелі гусіцкія войны ў Чэхіі ў XV стагоддзі. Тое ж самае можна сказаць аб гугеноцкіх войнах XVI–XVII стагоддзяў у Францыі, аб вайне Іспаніі супраць Нідэрландскай рэвалюцыі ў XVI стагоддзі і інш.

Не менш жорсткай была адпаведна і судовая сістэма: такі быў час. І з пачатку стварэння дзяржаўнасці на зямлі прымяняліся катаванні і розныя віды смяротнага пакарання.

Але самай вытанчанай жорсткасці пры катаваннях і найбольшай разнастайнасці пакараннях смерцю з зацягваннем пакут асуджанага грамадства дасягнула менавіта ў сярэдневеччы. Існавалі спецыяльныя катавальні з ужываннем дзесяткаў прылад, інструментаў для большых пакут ахвяры.

У час народных паўстанняў і барацьбы праваслаўных людзей за веру і волю ў Рэчы Паспалітай смяротныя кары ўжываліся вельмі часта. Цэлая сістэма смяротных пакаранняў для падданых існавала тады і на беларускай зямлі. Сёння яна нічога, акрамя жаху, не выклікае.

Статут Вялікага княства Літоўска-Рускага 1588 года Льва Сапегі ўстанаўліваў простыя і кваліфікаваныя смяротныя кары. Да простых адносіліся павешанне і адсячэнне галавы, да кваліфікаваных – спаленне на кастры, чвартаванне, пасаджэнне на кол.

Усе смяротныя прыгаворы тады звычайна выконваліся публічна спецыяльнымі прафесіяналамі – катамі і іх памочнікамі – гіцлямі.

Са страшэннай жорсткасцю вялася вызваленчая вайна 1648–54 гадоў на тэрыторыі Княства, на украінскіх і беларусіх землях.

Многа напісана аб нашэсці манголаў хана Батыя 1238–42 гадоў на Русь і Заходнюю Еўропу. Пасля іх заставалася пустыня: зруйнаваныя гарады, бязлюддзе. Але мангола-татары ніякіх "кваліфікаваных" катаванняў не прымянялі, свае ахвяры яны проста забівалі. У параўнанні з паводзінамі палякаў і казакаў на вайне яны былі проста воінамі, няхай і захопнікамі, а не катамі-мучыцелямі.

Усё сваё творчае жыццё прысвяціў вывучэнню гісторыі Украіны Мікалай Іванавіч Кастамараў (1817–1885), вядомы расійскі гісторык. Адной з буйнейшых яго работ з'яўляецца манаграфія "Богдан Хмельницкий", дзе выкарыстана мноства дакументальных сведчанняў падзей той вайны, якія ствараюць панараму эпохі, мужнай і трагічнай.

Жорсткасці паноў да сваіх хлопаў, прыгнятаемых і гнаных, былі незлічоныя.

У 1630 годзе ў час паўстання польскі сотнік Самуіл Лашч катаваў жыхароў сёлаў за дапамогу паўстанцам, адразаў ім насы, вушы, знішчаў сяленні.

У першы дзень Вялікадня было выразана ўсё насельніцтва ў мястэчках Лісянцы і Дзімеры на Браслаўшчыне.

У 1637 годзе сын кароннага гетмана Патоцкага прымяняў толькі адну меру пакарання – пасаджанне на кол. Захопленых каля Нежына паўстанцаў ён усіх замучыў такім чынам і, як сам гаварыў, ездзіў на дарогу, уздоўж якой віселі на калах закатаваныя, любавацца гэтым відовішчам.

А вось як паводзіў сябе з трапіўшымі да яго ў рукі казакамі, мяшчанамі, святарамі, выступаўшымі за сваю веру і волю, буйнейшы магнат князь Ярэма Вішнявецкі ў мястэчку Паграбішча:

"Никто не ожидал нападения – и вдруг налетел Вишневецкий. Все попались в его руки; князь сажал на кол, тиранил мучительно и виновных и невиновных, особенно мучил священников: им просверливали глаза".

А вось так садыст-магнат здзекваўся над жыхарамі свайго прыватнаўласніцкага горада Нямірава:

"Вишневецкий приказал мучить кого только подозревал. Немиров-

цам вырывали глаза, распинали, растесывали их пополам, сажали на кол, обливали кипятком. И кроме того, говорит летописец, употребляли такие муки, каких и поганые не могли выдумать. Вишневецкий присутствовал при казнях и находил какое-то удовольствие".

Рэакцыя паўстанцаў была адэкватнай. Да жорсткасці і знішчэння сваіх ворагаў заклікалі казакаў і паўстанцаў і праваслаўныя святары. І тыя стараліся так, што за першы год вайны былі ў значнай ступені знішчаны на занятай паўстанцамі тэрыторыі каталіцкая шляхта, ксяндзы, уніяты і яўрэі.

"Они резали, вешали, топили, распиливали пополам, вырывали кусками мясо, сдирали с живых кожи... После кровавых сцен обыкновенно следовала гулянка: выкатывали из панских погребов бочки с винами, пили, плясали, пели песни среди пепелищ и трупов.

...Римско-католические святыни подвергались поруганию: костелы грабили и сжигали; ксендзы и монахи были обречены на муки без милосердия и без исключения. Их топили, вешали, сдирали с них кожи.

...Но всего неумолимее поступали повстанцы с иудеями... Это не было следствием одного фанатизма: перед восстанием русского народа иудеи, будучи арендаторами и управителями панских имений, довели народ до такого ожесточения злоупотреблениями и более всего поруганием над православными церквями, находившихся в их распоряжении".

У цяжкія моманты вайны палякі ахвяравалі яўрэямі для выратавання свайго жыцця: для іх яны былі такімі ж "жыдамі", як і для паўстаўшых.

Так адбылося пры аблозе замка Тульчын палкоўнікам Ганжой. Не гледзячы на тое, што яўрэі заплацілі палякам за сваю ахову велізарныя грошы, палякі выдалі іх казакам – фактычна выгналі бяззбройных людзей за сцены замка. І каля трох тысяч яўрэяў былі перабіты казакамі. Але дарэмна спадзяваліся ўратавацца гаспадары Тульчына. Праклятыя яўрэямі за вераломства, загінулі і ўсе палякі гэтага крывавага замка.

У час аблогі Львова (26.09–16.10.1648) сам Багдан Хмяльніцкі спачатку патрабаваў выдачы ўсіх яўрэяў. І толькі велізарны окуп (выкуп) выратаваў іх, як і католікаў, ад пагалоўнага знішчэння.

Вызваленчая вайна на Беларусі і, у прыватнасці, на Палессі, нічым не адрознівалася ад агульнага характара падзей.

Нацыянальныя і рэлігійныя дзеячы Украіны таго часу лічылі, што да Русі (Украіны) належыць і Паўднёвая Беларусь, якую планавалі ўключыць у склад ствараемай дзяржавы – Рускага гетманства. Так лічыў і Багдан Хмяльніцкі.

Вось чаму ўжо ў пачатку 1648 года тут з'явілася даволі многа агітатараў, якія пад выглядам гандляроў, манахаў, жабракоў-лірнікаў хадзілі па гарадах і мястэчках, заклікаючы мяшчан і сялян на барацьбу за веру і волю. І ўжо вясною 1648 года ў некаторых месцах Беларусі пачаліся народныя хваляванні.

Для ўздыму барацьбы Б. Хмяльніцкі накіраваў на Палессе некалькі даволі буйных загонаў казакаў на чале з палкоўнікамі. Кожны з іх меў асабісты ўніверсал гетмана з заклікам да барацьбы. Гэтымі палкоўнікамі былі Галавацкі, Галота, Гладкі, Гаркуша, Нябаба і інш.

Гараджане палескіх гарадоў з энтузіязмам сустракалі пасланцаў гетмана і адчынялі ім вароты сваіх гарадоў. Яны былі русінамі, праваслаўнымі і жадалі быць у складзе сваёй Рускай дзяржавы, якую ствараў гетман Багдан. Праваслаўныя запарожцы-русіны былі іх братамі. Каталікі і ўніяты – іх агульнымі ворагамі.

Прыгонныя палешукі цярпелі, як і іншыя, уціск паноў і хацелі пазбавіцца ад прыгнёту, асабліва балючага, таму што ён прыгнятаў веру. Вось чаму свабодалюбівых палешукоў вельмі прываблівала казакаванне – свабодныя паводзіны ў адносінах да сваіх гаспадароў, падпарадкаванне гаспадароў выключна грамадзе і знішчэнне найбольш жорсткіх з іх.

Першым на Беларусь пасля бітвы пад Жоўтымі Водамі прыйшоў з некалькімі палкамі Я. Галавацкі. Казакі занялі Брагін, Ясеў, Гомель, зруйнавалі шэраг маёнткаў. Да іх далучыліся многія гараджане і сяляне.

Самым буйным народным выступленнем на Палессі і наогул на Беларусі з'яўляецца гераічная барацьба Пінска. У горадзе тады было звыш пяці тысяч пабудоў, пражывала каля 20 тысяч чалавек.

У жніўні 1648 года праваслаўныя гараджане Пінска паднялі паўстанне і запрасілі да сябе казацкага палкоўніка Антона Нябабу. Казакі выразалі ўсіх каталікаў, не пакінуўшы жывымі і дзяцей; ксяндзоў патапілі. Касцёлы, кляштары, уніяцкія цэрквы былі разграблены.

Паўстанцы дамовіліся з казакамі аб ахове іх горада да Ражаства, за што ім былі абяцаны грашовая плата, адзенне, абутак, матэрыяльнае забеспячэнне.

Але 5 кастрычніка шляхецкае войска маршалка Пінскага павета Лукаша Ельскага змагло ўварвацца ў горад, дзе сустрэла моцнае супраціўленне. Аб гэтым расказваецца в "Историческом памятнике о Пинске", выдадзеным у 1847 годзе на польскай мове:

"Жители... изменнически предали город бунтовщикам казакам, введя их тайно в город прежде нашего войска, сделали сами с казаками заговор защищать с ними город до последней крайности и бить ляхов.

...с женами и детьми, как на гвалт, стремглав бежали к ограде, забрав камни из бань, и снеся рубленые дрова из домов к ограде, наших били, как могли, кто из ружей, кто косами, кто палками, другие, бросая камни, полена, и чем кто мог".

Паўстанцаў узначальвалі мяшчане-рамеснікі Іван Шаненя, Рыгор Мяшковіч, Ярмола Велясніцкі, Багдан Сачыўка. Першы дзень абароны горада закончыўся паспяхова, Ельскі адступіў.

Аднак на дапамогу яму прыйшоў са значнымі сіламі стражнік Мірскі. Ён абяцаў літасць гораду пры ўмове выдачы кіраўнікоў і выгнання з

горада казакаў. Але абаронцы адмовіліся ад здрадніцтва і пакляліся змагацца да канца.

Раніцай 9 кастрычніка Мірскі пачаў абстрэл горада з гармат, а вечарам шляхецкае войска ўварвалася ў Пінск. Два дні ішла ўпартая барацьба на вуліцах горада. Гараджане змагаліся за кожную вулачку, за кожны дом, біліся ў дамах і на дахах, адбіваліся, нават загнаныя ў ваду.

Ляхі неслі вялікія страты, і мужнасць абаронцаў выклікала ў палякаў разгубленасць. Па загаду Ельскага горад быў запалены, і гэта вырашыла зыход бітвы, у якой разам з мужчынамі абараняли Пінск ад ворагаў і жанчыны, як гэта было ў часы старажытных Грэцыі і Рыма.

"Неприятель сильно оборонялся в запертых домах, так что начиная с полудня сего понедельника до полуденной же поры следующего дня, всю ночь рыцарская рука не уставала среди трудов; одних, как козаков, так и горожан, на месте убивая, других, бегущих к воде и в ней потонувших, рука святой справедливости наказала".

Аднак шляхецкі летапісец не напісаў, што рыцарская рука адпраўляла на той свет не толькі казакаў і гараджан, але і жанчын, і дзяцей – усіх, хто быў жывы.

Частка паўстанцаў спрабавала на стругах пераплыць цераз Піну, але перагружаныя судны патанулі. Невялікі атрад казакаў вырваўся з горада, але быў акружаны ў балоце і загінуў. Без вестак прапаў у гэтым пекле і слаўны запарожскі атаман Антон Нябаба.

У час абароны Пінска загінула большасць жыхароў горада (каля 10 тысяч), згарэў амаль увесь горад.

А тым часам паўстанне разгортвалася ў Пінскім павеце. Яго цэнтрам стаў Гарадок Давыдаў.

Перад паходам на Пінск тут пабываў Антон Нябаба. Ніякіх разбуральных дзеянняў ён тут не рабіў, таму што быў сустрэты мяшчанамі горада прыхільна. Відавочна, у час наведвання атаманам Давыд-Гарадка, тут быў сфарміраваны атрад мясцовых казакаў, а яго палкоўнікам выбраны мясцовы войт Іван Багдашэвіч.

Гарадок Давыдаў у той час быў прыватнаўласніцкім горадам князёў Радзівілаў, а ў адміністрацыйных адносінах – цэнтрам Замкавай воласці Пінскага павета. Давыд-Гарадок быў цесна звязаны адміністрацыйнымі і гандлёвымі адносінамі з Пінскам. І, вядома, аднадушнае выступленне пінчукоў, братанне іх з казакамі падштурхнула на паўстанне і гарадчукоў.

Яно пачалося ў Гарадку 4 кастрычніка. Мясцовыя мяшчане аб'явілі аб непрызнанні каралеўскай улады, адказе выконваць павіннасці дзяржаве і князю Радзівілу.

Сябе давыд-гарадоцкія паўстанцы аб'явілі рускімі казакамі, падданымі Рускай дзяржавы, а сваім вярхоўным правадыром – гетмана Багдана Хмяльніцкага.

У гэты час падняліся і сяляне шэрагу вёсак на поўдні павета – Бухлічы, Варані, Вікаравічы, Струга, Гарадзец, Сямігосцічы і інш. Яны ўсе

падпарадкаваліся палкоўніку Івану Багдашэвічу. Яго сотнікамі былі мяшчане Рыгор Чапура, Іван Дзядошка, Фёдар Максімовіч, з сялян – Якаў Паповіч, Марцін Вайтовіч, Васіль Муха.

Удзел у паўстанні прыняла і праваслаўная шляхта. Яе прадстаўнікамі былі Стэфан Алеша, Ян Альшэўскі, браты Аляксандр і Лаўрэн Карповічы. Ад шляхты памочнікам палкоўніка Багдашэвіча быў сотнік Іеранім Шаламіцкі.

Агульная колькасць удзельнікаў паўстання на працягу двух гадоў дасягала каля пяці тысяч чалавек – сапраўдная Давыд-Гарадоцкая армія!

Вось як апісваў пачатак паўстання адзін з пацярпелых ад паўстанцаў, магнат Святаполк Чацвярцінскі ў скарзе, накіраванай у замкавы суд Пінскага павета:

“Слуга князя Четвертинского представил в суд замковый повета Пинского жалобу на причиненный князю ущерб подданными князя Яна Владислава Радзивилла, проживающих в селах Вороничи, Вухличи, Струги, Викаровичи, Будымли Пинского повета и мещан города Городка...

...подданные князя его милости Радзивилла в прошедшем 1648 году, начиная с 3 октября, замыслив безбожное и немыслимое, собрали громаду в несколько тысяч человек из волости Гродецкой, вооружились ружьями, саблями, рогатинами, избрав из их числа полковников, сотников на казачий манер... неоднократно нападали на владения, убили управляющего шляхтича пана Казимира Декашинского, разбили закрома, уничтожили разграничительные документы, налоговые квитанции, инвентарные описания, изъяли у управляющего деньги, драгоценности, скот, птицу, зерно и другие продукты. Двор в селе Воронье опустошили и разгромили, а в селе Струги утопили управляющего пана Яна Мокрицкого и двор его разгромили, забрали все имущество, а потом напали на Вухличи, Векаровичи и забрали там имущество. Вторично напали на село Струги несколько сот человек ночью 17 января 1649 года”.

Са скаргай такога ж роду ў гэты ж суд звяртаўся і ўладальнік маёнтка Відзібор шляхціч Міхаіл Шырма. Ён паведамляў, што пад кіраўніцтвам войта Гарадка Давыдава Івана Багдашэвіча створаны паўстанцкія атрады з мяшчан горада і шматлікіх навакольных сялян.

У лістападзе 1648 года атрады мяшчан, а таксама сялян з сёл Белагуша і Манькевічы на чале з Мікалаем Ахматам і Шаламіцкім разграмілі шляхецкія маёнткі, у тым ліку яго, Шырмы, маёнтак Відзібор.

Гэтай жа восенню каля пяцісот гарадзецкіх казакаў накіраваліся на Тураў. Па дарозе яны разарылі маёнтак Семагошчу пана Янкоўскага.

Гараджане Турава і навакольных сёл воласці таксама паднялі паўстанне. Яго узначаліў Пракоп Цыўка. Ён падтрымліваў цесную сувязь з Багдашэвічам, сумесна яны рабілі паходы на шляхту павета, перайшлі Прыпяць і знішчылі маёнткі ў Лахве і Кажан-Гарадку.

Жыхар Лахвы Яўхім Бажэйчык, пазней трапіўшы ў палон да шляхты, гаварыў, што ў паходзе на левы бераг Прыпяці ўдзельнічалі каля двух тысяч паўстанцаў з Гарадка і Турава і кіраваў імі Багдашэвіч.

Тут трэба адзначыць, што такіх жудасных зверстваў у адносінах да сваіх ворагаў, якія прымянялі паўстанцы на Украіне, іх палескія паплечнікі не ўжывалі. Сведчанняў аб гэтым не маецца.

Што датычыцца каталікаў і ўніятаў, то іх уціск быў нязначным, пранікненне іх у цяжкадаступны палескі край было нялёгкім, ды і народ быў неўспрымальным да новага веравызнання. Палеская шляхта ў асноўным была праваслаўнай, і сялянства да яе праяўляла толькі класавую варожасць. Як мы бачым з інфармацыі аб паўстаннях, помста палешукоў не кранала чалавечых жыццяў – няхай гэта былі і іх прыгнятальнікі, паўстанцы ў асноўным займаліся разграбленнем і падзелам маёмасці, знішчэннем фінансавай дакументацыі панскіх аканомаў і арандатараў.

Яўрэі ў Княстве ў большасці пражывалі ў гарадах, мястэчках і займаліся рамесніцтвам і гандлем, былі выдатнымі майстрамі і выключнымі прафесіяналамі. Законы Княства не дазвалялі ім займацца сельскагаспадарчымі справамі, у тым ліку і арандатарствам, у адрозненне ад польскіх – на землях Кароны, якія дзейнічалі на шматпакутнай Украіне.

Пражывалі яўрэі здаўна і ў Гарадку, аднак пагромных адносін да іх не было.

Жыццё на Палессі было больш-менш ураўнаважаным, але і тут палякі дзейнічалі, як і ўсюды, лютавалі і запалохвалі насельніцтва ўсялякімі карамі.

У канцы года ўрад Княства даручыў польнаму гетману, гэта значыць – палявому, на перыяд вайны, Янушу Радзівілу ўзначаліць карнае шляхецкае войска, якое складала звыш 15 тысяч чалавек. У яго склад быў уключаны і карны атрад стражніка Мірскага, які нядаўна знішчыў Пінск. Шлях гэтага войска, у тым ліку па наваколлях Давыд-Гарадка, быў крывавым.

Першы ўдар быў нанесены па Тураву. З такімі сіламі гэта было вельмі проста. Горад быў акружаны цесным кальцом, з пятлі не павінен быў вырвацца ні адзін чалавек.

У Тураве ў той час пражывала каля чатырох тысяч чалавек, значыць баяздольных з іх было прыкладна трэцяя частка. Такім чынам, карнікі перавышалі абаронцаў у дзесяць разоў.

Аднак гараджане адмовіліся здацца, і Радзівіл абрынуўся на Тураў усімі сваімі сіламі. Пачаўся масіраваны штурм. Частка паўстанцаў прабілася і выйшла з горада, большасць разам са сваім кіраўніком Пракопам Цыўкай загінула.

8 студзеня 1649 года Тураў быў захоплены шляхецкім карным войскам. Старажытны рускі горад напаткаў лёс Пінска. Па загаду Радзівіла

ўсе жыхары горада, у тым ліку дзеці, былі літаральна выразаны, горад спалены.

Радзівіл накіраваўся па Прыпяці на ўсход. Наступнай ахвярай былі Петрыкавічы (Петрыкаў). Гэта быў пункт, куды дастаўлялася з Украіны зброя і перадавалася паўстанцам. Шляхта захапіла яго, расправілася з жыхарамі, разрабавала горад і без затрымкі рушыла далей.

Наступіла чарга Мазыра. Тут паўстанцамі кіраваў мясцовы рамеснік Іван Сядляр, яго памочнікам быў запарожскі палкоўнік Міхненка, накіраваны сюды Хмяльніцкім. Сюды прыйшлі і ўцалелыя паўстанцы з Турава.

Горад даволі надзейна падрыхтаваўся да абароны. Прапанова Радзівіла аб здачы з правам свабоднага выхаду з гораду была адвергнута: у вераломстве палякаў ніхто не сумняваўся.

Пачалася крывапралітная бітва. Першы штурм адной гарадской сцяны быў адбіты. Быў зроблены артылерыйскі абстрэл горада, у выніку якога ўспыхнулі пажары, і пачаўся штурм з трох бакоў. Шляхецкія драгуны пад прыкрыццем саней з дровамі падышлі да варот, выбілі іх і ўварваліся ў горад. Бітва працягвалася на вуліцах.

Увечары 19 студзеня ўвесь горад быў захоплены, супраціўленне падаўлена. Частка абаронцаў на чале з І. Седляром змагла вырвацца. Казакі загінулі ўсе. Іх атаман Міхненка быў захоплены ў палон і люта пакараны – пасаджаны на кол. Горад разграбілі.

А карнікі рухаліся далей. Разгрому падвергліся Чачэрск і Лоеў. А потым быў Бабруйск. Тут упершыню сярод паўстанцаў Беларусі адбылася здрада. Ноччу 21 лютага здраднікі адчынілі вароты, і карнае войска Радзівіла ўварвалася ў Бабруйск.

Карнікі ўжо мелі вопыт авалодання горадам. Падчас гарадскіх баёў загінулі некалькі тысяч казакаў і паўстанцаў, палкоўнік Паддубны пасаджаны на кол. Кроў цякла па вуліцах Бабруйска.

Радзівіл не пашкадаваў нават здраднікаў:

“да и мещан всех, которые город ему отворили, мучил из животов, и руки отсек у 800 человек, постинал 150 чел., на поли взбиял больше 100 ч”.

Б. Хмяльніцкі ўважліва сачыў, што адбывалася ў паўночнай частцы яго казацкай дзяржавы – на Палессі. Ён накіраваў вясною на Палессе палкоўніка Іллю Галоту, да якога далучыліся некалькі тысяч сялян паўстанцаў. Ля Рэчыцы ён нанёс буйное паражэнне Радзівілу і накіраваўся на чаўнах уверх па Прыпяці. У чэрвені недалёка ад Хойнікаў Ілля Галота быў разбіты і загінуў у гэтым баі.

Паражэннем паўстанцаў закончылася і самая буйная за час Вызваленчай вайны на Беларусі Лоеўская бітва 31 ліпеня 1649 года. Амаль дваццацітысячнае войска паўстанцаў было разгромлена Янушам Радзівілам. У баі загінулі 8 тысяч паўстанцаў, 3 тысячы патанулі ў Дняпры. Ураджэнец з-пад Брэста палкоўнік Міхаіл Крычэўскі цяжка паранены трапіў у палон і, каб не падвяргацца катаванням, скончыў жыццё самагубствам.

У жніўні гэтага ж года пасля заключэння Збароўскага дагавора, ваенныя дзеянні на Украіне часова спыніліся. Буйных сутычак не было і на Беларусі. Урад Княства імкнуўся канчаткова ўціхамірыць буйнае Палессе. Дайшла чарга і да Гарадка Давыда.

Паўстанцы поўдня Пінскага павета, цэнтрам якіх быў Гарадок, аб'явіўшы сябе казакамі, цалкам ліквідавалі мясцовую ўладу і выконвалі распараджэнні толькі войта, Івана Багдашэвіча, і яго рады.

Выбраны мяшчанамі-казакамі палкоўнікам, Багдашэвіч быў адначасова і ваенным кіраўніком. Яго намеснікамі з'яўляліся мясцовыя мяшчане і сяляне, кіраўнікі найбольш буйных атрадаў, якім далі званні сотнікаў.

У руках паўстанцаў застаўся Гарадзецкі замак з арсеналам зброі і боепрыпасаў. Але агністрэльнай зброі было вельмі мала для трохтысячнага войска паўстанцаў. Некаторая колькасць яе была захоплена ў мясцовай шляхты, нейкая частка атрымана з Петрыкавіч (Петрыкава), базы паўстанцаў на шляху з Украіны. Большасць жа паўстанцаў-сялян была ўзброена самаробнай халоднай зброяй – косамі і дзідамі (пікамі), а то і проста драўлянымі дубінамі.

Дзеянні паўстанцаў, слаба ўзброеных і пешых, вядома, абмяжоўваліся толькі сваім мясцовым рэгіёнам. Невялікая частка іх удзельнічала ў абароне Пінска і Турава. Забяспечваў кожны атрад сам сябе на свой капыл: паўстанцаў-гараджан – мяшчане, сялянскія атрады – сельскія абшчыны.

Прыняўшы ўдзел у вайсковай аперацыі, баявой вылазцы ці проста ў агульным сходзе, сяляне разыходзіліся па сваіх вёсках і займаліся сваімі гаспадарчымі справамі. Збіраліся, калі выклікалі начальнікі.

Замак Гарадка выконваў свае пастаянныя абавязкі: назіраў за падуладным яму наваколлем. Тут знаходзіўся палкоўнік-войт Іван Багдашэвіч са сваёй старшынай.

Гарадок Давыдаў ужо цэлае стагоддзе быў прыватнаўласніцкім горадам князёў Радзівілаў, але за сто гадоў ні адзін магнат не наведаў яго, хаця грашыма падданых карыстаўся і падаткаў патрабаваў своечасова. Што ж, шляхецкая фанабэрыя не дапамагала паразуменню паміж панствам і палешукамі. І вось галоўны гаспадар з'явіўся тут толькі амаль праз два гады пасля пачатку паўстання, летам 1650 года.

Гэта быў той самы, сумна вядомы сваімі перамогамі і расправамі над паўстанцамі, польны гетман Януш Радзівіл. Яго карнікі прайшлі па поўдні Пінскага павета, агнём і жалезам аднаўляючы свае панскія парадкі.

Мясцовая казацкая старшына знаходзілася ў замку. Яны ведалі, што іх чакае, і таму вырашылі трымацца да канца. Прыпасаў і зброі ў іх было няшмат. А Радзівіл, як гаспадар, не хацеў разбураць замак, знішчаць сваю маёмасць.

Замак быў драўляны, і гетман мог бы кожную хвіліну аддаць загад

падпаліць яго, але ён цягнуў, каб заставіць паўстанцаў здацца. Аднак тыя трымаліся. Рэха стрэлаў ляцела над Гарынню, аддавалася ў берагах, палохала рыбу ў рацэ і бедныя сялянскія статкі на папасах. І сяляне ў ваколіцах, пачуўшы стрэлы і шум бітвы, хрысціліся і з жахам чакалі развязкі.

Сілы абаронцаў Гарадоцкага замка былі невялікія, доўга пратрымацца бунтаўнікі не змаглі. Бамбардзіры гетмана Радзівіла стралялі трапна, таму абышлося без пажараў.

Гарматы зрабілі сваю справу, і шляхціцкія штурмавікі змаглі ўварвацца ў замак і захапіць яго. Частка абаронцаў загінула, прарвацца ўдалося нямногім. Сышлі з горада і некаторыя мяшчане.

Аднак жыхароў і сам горад князь пашкадаваў: можа, стаміўся караць, а хутчэй за ўсё перамагла звычайная сквапнасць – свая ўласнасць, дык нашто самому сабе рабіць шкоду? Гэта ж свае рамеснікі, гандляры, майстры на ўсе рукі. Працавіты і разумны люд Гарадка Давыдава даваў добрую дабаўку ў кладоўкі фанабэрыстага магната.

А вось з зачыншчыкамі і кіраўнікамі пераможны гетман, камандзір залітага крывёю карнага корпусу, вырашыў паступіць па закону, каб запамяталі назаўсёды, і бунтоўны Гарадок сцішыўся.

На месцы арганізавалі замкавы суд. Такі суд лічыўся павятовым і павінен быў праходзіць у цэнтры павета ў Пінску, але горад быў разбураны, ды і справа датычыла непасрэдна Гарадка, таму і зрабілі яго выязным.

Суддзямі выступілі прадстаўнікі мясцовай шляхты, вядома, пакрыўджанай, і, як выключэнне, прадстаўнікі мяшчан. Меўся і пісар. Галоўным суддзёй быў дзяржаўца – прадстаўнік дзяржавы (караля) у павеце, назначаемы пажыццёва. Але, вядома, галоўную ролю тут адыгрываў сам гаспадар, прытым яшчэ і польны гетман – кіраўнік карнікаў з паўнамоцтвамі ад самага караля. Ён і быў абвінаваўцам.

Суд праходзіў у Горным замку Гарадка. Судовым кодэксам была тагачасная канстытуцыя – Статут 1588 года з поўным наборам простых і кваліфікаваных смяротных пакаранняў: ад пяньковай пятлі да парубання на кавалкі, так званага чвартавання.

Падсудным было прад'яўлена самае цяжкае абвінавачванне – дзяржаўная здрада, удзел у паўстанні, спроба дзяржаўнага перавароту. Артыкулы Статута прадугледжвалі за гэта толькі адно – смяротную кару. Трэба было толькі вызначыць – якую: простую ці кваліфікаваную?

Аб выніках карнай справы далажыў сам Радзівіл у сваёй справаздачы "Саноўнікам Вялікага княства Літоўскага". Ён пісаў, што на аснове пастановы замкавага суда ў Гарадзецкім замку былі пакараны "горлам" (смерцю) васемнаццаць найбольш актыўных удзельнікаў палескага паўстання.

"С места, названного Городок Давидов, и волостей 18 особ казнить смертью от заслуг их и вчинков... одных на кол повбито, другие постинано (распяты), а трети – порастреляно".

Прыгавор быў прыведзены ў выкананне ў Гарадзецкім замку, над маўклівай цёмнай Гарынню.

Сярод пакараных быў і памочнік палкоўніка Багдашэвіча ад шляхты – сотнік Іеранім Шаламіцкі, што прыняў самую пакутніцкую смерць – ён быў пасаджаны на кол. Аб самім кіраўніку паўстання Івану Багдашэвічу звестак няма. Магчыма, ён загінуў у баі, а, магчыма, з той невялікай групай паўстанцаў, якая вырвалася з акружэння, сышоў у Запарожжа.

Так было падаўлена паўстанне ў Давыд-Гарадоцкай акрузе, і сёння змаганне народа за веру і волю – адна з лепшых старонак гісторыі Гарадка Давыдава.

Барацьба за веру і волю на Беларусі працягвалася яшчэ год. Але з затуханнем яе на Украіне, спыненнем адтуль казацкай дапамогі, яна пайшла на спад. Апошняй буйной бітвай была Лоеўская ў ліпені 1651 года, у якой загінулі некалькі тысяч паўстанцаў.

Пасля гэтага Я. Радзівіл рушыў на Украіну і, амаль не сустракаючы супраціўлення, заняў Кіеў. Пасля паражэння Б. Хмяльніцкага пад Берастэчкам, у Белай Царкве паміж ваюючымі бакамі быў падпісаны мірны дагавор, адзін з пунктаў якога прадугледжваў вывад казацкіх загонаў з Палесся. Рэч Паспалітая не прызнала гэту тэрыторыю ўкраінскай.

Гэтым і закончылася Вызваленчая антыфеадальная вайна на Беларусі. Але казацкі вольны дух яшчэ доўга лунаў па Палессі, гучалі песні пра атаманаў Байду і Налівайку, старыя расказвалі ўнукам пра подзвігі народных герояў і пра іх смерць на полі боя ці ад рук катаў, а па Прыпяці і Гарыні, непрыкметна для ляхаў, часам праплывалі казацкія чаўны....

❖

Яшчэ ў самым пачатку вайны Б. Хмяльніцкі ў сваім пісьме да маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча звяртаўся з просьбай аб дыпламатычнай і ваеннай падтрымцы. Сувязь з Масквой падтрымлівался ўвесь час. З боку Украіны была ініцыіравана ідэя аб далучэнні яе да Расеіі на федэратыўнай аснове. Але рускі ўрад цягнуў са станоўчым адказам.

Прычына была ў нежаданні Масковіі парушыць мір з Польшчай, у тыя часы моцнай дзяржавай, патрэбе прыглядзецца да новага няўрымслівага саюзніка і перасцярозе ад нечаканых крокаў актыўнай і свабодалюбівай Украіны. Але шматвекавая ідэя яднання братніх народаў перамагла, і па рашэнню Земскага сабора Расіі на Пераяслаўскай радзе 8 студзеня 1654 года было абвешчана аб аб'яднанні Украіны з Расіяй: "чтоб есми вовеки вси едино были".

Фактычна ж далучана была толькі Левабярэжная Украіна.

У маі 1654 года вайну супраць Рэчы Паспалітай пачала Расія. Праваслаўнае насельніцтва гарадоў і вёсак сустракала расійскія войскі вельмі

прыязна. Расійская агітацыя на вызваленых тэрыторыях была таксама накіравана на ўстанаўленне добрых адносін. Аднак да неправаслаўнага насельніцтва праводзілася палітыка, якую акрэсліў сам цар:

"...костелам не быть, а петь в домах, униатам не быть, жидом в Белоруссии не быть и жития никакого не имети".

Гэтыя ўстаноўкі суправаджаліся праследаваннямі і выгнаннямі каталікаў і ўніятаў, пагромнымі дзеяннямі ў адносінах да яўрэяў. Да канца 1654 года расійская армія заняла ўсю Усходнюю Беларусь.

Б. Хмяльніцкі, які лічыў Палессе сваёй тэрыторыяй, накіраваў сюды вялікі казацкі загон з трох палкоў на чале з Іванам Залатарэнкам. Асноўныя сілы казакаў рушылі на ўсход.

У ліпені адзін з атрадаў казакаў прайшоў па Гарадзецкай і Тураўскай валасцях. Пасля падаўлення паўстання карнікамі гетмана Януша Радзівіла прайшло толькі чатыры гады. І можна ўявіць, што рабіла казацкая конніца на сваім шляху – помсціць было каму і за што: крывавыя сляды палякаў яшчэ балюча жылі ў сэрцах людзей.

А восенню таго ж года ў Гарадок Давыдаў і ваколіцы зайшло і расійскае войска.

Пінскаму павету быў нанесены значны ўрон. Тураў і яго наваколле былі моцна разбураны: спалены вёскі Верасніца, Букча, Храпіна, Колкі.

Вялікі статак кароў (да шасці тысяч галоў) быў адагнаны на Украіну. Грашовыя паборы былі ўзяты і ў Гарадку. Цяжка апраўдваць такія паводзіны арміі, якая адначасова выконвала і вызваленча-аб'ядноўчую місію, але гэтыя факты прыводзяць аўтарытэтныя гісторыкі.

Наступны, 1655 год быў для расійскай арміі таксама паспяховым. Была занята амаль уся Беларусь. А 31 ліпеня ўпершыню ў сваёй гісторыі была ўзята сталіца Княства Вільня, якой дагэтуль шанцавала, нягледзячы на шматлікія войны. Шэсць гадоў пасля гэтага Вільня была ў руках рускіх.

Здавалася, што дні шматвекавой суперніцы, Вялікага княства Літоўскага злічаны. Цар Аляксей Міхайлавіч, прыехаўшы ў Вільню, да свайго тытулу далучыў:

"...Великий князь Литовский и Белой России, Волынский и Подольский".

Выконваючы агульную стратэгічную задачу канчатковага захопу Княства, расійскія войскі імкнуліся весці наступленне з розных бакоў. Але яно даволі часта мела разбуральна-грабежніцкі характар.

Так адбылося на Палессі зноў, як і год назад. У чэрвені кіеўскі ваявода князь Ф. Валконскі накіраваў з Кіева для разведвальных мэт расійска-казацкі загон палкоўніка П. Яненкі. Казакі прайшлі ад Турава да Петрыкава, дзе 5 ліпеня разбілі невялікі шляхецкі атрад і вярнуліся назад.

Ваявода звыш месяца рыхтаваў палескі паход. Было падрыхтавана больш за пяцьдзесят суднаў, на якіх у канцы жніўня з Кіева быў адпраў-

лены экспедыцыйны корпус — семсот стральцоў на чале з пляменнікам ваяводы стольнікам князем Дзмітрыем Валконскім.

Флатылія накіравалася ўверх па Дняпру, потым павярнула на захад і пайшла зноў уверх па Прыпяці.

Аперацыя пачалася з Турава. Жыхары добра памяталі паборы таго году, і, каб не паўтарылася леташняе, вырашылі прыняць стральцоў самым лепшым чынам. Гараджане сустрэлі войска з абразамі, малітвамі і званамі і прысягнулі рускаму цару. Аднак царкоўныя званы не перашкодзілі флатыліі выконваць сваю місію дзеля папаўнення вайсковай касы. Жыхары Турава вымушаны былі, пачухаўшы патыліцы, заплаціць значную суму грошай.

З Турава расійскае войска пешшу накіравалася да Гарадка Давыдава. А побач з калонамі стральцоў, справа плыла флатылія.

Першая сустрэча была прыемнай. Паміж Туравам і Гарадком расійскае войска сустрэў загон мясцовых казакаў-паўстанцаў пад камандаваннем палкоўніка Грыцка Чорнага. Гэта былі ўцалелыя ўдзельнікі падаўленага чатыры гады таму паўстання ў Гарадку Давыдавым і Тураве. Некаторыя меркавалі, што пад імем Грыцка Чорнага дзейнічаў Іван Багдашэвіч, але доказаў гэтаму няма.

Загон далучыўся да расійскага войска і дзейнічаў разам з ім на працягу ўсёй кампаніі.

17 верасня каля Гарадка стральцоў і казакаў сустрэла даволі значная ваенная групоўка, у якую ўваходзілі 400 конных шляхцічаў і 300 апалчэнцаў-мяшчан.

Карныя суды гетмана Радзівіла зрабілі сваю справу. Каталіцкая і ўніяцкая шляхта высока трымала галаву на Палессі. І жыхары Гарадка павялі сябе зусім не так, як насельніцтва Турава, якое сустрэла іконамі і званамі флатылію стральцоў: гэта прывяло толькі да грашовай кантрыбуцыі, сам жа Тураў войскі не кранулі.

Не так было ў Гарадку, дзе запраўлялі стаўленікі Радзівіла, якія заклікалі людзей змагацца з расійскімі войскамі. Была тут і другая прычына: заможныя гарадчукі былі ўдзячны свайму гаспадару, які, нават з'яўляючыся камандзірам корпуса карнікаў, не стаў паліць і разбураць Гарадок, шкадуючы сваю маёмасць, як уласніка.

Але ні конная шляхта, ні апалчэнцы-мяшчане, хаця разам іх было семсот чалавек (роўна столькі ж было і стральцоў) не змаглі перамагчы. Пад Гарадком яны былі разбіты і адступілі ад горада.

Увесь ваенны гарнізон Гарадка ляжаў зараз ў полі ці разбегся па ваколіцах, таму сам Гарадок быў узяты без вялікай аблогі, калі на Гарыні, каля Замкавай гары, з'явілася велізарная флатылія.

Горад быў спалены, але замак часткова ацалеў – таму што не было моцнага штурму. З Гарадзецкага замка былі забраны толькі ўсе гарматы і іншая зброя з баявымі прыпасамі, якія захоўваліся ў арсенале і парахавым склепе.

З Гарадка Валконскі пешшу рушыў на Столін, а флатылія з Прыпяці зайшла ў яе прыток Вятліцу і чакала пад аховай казакаў вынікаў паходу на Столін.

Столін быў мястэчкам прыватнаўласніцкага тыпу, а таму тут быў пабудаваны ля Копанай затокі невялікі замак, дзе знаходзіліся некалькі дзесяткаў чалавек аховы. Яны паспрабавалі аказаць супраціўленне стральцам, але былі лёгка разбіты. Мястэчка было разграблена, а столінскі замак спалены і больш ужо ніколі не аднаўляўся.

Загрузіўшыся, флатылія з Вятліцы выйшла ў Прыпяць і зноў пайшла ўверх па рацэ да Пінска. Адпачыўшы два дні, Валконскі на суднах падышоў да горада.

Але і ў Пінску, як у Гарадку і Століне, ніхто не жадаў прысягаць цару Аляксею і сустракаць стралецкую флатылію званамі і хлебам-соллю. Павятовы Пінск быў цэнтрам польскай адміністрацыі і, патоплены ў крыві ляхамі, нізка схіліў сваю галаву. Праваслаўнага люду тут амаль не засталося, і ў сітуацыі падыходу расійскай флатыліі гараджане, запалоханыя уладай, паявлі сябе адпаведна.

Расійскія войскі былі сустрэты пінчукамі, яшчэ нядаўна змагарамі за веру і волю, не як праваслаўныя браты, а як ворагі. Насустрач Валконскаму выйшла мясцовае апалчэнне, і адбіла перадавы атрад, які рушыў да горада ў складзе казакаў і часткі паўстанцаў палкоўніка Грыцка Чорнага.

Гэта было мала падобна на братэрскую сустрэчу і яднанне братніх народаў. Паўстанцы-казакі кіпелі гневам:

– Рубаць чортавых ляхаў! – і рваліся на штурм. Князь Валконскі дзейнічаў спакойна. Стральцы высадзіліся ля Пінкавічаў і 25 верасня ўварваліся ў горад.

Можна адназначна сказаць, што гэты штурм быў справакаваны палякамі, як і тая збройная сустрэча расійскага войска. Так было і ў Гарадку: жыхароў спецыяльна палохалі прыходам рускіх. Чаго было іх баяцца таму ж Пінску, які сам абвясціў сябе чатыры гады таму – рускім горадам Рускага гетманства Багдана Хмяльніцкага? І вось гэта правакацыя скончылася новай народнай кроўю.

Не паспеўшы залячыць свае раны пасля зверскай расправы з горадам каталіцкай шляхты, Пінск на гэты раз быў зноў спустошаны, але расійскімі войскамі, якія прыйшлі вызваляць Палессе ад чужой навалы і, разам з тым, – ад лішніх грошай і маёмасці. Расійскія войскі былі не супраць пажывіцца за кошт гаспадароў.

Два дні ў Пінску ішло сапраўднае грабежніцтва і насілле. Аб гэтым пісалі ў сваёй скарзе самі пінчукі:

"потиранску, разбойно как мужчин и жонок, и дети немало невиданно мучили и на смерть поубили... вси скарбы, иделаны сумы, всяки товары, злато, сребро, волово, медь, звоны костельны и церковны, всяко

жито и домашни скарб всё забрании, до байды и челны вынесли и повозили".

Загрузіўшыся, перад адплыццём, войскі падпалілі горад, і ад яго засталіся "тольки комины ды печишчи стоять".

Вяртаючыся з Пінска, стральцы разбілі шляхецкі атрад ля вёскі Стахава, потым зайшлі ў мястэчка Латва ( Лахва) і Кажань (Кажан-Гарадок), дзе прывялі насельніцтва да прысягі рускаму цару, але і тут без насільных пабораў не абышлося. Расійскія войскі па звычцы бачыць на землях Літвы сваіх супраціўнікаў вялі сябе з пазіцыі сілы, нібыта гэта была сапраўдная вайна (якой яна, па сутнасці, і была), а не далучэнне да саюза Масквы і Кіева старажытных і родных зямель.

На гэтым сухапутна-рачная аперацыя расійцаў на Палессі была завершана. Запоўніўшы дзесяткі чаўноў кантрыбуцыяй, паляшуцкім дабром, войска князя Валконскага даволі хутка па Прыпяці і Дняпру вярнулася ў Кіеў. Назад лодкам, хаця і загружаным, ісці было лягчэй – па цячэнню.

Хмяльніцкі па-ранейшаму праяўляў настойлівасць у падпарадкаванні гэтага краю Украіне і, лічачы Пінск цэнтрам краю, у 1657 годзе яго прадстаўнікі падпісалі з пінскімі ўладамі акт аб прызнанні Пінскім паветам улады гетмана. Аднак пінская каталіцкая шляхта, якая зноў імкнулася захапіць усю ўладу ў горадзе, гэты акт не прызнала.

На працягу некалькіх гадоў той жах, які навялі крывавыя карнікі гетмана Радзівіла, трохі забыўся, і зноў аднавіўся мясцовы казацкі рух. І, як дзесяць гадоў назад, яго цэнтрам стаў Гарадок Давыдаў.

Гарадзецкія і тураўскія мяшчане прызналі, што землі на правабярэжжы Прыпяці і Гарыні не літоўскія, а рускія і павінны падпарадкоўвацца рускаму гетману.

У Гарадку пастаянна знаходзіўся казацкі загон, якім камандаваў Карней. Ён быў падначаленым кіеўскага палкоўніка Дварэцкага. Хто быў сам Карней і адкуль – невядома. Казакі аднавілі Гарадзецкі замак і трымалі яго ў належным стане. Ніхто не ўспамінаў, што некалі падманутыя палякамі гарадчукі пайшлі на бой з расійскімі войскамі і казакамі. Зараз Гарадок Давыдаў быў казацкай сталіцай краю. І можна ўявіць, заглядваючы ў даўніну гісторыі, як лунаў над Гарадзецкім замкам штандар гетмана Багдана Хмяльніцкага.

Летам 1660 года Пінск зноў зведаў спусташальны напад. На гэты раз ён пацярпеў з боку сваіх жа землякоў. Гэта былі паўстанцы з Гарадка і Турава на чале з Карнеем, падтрыманыя расійскім атрадам. Пінск, з яго касцёламі і кляштарамі, зноў і зноў станавіўся базай каталіцка-ўніяцкага супраціўлення. Таму вырашана было зноў правучыць гэты горад, аблюбаваны эмісарамі з Варшавы.

Вось што пісалася ў польскіх дакументах таго часу:

"Неприятель москвитин с козаками город, костелы, церквы Божии огнём попалили, копланы, шляхта, шляхтянки, месчане кого поймали – одних тирански мучили, поубили, других в неволю побрали".

Гэтыя скаргі пісаліся ў польскую адміністрацыю, і зразумела, хто быў іх ініцыятарам. Пра тое ж, як сама польская адміністрацыя ў асобе гетмана Радзівіла сцірала з зямлі Пінск, паўстаўшы за веру і волю, скаргаў не пісалі, бо не было каму.

Аб выступленні сялян-змагароў сведчыць скарга ад 14 мая 1661 года таго ж самага князя Чацвярцінскага, які скардзіўся ў самым пачатку Вызваленчай вайны. На гэты раз ён піша, што "...зимяне и мещане подданные туровские и давидгородецкие, панов Четвертинских огнем попалили, за што кладемо от них собе шкоды на четыре тысячи коп грошей литовских".

У гэтым жа годзе ў даносе мясцовых уладаў павета ўказвалася, што тут дзейнічае атрад "своевольных козаков" пад кіраўніцтвам палкоўніка Кургана, у які ўваходзяць паўстанцы "как из города Турова и Туровской волости, так и из Давид-Городецкой волости и Полесья".

Менавіта ў гэты час заможным мешчанінам Гарадка быў схаваны грашовы скарб з 196 сярэбраных і медных манет польскай і шведскай чаканкі. Самая маладая манета была 1660 года. Скарб быў знойдзены ў Давыд-Гарадку ў 1932 годзе і з'яўляецца самай буйной знаходкай такога роду ў Столінскім раёне. Знаходзіцца ў адным з музеяў Польшчы.

Да гэтага часу адносіцца і скарб, знойдзены ў 1967 годзе недалёка ад Давыд-Гарадка паміж вёскамі Туры і Лядзец. У прыгожым паліраваным гаршчочку гараднянскага вырабу знаходзілася 147 сярэбраных манет чаканкі Віленскага манетнага двара 1627–1665 гадоў. Скарб захоўваецца ў Столінскім краязнаўчым музеі.

Гаспадары за гэтымі скарбамі так і не з'явіліся. У неспакойны час, калі ўлада пераходзіла то да расійцаў, то да казакаў, то да палякаў, яны даверылі свае грошы зямлі. А яна перадала скарбы нашчадкам.

Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай працягвалася, аднак у сувязі са зменай міжнародных адносін і ўмацаваннем пазіцый Федэрацыі, літоўскія ўлады з дапамогай Варшавы паступова ліквідавалі паўстанскія новаўвядзенні, казакаванне, незалежныя тэндэнцыі, рабаўніцтва. Казацкія загоны пакінулі Палессе ў другі раз, і ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў край вярнуўся да ранейшага даваеннага ўкладу.

❖

Амаль трынаццаць гадоў доўжылася вайна Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай і закончылася Андросаўскім перамір'ем 30 студзеня 1667 года. Яно было заключана на трынаццаць з паловай гадоў.

Да Рассіі перайшлі ад Княства – Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы. Польшча прызнала далучэнне Левабярэжнай Украіны, а таксама Кіева да Расіі. Запарожская Сеч пераходзіла пад кіраўніцтва абедзвюх дзяржаў. Была прызнана свабода і недатыкальнасць праваслаўнага веравызнання і епархій. Аднак апошняя ўмова Рэччу Паспалітай не выконвалася.

На паўднёвай Беларусі вайна працягвалася звыш 18 гадоў. Гэта вайна была самай цяжкай з усіх папярэдніх войнаў. Вынікі яе для Беларусі былі трагічнымі.

Напярэдадні Вызваленчай вайны на Беларусі пражывалі 2,9 мільёна чалавек, пасля вайны засталося 1,4 мільёна, а гэта значыць, што загінулі ці сталі бежанцамі больш за палову жыхароў краіны. У працэнтных адносінах больш, чым у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Гэта былі вынікі не толькі бітваў, але грабяжоў і пагромаў, палону і вываду, голаду і эпідэмій. Усё гэта страшэнна разарыла Беларусь. Многія гарады былі ўшчэнт зруйнаваны.

У буйнейшым горадзе таго часу Слуцку засталося каля 1000 жыхароў, у Магілёве – 700, у Мінску – 500. Гэтыя лічбы нагадваюць становішча Кіеўскай Русі пасля татара-мангольскага нашэсця. Але ж у нашым выпадку было другое: на Беларусі прайшла нацыянальна-рэлігійная вайна, якую проста немагчыма ўявіць сабе ў часы таго ж "залатога веку" Вітаўта. Польская палітыка і каталіцкі ўціск справакавалі на Беларусі гэтыя выбуховыя з'явы. Унія з Ватыканам і унія з Польшчай сталі самай трагічнай з'явай у гісторыі Беларусі, куды больш цяжкай па працягласці часу і катастрафічнасці вынікаў, чым фашысцкае нашэсце ў XX стагоддзі.

Гэта вайна і на самой справе застаецца для нас невядомай, як піша ў сваёй манаграфіі "Невядомая вайна" Г. Сагановіч. У кнізе прыводзяцца дадзеныя аб стратах насельніцтва за час вайны на Беларусі. Вось некаторыя з іх.

З дзевяці ваяводстваў Княства найбольшыя страты панесла Полацкае: да вайны было 185632 чалавекі, пасля вайны – 51953, такім чынам страты – 72 працэнты.

Берасцейскае ваяводства па стратах займала пятае месца: да вайны было – 509736 чалавек, пасля вайны – 276016, страты – 45,8 працэнта.

З 22-х паветаў Княства найбольшыя страты былі ў Полацкім – 74%, Мсціслаўскім – 71% і Аршанскім – 69%.

Пінскі павет займае 12-е месца: да вайны было 162834 чалавекі, пасля вайны – 92371 чалавек, альбо 43,3 працэнты.

Прыводзяцца дадзеныя па колькасці страчаных дымоў (падатковых гаспадарак). Прыводзім іх па гарадах Пінскага павету:

у Пінску было 994, засталося 299, страты – 70%;

у Тураве было 401, засталося 111, страты – 72%;

у Гарадку Давыдавым было 365, засталося 277, страты – 24%.

Як бачым, Гарадок панёс куды меншыя страты, чым яго суседзі. Гэта трэба ўдакладніць. Гарадок, як і Тураў, і Пінск, быў выпалены ў перыяд вайны неаднаразова. Аднак ён быў прыватнаўласніцкім горадам князёў Радзівілаў, якія былі зацікаўлены ў яго даходнасці і, магчыма, дапамагалі хутчэй адбудавацца. А, можа, гэтаму дапамагалі скарбы заможных гарадчукоў, малая частка якіх дайшла да нашых дзён. Разумныя гаспадары ў час вайны маглі спакойна пераводзіць сваю маёмасць у грошы і

чакаць лепшых, мірных дзён, каб потым адбудавацца з меншымі стратамі.

У Паўночнай вайне (1700–1721) Расіі са Швецыяй Рэч Паспалітая была на баку Расіі.

Шведскі кароль Карл XII увайшоў на тэрыторыю Польшчы, а ў 1706 годзе быў і на Беларусі. У маі гэтага года шведы авалодалі гарадамі Радзівілаў Мірам і Нясвіжам. У Міры быў спалены замак, у княжацкай сталіцы Радзівілаў разбураны замкавыя ўмацаванні, а горад спалены.

Наведаў Карл XII і павятовы Пінск. Тут ён знаходзіўся месяц. 3 чэрвеня 1706 года па загаду Карла быў узарваны замак старосты Вішнявецкага ў Караліне, спалена прадмесце, горад разрабаваны. І на гэты раз Пінск не мінуў яго трагічны лёс.

А вось Гарадку з гасцямі пашанцавала: шлях шведаў прайшоў далёка ад яго.

З Пінска шведы рушылі на захад, пакінуўшы Княства.

Да 1793 года ніякіх значных падзей на Палессі не адбывалася.

# ЗАМАК

*Паміж пустак, балот беларускай зямлі,*
*На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай*
*Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,*
*Уздзірванелы курган векавечны.*

***Янка Купала***

З самых старажытных часоў чалавек думаў аб абароне сябе і сваёй маёмасці, а таму выбіраў месца жылля, выкарыстоўваючы прыродныя абарончыя ўмовы.

Абарончыя збудаванні рабіліся спачатку ў выглядзе выкапаных равоў, насыпаных земляных валаў, якія акружалі абараняемую, як правіла, невялікую тэрыторыю.

Потым на валах пачалі будавацца драўляныя агароджы – востраколы, якія сваёй вышынёй садзейнічалі меншай дасягальнасці гаспадароў паселішча ад нападу дзікіх звяроў і варагуючых плямён.

Равы вакол паселішчаў пачынаюць запаўняцца вадою, на іх з'яўляюцца гародні, якія ўяўляюць сабой драўляныя прамавугольныя зрубы, пастаўленыя ўшчыльную адзін да другога, у выніку чаго утвараецца суцэльная сцяна.

Вышыня зрубаў была да чатырох метраў. Сценкі, прызначаныя для сустрэчы ворага і для абароны, рабіліся мацнейшымі і таўсцейшымі. У верхняй частцы гародні рабілася галерэя з абломамі (зубцамі) і байніцамі, ніжняя – для трываласці засыпалася. Пустыя зрубы выкарыстоўваліся як склад баявых прыпасаў і харчаў, а таксама як месца сховішча жыхароў у час небяспекі. Унутры пабудовы знаходзіліся неабходныя для жыццядзейнасці памяшканні, майстэрні, калодзежы. Уваход быў маладаступным.

Так паступова ў гісторыі, па неабходнасці, якую дыктавала само жыццё, з'явіўся замак. Ваяўнічае і рамантычнае стварэнне, адзін з самых цікавых твораў чалавечага розуму і таленавітых рук.

Замкі на Беларусі пачалі будавацца ў сярэдзіне XII стагоддзя, калі наступіла феадальная раздробленасць, а разам з ёй прыйшла і бясконцая міжусобная барацьба.

Усе гарады таго часу, як правіла, агароджваліся, і ў іх узводзіліся абарончыя збудаванні, якія сталі называць замкамі. Замкі займалі цэнтральную частку, будаваліся на вышынях, і сапраўды былі на свой лад жалезнымі замкамі і замыкалі горад знутры.

Будаўніцтва замкаў было характэрнай і абавязковай з'явай таго часу. Адносіны паміж удзельнымі князямі, буйнымі феадаламі – і іх суседзямі, а разам з тым і між сабою былі напружанымі і даволі часта высвятляліся ўзброенай сілай.

І тут замак, жалезнае сэрца горада, прыходзіў на дапамогу. Будаваліся замкі звычайна ў цэнтрах феадальных уладанняў, іх памеры і магутнасць цалкам залежалі ад золата гаспадароў і наяўнасці майстроў і рабочых рук у іх ўладаннях.

Замкі ставіліся і на ўзгорках, і ў нізінах. Першыя называлі горнымі (верхнімі), другія – дольнымі (ніжнімі). Спачатку ўсе замкі былі драўлянымі, мураваныя пачалі будавацца з XV стагоддзя.

Адной з найбольш грунтоўных навуковых прац па гэтаму пытанню з'яўляецца каштоўная кніга беларускага гісторыка Міхаіла Аляксандравіча Ткачова (1942–1992) "Замкі і людзі". У асабліва карыснай для нас першай главе манаграфіі "Прыватнаўласніцкія гарады Радзівілаў і арганізацыя іх абароны" разглядаюцца замкі ў гарадах Нясвіж, Слуцк, Мір, Давыд-Гарадок, Клецк, Койданава і інш.

❖

Замкавая гара Давыд-Гарадка знаходзіцца ў цэнтры горада на правым беразе ракі Гарыні, правага прытоку Прыпяці.

Некалі гэта было невялікае прыроднае ўзвышша. З захаду яно абмывалася Гарынню, з супрацьлеглага боку невялікім яе прытокам – Чартарыяй, ці Няволяй (зараз яе няма), з усходу была маладаступная балотная лугавіна.

Як ужо расказвалася ў главе "Перуноў Хатомель", першымі жыхарамі гэтага пагорка былі дрыгавічы-хатомляне, якія перайшлі на новае месца жыхарства ў X стагоддзі, гэта значыць, тысячу гадоў назад.

І калі князь Давыд ў 1100 годзе выбраў гэтае месца для свайго Гарадка, ён тут знайшоў добра ўмацаванае гарадзішча і сваіх першых жыхароў будучага горада.

Князь Давыд больш схіляўся сэрцам да паўднёвай валынскай зямлі, таму пакінуў тут свайго сына Усевалада з невялічкай дружынай, які і стаў першым князем гарадзецкім; архітэктарам, будаўніком і заснавальнікам першапачатковага Гарадзецкага замка. На Замкавай гары былі пабудаваны неабходныя для пастаяннай жыццядзейнасці пабудовы і, вядома, царква.

З цягам часу паступова пагорак падымаўся ўсё вышэй і вышэй, на ім з'явіліся дадатковыя збудаванні, якія абаранялі жылыя пабудовы, якія знаходзіліся вышэй на гары. Гэта ўжо быў сапраўдны горад з галоўнай вуліцай і выходзячымі на яе з розных бакоў вузкімі вулачкамі, забудаванымі хатамі жыхароў, а разам з імі – хлявамі і павецямі.

Месцам пастаяннага пражывання жыхароў горада Замкавая Гара з'ўлялася каля трох стагоддзяў. Спачатку гэта быў Горны замак. Потым побач з Горным з'явіўся і Дольны замак. Замкавы комплекс стаў мець выключна ваенна-абарончае значэнне.

А горад з Горнага замка перасяліўся ўніз, на паўднёвы ўсход ад яго, стаў расці за яго межамі, але ў час небяспекі жыхары Гарадка знаходзілі ў ім прытулак і ўдзельнічалі ў абароне Горнага замка.

Замкавая гара ўдасканальвалася і ўмацоўвалася на працягу некалькіх стагоддзяў і ў канцы XVII стагоддзя набыла ўнушальны выгляд, ператварыўшыся ў Замак.

Гара ўяўляла сабой амаль круглую пляцоўку дыяметрам 100–110 метраў, вышынёй да дзесяці метраў. З усіх бакоў была водная перасцярога. Уся пляцоўка гары быра акружана магутным валам з рачнога пяску, які меў вышыню да чатырох і шырыню звыш дзесяці метраў. Знешняя стромкасць схілаў падтрымлівалася драўлянымі эскарпамі.

Заваламі ішлі рады абарончага частаколу і высокага паркану з вежамі, якія былі трэцяй абарончай лініяй пасля воднай і земляной. Даўжыня абарончага пояса складала каля аднаго кіламетра.

Унутры абарончых збудаванняў знаходзіўся непасрэдна сам Замак – вялікая будыніна з магутных дубовых брусаў з невялікімі вокнамі-байніцамі, у якой знаходзіліся адміністрацыя, ваенны гарнізон, захоўвалася зброя, боепрыпасы, амуніцыя, харчовыя запасы, а таксама сцягі і харугвы розных саслоўяў.

Па традыцыях таго часу з Замка ішлі патаемныя хады, якія выходзілі за межы Замкавай гары. Вядома, яны добра дагляждаліся, прачышчаліся і зберагаліся ад вады, і месцазнаходжанне гэтых хадоў трымалася ў вялікім сакрэце. Мы і сёння нічога не ведаем аб гэтых падземных хадах. Замкавая гара добра захоўвае свае тайны.

Ля Замка знаходзілася высокая назіральная вежа з вартавым, побач – даволі глыбокі калодзеж, які меў стратэгічнае значэнне: за ім дагледалі і дбалі не менш, чым аб парахавым склепе.

Недалёка ад уваходу ў Замак знаходзілася царква з капліцай, у склепе пад якой былі знойдзены ў наш час саркафагі княжых магіл. Усе збудаванні Замка былі драўлянымі, з выключна трывалага дубу і сасны.

З паўднёвага боку, дзе зараз Замкавая вуліца, знаходзіўся Дольны замак, заснаваны ў канцы XVI стагоддзя.

Быў ён па плошчы большы, чым Горны, але яго вышыня была на дватры метры меншай. Ён таксама меў усе абарончыя збудаванні, але яго прызначэнне было больш гаспадарчым. Тут былі стайні з коньмі, неабходныя сезонныя яздоўні, інструменты, будаўнічыя матэрыялы для рамонту Замка. А яшчэ тут былі збройныя майстэрні, у тым ліку і пушкарня.

Дольны замак злучаўся з Горным пад'ёмным мастом на ланцугах. Уваход у Замкі быў адзін – з поўдня, з боку горада: толькі праз Дольны можна было трапіць ў Горны замак. Гэта мела выключна абарончае значэнне. Уваходы і масты былі строга праезджай шырыні, разлічаныя на звычайную павозку, каб нішто іншае не магло трапіць у Замак.

Злева ад уводу ў Дольны замак на хвалях Гарыні гойдаліся лодкі, рачныя парусныя судны. Тут была Замкавая прыстань, сюды траплялі

купцы і гандляры, якія рухаліся водным шляхам. Тут заўжды бывала людна: адны чакалі адпраўкі, іншыя прыбывалі: грузіліся і разгружаліся тавары, тут сустракаліся гаспадары і госці. Да Замкавай прыстані прыбывалі афіцыйныя пасланцы ўладаў, прыставалі караблі, якія рухаліся на Захад і Усход і папаўнялі тут свае прыпасы.

Па дакументах 1675 года, даўжыня лініі ўмацаванняў абодвух Замкаў была 20 шнуроў (980 метраў), з іх:

Горны (Верхні) – 9 шнуроў і 1 прут (465 метраў);

Дольны (Ніжні) – 10 шнуроў і 9 прутоў (535 метраў).

Вельмі каштоўнымі дакументамі сацыяльна-эканамічнага і ваеннага характару ў Літоўска-Рускім гаспадарстве XVI–XVIII стагоддзяў былі інвентары. Яны ўяўлялі сабой вопісы канкрэтных населеных пунктаў, маёнткаў, адміністрацыйных адзінак, ваенных аб'ектаў. Інвентары праводзіліся мясцовай адміністрацыяй па распараджэнню гаспадароў – дзяржаўных уладаў і феадалаў, якія валодалі гарадамі, мястэчкамі, вёскамі, фальваркамі, замкамі.

Гэта па сутнасці быў перапіс насельніцтва, яго маёмаснага стану з мэтай устанаўлення адміністрацыйнага і фінансавага кантролю ў грамадстве, а для гэтага – вызначэння межаў падаткаў і магчымасцяў падаткаплацельшчыкаў.

Дбайны перапіс стану пабудоў, дарог, мастоў, грэбляў даваў магчымасць рупліва сачыць за гаспадаркай і своечасова вырашаць пытанні самага рознага парадку. Перыядычнасць састаўлення інвентароў вызначалася асабіста гаспадаром апісваемых аб'ектаў. А з прычыны таго, што час быў пастаянна нестабільным, і частыя войны з пажарамі, грабяжамі і разбурэннямі пастаянна мянялі карціну, то патрэба у новых інвентарах была вялікая.

Апалячванне ўсіх афіцыйных структур Княства закранула і інвентары, узор тутэйшага вынаходніцтва: інвентары ў XVI–XVII стагоддзях пісаліся на старабеларускай мове, у XVIII стагоддзі – на польскай.

У нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у Мінску захоўваюцца 15 інвентароў, у якіх даволі грунтоўна апісана становішча Гарадоцкага замка і Замкавай воласці, насельніцтва якой несла ў ім абавязковыя павіннасці па падтрыманню належнага стану Замка, – для яго абарончых абавязкаў.

Самы старэйшы з інвентароў датуецца 23 мая 1605 года. Можна зразумець прычыны яго ўзнікнення.

За дзесяць гадоў да гэтага на Палессі і ў нашых мясцінах дзейнічала паўстанцкае казацкае войска Севярына Налівайкі. І пры рэйдзе на ўсход, а потым – рухаючыся назад, ён не мінуў Гарадок. Як мы памятаем, Гарадзецкі Замак быў заняты казакамі. І без пашкоджанняў Замка, вядома, не абышлося.

Інвентар адлюстроўвае стан знешніх і ўнутраных абарончых збудаванняў другой паловы XVI стагоддзя. Некаторыя з іх знаходзіліся ў за-

ганным стане. Можна ўявіць, што мясцовая адміністрацыя спрабавала ўсё спісаць на дзеянні казакаў.

Але інвентар адзначае ў сувязі з гэтым другое: нядобрасумленыя адносіны шляхты-зямян, абавязаных сачыць за Замкам, якія несвоечасова выконвалі свае абавязкі. Прыгонныя сяляне Замкавай і Палескай валасцей абавязаны былі падвозіць для рамонту лес, даводзіць да патрэбнага стану земляныя насыпы, выконваць работу – "что прикажут с топором", як піша інвентар.

Замак быў абнесены гарызантальным парканам, а ў некаторых месцах – частаколам. У паркане былі гародні, пакрытыя драніцай, якая патрабавала замены. Былі ў паркане пяць "вежак" прыгодных, а таксама некалькі патрабуючых рамонту.

Ідучы з "двара" (горада) трэба было перайсці вялікі мост праз шырокі роў, потым прайсці па пад'ёмнаму масту на металічных ланцугах. Уездам у Замак была брама за варотамі. Рэвізоры, пісаўшыя інвентар, убачылі каля ўезду новую вежу, якая была яшчэ без даху.

У гэтым дакуменце мы ўпершыню сустракаемся з апісаннем агнястрэльнай замкавай зброі.

Пералічваюцца чатыры бронзавыя гарматы на колах, пяць жалезных гармат з клінавымі затворамі і дзве жалезныя марціркі, а да іх каля чатырох коп жалезных ядраў і восем з паловаю коп каменных. Было на час агляду 20 гакаўніц, сем рушніц, алавяныя кулі да іх. Замкавыя пушкары павінны былі змайстраваць восем рушніц. Яны тут жа выраблялі ў Дольным замку і неабходную колькасць пораху, які захоўваўся ў скураных вёдрах у парахавым склепе.

Наяўнасць гэтай зброі сведчыць аб магчымасці Замка трымаць абарону на ўзроўні ўзброенасці таго часу з улікам колькаснага складу гарнізона. А гарнізон, трэба думаць, станавіўся большым, калі ўлічыць колькасць новай зброі, якая кожны год узмацняла арсенал.

❖

А цяпер спынімся на пытанні, якое даволі рэдка асвятляецца ў гістарычнай літаратуры. Гэта металургічная прамысловасць сярэдневечча. Выраб агнястрэльнай зброі на Беларусі пачаўся з канца XIV стагоддзя. Ён быў бы немагчымым без наяўнасці металургіі. А яна існавала яшчэ за 500 гадоў да нашай эры. Гэтаму садзейнічала наяўнасць балотных жалезных руд.

Палескія руды ўтварыліся ў далёкія часы міжладоўя, калі разам з патокамі вады перамяшчаліся і розныя пароды. Вада вымыла жалеза, прынесла яго на Палессе і асадзіла ў паніжаных мясцінах рэчак, ручаёў, дрыгвяністых лагчынах. Так атрымаліся руды цвёрдыя, якія залягаюць на глыбіні не больш двух метраў. Мяккія руды знаходзяцца ў паверхне-

вым слоі. Асабліва багата рудасховішчамі балотных жалезных руд Палессе – іх зараз вядома каля трохсот.

Прыпамінаю, як некалі ў дзяцінстве, пасучы кароў на балоце, мы ўглядваліся ў масляністыя рудыя плямы, якія плавалі на паверхні чорнай вады тарфянікаў. Старыя дзяды казалі, што гэта плавае жалеза. Глядзелі мы на гэта, як на казку ці цуд. Зараз ужо нідзе не ўбачыш гэтага цікавага відовішча, як не ўбачыш і самога балота.

Зачаткі металургіі з'явіліся ў часы мілаградскай культуры, у перыяд Герадотава мора, у неўраў, за пяцьсот гадоў да нашай эры. Жалеза атрымлівалі з руды сырадутнай плаўкай у гліняных печах-домніцах – да аднаго метра ў папярэчніку.

У домніцу засыпаўся пластамі драўляны самаробны вугаль і балотная руда. Падпалены вугаль праз соплы раздзімаўся, і тэмпература ў печы даводзілася да 1200 градусаў. Страціўшая кісларод руда ператваралася ў крыцу – порыстую жалезную масу, якую ў горнах награвалі, пракоўвалі для выдалення шлаку – і ператваралі ў жалезныя бабіцы (балванкі). З іх выраблялі асноўныя прылады працы, зброю, упрыгожванні.

У такім выглядзе металургія праіснавала звыш тысячы гадоў. І нібы тое балотнае жалеза, сам народ выплаўляўся, загартоўваўся ў полымі стагоддзяў. Лёс металургіі і зброі, якімі займаліся кавалі, адны з самых унікальных і таленавітых прадстаўнікоў народа, – гэта лёс самой Беларусі.

З развіццём рамесніцтва, пачынаючы з XII стагоддзя, палеская металургія робіць крок наперад. Былі ўдасканалены печы, пачаў выкарыстоўвацца вадзяны рухавік для падачы магутным кавальскім мяхам. У домніцах вугаль ужо згарае без рэшткаў, жалеза пачало плавіцца, а не спякацца, з'явіўся чыгун. Сырадутная печ на ўскраіне палескіх балот ператварылася ў домну, вытворчае прадпрыемства – у рудню.

Доменны спосаб атрымання жалеза і чыгуну даў магчымасць не толькі каваць метал, але і разліваць яго ў формы, адліваць усялякія вырабы, у тым ліку і зброю, гарматы. Фігура каваля, паважаная і загадкавая, з развіццём грамадства і яго патрэбнасцяў яшчэ больш вырасла, аўтарытэт і складанасць кавальскай справы сталі выключнымі.

У пачатку XVI стагоддзя буйны ліцейны двор быў створаны ў Вільні, адкуль гарматы ў цэнтралізаваным парадку накіроўваліся ў парубежныя замкі: Полацк, Віцебск, Оршу, Магілёў, Гомель, Быхаў, Рэчыцу, Мазыр.

Але Вільня не магла забяспечыць патрэбы ўсёй дзяржавы, таму ствараюцца невялікія ліцейныя двары ў Гродне, Полацку, Віцебску, Магілёве, Слуцку, Нясвіжы, Быхаве і іншых гарадах, якія рабілі гарматы і другую зброю для сваіх гарнізонаў.

Ядры спачатку былі каменныя, потым бронзавыя і, нарэшце, жалезныя і чыгунныя. Порах выпрабляў сабе кожны замак. Гарадзецкі замак гарматы атрымліваў ад свайго гаспадара князя Радзівіла, з яго княжацкай сталіцы – Нясвіжа.

Як сведчыць вышэйназваны інвентар 1605 года, у Гарадку была свая рудня, якая забяспечвала некаторыя патрэбы Замка ўласным жалезам. Аб гэтым расказваецца на адной са старонак інвентара, дзе прыводзіцца заданне камандзіра гарнізона Замка – майстрам Дольнага замка зрабіць восем рушніц.

Рудня знаходзілася ў Дольным замку. Археалагічных раскопак тут не праводзілася: для гэтага давялося б нарабіць добрых ямаў на сядзібах – зараз тут Замкавая вуліца Давыд-Гарадка. Жыхары старэйшага пакалення з вуліцы расказвалі, што пры пабудове дамоў, у ямах для падмуркаў, сустракаліся рэшткі драўлянага самаробнага вугалю і шлаку. І калі б пакапацца, тут абавязкова знайшлося б сёе-тое з прыладаў працы і ўзораў творчасці замкавых кавалёў і колішніх гарадзецкіх збройнікаў.

❖

Інвентар 1631 года шмат месца адводзіць пераліку абавязкаў мяшчан па ўдзелу ў падтрыманні належнага стану Замка. За імі быў замацаваны нагляд за мастамі, пры гэтым асаблівая ўвага звярталася на "вялікий мост", які злучаў Дольны замак з горадам. Ім таксама было даручана рамантаваць 55 сажняў абарончага паркану і башты (вежы) на ім, а таксама ўмацаваць падэшву гары з боку горада.

Аб чым гэта сведчыць? Аб характары жыхароў Гарадка. Горад быў прыватнаўласніцкі, але гарадчукі мелі свой гонар і не вельмі спяшаліся даглядаць за Замкам, які быў, відаць, маёмасцю асабіста князёў Радзівілаў і іх адміністрацыі. Звязвацца з рамонтам Замка не хацелі па розных прычынах, і не толькі таму, што шкада было сіл і грошаў. Кемлівыя гараджане даўно заўважылі, што Замак не вельмі іх бароніць у ваенных сітуацыях. Замкавая гара была не дужа высокай, а Замак не такі ўжо і моцны.

Была і яшчэ адна прычына, можа, самая важная. Збройныя сутыкненні і канфлікты праходзілі так часта, а гарнізон у Замку і харугвы над назіральнай вежай і дахам адміністрацыі мяняліся так непрадказальна, што лепш было на карысць сабе трымацца падалей ад уладаў. Вось мяшчане і дыстанцыраваліся: па народнай мудрасці – мая хата з краю. І да таго ў іх гэта нядрэнна атрымоўвалася, што даводзілася пры дапамозе інвентара сілком цягнуць іх на грамадскія работы.

Водная заслона была для Гарадзецкага замка адной з самых надзейных. З поўначы і часткова з усходу Горны замак абмывала рэчка Чартарыя, якая была даволі буйнага характару, падмываючы Замкавую гару. Яе назва, відаць, паходзіла ад яе нораву – "рые, як чорт".

Аднак разумныя і працавітыя гарадчукі ўтаймавалі нораў Чартарыі. На ўсходзе, на адлегласці каля 50 метраў ад Замка, была зроблена плаціна, якая падзяліла рэчку на два рукавы: стары – з поўначы, а новы – з поўдня абмывалі Горны замак і ўліваліся ў Гарынь. Сама плаціна-запру-

да стала мастом, які злучаў горад з яго паўночным новым кварталам – Радзічамі, дзе ў перыяд Вызваленчай вайны збіраліся мясцовыя казакі на сваю раду. Там былі і Замкавыя могілкі з капліцай, дзе хавалі загінуўшых у час ваенных падзей.

Акрамя гэтага на перападзе вады праз запруду быў пабудаваны млын арыгінальнай канструкцыі. У дакуменце ён названы "Ло́дзяным". Справа ў тым, што млын быў плаваючым. Яго будынак знаходзіўся на спецыяльных лодках, якія трымаліся ўстойліва на вадзе. Таму млыну не пагражалі капрызы воднай стыхіі.

Пры пад'ёме вады падымаўся і млын, пры яе спадзе ён апускаўся. Але працаваў заўсёды. Паслугамі млына карыстаўся не толькі горад, але і ўся Замкавая воласць. Заспакоеную рэчку з гэтага часу сталі называць Няволяй.

Вось так кемлівыя і богалюбівыя жыхары Гарадка пакарылі вадзянога чорта і заставілі яго працаваць на Лодзяным млыне на карысць горада і ўсёй ваколіцы.

Гэты ж інвентар, як і папярэдні, апісвае абавязкі пушкароў – найбольш каштоўнай групы ваенных рамеснікаў. Яны абавязаны былі трымаць у баяздольным стане ўсю агнястрэльную зброю, а таксама кожны год здаваць па тры зробленых кожным рушніцы і па 24 фунты пораху, за што атрымлівалі плату па 3 капы́ 20 грошаў (капа́, як грашовая адзінка, складалася ў той час з 75 грошаў).

Вытворчасць пораху была наладжана на месцы, у Замку. Гэта быў чорны дымавы порах, які рыхтаваўся з салетры, драўнянага вугалю і серкі ў адносінах: 75–15–10. Порах захоўваўся ў шчыльна закрытых скураных вёдрах у сухім парахавым склепе.

❖

За ўсю гісторыю свайго існавання самыя вялікія цяжкасці Замак перажыў у сярэдзіне XVII стагоддзя, у перыяд Вызваленчай і Руска-Польскай войнаў.

На працягу трынаццаці гадоў (1648–1661) Замак шматразова пераходзіў з рук у рукі і бачыў многа гаспадароў: свае штандары і харугвы над яго вежамі ўздымалі запарожскія казакі, палескія паўстанцы, расійскія стральцы, шляхецкія карнікі.

Тут чытаў універсал гетмана Багдана Хмяльніцкага яго палкоўнік атаман Антон Нябаба.

Тры гады тут знаходзіўся штаб кіраўніка Гарадзецкага паўстання палкоўніка Івана Багдашэвіча.

І тут жа, на Замкавай гары былі жудасна пакараны галоўным карнікам Палесся Янушам Радзівілам васемнаццаць народных герояў – кіраўнікоў барацьбы за веру і волю. Імёны гэтых праваслаўных мучанікаў трэба было б зачытваць дзецям ў школах – і на памінальных службах у

Давыд-Гарадоцкіх цэрквах, але, на жаль, яны нам невядомы. Безумоўна, рашэнне замкавага суда было дакументальна зафіксавана. Але дзе самі дакументы?

Пінск неаднаразова гарэў, і, як павятовы цэнтр, мог іх страціць. Хутчэй за ўсё, ўсю дакументацыю сваіх карных экспедыцый польны гетман Януш Радзівіл мог захаваць у сваім асабістым архіве. Радзівілаўскі архіў – скарбніца гісторыі беларушчыны, але ён распылены паміж рознымі краінамі.

Мы шукаем архівы, каб знайсці там сведчанні аб падзеях даўніны, а лепшы архіў – наша зямля.

Зямля памятае і захоўвае ўсю скарбніцу нашай гісторыі. І вялікі дзякуй тым, хто шукае ў зямлі сляды мінулага, дзякуй археолагам, якія высвятлілі для нас давыд-гарадоцкую мінуўшчыну. Беларусь была некалі краінай замкаў, і колькі замкавых гор хаваюць свае скарбы!

Ні ценю Замка не засталося сёння на Замкавай гары, якая схілілася на долу, ні рэштак ад яго вежаў. Але тут з высокага абарончага вала, разбіўшы шляхецкае войска, глядзеў на светлыя воды неспакойнай Гарыні нашчадак легендарнага Рурыка князь Дзмітрый Валконскі.

І зноў звыш года тут былі запарожцы віславусага атамана Карнея ды мясцовыя казакі Грыцка Чорнага.

Пасля падаўлення паўстання і пакарання яго кіраўнікоў у 1651 годзе вярнулася шляхецкая ўлада гаспадара горада і Замка князя Радзівіла, пратрымаўшыся тры гады да рэйда Д. Валконскага.

У 1653 годзе ў Замку пабывала княжацкая камісія, якая на аснове вывучэння матэрыяльнага становішча склала інвентар. Гэты дакумент для нас мае важнае значэнне, таму што адзначае наяўнасць у горадзе мытні і ў Замку – рудні.

Установа, якая займалася мытнымі справамі, называлася ў Рускай Літве – каморай. Каморы ставіліся на ўсіх галоўных шляхах, у гарадах, дзе мелі свае рэзідэнцыі і гандлёвыя рады замежныя купцы і мясцовыя гандляры, дзе адбываліся кірмашы. Важнымі гандлёвымі шляхамі ў той час былі рачныя. Адным з галоўных была і Прыпяць.

Каморы былі дзяржаўнымі ўстановамі і здаваліся ў арэнду на некалькі гадоў буйным феадалам, багатым тутэйшым гандлярам, мясцовым адміністратарам. Арандатар мог браць ў часовае валоданне нават усе каморы. Так было ў канцы XVI стагоддзя, калі мінскі ваявода Казімір Сапега арандаваў усю мытню Княства, маючы на гэта каралеўскую грамату. У Рэчы Паспалітай палякі наклалі на мытні сваю руку, як і наогул на ўсе адміністрацыйныя структуры.

Камора збірала мыту – грашовы збор з мясцовых купцоў за ўвоз і вываз тавараў за мяжу, а з замежных – за правоз па краіне і продаж на мясцовых рынках. Мясцовыя гандляры плацілі адзін грош з кожнай капы́ грошай у кошце тавару, што складала каля 2 працэнтаў агульнага кошту: іншаземныя плацілі два грошы з капы, што складала ўжо 3,5 працэнта.

Усе дадзеныя аб колькасці і відах тавараў, месцах вывазу і прызначэння, яго якасці, сумы мытнага збору заносіліся ў мытныя кнігі. З гэтых кніг мы маем магчымасць даведацца аб увозімых і вывозімых таварах.

Асноўныя прадметы ўвозу былі футра, тканіна, металы, галантарэя, вострыя прыправы, прадметы раскошы; вывозіліся – выраблены скуры і футра, рамесныя вырабы, воск, мыла, сельскагаспадарчая прадукцыя (мяса, жывёла, збожжа, хмель, пянька) і іншае.

Кнігі сведчаць, што з усяго купецтва Беларусі, якое займалася замежным гандлем, па нацыянальнаму складу беларусаў было 80–85 працэнтаў, яўрэяў – каля 10 працэнтаў, астатнія – палякі і рускія. Асноўныя накірункі знешняга гандлю (па месцах): Расія, Польша, Прыбалтыка, Украіна, Германія.

Колькасць гандляроў і крамнікаў у сувязі са шматлікімі войнамі пастаянна мянялася. І там, дзе вайна выбівала тутэйшых майстроў, пасля канфлікту з'яўляліся гандляры з таварамі.

Вядома, што ў гады вайны з Масквою па загаду цара Аляксея Міхайлавіча ў Расію было вывезена з занятых рускімі войскамі гарадоў шмат таленавітых майстроў і рамеснікаў: потым гэтыя беларусы прысвяцілі жыццё аздабленню Масквы і іншых месцаў Расіі. Колькасць вывезеных рамеснікаў была значная, таму тавараў стала не хапаць. Таму рэзка вырасла гандлярскае саслоўе – яно дасягала 20 працэнтаў ад насельніцтва гарадоў.

Гарадку Давыдаву пашанцавала больш, чым іншым: рамеснікаў адсюль не вывозілі – было далекавата, і сярод гараджан існаваў нармальны баланс паміж рамеснікамі і гандлярамі: заўжды хапала тутэйшых добрых рэчаў. Чаго не хапала – прыходзіла па Гарыні пад ветразямі з розных бакоў.

У Гарадку ў той час быў падкаморак. Так называліся мытныя ўстановы, якія знаходзіліся на гандлёвых шляхах другаснага значэння. Але яны выконвалі тыя ж самыя абавязкі, як і каморы.

Гарадок Давыдаў быў сам вытворцам значнай колькасці відаў рамеснай прадукцыі – і гандляваў з многімі гарадамі Палесся і Валыні. Гарынь спрадвеку была надзейным шляхам, які звязваў Прыдняпроўе з Прыкарпаццем. Па рацэ даволі часта праходзілі гандлёвыя, адміністрацыйныя і ваенныя судны. Яны ішлі з Прыкарпацця ў Прыпяць – і ў адваротным накірунку.

Падкаморак у Гарадку знаходзіўся на правым беразе Гарыні вышэй Замка. Зараз гэта ўрочышча называецца Каморай і часткова занята жылымі забудовамі.

Службоўцы-мытнікі неслі нагляд за тым, каб купцы не аб'язджалі падкаморак вакольнымі шляхамі і спраўна плацілі ўстаноўленую мыту. Інвентар прадугледжваў дадатковую павіннасць пушкарам – дапамагаць мытнікам у выкананні ўскладзеных на іх абавязкаў.

Якая сувязь паміж мытнікамі і пушкарамі? На гэтае пытанне можна адказаць па-рознаму: ці пушкароў было больш, чым трэба, ці ў мытнікаў не было людзей для нагляду за ракой і праезжым шляхам. А можа быць і такі варыянт развіцця падзей: мытнікі былі людзьмі не вельмі адукаванымі і ў некаторых таварах, якія мелі стратэгічнае значэнне, не былі добра дасведчанымі. Напрыклад, у састаўных частках таго ж пораху.

Пушкары ж былі элітай сярод рамеснікаў: тое, што яны рабілі, было самай складанай працай на той час. І яны добра ведалі ўсё, што магло мець дачыненне да вытворчасці зброі і другой важнай прадукцыі, якая абкладалася самымі высокімі грашовымі зборамі.

Упершыню сустракаецца ў дакуменце ўпамінанне аб рудні, як аб прадпрыемстве, якое знаходзілася ў Замку. Яе абслугоўванне даручалася некаторым вёскам Палескай воласці. Відавочна, мелася на ўвазе здабыча балотнай руды, якой было многа ў Мярлінскай пушчы, і яе дастаўка ў Замак на рудню.

Шмат ўвагі было нададзена агляду Замка: стану яго абарончых збудаванняў. Указваецца, што замкавыя пушкары атрымалі надзелы зямлі па дзве валокі (каля 50 гектараў). Такі ж самы надзел атрымаў і новы галоўны цясляр Павел Буяк, які адказваў за рамонт усіх драўляных збудаванняў – як абарончага, так і гаспадарчага значэння.

Мяшчане горада абавязаны былі трымаць у належным стане парканы, грэблю-плаціну цераз Чартарыю-Няволю, Лодзяны млын: гэтыя абавязкі пераходзяць з інвентара ў інвентар.

Замкавая воласць несла абавязак разам з часткай гараджан несці ахову мастоў і быць наглядальнікамі аколіц Замка, а таксама выконваць цяглыя павіннасці з коньмі.

Аддаленая Палеская воласць накіроўвала "...на работу замковую, вмести с инши села... по очередь 15 человек, почав з Проводной недели после Великой ночи руской аж до запуста Филиппова русского на каждая недели являться з топоры без кони".

Частка вёсак гэтай воласці ў "рапорацыи" Замка ўдзел не прымала, а забяспечвала замкавы гарнізон хлебам, рыбаю, мёдам, а таксама па адной капе драніц (гонты) з кожнай вёскі.

❖

А праз два гады, у 1655 годзе Гарадок Давыдаў і яго Замак зведаў самы значны разгром за ўвесь шматгадовы ваенны перыяд. Вось як апісваў гэтыя падзеі буйнейшы расійскі гісторык Сяргей Міхайлавіч Салаўёў (1820–1879) у дзесятым томе "Истории России с древнейших времен".

"В сентябре вышел на судах князь Дмитрий Волконский, 15 числа пришел он под Туров, туровцы вышли к нему навстречу с образами и присягнули царю. Не останавливаясь в Турове, Волконский отправился сухим путем под город Давидов, с версту от города встретило его ли-

товское войско и завязало бой. Литва была втоптана в город, который запылал, и литва бросилась бежать из него. Победители возвратились к судам своим и поплыли вниз по реке Горыни к реке Припяти. Припятью шли вверх до реки Вятляцы, от Вятлицы шли сухим путем до города Столина, которого достигли 20 сентября. Литва, вышед из города, учинила бой большой, была побита, бежала, город был занят и сожжен русскими. От Столина Волконский возвратился к Припяти, к судам своим, Припятью плыл до реки Пины и 25 сентября достиг Пинска. Литва не пустила русских пристать к берегу, и Волконский вынужден был высадиться ниже города, у села Пинковичей. После большого бою русские по следам литвы вошли в Пинск и литву выбили. Простоявши в Пинске двое суток, чтоб дать отдохнуть людям, Волконский 27 сентября сжег город и слободы, пошел назад к судам своим и поплыл вниз по Припяти, в селе Стахове разбил отряд литовского войска, привел к присяге жителей Кожана и Латвы и опять Днепром возвратился в Киев, и привел войско в целости".

Нагадваем, што воінскія падраздзяленні Княства маскоўцы па звычцы называлі літвой.

Назад князь Валконскі з флатыліяй вяртаўся па Гарыні і бачыў спалены Замак Гарадка Давыдава. Аб чым думаў пераможны князь, гледзячы на Замак, які некалі заснаваў такі ж Рурыкавіч, як і ён сам? Некалі па гэтым шляху плыў у Кіеў–стольны град і князь Давыд, які знайшоў там месца свайго апошняга супакаення.

Князь Валконскі мог з горыччу думаць аб тым, што апошнія стагоддзі яшчэ больш аддалілі адных рускіх ад іншых: і зараз на старажытнай рускай зямлі яго, прадстаўніка Расіі, сустракалі як ворага. Але ж гэта былі ляхі...

Вось і зараз яны вывялі са зброяй сляпых беларусаў, пралілі кроў. А можна было б зрабіць, як у Тураве – з праваслаўнымі абразамі, па добраму. Шкада...

І князь у апошні раз глянуў у бок пачарнелага Замка Гарадка Давыдава, які знікнуў за паваротам Гарыні.

Гэтая ваенная сутычка была апошняй у шматвекавой гісторыі Гарадзецкага замка.

Праз дзесяць гадоў пасля гэтай падзеі ў 1665 годзе быў складзены новы інвентар, дзе адзначаны вялікія разбурэнні, якія яшчэ не былі ліквідаваны пасля разгрому горада маскоўскім войскам. Аб узбраенні Гарадзецкага замка тут нічога не гаворыцца.

Інвентар 1670 года пералічвае работы і павіннасці гараджан і сялян па аднаўленню разбураных аб'ектаў Замка. Упершыню даюцца памеры абодвух замкаў – Горнага і Дольнага (яны ўжо прыведзены вышэй).

Горны быў акружаны вадою, абнесены абарончым валам, аднак у ім захоўваўся толькі адзін "дом кухонный", астатнія пабудовы былі знішчаны ў час вайны. Упершыню ўспамінаюцца "вывады" – патаемныя выхады з Замка за яго межы.

Дольны замак меў парканную агароджу. Пры пераліку ўзбраення гарматы не ўпамінаюцца – яны былі вывезены рускімі войскамі. Аднак, як і заўсёды, адзначаюцца пушкары, як самая важная ваенна-рамесніцкая катэгорыя замкавай абслугі. Яны павінны былі займацца рамонтам зброі, а таксама кожны год здаваць па тры мушкеты і 24 фунты пораху.

Усе будаўнічыя і рамонтныя работы абарончых збудаванняў Замка, яго мастоў і грэбляў пры падыходзе да яго, выконвала мясцовае насельніцтва – "водлуг давнего звычаю".

Уся кіламетровая абарончая лінія абодвух замкаў была падзелена на пяць частак: першую былі абавязаны трымаць у належным стане мяшчане (245 метраў), а другую – Замкавая валасць (150 метраў), трэцюю – Палеская валасць (120 метраў), чацвёртую – Манькаўская валасць (250 метраў), пятую – шляхта і зямяне (свабодныя землеўладальнікі) вышэйназваных валасцей – (200 метраў).

Для прыкладу прывядзём пералік вёсак Замкавай воласці, якія выконвалі рамонтныя і будаўнічыя работы на валах Замка.

в. Арлы – 12 сажняў (23,4 м),
в. Лыдцы – 15 сажняў (29,25 м),
в. Харомская – 15 сажняў (29,25 м),
в. Тры Валокі – 10 сажняў (19,5 м),
в. Кугорск – 18 сажняў (35,1 м),
в. Альшыня – 20 сажняў (39 м),
в. Велямічы – 18 сажняў (35,1 м),
в. Малешава – 5 сажняў (9,75 м),
в. Бярозкі – 15 сажняў (29,25 м).

---

Усяго: 128 сажняў (249,60 м)

Інвентар 1675 года адзначае добры стан абодвух замкаў, зробленыя новыя масты, якія злучалі вароты, праз якія неабходна было прайсці, каб трапіць у Горны замак. Абодва замкі былі акружаны новымі дубовымі парканамі, збоку ўязной брамы ў Горны замак узвышалася ахоўная вежа. Для таго, каб з горада трапіць у Дольны замак, трэба было прайсці па мосце з парэнчамі, уваход на які вартаваўся і быў на запоры. Шматлікія гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы цягнуліся да левага рукава ўтаймаванай Нявола – шырыня якой была да дваццаці пяці метраў.

Праз рэчку Дольны замак з Горным злучаўся пад'ёмным праезжым мастом на металічных ланцугах, па якім госці і самі жыхары праз уязную браму паміж двума вежамі падымаліся наверх.

Артылерыі ўжо не было, і больш яна тут ужо не ўстанаўлівалася: відаць, Радзівілы падлічылі, што за свой кошт вазіць гарматы сюды накладна.

Адзначана ў наяўнасці толькі 80 прысланых гакаўніц. Гакаўніца – вялікая і цяжкая стрэльба (вага да 15 кілаграмаў), якая высоўвалася з байніцы і прымянялася для абароны замкаў і гарадоў. Гэта была агняст-

рэльная замена такіх жа цяжкіх арбалетаў, якія прымяняліся ў замках для той жа справы некалі. Агульная колькасць гакаўніц дае нам уяўленне аб велічыні Гарадзецкага замкавага гарнізона і наогул аб памерах Замка, у якім было да сотні байніц.

Не абмінаюцца, як заўжды, увагай ў інвентары і пушкары. На іх абавязку зараз ужо і кавальская работа і рамонт, акрамя зброі, вайсковай амуніцыі. Як і раней, яны павінны былі кожны год здаваць зробленыя імі самімі ручніцы альбо мушкеты і порах. Ручніцу яшчэ называлі ручной пішчаллю ці рускім самапалам. З ручніцамі і мушкетамі, як і гакаўніцамі, у бой не хадзілі: гэтыя цяжкія стрэльбы на апорах прымяняліся для абароны.

Гадавая плата кожнаму пушкару – 4 капы 18 грошаў.

Цікава, што канец XVII стагоддзя, а ў арсенале замка маецца 60 коп (3600) стрэлаў для лукаў і 60 дзідаў (коп'яў). Яны вырабляліся рамеснікамі-лучнікамі з вуліцы Лучнікоўскай, якая існуе ў Давыд-Гарадку і зараз.

Інвентар 1702 года быў апошнім, у якім адзначаны ваенна-будаўнічыя работы, якія выконваліся на аснове традыцыйных абавязкаў.

Павышаная ўвага была звернута ў сувязі з Паўночнай вайной Расіі са Швецыяй, у якой удзельнічала і Рэч Паспалітая на расійскім баку. У 1706 годзе шведы былі параўнальна недалёка ад Гарадка. Карл XII заняў Пінск, разграбіў і спаліў яго, але пайшоў адтуль на захад.

Праз год з Валыні праз Пінск на ўсход прайшоў расійскі корпус генерала Б. П. Шарамецьева. І пасля гэтага ніякіх ваенных падзей на працягу двух стагоддзяў на Палессі не адбывалася. Замак спакойна існаваў і без радзівілавых гармат.

У гэтай сітуацыі ваенная неабходнасць у Гарадзецкім замку наогул адпала. Пасля таго, як беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай дзяржавы, войны на Палессі часова прыпыніліся.

І хаця Замак у Гарадку праіснаваў яшчэ стагоддзе, аднак паступова ён прыходзіў у заняпад і страціў сваё былое значэнне. Яго гаспадары Радзівілы ператварылі ў адміністрацыйны цэнтр прыватнаўласніцкага горада і Гарадзецкай воласці.

Адміністрацыя размяшчалася ў драўляным аднапавярховым палацы, пабудаваным у канцы XVII стагоддзя. Ён знаходзіўся ў цэнтры Верхняга замка ў акружэнні гаспадарчых пабудоў. Палац быў прамавугольным, знешне прыгожа аздобленым у стылі барока. Пакрыты ён быў гонтавым дахам.

Перад уваходам быў вялікі крыты ступенчаты ганак. Масіўныя дзверы вялі ў прасторную прыхожую. Злева знаходзілася вялікая сталовая з васьмю вокнамі, упрыгожанымі алавянымі пераплётамі. У сталовай былі камін і грубка з зялёнай паліванай кафлі. З гэтага ж боку было пяць жылых пакояў.

З правага боку ў палацы было таксама пяць пакояў і алькеж – прасторная зала пасяджэнняў. Планіроўка пакояў анфіладная. У палацы па-

стаянна пражываў гараднічы – начальнік Замка (горада), які нёс адказнасць за ваенна-тэхнічны стан яго ў мірны час. Тут часова размяшчаўся прыязджаючы гаспадар – адзін з князёў Радзівілаў. Пазней палац быў пераабсталяваны для размяшчэння службовых асоб адміністрацыі.

Паступова Замак страціў свой ваяўнічы выгляд. Размываліся земляныя валы, радзелі і абрушваліся абарончыя агароджы, былі разабраны струхнелыя вежы.

Патухла рудня, змоўк гучны перазвон кузняў, не стала чутна воінскіх загадаў – Замак застаўся без гарнізона. А значыць і без свайго арсенала. Лепшую зброю вывезлі ў Нясвіж, а астатнія старыя гакаўніцы прадалі ў Гарадку кавалям – на жалеза, ды некаторыя ручніцы купілі мясцовыя паляўнічыя.

Апошні інвентар быў састаўлены ў 1793 годзе, напярэдадні далучэння Беларусі да Расіі. У ім няма апісання ніякіх ваенных аб'ектаў. Адзначаецца, што ў цэнтры Замка знаходзіцца адміністрацыйны палац, а сам Замак абнесены парканам. Захоўвалася яшчэ брама, зачыраліся вароты, аднак запоры былі ўжо нескладанымі.

Пасля ліквідацыі польскай улады і прыватнаўласніцкага ўладання Давыд-Гарадком Радзівіламі, рэзідэнцыяй княжацкай галіны Радзівілаў на Палессі стаў маёнтак Манкавічы (Манькавічы) побач з мястэчкам Столін – за трыццаць кіламетраў на паўднёвы захад ад Давыд-Гарадка.

Першым знік Дольны (Ніжні) замак. Ужо ў пачатку XIX стагоддзя яго не было. На яго месцы ўзнікла вуліца, якая зараз называецца Замкавай. Яна вядзе проста на колішні ўезд Замкавай гары.

Настала чарга Горнага (Верхняга) замка. Зусім абмялела Чартарыя, яе левы рукаў Няволя – перасох, стаў невялічкім ручаём Няпраўдай – правы рукаў, а потым і ён знік зусім. Толькі адна Гарынь па ранейшаму абмывала сваімі бялесымі ад пяску водамі Замкавую гару з аднаго боку.

З абарончых збудаванняў засталіся толькі земляныя валы. Замкавы палац перастаў рамантавацца: Радзівілы сюды не ездзілі, зала пасяджэнняў пуставала, таму што колькасць адміністрацыі была скарочана, а гараднічы жыў у меншым і больш утульным доме. Аднойчы замкавы палац разабралі, і неяк непрыкметна зніклі і астатнія пабудовы, якія яшчэ напаміналі аб Замку.

На гары засталася толькі Васкрасенская царква, якая несла свой крыж і будзіла зранку гараджан сваімі званамі ад самага пачатку існавання горада і, як аднагодка Гарадка, мноства разоў аднаўлялася.

Для лепшага падыходу да Васкрасенскай царквы быў засыпаны роў, які аддзяляў Верхні замак ад Ніжняга. У апошнія гады свайго існавання побач з царквою была званіца і вартоўня. Царкоўны комплекс быў выдатна ўпарадкаваны, а па краях гары пасаджаны пладовыя дрэвы. Вось чаму гару доўгі час называлі Царкоўнай.

Пажар 1936 года знішчыў гэту апошнюю спадчыну далёкіх продкаў,

якая надавала ім і іх нашчадкам духоўную годнасць і падтрымлівала ў цяжкія часіны.

І на Замкавай гары наступіла цішыня.

❖

Я стаю на цэнтральнай плошчы Давыд-Гарадка, якой нададзена імя князя Давыда. Сонца за маёй спіною, якое зараз на поўдні, кідае на горад прыгаршчы залатога святла.

Злева ад мяне ажыўлёна і старанна працуюць майстры. У дні святкавання 900-годдзя горада будзе адкрыты помнік князю работы скульптара, ураджэнца нашай мясцовасці: Аляксандр Валенцінавіч Дранец, тутэйшы аўтар, робіць зараз апошнія штрыхі на велічнай скульптуры князя. Я ўжо ведаю, як гэта будзе выглядаць.

Князь Давыд стаіць на высокім пастаменце, які нагадвае дзве лоддзі, альбо дзве хвалі – Гарынь і Прыпяць, якія сустрэліся і зліліся паміж сабою, як адзінае цэлае.

Адкінуўшы правую руку, князь Давыд кап'ём паказвае на Замкавую гару, каб напомніць нам: "откуда есть пошел городок Давыдов".

А другі мастак, таксама тутэйшы ўраджэнец, Уладзімір Васільевіч Уродніч, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, у юбілейны дзень пакажа сваю новую карціну – "Давыд і Усевалад высаджваюцца на бераг": князі бацька і сын выбралі месца для новага горада.

З плошчы князя Давыда я накіроўваюся на невялікую па даўжыні Замкавую вуліцу, якая вядзе да Замкавай гары. Земляны развал паказвае, што тут некалі быў уезд у Замак. Рава няма – ён даўно засыпаны. Да свята тут будзе зроблена сімвалічная брама з вежай. Яны будуць не такія магутныя, як сапраўдныя, але кожны – жыхар ці госць Давыд-Гарадка зможа рэальна дакрануцца да гісторыі, жывой гісторыі Бацькаўшчыны.

А яшчэ на самой гары будзе пабудавана капліца, як памяць аб першых жыхарах Замкавай гары, аб першых гарадчуках, якія будаваліся і жылі тут – нараджалі дзяцей, хрысціліся, працавалі, пакутавалі, малілі Бога і дзякавалі Яму, радаваліся жыццю і любілі Радзіму, сваю гару і Замак, сваю Гаронь і наваколле, і адыходзілі ў іншы свет – на Замкавыя могілкі, ад якіх няма і следу.

Капліца будзе памяццю аб героях і ахвярах шматлікіх войнаў; аб удзельніках многіх слаўных бітваў, на якіх з мячамі і харугвамі з'яўляліся гарадзецкія віцязі; аб славутых князях, чые саркафагі хавае Замкавая гара, і простых воях; аб мучаніках, прыняўшых тут пакутніцкую смерць – барацьбітах за веру айцоў і волю; аб тых, хто ратаваў край і народ у першую і другую сусветныя войны апошняга стагоддзя.

Узыходжу на край гары і паварочваю налева. Пад маімі нагамі – абарончы вал Верхняга замка, які і зараз уздымаецца на працягу ўсёй ак-

ружнасці гары, хаця, вядома, не той вышыні, як гэта было ў даўніну, у час росквіту замкаў на Беларусі.

Справа – стары квартал горада, які і зараз называюць Радзічамі, хаця даўно няма тут казакаў з іх радамі, грукатам чобатаў і стукам крывых шабляў.

Унізе вуліца, а некалі на яе месцы бурліла і раўла вясною вядомая нам Чартарыя.

А наперадзе віднееецца блакітная ад чыстага неба Гарынь. Зараз яна тут нешырокая, ды і ад гары адышла на добрую сотню метраў. А некалі хвалі гэтай імклівай паўнаводнай ракі плёскаліся аб высачэзны схіл гары.

А вось там справа, побач з гарою, спрадвеку знаходзілася прыстань, а пазней і суднаверф. Рака была важнейшай транспартнай магістраллю валынска-палескага рэгіёна. І днём, і ноччу пры запаленых смаляках, уніз і ўверх, на вёслах і пад ветразямі рухаліся купецкія лодкі рознага танажу. З Германіі і Польшчы, Масковіі і Балтыі. Якія толькі мовы не гучалі на гарадзецкай прыстані – маскоўцы і малдаване, ляхі і германцы высаджваліся тут, раскідвалі свае тавары. Мытнікам на Каморы і іх памочнікам пушкарам – работы хапала.

Аглядваю ўсю Замкавую гару з самага высокага яе месца. Агульная яе плошча ўражвае.

Зараз тут ціха. А некалі віравала жыццё: сноўдалі людзі – воіны, рамеснікі, абслуга Замка. Лязгалі ланцугі пад'ёмнага маста, звінелі кавадлы ў кузнях, пераклікаліся кавалі і збройнікі, пыхкала рудня, беспрабойна шумела вада на запрудзе плаваючага млына.

Але нярэдка ў гэтае мірнае жыццё ўрываліся іншыя гукі – стрэлы, грукат ядраў і звон халоднай зброі, раз'юшаныя крыкі схапіўшыхся гаспадароў і іх няпрошаных гасцей, якія штурмавалі Замак.

Многае і многіх бачыла гэта гара. Былі тут сутычкі міжусобныя і лілася братняя кроў, не раз Замак бараніўся ад татар – і многа іх пахавала рака.

Быў Замак цэнтрам паўстаўшых палескіх казакаў, пра традыцыі якіх мы, на жаль, забыліся. А ў апошні раз яго штурмавалі войскі маскоўскіх стральцоў. Замак не раз гарэў, разбураўся, але паўставаў з попелу і аднаўляўся зноў.

Я стаю на самай вышыні. Пада мною – цэнтр забытага княства, белая пляма гісторыі – зараз зялёная ад невысокай травы, здзірванелы кавалак старажытнага жыцця.

Цяпер тут ціха. Нават шум недалёкага базару ля плошчы князя Давыда тут, на гары, становіцца нейкім мяккім, прыемна-інтымным. Ад гэтага трошкі сумна.

На Замкавай гары нікога няма. Адна рачная чайка жаліцца ўвышыні, ды крумкач ходзіць па схіле. І толькі побач са мною маўклівы гранітны камень сціпла напамінае, што "отсюда есть пошел городок Давыдов".

Пайшоў з гары – і стаў пад Замкавай гарою вялікім цікавым горадам. Аб ім і яго людзях мы зараз паспрабуем расказаць.

## ГОРАД І ЛЮДЗІ

*У старыну беларус,*
*не падданы,*
*Гаспадарыў, быў сам*
*над сабою,*
*І далёка ў свеце*
*быў знаны*
*За літоўскай і ляшскай*
*зямлёю.*

***Алесь Гарун***

На працягу першых пяці стагоддзяў горад называўся Гарадком. Пад такой назвай ён упершыню абазначаны на карце польскага картографа Анджэя Паграбкі, выдадзенай ў 1570 годзе ў Амстэрдаме галандскім вучоным Артэліем. З больш дакладнымі каардынатамі Гарадок змешчаны у 1595 годзе на карце буйнейшага картографа Герарда Мерката-ра. Імя Давыда спачатку не ўпаміналася.

На выдадзенай ў 1613 годзе карце Вялікага княства Літоўска-Рускага Хрыстафорам Радзівілам горад названы Гарадком Давыдавым, а пасля далучэння да Расіі з канца XVIII стагоддзя замацавалася афіцыйная назва – Давыд-Гарадок.

У мове і афіцыйных дакументах усталявалася назва – Гарадзецкі: Гарадзецкае княства, Гарадзецкія мяшчане, гарадзецкая школа. Такая назва захавалася да 1945 года. Самі мясцовыя жыхары з даўніх часоў называюць сябе гарадчукамі.

З XII стагоддзя Гарадок быў цэнтрам удзельнага княства Гарадзецкага ў складзе Тураўскай зямлі, а з сярэдзіны XIV стагоддзя – Вялікага княства Літоўска-Рускага.

Дынастыя князёў Гарадзецкіх закончыла сваё існаванне ў 1440 годзе. Пасля Свідрыгайлы і яго жонкі ў 1490–1520 гадах княствам валодаюць князі Яраславічы, а ў 1521–1550 гадах – каралева Бона.

У 1551 годзе пасля смерці сваёй любімай жонкі Барбары кароль Жыгімонт II перадаў у пажыццёвую ўласнасць яе брату князю Мікалаю Радзівілу – Рудому Гарадок з валасцямі Замкавай, Палескай і Манькоўскай. З гэтага часу Гарадок стаў прыватнаўласніцкім горадам і быў такім да 1793 года.

Згодна з адміністрацыйным падзелам 1565 года, было створана Брэсцкае ваяводства ў складе двух паветаў – Брэсцкага і Пінскага. У апошні ўвайшоў і Гарадок, як цэнтр Гарадзецкай (Замкавай) воласці.

Асноўнымі населенымі пунктамі ў Княстве былі гарады і мястэчкі.

Ва ўсіх існуючых дакументах XIV–XVIII стагоддзяў Гарадок Давыдаў называецца "местом" – горадам.

У інвентарах 1670 і 1675 гадоў упамінаецца аб існаванні гарадскога ўстава – "Устава месту Давид-Городецкому". Гэты дакумент быў падрыхтаваны княжацкай адміністрацыяй і змяшчаў рэгламентацыйныя ўмовы жыццядзейнасці горада. У ім адзначаліся абавязкі і правы гараджан, згодна з іх саслоўнай прыналежнасцю, вызначаліся формы княжацкага кіравання і мясцовага самакіравання праз выбарныя органы.

Зыходзячы з гэтага дакумента і наяўнасці ў Гарадку Давыдавым саслоўя мяшчан, іх фактычнага ўкладу жыцця і эканамічнай дзейнасці, можна сцвярджаць, што горад меў Магдэбургскае права.

Гэты юрыдычны тэрмін паходзіць з Германіі, дзе ўпершыню ў XIII стагоддзі гараджане Магдэбурга атрымалі ад свайго феадала грамату на права арганізаваць сваё самакіраванне. З Заходняй Еўропы гэта новая форма жыццядзейнасці горада прыйшла ў Польшчу і Рускую Літву.

Першымі гарадамі, атрымаўшымі Магдэбургскае права, былі Вільня, Брэст, Гродна, Слуцк, Полацк, Мінск і інш. Правам надзялення гарадоў гэтымі прывілеямі карысталіся каралі (вялікія князі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўска-Рускага), а для прыватнаўласніцкіх гарадоў – іх гаспадары-магнаты.

У выпадку антыдзяржаўнай дзейнасці віноўныя гарады пазбаўляліся сваіх прывілеяў.

Гарадок таксама меў Магдэбургскае права. Дакумент аб гэтым не знойдзены, магчыма, ён знаходзіцца ў адным з замежных архіваў, па якіх у апошніх войнах рассеяна мноства тутэйшых дакументаў.

Але доказы ёсць. Аб наяўнасці Магдэбургскага права сведчаць узаемаадносіны горада з магнатам, наяўнасць саслоўя мяшчан, выбарнасць кіраўнічых органаў, самастойнасць у эканамічным жыцці. Аб гэтым сведчаць гісторыкі З. Ю. Капыскі, Г. В. Штыхаў, А. П. Грыцкевіч і інш.

Магдэбургскае права, хутчэй за ўсё, Гарадок атрымаў у канцы XVI стагоддзя ад ардынатара князя Альбрахта Радзівіла, калі некаторы час існавала Давыд-Гарадзецкая ардынацыя.

Гарадскую ўладу ўзначальваў выбарны магістрат, які складаўся з гарадской рады і лавы (суда). Колькасць членаў першай і другой установы залежала ад колькасці дзеючых гараджан, але іх колькасць не перавышала дзесяці. Кіраваў работай рады бурмістр, які адначасова быў і лаўнікам (членам суда).

Выканаўчую ўладу ажыццяўляў войт, які выбіраўся па прапанове магната. Даволі часта ў судзе ён выконваў абавязкі абвінаваўцы. У якасці прысяжнага засядацеля быў гараднічы, начальнік Замка, якога назначаў магнат.

Унутрыгарадское кіраўніцтва ажыццяўлялася на аснове агульнадзяржаўных законаў, асноўным з якіх быў Статут Літоўска-Рускага гаспадарства 1588 года.

Вядома, улічваючы аддаленасць ад сваіх асноўных уладанняў, нялёгкія прыродныя ўмовы, а разам з гэтым – і марудную сувязь, на якую

ў адзін канец марнавалася шмат дзён, уладальнікі горада не давалі ў значнай ступені жыхарам Гарадка карыстацца ўсімі формамі самакіравання. Аднак і тое, чым карысталіся ў той час гараджане, мела выключна важнае значэнне для яго эканамічнага і культурнага развіцця.

Проста кажучы, горад з Магдэбургскім правам быў горадам вольным, вядома, адзін больш, другі менш. Такім чынам, і Гарадок Давыдаў быў вольным горадам. Гэта за стагоддзі яго жыцця адбілася на характары жыхароў, на яго традыцыях.

З прыватнаўласніцкіх гарадоў найбольш значнымі лічыліся Слуцк, Нясвіж, Клецк, Стары Быхаў, Мір, Ружаны, Шклоў. Да іх можна аднесці і Давыд-Гарадок.

У канцы XVI стагоддзя яго насельніцтва складала не менш за дзве тысячы чалавек – колькасць жыхароў сярэдняга горада таго часу.

❖

Мы і пачнём з насельніцтва Гарадка і, перш за ўсё, з яго нацыянальнага складу.

Першымі жыхарамі горада былі дрыгавічы, якія разам з дружыннікамі князя Давыда сталі русамі і былі імі да ўваходу гэтых зямель у склад Літоўска-Рускай дзяржавы.

У 1274 годзе ў Іпацьеўскім летапісе ўпершыню Паўднёвая частка Беларусі названа Палессем. Гэтая назва замацавалася, з'явілася на картах, ад яе ўтварыліся многія геаграфічныя найменні.

З XVI стагоддзя ў сувязі з пашырэннем каталіцызму праваслаўнае насельніцтва Княства афіцыйна сталі называць ліцвінамі рускай веры, альбо ліцвінамі-беларусцамі.

Самі яны ўвогуле называлі сябе – русінамі, а з пачатку XIX стагоддзя – рускімі і захавалі такое саманазванне амаль да нашага часу. Гэта ў першую чаргу тычыцца цэнтра Прыпяцкага Палесся, у тым ліку і Давыд-Гарадка.

Заснаваны горад на працягу трох стагоддзяў быў у межах непасрэдна самога Замка на гары.

З XV стагоддзя Замак стаў выкарыстоўвацца выключна як ваеннаабарончае збудаванне, і яго пастаянныя жыхары перасяліліся за межы Замка. Спачатку расшырэнне горада ішло на правым беразе Гарыні, а з пачатку XVIII стагоддзя стаў забудоўвацца і яе левы бераг.

З пачатку XVI стагоддзя ў Гарадку з'яўляюцца жыхары некарэнных нацыянальнасцей – татары і яўрэі.

Мы даволі падрабязна расказвалі аб татарах. Многа гора і страт перанёс на працягу чатырох стагоддзяў народ Беларусі ад бясконцых набегаў рабаўнікоў-крымчакоў. Асабліва цярпела ад іх безабароннае вясковае насельніцтва, якое ратавалася як магло.

І ў гэтым сэнсе выклікае цікавасць гарадзішча на левым беразе Га-

рыні, якое мясцовыя жыхары называюць Замчышчам. Уважлівы агляд яго наводзіць на думку, што гэта велізарная чаша была месцам збору жыхароў наваколля Гарадка, якія разам са сваім скарбам укрываліся тут ад ворага і, калі была неабходнасць, абараняліся.

У 1503 годзе ля Гарадка ў лагчыне, якая зараз завецца Татарскай, быў разгромлены значны татарскі загон.

У 1526 годзе недалёка ад Пінска была разгромлена яшчэ адна татарская групоўка.

І пасля першай, і пасля другой бітвы частка татарскіх воінаў трапіла ў палон. Яны былі расселены ў межах уладанняў каралевы Боны; значная колькасць былых ваеннапалонных трапіла ў Гарадок. Аб гэтым расказвалася ў главе "Татарская лагчына". Нагадаем толькі, ўсе татары на Палессі асіміляваліся, сталі палешукамі: ад іх паходжання засталіся толькі некаторыя татарскія прозвішчы ды іх асобныя традыцыі, перададзеныя нашчадкам.

І зараз даволі часта гарадчукоў клічуць татарамі, хаця татарскіх прозвішчаў у Гарадку – адзінкі. Гэта ад зайздрасці, калі бачаць багатыя іх агароды і раскошныя кветнікі, і яшчэ таму, каб падкрэсліць упарты і цвёрды характар гараджан.

Справа ў тым, што спрадвеку ў Гарадку займаюцца агародніцтвам і кветкаводствам. Паўгода купаецца ён у кветках. Не злічыць тут сядзібаў, ад якіх здалёк адчуваецца водар вясны, лугоў, зеляніны. І калі крочыш вулкамі Гарадка, сэрца ўсміхаецца, і вока проста цешыцца вясёлкамі кветак, якія радасна зіхацяць з-за плоту.

Працавітыя і прыгожыя гарадоцкія жанчыны ведаюць многа сакрэтаў і з вясны да восені вырошчваюць на сваіх гародах мноства гатункаў кветак, якія потым у выглядзе насення разыходзяцца па розных кутках блізкага замежжа.

Давыд-Гарадок да апошняга часу быў адзіным населеным пунктам Беларусі, дзе ўсё насельніцтва без выключэння займалася гандлем насення кветак.

Цэлы год людзі рупліва і па-майстэрску працавалі на зямлі, каб вясною абудзіцца і, як птушкі, разляцецца па розных краях. Кожную вясну горад проста пусцеў. Палова яго насельніцтва (а гэта каля пяці тысяч дарослых), адпрацаваўшы адну вахту на сваіх агародах, затым пачыналі новую вахту – на гэты раз гандлёвую, каб належным чынам прадаць тое, што дала ім зямля і гаспадарчы клопат.

Усе мужчыны і жанчыны самага дзейснага ўзросту з земляробаў пераўтвараліся ў купецкае саслоўе – і раз'язджаліся, і разляталіся "на вясну" з мяхамі насення.

Іх можна было сустрэць практычна ў любым кутку былога Савецкага Саюза. Кожны з гарадчукоў ездзіў на аблюбаванае ім месца дзесяткі гадоў, каб потым перадаць яго па традыцыі сваім дзецям і ўнукам. І дзеці, а потым унукі выходзілі на тыя ж агароды. І толькі кветкі год за годам

станавіліся больш прыгажэйшымі і вясёлымі – у адрозненне ад людзей, якія, жывучы паміж агародам і царквою, адыходзілі ціха ў вечны свет.

Некалі савецкія грамадзяне куплялі выключна насенне кветак, хаця ў той час прадавалі яго сціпла лыжачкамі загарэлыя на свежым паветры гарадчукі. Потым усё змянілася. Знік Савецкі Саюз, і жыхары постсавецкай прасторы і розных "незалежных" ці часткова адасобленых краёў і рэспублік, насёрбаўшыся свабоды і наталіўшыся прымітыўным капіталістычным раем, змянілі інтарэсы.

Цяпер сярэднестатыстычны грамадзянін бліжняга замежжа кветкамі агарод не засявае – жаданне абстрактна радаваць вочы прапала. Цяпер грамадзяне спадзяюцца толькі на сваю цыбулю, капусту і моркву. І шукаюць на базарах у гандляроў насенне, адпавядаючае сваім галодным патрэбам.

Так непрыкметна змянілася зацікаўленасць і гарадчукоў. І "вясна" зараз другая: менш у мяшках гандляроў насення кветак. І выгляд давыд-гарадоцкіх агародаў таксама іншы. Ужо не так зіхацяць кветкамі агароды. Мала стала кветак, згаслі вясёлкі за плотам. Сярэдні пакупнік шукае зяляніны і гародніны. І давыд-гарадоцкія земляробы вырошчваюць у сябе толькі патрэбнае – нармальны закон рынку.

Але будзе час, калі ўсё зменіцца. Наладзіцца жыццё. Больш заможнымі стануць людзі былога Саюза, і Давыд-Гарадок зноў расквітнее "Палескай Венецыяй", па словах Уладзіміра Караткевіча. І зноў морам кветак стане старажытны горад, і пахкая вясёлка з-за плоту будзе паглядаць вачамі півоняў ды мальваў.

Здавён пераходзіць з пакалення ў пакаленне ў Давыд-Гарадку нейкая дзіўная, паўднёвая любоў да гародніны, кветак, да раскошы зямлі. Ды і самі сядзібы ў гарадчукоў – узор практычнасці і высокай культуры.

Умельства ў гарадчукоў не тутэйшае. Адкуль яно? Першае, што прыходзіць у галаву – гэта ўплыў Захаду, ад рыцарскай культуры Еўропы, якая ў эпоху Рэнесансу засадзіла замкі і манастыры багатымі садамі і кветнікамі. Культ розы быў у Еўропе выключна высокім, Рыцары Алай і Белай Ружы біліся ў войнах не адно дзесяцігоддзе.

Але ж захапленне кветкамі ў Еўропе таксама не тутэйшае – вырошчваць сады і кветкі навучылі еўрапейцаў маўры (арабы): спачатку Іспанію, а потым і іншых.

Давыд-Гарадок – адзіны кветкавы горад у рэспубліцы. Напрыклад, як тая ж Галандыя – славутая на ўсю Еўропу сваімі цюльпанамі. Ад гарадчукоў і суседнія вёскі навучыліся кветкаваму "рамяству".

Кветкі ў Гарадку – не тутэйшыя. Як і ў Іспаніі без маўраў, так і тут без уплыву гасцей не абышлося. Толькі ў Давыд-Гарадку ўсё было куды прасцей.

Гэтаму ўмельству навучылі гараджан Давыд-Гарадка далёкія і нечаканыя госці – крымчакі з сонечнай Таўрыі, якія сталі для некаторых жыхароў і продкамі, даўшы ім сваю кроў, свой характар і сваё прозвішча.

І той, хто, падчас жартуючы, назаве гарадчука татарынам, мае рацыю: нярэдка і сёння тут можна сустрэць смуглявую прыгажуню с паўднёвым абліччам.

Хаця адразу папярэдзім – можна і памыліцца: нацыянальны склад давыд-гарадоцкіх жыхароў складаны. Паўднёвая постаць з чорнымі валасамі і цёмнымі, як ноч, вачыма можа паходзіць тут і ад іншых продкаў: напрыклад, запарожскіх казакаў, якія ў свой час добра асімілявaліся з туркамі.

Так што з павагай і асцярожнасцю будзем падыходзіць да гарадчука: асоба ён сур'ёзная, цікавая і загадкавая. Многа розных людзей пакінула тут свой след, таму што Гарадок Давыдаў спрадвеку знаходзіўся на славутым шляху – з варагаў у грэкі.

Зусім іншая справа была з яўрэямі. Яны з'явіліся з Еўропы, галоўным чынам з Германіі, у канцы XIV стагоддзя, ратуючы сваё жыццё і маёмасць ад інквізіцыі. Прытулкам для іх стала Польшча і асабліва Руская Літва, дзе гаспадары зразумелі, што пасяленне тут гэтых выгнаннікаў і бадзягаў прынясе эканамічную выгаду. Так яно і было.

Уцекачоў іўдзейскай веры назвалі жыдамі (ад нямецкага – юдэн), і гэтая назва была замацавана без усякай абразы ў афіцыйным заканадаўстве Вялікага княства Літоўска-Рускага, як і іншых краін.

Гэта назва яўрэйскага народа існавала на працягу некалькіх стагоддзяў, укаранілася ва ўсіх мовах Усходняй Еўропы, і самі яўрэі не грэбавалі ёю і не адвяргалі, як нешта ганебнае.

У пачату XX стагоддзя ў дэмакратычнай беларускай газеце "Наша Ніва", дзе друкавалася многа аўтараў-яўрэяў, ужывалася назва народа – жыды. Выдаўцы, у тым ліку і Янка Купала, лічылі гэта слова тутэйшым, беларускім, а слова "яўрэй" (габрэй ці габрай) – замежным, чужым.

У 1918 годзе беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля (яўрэй па нацыянальнасці) выдаў кніжку-нарыс "Жыды на Беларусі", дзе разглядае пытанні гістарычнага шляху народа, які ён сам спакойна называе яго традыцыйнай назвай.

А ў наступным годзе Янка Купала ў вершы "Жыды" пісаў:

"Калі ў Гішпаны<br>
ўзбунтаваны людзі<br>
З сваёй краіны<br>
выгналі вас напасмех,<br>
На беларускім полі<br>
вашы грудзі<br>
Навек знайшлі дняванне,<br>
страву і начлег"...

І на самой справе рассяленне яўрэяў у Рускай Літве (Беларусі) было іх выратаваннем. Паратунак яўрэяў на беларускай зямлі быў не толькі ў

іх фізічным выжыванні ад генацыду і каталіцкага фанатызму. Уратаванне яўрэяў было і ў іх сацыяльным стане: яны маглі займацца ўласцівымі справамі, згодна са звычкамі, характарам і менталітэтам.

У Княстве яўрэі карысталіся значнымі льготамі ў эканамічнай галіне, мелі сваё самакіраванне – жылі кагалам, свабоду веравызнання. Ніхто не асіміляваў іх і не ўціскаў маральна. Заўважым, што такія адносіны склаліся пры Вітаўце, які выключна мудра глядзеў на жыццё краіны, калі заклікаў і рассяляў на тутэйшых землях іншаземцаў: монанацыянальныя краіны хутчэй у гісторыі прыходзілі да выраджэння. І той жа мангола-татарскі этнас, хаця і крывавым шляхам, але значна ўзбагаціў сілы рускага народа.

Тое, што ў тыя часы імя "жыда" не было абразлівым у Рускай Літве, і кожны яўрэй быў паўнапраўным грамадзянінам на Беларусі, даказваецца вельмі проста – пры дапамозе канстытуцыі і законаў. Гвалтоўная смерць яўрэя, віноўнікам якой быў шляхціч, каралася адэкватна, аб чым сведчыць адзін з артыкулаў тагачаснай канстытуцыі – Статута 1588 года, які дзейнічаў да 1840 года:

"А если бы шляхтич убил жида и был бы пойман, то должен быть смертью наказан...

а сами жиды, если будут обвинены воеводами, старостами и державцами нашими, судимы и приговорены быть должны на основе данных им прав и привилеев...

а если они приняли христианскую веру, тогда каждая такая особа и их потомство за шляхтичей почитаться должны".

Такім чынам, кожны яўрэй-хрысціянін адразу трапляў не ў сялянскае саслоўе ці гандлярскае, і нават не ў купецкае, а ў эліту грамадства – шляхту, гэта значыць, на расійскі манер – у дваранства. Хаця па логіцы яўрэі хутчэй за ўсё былі купцамі. Але ж з такой павагай ставіліся да яўрэяў у Вялікім княстве, Рускай Літве.

У сярэдневеччы ў час войн і паўстанняў яўрэйскае насельніцтва больш за ўсё цярпела ад запарожцаў і маскавітаў. Выключную жорсткасць ў адносінах да іх праяўляла ўкраінскае казацтва.

Гэтыя дзікія адносіны да яўрэяў у апошніх захаваліся да XX стагоддзя. Аб'явіўшы сябе гетманам адраджонага казацтва Украіны Сімон Пятлюра ў 1918–1920 гадах заахвочваў масавыя пагромы.

Яўрэі жылі ў Гарадку Давыдавым здавён, і разам з усімі цярпелі ад войн, набегаў і паўстанняў. Колькасць іх тут век ад веку павялічвалася. І нішто, ніякія пажары і разбурэнні, ні казакі і ні апалячванне, не маглі вырваць іх карані з гэтай зямлі. Але так было да часу.

У 1942 годзе ўсе яўрэі Давыд-Гарадка колькасцю звыш 2 тысяч чалавек былі загублены фашыстамі – немцамі і мясцовымі паліцаямі. Пасля гэтага яўрэі, як традыцыйна вялікая абшчына горада, зніклі. А шкада. Без яўрэяў давыд-гарадоцкае асяроддзе стала больш аднамерным, маўклівым. Прапала былая канкурэнцыя, яўрэйскія крамкі, яўрэйскае май-

стэрства. Ды і што гэта за беларускае мястэчка – без яўрэяў? Яны кожнаму месцу надаюць свой каларыт, цікавую жвавасць. І мы ў Давыд-Гарадку маглі яшчэ многаму ад іх павучыцца...

Бо аднекуль у працавітым і таленавітым Гарадку з'явілася новая праблема, нечуваная раней – знікаюць рамёствы, знікаюць майстры. І хутка не будзе дзе падрамантаваць чаравікі. Ад каго будзем тады вучыцца? Якіх чакаць татар ці яўрэяў?

З іншымі нацыянальнасцямі ў Давыд-Гарадку заўсёды было аднолькава. Хаця дзяржава насіла назву Літоўскай, аднак літоўцы ні ў Гарадку, ні ў павеце не жылі і нават не было іх ні на якіх службовых пасадах.

Тое ж можна сказаць і пра палякаў. Ад канчатковага іх панавання (у сацыяльным і культурным плане яны наламалі многа дроў) стрымлівала заканадаўства Літоўска-Рускай дзяржавы. Статут забараняў іншаземцам (у тым ліку і палякам, што вельмі цікава гучыць у складзе Рэчы Паспалітай) набываць нерухомую маёмасць і зямлю на тэрыторыі дзяржавы.

Звесткі аб колькасці жыхароў горада мы знаходзім у інвентарах, пачынаючы з XVII стагоддзя.

У 1605 годзе ў горадзе налічвалася 222 дымы (гаспадаркі), колькасць насельніцтва складала звыш 1500 чалавек.

У 1631 годзе, згодна з інвентаром, колькасць двароў дасягнула 365, а насельніцтва – каля трох тысяч чалавек.

За 20 гадоў бесперапынных войнаў Беларусь панесла велізарныя чалавечыя і матэрыяльныя страты. У Пінскім павеце насельніцтва зменшылася на 43 працэнты, а непасрэдна ў Гарадку – на чвэрць. Страшэнна пацярпеў Тураў – у ім засталася толькі пятая частка жыхароў, і з гэтага часу для старажытнага і славутага Турава наступіў доўгі час заняпаду.

❖

У час існавання княства Гарадзецкага феадальны лад толькі складваўся, аднак грамадская няроўнасць існавала са старажытных часоў. Пануючай саслоўнай групай была радавая княжацкая арыстакратыя. На ступеньку ніжэй ішла служылая знаць (магнацтва), да якой адносіліся і прафесійныя воіны-дружыннікі, з якіх магнацтва спачатку і вырасла. Трэцяй саслоўнай групай былі залежныя ад князёў сяляне-абшчыннікі і гараджане-рамеснікі і купецтва.

У XV стагоддзі ў Літоўска-Рускай дзяржаве канчаткова склаўся феадальны лад. Утварыліся тры асноўныя класава-саслоўныя групы, якія адрозніваліся адна ад другой сваім сацыяльным і прававым становішчам.

Пануючым і кіруючым саслоўем была шляхта (ад нямецкага –радавітасць) – польска-літоўскае дваранства. Яно было неаднародным і па сваім сацыяльным становішчы падзялялася на магнатаў, паноў і дробную шляхту.

Да першай групы адносіліся самыя буйныя землеўладальнікі-магнаты, у тым ліку і вялікі князь (кароль). У сярэдзіне XVI стагоддзя на Беларусі было 16 магнатаў, з іх 10 – беларускага паходжання. Кожны валодаў не менш чым тысячай дамоў, а ў цэлым амаль паў-Беларусі было ў іх уладаннях – амаль палова сялянскага прыгоннага насельніцтва.

Сярод буйнейшых магнатаў былі Агінскія, Астрожскія, Глінскія, Друцкія, Кішкі, Пацы, Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Чартарыйскія.

Князі Радзівілы былі самым магутным магнацкім родам, які адзіны на Беларусі захаваў сваю велізарную спадчыннасць да канца Другой Рэчы Паспалітай ў 1939 годзе. Такой княжацкай сталіцы, падобнай Нясвіжу, ніхто з магнатаў не пакінуў пасля сябе.

Ні адзін з магнатаў не валодаў такой колькасцю гарадоў, мястэчак, вёсак. Радзівілам належалі Нясвіж, Клецк, Слуцк, Давыд-Гарадок, Мір, Лахва, Геранёны, уладанні на Польшчы і на Украіне.

З сярэдзіны XVI і да канца XVIII стагоддзя Радзівілы займалі першае месца сярод магнатаў у Рускай Літве на эканамічнаму і палітычнаму значэнню.

Яны былі адзінымі з усіх магнатаў у дзяржаве, хто валодаў маёмасцю на правах ардынацыі – непадзельнасці і неадчуджальнасці нерухомай уласнасці (землі, лясы, гарады, вёскі, прадпрыемствы) нашчадкаў толькі аднаго роду. Права на спадчыну пераходзіла да старэйшага нашчадка старэйшай мужчынскай лініі, пры гэтым малодшыя браты і жанчыны сюды не адносіліся.

У 1579 годзе князі Радзівілы Мікалай-Крыштаф, Альбрэхт і Станіслаў заснавалі тры ардынацыі – Нясвіжскую, Клецкую і Алыцкую. Уладальнікам Нясвіжскай ардынацыі стаў Мікалай-Крыштоф, Алыцкай – Станіслаў, Клецкай – Альбрэхт.

Гэта новаўвядзенне было зацверджана каралём і сеймам.

Гарадзецкае княства (так Радзівілы называлі гэта сваё ўладанне) увайшло ў Клецкую ардынацыю. На чале яе стаяў староста, якому падпарадкоўваюцца падстаросты Клецкага і Гарадзецкага княстваў.

Князь-ардынат быў уладальнікам зямлі, на якой стаяў горад. Гараджане выконвалі разнастайныя павіннасці і плацілі яму падаткі. Яны з'яўляліся патронамі ўсіх цэркваў у гарадах і на сваіх землях, лічыліся апекунамі ўсіх канфесій, і абавязваліся падтрымліваць паміж імі мірнае суіснаванне. Вышэйшай судовай інстанцыяй ардынацыі быў замкавы суд Клецка, выбіраемы шляхтай. Ён разглядваў усе віды спраў Клецкага княства.

У Гарадку Давыдавым з сярэдзіны XVII стагоддзя выбіраўся свой асобны замкавы суд – шляхтай воласці і гараджанамі.

Першым ардынатам быў сын Мікалая Радзівіла Чорнага – Альбрэхт Радзівіл (1558–1592), другім – яго сын Ян Альбрэхт (1590–1620): абодва памерлі ў маладым узросце.

Трэцім быў сын Яна Альбрэхта – Міхал Караль (1615–1666), які ў

гады войн з казакамі і рускімі страчваў і Клецк, і Гарадок. Ён прымаў удзел у барацьбе з гарадзецкімі паўстанцамі і прысутнічаў на трагічным фінале паўстання: калі гарадзецкія героі паміралі на Замкавай гары, распятыя на крыжах, прыбітыя цвікамі катаў, і яшчэ больш пакутуючы – пасаджаныя на вострыя калы карнікамі.

Наступныя клецкія ардынаты, а значыць і гаспадары Гарадка Давыдава, дбалі пра павелічэнне сваіх даходаў і асаблівымі заслугамі на дзяржаўных пасадах не вызначаліся, у адрозненне ад сваіх родзічаў – Нясвіжскіх Радзівілаў.

У 1656 годзе Алыцкая ардынацыя ўвайшла ў склад Нясвіжскай у сувязі з адсутнасцю нашчадкаў па мужчынскай лініі.

Клецкая ардынацыя перайшла да Нясвіжскіх князёў па такой жа прычыне ў 1674 годзе.

Некалькі пазней была створана асобная Давыд-Гарадзецкая ардынацыя з рэзідэнцыяй у Манькавічах (зараз у межах Століна). Яна праіснавала да 1939 года.

❖

Да сярэдняй групы шляхты адносіліся паны. Тытул "пан" – польскага паходжання. Спачатку ён прымяняўся да феадалаў, якія знаходзіліся на дзяржаўнай службе.

Пазней тытул пачаў выкарыстоўвацца да шляхцічаў, якія мелі прыгонных сялян. Былыя дружыннікі ўдзельнага князя, служылыя людзі магната, найбольш заможная частка землеўладальнікаў сталі панамі.

Простыя людзі на Беларусі называлі панамі чыноўнікаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, наогул чалавека, які знешне, нават па адзенню, адрозніваўся ад звычайнага селяніна ў світе і лапцях.

Зараз слова "пан" у Польшчы і на Украіне з'яўляецца зваротным шанавальным словам, аналагічным замежным зваротам – "містар", "сэр", "месье", "гер" ці беларускаму "спадар".

Атрыманне шляхецтва пацвярджалася граматамі, дадзенымі вышэйшымі органамі ўлады – соймам і вялікія князем (каралём).

Шляхецтва было спадчынным. Гэта было ваеннае саслоўе, яно несла ваенную службу, а ў час вайны абавязана было ўдзельнічаць у "паспалітым рушэнні".

Юрыдычна ўсе шляхцічы мелі аднолькавыя правы: шляхціч не мог быць пазбаўлены свабоды без суда, меў права ўдзелу ў выбарах і мог быць выбраным у дзяржаўныя органы ўлады, меў права на свой герб, не плаціў падаткі.

Аднак у жыцці ўсё было не так: шляхціч-магнат з палацамі і маёнткамі быў зусім не адно і тое ж, што палеская "засцянковая шляхта", якая ад сялян адрознівалася можа толькі дранымі чобатамі.

Прадстаўнікоў сярэдняй шляхты ў Гарадку было мала. Гэта былі войт,

начальнік Замка – гараднічы, падстароста, як прадстаўнік князя, і, магчыма, суддзі.

Затое нямала было дробнай шляхты. У XV–XVI стагоддзях яны называліся баярамі альбо зямянамі. Гэта былі дробныя землеўладальнікі, якія па сваім матэрыяльным узроўні былі падобны на заможных сялян, і наогул падтрымлівалі сваё жыццёвае становішча толькі тым, што як шляхцічы не плацілі падаткаў.

Частка баяр называлася панцырнымі. Ад сялян яны адрозніваліся толькі тым, што былі пастаянна ваеннаабавязанымі. І, між іншым, тая дробная шляхта выкарыстоўвала свой удзел у ваенных дзеяннях і іншых збройных мерапрыемствах для асабістага ўзбагачэння. Гэтыя людзі жылі з прынцыпу – ці пан, ці прапаў, і самі шукалі вайны і ад яе – выгод. Такіх "рыцараў удачы", чый жыццёвы поспех залежаў ад шпагі і мушкетона (варыянт пісталета), у той час было многа ў Еўропе. Па сутнасці, гэтыя людзі жылі старадаўнімі традыцыямі дружыннікаў пры сваіх князях.

Дробная шляхта з'явілася, галоўным чынам, па волі магнатаў, якія пераводзілі ў гэта саслоўе за асабістыя заслугі – лепшых сельскіх старост, што вызначыліся на вайне, нарэшце, лепшых гаспадароў.

Практычна, шляхцічы былі ў кожнай вёсцы. У выніку аграрнай рэформы на аснове "Уставы на валокі" з'явілася засцянковая шляхта, якая больш цягнула на тое, каб звацца проста хутаранамі.

Паводле трохпольнага севазвароту, зямля разбівалася на тры полі з вызначанымі межамі – сценамі. Пасля абазначэння межаў за "сценамі" заставаліся адрэзкі – засценкі, якія здаваліся ў арэнду дробнай шляхце, дзе яна стварала свае сядзібы. Такія кавалкі зямлі, раскіданыя выпадкова, прыводзілі да стварэння хутароў.

❖

Пасля шляхты на другім месцы было свабоднае саслоўе мяшчан (ад польскага слова "място" – горад), якіх, інакш кажучы, можна было назваць проста гараджанамі.

Саслоўе склалася да сярэдзіны XV стагоддзя. Яго юрыдычнае афармленне было здзейснена ўжо першым Статутам Княства 1529 года. Да мяшчан адносіліся жыхары гарадоў – рамеснікі, гандляры, домаўласнікі, ліхвяры – тыя, хто давалі грошы і рэчы ў пазыку пад працэнты

Мяшчане мелі права выбіраць свае кіруючыя органы, судзіцца са шляхтай: у час вайны абавязаны былі з'яўляцца ў войска.

Мяшчане былі падатным саслоўем: плацілі падымное, ардыншчыну, выконвалі дзяржаўныя падводныя (транспартныя) абавязкі. Мяшчанства было спадчынным.

Першыя жыхары Гарадка Давыдава былі дружыннікамі і сялянамі. І першымі жыхарамі ўзнікшага вакол Замка горада былі сяляне. Аднак патрэбы Замка, будаўнічыя і абарончыя, стымулявалі рамесніцтва, і ўжо

з пачатку XV стагоддзя ў горадзе з'яўляюцца майстры розных прафесій – і, безумоўна, гандляры, якія аб'ядноўваліся ў свае прафесійныя групоўкі, накшталт еўрапейскіх цахоў.

Гарадзецкія мяшчане плацілі падаткі ўладальніку горада князю Радзівілу, выконвалі замкавыя і дарожныя павіннасці.

Усе яўрэі Гарадка былі залічаны ў саслоўе мяшчан.

Усе мяшчане, за выключэннем яўрэяў, мелі зямельныя надзелы, якія яны арандавалі ва ўладальніка ўсёй гэтай зямлі – свайго ардыната князя Радзівіла.

Аб чым гэта сведчыць? Аб тым, што яўрэі трымаліся сваім кагалам, маючы свайго рэбэ ў Пінску, дзе ў яго былі вялікія апартаменты. А ў мяшчанскім асяроддзі не было палякаў, якім забаранялася мець зямлю.

Першымі крыніцамі харчавання палешукоў было збіральніцтва ў лесе і полі, паляванне і рыбалоўства. Здаваліся невычарпальнымі рыбныя запасы рэк і азёраў, незлічонае птаства закрывала вясною і восенню ўсё неба, мноства разнастайных звяроў насяляла бясконцыя пушчы.

Рыба і дзічына не толькі кармілі тутэйшае насельніцтва, але давалі і прыбытак ад гандлю гэтым таварам. Не хутка сталі гандляваць русічы, у адрозненне ад сваіх суседзяў, прадметамі вытворчасці – гандлявалі багаццямі тутэйшай прыроды.

Выключнае гаспадарчае значэнне мела бортніцтва. У гады яго росквіту ў XVI стагоддзі гэты промысел на Беларусі даваў паўмільёна пудоў мёду штогод. Зразумела, што адначасова ішоў значны гандаль воскам.

Яшчэ не так даўно, да вайны, калодныя вуллі можна было сустрэць даволі часта ўсюды на тэрыторыі Палесся, у тым ліку і ў раёне Давыд-Гарадка. Другая сусветная вайна не так сапсавала прыроду, як змяніла быт і былыя звычкі людзей. Куды больш нашкодзіла прыродзе і людзям такая зручная на першы погляд цывілізацыя ў апошнія паўстагоддзя: уся гэта навукова-тэхнічная рэвалюцыя з яе меліярацыяй, хімізацыяй і гэтак далей.

Ніяк мы не паразумнеем, каб абысціся без рэвалюцый. Вось і не стала бортніцтва на Палессі – і ці яго аднаго?

Аднак яшчэ ў XV стагоддзі ўлады і грамадства Гарадка Давыдава таго часу заўважылі, што прыродзе наносіцца шмат шкоды, і яна, такая невычарпальная, пачала беднець. Можна ўявіць, які гэта быў важны крок у свядомасці людзей!

Пачынаюць выдавацца законы аб рэгуляванні высечкі лясоў, лоўлі рыбы, палявання на дзічыну.

У 1538 годзе быў прыняты закон "Аб захаванні лясоў і палявання". У 1541 годзе створаны першы заказнік для аховы зубраў у Белавежскай пушчы.

Паляванне пачало пераходзіць пад кантроль дзяржавы. У гэтым сэнсе выключную цікавасць прадстаўляе своеасаблівы твор вялікага княжацкага лоўчага (адказны за паляўніцтва) Рыгора Валовіча. "Ревизия пущ и

переходов звериных в Великом княжестве Литовском с присовокуплением грамот и привилегий на входы в пущи и на земли"...

Гэта падрабязнае апісанне 39 найбольш значных пушчаў, якія выкарыстоўваліся для палявання.

У кожнай пушчы абазначаны звярыныя пераходы, дадзена агульная характарыстыка лесу і паляўнічай гаспадаркі. Гэта фактычна геаграфічны дапаможнік і біялагічны даведнік жывёльнага свету з інструкцыяй па рэгуляванню паляўніцтва на асобныя віды звяроў.

Адзначым, што людзей пакуль цікавяць только звяры, і сярод іх у першую чаргу толькі самыя буйныя. Стан птушынага царства тады нікога не займаў – гэтае багацце здавалася невычарпальным, ды людзі і не ведалі, улічваючы адлёты птушак у вырай, як можна рэгуляваць іх колькасць.

Не будзем наіўнымі, грамадская думка тады не абганяла свайго часу, і ніякай вялікай філасофіі і тым больш філантропіі ў гэтых прыродаахоўніцкіх пастановах няма. Шляхта не так дбала аб экалогіі, як аб сваіх прывілеях на добрае паляванне. У гэтым быў асобны гонар, але і каштоўны здабытак – шляхта любіла шчодрыя піры. Лясы належалі каралю і магнатам, таму яны, як уласнікі, дбалі аб сваёй маёмасці. Вядома, гэта было на карысць беларускай прыродзе.

Вось вытрымка з "Ревизии", якая характарызуе адзін з пераходаў дзікіх жывёл з поўдня на поўнач каля Давыд-Гарадка:

"Почавши от Киева, тою стороною, которою зверье идет, обопол реки Припяти ку Чернобюлю, ку Мозыру, ку Турову, ку Городку Давыдову и Дубровицы, через Дубою, межи Стахова и Парохонска, через Припять и реку Ясельду и Лахвенскую пущу и Пинскую примаючи"...

Хто ведае, што засталося ў наш час ад тых звярыных пераходаў? І хутчэй за ўсё, і звярыны шлях знік у даўніне, як чалавечы шлях з варагаў у грэкі.

Не меншую цікавасць уяўляе і такі дакумент, выдадзены ў Княстве некалькі раней:

"Бона Божьей милостью королева Польская, великая княжня Литовская, Руская, Прусская, Жемойтская, Мозовецкая и инщих.

Били нам чолом подданные наши городецкие – Сергей, Иван, а Гринь Ходаровичи...

установили старшими над всеми бобровниками тамошними городецкими одного с потужников их на имя Ходари Копия. И кождый год в Велице дни (Вялікдзень – ад аўт.) по 70 грошей, а о Божьем народжены (Ражаство Хрыстова – ад аўт.) горностая, и на то если тым подданым нашым дали наш лист под нашеею печатью.

Писан в Кракове.

Под лета Божьего народження 1554, месяца ноября 18 день".

Жонка караля Жыгімонта I каралева Бона была буйнейшым землеўладальнікам: у тым ліку, ёй належалі землі і лясы былога Гарадзецкага

княства. Вышэйназванай граматай устанаўліваліся абавязкі адной з найбольш значных катэгорый паляўнічых – баброўнікаў, якія разам з бортнікамі карысталіся асаблівай увагай сваіх гаспадароў.

Часта бортнікі і баброўнікі займаліся яшчэ нарыхтоўкай драўлянага вугалю і смалы. Смалакурні існавалі ў некаторых маёнтках.У XVI стагоддзі ў Гарадку ўпамінаецца бровар, які існаваў да канца XIX стагоддзя і быў закрыты пасля заснавання завода ў Манькавічах (Століне). Гарадзецкі бровар быў звычайным для таго часу: драўляны будынак з мураванымі печамі і катламі. Знаходзіўся ён бліжэй да ракі Гарыні – ля Дольнага замку – вінакурні тады будавалі ля вады.

Заўважым, што ў інвентарах пастаянна адзначаецца, што Замак патрабуе ўвагі і клопату гараджан. Бровар у спісы аб’ектаў, па якіх ёсць заўвагі, не трапляе. Значыць, сваю вінакурню гарадчукі даглядалі і трымалі яе ў належным стане, хаця, вядома, бровар ад войнаў, штурмаў і набегаў розных гасцей цярпеў многа ліха. Але, трэба думаць, жыхары адбудоўвалі яго ледзь не ў першую чаргу. Бо хто ведае жывы характар гарадчукоў, разумее, што без шынка чалавеку жыцця няма – ні ў сівую даўніну, ні зараз.

Цяпер свайго бровара тут няма. І шкада, што жыхар ці госць Давыд-Гарадка не можа сталіць смагу куфлем “гарадзецкага” ці “гарынскага” піва, альбо выпіць на здароўе кілішак гарэлкі з назвай “Князь Давыд”.

❖

Спрадвеку жыхары Гарадка Давыдава былі слаўнымі віцязямі, добрымі воямі, смелымі казакамі, мужнымі паляўнічымі і ўдачлівымі рыбакамі. Але асаблівую славу Давыд-Гарадку прынесла рамяство і гандаль.

Самы старэйшы дакумент, у якім упамінаецца Гарадок як гандлёвы населены пункт, маючы камору (мытню), адносіцца да 1480 года. Прывядзем вытрымкі з яго. Гэта грамата вялікага князя Казіміра IV мінскаму купцу Лукашу Церашковічу аб дазволе весці бязмытны гандаль у межах Княства:

“Казимир Божью милостью, князем нашим, и паном, и наместником, и тивуном, и бояром, и мытником, и всим закизником тот наш чоловек, мещанин менский Лука Терешкович торгует нашим дубасом (судна пад’ёмнасцю 150 тон – ад аўт.) бобруйским... а от того нам прибытку дает. И вы бы от нашего дубаса мыта не брали бы. Есте в Глуску, в Луцку, в Вострозе, в Дубровицы, в Городку, в Турове, в Пинску, в Берестьи, в Ковне, в Менску, в Смоленску, в Орши, в Могилёве, в Вязме, в Браньску, в Чернигове, в Киеве, в Житомири, в Мозыри... по всим нашим мытом, и по князским, и по панским, и по боярским сухим и водою. А которые бы через наш лист силу ему чинити, а мыто взяти от нашого дубаса и от его комят, тот нам великую вину заплатить.

Писан у Вильни, мая 5 день, индикт 6”.

Вялікакняжацкі дубас быў, відавочна, "дубам" – як называлі палешукі судны, выдаўбленыя з аднаго дрэва. Такі дуб быў знойдзены ў 1966 годзе на дне Гарыні ля Давыд-Гарадка. Гэта судна палескага сярэднявечча было цалкам выдаўблена з сямісотгадовага дуба, як вызначылі вучоныя. Даўжыня яго складала 13 метраў, найбольшая шырыня – 2,6 метра. Гэта адзіная такая знаходка на тэрыторыі Беларусі.

Знайшлі гарадзецкі дубас ля ўрочышча Хабішча, дзе непадалёк знаходзіўся і той падкаморак з мытнікамі. Чаму ён быў затоплены і як змог захавацца на дне Гарыні, зараз адказаць нельга. Сляды гарадзецкага дубаса згубіліся.

Такія гандлёвыя граматы – цікавыя гістарычныя сведчанні аб тагачасным жыцці.

У папярэдняй главе аб Замку ўказвалася, што важнейшымі дакументамі, якія характарызавалі сацыяльна-эканамічнае становішча Замка і горада, былі інвентары. Але яны захаваліся толькі з пачатку XVII стагоддзя і праводзіліся рэдка.

Таму звернемся да грамат вялікіх князёў і ўдзельных, якія былі звязаны з жыццём горада і краю.

Некаторыя з іх ужо прыводзіліся, аб іншых будзе сказана ніжэй.

У нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваюцца дакументы па гісторыі Столінскага раёна з 1503 года. Сярод іх самыя буйныя фонды тычацца менавіта Давыд-Гарадка.

Гэта эканамічныя і юрыдычныя дакументы да Давыд-Гарадоцкай ардынацыі 1521–1837 гадоў і інвентары Гарадзецкага княства (так называлася частка ардынацыі) 1840–1916 гадоў.

Усе гэтыя дакументы сведчаць аб паступальным эканамічным, сацыяльным і культурным росце Давыд-Гарадка. З папярэднім дакументам звязаны і наступны, які гаворыць аб удзеле Гарадка не толькі ва ўнутраным, але і міжнародным гандлі.

Кароль (вялікі князь) Жыгімонт I з мэтай даць магчымасць сваёй жонцы Боне, уладальніцы Давыд-Гарадка, атрымліваць большы прыбытак ад мытных збораў, выдаў у 1540 годзе ўстаўную грамату Гарадзецкаму замку аб пропуску замежных купцоў шляхам толькі праз Гарадок.

У грамаце, у прыватнасці, гаворыцца:

"вси купцы турецким и волоским (малдаўскім – ад аўт.) и всякии иншыи наших и чужых, которых кольвек земель, которыи бы мели с товары свои ходити во паньствах наших, а шли бы через Городок и через повет Городецкий сухим путем и воденым, то есть рекою Припетью, Ветлицею и Горынью платить мыто 4 гроши"...

У пачатку XVII стагоддзя, згодна з інвентарным перапісам у Гарадку было 222 дымы (падатковыя гаспадаркі). Калі ўлічыць, што сем'і ў той час былі немалымі (ад чатырох да шасці дзяцей ў сярэднім), і ў адным дыме маглі пражываць не толькі бацькі з дзецьмі, але і дзяды, і да

свайго аддзялення дарослыя, і ўнукі, то задача падлічыць гарадчукоў атрымліваецца складанай. Але возьмем колькасць жыхароў дома за восем чалавек: тады агульны лік жыхароў горада будзе каля двух тысяч чалавек. Гэта толькі адзін варыянт разлікаў.

Калі ж мы падкрэслім у лічбах, што старадаўняя сям'я складалася з трох пакаленняў, тады яна будзе дасягаць пятнаццаці чалавек. Карціна атрымліваецца другая. І Гарадок вырастае ўдвая.

Кожны інвентар характарызуе жыхароў горада, замкавых служачых розных прафесій.

У другой палове XVII стагоддзя ў Гарадку была наступная структура рамесніцтва:

1. Дрэваапрацоўка і будаўніцтва – 9;
2. Вытворчасць прадуктаў харчавання – 8;
3. Кавальская і збройная справа – 7;
4. Ткацтва і выраб адзення – 2;
5. Скураная і футравая справа – 2;
6. Транспартная справа – 1;
7. Іншыя прафесіі – 3.

Такім чынам, тут налічвалася 32 спецыяльнасці дзевяці розных прафесій. Калі ўлічыць, што ў той час кожны быў майстрам на ўсе рукі, ад селяніна да мяшчаніна, і паняцця вузкай спецыялізацыі, як сёння, не існавала, то атрымліваецца цэлы букет прафесій. Аднак гэта быў не рубеж.

Для параўнання адзначым, што ў гэты час колькасць спецыяльнасцей у прыватнаўласніцкіх гарадах Радзівілаў была такая:

у Слуцку – 66, Міры – 49 (як і ў Шклове), Нясвіжы – 45, за імі ішоў Гарадок – 32.

З тых прафесій, якіх зараз няма, нагадаем рамеснікаў, якія займаліся збройнай справай. Вышэйпрыведзеная табліца паказвае, што збройнікаў было сем спецыяльнасцей. Самымі старажытнымі з іх былі лучнікі, плавільшчыкі руды і кавалі, пазней з'явіліся пушкары і ліцейшчыкі.

Значны штуршок у развіцці рамесніцтва далі яўрэі, аб чым справядліва пісаў Змітрок Бядуля ў сваёй кніжцы "Жыды на Беларусі":

"...Гандаль і рамёствы ў нашым краі развівалі жыды. І трэба сказаць, што ў гэтым кірунку яны досыць ажывілі наш край. Кавалі, шаўцы, краўцы былі людзі першай важнасці і пашаны ў вёсках. Дзякуючы пасрэдніцтву ўсюды бываючага жыда-скупшчыка, селянін збываў на месцы ўсе свае прадукты"...

Аб гэтым пісаў і А. І. Луцкевіч у сваёй рабоце "Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры", выдадзенай у 1921 годзе.

І на самой справе, сваё славутае майстэрства гарадзецкія краўцы, шаўцы і некаторыя іншыя рамеснікі ўдасканальвалі дзякуючы майстрам-яўрэям, але ж яны і пераўзышлі пазней у майстэрстве сваіх колішніх настаўнікаў.

Рамеснікі аб'ядноўваліся ў свае прафесіянальныя суполкі – цэхі.

На жаль, цэхавыя дакументы не захаваліся. Толькі ў інвентары Гарадка 1670 года згадваецца цэхмістр шаўцоў Андрэй Быблік, а ў 1692 годзе цэхмістр рыбакоў без указання прозвішча.

Рамеснікаў нізкай кваліфікацыі называлі тады партачамі, а маламаёмасных – гультаямі.

Калі з усіх прафесій вылучыць тыя, якімі гарадзецкія майстры славяцца і зараз, то гэта – цесляры, печнікі, бондары, лодачнікі, шаўцы і краўцы. Майстроў з Давыд-Гарадка і зараз запрашаюць будаваць асабістыя дамы не толькі жыхары мясцовай акругі, але і даволі аддаленых месцаў, у тым ліку і Брэста.

А калі глянеш па Давыд-Гарадку, то тут амаль кожны – рамеснік: ці па факту, ці па старажытнаму паходжанню, аб чым сведчаць прозвішчы і мянушкі.

І такія прозвішчы, як Бондар ці Бандарэнка, Ганчар ці Ганчарык, Гарбар, Кавалец ці Кавальчук, Мельнік, Партач, Рымар, Стэльмах, Ткачык ці Ткач, Цяслюк і многія іншыя нагадваюць тым, хто іх носіць, чым займаліся іх продкі.

З другой паловы XV стагоддзя Гарадок становіцца важным месцам гандлю валынска-палескага рэгіёну.

Таварам былі перш за ўсё харчовыя прадукты – збожжа, мясныя вырабы, рыба розных гатункаў, дзічына, мёд, грыбы, ягады, а таксама жывёла, пушніна, разнастайныя вырабы рамеснікаў.

Нам сёння ўжо цяжка ўявіць, якая гэта была вялікая справа – быць у тыя часы месцам пастаянных кірмашоў! У наша стагоддзе мы проста закормлены інфармацыяй з каляровых экранаў тэлевізараў, радыё, са старонак газет і проста ад багацця і інтэнсіўнасці самога жыцця. Нам нават хочацца спакою і адзіноцтва.

У тыя часы зямля была адносна маланаселенай, а тым больш наша глухаватае і дзікаватае сваімі пушчамі і балотамі Палессе. Тады людзям наадварот хацелася мець зносіны, якіх не хапала. І месца кірмашоў і вялікіх базараў услаўлялася і развівалася, як самае карыснае для людзей.

Кірмаш тады быў сапраўды грандыёзнай з'явай: і сродкам зносін, і школай жыцця, і выставай дасягненняў народнай гаспадаркі, і тэатрам, і месцам, куды сцякаліся самыя апошнія навіны.

Хаця і сёння базар ці кірмаш ў Давыд-Гарадку святочнае мерапрыемства, дзе гарадчук распраўляе плечы і высока трымае галаву. Бо для яго, як і для продкаў пяцьсот гадоў таму, удзел у базары – прадмет гонару, аўтарытэту і прафесіяналізму.

Базар, як і той усход, – справа тонкая.

Зараз гандлёвыя рады з дзесяткам магазінаў ля кінатэатра "Зара" зусім не тое, што было некалі: гэта – цень ад былога росквіту.

Справа ад уваходу ў Замак знаходзілася Гандлёвая плошча, якая злучалася з Лучнікоўскай вуліцай. Яна была агароджана, мела спецыяльны ўваход, які быў замкнёны ў негандлёвы час.

У 1691 годзе на плошчы было 67 крамаў: па адной з іх валодалі 59 мяшчан, тры належалі магнацкаму двару, па адной мелі ксёндз, уніяцкі пратапоп і два яўрэі.

Як мы бачым, праваслаўныя святары сваіх крамаў не мелі. Але хутчэй за ўсё не таму, што былі бедныя, проста не было патрэбы. Давыд-Гарадок заўсёды быў традыцыйна-праваслаўным горадам. І сваіх бацюхнаў гараджане падтрымлівалі, як належыць: таму ў іх не было патрэбы гандляваць на плошчы. У каталікаў і ўніятаў справы выглядалі горш.

Інвентар 1760 года быў складзены праз тры гады пасля вялікага пажару, які знішчыў большую частку горада. У дакуменце даволі падрабязна даецца план забудовы Гандлёвай плошчы на сродкі магната князя Мікалая Юзафа Радзівіла.

Плошча знаходзілася на ранейшым месцы. Яна мела чатыры уваходы, галоўны – з паўднёвага боку, з цэнтра горада.

У цэнтры было пабудавана 50 крамаў драўляных, пакрытых драніцай і размешчаных квадратам. Яны былі прызначаны для продажу рамеснікам і гандлярам.

За 70 гадоў, якія прайшлі ад старога інвентара, многае змянілася ў Гарадку. 39 крамаў былі ўжо прададзены гандлярам-яўрэям, астатнія былі куплены пазней мясцовымі гараджанамі.

Фактычна кожны рамеснік спачатку быў і гандляром. Выробленую прадукцыю ён прадаваў сам. Вось чаму гэта пацвярджае і інвентар:

"...Весь люд в этом городе занимается купечеством и торговлей и от поездки челном наиболее доходы себе ищет"...

Аб чым гэта гаворыць? Гарадзецкія рамеснікі не мелі сваіх крамаў ці не жадалі аддаваць свой тавар на месцы, за тую цану, якую тут давалі, – і грузіліся ў чаўны. Гарадчукі мелі свой гонар, але ўпартыя яўрэі выціскалі іх з Гандлёвай плошчы.

Звернем увагу на яўрэяў, якія, як мы бачым, ужо выціснулі з рынка і ксяндза, і папа-ўніята.

Сваю дзейнасць у Гарадку яны пачалі рамеснікамі – і высокага класу, а праз стагоддзе значная частка іх стала займацца толькі гандлярствам. Аб гэтым сведчыць факт куплі большай часткі новых пасля пажару крамаў толькі яўрэямі. Цікава, што пасля пажару, ад якога пацярпелі ўсе, сродкі знаходзяцца менавіта ў яўрэйскіх рамеснікаў. Дапамагала, мабыць, тое самае яўрэйскае золата, хоць невялічкі кавалачак якога павінен быў мець з даўніх пор па звычцы і закону кожны іўдзей.

З цягам часу, ужо ў складзе Расійскай імперыі асноўная частка фінансава-прамысловага капіталу заходніх губерняў знаходзілася ў руках яўрэйскай буржуазіі, якой сталі колішнія рамеснікі, бежанцы з Заходняй Еўропы.

З XV стагоддзя на Беларусі і Украіне ў прыватнаўласніцкіх гарадах пачалі будавацца бровары.

Правам вытворчасці і продажу (шынкарствам) спіртных напояў валодала выключна шляхта. Вядома, гэта былі магнаты, бо справа была звышпрыбытковая.

У кожным горадзе былі бровары, там жа адкрываліся гаспадарамі і харчэўні, якія называліся карчмамі, а месцы, дзе прадавалася гарэлка – шынкамі. Паступова яны ператвараліся ў заезджыя двары, дзе аказваліся падарожныя паслугі, і былі гасцініцы.

Аднак, адкрыўшы карчму, шляхта фанабэрыста лічыла ганебным займацца абслугоўваннем праезджых і здавала карчмы ў арэнду. Арандатарамі-карчмарамі станавіліся ў большасці яўрэі. Яны былі добрымі эканамістамі і гаспадарамі, маглі размаўляць і з уладамі, і з наведвальнікамі.

Для лепшага вядзення справы яўрэі пачалі адкрываць карчмы з дазволу ўлад на праезджых месцах, на кірмашах – часовыя палаткі, і пастаянныя на гандлёвых плошчах і, нават, у вёсках. Харчэўні яўрэяў цікавілі менш: яны імкнуліся гандляваць там, дзе дазвалялася ў продажы гарэлка – у шынках. І гаспадарам, і шынкарам гэта давала значныя прыбыткі.

Шкада, што нам нічога невядома аб гарадзецкіх шынках. Шкада і забытых традыцый: ніводнага шынка сёння ў Давыд-Гарадку няма. "Закусачная" ці "сталовая" – гэта толькі прафанацыя, як кажуць, жанра. І як бы ўпрыгожыў гарадское жыццё каларытны гарадзецкі шынок – з беларускімі традыцыямі, па народнаму аздоблены, з палескімі стравамі – гарынскаю рыбкаю і старажытнымі, на мёдзе напоямі.

❖

Гарадок вырас на астравах ракі Гарынь, у нізіннай мясцовасці, дзе амаль кожны год адбываліся вялікія паводкі. Мясцовым жыхарам добра вядомы разбуральныя дзеянні Гарыні апошніх дзесяцігоддзяў. Аднак калі прырода падчас і дае аб сабе ведаць, дык ўвогуле – не катастрафічна.

А ў тыя часы Палессе вясной, а часам і не толькі вясной, было Герадотавым морам. Вось чаму спрадвеку значную частку свайго жыцця палешукі праводзілі на вадзе ў лодках, якіх у кожнага гаспадара было не менш двух-трох рознай грузападымальнасці і прызначэння.

Яшчэ ў пасляваенныя гады сустракаліся дубы-лодкі, выдаўбленыя майстрамі, як гаворыць назва, з аднаго ствала дуба. Лодкі выкарыстоўваліся ў гаспадарчых работах – дровы, сена, рыбалоўства, паляванне, перавоз, і ў гандлі.

Гарадскія астравы былі злучаны мастамі: іх было ў горадзе звыш дзесяці. Паступова колькасць іх скарачаецца, інвентар 1724 года нагадвае толькі пяць. Галоўным з іх быў Гарынскі – які злучаў правы бераг Гарыні з левым, гарадскі квартал на якім называўся – Мельнікі.

Горад разрастаўся, а мастоў станавілася менш. У чым справа? У характары гарадчукоў, якім не вельмі хацелася, як жыхарам Амстэрдама

ці Санкт-Пецярбурга, жыць на астравах. Гарадчукі былі гаспадарамі і жадалі жыць на цвёрдай глебе. Таму водныя рукавы перараzаліся грэблямі і асушаліся.

Сёння Давыд-Гарадок перасякаюць Гарынь ды Сежка. А некалі паўГарадка жыло на вадзе і кожную вясну па вушы плавала ў вадзе. Вось чаму такія багатыя гарадоцкія агароды: яны знаходзяцца на глеі асушаных рачных рукавоў. Шмат стагоддзяў гараджане змагаліся з наступаючым Герадотавым морам і – і ўрэшце адолелі яго.

Праз Давыд-Гарадок праходзіў галоўны палескі шлях Пінск–Тураў. Ён быў, як і ўсе дарогі таго часу, грунтовым, вясною і восенню цяжка праезджым. Прырода наогул давала многа работы жыхарам Давыд-Гарадка, якія павінны былі круглы год дбаць пра пад'езды і выезды, пра наваколле.

На палескіх дарогах было мноства грэбляў і безліч мастоў. Для іх рамонту і пастаяннага догляду існавала павіннасць і ў гарадах, і ў сельскай мясцовасці – шарварак. Кожны двор павінен быў адпрацаваць з канём да 24 дзён у год.

Забудова горада ішла ўдоўж пінска-тураўскага шляху, які ў межах горада стаў вуліцай (зараз Савецкая). Бакавыя забудовы рабіліся бессістэмна; планавае будаўніцтва пачалося ў XVII стагоддзі.

Зямля належала магнату, аднак гараджане карысталіся ёю на пастаянных арэндных умовах, мелі свае сядзібы і займаліся сельскай гаспадаркай.

Сядзібы гараджан мала чым адрозніваліся ад сялянскіх. У звычайную сядзібу ўваходзіла хата, гаспадарчыя пабудовы і садова-агародны ўчастак.

Хаты ўсе будаваліся з драўляных брусаў хвоі, дуб выкарыстоўваўся ў якасці падмуркаў і шулаў. Дах быў у асноўным чаротавым, з XVI стагоддзя – часта гонтавы.

Хата рамесніка адрознівалася ад сялянскай тым, што яна была шматпакаёвай: акрамя жылога пакоя тут была майстэрня, а ў некаторых невялічкая крама. Уваход у хату ішоў праз сенцы, дзе была камора – сховішча харчовых запасаў. У большасці хат жылы пакой быў адзін, дзе значную плошчу займала цагляная руская печ. Падлога была драўляная, вокны невялікія, зашклёныя. Агульная плошча хаты звычайна складала 30–60 м$^2$.

З мэблі былі адзіны стол, доўгія лавы ўздоўж двух сцен для сядзення, на ўзроўні печы – палаткі для адпачынку. Усё драўлянае – самаробнае.

Асвятляліся хаты лучынай – смалістымі тонкімі трэскамі спецыяльнай апрацоўкі, месца для якіх знаходзілася на прыпечку, дзе была выцяжка дыму праз комін. Адным словам, звычайная хата, якая і сёння часта выглядае менавіта так.

Агонь здабывалі крэсівам. Гэтая жыццёваважная прылада складалася з крэменю, красала і губкі. Металічным лязом – красалам высяка-

лася з крэменю іскра, якая падпальвала губку – нагадваючы вату, вывараны і высушаны дрэвавы грыб. Крэсіва трымалі ў скураным мяшочку і насілі ўсе дарослыя мужчыны на поясе з левага боку.

Гаспадарчымі пабудовамі былі хлеў, гумно, варыўня, склеп.

Адзенне і абутак былі выключна ўласнай вытворчасці. У кожнай сям'і абавязкова былі кросны – ткацкі станок; усе жанчыны без выключэння валодалі гэтым рамяством, а, падчас, і некаторыя мужчыны. Хатнім ткацтвам займаліся зімою ў Піліпаўскі пост да Каляд.

Мужчыны-гарбары апрацоўвалі скуры хатніх і дзікіх жывёл. Яны сяліліся каля ракі, таму што, як і для бровара, у гарбарстве патрабавалася многа вады. Праца гарбара была цяжкая, але ганаровая і заможная.

Ніжняе адзенне ў гарадчукоў было палатняным, верхняе – шарсцяным і скураным. Зімою ўсе без выключэння насілі кажухі, самым распаўсюджаным абуткам былі лапці: у горадзе з'яўляюцца мужчынскія боты і жаночыя шнуроўкі.

Новыя бытавыя змены адбываліся паступова і даволі працяглы час. Яны ішлі дзякуючы гандлёвым сувязям Давыд-Гарадка са сваімі суседзямі і аддаленымі мясцінамі сваёй і замежных краін.

❖

Галоўны ўплыў на развіццё культуры, асветы, мастацтва ў сярэдневеччы аказвала рэлігія. Народы ўсходняй Еўропы, у тым ліку і будучыя беларусы, былі выключна праваслаўнымі. З утварэннем Літоўска-Рускай дзяржавы пасля Крэўскай уніі пачало распаўсюджвацца, а дакладней, насаджацца каталіцтва, а праз дзвесце гадоў, пасля ўніі Брэсцкай, тым жа шляхам пайшло ўніяцтва. З канца XIV стагоддзя з'яўляюцца вернікі мусульманскай і іўдзейскай рэлігій.

Адзначым адразу, што афіцыйныя адносіны на дзяржаўным узроўні да мусульман і іўдзеяў не мелі такога ўціску з боку пануючай каталіцкай дзяржаўнасці і ваяўнічай каталіцкай царквы, як да праваслаўных, хаця менавіта праваслаўная вера была тутэйшай.

Праваслаўны Давыд-Гарадок, як ужо гаварылася, меў чатыры царквы. Усе яны былі размешчаны ў такіх месцах, каб нават у перыяд паводкі, які звычайна прыпадаў на Вялікі пост, жыхарам асобных вуліц, пацярпеўшых ад вясенняга разводдзя, было лягчэй да іх дабірацца. На царкоўных службах было шматлюдна, хадзілі сем'ямі.

Нядзеля і сёння ў Давыд-Гарадку дзень асобы, святочны. На гандлёвай плошчы каля царквы збіраюцца прыгожа апранутыя людзі, каб пагаманіць, падзяліцца навінамі. Так было і шмат стагоддзяў назад. У самыя горкія часы праваслаўе, у якім ёсць асобы святочны настрой і даволі многа святаў, падтрымлівала ў людзях бадзёры дух, пачуццё сваёй высокай годнасці.

Свайго гонару і жыццёвага поспеху гарадчукі не страцілі за стагоддзі багатай і драматычнай гісторыі, дзе хапіла ўсяго – дзякуючы менавіта сваёй царкве і сваёй веры.

Гарадчукі заўсёды, як і зараз, шанавалі святы, з павагай ставіліся да традыцыйнага рэлігійнага календара і дапаўнялі яго сваімі прафесійнымі і бытавымі звычаямі.

На цёплага Аляксея 30 сакавіка адзначалі свой дзень рыбаловы, на Юр'я 6 мая – земляробы, на Міколу 22 мая – пастухі, на Макавея 14 жніўня – бортнікі-пчаляры, на Лаўрэна 23 жніўня – млынары.

Рамеснікі выбралі сваімі заступнікамі Кузьму і Дзям'яна: 14 ліпеня гэты дзень адзначалі кавалі, а 14 лістапада – шаўцы і краўцы.

Былі і жаночыя прафесійныя святы. На Аліну 9 чэрвеня адзначаўся ільняны дзень, на Ганну 7 жніўня – дзень жней, а на Піліпа 27 лістапада – дзень ткацтва. А яшчэ жанчыны ўшаноўвалі дзень Мацея 10 верасня, які дапамагаў ім змагацца з п'янствам некаторых мужыкоў.

А вось як адзначаліся 8 мая бабскія выбрыкі і 26 чэрвеня задзярыхвост, ведалі толькі бабулі нашых бабулек.

Вельмі папулярным святам было Купалле ў ноч на 7 ліпеня. Яно святкавалася на беразе Гарыні паміж Замкавай гарой і Галоўным мастом. Асноўным ўдзельнікам свята была моладзь. Запальваліся кастры, каля якіх адбываліся разнастайныя гульні.

На галовах дзяўчат былі сплеценыя з кветак вянкі. Самую прыгожую дзяўчыну выбіралі русалкай. Мноства лодак плавала па рацэ, дзяўчаты пускалі па вадзе сваі вянкі – варажылі. А прыгажуню–русалку абавязкова "хрысцілі" – акуналі ў ваду.

На гэтым свяце мясцовыя знахары збіралі ліпавыя травы, кветкі, карэнне, лісце, смалу. На некаторы час забытае Купалле ў апошнія гады адраджаецца як традыцыйнае маладзёжнае свята.

❖

Адным з самых старажытных помнікаў драўлянага дойлідства на Беларусі з'яўляецца Юр'еўская (Георгіеўская) царква ў Давыд-Гарадку. Яна была пабудавана ў сярэдзіне XVII ст. на сродкі мяшчан пры падтрымцы ўладальніка горада Міхала Караля Радзівіла. Каталікі Радзівілы ў асноўным вылучаліся сярод іншых магнатаў сваім патрыятызмам, называлі сябе ліцвінамі, адзначаліся верацярпімасцю і аказвалі падтрымку праваслаўнай царкве. У апошнім на іх род выключны ўплыў аказала славутая князёўна Соф'я Слуцкая.

Соф'я Юр'еўна Алелькаўна (1585–1612) – апошняя прадстаўніца адзінага на той час праваслаўнага магнацкага роду. Выходзячы замуж за князя Януша Радзівіла, яна вянчалася з ім па праваслаўнаму абраду, ператварыла Слуцк у апору праваслаўя. Радзівіл выконваў дадзенае ім слова і не перашкаджаў дзейнасці жонкі. Рана памёршая княгіня Слуц-

кая ўваходзіць у Сабор беларускіх святых як Праведная. Яе святая мошчы знаходзяцца ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы.

Дзень яе памяці – 1 красавіка.

Так што, бясспрэчна, жыхары Давыд-Гарадка павінны лічыць сваёй заступніцай святую Праведную Соф'ю Слуцкую, якая сваёй адданасцю веры сваіх продкаў Рурыкавічаў аказала станоўчы ўплыў на род Радзівілаў. А фундатар Юраўскай царквы Міхал Караль Радзівіл (1600–1666) быў пляменнікам Януша Радзівіла, а гэта значыць і Соф'і.

У часопісе "Беларуская мінуўшчына" (№ 1, 1994 г.) змешчаны здымак царквы з подпісам: "Юраўская царква. 1648 г. Давыд-Гарадок". З гэтай датай можна пагадзіцца. Назва царквы сведчыць, што яна была асвячана на дзень святога Юр'я (Георгія) 6 мая.

А восенню гэтага ж, 1648 года, у Давыд-Гарадку пачалося паўстанне. А потым амаль дваццаць гадоў спусташальнай вайны, якая прывяла да страшэннага разбурэння краіны. Вядома, князь-фундатар у гэтыя гады не мог дапамагаць будаваць царкву паўстаўшым падданым. Царква ўжо была да паўстання, і гарадзецкія казакі палкоўніка Івана Багдашэвіча маліліся ў ёй Георгію Пераможцу аб дараванні ім поспехаў у барацьбе за веру і волю.

У 1724 годзе царква была перабудавана і ў такім выглядзе захавалася да нашага часу. Юр'еўская царква адносіцца да палеска-прыпяцкай школы дойлідства, якая пачала складвацца з канца XVI ст. Характэрнай асаблівасцю гэтага накірунку было будаўніцтва храмаў глыбінна-прасторавай і цэнтрычна-крыжовай кампазіцыі з яруснымі вярхамі. Павелічэнне заломаў і стварэнне васьмерыковых вярхоў сведчыць аб уплыве стылю барока.

Царква ўяўляе сабой храм з трох зрубаў глыбінна-восевай кампазіцыі. Кожны зруб завяршаецца высокімі шатровымі дахамі з купальнымі галоўкамі на барабанах. У кампазіцыю храма ўваходзяць прамавугольны бабінец (прытвар), асноўнае маленнае памяшканне і алтарная апсіда.

Да апошняй прыбудавана рызніца, да бабінца – тамбур. Хоры размешчаны ў бабінцы над уваходам. Вокны – крыжападобныя. Сцены знадворку ашаляваны знізу вертыкальна, зверху – гарызантальна. Традыцыйнай будаўнічай рысай было прымяненне старажытна-рускай прапарцыянальнай сістэмы вымярэння, калі вышыня да купала вызначаецца дыяганаллю цэнтральнага аб'ёму.

Выдатным творам царкоўнага мастацтва быў іканастас Юр'еўскай царквы, створаны мясцовымі майстрамі XVIII ст. У яго цэнтры знаходзіцца самая старажытная ікона "Тайная вечеря" (I-я палова XVII ст). У прабацькаўскім радзе выдзяляецца абраз "Саваоф ", у прарочым – "Царь царей предста царица" (абодва XVIII ст.).

Шэдэўрам мастацтва з'яўляюцца Царскія вароты гэтага іканастаса, створаныя ў 1724 годзе майстрамі-разьбярамі Лявонам Булком, Янам і Сямёнам.

Іх памер 242х124х17.

Ажурнай разьбы вароты распісаны яечнай тэмперай з пазалотай.

Вытанчанасць работы выключная. Тры рады невялікіх абразкоў (усяго 9) выкананы з адыходам ад кананічнага пісьма, блізка да рэалістычнага. Фігуры абразкоў змешчаны на такім фоне, што ён уяўляе сабой рэальную перспектыву. Пазалочаная разьба і зараз напамінае аб сабе сваім натуральным памерам і выпрутаснасцю. Паабапал варот знаходзяцца абразы – "Матерь Божья Одигитрия", створаная ў пасрэбранай аправе ў 1754 годзе залатых спраў майстрамі Мікітам і Пархомам, і "Христос Вседержитель". Апошні абраз таксама ў пасрэбранай аправе, і знізу на рызе Хрыста мае выгравіраваны надпіс:

"Року 1767, сию шту сооружил раб Божія Деміан Ткачик и Степан Гречка за молитвами Престиі Богородичи".

Дзям'ян Ткачык і Сцяпан Грэчка былі таксама залатых спраў майстрамі. Усе чатыры рады жывапісу ўяўляюць суцэльную кампазіцыю выключнай мастацкай закончанасці.

Зараз Царскія вароты знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі як узор палескага рэлігійнага мастацтва ў стылі барока.

Чатыры калонкі з ажурнай разьбой гэтага перыяду, якія знаходзіліся ў іканастасе Юр'еўскай царквы, выяўлены ў 1978 годзе ў Прачысценскай царкве вёскі Дубянец Столінскага раёна.

Прачысценская царква ў вёсцы Дубянец пабудавана ў 1718 годзе. Як і Юр'еўская ў Давыд-Гарадку, яна мае рысы стылю барока, і пасля давыд-гарадоцкай царквы – гэта самая старажытны храм на Століншчыне. Званіца была прыбудавана да яе пазней.

Тут была адкрыта самая старажытная ікона XVI стагоддзя ў Столінскім раёне.

У 1730 годзе была пабудавана Прачысценская царква ў вёсцы Рухча. Яна значна меншая за дзве старэйшыя свае сястры, але стыль яе аднолькавы – палескі.

У 1796 годзе пабудавана Міхайлаўская царква ў вёсцы Рубель. Яна ўяўляе сабою трохзрубны храм глыбінна-пастораваи кампазіцыі. Традыцыі палескай школы тут спалучаюцца са стылем барока, як і папярэдне-пабудаваных храмах.

Міхайлаўская царква ў вёсцы Рамель таксама пабудавана ў XVIII стагоддзі ў тым жа стылі.

Усе гэтыя храмы з'яўляюцца помнікамі драўлянага палескага дойлідства. Час не шкадаваў палескія храмы: многія ўнікальныя помнікі назаўжды згінулі ў войнах.

У 60–70 гады экспедыцыі Акадэміі навук Беларусі выявілі на Століншчыне шэраг абразоў сярэдневяковага пісьма.

Самым старым з'яўляецца ікона "Маці Божая Адзігітрыя Смаленская" XVI стагоддзя з Прачысценскай царквы вёскі Дубянец.

У царкве Параскевы-Пятніцы ў Альшанах была адкрыта выдатная ікона XVII стагоддзя "Уваскрасенне – сашэсце ў пекла", на якой мастак больш позняга часу напісаў на гэту тэму абраз заходне-еўрапейскага тыпу, пакінуўшы фрагмент першапачатковага выяўлення. Дзякуючы гэтаму фрагменту, вучоныя і здагадаліся, што пад фарбамі знаходзіцца скарб старажытнага іканапісу.

Да XVII стагоддзя адносяцца абразы "Ражство Маці Божай" і "Сабор Архангела Міхаіла". Першая выяўлена ў Прачысценскай царкве вёскі Рухча, другая ў Міхайлаўскай – вёскі Рубель.

У сярэдзіне XVII стагоддзя створаны абразы "Маці Божая Адзігітрыя" і "Хрыстос Усёдзяржацель" з Мікалаеўскай царквы вёскі Рамель, у пачатку XIX стагоддзя – ікона "ДэІсус" з Івана-Багаслоўскай царквы вёскі Малешава. Усе яны знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску. Усе гэтыя старажытныя іконы належаць да палескай школы і, верагодна, гэта работы майстроў Давыд-Гарадка.

Дакументы мінулага захавалі для нас імёны многіх мастакоў-іканапісцаў з Давыд-Гарадка. Вось некаторыя з іх: Піліп (1663–1681), Пётр (1684), Кавалевіч (1691–1696), Карней (1702), Яцко (1724), Ярко (1734); залатых спраў майстры – Пракоп Грэчка (1633), Пархом (1653), Сямён і Мікіта (1724) і іншыя.

Асабліва трэба адзначыць той факт, што нідзе, акрамя Давыд-Гарадка, не сустракаецца ў дакументах такая вялікая колькасць імёнаў мастакоў.

З'явіўшыся ў XVI стагоддзі як адна з галін рамяства, іконапісанне ў Давыд-Гарадку стала, як і дойлідства, адной з галін Палескай мастацкай школы.

Майстры-іканапісцы стваралі абразы з характэрным беларускім тыпажом і насычаным колерам. Этнограф І. А. Сербаў (1871–1943) прыйшоў да высновы, што крыжы і іконы XVI–XVIII стагоддзяў, якія сустракаюцца на Палессі, – пераважна давыд-гарадоцкай работы.

Гэта значыць, Давыд-Гарадок быў не толькі буйным цэнтрам гандлю, але і своеасаблівым духоўным цэнтрам праваслаўя, які аздабляў храмы і народнае жыццё творамі мудрасці і прыгажосці. Цікава, што менавіта іконамі, а не свецкім жывапісам праславіўся Давыд-Гарадок.

Існуе іконапісанне і зараз. Яго лепшым прадстаўніком з'яўляецца Аляксандр Канстанцінавіч Харашун, стварыўшы нямала абразоў для мясцовых храмаў, якія толькі адкрываюцца. А галоўнае, майстар аднавіў іканастас у старажытнай Юр'еўскай царкве – арыгінальны твор, адзіны такі на Беларусі.

Улічваючы даволі значны ўзровень развіцця рамеснай творчасці, гандлю, мастацтва, не можа быць ніякага сумнення ў тым, што не пазней XVI стагоддзя ў Давыд-Гарадку існавала навучанне пачатковай грамаце. Хутчэй за ўсё яно часткова ажыццяўлялася пры цэрквах, а больш

шырэй – у заможных мяшчан, у хатніх умовах – для дзяцей і дарослых, якія займаліся гандлярствам у розных краінах.

❖

Спынімся на некаторых населеных пунктах з давыд-гарадоцкага наваколля, якія ўпершыню сустракаюцца ў дакументах, звязаных з Давыд-Гарадком.

Другім населеным пунктам, які згадваецца ў гісторыі адразу пасля Гарадка, з'яўляецца Радчыцк.

Дакумент гэты знаходзіцца ў Музеі Беларускага Палесся ў Пінску і належыць да шэрагу самых старэйшых дакументаў у гісторыі Палесся. Гэта грамата пінскага князя Федзюшкі. Яна выдадзена каля 1390 года з прычыны абмену "островов" (узвышаных участкаў зямлі сярод балот) паміж бацькам князя Васіліем Нарымунтавічам і нейкім Паўлам Катовічам. Сярод сведак, якія падпісалі грамату, ёсць "Козляк Радчиский" – уладальнік вёскі Радчыцк.

У 1392 годзе ўпершыню ўпамінаюцца Альшаны і Велямічы.

У 1448 годзе згадваецца буйнейшы пасля Давыд-Гарадка населены пункт часткі павета – Гародна (зараз Гарадная).

У 1653 годзе татары разрабавалі і забралі ў палон 700 жыхароў сяла Гародна. Усе жыхары сяла былі славутымі ганчарамі, вядомымі далёка за межамі Палесся. За гэта майстэрства прывілеем караля Міхала Вішнявецкага пацярпелае, але да канца не знішчанае Гародна атрымала ў 1670 годзе статус мястэчка, абмежаванае Магдэбургскае права і герб. Вось як цанілі таленты некалі! Праўда, герб у мястэчка ганчароў цікавы: не тры гліняныя збанкі, а чамусьці лось з залатымі рагамі на сярэбраным полі.

У 1509 годзе тагачасны ўладар Турава дараваў турава-пінскаму епіскапу Арсенію два сяльцы недалёка ад Гарадка – Аздамічы і Альгомель. З гэтай прычыны мы даведаліся і аб існаванні гэтых сёлаў, згодна з дакументамі.

А наконт яшчэ адной вёскі прывядзем два дакументы князя Пінска-Гарадзецкага Фёдара Іванавіча Яраславіча, як узор даравальных грамат.

"Я князь Фёдар Иванович Ярославич со княгиней своей Оленою чыним знакомита тым нашым местом, кому буде потреба видети, пользоваться, слышати, пожаловали есмо дали боярину нашему Олеши Петровичу село наше Березное и со всеми поплаты, што на нас нажывали и з их пашными землями, бортными и сеножатями и с езы озеры, з гаты, што к тому селу Березному здавна прыслухало...

Писан в Пинску 2 мая 1508 года".

Гэтай граматай продку вядомага рускага пісьменніка Юрыя Алешы даравалася сяльцо Беражное, якое было потым іх радавым гняздом.

У наступнай грамаце ўпамінаюцца вёскі Хорск і Туры, размешчаныя на левым беразе Гарыні насупраць Давыд-Гарадка.

"Я князь Фёдар Иванович Ярославич... пожаловали слугу нашего, на имя Мартина Михайловича Кошеля... одну землю в селе нашем в Кугорску, а другую землю в селе нашем в Добрыни, на имя Адамовича. А вместе с тех двух земель военную службу служить на коне на добром и в зброи суполной...

Писан в Городке. В лето по семой тысячи 28 году, индикта 8 июня".

Кугорск – гэта Хорск, Добрынь – Туры.

А новы гаспадар Кугорска Кошаль – гэта продак таго, хто расказаў аднойчы аўтару гэтай кнігі мясцовую легенду пра Налівайку.

Няцяжка перавесці 7028 год на мову сучаснага календара: атрымліваем 1519 год.

У 1524 годзе ўпершыню згадваецца вёска Манкевічы (зараз Манькавічы) – будучая рэзідэнцыя князёў Радзівілаў да 1939 года.

Цяперашні раённы цэнтр – горад Столін, як сяло Стольна, упершыню ўпамінаецца ў 1555 годзе, дзе вясной праводзіліся работы па валочнай памеры.

Пералічым асноўныя вясковыя населеныя пункты, якія ўваходзілі ў Замкавую воласць, а таксама бліжэйшыя да яе са складу сучаснага Столінскага раёна. Дата – гэта першае ўпамінанне ў дакументах, у дужках – старая назва.

1390 – Радчыцк (Радчыск).
1392 – Альшаны (Альшыня), Велямічы.
1448 – Гародня (Гародна).
1452 – Рамель (Рэмля).
1475 – Хорск (Кугорск).
1479 – Альпень (Ільпень).
1486 – Рубель (Любра, Рубля).
1492 – Беражное (Бярозна).
1496 – Асавая (Осава), Плотніца, Дубай (Дубоя).
1503 – Відзібар, Стахава (Стахаў).
1507 – Хатомель (Хатомля).
1509 – Аздамічы, Альгомель (Альгомля).
1511 – Мачуль.
1514 – Лядзец (Лядцо).
1517 – Белавуша (Белагуша).
1518 – Туры (Добрынь), Адвержычы.
1524 – Харомск (Холмск), Фядоры, Манькавічы (Манкевічы), Арлы.
1537 – Малешава (Малешаў).
1555 – Столін (Стольна).

З усяго Палескага краю найбольш шчыльна была заселена Тураўская зямля – сучасныя Столінскі, Жыткавіцкі, усходняя частка Пінскага і паўднёвая Лунінецкага раёнаў.

У сярэдневеччы існавалі два асноўныя тыпы сельскіх пасяленняў – вёска і сяло.

Вёска (ад славянскага – весь, альбо невялікае пасяленне) да XVI стагоддзя была самым малым паселішчам сялян, дзе было 2–10 сядзіб.

Сяло налічвала 50–80, самае вялікае 100 двароў. У ім была царква, гандлёвая плошча, у некаторых – крама, карчма.

З правядзеннем валочнай рэформы пачалася планавая забудова сельскіх паселішчаў, галоўным чынам – у адну вуліцу. Гэтая вуліца забудоўвался часцей за ўсё такім чынам, што жылыя пабудовы знаходзіліся на адным баку вуліцы, а гаспадарчыя – на процілеглым.

Вёскі і сёлы паступова раслі: павялічвалася колькасць сядзіб, а для гаспадароў іх – колькасць "дымаў" (плацельшчыкаў падаткаў).

Інвентары пачатку XVIII стагоддзя адзначаюць, што ў буйнейшых вёсках Замкавай воласці (цэнтрам яе быў Давыд-Гарадок, і яму таксама падпарадкоўвалася Палеская воласць) колькасць дымоў была: у Альшанах – 110, Рублі – 80, Лядцы – 40, Харомску – 40, Хорску – 30, Турах – 25, Велямічах – 46.

Улічваючы, што сем'і сялянскія ў той час былі шматлюднымі (у асноўным жылі разам тры пакаленні), то ў адным "дыме" (гаспадарцы) было не менш дзесяці, а звычайна і больш, чалавек.

Сялянства ў асноўным было прыгонным. Яно было непісьменным, але зрабіла галоўную справу для сваіх нашчадкаў; захавала сваю нацыянальную беларускую мову, свае старадаўнія звычаі і традыцыі, а таксама аснову свайго духоўнага жыцця і апраўдання на зямлі, веру айцоў – Праваслаўнае веравызнанне.

# РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

# *У РАСІЙСКАЙ ДЗЯРЖАВЕ*

# ПАЧАТАК АДРАДЖЭННЯ

*Вас, браты, я помніць буду,*
*Я не сніў такога цуду,*
*Каб, выросшы між ліцвінаў,*
*Палюбіў беларусінаў.*

***В. І Дунін-Марцінкевіч. 1857 год.***

*Веру, братцы: людзьмі станем,*
*Хутка скончым мы свой сон;*
*На свет Божы шырэй глянем,*
*Век напіша нам закон.*

***Цётка (А. Пашкевіч). 1905 год.***

Вызваленчая вайна за веру і волю на Беларусі закончылася безвынікова. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай закончылася ўмацаваннем пазіцый Расіі на Украіне, хаця і не прывяла да вызвалення беларускага народа. Але з гэтага часу Расія пачала актыўна ўмешвацца ва ўнутрыпалітычнае жыццё Рэчы Паспалітай у сувязі з пагаршэннем становішча праваслаўных і несканчаемым наступствам на іх польскіх уладаў разам з каталіцкай і ўніяцкай цэрквамі.

Дзве вайны гэтага перыяду нанеслі Беларусі нябачаны за ўсю гісторыю ўрон: была страчана палова насельніцтва і палова гаспадарчага патэнцыялу. Абязлюдзелі гарады і вёскі, запусцела сельская гаспадарка, заняпалі рамёствы.

Але шляхта не толькі не змяніла сваіх адносін да простага, знявечанага і затаптанага ў зямлю сялянства, не толькі не асэнсавала сваіх даўгоў перад Бацькаўшчынай, не толькі не пакаялася перад сваім народам і стала б служыць яму, а наадварот, яна станавілася ўсё больш жорсткай, нахабнай і некіруемай. Духоўна разбэшчаная, адчуваючы сябе запраданай і здрадніцкай, некалі тутэйшая, а зараз – чужынская, гэтая шляхта баялася свайго народа. Вядома, шкада беларускай шляхты і горка ад яе трагедыі – людзей тутэйшых. Але, на жаль, адрыў яе ад людзей простых быў масавым. Гэтая шляхта, павінная прыпадабняцца да ляхаў, была сродкам апалячвання і падчас вяла сябе больш бесчалавечна, чым польскія паны. Усё гэта назаўсёды ўбіла клін паміж ёю і простым народам, які, з’яўляючыся цёмным і непісьменным, свята зберагаў па цёмных кутках і балотах праваслаўную веру і сваю родную мову.

Так было не заўсёды, і ў далёкія часы народ русінаў на беларускіх землях быў адзіным, стоячы ў сваёй веры і звычаях даўніны. Трагічны працэс пачаўся з дзяржаўнага аб’яднання з паганскай тады Літвою і прывёў, крок за крокам, да поўнага знішчэння самасвядомасці і маральнасці кіруючага класа на Беларусі. Гэта пачалося са здрадніцтва ў веравызнанні, а потым закранула і многія чалавечыя рысы шляхты.

З далёкіх часоў Ягайлы і Вітаўта ў свядомасць шляхціча быў закладзены асабісты гонар, пагарда да іншых саслоўяў і марнатраўства не па кішэні. Апошняе заключалася ў тым, што кожны шляхціч даволі часта пускаў пыл у вочы, дэманструючы сваю раскошу і дабрабыт, якіх на самой справе не было.

Беларускі народ умеў смяяцца над такімі хлуслівымі і недабрасумленнымі шляхцюкамі, і зараз жывуць трапныя словы з тых часоў: "на пузе – шоўк, а ў жываце – шчоўк", "гэткія паны – па сорак у штаны" і многа іншага.

Зразумела, у такіх паводзінах нашчадкаў тутэйшай шляхты было многа малпавання, імітацыі чужых паводзін і звычак: спачатку гэта былі літоўцы, якія першымі далі прыклад недобрасумленнасці ў веравызнанні, калі іх князі кідаліся з праваслаўя ў каталіцтва, а потым прыйшлі палякі. Менавіта ўся фанабэрыя і пагарда да больш бедных і простых разам з бязмернай сквапнасцю прыйшлі да ліцвінскай шляхты разам з апалячваннем.

Гэтае малпаванне кіруючага класа, які ад чужынцаў браў толькі горшае, вялікім цяжарам пала на худыя плечы гаротнага беларускага сялянства, для якога было ўсё роўна – "свая" гэта шляхта, ці польская.

З тых жа самых далёкіх часоў Ягайлы і Вітаўта Руская Літва была ледзьве не самай дэмакратычнай дзяржавай ў Еўропе, вядома, у першую чаргу для пануючага саслоўя – шляхты, а таму – выдатна зручнай для пражывання. Гэта прадоўжылася ў Рэчы Паспалітай.

Паступова шляхта дабілася па сутнасці неабмежаванай улады, калі кароль быў пазбаўлены наогул права вырашаць якія-небудзь больш-менш дзяржаўныя пытанні.

Шляхта дабілася права арганізоўваць для абароны сваіх інтарэсаў ваенныя саюзы (канфедэрацыі) і нават законна падымаць бунт супраць караля. І гэта даволі часта рабілі буйныя магнаты, якія мелі свае войска, часам большае, чым каралеўскае.

Дэмакратыя ў сейме Рэчы Паспалітай дайшла да таго, што пры вырашэнні любога пытання дастаткова было аднаму дэпутату прагаласаваць супраць – і пытанне не вырашался.

У выніку ў 1652–1764 гадах былі сарваны сорак чатыры сеймы з васьмідзесяці. Даволі часта на сеймах у Варшаве у ход пускалася зброя, і нямала дэпутатаў, для якіх сутычкі і варагаванне пераносілася і па-за сцены сейма, раней часу накіроўваліся на той свет.

Такая практыка ў сейме наогул была не новая ў сусветнай гісторыі. Ужыванне магчымасці блакіравання адным дэпутатам, гэта значыць адным голасам, – волі ўсяго схода Еўропа ўжо ведала. Для гэтага трэба было пагартаць падручнік гісторыі. Але трагедыя чалавецтва ў тым, што людзі забываюць сваю гісторыю. І таму гэта гісторыя паўтараецца зноў і зноў, каб людзі вучыліся і пазбаўляліся слепаты і невуцтва. Толькі адбываецца гэтая навука часта праз вялікія трагедыі.

Так было з варшаўскім сеймам і наогул з Рэччу Паспалітай, фанабэрыстай і дэмакратычнай да шляхты, і варожай і прыгнятальнай да карэннага насельніцтва беларускіх зямель. Рэч Паспалітая паступова і неадольна канала. Інстытуты яе ўлады, яе ўнутраная і знешняя палітыка фатальна ішлі да разбурэння.

Калі адзін дэпутат можа паралізаваць работу ўсяго парламента, гэта ўжо не дэмакратыя, гэта – клініка. Але так жыў варшаўскі сейм, над крыклівасцю і баламуцтвам, з якога тады смяялася ўся Еўропа, і тыя польскія сваркі ў сейме сталі прыказкай.

Паводзіны дэпутатаў нагадвалі старажытнарымскі прынцып – liberum veto. А парадкі ў варшаўскім сейме былі падобны на становішча ў старажытным Рыме ў час крушэння рэспубліканскага ладу. Але ж пасля гэтага прыйшоў заняпад.

А для шляхты гэта быў час "залатой вольнасці", якая нагадвала баляванне ў час чумы ці халеры. Рэч Паспалітая была ў глыбокім палітычным і дзяржаўным крызісе, а шляхта, кіруючы клас, у дадатак ставіла сябе над законам. Гэта і было першай прычынай гібелі дзяржавы.

Якой жа справядлівасці заставалася чакаць беларускаму народу ў складзе дзяржавы, якая была для яго чужой?

Яму заставалася толькі маліць Бога ды чакаць пагібелі польскай дзяржавы. І яна прыйшла. Прыйшла не па віне "злога" суседа – Расіі, гэтага варвара з усходу, як любіць сцвярджаць і сёння рознае панства, і не з прычыны прагнасці імперыі.

Рэч Паспалітая загінула па законах гістарычнай справядлівасці. Палякі атрымалі тое, чаго яны заслугоўвалі. І жыццё іх у складзе Расіі было лепшым, чым беларусаў – у Рэчы Паспалітай.

Уніяцтва вялікім маральным, ці лепш – антымаральным прыгнётам, ляжала на беларускім народзе. Таму з такой лёгкасцю беларусы з прыходам расійскай улады вярнуліся да веры продкаў. Гэта тычылася і іншых звычаяў.

І яны не шкадавалі аб дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай, якая паглынула ў свой час Вялікае Руска-Літоўскае княства.

Сёння варагуючыя да рускіх нацыяналісты-фронтаўцы з падставай і без падставы чапляюцца да расійскага перыяду беларускай гісторыі, ніколі нават паўсловам не згадваючы Рэч Паспалітую, ад якой расійскім уладам засталася вельмі дрэнная спадчына.

Беларусь была падчаркай ў складзе Рэчы Паспалітай. І палітыка паланізацыі (апалячвання) і акаталічвання насельніцтва Княства, якая доўжылася не адно стагоддзе, прывяла да таго, што гісторыя вынесла свой прысуд Рэчы Паспалітай.

Расія атрымала ад Рэчы Паспалітай Беларусь у выглядзе заняпаўшай калоніі, і вельмі шкада, што ёй не хапіла гістарычнага часу, каб пераўтварыць яе ў нешта лепшае.

Гэты перыяд – перадапошні ў беларускай дзяржаўнасці і гістарычна

вельмі блізкі, таму ўсе рысы яго больш-менш вядомыя. Аб іх мы пагаворым у гэтай главе. А зараз падвядзём рысу пад Рэччу Паспалітай, спадчынай якой давялося займацца Расіі.

Андросаўскае перамір'е 1667 года, а потым так званы "Вечны мір" 1686 года паміж Расіяй і Польшчай, прадугледжвалі абавязкі апошняй не рабіць ніякага ўціску на карэнных жыхароў за іх праваслаўнае веравызнанне. У канчатковых дакументах перамоў і дагавораў Рэч Паспалітая абавязвалася дазволіць свабодную дзейнасць цэркваў і праваслаўных епархій з епіскапатам.

Але на самой справе ўмовы гэтых дагавораў не толькі не выконваліся, а, наадварот, уціск дысідэнтаў стаў яшчэ больш жорсткім. Адзначым, што ўмовы значна пагоршыліся не толькі для праваслаўных, але для ўсіх рэфармантаў – пратэстантаў–лютэран, кальвіністаў і іншых. Апошніх каталікі не любілі асабліва, бо кальвіністы ўжывалі строгую царкоўную структуру і вельмі жорсткую дысцыпліну.

Калі мы гаворым толькі аб уціску праваслаўных і ўвазе да становішча карэннага насельніцтва на Беларусі і Украіне ў складзе Рэчы Паспалітай – з боку Расіі, то не трэба забываць, што такую ж трывогу выказаў і Захад. Але ў дачыненні да сваіх вернікаў – з ліку рэфарманцкіх цэркваў.

Рэфарманты актыўна дзейнічалі ў Англіі і Германіі, Нідэрландах і Шатландыі, Францыі і Венгрыі. І іх вельмі абуралі паводзіны Польшчы.

Рэч Паспалітая была адзінай еўрапейскай дзяржавай, дзе адбываўся працэс насільнага пераўтварэння аднаго народа ў другі – з заменай яго мовы, рэлігіі і культуры. Беларус быў чалавекам другога гатунку, з якога было патрэбна зрабіць чалавека першага гатунку – паляка.

У 1696 годзе дэпутаты сейма правялі ўсесаслоўную канфедэрацыю, якая прыняла рашэнне аб забароне рускай (беларускай) мовы ў Княстве як дзяржаўнай і афіцыйнай і ўвядзенне замест яе – польскай.

Гэты акт быў накіраваны на хутчэйшую асіміляцыю беларускага народа, канчатковае яго апалячванне.

З гэтага часу друкаванне кніг на старабеларускай мове спынілася.

Толькі нешматлікія друкарні апошніх брацтваў друкавалі невялікую колькасць рэлігійных выданняў на царкоўна-славянскай мове.

Навучанне ва ўсіх установах было на лацінскай і польскай мовах. Астраўкамі нацыянальнай свядомасці для людзей карэнных і тутэйшых былі пачатковыя школы пры брацтвах, якія вялі праваслаўна-рускае навучанне.

Апошнім вядомым цемрашалам з польскіх каралёў быў Ян III Сабескі (1674–1696). Ён асабіста прысутнічаў са сваім дваром 30 сакавіка 1689 года ў Варшаве пры пакаранні смерцю мысліцеля і грамадска-палітычнага дзеяча Казіміра Лышчынскага, ураджэнца Берасцейшчыны. Лышчынскі быў асветнікам, прадаўжаў традыцыі Рэнесансу і гуманізму, адкрыў у сябе ў маёнтку школу, дзе вучыліся і яўрэйскія дзеці. У

прысудзе інквізіцыі гэтая школа з яўрэйскімі дзецьмі была адным з самых важкіх абвінавачванняў.

Прысуджаны да спальвання на кастры вольнадумец быў "памілаваны" дабрадзейным каралём: ён быў абязгалоўлены і спалены.

Вось такія "заходнія каштоўнасці" і шчасце ад апалячвання атрымоўвала беларускае грамадства на працягу не аднаго стагоддзя перад прыходам Расіі.

Нягледзячы на заключаны ім мірны дагавор з Расіяй і абяцанне не ўмешвацца ў справы тутэйшай праваслаўнай царквы, якая і так хавалася ад прыгнёту па самых аддаленых кутках, кароль Ян III арганізаваў у апошнія гады свайго кіравання нябачанае да гэтага часу ганенне на праваслаўных.

Пры падтрымцы езуітаў і штурмавікоў-уніятаў былі здзейснены сапраўдныя пагромы праваслаўных прыходаў і асабіста грамадзян. Фанатыкам, мабыць, не давала спакою Варфаламееўская ноч у Парыжы. І вось пачалася акцыя на Беларусі.

Праваслаўныя цэрквы рабаваліся, разбіваліся святыні, храмы пераўтваралі ва ўніяцкія, нават за невялікае супраціўленне праваслаўных вернікаў жорстка каралі.

Аднак супраціўленне праваслаўных насільнаму пераводу ва ўніяцтва працягвалася. Было яно і ў Пінскім павеце, на Століншчыне. Прыкладам такой барацьбы было сяло Плотніца, у якім гвалтам, без згоды вернікаў, паспрабавалі ўвесці ўніяцкае набажэнства.

У 1670 годзе агульны сход прыхаджан вырашыў аднавіць праваслаўнае. Уніяцкі поп быў выгнаны з сяла.

Раз'юшаны ўніяцкі епіскап Марцін Белазор накіраваў з Пінска ў Плотніцу двух уніятаў у суправаджэнні ўзброенай аховы. Жыхары сустрэлі іх варожа і выгналі з царквы. У час сутычкі быў забіты адзін з ахоўнікаў уніятаў, шляхціч Я. Валадкевіч.

Тады Белазор вырашыў асабіста прывесці да розуму непаслухмяных плотнічан. Разам з узброенай шляхтай ён накіраваўся ў Плотніцу, але ў сяло ўвайсці не асмеліўся, таму што жыхары цвёрда вырашылі не дапусціць уніятаў, "приготовив ружья и разного к бою орудия". Сяляне былі настроены так рашуча, што, нават узброеныя, шляхцічы не ўвайшлі ў сяло ні тады, ні потым.

Некалькі гадоў уніяты не чапалі Плотніцы. Але ў 1678 годзе прадстаўнік епіскапата Савіцкі з узброенай аховай зноў зрабіў спробу захапіць царкву, але быў выгнаны з Плотніцы ўзброенымі зямянамі і ад пабояў памёр.

Апошняя спроба ліквідаваць праваслаўную царкву Пакрова Маці Божай адбылася праз дзесяць гадоў пасля сутычкі і зноў закончылася беспаспяхова.

Так Плотніца адстаяла сваё права на захаванне сваёй праваслаўнай веры, сваёй беларускасці, свайго гонару.

Супраціўленне навязваемай уніі было ў Давыд-Гарадку, Тураве, навакольных вёсках і сёлах. Не ўсюды яно заканчвалася паспяхова для праваслаўных, аднак адзначым, што Пінскі павет быў адзіным на Беларусі, дзе ўніяцтва дасягнула найменшых вынікаў. Праваслаўнымі тут засталіся 90 цэркваў са 150 тысячамі прыхаджан.

Сёння, як і тады, гэта павінна быць прадметам нашага гонару і славы: побач з Польшчай, на заходнім рубяжы, сярод апалячвання і акаталічвання, у Рэчы Паспалітай існавала цэлая Палеская праваслаўная краіна, адной з апор якой заслужана быў Давыд-Гарадок. Наш Палескі край быў духоўным цэнтрам нацыянальнай ідэі і беларускай свядомасці. Будзем помніць пра гэта.

І гэта ў той небяспечны час, калі ўсё ў Рэчы Паспалітай стаяла супраць беларускасці і нават самога гэтага слова тады не існавала – ужывалася "ліцвінства".

Законы супраць праваслаўных усё больш і больш абмяжоўвалі іх правы.

У 1673 годзе праваслаўныя былі пазбаўлены права атрымання шляхецтва.

У 1685 годзе было забаронена праваслаўным пераходзіць пад кіраўніцтва маскоўскага патрыярха.

У 1699 годзе праваслаўныя былі пазбаўлены права займаць пасады ў магістраце.

У 1720 годзе адзіна законнай царквой (акрамя каталіцкай) была абвешчана грэка-рымская (уніяцкая).

Круг замкнуўся. Праваслаўная царква апынулася па-за законам. І вось якая склалася грамадская сітуацыя на Беларусі і Правабярэжнай Украіне ў выніку таго рэлігійнага і культурнага працэсу, які актыўна праходзіў у XVI–XVIII стагоддзях.

Вынікам зламыснай апрацоўкі беларускага насельніцтва стала тое, што адна нацыя аказалася падзеленай.

Тое, што кожны народ, кожная нацыя складаецца з розных сацыяльна-эканамічных груповак – класаў – з'ява нармальная і гістарычна заканамерная.

Тое, што нягледзячы на неаднолькавасць свайго месца ў грамадстве, розныя класы адной нацыі маюць адну мову, культуру, рэлігію, з'ява таксама заканамерная і гістарычна нармальная.

Але тое, што пануючы класс нацыі мае адну мову, а прыгнечаны клас гэтай жа нацыі мае другую, так званую халопскую, – гэта ўжо нацыянальная бяда.

І тое, што пануючы клас нацыі мае адну рэлігію, а для прыгнечанага класа гэтай жа нацыі створана другая рэлігія, умоўна іншага гатунку, – гэта бяда, якой свет не ведаў.

Так атрымалася на Беларусі. Шляхта паступова ўспрыняла польскую рэлігію, польскі менталітэт, польскую культуру і польскую мову. Скла-

даней было з ніжэйшымі саслоўямі – сялянамі і мяшчанамі. Яны не паддаліся да канца, і гэтым пацвердзілі сваю годнасць як асноўнага грунту беларускай нацыі, яе мацерыка. І што ўрэшце адбылося?

Цяпер селянін альбо мешчанін глядзеў на свайго пана не проста як на класавага прыгнятальніка (гэта нармальна), але разам з тым як на "папежніка" (іншаверца-католіка і "ляха"), што выклікала пастаянную варожасць. І было ад чаго. Класавы прыгнёт акрамя эканамічнага аказаўся густа замешаным на нацыянальным і рэлігійным, што было асабліва балюча.

Калі да гэтага дадаць тую анархію, якая тварылася ў дзяржаве ад самавольства шляхты, то становіцца відавочным, што такая дзяржава доўга існаваць не магла. Як той Карфаген, яна павінна была быць разбурана – з Захаду ці Усходу. І суседзі дапамаглі Рэчы Паспалітай з абодвух бакоў.

❖

Больш за ўсіх, вядома, цярпелі прыгонныя сяляне. У першай палове XVIII стагоддзя ад бесчалавечнага жыцця сяляне ратаваліся толькі адным спосабам – уцёкамі: народ не паўставаў супраць палякаў, а уцякаў. З усходніх зямель уцякалі ў Расію, з Палесся – на блізкую Украіну, на паўночныя землі.

Гэта выклікала вялікую занепакоенасць гаспадароў. З гэтай прычыны Радзівілы абодвух ардынацый выдалі статут для сваіх фальваркаў (таварных сельскагаспадарчых уладанняў).

Статут змяшчаў своеасаблівыя заклікі да сялян заставацца на сваіх сядзібах і падпарадкоўвацца сваім гаспадарам.

У 1753 годзе князь Геранім Радзівіл выдаў статут для Давыд-Гарадоцкага фальварка, у якім збеглыя сяляне заклікаюцца вярнуцца на сваё ранейшае месцажыхарства. А гэта значыць, што і адсюль, з Замкавай воласці, з ваколіц Давыд-Гарадка незадаволеныя сяляне ўцякалі ад панскага прыгнёту, хаця гэта і былі не самыя горшыя паны – Радзівілы.

У статуце князь абяцаў уцекачам вярнуць ім раней належаўшую маёмасць, а таксама дадатковыя льготы па выкананню прыгонных павіннасцей. Калі гэта так непакоіла багатых магнатаў, значыць, уцёкі былі масавымі.

А шляхта як з ланцуга сарвалася... Нягледзячы на тое, што апошні кароль Станіслаў Панятоўскі ў 1765 годзе выдаў грамату з загадам спыніць ганенні на праваслаўных, рэлігійны тэрор яшчэ больш узмацніўся. Сейм прыняў закон аб'яўляць ворагам айчыны кожнага, хто на сейме падыме голас у абарону дысідэнтаў (праваслаўных і пратэстантаў).

У 1768 годзе на Правабярэжнай Украіне (польскай частцы) успыхнула народнае паўстанне гайдамакаў. Яно было страшным па сваёй жорсткасці, нагадваючы расправы казакаў стогадовай даўніны. З натуралі-

стычнай падрабязнасцю апісваў гэту "Коліўшчыну" Тарас Шаўчэнка ў паэме "Гайдамакі".

Удзел у гэтым паўстанні прымалі і збеглыя сяляне з Пінскага павета, цяперашняй Століншчыны. Імі былі жыхары наваколля Давыд-Гарадка і яго фальварка, да якіх са статутам звяртаўся князь Радзівіл, але сваёй панскай добразычлівасцю яму так і не ўдалося апярэдзіць падзей.

Сярод удзельнікаў паўстання згадваюцца таксама жыхары вёскі Тмінь (зараз Цмень). Раней яны збеглі на Валынь, пасяліліся ў вёсцы Бярэзніца Луцкага павета і, калі сюды дакацілася хваля паўстання, прынялі ў ім удзел.

Суседзі Рэчы Паспалітай – Расія, Прусія і Аўстрыя пільна наглядалі за ўнутраным становішчам Рэчы Паспалітай, якая па сутнасці знаходзілася ўжо ў канвульсіях. Але на цвёрдую прапанову Расіі і Прусіі рэальна ўраўняць у правах з каталікамі праваслаўных і пратэстантаў, Польшча адказала адмоўна.

Гэта ўзрушыла сітуацыю ў Рэчы Паспалітай. Там пачалася ўзброеная барацьба паміж сабой шляхецкіх канфедэрацый пракаталіцкай і больш-менш дэмакратычнай, якая непакоілася аб будучыні і ўзяла бок падтрымкі правоў праваслаўных.

Расія выкарыстала сітуацыю і ўвяла свае войскі на тэрыторыю Беларусі ў падтрымку шляхты, якая рэалістычна падтрымала праваслаўнае насельніцтва.

5 жніўня 1772 года ў Санкт-Пецярбурзе была падпісана канвенцыя паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй аб частковым падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

Прусія захапіла паўночна-заходнюю частку Польшчы, Аўстрыя – частку Паўднёвай Польшчы і Заходняй Украіны. Да Расіі адышлі Інфлянцкае ваяводства, Віцебскае, Мсціслаўскае ваяводствы і частка Полацкага – з гарадамі Полацк, Віцебск, Магілёў, Орша, Гомель і інш. Польшча прызнала гэты падзел.

На астатняй, "польскай" частцы Беларусі, шырыўся нацыянальна-вызваленчы рух. Ён асабліва ўзмацніўся пасля арышту ў Слуцку назначанага расійскай імператрыцай Кацярынай II праваслаўнага першасвяшчэнніка епіскапа Віктара Садкоўскага.

Вясной 1790 года пачаліся буйныя сялянскія хваляванні на поўдні Пінскага павета. Яны праходзілі ў Плотніцы, Дубаі, Асавой, а таксама ў наваколлі Давыд-Гарадка – у Альшанах, Велямічах, Рублі.

Прыгонныя патрабавалі змяншэння чыншу (грашовага аброку) і паншчыны, больш дакладнага і справядлівага землеўпарадкавання.

Мяшчане Давыд-Гарадка, арандатары зямлі, патрабавалі пашырэння сваіх правоў на карыстанне пашавымі ўгоддзямі і ляснымі высечкамі. Былі сутычкі паўстаўшага народа з княжацкай адміністрацыяй і павятовай аховай.

Дзяржаўнасць Рускай Літвы была скасавана ў 1791 годзе. Праўда, у новай канстытуцыі Варшава абвяшчала свабоду веравызнання, але дзяржаўнай рэлігіяй сцвярджалася каталіцтва. Шэраг іншых артыкулаў прадугледжваў умацаванне дзяржаўнай улады і стрыманне самавольства шляхты.

Але было позна. Свой гістарычны шанц Польшча ўпусціла.

23 студзеня 1793 года адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Зноў у паўночнай сталіцы, Пецярбурзе, была заключана канвенцыя паміж Расіяй і Прусіяй, але без Аўстрыі. Да Прусіі адышлі Гданьск, Торунь і Вялька Польшча – яе карэнныя землі. Да Расіі – Правабярэжная Украіна і Цэнтральная Беларусь з насельніцтвам 1,3 мільёна чалавек.

У наступным 1794 годзе ў Польшчы адбылося паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі (1746–1817) – адчайная спроба каталіцкай польскай шляхты захаваць незалежнасць. Расійскія і прускія войскі падавілі гэта паўстанне. Гэта была агонія шляхты, і ніякага рэзанансу ў народзе паўстанне не мела.

Гэты заняпад Польшчы адбыўся не сёння і не ўчора. Польшча знаходзілася ў грандыёзным духоўным і нацыянальным крызісе. Прычым ён адбываўся нават тады, калі Польшча між іншым была нібы на ўзлёце, нават захапіла на кароткі час Маскву, праўда, абапёршыся на шляхецтва Вялікага княства.

Гэты польскі крызіс – асобная тэма, ад яго палякі бясконца спрабавалі лячыцца сваім фанатызмам, але з гэтага нічога не выйшла. Тады яны паспрабавалі вылечыць свой хворы этнас, паглынуўшы вялізны і здаровы этнас суседзяў-беларусаў.

24 кастрычніка 1795 года на аснове Санкт-Пецярбургскай канвенцыі адбыўся трэці падзел Польшчы. Прусія далучыла да сябе ўсходнюю частку Польшчы, Расія – Заходнюю Беларусь, Літву, Курляндыю і Валынь.

Рэч Паспалітая перастала існаваць. Адрадзілася Польская дзяржава толькі ў 1918 годзе.

❖

У выніку трох падзелаў Польшчы да Расіі ў складзе далучаных зямель увайшла Беларусь з насельніцтвам звыш трох мільёнаў чалавек. Пінскі павет увайшоў у склад Расіі па другім падзеле.

23 красавіка 1793 года на гэтай тэрыторыі была створана Мінская губерня, якая праіснавала да 1924 года. У губерні было створана трынаццаць паветаў (уездаў), сярод якіх быў і Гарадзецкі (Давыд-Гарадоцкі).

Сенат Расійскай імперыі прадставіў імператрыцы Кацярыне II даклад з прапановай аб зацвярджэнні гербаў гарадоў Мінскай, Валынскай, Брацлаўскай і Падольскай губерняў. У аснову былі пакладзены старажытныя гербы гэтых гарадоў, у тым ліку і Давыд-Гарадка. Імператрыца зацвердзіла прапанову: “Быть по сему”.

За Давыд-Гарадком быў зацверджаны статус горада, а ў імператарскім Указе ад 22 студзеня 1796 года было змешчана апісанне давыдгарадоцкага герба:

"В верхней части щита герб Минский. В нижней – в черном поле река Припять, на берегу которой – серебряная пристань с двумя воротами и пристаючим золотым судном, которое нагружено товаром в трех тюках связанных".

На гербавым шчыце да старой выявы дабаўлены герб Мінскай губерні. Можа быць прадметам гонару такі факт: герб Давыд-Гарадка быў амаль адзіным на Беларусі, які адлюстроўваў гаспадарчае значэнне горада як гандлёвага цэнтра.

Гандлявалі на Беларусі ўсе, і ў большых маштабах, а горадам гандляроў прызналі адзін Гарадок Давыдаў, ды яшчэ ўславілі яго, як рачны порт. І хто ведае, што значыць гэты ўказ імператрыцы? Можа, не толькі чыста сімвалічна, але і сапраўды Давыд-Гарадок стане аднойчы горадам гандляроў, рачной сталіцай на шляху аднаўленага гандлёвага напрамку з варагаў у грэкі!

На жаль, давыд-гарадоцкі герб таксама адзіны, у апісанні якога зроблена геаграфічная памылка: Давыд-Гарадок знаходзіцца не на Прыпяці, а на Гарыні, якая ніжэй упадае ў Прыпяць.

Аднак нядоўга быў павятовым горадам Давыд-Гарадок са сваім новым бліскучым гербам. Праз год у губерні адбыліся змены ў адміністрацыйным падзеле. Былі ліквідаваны чатыры паветы і сярод іх – Давыд-Гарадоцкі.

Заходняя частка павета разам з мястэчкам Столінам увайшла ў Пінскі павет, а ўсходняя, разам з Давыд-Гарадком і Туравам, – у Мазырскі. У такім становішчы яны знаходзіліся да 1921 года.

Мазыр у гэты час быў горадам, меншым за Давыд-Гарадок удвая: у ім было каля двух тысяч жыхароў.

Новая расійская ўлада паступова ліквідавала прыватную ўласнасць на гарады і мястэчкі на Беларусі. У ліку некаторых з іх Давыд-Гарадок, як і Тураў, атрымалі статус мястэчка.

У Мазырскім павеце (уездзе па-расійску) было восем мястэчак: Давыд-Гарадок, Ельск, Капаткевічы, Лахва, Петрыкаў, Скрыгалаў, Тураў і Ленін. Апошняе мястэчка існуе і зараз як вёска на Случы ў Жыткавіцкім раёне, у ёй каля тысячы жыхароў. Дзіўная назва яе захоўваецца са старажытных часоў, калі ў 1568 годзе Жыгімонт Аўгуст даў князю Юрыю Алелькавічу прывілей на заснаванне мястэчка. Мястэчкам Ленін валодалі Алелькавічы, Радзівілы, Вітгенштэйны.

У той час у Мазырскім павеце было звыш 50 праваслаўных храмаў, 6 каталіцкіх і 7 уніяцкіх цэркваў, што выразна гаворыць аб дамінуючым становішчы Праваслаўя на Палессі, якое палешукі верай і мужнасцю пранеслі праз стагоддзі. Падкрэслім гэты канфесіяльны расклад, бо існуе нямала варагуючых спекуляцый наконт палітыкі Расіі на Беларусі. На-

вязанае гвалтам уніяцтва звяргалася самім народам; народ вяртаўся да сябе, да сваіх першапачаткаў і ўжыткаў. А на Палессі свае абрады і звычаі не гублялі! Расійская ўлада тут нічым не дапамагала. Палешукі дапамаглі сабе самі.

У адміністрацыйным плане кожнае мястэчка мела сваё самакіраванне, якое паступова замянялася новымі расійскімі формамі.

У 1861 годзе на аснове новага адміністрацыйнага падзелу ўсе паветы былі падзелены на воласці. Мазырскі ўезд (павет) меў 21 воласць.

Давыд-Гарадок увайшоў у склад Хорскай воласці і знаходзіўся ў ёй да 1939 года.

У жыхароў Давыд-Гарадка такая акалічнасць сёння, безумоўна, можа выклікаць шмат пытанняў. Як гэта старажытны горад мог ўваходзіць у склад воласці, цэнтрам якой была вёска Хорск, што як Кугорск існуе з 1475 года, і ў якой ў XVIII стагоддзі было толькі 30 дымоў? Сапраўды, у гэтай вёсцы тады жыло прыкладна 300–400 чалавек, а па дакументах улада з гэтай вёскі кіравала Давыд-Гарадком, у якім насельніцтва складала 4 тысячы і больш чалавек.

Вядома, валасная ўлада ў той час у вёсцы не сядзела, а жыла ў прыгожым і заможным Давыд-Гарадку, ад якога вёска Хорск знаходзілася на адлегласці ў паўтара кіламетры. Паліцыя таксама была ў горадзе. Дык у чым справа?

Адыграць сваю ролю магла пазіцыя князёў Радзівілаў як буйных магнатаў, уплыў якіх на Палессі быў вялікім. Магчыма, Радзівілам гэта было патрэбна ў іх уласніцкіх мэтах. Але нічога канкрэтнага аб іх выгодах мы не ведаем.

Ёсць яшчэ адна версія. Радзівілы маглі проста адпомсціць гараджанам за іх свабодалюбства і самастойнасць. Хутчэй так яно і было, бо гарадчукам удалося добра шчоўкнуць па носе сваіх былых паноў і славутых магнатаў. Як гэта адбылося, мы падрабязна раскажам ніжэй ў гэтай главе.

Трэба дадаць, што Давыд-Гарадок знаходзіўся ў адміністрацыйнай падначаленасці ў вёскі Хорск і пры паляках – да самага свайго вызвалення ў 1939 годзе, але на гэты раз – у Хорскай гміне.

❖

Праваслаўнае насельніцтва Беларусі з прыхільнасцю сустрэла сваё ўваходжанне ў склад Расійскай імперыі. Хаця грамадска-эканамічны лад захаваўся ранейшы, а з ім для сялян і прыгонніцкае права, аднак свабода для праваслаўнай царквы была першым крокам да нацыянальнага адраджэння.

Засілле каталіцызму было рэзка абмежавана, уплыў уніяцкай царквы, якая гвалтам ахоплівала большую частку насельніцтва, адразу ўпаў. Гэтаму, вядома, садзейнічала і афіцыйная ўлада.

Працэс вяртання ўніятаў у праваслаўе ўзначаліў іх епіскап Іосіф Сямашка (1798–1868).

Праведзены пад яго кіраўніцтвам у Полацку аб'яднаны сабор прыняў рашэнне аб зліцці ўніяцкай царквы з праваслаўнай. Гэта адбылося 12 лютага 1839 года.

Гісторыя зрабіла свой круг. Некалі мітрапаліт М. Рагоза стаў апошнім праваслаўным мітрапалітам – і першым мітрапалітам уніяцкім. А зараз апошні кіраўнік уніяцкай царквы стаў першым мітрапалітам адраджонай праваслаўнай царквы, якую складалі выхадцы з уніятаў.

У адрозненне ад увядзення ўніі, яе агонія і распад не выклікалі ніякіх сутычак, ніякага насілля. Амаль усе ўніяты адразу ці крыху пазней вярнуліся да рэлігіі сваіх дзядоў і прадзедаў, а разам з імі вярнуліся і ўсе святыні і храмы, ачышчаныя і асвячоныя зноў.

У гонар гэтай вялікай падзеі, якую святкавалі праваслаўныя цэрквы ва ўсім свеце, ад імя імператара Мікалая і быў выбіты медаль з надпісам:

"Отторгнутые насилием (1596) возсоединены любовью (1839)".

Лепш за гэты афарызм не скажаш пра ўсю гісторыю шматпакутнай Беларусі і ўсяго нашага народа.

❖

Давыд-Гарадок заўсёды быў свабодным. А ў той час, калі ішло запрыгоньванне, дзякуючы сваім гаспадарчым і творчым заслугам, ён атрымаў Магдэбургскае права, жыхары ж яго, гараджане сталі членамі саслоўя свабодных мяшчан.

І хаця гарадчукі не заўсёды былі ў ладах з уладамі Вялікага княства і Рэчы Паспалітай, аднак свае прывілеі захавалі да прыходу расійскай улады. Расійскую ўладу Давыд-Гарадок, горад праваслаўных гандляроў і казацкіх традыцый, сустрэў як сваю.

І на табе. Пры новай уладзе, да яго паблажлівай, дараваўшай яму афіцыйны герб, Давыд-Гарадок свае прывілеі і страціў. Нібыта яго сурочылі.

У чым справа? За што?

Спачатку ўсё ішло проста выдатна: горад стаў павятовым (уездным) цэнтрам, найвышэйшым указам быў зацверджаны пры дапамозе герба кіруючы напрамак яго дзейнасці – гандлярства, усе яго людзі засталіся ў свабодным саслоўі.

А праз некаторы час разумныя і працавітыя жыхары Давыд-Гарадка, як у страшным сне, усё згубілі: горад стаў заштатным мястэчкам, а гараджане – прыгоннымі сялянамі.

Ці не праўда, гэта падобна на ўрывак з нейкай злой казкі. Але ж так здарылася. І першае, што прыходзіць ў галаву: награшыў Давыд-Гарадок, прагнявіў Бога. Але разбяромся.

На Столінччыне было два населеных пункты, якія мелі Магдэбургскае права – горад Давыд-Гарадок і мястэчка Гарадная. Імператрыца Кацярына II скасавала гэтыя правы.

Магдэбургскае права было ліквідавана расійскай уладай паўсюдна, на ўсёй далучанай пасля падзелу Рэчы Паспалітай тэрыторыі. Разам з гэтым было ліквідавана права магнатаў на прыватнае ўладанне гарадамі.

Так Гарадная і Давыд-Гарадок страцілі свае прывілеі.

Аднак князі Радзівілы не хацелі губляць хоць частку сваіх багаццяў. І хаця права на валоданне імі Давыд-Гарадком было адабрана, аднак горад стаяў на зямлі, якая належала Радзівілам.

І вось тагачасны ардынатар Мікалай Юзаф Радзівіл пераводзіць гарадзецкіх мяшчан (за выключэннем яўрэяў) у сялянскае саслоўе. І гараджане фактычна становяцца прыгоннымі.

Як гэта ўдалося? Як кажуць у падобных выпадках: "тайна сия велика есть".

Радзівіл мог правярнуць гэтую аперацыю яшчэ да таго, як горад згубіў Магдэбургскае права, даведаўшыся, што гэтая акцыя рыхтуецца. Горад быў прыватнаўласніцкім, і Радзівіл цішком аформіў патрэбныя паперы, сваёй воляй зрабіўшы са старажытнага горада вялікае сяло. Так што аднойчы, прачнуўшыся раніцай, жыхары доўга не маглі прыйсці ў сябе, даведаўшыся пра навіну, якая была для іх як гром з яснага неба.

А што яны маглі зрабіць? Яны ж жылі на Радзівілавай зямлі і ад зямлі залежалі. Кожны праваслаўны мешчанін меў у сваім карыстанні зямельны надзел, за які трэба было плаціць чынш і адбываць паншчыну.

І спатрэбілася нейкая хітрая канцылярская закавыка, каб Радзівіл скарыстаў гэтую акалічнасць. Вядома, не абышлося без хабару там, дзе трэба.

Былыя мяшчане выкручваліся, як маглі. Яны ж былі перш за ўсё выдатнымі майстрамі-рамеснікамі і добрымі гандлярамі. Гэта былі іх спрадвечныя заняткі, ад якіх адмовіцца ім не дазваляла майстэрства і сумленне.

Стаўшы спачатку на паперы, а потым фактычна і ў жыцці сялянамі, жыхары Давыд-Гарадка страцілі свабоду. А свабода – гэта вольны час. А час, як вядома, – грошы.

Спачатку яны неяк адкупляліся ад магната, але свабода перамяшчэнняў у прыгонных сялян зусім іншая, чым у мяшчан. Прыгонны селянін з Давыд-Гарадка разам з таварам клікаў законную падазронасць ў паліцыі: чаму ён не ў сваім фальварку і ці не збеглы часам? А калі не займацца гандлем, то з чаго жыць?

Пачаліся хваляванні. На працягу некалькіх гадоў гараджане пратэставалі перад адміністрацыяй фальварка, пісалі асабістыя і калектыўныя прашэнні князю, аднак ніякага адказу ад яго не атрымалі.

І тады ў 1816 годзе, ад імя неіснуючага ўжо гарадскога магістрата Давыд-Гарадка, яны накіравалі ў Мазырскі павятовы суд скаргу аб парушэнні князем Мікалаем Юзафам Радзівілам іх патомных і нашчадных прывілеяў. Пачалася шматгадовая судовая валакіта.

Улічваючы класавы характар суда, дабіцца станоўчага вырашэння свайго пытання сялянам было нялёгка. Магнат Радзівіл быў чалавекам не бедным, ды і гарадчукі беднымі не лічыліся. Таму судовым кручкатворам перападалі асігнацыі з двух бакоў. Але гарадчукі мала таго, што былі не беднымі, яны яшчэ былі і ўпартымі.

Праз чатыры гады яны зноў узбуджаюць справу супраць князя сваёй скаргай на моцны прыгнёт і павелічэнне прыгонных павіннасцей. Адзначым гэта. Ці магчыма было ў фанабэрыстай Рэчы Паспалітай прыгонным сялянам скардзіцца на пана? А калі і скардзіліся, то справу вырашалі ка́ты гаспадара. З прыходам расійскай ўлады жыццё змянілася. У лепшы бок.

Зробім невялічкае адступленне. Сёння нацыяналістычнае асяроддзе проста захлынаецца слінай і "праведным" гневам пры добрым слове аб "расейцах" і знаходжанні Беларусі ў складзе Расійскай імперыі.

Пры гэтым што цікава: іх рыторыка слова ў слова супадае з лозунгамі і рыторыкай бальшавіцкіх аратараў, якія клікалі да знішчэння Расійскай імперыі. У гэтым няма нічога дзіўнага: усе яны з адной гліны – разбуральнікі, якія могуць толькі псаваць і жыць адным пратэстам.

Аб тым, як жа на самой справе жылі беларусы ў "турме народаў", расказвае нам менавіта гісторыя, якая абылася з жыхарамі Давыд-Гарадка. Сама Расійская імперыя ў асобе свайго Сената абараніла гараджан-беларусаў ад гвалту з боку іх гаспадара, старажытнага тутэйшага шляхціча – магната-католіка Радзівіла. Якая б Польшча абараніла ў такіх абставінах праваслаўных? Тут ключ да праўды жыцця і адказ на пытанне, чаму беларусам непатрэбны былі паўстанні Касцюшкі і Каліноўскага. Шляхта, нават тутэйшая, не змяніла свайго аблічча, і сутнасцю яе параней шаму заставаліся пагарда, гвалт і прымус.

З апошнім прадстаўніком славутай шляхты былога Вялікага княства і змагаліся гарадчукі – за сваю высокую годнасць. Гэта быў цікавы паядынак.

Цэлае пакаленне гарадчукоў, стаўшых прыгоннымі сялянамі, мірным шляхам, без усякіх паўстанняў з віламі і косамі, без правакацыйных заклікаў тыпу "стрэльбу, хлопчыкі, бяры!" і агрэсіўнасці "Мужыцкай праўды" дабіваліся праўды і вольнасці. І гэты шлях – праз дзяржаўныя органы ўлады, юрыдычны і абгрунтаваны, аказаўся пераможным. Значыць, расійскія законы таго часу гэта дазвалялі.

Справай гарадчукоў займаўся міністр юстыцыі статс-сакратар цара і правадзейны тайны саветнік Дзмітрый Мікалаевіч Блудаў. А канчаткова ўказ падпісаў сам імператар Мікалай І.

Правіцельствуючы сенат неаднаразова звяртаўся да вырашэння розных аспектаў справы. А пачалося з загаду "частное дело флигель-адъютанта князя Льва Радзивила о свободе, отыскиваемой от него жителями ординацкого местечка Давидгродка, рассмотреть в общем собрании Правительствующего Сената"...

Нагадаем, што свабоды шукалі жыхары Давыд-Гарадка ў той час, калі прыгонніцтва пры цары Мікалаі І лічылася непарушным і вечным.

Хто быў павераным і хадайнікам давыд-гарадоцкіх жыхароў, невядома, а вось імя паверанага князя Радзівіла ў дакументах ёсць. Гэта быў дваранін Калікст Карповіч.

Вакол гэтай фігуры ўся справа і закруцілася: менавіта дзякуючы яму Давыд-Гарадок і атрымаў зноў сваю гарадоцкую вольнасць, а гарадчукі зноў сталі мяшчанамі.

Гэты таямнічы Калікст Карповіч неяк дзіўна своечасова ўзнік якраз перад судовымі справамі жыхароў Гарадка. Да гэтага галоўным павераным Радзівіла быў губернскі сакратар Багдашэўскі. Багдашэўскага змяніў надворны саветнік Тулоўскі, якога абраў ізноў жа сам Радзівіл.

Пасля гэтага князь Радзівіл выязджае за мяжу, у Парыж: у яго былі свае інтарэсы, магнат любіў жыць арыстакратычна, у віхуры баляў і свецкіх задавальненняў.

Гарадчукі і вырашылі скарыстаць гэты зручны момант. Тут, як Піліп з канапель, і з'яўляецца Калікст Карповіч. А ў звычайнага двараніна Карповіча на руках з'яўляецца даверанасць, выдадзеная яму "надворным советником и кавалером Леопольдом Осиповым сыном Туловским", якая сведчыла, што Карповіч цяпер прадстаўляе ва ўсіх справах князя Радзівіла.

І вось урэшце Мазырскі павятовы суд прыняў рашэнне аб вяртанні жыхарам Давыд-Гарадка асабістай свабоды і залічэнні зноў у мяшчанскае саслоўе. Вось як гэта гучыць на канцылярскай мове таго часу: "крестьяне местечка Давидгродка начав в 1836 году... дело о свободе, когда признана им была таковая Мозырским уездным судом... того же года апреля 16 состоявшемуся"...

Victoria! У гісторыі феадальнага ладу такіх фактаў вельмі мала, а ў гісторыі Беларусі гэта, можа, і адзіная шчаслівая падзея, каб цэлы горад стаў вольным!

І тут пачынаецца самае цікавае. Павераны князя Карповіч, як добрасумленны дваранін, павінен быў падаць апеляцыю. Вядома, калі ён быў на баку Радзівіла, а не з'яўляўся тайным добразычліўцам гарадчукоў, Калікст Карповіч апеляцыю не падае. Час упушчаны. Мазырскі павятовы суд зацвярджае сваё рашэнне.

Як адбылося на самой справе, мы ніколі не даведаемся. Ёсць некалькі варыянтаў развіцця падзей: дваранін Карповіч наўмысна становіцца павераным князя, каб ў асабістых мэтах адпомсціць яму за нешта. Гісторыя з жыхарамі Давыд-Гарадка – лепшы для гэтага сродак, бо, зразумела, ніякім павераным князя пасля такой гучнай судовай справы, якой займаліся потым Сенат, міністр юстыцыі і нават імператар, дваранін Карповіч больш быць не мог.

Карповіч узнік у гэтай справе нібыта для таго, каб змарнаваць час і, як гаворыцца, тарпедзіраваць сітуацыю сваімі паводзінамі. Так і хочац-

ца сказаць, што ён быў фігурай, якую разумныя і празорлівыя гарадчукі нанялі для вырашэння вельмі простай судовай камбінацыі. Нездарма хітрасці і прадбачлівасці жыхароў Давыд-Гарадка зайздросцяць многія.

Гісторыя з пошукамі сваёй свабоды ад Радзівіла ў гэтым сэнсе самы яскравы прыклад і з'ява ўнікальная.

Гэта быў мат нават не ў два, а ў адзін ход: жыхары пішуць прашэнне, суд вырашае станоўча. А супраціўнік нават не робіць ходу ў адказ. Рашэнне становіцца канчатковым.

Бюракратычная машына закруцілася. Гэта судовая справа жыхароў Давыд-Гарадка цікавіла многіх у губерні. Вядома, у Радзівіла былі прыхільнікі. Мінскі губернскі пракурор пісаў цвёрда: "не считаю мещанами по правам здешнему краю предоставленным... но оное по точному разуму... в течении своем должно быть приостановлено".

Паверaны Карповіч даручае справу адвакату Захарыю Лянкевічу. Адвакат павінен быў "словом действовать так, что польза, обстоятельства дела и необходимость требовать будет, с тем, что таковое его Ленкевича действие принято будет за свято и нерушимо".

Дзеянні Лянкевіча таксама выглядаюць цікавымі: "на дело о свободе... он хотя и объявил неудовольствие, но в установленный срок апелляционного обряда не исполнил".

Правіцельствуючы Сенат ставіць кропку:

"...что по делу о свободе жителей местечка Давидгородка последовало окончательное решение в Мозырском уездном суде, объявленное сторонам 21 мая 1836 года... по причине неисполнения со стороны князя Радзивилла апелляционного обряда... должно оставаться в силе".

Вось так прытрымліваліся законаў у Расійскай імперыі, і нават Сенат не ўціскаў дробнага павятовага суда, а ўжо магнат Радзівіл мог бы, здаецца, знайсці на яго ўправу.

Слава Богу! 1263 душы прыгонных сялян зноў сталі свабоднымі, на гэты раз канчаткова. І быў указ, згодна з якім казённая палата "исключив жителей местечка Давидгродка в числе 1263 душ из крестьянского звания, перечислила в звание мещан того местечка... и остается только принять меры, дабы воспользовавшиеся свободою жители местечка Давидгородка не разбрелись в другие места и оставались бы там на жительство впредь до окончания дела".

Якое яшчэ "окончание дела", калі справа аб свабодзе была вырашана пераможна?

Гарадчукі не былі б гарадчукамі, калі б спыніліся толькі на гэтым. Калі пачало шчасціць, дык трэба выкарыстоўваць добрую сітуацыю, як кажуць, на поўную катушку. І яны выкарысталі. Моцна шчоўкнуўшы па носе фанабэрыстага магната, жыхары Давыд-Гарадка захацелі ў дадатак да ўсяго яшчэ добра адкусіць ад радзівілава пірага!

Гарадчукі вырашылі вярнуць ад князя права валодаць і гарадоцкімі землямі, якое ім было некалі нададзена. Вядома, у гэтым была вялікая

рызыка, бо зямля – гэта багацце, гэта святое. Была небяспека і ў тым, што судовая справа без усякага перапынку ішла за папярэдняй. Гэта магло раздражніць як улады (бо толькі што справу вырашыў Сенат), так і выклікаць надзвычайныя дзеянні самога Радзівіла.

Але гарадчукі вырашылі рызыкнуць. Яны былі людзьмі добра дасведчанымі ў заканадаўчых справах, у гаспадарчай дакументацыі, якую у гарадскім магістраце захоўвалі не адно стагоддзе. Але галоўныя паперы знаходзіліся ў гаспадара.

Гарадоцкія жыхары, ужо мяшчане, а не сяляне, звяртаюцца зноў у Мазырскі павятовы суд са смелай просьбай:

“1. обязать князя Льва Радзивилла к предоставлению инвентарей 1551 и 1558 годов дворянином Войною по повелению Сигизмунда III короля польского составленных, и всех документов к местечку Давидгродку относящихся

2. назначить изследование по всех их претензиям относящимся к неправильному их укреплению и вымогательству излишних повинностей

3. приговорить вознаграждение за те претензии, какие по изследованию обнаружены будут

4. возвратить им все земли, инвентарем 1551 года для них назначенныя”.

І зноў Мазырскі суд вырашае справу жыхароў Давыд-Гарадка станоўча. Тут ўжо заварушыліся мясцовыя улады Мінскай губерні. Такіх разумных мяшчан, якія на вачах абзаводзіліся і зямлёй, тут яшчэ не бачылі.

“Но жители Давидгродка подали 10 июня 1838 года к Минскому губернскому прокурору прошение, в котором указывали, что за воспоследованием означенного указа Правительствующего Сената определение Мозырского уездного суда признавши им свободу на землях и прочих претензиях... вошло уже в окончательную силу, и что по определению 2009 ст. 10 тома свода законов гражданских не может быть перешено ни в существе ниже в последствиях оного”.

Прайшоўшы ад павятовага суда праз губернскага пракурора ўжо знаёмы шлях да царскага Сената і да самога імператара Мікалая І, які падпісваў указы “по Высочайшему Его Императорского Величества повелению”, мяшчане Давыд-Гарадка зноў перамаглі. Гэта была другая перамога над славутым магнатам, флігель-ад’ютантам цара палкоўнікам Львом Радзівілам.

Зямлю, якую некалі іх продкам разам з Магдэбургскім правам даравала у Вялікім княстве Руска-Літоўскім каралева Бона, і якую магнаты Радзівілы адабралі ў час Рэчы Паспалітай, ім урэшце вярнула Расія.

Цяпер на сваёй роднай зямельцы можна было і разгарнуцца!

❖

Амаль сорак гадоў для Давыд-Гарадка былі непрадукцыйнымі. Рамёствы і гандаль заняпалі.

А ў свеце ў тыя гады праходзілі бурныя падзеі: Напалеон ускалыхнуў Еўропу. Вайна дакацілася і да Расійскай імперыі. У 1812 годзе адбылася Айчынная вайна рускага народа супраць напалеонаўскага ўтаржэння. Яна прынесла вялікі ўрон Беларусі, галоўным чынам тым раёнам, дзе адбываліся ваенныя падзеі.

На поўдні Беларусі ваенных дзеянняў не было, толькі восенню 1812 года з Мазыра па левым беразе Прыпяці да Пінска прайшоў сфарміраваны тут ваенны атрад генерала Запольскага, які ў Пінску злучыўся з асноўнымі сіламі. Верагодна, што ў гэтым атрадзе былі рэкруты і з Давыд-Гарадка.

У 1830–1831 гадах у Польшчы, Беларусі і Літве адбылося шляхецка-каталіцкае паўстанне за аднаўленне Рэчы Паспалітай, але яно было падаўлена. У праваслаўным Давыд-Гарадку і яго ваколіцах гэтыя чужыя праблемы цікавасці не вызвалі, тым больш як раз у гэты час, стаўшы раптоўна сялянамі, яны змагаліся супраць католіка-магната Радзівіла. Ці да Рэчы Паспалітай было простаму народу? І да шляхецка-каталіцкіх праблем? Гарадчукі займаліся скаргамі ў расійскіх інстанцыях. І як паказаў час, гэта быў лепшы шлях да волі.

Больш ніякіх падзей на праваслаўным Палессі не было. Вось толькі пазней хадзілі чуткі, што тут недзе нейкі час хаваўся “Дубровский”.

Са школьных гадоў вядома ўсім хрэстаматыйная аповесць А. С. Пушкіна “Дубровский”. Аднак не ўсе ведаюць, што Дуброўскі – гэта не выдуманы персанаж. Яго прататыпам стаў адзін з удзельнікаў паўстання 1830–1831 гадоў Павел Астроўскі, выхадзец з небагатай шляхецкай сям'і, чый двор быў у вёсцы Раванічы Ігуменскага (Чэрвеньскага) павета.

Як і ў Пушкіна, ён быў разораны багатым суседам, настаўнічаў, кінуў гэтую справу і заняўся проціпраўнымі дзеяннямі, яшчэ да паўстання на чале атрада “проказничал долго, лет пять-шесть” у Мінскай і Віцебскай губернях – так называлі некалі звычайнае рабаўніцтва.

У паўстанні Астроўскі “вступил в мятежное ополчение, действовал вооруженною рукою”. Ён быў узяты ў палон, а ў 1832 годзе “содержащийся в г. Пскове в числе военнопленных польских и литовских мятежников шляхтич Павел Островский, коему от роду 22 года, неизвестно куда отлучился”, гэта значыць, уцёк.

Яго беспаспяхова шукалі па ўсіх паветах Мінскай губерні, аб чым сведчаць рапарты з паліцыі Мінска, Бабруйска, Мазыра, Слуцка, Пінска і іншых гарадоў, адрасаваныя мінскаму губернатару.

Астроўскага шукалі пяць гадоў. У архівах кожнага павета захаваліся справы аб гэтых пошуках. А ён, казалі старыя людзі, быў у Мазырскім павеце, у тым ліку і ў Давыд-Гарадку.

У Давыд-Гарадку ёсць вуліца Астроўскага. Можна зрабіць здагадку, што гэта вуліца імя палескага авантурыста, прататыпа героя аповесці Пушкіна.

Інфармацыю аб падзеях на Беларусі атрымліваў у Лондане А. І. Герцэн. Некалькі разоў яго "Колокол" звяртаўся да становішча сялян ва ўладаннях князёў Радзівілаў.

У артыкуле "Под суд" расказвалася, што ў мястэчку Давыд-Гарадок і бліжніх вёсках, якія ўваходзілі ў фальварак, гаспадарыў арандатар Машэўскі, "известный своими подвигами обогащения за счёт мужиков". Ён абкладаў сялян спецыяльнымі паборамі за развядзенне імі хатняй жывёлы; загадаў сабраць усе жорны і выкінуць іх у Прыпяць, каб сяляне малолі на яго млынах; непакорных збівалі.

Герцэн у артыкуле падкрэслівае, што "о помещичьих доблестях Мошевского известно в Европе, за что он возбудил негодование этими и подобными действиями".

У Еўропе гэта было вядома, але гэта ніяк не цікавіла самога Радзівіла, які сам у той жа Еўропе жыў сабе на радасць.

А ў 1863–1864 гадах адбылося другое шляхецкае паўстанне ў Польшчы, Беларусі і Літве з мэтай адраджэння Рэчы Паспалітай. Яго ўдзельнікамі былі 80 працэнтаў каталіцкай шляхты, ксяндзы. Праваслаўнае насельніцтва яго не падтрымала.

У сучаснай гісторыяграфіі значэнне гэтага паўстання ў гісторыі Беларусі, як і сама роля К. Каліноўскага значна перабольшана і ідэалагічна апрацавана. Кіраўніку паўстання наўмысна надаецца, як і сэнсу самога паўстання, нейкае агульнабеларускае гучанне, хаця гэтага ў рэальнасці не было. Гэта была прапольская акцыя, каталіцкі мяцеж супраць праваслаўнай улады, і ўрэшце, як гэта ўжо было ў беларускай гісторыі, і супраць самога праваслаўнага насельніцтва, супраць большасці беларусаў.

Сама асоба Каліноўскага таксама ў пэўных мэтах "падчышчана" і ідэалізавана зноў жа з прапагандысцкім ухілам, звычайна антырасійскага накірунку. На самой справе Каліноўскі быў фігурай не самастойнай: радыкал, за ідэямі якога праглядвала Рэч Паспалітая, і дэмакрат рэвалюцыйнага накірунку, падобны да народавольцаў у Расіі. Народавольцы скончылі тэрорам, хіліўся да тэрору і Каліноўскі. Гэта быў адзіны шлях, на якім пазней з'явіліся, абагульняючы ўсе іх намаганні, нашчадкі ўсіх бунтаўшчыкоў – бальшавікі.

Спробы яго гаварыць з народам пры дапамозе "Мужыцкай праўды" поспеху не мелі, бо не былі як след натуральнымі і шчырымі.

Шкада, што менавіта ў савецкі перыяд гісторыі, зноў жа ў прапагандысцкіх мэтах, паўстанні на Беларусі і сам Каліноўскі былі ахарактарызаваны скажона і сёння нават гучаць правакацыйна. Гэтага няма ў вядомых працах па гісторыі Беларусі М. В. Доўнар-Запольскага, У. М. Ігнатоўскага і В. Ю. Ластоўскага.

Насельніцтва Палесся не прымала ўдзелу ў паўстанні. Аднак на Століншчыне адбыліся падзеі, звязаныя са спробай пашырэння тэрыторыі паўстання.

З-пад Брэста на Палессе рушылі два атрады паўстанцаў пад кіраўніцтвам Р. Траўгута і Я. Ваньковіча агульнай колькасцю звыш двухсот чалавек. Іх мэтай было пракрасціся на Валынь для злучэння з мясцовымі аднамыснікамі.

Шляхце ўдалося балотамі прабрацца да Століна, аднак, зразумеўшы бесперспектыўнасць паходу, яны вярнуліся назад. Ля вёскі Калоднае ім удалося разбіць абоз расійскай роты, але на другі дзень, 13 ліпеня 1863 года, паўстанцы былі разбіты: каля дзесяці чалавек загінулі, звыш паўсотні пакінулі атрад і склалі зброю, астатнія малымі групамі сышлі на захад. Рэшткі зніклі ў лясах і балотах.

Зараз на месцы бою ў Калодным устаноўлены памятны знак.

Рамуальд Траўгут у палескай дрыгве не загінуў. Ён дабраўся да Варшавы, атрымаў чын генерала, быў дыктатарам паўстання, а пасля яго падаўлення быў пакараны смерцю.

❖

Пасля таго, як расійскі Сенат важка падтрымаў гарадчукоў, жыццё тут закіпела. З аднаўленнем сваіх мяшчанскіх правоў рамеснікі, гандляры, прадпрымальнікі даволі хутка аднавілі былую славу Давыд-Гарадка і значна ўзвысілі яе. Многія харчовыя тавары (рыба, вяндліна, мёд, бярозавы сок, каўбасы, марожанае), шавецкія вырабы (славутыя боты), плеценыя рэчы, куфры, лодкі славіліся далёка за межамі мясцовых кірмашоў.

У выдадзенай ў 1882 годзе пад рэдакцыяй акадэміка П. П. Сямёнава-Цянь-Шанскага "Живописной России" (том 3) беларускі вучоны А. К. Кіркор (1819–1866) пісаў:

"На островах реки Горыни расположено местечко Давид-Городок... на реке есть пристань. Торговля довольно значительная, куда стекаются из дальних мест окрестные жители, чтобы продать или передать комиссионерам для развоза по другим городам свои домашние заготовления, как, например, ветчину, сушеную рыбу, дичь в разных видах, грибы, сушеные сливы и т. п., но главное, чем славились сапожники Давид-Городка это – высокие с длинными голенищами сапоги.

Все это ежегодно привозится в Вильно, Варшаву и другие города. Местные жители известны также отличною отделкою плетеных бричек"...

І зараз мясцовыя жыхары з прафесійнай гордасцю ўспамінаюць, што менавіта Давыд-Гарадок абуў польскага прэзідэнта. І сапраўды, сюды звярнуўся з просьбай пашыць яму шыкоўныя непрамакальныя боты ў 1932 годзе прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масьціцкі.

Пытанне гэта абмяркоўвалася на агульным сходзе мясцовых майстроў. Па даручэнню шавецкай суполкі гэту пачэсную работу выканаў Якаў Іванавіч Матусевіч, за што атрымаў падзяку і падарунак ад прэзідэнта.

Гандаль, які заняпаў у Давыд-Гарадку, калі яго жыхары насуперак свайму гербу, сталі не гандлярамі, а сялянамі, зноў ажывіўся.

З даўніх часоў традыцыйнай формай рэгіянальнага гандлю былі кірмашы, якія праводзіліся ў гарадах і мястэчках з Магдэбургскім правам і захаваліся ў новых умовах.

Звычайна кірмашы адбываліся на праваслаўныя святы адзін або некалькі разоў на год. У Давыд-Гарадку кірмаш праводзіўся на Пакровы (14 кастрычніка) два дні.

Гэта быў не толькі гандаль, але і народныя гульні, і батлейка, паказы, у якіх удзельнічалі музыкі (скрыпка, дудка, пазней – гармонік, балалайка), штукары (акрабаты і фокуснікі), казачнікі, цыганы і лірнікі ("сляпцы") – выканаўцы песень у суправаджэнні ліры (яны рыхтаваліся ў спецыяльнай школе толькі ў Тураве).

На кірмашы з'язджаліся гандляры і пакупнікі з розных мясцін – не толькі паветаў, але і губерняў. Былі тут і прадстаўнікі з замежжа: немцы, аўстрыйцы, балгары. У корчмах заключаліся гандлёвыя дагаворы.

Гарадоцкія гандляры былі ўдзельнікамі кірмашоў не толькі сваёй акругі – Турава, Століна, Пінска, але і аддаленых. Асаблівую ўвагу яны ўдзялялі Нясвіжу. Міхайлаўскі кірмаш у Нясвіжы праводзіўся ў канцы верасня і працягваўся два тыдні. Аб ім пісаў вядомы беларускі этнограф П. М. Шпілеўскі (1803–1861) у нарысах "Путешествие по Полесью и Белорусскому краю":

"Нельзя умолчать о знаменитой Михайловской ярмарке... она начинается 26 сентября и продолжается две недели. Сюда съезжаются торгаши и купцы из Пинска, Давыд-Городка, Глуска, Мозыря, Минска, Бреста, Вильно, Киева и Варшавы. Большей частью жиды привозят красные товары, стекло, фарфор, фаянс; пинчуки, мозырцы, давыдгородцы и вообще полесяне приезжают с бесчисленными возами вяленой или копченой рыбы, льняного семени, щетины, смолы, воска и выделанных кож и подошв. Вообще ярмарка Несвижская довольно значительна: она для белорусского края чуть ли не то же, что Нижегородская для великорусских губерний".

Пасля далучэння Беларусі да Расіі даволі значнага развіцця дасягнуў на Палессі знешні гандаль, галоўным чынам – водным шляхам. Палессе стала важнейшым экспарцёрам лесаматэрыялу, дзякуючы свайму ўнікальнаму лясному багаццю.

Тысячы лесарубаў рыхтавалі драўніну самай высокай якасці – сасну, дуб, ясень, вольху. Драўніна сплаўлялася на рэках Гарынь, Прыпяць, Днепр на поўдзень. З'явілася новая прафесія – плытагоны, сотні якіх месяцамі знаходзіліся на плывучых плытах. Значная колькасць лесаматэрыялаў на Прыпяці і каналах вывозілася на захад.

Вось што дакладваў у Пецярбург мінскі губернатар у 1837 годзе:

"В уезде Пинском довольно деятельная торговля с Кременчугом, Херсоном и Одессою строевым лесом и прочими лесными хозяйственными произведениями.

...В уезде Мозырском, изобилующем обширными строевыми лесами, приобретаются лесные материалы для Черноморского флота и вообще производится значительная торговля с купечеством черноморских портов и даже Пруссиею".

Беларусь у складзе Расійскай імперыі далучылася да яе бязмежнай прасторы, да яе велізарнага рынку і агромністых патрэб. Гэта была не Польшча, праз якую цяжка было прабіцца на захад, а на ўсход дарогі не было. Гаспадарчая дзейнасць на Палессі расла, як і расло яе асваенне. У Рэчы Паспалітай Палессе было не да справы, а зараз царскія чыноўнікі займаліся асушэннем балот, для расійскіх вучоных гэта быў новы недаследаваны край.

Адным з цэнтраў гандлю стаў Давыд-Гарадок. Тут з даўніх часоў існавала прыстань, рабіліся лодкі розных памераў. У 30-я гады XIX стагоддзя была створана верф, на якой будаваліся вёсельна-парусныя судны рачнога кабатажу грузападымальнасцю 30–60 тон. Уладальнікамі верфі была кампанія мясцовых купцоў.

Ва ўсіх буйных сёлах воласці былі лесапільні, якія апрацоўвалі драўніну для экспарту. Судны па Гарыні міма Замкавай гары рухаліся ў розных накірунках. Дзесяткі гарадчукоў выконвалі на іх абавязкі лоцманаў і шкіпераў.

У хваёвых лясах працавалі дзесяткі смалакурняў. Кожны год смалакурні краю давалі каля пяці тысяч бочак (бочка – 18 пудоў) высакаякаснай смалы і дзёгцю для расійскага флоту і на экспарт.

З харчовай вытворчасці за межы краю вывозілася і прадукцыя вінакурэння.

Першы бровар у Давыд-Гарадку быў адкрыты ў сярдзіне XVI стагоддзя Мікалаем Радзівілам Чорным. Спачатку была наладжана вытворчасць гарэлкі, а пазней ягадных він і піва (брагі), настойвалася і медавуха. Сыравінай было жыта, пазней і бульба. Вінакурэннем, як мы ведаем, і яго гандлем магла займацца толькі шляхта. Але гэта хутка пераходзіла ў арэнду да яўрэяў.

Наведаўшы ў пачатку XIX стагоддзя Беларусь, акадэмік В. Н. Севяргін пасаў:

"...вино гонят все помещики на своих заводах, которые тут называют броварами, и продают его в корчмах по свободной цене. Отнимите у них право на свободу винокурения – и они будут лишены большей части своих доходов".

В 1881 годзе князем Антонам Радзівілам быў пабудаваны ў яго рэзідэнцыі ў Манькавічах (Столін) спіртзавод, значная частка прадукцыі

якога ішла на экспарт. Бровар у Давыд-Гарадку быў з гэтай прычыны закрыты.

Рост вінакурэння выклікаў і рост п'янства сярод простага насельніцтва. У 1870 годзе "Церковные ведомости Синода" пісалі:

"Корчмари поставили себя в независимое положение и, используя покровительство помещиков, торгуют вином, спаивают народ и окончательно разлагают его". І голас царквы і грамадства быў пачуты.

У 1895 годзе дзяржава ўзяла на сябе манапольнае права на гандаль алкагольнымі напоямі, што ў некаторай ступені стрымлівала развіццё алкагалізму.

Яўрэі-карчмары гандлявалі, як разумелі. І з імі даводзілася лічыцца. Яўрэі ўкараніліся на беларускай зямлі назаўсёды. Яны займалі значнае месца ў эканамічным жыцці Беларусі, пачынаючы ад часоў Вітаўта.

Законы Княства давалі ім магчымасць амаль без абмежаванняў займацца гандлем і рамяством. Ім было дазволена свабоднае веравызнанне, будаўніцтва сінагог, адкрыццё сваіх школ. Узаемаадносіны беларусаў з яўрэямі склаліся нядрэнныя. Многа яўрэйскай беднаты пасялілася і стала пастаяннымі жыхарамі сельскай мясцовасці.

Пасля далучэння Беларусі і Правабярэжнай Украіны гэтыя землі з 1791 года былі аб'яўлены мяжой яўрэйскай аселасці. Ім было забаронена рассяленне ў Расіі.

Адной з прычын была непрыязнасць насельніцтва, якое выхоўвалася афіцыйнай уладай і царквой у падазронасці да яўрэйскага племені згодна з падзеямі вакол Галгофы. Але не гэта было галоўнае. Просты народ пагарды не выказваў. Гэта кіруючы клас баяўся пранікнення яўрэяў на важныя месцы ў дзяржаве. У гэтым была свая рацыя: згодна з Бібліяй, яшчэ Іосіф быў намеснікам фараона і кіраваў Егіптам. З'яўленне такога хітрага Іосіфа і асцерагаліся.

Стагоддзямі яўрэйскі народ, якога заўсёды гналі, выпрацаваў выключна трывалыя погляды на свой шлях і сваё месца ў грамадстве, калі вандраваў па свеце. На аснове рэлігійных поглядаў яўрэі сталі замкнутай нацыянальнай кастай Богам абранага народа, які заняты быў толькі тым, каб у патрэбны момант уступіць у барацьбу за сваё жыццё.

Барацьба гэта была складаная – яўрэі павінны былі браць розумам, хітрасцю, умельствам. На працягу двух тысячагоддзяў пасля рассялення яны не трымалі ў руках зброі, але змаглі яе здабыць. Гэтай зброяй акрамя розуму сталі грошы, золата.

Уся гісторыя раскіданага па свеце народа навучыла іх, што выжыць яны могуць толькі тады, калі дасягнуць магчымасці ўплываць на жыццё той краіны, у якой яны жывуць. Моцны той, хто багаты. А дзеля ўсякага багацця трэба папрацаваць. Працавалі і збіралі. Нават у самага беднага яўрэя было дзве-тры залатыя манеты. Менавіта толькі залатыя.

Дзякуючы свайму прыроднаму характару з рысамі глыбокага рацы-

яналізму, практыцызму, цярплівасці і настойлівасці, яны дабіліся многага.

Вось што пісаў мінскі губернатар С. П. Давыдаў 8 ліпеня 1837 года ў сваёй справаздачы Сенату аб стане гандлю ў губерні:

“Вся почти торговля всей губернии производится евреями или через евреев, овладевших почти исключительно всеми оборотами капиталов и подавляющих деятельностью, взаимною друг друга помощью и пронырством дух промышленности туземцев. От сего упадок в народном богатстве и самый ущерб казны при заготовлении различных предметов”.

Вядома, казна павінна была ўступаць з яўрэямі ў канкурэнцыю, а ўсякая канкурэнцыя патрабуе працы, і гэта не ўсім падабаецца. Тут прычына варожасці паміж рознымі нацыямі і сёння.

Першапачатковае рашэнне ўрада аб дазволе яўрэям жыць толькі ў гарадах і мястэчках прывяло да таго, што ў пачатку XX стагоддзя колькасць яўрэйскага насельніцтва ў буйнейшых гарадах дасягнула 20–50 працэнтаў.

Напярэдадні першай сусветнай вайны ў Мінску з 135 тысяч жыхароў 46 працэнтаў складалі яўрэі, 45 працэнтаў беларусы і рускія. У павятовых Пінску і Мазыры яўрэі складалі большасць жыхароў.

Значны час Пінск быў цэнтрам хасідаў – рэлігійнай плыні ў іўдзейскай рэлігіі містычнага накірунку. Іх прапаведнікі-цадзікі карысталіся неабмежаваным аўтарытэтам і, лічылася, валодалі звышнатуральнай сілай.

Хасідамі сталі яўрэі Століна, якія складалі ў другой палове XIX стагоддзя большасць яго насельніцтва. Тут была пабудавана ў 1792 годзе сінагога – першы цагляны будынак на Століншчыне. Побач з сінагогай ў вялікім двухпавярховым драўляным доме была рэзідэнцыя цадзіка – вярхоўнага равіна значнай часткі Палесся і Валыні.

Цадзікі выбіраліся равінатам пры нараджэнні ў час абразання пажыццёва і вялі паўзатворнае жыццё – за чытаннем рэлігійных іўдаісцкіх тэкстаў. Цадзік быў вярхоўным суддзёй як у рэлігійных, так і ў грамадскіх справах. З самых аддаленых мясцін ішлі да яго яўрэі за парадай і ў чаканні прыёму праводзілі часам шмат дзён.

Калі ў 1889 годзе 22-гадоваму цадзіку патрэбна было ісці па закону ў армію, яўрэйская абшчына выкупіла яго за 30 тысяч рублёў.

Яўрэі Давыд-Гарадка таксама былі хасідамі, а пасля заняпаду хасідызму вярнуліся да традыцыйнага іўдаізму ў сваім кагале (абшчыне). Да гэтага часу фактычна ўвесь гандаль у крамах і сфера абслугі знаходзіліся ў іх руках.

Жылі яўрэі ў Гарадку па цэнтральнай Юр’еўскай (зараз Савецкай) вуліцы ў хатах з выхадам прама на вуліцу. Праз дзверы наведвальнік трапляў у невялікі пакой, дзе размяшчалася крама. Дзверы яўрэйскіх дамоў заўсёды былі адчынены, і на парозе стаяў сам гаспадар. Прахо-

дзячых міма людзей пасля прывітання ён затрымліваў звычайна такім чынам:

– Іван, чаго не заходзіш? Ёсць запалкі, соль, карасін – учора прывёз. Жонцы пацеркі танныя.

– Другім разам, Янкель. Зараз няма грошай. Дачку замуж аддаю.

– Вось і бяры для дачкі. Танна аддам. А грошы прынясеш, калі будуць. Бяры што трэба.

І давалі без грошай. І чакалі. Іх ніхто не падводзіў. Жылі ў згодзе, памяркоўна.

Толькі скончылася тая згода і памяркоўнасць 1942 годам. Калі ўсе яўрэі з Юр'еўскай вуліцы і наогул Гарадка былі забіты.

❖

У спадчыну ад Рэчы Паспалітай Расія на далучаных землях атрымала значную колькасць шляхты, якая прэтэндавала на роўныя правы з расійскім дваранствам.

Аднак дапускаць у сваё асяроддзе спрадвечных праціўнікаў і нават заклятых ворагаў, тым больш католікаў, проста так, механічна, царскія ўлады не збіраліся. Пачалася праверка. Кожны шляхціч павінен быў пацвердзіць дакументальна, што ён спадчынны дваранін. Доказам з'яўляліся даравальныя граматы вялікіх князёў, каралёў, буйнейшых магнатаў. Правяраліся ўсе, пачынаючы ад самых знакамітых і славутых.

Праверка была паскорана і стала больш патрабавальнай пасля шляхецкіх паўстанняў трыццатых і шасцідзесятых гадоў.

У 1840 годзе было спынена дзеянне Статута Літоўска-Рускага гаспадарства 1588 года. Паўстанне 1830 года, безумоўна, паспрыяла гэтаму. Беларусь стала называцца Паўночна-Заходнім краем. Як мы бачым, гэта адлюстроўвала толькі геаграфічнае становішча зямель. Нацыянальныя асаблівасці пры гэтым ніяк не адзначаліся.

Можна асэнсаваць паводзіны расійскіх уладаў сёння, відаць, такім чынам: на далучаных да імперыі землях праводзіўся своеасаблівы палітычны і сацыяльны карантын. Пасля паўстанняў улады Расіі зразумелі, што яны атрымалі на захадзе не самы спакойны рэгіён і жадалі дабіцца ад краю большай аднароднасці ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі на ўскраінах, якія не паўставалі са зброяй і рэлігійнымі патрабаваннямі.

Вядома, гэтая перасцярога была накіравана супраць палякаў і католікаў, якія маглі разварушыць і Беларусь. Але праз гэта цярпелі і беларусы. Справа тычылася і літоўства, якое, як кляймо, ляжала на праваслаўных беларусах здавён. Згубіўшы сваё імя ў Вялікім княстве Літоўскім, беларусы і цяпер павінны былі плаціць па чужых і старых рахунках. Абыякавыя адносіны да беларусаў з боку расійскіх уладаў дыктаваліся старой падазронасцю да літоўцаў, даўніх ворагаў маскоўцаў.

Але ўжо ў саракавыя гады пачынаецца славянафільскі рух, прад-

стаўнікі якога выступаюць за брацкае адзінства рускага, беларускага і ўкраінскага народаў.

Не спрыялі станоўчаму вырашэнню беларускага пытання і паводзіны шляхты. Амаль уся шляхта ў Рэчы Паспалітай была акаталічана. І толькі на поўдні, на Палессі, поспехі ад каталіцкага наступства былі нязначнымі. Што ж датычыцца шляхты Гарадзецкай, то ні адзін з прадстаўнікоў Давыд-Гарадка не здрадзіў сваёй праваслаўнай веры.

Дробная шляхта ў свой час атрымала шляхецтва ад сваіх магнатаў, князёў Радзівілаў, і ў большасці ніякіх дакументаў не мела. Якой яна была тады, выдатна паказаў В. І. Дунін-Марцінкевіч у камедыі “Пінская шляхта”, героі якой ўзяты з гэтых мясцін.

На самой справе такая шляхта была ўжо звычайным сялянствам, часам нават бяднейшым за некаторых сялян. Канчаткова мясцовая (засцянковая) шляхта знікла ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. У гарадах яна была прыпісана да мяшчан, у сельскай мясцовасці – да сялян.

Шляхецтвам сваіх продкаў маюць права ганарыцца тыя, хто мае ў Давыд-Гарадку і ваколіцах прозвішчы Бразоўскі, Вабішчэвіч, Лазіцкі, Ляшкевіч, Некрашэвіч, Патоцкі, Пашкевіч, Пратасавіцкі, Скаржынскі, Слуцкі, Сянкевіч, Труханові і некаторыя іншыя.

Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе станам развіцця сельскай гаспадаркі на Беларусі пачаў займацца і дзяржаўны ўрад. Зацікавіліся ўпершыню і Палессем.

Была створана Заходняя экспедыцыя па асушэнню балот, якая працавала ў 1873–1898 гадах пад кіраўніцтвам буйнога вучонага-геадэзіста генерал-лейтэнанта Іосіфа Іпалітавіча Жылінскага (1834–1916). Перад гэтым на працягу дзесяці гадоў ён кіраваў картаграфічнай работай па градусным вымярэнні дугі паралелі 52° паўночнай шыраты – і на Беларусі прайшоў па лініі Брэст–Пінск–Давыд-Гарадок–Тураў–Мазыр–Гомель.

Узначаліўшы экспедыцыю, Жылінскі спачатку арганізаваў метэаслужбу, і першыя метэастанцыі былі адкрыты ў Пінску і Васілевічах, метэаназіранні арганізаваны ў Давыд-Гарадку, Тураве, Петрыкаве, Мазыры.

На прытоках Прыпяці было арганізавана трынаццаць вадамерных пастоў. Быў такі і ў Давыд-Гарадку ў вусці Гарыні-Нырчы.

Экспедыцыя Жылінскага правяла вышукальныя работы і склала генеральны план па асушэнню балот Палесся. На сусветнай выстаўцы ў Парыжы ў 1878 годзе гэты план атрымаў залаты медаль, як найбольш шырокамаштабны і навукова-абаснаваны.

Упершыню ў Расіі былі праведзены значныя меліярацыйныя работы па асушэнню балот на навуковай аснове. Было асушана каля 500 тысяч гектараў балот, сярод якіх былі палепшаны і сялянскія землі. Было пракладзена каля пяці тысяч кіламетраў каналаў асушальнага і лесатранспартнага прызначэння. У ваколіцах Лунінца і зараз існуе канал імя Жылінскага.

Экспедыцыя працавала шмат. Адначасова праводзіліся работы па даследаванню вырошчвання розных травяных культур, бульбы і збожжавых на асушаных землях. Работа экспедыцыі была спынена ў 1902 годзе. Але меліярацыя Палесся няўхільна была прадоўжана ў глабальных памерах у 70–80 гадах нашага стагоддзя і прынесла непапраўную шкоду ўнікальнаму Палескаму краю.

А край наш унікальны не толькі сваёй прыродай, але і яе людзьмі – палешукамі, галоўным тутэйшым скарбам.

Спецыфічныя прыродныя ўмовы, у нейкім сэнсе гістарычная адасобленасць, што адбілася на мове, культуры, побыце, звычаях і духоўных традыцыях, стварылі на Палессі вельмі арыгінальную этнаграфічную групу беларусаў, якая і зараз захавала сваю старажытную назву – палешукі.

Вось якую характарыстыку даваў ім акадэмік П. П. Сямёнаў-Цянь-Шанскі каля 150 гадоў назад:

“Полешуки здоровы, сильны и долговечны, среди них не редкость столетние. Помогает тому лесной смоляной воздух, обильная мясная и рыбная пища. Нравственность у полешуков высокая. Воровство, грабежи, кражи – редки”.

А вось так пісаў аб палешуках даследчык гісторыі Палесся беларускі вучоны У. З. Завітневіч (1853–1927) сто гадоў назад у рабоце “Археологическая экспедиция в Припятское Полесье”:

“...людей более красивых в физическом отношении, что особенно следует сказать о женщинах, и более симпатичных в нравственном отношении я не встречал ни на севере, ни на юге России; полешук подвижен, достаточно сметлив, искренен и первобытно честен. Вообще, если бы меня спросили, где можно отыскать чистый тип тех славян, которые так симпатично выступают у некоторых летописцев, я указал бы на Полесье”.

Такія прыгожыя характарыстыкі нашых землякоў сустракаюцца ва ўсіх наведвальнікаў і гасцей Палескага краю, якія пакінулі пісьмовыя сведчанні аб сваіх візітах. Чытаць добрыя, больш за тое – выключна добрыя словы, вядома, прыемна, але разам з тым такія характарыстыкі дапамагаюць нам зрабіць нейкім чынам гістарычны экскурс у мінулае Бацькаўшчыны.

Захаваўшы ўсе лепшыя рысы беларускага этнасу, палешукі былі адной з важнейшых нацыянальных груп народа, якая сваім жыццём і высокамаральнымі паводзінамі, духоўнай вытанчанасцю і таленавітасцю, нават адной сваёй сціплай прысутнасцю, садзейнічала нацыянальна-культурнаму адраджэнню і фарміраванню беларускай нацыі.

Уключэнне Беларусі ў склад Расіі адыграла станоўчую ролю ў канчатковым нашым адраджэнні. У нейкім сэнсе нават русіфікацыя з сістэмай рускіх школ і рускай культуры падштурхнула разам з сацыяльна-палітычнымі рэформамі тыпу адмены прыгонніцтва ў 1861 годзе, бела-

русаў – да адраджэння, а беларускую культуру – да значнага ўздыму ў другой палове XIX і пачатку XX стагоддзяў.

Маўкліва рухалася беларуская нацыя ў складзе Вялікага княства Літоўскага, зліваючыся з чужым этнасам і паступова губляючы свае адметныя рысы. У складзе Рэчы Паспалітай беларусы ледзь не былі знішчаны разам з сэрцам народа, яго айчынным веравызнаннем – праваслаўем. І толькі сумесна з рускім духам, родным і дабрадзейным, абудзіўся і беларускі дух. Менавіта ў складзе Расійскай дзяржаўнасці беларускі народ прайшоў – і вельмі хутка, за нейкае стагоддзе – вялікі шлях самасвядомасці, з рук рускага народа атрымаў свабоду і стварыў урэшце сваю Беларускую Дзяржаву.

Да сярэдзіны XIX стагоддзя склалася сучасная беларуская літаратурная мова. У свой час для Ф. Энгельса беларуская мова была сярэдняй паміж рускай і польскай, але бліжэй – да рускай.

Аднак калі гаварыць гістарычна, гэта руская мова сёння бліжэй да беларускай, якая захавала мудра і цярпліва свае спрадвечныя агульнаславянскія карані. Характар беларусаў дапамагаў таму, што беларуская мова мае безліч гаворак, асабліва на Палессі, дзе пакінула свой след украінская мова. Фактычна кожная палеская вёска і сёння захавала сваё моўнае аблічча, і часта гэтыя прыгожыя і ўнікальныя асаблівасці вельмі значныя.

Беларуская літаратура пачала развівацца з сярэдзіны XIX стагоддзя, але каля паловы стагоддзя яе алфавітам была лацінка – спадчына апалячвання і Рэчы Паспалітай. Суб'ектыўна гэта цягнулася так доўга і з прычыны таго, што большасць вядомых яе прадстаўнікоў выйшлі з каталіцкага асяроддзя: В. Дунін-Марцінкевіч, К. Каліноўскі, А. Ельскі, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына (І. Неслухоўскі), Цётка (А. Пашкевіч), Я. Купала (І. Луцэвіч) і іншыя. Але ўсе яны лічылі сябе тутэйшымі і ганарыліся, што яны беларусы.

Пад дабрачынным уздзеяннем рускай культуры пачала адраджацца беларуская інтэлігенцыя, якая набывала народныя рысы і пазбаўлялася шляхецкай фанабэрыі і пагарды да простага чалавека. Радзімкі апалячвання знікалі, адмерла і лацінка.

Пачала развівацца адукацыя сярод сялянства, якое было агульна непісьменным.

Па даных рэвізора Іосіфа Твардоўскага, ва ўсёй Мінскай губерні ў 1819 годзе было звыш 30 школ, у якіх навучалася 600 вучняў, прытым з сялян толькі 150. Гэты ж рэвізор пакінуў нам цікавыя звесткі аб тым, што ўладальнік маёнтка ў Століне Аляксандр Пацей у 1816 годзе адкрыў тут сельскагаспадарчую школу ўзаемнага навучання, своеасаблівае прафесійнае вучылішча.

Гэта навучальная ўстанова такога накірунку была першай на Беларусі. У год наведвання рэвізорам у школе было 163 вучні. Навучанне вялося на польскай мове. Мэтай навучання была падрыхтоўка кваліфі-

каваных работнікаў для буйных панскіх гаспадарак. У першай палове дня вучні працавалі на полі і ў майстэрнях, а потым навучаліся ў групах.

Акрамя элементарнай граматы тут вывучаліся асновы земляробства, садоўніцтва, цяслярскага рамяства. Настаўнікамі былі вопытныя аканомы (кіраўнікі панскіх гаспадарак), групамі вучняў з 10–15 чалавек кіравалі найбольш здольныя старэйшыя навучэнцы. Аднак школа праіснавала не больш за дзесяць гадоў, і новым уладальнікам была закрыта.

Пасля паўстання 1863 года навучанне на польскай мове на Беларусі (Паўночна-Заходнім краі) было забаронена і вялося выключна на рускай.

Ніжэйшай самадзейнай формай навучання былі школы граматы, якія стваралі самі сялянскія калектывы. Школьным памяшканнем была звычайна сялянская хата, якая наймалася, а настаўнікамі – адстаўны малапісьменны салдат ды царкоўны служка, вучнямі – не больш за дзесяць хлопчыкаў. Тэрмін навучання складаў у асноўным адзін год, рэдка – два.

Такія школы граматы на Століншчыне дзейнічалі ў Гарадной і Лядцы з 1863 года, Плотніцы – з 1878, Харомску і Рухчы – з 1883, Рублі – з 1886, Беражным і Дубаі – 1888, Калодным – з 1890 гадоў.

Пасля далучэння да Расіі праваслаўная царква на Беларусі атрымала моцную падтрымку ад Урада дзяржавы і Сінода, якія разумелі, што толькі ад самога народа залежыць паспяховасць барацьбы з наступствамі каталіцызму і ўніяцтва.

З гэтай мэтай пры царкоўных прыходах адкрываліся царкоўна-прыходскія школы. Семінарысты, якія пасвячаліся ў сан свяшчэнніка, давалі пісьмовае абавязацельства адкрываць школы ў тых прыходах, у якія іх накіруюць.

На Століншчыне ў сярэдзіне XIX стагоддзя было каля дзесяці такіх школ. Значнай падзеяй было адкрыццё царкоўна-прыходскіх жаночых школ. Іх было дзве: у Давыд-Гарадку (56 вучаніц) і ў Століне (24 вучаніцы). Усе школы гэтага тыпу былі аднакласнымі з двухгадовым тэрмінам навучання.

Урад выдзяляў больш сродкаў на гэты тып школ, чым на іншыя. Усе навучэнцы забяспечваліся бясплатнымі падручнікамі і школьнымі дапаможнікамі, у многіх школах былі арганізаваны абеды. Аднак свае памяшканні мела трохі больш за палову школ.

Дэмакратычныя рэформы 60–70 гадоў далі магчымасць грамадскасці больш шырока разгарнуць рух за пашырэнне свецкага навучання. Міністэрства народнай адукацыі стала адкрываць народныя вучылішчы. Для Століншчыны паказальным быў 1863 год, калі было адкрыта пяць такіх устаноў: у Давыд-Гарадку, Століне, Радчыцку, Лядцы і Аздамічах.

Па даных інспектарскай праверкі, у 1888 годзе ў народных вучылішчах было вучняў: Давыд-Гарадоцкае – 107; Столінскае – 54; Радчыцкае – 46; Плотніцкае – 43; Лядзецкае – 36; Аздаміцкае – 31; Церабяжоўскае – 30; Альшанскае  – 27.

Народныя вучылішчы былі аднакласнымі (два гады) і двухкласнымі (чатыры-пяць гадоў): тут вучыліся і хлопчыкі, і дзяўчынкі. Праграма навучання ўключала агульнаадукацыйныя прадметы ў межах пачатковага навучання, было уведзена фізічнае выхаванне.

Навучальны год пачыналі 20 верасня – 15 лістапада, заканчвалі яго навучэнцы 20 сакавіка – 1 мая. Усё залежала ад умоў надвор’я ў вёсцы, ад выкарыстання бацькамі дзяцей на гаспадарчых работах.

Навучанне ў народных вучылішчах вялося на больш высокім узроўні, чым у папярэдне названых тыпах школ. Большасць настаўнікаў тут мелі прафесійную падрыхтоўку, любілі сваю справу. Толькі ў Давыд-Гарадку і Століне вучылішчы былі двухкласнымі. Аднак і тут памяшканні былі дрэнна абсталяванымі.

Ахоп пачатковым школьным навучаннем быў даволі нізкім. Усяго ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў у Мінскай губерні навучалася каля 30 працэнтаў хлопчыкаў і каля 20 працэнтаў дзяўчынак 8–15 гадоў.

У пачатку XX стагоддзя Давыд-Гарадок быў даволі буйным населеным пунктам. І колькасць яго жыхароў расла выключна хуткімі тэмпамі: 1890 год – каля 5000 чалавек, 1897 – 7815, 1907 – 13217 жыхароў.

Тут былі царкоўна-прыходская школа і народнае вучылішча, яўрэйская школа, дзве праваслаўныя царквы – Юр’еўская і Васкрасенская, касцёл, дзве сінагогі, бальніца, прыватная аптэка Юдовіча, аддзяленне Сялянскага банка, суднаверф, пажарная каманда, паліцэйскае аддзяленне.

У 1892–1898 гадах берлінскі купец Краўзе на аснове дагавораў з давыд-гарадоцкай лесанарыхтоўчай кампаніяй вывозіў з поспехам лесаматэрыялы ў Германію. І гэта толькі адзін прыклад.

Таму гаспадарчыя аб’екты займалі ў Давыд-Гарадку сваё паважанае месца: прыстань з гадавым абаротам звыш мільёна пудоў грузаў, лесапільні, сыраварня, бровар, пастаялыя двары, многа самых розных крамаў.

Ды і наогул большасць жылых будынкаў тут былі альбо месцам вытворчасці, альбо гандлю.

Усё ішло згодна з гербам, які Давыд-Гарадку зацвердзіла царыца Кацярына II: з яе лёгкай рукі Гарадок паступова пераўтвараўся у гандлёвую сталіцу Палескага краю – гэткі палескі Марсель! Так бы і здарылася, каб не страшэнна-разбуральнае XX стагоддзе, якое фактычна спыніла развіццё Давыд-Гарадка як гандлёвага цэнтра і рачнога порта.

А пакуль усё ішло добра. І Давыд-Гарадок сапраўды нагадваў Палескую Венецыю.

Кожная сям’я мела не менш за дзве лодкі, а гэта значыць, што іх было каля пяці тысяч. У мястэчку было два вялікіх і каля дзесяці малых драўляных мастоў. Цэнтральныя вуліцы былі з напаўцвёрдым пакрыццём, усе вуліцы мелі тратуары.

З 1844 года ў Давыд-Гарадку было газавае (керасінавае) асвятленне вуліц.

Гледзячы на колькасць мастоў, суднаверф, прыстань з караблямі і пяць тысяч лодак, можна меркаваць, што вады ў Давыд-Гарадку хапала. І, як кажуць, засуха яму не пагражала. Можа, толькі крыху які нечаканы патоп з карпацкіх гор.

Але ж страшэнным бічом для насельніцтва былі частыя пажары. Толькі ў XIX стагоддзі Давыд-Гарадок выгараў поўнасцю тры разы! Як кажуць, не бойся злодзея – хоць і ўкрадзе, дык усё роўна застанецца людзям, а бойся пажару. І сапраўды, пажар – адбітак нябеснай кары. І тыя пажары сведчылі, што гандаль – справа цяжкая, адказная і рызыкоўная. Але падпальшчыкаў паліцыя не знайшла ні разу.

Для барацьбы з агнём у Давыд-Гарадку была створана першая ў акрузе пажарная каманда для абслугоўвання сваёй воласці. У Мінску быў надрукаваны статут гэтага таварыства, зацверджаны 8 ліпеня 1895 года.

Жыхары Давыд-Гарадка хутка крочылі да цывілізацыі і ўсё рабілі станоўча і сур'ёзна. У Мазыры былі надрукаваны тры справаздачы Давыд-Гарадоцкага сельскагаспадарчага таварыства.

Грамадскае жыццё кіпела, патрабавала інфармацыйнай падтрымкі. У 1894 годзе мясцовы прадпрымальнік з Давыд-Гарадка атрымаў дазвол ад міністэрства ўнутраных спраў трымаць паліграфічны апарат. На працягу некалькіх гадоў ён друкаваў бланкі для купцоў, запрашальныя білеты, візіткі, афішы, аб'явы.

Гэта неяк замяняла, вядома часткова, адсутнасць сваёй мясцовай давыд-гарадоцкай газеты. Па традыцыях таго часу ўсюды звычайна выходзілі "Губернские ведомости", што не адмяняла патрэбы ў мясцовым друку. Аб тым, ці была свая газета ў Давыд-Гарадку да рэвалюцыі, ніякіх сведчанняў няма.

❖

Найбольш прадпрымальная частка насельніцтва імкнулася даць сваім дзецям больш глыбокія веды, даць ім магчымасць паступіць у гімназію, а потым у вышэйшую навучальную ўстанову.

Пасля доўгага хадайніцтва мяшчанскай управы ў 1908 годзе ў Давыд-Гарадку было адкрыта гарадское вучылішча. Было яно чатырохкласным з шасцігадовым тэрмінам навучання. Паступаючыя павінны былі трымаць экзамены, вучоба была платнай – дзесяць рублёў у год.

У першы год уступны экзамен вытрымаў 51 хлопчык. Кіраўнік вучылішча называўся настаўнікам-інспектарам. Першым быў Іван Мікалаевіч Чувардзінскі.

Праз два гады тут працавалі сем настаўнікаў, урач, бібліятэкар і справавод. Бібліятэка вучылішча была буйнейшай у акрузе: у ёй налічвалася звыш двух тысяч кніг. Напярэдадні першай сусветнай вайны быў збудаваны аднапавярховы цагляны будынак вучылішча.

Вучылішча стала цэнтрам культурнага жыцця, па яго ініцыятыве праводзіўся шэраг цікавых мерапрыемстваў. Такім былі святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння М. В. Ламаносава і 300-годдзя царскай дынастыі Раманавых, якія былі праведзены з густам і на высокім патрыятычным узроўні.

Мясцовая інтэлігенцыя была нешматлікай, правінцыйнай, жыла далёка ад цэнтра, але і ў яе жыцці бывалі святы і радасныя сустрэчы. Напрыклад, з вядомым рускім пісьменнікам А. І. Купрыным, імя якога ў Маскве і Пецярбурзе ставілася побач з Чэхавым, Леанідам Андрэевым, Буніным.

Купрын у канцы 90-х гадоў некаторы час пражываў ў аднаго са сваіх сяброў – памешчыка вёскі Пераброды (25 кіламетраў ад Століна), якая ў той час уваходзіла ў Пінскі павет.

Пісьменнік быў заядлым паляўнічым, як рускія дваране, многа блукаў па лясах і балотах, заходзіў у вёскі, гутарыў з палешукамі, слухаў і запісваў старадаўнія легенды. Магчыма, ён бываў і на поўдні Століншчыны. Аб гэтым сведчыць тое, што ў творах, напісаных пад уплывам палескіх уражанняў, сустракаецца нямала трапных і характэрных выразаў мясцовай гаворкі.

Гэта так званы "Полесский цикл" твораў пісьменніка, выдатнага і жывапіснага празаіка – "Лесная глушь", "Оборотень", "На глухарей", а таксама славутая аповесць "Олеся" (1898). Хто чытаў гэты твор, ніколі не забудзе прыгажосці палескай дзяўчыны, якая на старонках аповесці проста зачароўвае сваёй таямнічай сілай. "Олеся" гучыць, як гімн Палессю, блаславёнай і адвечнай чысціні жаночай душы. Многія літаратуразнаўцы лічаць, што так прыгожа і пранікнёна, з вялікім пачуццём і лірызмам мог апісаць гэтае каханне чалавек, які сам перажыў яго. Калі гэта так, то акрамя палявання і сустрэч з мясцовай інтэлігэнцыяй, Купрын перажыў у нашых мясцінах і зорны час свайго жыцця – палескае каханне.

Як сведчанне росту нацыянальнай самасвядомасці, у многіх гарадах і мястэчках з пачатку XX стагоддзя пачалі праводзіцца вечары беларускай культуры – беларускія вечарынкі.

Іх арганізоўвалі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, якія захапляліся народнымі талентамі, а удзельнічалі аматары народнай творчасці з рамеснікаў, сялян.

Вечарынкі праводзіліся і ў Давыд-Гарадку. Цэнтрам было гарадское вучылішча. Быў створаны даволі вялікі калектыў, у які ўваходзіў драматычны гурток, аркестр, хор і ансамбль танцаў. Выступленні праводзіліся ў розных памяшканнях, але галоўнымі сцэнамі былі вучылішча і пажарная. З музыкальных інструментаў найбольш папулярнай была скрыпка.

Яшчэ да публікацыі ў друку ў Давыд-Гарадку была пастаўлена "Пінская шляхта" В. І. Дуніна-Марцінкевіча (1808–1884) – на палескай

гаворцы, мове аўтара. Адкуль ўзяўся рукапіс? Магчыма, копія рукапісу трапіла да давыд-гарадоцкіх аматараў тэатру ад людзей, у якіх бываў у ваколіцах Давыд-Гарадка пісьменнік. Але дзе і ў каго?

П'еса напісана ў 1866 годзе. У каментарыі аўтар піша:

"Рэч адбываецца ў ваколіцы О., паміж балотаў, у глушы Пінскага павета".

А яшчэ раней, у маі 1849 года быў напісаны верш "Вясна" і падпісаны – "Ольпень". Літаральна на другі дзень напісаны верш "Прыпяць". Так што адрас праясняецца.

У невялікай вёсцы Альпень, у якой спачатку знайшоў Дунін-Марцінкевіч паэтычнае натхненне, знайшоў ён і сюжэт камедыі. Тут жылі прататыпы засценкавай шляхты з прозвішчамі, якія сталі намінальнымі і афарыстычнымі – Цюхай-Ліпскі, Пратасавіцкі. Пісьменнік пабываў у Альпені – так лічыць знаўца творчасці класіка, беларускі празаік і грамадскі дзеяч Уладімір Ліпскі.

Вёска Альпень знаходзіцца побач с Давыд-Гарадком. Трапіць у яе можна толькі па дарозе праз Гарадок. Так што Дунін-Марцінкевіч пабываў і ў Давыд-Гарадку. Можна ўявіць, якім смехам сустракалі гледачы "Пінскую шляхту", якімі апладысментамі, бо жывыя персанажы камедыі яшчэ хадзілі па ваколіцах, і часта тых Цюхай-Ліпскіх можна было сустрэць на вуліцах Давыд-Гарадка, у крамах, шынках ды тракцірах.

Гледачы расказвалі, што вялікую цікавасць выклікалі пастаноўкі п'ес "Модны шляхціч" Каруся Каганца і "Паўлінка" Янкі Купалы.

Далёка за межамі краю былі вядомы "конікі" – навагоднія карнавалы Давыд-Гарадка, якія з далёкіх часоў дайшлі да сённяшняга дня. Падрыхтоўка да гэтага свята пачыналася адразу ж прыходам зімы: рабілі маскарадныя ўбранні, маскі, жывёльныя макеты, самаробныя бенгальскія агні і іншыя забаўкі для феерверку.

У навагоднюю ноч на вуліцах, як і зараз, было насельніцтва ўсяго горада – і старыя, і малыя. Вечар быў шчодрым: у кожнай хаце шчодрая вячэра, і свята пачыналася са шчодраўкі – дзесяткі груп гараджан і гараджанак, малых і дарослых, спявалі і гралі пад вокнамі, за што гаспадары частавалі іх і давалі гасцінцы.

А на вуліцы, як тады, так і зараз, можна сустрэць гарцуючых коней, размаляваных хатніх жывёл, ваўкоў, мядзведзей, салдатаў, казакаў, цыганаў, нават смерць з касою.

Цэнтральным аб'ектам відовішча з'яўляецца "Віфліемская зорка"– вогненнае кола з многімі промнямі, якое круціцца, рассыпаючы на гурбы снегу зорачныя іскры. Віншаванні з Ражством Хрыстовым, песні, музыка, смех, танцы, – сапраўдны народны карнавал. Нідзе на Беларусі нічога падобнага няма.

Адным з грамадскіх актывістаў Давыд-Гарадка быў праваслаўны свяшчэннік Цімафей Сцяпанавіч Юхневіч (1877–1920).

Цэнтр горада з гандлёвай плошчай быў забудаваны крамамі, зямля тут была дарагая. Але менавіта тут Юхневіч знайшоў зямлю, якая па закону належала царкве з даўніх часоў. Юхневіч быў упарты, як усе гарадчукі.

Ён доўга вёў судовую справу з яўрэйскім равінатам за кавалак зямлі, выйграў яе і пабудаваў у 1912 годзе ў цэнтры горада, побач з гандлёвымі радамі Свята-Казанскі храм, які зараз з'яўляецца месцам службы благачыннага іерэя раёна. Айцец Юхневіч карыстаўся вялікай пашанай грамадскасці і жыхароў горада. Толькі ён адзін пахаваны каля алтара Свята-Казанскай царквы, на адваяванай ім некалі зямлі. Няма тых гандлёвых радоў і крамаў, а храм стаіць.

У памяць аб Юхневічу вуліца, на якой стаіць царква, носіць яго імя, ды мемарыяльная дошка на храме згадвае добрага свяшчэнніка і грамадзяніна.

Другім па кольскасці жыхароў населеным пунктам ваколіц Давыд-Гарадка была вядомая нам вёска Гарадная, некалі мястэчка з залатарогім каралеўскім аленем на гербе. У 1909 годзе тут было 1830 двароў, 6728 жыхароў. Гэта была адзіная на ўсё Палессе вёска, дзе ўсё насельніцтва займалася ганчарным рамяством, за што яна мела Магдэбургскае права. Ганчарства тут захавалася да сённяшняга часу.

Валасны цэнтр Пінскага павета Столін у гэтым жа годзе быў у сем разоў меншы, чым Давыд-Гарадок. У ім было толькі 320 двароў, жыхароў – 2100.

На паўночна-ўсходняй ускраіне Століна знаходзіцца вёска Манькавічы (зараз у межах горада). Тут некалі была палаца-паркавая сядзіба князёў Радзівілаў, заснаваная ў канцы XVII стагоддзя як рэзідэнцыя магнацкіх прадстаўнікоў Давыд-Гарадоцкай ардынацыі.

У канцы XIX стагоддзя тут быў пабудаваны двухпавярховы палац у псеўдагатычным стылі ў форме трохкутніка. У левым крыле выдзялялася чатырохпавярховая гранёная вежа, завершаная купалам з барабанам і шатром на ім. Пры ўездзе ў сядзібу была пастаўлена манументальная брама. Палац не збярогся, ён загінуў у час другой сусветнай вайны.

У 1885 годзе вакол палаца на плошчы 50 гектараў (зараз 28 га) быў закладзены парк пейзажнага тыпу. Ён быў створаны на насыпной тэрасе, абмежаванай земляным валам вышынёй да 1,5 метра з кветнікамі і дэкаратыўнымі кустамі. Парк перасякаўся некалькімі алеямі радыяльнага напрамку.

Усяго ў дрэвастоі ў парку каля сарака відаў дрэў і кустоў. Акрамя мясцовых парод тут ёсць і экзоты, прывезеныя з Каўказа, Заходняй Еўропы і Амерыкі: чорныя і веймутава хвоі, чырвоны дуб, лаўралістая таполя, еўрапейская лістоўніца, каўказская піхта, канадская елка, амерыканская ліпа, белая вярба, канадская каліна і інш.

І палац, і парк былі створаны давыд-гарадоцкім ардынатам князем Львом Радзівілам (1835–1904). Зараз парк – помнік прыроды дзяржаў-

нага значэння. Некалі ў маёнтку знаходзіўся вядомы на ўсю Еўропу спіртзавод і стайня высокапародных коней.

Прыгажэла прырода пад дабрадзейнымі рукамі чалавека, прыгажэлі і людзі. Многа майстроў з Давыд-Гарадка ўпрыгожвалі гарадскі і вясковы быт. Высокага майстэрства дасягнула рамяство асобных накірункаў.

У пачатку XX стагоддзя Іван Дзямідовіч, Іван Паддубны, Пятро Шышко і іншыя майстры з Давыд-Гарадка праславіліся мастацкім вырабам куфраў, якія ў той час замянялі шафы для захоўвання дарагіх рэчаў і святочнага адзення. Давыд-Гарадоцкія куфры былі вядомы на ўсім Палессі. Асобныя выдатныя экземпляры захоўваюцца не толькі ў музеях Беларусі, але і за межамі, у тым ліку і ў Канадзе.

На фоне ўсяго Прыпяцкага Палесся выдзялялася адзенне мяшчан Давыд-Гарадка і Турава, якое этнографы называюць гарадоцка-тураўскім строем. Як і куфры, яго ўзоры ўпрыгожваюць музеі.

Асабліва маляўнічым было адзенне замужніх жанчын, якое складалася з некалькіх па-мастацку асэнсаваных атрыбутаў. У вырабе і аздабленні выкарыстоўвалася даматканая і мануфактурная тканіна, прыгожа апрацаваная скура, каштоўныя аксесуары.

У летні гарнітур жанчыны ўваходзілі кашуля з вышыўкамі расліннага арнаменту, спадніца, гарсэт (жылет) і пояс, упрыгожаныя нашыўкамі. Канструкцыя адзення надавала жанчыне прывабную статнасць. Асабліва экзатычнымі былі галаўныя ўборы, якія называліся галовачкай і нечым нагадвалі чалму ці цюрбан.

Мужчынскае адзенне мяшчан Давыд-Гарадоччыны таксама адрознівалася ад іншых раёнаў. Яно было простым, але зручным і элегантным. Абавязковымі атрыбутамі мужчынскага касцюма былі камізэлька (жылет), боты і капялюш.

Дакументальнымі матэрыяламі, на якіх адлюстраваны апісаныя вышэй падзеі гаспадарчага і культурнага жыцця, этнаграфічныя асаблівасці жыхароў Давыд-Гарадка, з'яўляюцца здымкі першай паловы XX стагоддзя выдатнай мясцовай дынастыі фатографаў Зубеяў, якія маюцца ў многіх музеях.

Узоры асветы і культуры на Палессі, у тым ліку і ў Давыд-Гарадку, сведчаць аб іх паслядоўным росце як маляўнічай часткі развіцця беларускага нацыянальнага адраджэння.

# ВАЙНА І РЭВАЛЮЦЫЯ

*Ибо отныне пятеро в одном доме*
*станут разделяться:*
*трое против двух и двое против трех;*
*отец будет против сына*
*и сын против отца;*
*мать против дочери*
*и дочь против матери;*
*свекровь против невестки своей*
*и невестка против свекрови своей.*

***Евангелие от Луки, гл. 12, 52–53***

Усё пачалося з забойства прынца Фердынанда. І 28 ліпеня 1914 года Аўстра-Венгрыя пачала вайну супраць Сербіі. Расія аб'явіла аб падтрымцы апошняй. 30 ліпеня ва ўсіх заходніх губернях Расіі было аб'яўлена ваеннае становішча і пачата агульная мабілізацыя. Грамадзянскія ўлады падпарадкоўваліся ваеннаму камандаванню.

1 жніўня Германія аб'явіла вайну Расіі, праз два дні – Францыі; Англія выступіла супраць Германіі на баку сваіх саюзнікаў па ваеннаму блоку – Антанце. Пачалася першая сусветная вайна. У яе ўступілі Турцыя і Балгарыя на баку Германіі.

Вярхоўным галоўнакамандуючым расійскай арміі імператарам Мікалаем II быў назначаны яго блізкі родзіч вялікі князь генерал ад кавалерыі Мікалай Мікалаевіч Раманаў. Яго стаўка знаходзілася ў Баранавічах.

Былі створаны два франты – Паўночна-Заходні (галоўкамы – Я. Р. Жылінскі, пазней – М. У. Рузскі і М. В. Аляксееў) і Паўднёва-Заходні (галоўкам – М. І. Іваноў).

Пачатак вайны для Расійскай арміі быў паспяховым. Войскі Паўднёва-Заходняга фронту разграмілі аўстра-венгерскія войскі і занялі Галіцыю; войскі Паўночна-Заходняга фронту ўторгліся ва Усходнюю Прусію, але восенню вымушаны былі адтуль адступіць.

Наступны 1915 год аказаўся для Расійскай арміі вельмі няўдачным. Аўстра-германскія войскі ў канцы чэрвеня выціснулі расійскія з занятай імі тэрыторыі: руская армія пакінула амаль усю Галіцыю. На гэтым напрамку фронт стабілізаваўся на цэлы год.

Яшчэ горшым было становішча на Паўночна-Заходнім фронце. Германскія войскі цалкам захапілі Польшчу і ўвайшлі ў Прыбалтыку і Беларусь.

У сувязі з дрэнным становішчам на франтах вялікі князь Мікалай Мікалаевіч быў пазбаўлены пасады вярхоўнага галоўнакамандуючага, і цар на гэту пасаду назначыў самога сябе. Стаўка з-за ваеннай небяспекі была пераведзена ў Магілёў. Аднак цар бываў тут даволі рэдка, і фак-

тычна галоўнакамандуючым быў начальнік штаба Стаўкі генерал ад інфантэрыі Міхаіл Васільевіч Аляксееў (1857–1918).

Паўночна-Заходні фронт быў падзелены на Паўночны (галоўкам генерал ад інфантэрыі М. У. Рузскі) і Заходні (галоўкам генерал ад інфантэрыі А. Я. Эверт). Штаб Заходняга фронта да лютага 1918 года знаходзіўся ў Мінску.

Аднак справы на франтах ад усіх перастановак лепш не сталі. Працягваючы наступленне, немцы да зімы 1915 года занялі ўсю Заходнюю Беларусь.

Фронт стабілізаваўся па лініі Рыжскі заліў – Дзвінск (Даўгаўпілс) – возера Нарач – Баранавічы – Пінск – Дубна – Тарнопаль – рака Прут. Размежавальная лінія паміж Заходнім і Паўднёва-Заходнім фронтам ішла па рацэ Прыпяць. У такім стане фронт знаходзіўся амаль без змен на працягу звыш двух гадоў.

❖

З якімі поспехамі прыйшла Расійская дзяржава ў ваеннай справе да першай сусветнай вайны?

На аснове ваеннай рэформы з 1874 года ў Расіі існавала ўсесаслоўная ўсеагульная ваенная павіннасць.

Перад вайною тэрмін абавязковай ваеннай службы быў у пяхоце і артылерыі – тры гады, кавалерыі і інжынерных войсках – чатыры, на флоце – пяць гадоў. Прызыўны ўзрост – дваццаць гадоў. Аднак існаваў шэраг ільгот.

Ад прызыву вызваляліся адзіныя сыны ў бацькоў, а таксама маладыя гаспадары, выдзеленыя бацькамі ў самастойныя сем'і. Яны залічваліся ў другі разрад ратнікаў і прызываліся толькі ў вайну.

Прызыўнікі з сярэдняй адукацыяй служылі ў арміі як вольнапісаныя (“вольноопределяющиеся” на рускай мове) да двух гадоў з некаторымі афіцэрскімі правамі і звальняліся са званнем прапаршчыка.

Ніжэйшыя ваенныя званні былі: радавы, яфрэйтар, унтэр-афіцэр, старшы унтэр-афіцэр, фельдфебель; першым афіцэрскім званнем было – прапаршчык.

За баявыя заслугі гэтая катэгорыя воінаў узнагароджвалася Георгіеўскімі крыжамі і Георгіеўскімі медалямі.

Георгіеўскі крыж меў чатыры ступені: першая і другая (залатыя), трэцяя і чацвёртая (срэбныя). Узнагароды пачыналіся з чацвёртай ступені. Меліся яшчэ і Георгіеўскія медалі трох ступеняў. Усе ўзнагароды былі з золата і срэбра вышэйшай пробы.

Узнагароджаны Георгіеўскім крыжам усіх ступеняў называўся поўным Георгіеўскім кавалерам. Такімі героямі ў нашай мясцовасці былі – ураджэнец Плотніцы унтэр-афіцэр лейб-гвардыі Праабражэнскага палка Антон Цэзаравіч Збарашэўскі (1888–1953) і ўраджэнец прыгарада

Давыд-Гарадка з вёскі Хорск, франтавы разведчык і смелы паляўнічы на "языкоў" старшы ўнтэр-афіцэр Сямён Міхайлавіч Каральчук (1885–1946).

Па першай мабілізацыі на фронт з Давыд-Гарадка было прызвана звыш двухсот чалавек, у наступныя два гады – яшчэ звыш трохсот. У 1917 годзе прызыў у армію з-за палітычных падзей зрабіць не ўдалося. Звыш ста чалавек з вайны не вярнуліся, многія былі паранены; з франтавікоў некалькі дзесяткаў былі ўзнагароджаны Георгіеўскімі крыжамі і медалямі.

Многія сталі малодшымі камандзірамі, а некаторыя і афіцэрамі. Сярод апошніх былі ўраджэнец Веляміч Васіль Сцяпанавіч Гушча (1890–1938) і ўраджэнец Давыд-Гарадка Карп Самойлавіч Петравец (1891–1955). Абодва яны былі аднакласнікамі народнага вучылішча ў Давыд-Гарадку, абодва сталі бальшавікамі, прымалі ўдзел у Грамадзянскай вайне. На жаль, абодвух сустрэла адна доля – яны былі рэпрэсіраваны і закончылі сваё жыццё трагічна.

15 верасня 1915 года нямецкія войскі занялі Пінск. Адтуль у Столін былі эвакуяваны ваенныя і грамадзянскія ўстановы, і мястэчка стала часовым павятовым цэнтрам.

Фронт ад Століна і Лунінца знаходзіўся на адлегласці 50 кіламетраў, ад Давыд-Гарадка – 80 км. Гэты раён аказаўся на стыку двух франтоў – Заходняга і Паўднёва-Заходняга. У зоне гэтага раёна дзейнічала Трэцяя армія, якой камандаваў генерал-лейтэнант Л. В. Леш.

У Лунінцы, Століне, Давыд-Гарадку размясціліся тылы гэтай арміі – абозы, склады, часовыя шпіталі. Улада тут належала ваенным камендантам.

Станцыя Відзібор (13 км ад Століна, 25 км ад Давыд-Гарадка) стала буйнейшым складам ваенных матэрыялаў. Па Гарыні дзень і ноч рухаліся судны з разнастайнымі грузамі. Фарватэр ракі даваў магчымасць падыходзіць амаль да самага вярхоўя.

Многа раненых расійскіх салдат вывезлі па Гарыні галоўным чынам у Давыд-Гарадок і Тураў у час славутага Брусілаўскага прарыву летам 1916 года. Часовы шпіталь у Давыд-Гарадку размяшчаўся ў новым будынку гарадскога вучылішча і ў спецыяльна пабудаваным драўляным будынку каля Казанскай царквы. Асноўную ролю ў апекаванні раненых воінаў адыгрываў заснавальнік Свята-Казанскай царквы святар Юхневіч. Яму дапамагалі добрыя жанчыны з праваслаўнага прыходу, якія працавалі шпітальнымі сёстрамі.

Гісторыя, на жаль, не захавала прозвішчаў добраахвотных сясцёр міласэрнасці, маладых давыд-гарадоцкіх мяшчанак, якія, галоўным чынам, былі жонкамі франтавікоў.

Параненых было даволі многа, а вайна ўсё доўжылася. І вось ў гэты трывожны час зноў адрадзіліся беларускія вечарынкі. У даваенныя гады яны ўзніклі для папулярызацыі народнай творчасці і беларускай літара-

туры. Самадзейнасць у час вайны аказалася яшчэ больш патрэбнай.

У 1915–1916 гады мясцовыя аматары беларускай культуры рэгулярна выступалі перад параненымі ў шпіталях Давыд-Гарадка і Турава, якіх разам з артыстамі наведвалі прадстаўнікі мясцовых уладаў, франтавыя таварышы.

Старажылы расказвалі, што аднойчы на адной з беларускіх вечарынак прысутнічаў афіцэр – рускі пісьменнік, які праходзіў ваенную службу недалёка ад Давыд-Гарадка.

Недалёка адсюль на фронце з рускіх пісьменнікаў мог быць толькі славуты паэт Аляксандр Аляксандравіч Блок.

Блок у якасці малодшага інжынера на працягу сямі месяцаў знаходзіўся ў інжынерна-будаўнічай дружыне, якая займалася ўмацаваннем абарончых збудаванняў у раёне Пінска.

Са сваёй камандай Блок размяшчаўся ў вёсцы Парахонск і жыў ў маёнтку князя Друцкага-Любярэцкага. Пінск знаходзіўся ў руках немцаў, а на правабярэжжы Піны стаялі рускія войскі.

У дні зацішша, калі не было абстрэлаў, Блок любаваўся гістарычным цэнтрам горада. У пісьме да сваёй жонкі Любові Дзмітрыеўны ён пісаў:

"С поля виден Пинск, подобный граду Китежу, приподнятый над туманом; белый собор, красный костел, а посередине – меньше – семинария. Болот много. Но болота не такие, как их представляешь себе, а на разной высоте, частично сухие. Рядом с нами судоходная река".

Блоку неаднойчы даводзілася бываць на станцыі Відзібор, дзе знаходзіліся ўсе неабходныя для сапёрнай работы матэрыялы і інструменты. З Відзібору, магчыма, ён сам і яго таварышы ездзілі ў Лунінец, у штаб арганізацыі Земскага саюза, якому падпарадкоўвалася яго дружына. Дарэчы, у Лунінцы па такіх жа справах бываў і М. В. Фрунзе, які служыў, як і Блок, інжынерам і пад кіраўніцтвам таго ж штаба.

А. А. Блока, паэта-сімваліста і філосафа, разам з тым, заўсёды вабіла народнае мастацтва, і на адну з беларускіх вечарынак яго магла прывесці цікавасць да беларускай культуры, да беларускай мовы. Блок у Пінску мог пачуць пра культуру палешукоў. І яго, паэта ўзнёслага і рэлігійнага, не магла не зацікавіць адна назва незнаёмага мястэчка – Давыд-Гарадок.

Такая назва магла проста здзівіць Блока, бо ён ведаў, што гістарычна горад Давіда, цара яўрэйскага, знаходзіцца на Святой зямлі. А тут горад на Палессі!

Што мог Блок убачыць на беларускай вечарынцы? Нейкую драматычную пастаноўку. Хутчэй, гэта была камедыя – раненых ў шпіталі падтрымлівалі аптымізмам. Можа нават была і "Пінская шляхта". Магчыма, Блок выпіў кухаль піва ды паспрабаваў нашай вэнджанай гарынскай рыбы.

А, магчыма, была іншая прычына. Аляксандр Блок назаўсёды застанецца ў сусветнай культуры кнігай вершаў "Стихи о Прекрасной

Даме". Такой Дамай для яго стала юная жонка Любоў Дзмітрыеўна, дачка славутага вучонага Д. І. Мендзялеева. Блок шанаваў прыгажосць, напісаў многа дзіўных вершаў аб каханні. І ён мог праехацца па палескіх дарогах, каб сустрэць Алесю, якая натхніла некалі тут Купрына. Блок верыў у такія неспадзяваныя рамантычныя сустрэчы. Ды ці ён адзін? Колькі дарожных вершаў напісаў ў дарозе А. С. Пушкін! Будзем думаць, што Блок убачыў і зразумеў вытанчаную крышталыную прыгажосць Палескай Музы.

Справа яшчэ ў тым, што Блок, добра ведаўшы заходнюю культуру, неаднаразова праязджаў праз Мінск і Брэст. Беларускія дарогі вялі яго ў Варшаву, дзе жыў і спачыў яго бацька, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта.

Вайна ў пінскіх балотах, беларускія вечарынкі, палескія краявіды, пяшчотнасць беларускай мовы назаўсёды засталіся ў сэрцы паэта. У сакавіку 1917 года А. А. Блок з Відзібора праз Лунінец выехаў у Петраград і на фронт больш не вярнуўся.

Блок павёз на шэрым шынялі пыл беларускіх дарог, балотны туман, водар бярозавага соку, на ботах пясок і гліну веснавой зямлі. У гэтым шынялі, які пах Беларуссю, яго сустрэў паэт Уладзімір Маякоўскі:

"Помню, в первые дни революции проходил я мимо худой, согнутой солдатской фигуры, греющейся у разложенного перед Зимним костра. Меня окликнули. Это был Блок. Мы дошли до Детского подъезда. Спрашиваю: "Нравится?" – "Хорошо", – сказал Блок, а потом прибавил: "У меня в деревне библиотеку сожгли".

У палескім шынялі Блок трапіў у рэвалюцыю, якая спаліла не адну бібліятэку: згінула імперыя.

А пакуль на Беларусі рабіла сваю справу вайна. І канца ёй не было відаць. Пасля правальнага 1915 года надышоў 1916.

У ліпені 1916 года войскі Паўднёва-Заходняга фронту пад камандаваннем генерала ад кавалерыі А. А. Брусілава нанеслі моцны ўдар па аўстра-германскіх войсках у Галіцыі, у выніку якога адбыўся так званы Брусілаўскі прарыў на Захад. І хаця гэта аперацыя не дасягнула сваёй мэты, аднак яна падняла баявы дух арміі, мела важнае значэнне ў агульным ходзе ваенных падзей.

Блізкасць фронту клалася вялікім цяжарам на мясцовае насельніцтва. Сотні сялян з коньмі ўвесь час удзельнічалі ў розных работах – галоўным чынам, на рамонце дарог, мастоў, чыгуначных насыпаў. Усе краўцы і шаўцы, шорнікі і кавалі выконвалі ваенныя заказы. Уладальнікі суднаў з Давыд-Гарадка разам са шкіперамі і лоцманамі былі мабілізаваны і вялі ваенныя транспарты па Прыпяці і Гарыні.

Патрыятычны ўздым, які быў у Расіі ў пачатку вайны, у сувязі з ваеннымі няўдачамі і цяжкім эканамічным становішчам, згас.

Вышэйшы заканадаўчы орган улады – Дзяржаўная дума стала ў актыўную апазіцыю да царскай улады.

Не спрыяла ўмацаванню сітуацыі і барацьба партый, і сярод іх – самай агрэсіўнай і ваяўнічай у дачыненні да іншых – бальшавіцкай. А вось у адносінах да вайны бальшавікі праводзілі палітыку паражэнства, што, вядома, было палітыкай антыдзяржаўнай. Яны фактычна разлажылі і дэзарганізавалі франтавую армію арганізацыяй салдацкіх камітэтаў, якія ігнаравалі ваеннае камандаванне.

У краіне пачаўся сацыяльны і палітычны пярэпалах. Сяляне патрабавалі зямлі, рабочыя – лепшых сацыяльных умоў; усе разам – канца вайны. Аўтарытэт манархіі, царскай улады, Мікалая II быў нулявы. Многа для дэмаралізацыі войскаў і раскручвання становішча рабіла прэса, якая па сутнасці працавала супраць улады і фактычна ліла ваду на германскі млын. Гэта быў пачатак буры.

Буйным цэнтрам рэвалюцыйнага руху на Палессі стаў Лунінец – важны чыгуначны вузел сувязі Заходняга і Паўднёва-Заходняга франтоў. У горадзе і вакол яго размяшчаліся штабы, склады, знаходзілася значная колькасць салдат.

У канцы 1915 года ў гаспадарчым аддзеле Земскага саюза была створана бальшавіцкая група. Яе кіраўніком быў Ісідор Еўсцігнеевіч Любімаў (1882–1937).

Вясною 1916 года на Беларусі з'яўляецца Міхаіл Васільевіч Фрунзе (1885–1925). Пад прозвішчам Міхайлава ён служыць вольнанаёмным спачатку ў Івянцы, а потым статыстам Земскага саюза Заходняга фронту ў Мінску. Уключыўшыся ў падпольную работу, ён падтрымліваў сувязь з многімі прыфрантавымі бальшавіцкімі арганізацыямі. Даволі часта ён бываў у Лунінцы і разам з Любімавым праводзіў агітацыйную работу.

У лютым 1917 года адбылася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя. Ліберальная буржуазія звергла манархію і ўзяла ўладу ў свае рукі. Быў створаны часовы ўрад, які спачатку ўзначальваў князь Г. Я. Львоў, а потым А. Ф. Керанскі.

У час лютаўскіх падзей Любімаў стаў старшынёй Мінскага гарадскога Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а Фрунзе – першым начальнікам міліцыі гэтага Савета.

Любімава замяніў яго бліжэйшы паплечнік Андрэй Іванавіч Таганаў (1871–1948). Пад яго кіраўніцтвам у Лунінцы былі праведзены выбары ў Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, які ён і ўзначаліў.

Савет абвясціў сябе вышэйшай уладай Пінскага павета. А з прычыны таго, што павятовы цэнтр знаходзіўся ў Століне, было прынята ра-

шэнне замяніць яго сваімі аднадумцамі. Аб тым, што адбывалася ў Століне, мы даведваемся з дакладной запіскі начальніка павятовай міліцыі Тамашэўскага начальству Мінскай губерні 29 красавіка:

"Сегодня член комитета служащих Всероссийского союза Таганов, солдат-радиотелеграфист Панков, привезя с собой из Лунинца несколько солдат-автомобилистов и собрав в Столице около ста вооруженных солдат и около семидесяти граждан... в речах возбуждали присутствующих против местных представителей Временного правительства, объявили последнее отстраненным от должностей и предложили присутствующим избрать указанного Таганова Пинским уездным комиссаром, товарищем его – железнодорожного служащего из Лунинца Афанасьева, начальником уездной милиции – служащего из Лунинца Всероссийского земского союза Рогожина, районным комиссаром третьего участка солдата Панкова, сотрудником его – Рувина Овсяника, после чего эти лица с вооруженными солдатами явились к уездному комиссару и потребовали сдачи дел и вынудили последнего это исполнить."

Таганаў са сваімі паплечнікамі быў у Давыд-Гарадку і Тураве, дзе прынялі рашэнне аб часовым іх уключэнні ў Пінскі павет у сувязі з адаленасцю павятовага цэнтра Мазыра.

Рэвалюцыйныя падзеі ўскалыхнулі сялянскае асяроддзе. 22 мая сяляне вёскі Рубель, якая, як і Давыд-Гарадок уваходзіла ў Хорскую воласць, прынялі такое рашэнне:

"Мы, нижеподписавшиеся граждане села Рубель, собравшиеся этого числа 1917 года под председательством нашего товарища председателя Павла Ивановича Кота, постановили:

просить Совет рабочих и солдатских депутатов, чтобы все земли монастырские, церковные, удельные, кабинетные, казенные, помещичьи и вообще частнособственнические, передать нам, трудовому народу, бесплатно".

Наступаў Кастрычнік. У Петраградзе перамагла пралетарская рэвалюцыя, якая пачалася з ваеннага перавароту і ўзброенага паўстання. Было абвешчана аб устанаўленні ў Расіі Савецкай улады, урад узначаліў правадыр бальшавікоў У. І. Ленін (Ульянаў) (1870–1924), які кіраваў антываенным рухам з Швейцарыі і ўрэшце прыехаў у Расію. Другі жалезны дыктатар рэвалюцыі Л. Д. Троцкі (Бранштэйн) (1879–1940) прыехаў з Амерыкі.

Хаця бальшавікі прагна хацелі ўлады і рабілі ўсё, каб разбурыць дзяржаву і паскорыць катастрофу, але ўлада, па іх жа сведчанню, звалілася ім у рукі нечакана. Сам Ленін разлічваў, што гэта адбудзецца пазней, што Расія магчыма выстаіць і пераможа ў вайне. Аднак раз'юшаная і ўскаламучаная краіна ўжо не падпарадкоўвалася камандаванню, яна была фактычна развалена – ў тым ліку і пры дапамозе бальшавікоў.

Бальшавікі былі самай меншай з палітычных партый у Расіі, але ўлада перахапіць змаглі, хаця тыя ж эсэры карысталіся ў асяроддзі сялян куды

большай папулярнасцю і былі самай масавай партыяй. Калі ўлічыць, што Расійская дзяржава была сялянскай краінай, то, зразумела, што сялянская партыя і павінна была ўрэшце кіраваць.

Але бальшавікі зрабілі стаўку на збройны мяцеж і перахапілі ўладу, дзякуючы тэмпераменту і агрэсіўнасці Леніна. Трыумфальнае шэсце Савецкай улады, аб якім пішацца ў школьных падручніках, перабольшана. Узброенае паўстанне, з чаго ўсё пачалося, набывала ўсё больш жорсткі характар.

Вось што пісаў аб сваім бачанні падзей праз некалькі дзён пасля рэвалюцыйнага перавароту камандзір роты прапаршчык К. С. Петравец, выхадзец з Давыд-Гарадка, які знаходзіўся на фронце:

"Я нахожусь до настоящего времени жив и здоров, стоим на прежней позиции, боев больших нет. В настоящее время немцы хотят воспользоваться нашими бунтами, происходящими в Петрограде, и на нашем фронте нанести нам решительный удар, для чего они стягивают свежие войска. И если таковой сбудется, то, должно быть в самое ближайшее время, на что есть уже некоторые признаки. Что касается наших солдат, то настроение тревожное, требование всеми скорейшего заключения мира, недостаток в пище и одежде, дисциплина совершенно расшатана, делают только то, что нравится. Окончательных результатов Петроградских событий не имеется.

Пишите, как живется в Городке, какие порядки и что новенького... С уважением, Карп. 5 ноября (18 па новаму стылю – ад аўт.). 1917 года. Действующая армия."

У Кастрычніцкіх падзеях прымалі ўдзел і столінцы. У адным з салдацкіх атрадаў у захопе Зімняга палаца ўдзельнічаў поўны Георгіеўскі кавалер А. Ц. Збарашэўскі, а яго зямляк, таксама гвардзеец, А. І. Лемяшэўскі канваіраваў палонных і ўдзельнічаў у іх ахове ў Петрапаўлаўскай крэпасці.

У гэтых жа падзеях удзельнічаў і ўраджэнец вёскі Беражное матрос-бальшавік Майсей Цярэнцьевіч Лазнуха (1882–1919). Ён сустракаўся з Леніным, быў накіраваны ў Мінск, а адтуль – на сваю радзіму для арганізацыі савецкай улады.

Цэнтрам новай рэвалюцыйнай улады ў прыфрантавой паласе на Палессі становіцца Лунінец. Тут на рагу вуліц Гагарына і Краснай стаіць аднапавярховы будынак барачнага тыпу – былое памяшканне пажарнай каманды. На ім вывешана мемарыяльная дошка з надпісам:

"11–12 ноября 1917 года на этом месте в помещении Народного дома происходил первый уездный съезд Советов рабочих, крестьянских и солдатских депутатов, провозгласивший установление Советской власти на территории Пинского уезда".

На гэтым з'ездзе вырашылі наступныя пытанні:

1. Перавесці павятовыя арганізацыі са Століна ў Лунінец;
2. Сфарміраваць ваенныя камісарыяты;

3. Перадаць памешчыцкія землі бяднейшаму сялянству;

4. Арганізаваць рэвалюцыйныя камітэты.

Старшынёй Пінскага, фактычна, Лунінецкага Савета быў абраны А. І. Таганаў. Ва ўсе воласці былі накіраваны прадстаўнікі павятовага савета для арганізацыі савецкай улады на месцах.

У Століне быў выбраны першы валасны савет, яго старшынёй стаў прыехаўшы з Петраграду М. Ц. Лазнуха.

Быў выбраны савет і Хорскай (Гарадзецкай) воласці. Яго старшынёй стаў былы франтавік з Давыд-Гарадка Якаў Іванавіч Галуха (1885–1927).

Для кіраўніцтва аховай грамадскага парадку і правядзення перадачы памешчыцкіх зямель былі створаны рэвалюцыйныя камітэты. Старшынёй рэўкама ў Століне быў Цярэнцій Разановіч, у Давыд-Гарадку – Трафім Савіцкі.

І яшчэ адно мясцовае рашэнне. Па прапанове былога матроса М. Ц. Лазнухі было вырашана стварыць ваенныя камісарыяты пры валасных саветах для ўліку ваеннаабавязаных, у тым ліку і дэзерціраў.

Сам былы камісар матроскага атрада, абавязкі ваенкама ў Століне Лазнуха ўзяў на сябе, а ў Давыд-Гарадку (Хорску) камісарам стаў ураджэнец вёскі Лядзец і франтавік, унтэр-афіцэр Міхаіл Лявонавіч Ляшук (1892–1965). Апорай новай улады на месцах былі ў першую чаргу былыя салдаты і бяднейшае сялянства.

Так у неакупаванай частцы Пінскага павета ў канцы 1917 года ўстанавілася савецкая ўлада.

Прыкладам работы рэўкама з'яўляецца дзейнасць яго ў Плотніцы. Ім кіраваў Міхаіл Іванавіч Наздрын. Кіраўнікамі зямельнай камісіі і па справах царквы былі абраны М. В. Кацапчук і М. Д. Радцэвіч, харчовай камісіяй кіраваў М. Некрашэвіч. Рэўкам пачаў работу па ажыццяўленню дэкрэта савецкай улады аб зямлі. Кіраваў тады рэвалюцыйны закон: пачалася канфіскацыя памешчыцкай і царкоўнай зямлі; канфіскаванае збожжа і жывёла перадаваліся бяднейшым сялянам.

Мяшчанскае насельніцтва Давыд-Гарадка да савецкай улады аднеслася лаяльна, выхаванае ў хрысціянскіх традыцыях і маючы розум і спакойны гонар рамеснікаў і гандляроў, але энтузіязма ў яе падтрымцы не праяўляла. Ды і новая ўлада не вельмі іх шанавала: на гандляроў і заможных людзей Саветы ў той час глядзелі, як на эксплуататараў.

Адной з цікавых з'яў таго часу быў выпуск некаторымі рэўкамамі ўласных грошай для падтрымання магчымасці харчавання сваіх работнікаў.

У канцы 1917 года на станцыях Мазыр, Лунінец, Жыткавічы, Відзібор, Гарынь, а таксама ў буйных мястэчках паблізу ад гэтых станцый – Тураве, Давыд-Гарадку, Століне – з'явіліся грошы, надрукаваныя ў Гомелі шэрай фарбай на белай трывалай паперы.

Гэта былі боны – купюры вартасцю ў адзін, тры, пяць і дзесяць рублёў па малюнку чарцёжніка ўпраўлення чыгунак Валовіча. Просты і своеасаблівы малюнак гэтых купюр не меў паўтарэння сярод розных выпускаў самаробных асігнацый тых гадоў.

На бонах быў надпіс: “Продовольственный комитет Полесских дорог имеет обращение наравне с кредитными билетами исключительно для приобретения различных продуктов из продовольственных комитетов и подотделов Полесских железных дорог 1917 года”.

Гэтыя боны ў якасці грошай прымаліся ў чыгуначных кааператывах, гандлёвых лаўках, станцыйных буфетах ад Гомеля на захад да лініі фронту, а таксама ў прыфрантавых населеных пунктах, якія знаходзіліся недалёка ад чыгункі – Тураве, Давыд-Гарадку і Століне. Так што першымі самаробнымі грашыма на Палессі мы абавязаны чыгунцы, якая першая пачала адольваць эканамічны крызіс.

Сёння палескія грошы – вялікі рарытэт.

❖

4 снежня 1917 года на Заходнім фронце было заключана перамір’е з немцамі. І адразу ж фронт абваліўся. Гэта была грандыёзная гістарычная памылка, якая мела ў XX стагоддзі трагічныя вынікі: на самой справе да перамогі над стомленай і кіпеўшай рэвалюцыйнымі падзеямі Германіяй было блізка. Перамір’е дало надзею выжыць і магчымасць адпачыць Германіі, і немцы добра скарысталі гэта. Хутка неспадзявана Чырвонай Арміі давялося ваяваць з немцамі.

У абвале Заходняга фронту адыграла сваю ролю і праводзімая доўгі час бальшавікамі антываенная агітацыя і прапаганда і першыя законы савецкай улады – дэкрэты аб міры і аб зямлі. Салдаты тысячамі пакідалі баявыя пазіцыі і адпраўляліся дамоў даволі часта са зброяй. У кароткі час краіна аказалася разваленай з аднаго боку, а з другога – узброенай да зубоў. “Чалавек са стрэльбай” дакладней – з вінтоўкай Мосіна аказаўся гаспадаром сітуацыі. Франтавая зброя вельмі хутка была выкарыстана для вырашэння любых пытанняў толькі сілай і ў свой час пачала дзейнічаць у братазабойчай Грамадзянскай вайне – і злева, і справа.

У пачатку лютага 1918 года фронту фактычна ўжо не існавала. Такім чынам, першы дэкрэт бальшавікоў – аб міры аказаўся дрэнна прадуманай прапагандысцкай акцыяй, якая мела самыя трагічныя для Беларусі і Украіны вынікі.

А пакуль на Палессе і ў тым ліку Давыд-Гарадоччыну вярталіся палешукі. Пасля развалу арміі кавалер двух Георгіеўскіх крыжаў прапаршчык Петравец вярнуўся на радзіму прыхільнікам савецкай улады і ўключыўся ў работу Давыд-Гарадоцкага рэўкама.

Разам з ім вярнуліся дамоў і поўныя Георгіеўскія кавалеры С. М. Каральчук і А. Ц. Збарашэўскі.

Выкарыстаўшы адсутнасць войск, немцы, не сустрэўшы ніякага супраціўлення, акупавалі велізарную тэрыторыю былой імперыі, а потым прымусілі Савецкую Расію падпісаць ганебны Брэсцкі мір 3 сакавіка 1918 года. Гэтым мірам Расія афіцыйна выйшла з удзелу ў першай сусветнай вайне.

На перамовах у Брэст-Літоўску прысутнічала дэлегацыя Украінскай народнай рэспублікі, якая была абвешчана ў снежні 1917 года і прызнана Савецкай Расіяй і Германіяй. У час перамоў Цэнтральная Рада УНР абвясціла незалежнасць Украіны і выхад яе са складу Расіі.

У межы сваёй дзяржавы Украіна ўключыла амаль усё Беларускае Палессе, што рабілася неаднаразова іх дзяржаўнымі дзеячамі і нацыянальнымі лідэрамі з часоў Багдана Хмяльніцкага.

Дэлегацыя Украіны падпісала з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй асобны дагавор, у якім фактычна давалася згода на акупацыю Украіны гэтымі дзяржавамі, што і было зроблена. Нямецкай акупацыяй браты-украінцы вырашылі абараніцца ад Расіі.

Немцы з’явіліся і на Століншчыне. Тут яны размясціліся толькі ўздоўж чыгункі, замацаваўшы сваё становішча гарнізонамі на станцыях Дубровіца, Гарынь, Відзібор і Лунінец. Асабліва буйным быў гарнізон у Відзіборы, дзе засталіся моцныя склады расійскай арміі.

У красавіку 1918 года на Украіне адбыўся пераварот, у выніку якога замест Цэнтральнай рады да ўлады з дапамогай немцаў прыйшоў былы расійскі генерал-лейтэнант Паўло Скарападскі, які абвясціў аб стварэнні Украінскай дзяржавы, а сябе гетманам.

Савецкая ўлада на Палессі спачатку праіснавала толькі тры месяцы. Яе актывісты перайшлі ў падполле.

Гетманскія ўлады зрабілі Давыд-Гарадок цэнтрам Палескай акругі, тут быў размешчаны іх даволі вялікі ваенны гарнізон, які дапамагаў вярнуўшымся панам вярнуць сваю маёмасць і пакараць памагатых бальшавіцкай улады.

Уладальнік відзіборскага маёнтка Антон Бахенскі стварыў карны атрад, які на конях гойсаў па ваколіцах у пошуках прыхільнікаў савецкай улады і караў іх казацкім спосабам – бізунамі.

Ствараючы сваю армію, гетман Скарападскі меў патрэбу ў афіцэрскіх кадрах, таму ўсіх афіцэраў-франтавікоў шукалі. Ад іх актыўнага пошуку ў Давыд-Гарадку хаваўся і прапаршчык К. С. Петравец, які некаторы час быў актыўным дзеячом Давыд-Гарадоцкага рэўкама.

Гетманцы заклікалі яго, лічачы ўкраінцам, да сябе, цягнулі ў армію гетмана, абяцаючы высокую пасаду ў войску, як і іншым афіцэрам-палешукам. Петравец застаўся прыхільнікам савецкай ўлады, таму ён вымушаны быў пакінуць Давыд-Гарадок, перайшоў на тэрыторыю Украіны, дзе ўступіў у Чырвоную Армію, у радах якой праваяваў усю Грамадзянскую вайну.

А зараз зробім кароткае адступленне, каб у невялікім нарысе расказаць пра лёс аднаго з гарадчукоў, сына тутэйшага рамесніка, – шаўца, яркае і трагічнае жыццё якога стала адлюстраваннем эпохі.

## ГАРАДОЦКІ КАМБРЫГ

У час падзей першай сусветнай вайны тысячы ўраджэнцаў Заходняй Беларусі апынуліся на тэрыторыі Савецкага Саюза. Многія з іх былі актыўнымі ўдзельнікамі барацьбы за Савецкую ўладу.

Сярод іх быў і Карп Самойлавіч Петравец (1891–1955), камбрыг Чырвонай Арміі. Яго радзіма – Давыд-Гарадок. Бацькі – мяшчане.

Ён быў адзін – з многіх. І лёс гарадоцкага камбрыга даказаў гэта. А пачалося ўсё над вольнаю імкліваю Гарынню... Бегла яна міма прыстані, несла вясёлыя караблі – да самага мора.

З вышэйшай адзнакай закончыў таленавіты юнак у Давыд-Гарадку гарадское вучылішча, пасля некаторы час працаваў разам з бацькам, дапамагаў яму ў шавецкіх справах. Бацька быў чалавекам паважаным – гарадоцкія шаўцы грымелі на ўсё Палессе: хто не ведаў іх цудоўных ботаў?

Такім чынам, лёс маладога Карпа быў вызначаны. Ва ўзросце дзевятнаццаці гадоў ажаніўся. Яго жонкай стала мясцовая прыгажуня Кацярына Матусевіч.

У 1912 годзе Карп, як і ўсе, быў прызваны на вайсковую службу, а праз два гады пачалася вайна. Аб тым, як ён ваяваў, сведчыць фотаздымак, які атрымала яго любая Каця з фронту. На здымку – бравы ўнтэрафіцэр з двума Георгіеўскімі крыжамі і медалём.

Як адзін з лепшых малодшых камандзіраў, Петравец быў накіраваны на афіцэрскія курсы ў Маскву, дзе атрымаў званне прапаршчыка.

Кастрычніцкія падзеі прапаршчык Петравец сустрэў у якасці камандзіра роты на Паўночна-Заходнім фронце пад Рыгай.

Захавалася адзінае пісьмо баявога афіцэра дамоў. У сваім лісце жонцы ён чэсна і прама піша пра становішча на фронце, у радках франтавіка, дарэчы – без адзінай памылкі, чалавека вельмі пісьменнага, – трывога за лёс краіны, за ўсіх. Гэтыя свае чалавечыя рысы Георгіеўскі кавалер зберог на ўсё жыццё.

Старая армія развальвалася. Пасля заключэння перамір'я прапаршчык Петравец пабываў у Петраградзе, атрымаў дакументы і ў пачатку 1918 года вярнуўся дамоў пасля пяцігадовай ваеннай службы.

Але ў шаўцы да бацькі вярнуцца яму ўжо не давялося. У Давыд-Гарадку ён уключыўся ў работу рэўкама і стаў памочнікам старшыні В. Савіцкага.

Аднак вясной 1918 года прыйшлі немцы. Яны дапамаглі ўкраінскім нацыяналістам захапіць Беларускае Палессе. Як і ўсе актывісты, Петравец некаторы час хаваўся, а калі пошукі яго сталі настойлівымі, каб справадзіць яго ў армію гетмана, ён пакінуў Давыд-Гарадок, абяцаючы жонцы ў хуткім часе забраць і яе. Аднак іх сустрэча адбылася не хутка, а родны Давыд-Гарадок ён ужо ніколі не пабачыў.

Петраўцу ўдалося прабрацца на Палтаўшчыну, дзе фарміравалася

Чацвёртая армія Украінскай савецкай рэспублікі, якой камандаваў Ю. В. Саблін, яго аднакашнік па школе прапаршчыкаў.

З гэтага часу пачаўся новы этап у жыцці франтавіка – шлях баявога камандзіра Чырвонай Арміі.

Яго служба пачалася ў якасці камандзіра ўзвода пры абароне Харкава ад немцаў. Потым камандаваў ротай і батальёнам на франтах Грамадзянскай – у баях супраць Дзянікіна, Врангеля, Махно. У гэты час ён становіцца членам РКП(б).

Грамадзянскую вайну Карп Петравец закончыў начальнікам інструктарскай школы 52-й стралковай дывізіі.

У 1923 годзе ён закончыў у Харкаве Вышэйшую школу старшын (так у той час на Украіне называліся старшыя афіцэры) і пераходзіць на штабную работу.

Родны Давыд-Гарадок у гэты час знаходзіўся пад белапольскай акупацыяй. Петравец устанаўлівае сувязь з жонкай. І яго Кацярына вырашыла збегчы з Польшчы.

Нялёгкая гэта была задача – вырвацца адсюль, але перамагло каханне. Летам 1924 года Кацярына Максімаўна пакідае Давыд-Гарадок, гэтак жа ўпотай, як і муж. З рызыкай для жыцця на тураўскім напрамку пераходзіць польска-савецкую граніцу, дзе на другім баку яе затрымалі савецкія пагранічнікі.

Усё было аператыўна высветлена, і ў хуткім часе, пасля шасцігадовай разлукі, муж і жонка сустрэліся ў Мінску, куды прыехаў Карп Самойлавіч. За чатырнаццаць гадоў пасля вяселля яны былі разам нямногім больш за два гады, але паспелі нарадзіць двух дачок – Маю і Вольгу.

К. П. Петравец служыў на Украіне, з 1931 года – на штабной рабоце ў розных вайсковых злучэннях, а з 1935 года ў званні камбрыга – у штабе Кіеўскай ваеннай акругі. Яго старэйшая дачка Мая Карпаўна расказвала, што жылі яны тады непадалёк ад кватэр кіраўнікоў рэспублікі – С. В. Касіёра, П. П. Постышава, У. Я. Чубара, І. Э. Якіра, якіх даводзілася бачыць часта.

У 1937 годзе пачаліся рэпрэсіі сярод ваенных кадраў. Разам з маршалам М. М. Тухачэўскім і камандуючым войскамі Беларускай ваеннай акругі І. П. Убарэвічам загінуў і камандуючы войскамі Кіеўскай ваеннай акругі І. Э. Якір.

У пачатку 1938 года палкоўнік Петравец назначаецца начальнікам аддзела забеспячэння Забайкальскай ваеннай акругі. Арышт у Кіеве абмінуў яго, і гэты раптоўны пераезд сям'я камбрыга палічыла выратаваннем. Петраўцы толькі паспелі пераехаць у Чыту і ўздыхнуць з палёгкай, як праз тры месяцы арыштавалі камбрыга. Петравец так і не паспеў атрымаць генерал-маёра. На яго мундзіры назаўсёды застаўся толькі адзін ромб.

Абвінавачаны ў садзейнічанні здрадніцкай дзейнасці свайму былому камандзіру І. Э. Якіру, ён быў асуджаны на дваццаць гадоў.

Праз некаторы час была арыштавана і армейскі культработнік Кацярына Максімаўна, а іх дзеці накіраваны ў дзіцячы прыёмнік, дзе выхоўваліся і пачалі сваю працоўную дзейнасць – вядома, з кляймом, як тады гэта было – "дзяцей ворагаў народа".

Маці іх была ў ссылцы на сельскагаспадарчых работах у Казахстане і вызвалілася толькі ў 1947 годзе. Гаротная жанчына выйшла з лагера, як аглушаная – ні мужа, ні дзяцей. Пачала шукаць сваю разбураную сям'ю. Знайшла мужа і дабілася сустрэчы з ім – цяпер ўжо ў апошні раз. Потым знайшла дзяцей. Разам з дзецьмі маці прыехала ў пасляваенны Давыд-Гарадок.

А гарадоцкі камбрыг Карп Самойлавіч Петравец так і памёр у лагеры, на Тайшэце, 25 красавіка 1955 года, дзе і пахаваны сярод палітзняволеных, не дажыўшы нейкага года да свайго вызвалення.

І вось аднойчы на руках Кацярыны Максімаўны аказаўся такі дакумент: "20.09.1957 г.

Справка

Дело по обвинению Петровца Карпа Самойловича пересмотрено Военной коллегией Верховного Суда СССР 3 августа 1957 года.

Приговор Военной коллегии от 25 августа 1938 года в отношении Петровца К. С. по заново открытым обстоятельствам отменен и дело за отсутствием состава преступления прекращено.

Заместитель председателя Военной коллегии Верховного суда СССР полковник юстиции П. Лихачев".

Ён быў адзін – з многіх, камбрыг і сын шаўца з Давыд-Гарадка.

❖

Хаця рэжым Скарападскага трымаўся на нямецкіх штыках, народ не скарыўся акупантам. У акрузе ўзнікалі падпольныя групы, нараджаўся партызанскі рух. Яго ініцыятарамі былі мясцовыя актывісты, былыя франтавікі.

Прыкладам можа быць храбрасць былых салдат вёскі Дубай, якія арганізавалі партызанскі атрад і неаднаразова нападалі на гетманцаў у раёне Давыд-Гарадка.

Падпольная група дзейнічала ў Століне. У яе склад уваходзілі М. Ц. Лазнуха, С. І. Гардзейчык, О. Г. Палхоўскі, браты Цярэнцій і Афанасій Разановічы. Яны пісалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі, у якіх заклікалі рыхтавацца да ўзброенай барацьбы з акупантамі.

З падпольшчыкамі Століна былі звязаны многія мясцовыя групы. Самай актыўнай з іх была падпольная група вёскі Калоднае, у якую ўваходзілі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі. Імі былі бальшавікі браты Іосіф і Кузьма Русаковы, А. С. Карась, М. У. Вішнеўскі, В. І. Растаргуева і іншыя, а кіраваў настаўнік Фёдар Андрэевіч Казубоўскі (1895–1942), у будучым вядомы вучоны-археолаг.

Працаваў Казубоўскі ў Радчыцку, а жыў у Калодным. Яго ідэяй быў выпуск газеты “Лесное эхо”. Сябры здолелі змайстраваць гектограф, здабылі паперу, і газета пачала выходзіць. Яе распаўсюджвалі ў Століне, Гарыні, Давыд-Гарадку, буйнейшых вёсках. Газета была наступальная, клікала да супраціўлення, з яе старонак шугала полымя народнага гневу і дух народнай волі. Неаднаразова газету знаходзілі на сваіх сталах старшыня Давыд-Гарадоцкай управы Гейдрых і карнік Бахенскі.

Падпольная група Казубоўскага была зародкам Палескага паўстання.

Ужо ў пачатку ліпеня з жыхароў Століна і навакольных вёсак быў створаны атрад колькасцю каля пяцідзесяці чалавек, які ўзначаліў Афанасій Разановіч.

Сваю першую аперацыю атрад правёў у вёсцы Рубель, дзе лютавалі карнікі, помсцячы рубельцам за актыўны ўдзел у дзеляжы памешчыцкай зямлі, вырубцы панскіх лясоў. На рубельцаў была накладзена вялікая грашовая кантрыбуцыя.

Разведку правёў сам камандзір атрада Разановіч, які пад маркай гандляра жывёлай разам з каровамі трапіў у вёску, да вечара агледзеўся і ноччу знік. А ранкам атрад уварваўся ў Рубель і разграміў карнікаў.

Поспех акрыліў паўстанцаў, і пасля неабходнай падрыхтоўкі яны зрабілі напад і авалодалі Столінам.

У палацы князя Радзівіла яны забяспечылі сябе неабходнымі прадуктамі і фуражом. Аднак утрымаць Столін невялікімі сіламі было немагчыма. Гетманцы прымусілі паўстанцаў пакінуць горад.

У гэты час фарміраваліся атрады і групы паўстанцаў на ўсёй тэрыторыі ад Пінска да Дубровіцы (дарэчы, Дубровіцкі раён Украіны населены ў асноўным беларусамі).

У кастрычніку ў вёсцы Радчыцк, дзе рэўкамам кіраваў К. І. Жарыч, адбылася нарада камандзіраў партызанскіх атрадаў паўднёвай часткі Пінскага і паўночнай часткі Ровенскага паветаў. Усе атрады былі зведзены ў вайсковыя аб’яднанні і створаны два палкі – Першы Палескі (камандзір А. Ф. Разановіч) і Другі Палескі (камандзір Ф. А. Казубоўскі).

Рэвалюцыя ў Германіі паклала канец нямецкай акупацыі. Расія ануліравала Брэсцкі мірны дагавор, аб’явіўшы яго тэрытарыяльныя дамоўленасці несапраўднымі. Немцы пачалі выводзіць свае войскі. Але з Відзібора не збіраліся, відавочна, мелі намер вывезці адтуль ваенныя расійскія склады.

Весткі аб гэтым дайшлі да Масквы. Зброя была патрэбна Чырвонай Арміі.

16 лістапада 1918 года на нарадзе ў Саўнаркаме Расіі пад старшынствам У. І. Леніна было вырашана вырваць зброю з рук немцаў і аказаць дапамогу палескім паўстанцам. У якасці ўпаўнаважанага сюды быў накіраваны малады энергічны бальшавік Аляксандр Мікалаевіч Ільін (1893–1919), якога на Палессі назвалі пасланцам Леніна.

14 снежня на Украіне адбыўся пераварот. Германскага стаўленіка

Скарападскага зверг адзін з лідэраў крайніх нацыяналістаў Сімон Пятлюра, які ўзначаліў Дырэкторыю і аб'явіў сябе галоўным атаманам войск Украінскай народнай рэспублікі.

Пакуль гетманскія січавікі пераапраналіся ў форму пятлюраўскіх гайдамакаў, палескія паўстанцы вызвалілі Столін, Давыд-Гарадок і Тураў, дзе зноў пачалі аднаўляцца рэвалюцыйныя органы ўлады. А ў Лунінец, яшчэ заняты немцамі, прыбыў пасланец Савета народных камісараў А. М. Ільін.

Тактыка апраўдала сябе. У выніку перамоў з салдацкім саветам германскага гарнізона ў Лунінцы, немцы пакінулі ваенныя склады ў Відзіборы непашкоджанымі і нераскрадзенымі, перадалі іх савецкім прадстаўнікам і – выехалі са станцыі.

На гэтым місія Ільіна не скончылася. 15 снежня ў Століне па ініцыятыве пасланца Цэнтра адбыўся з'езд камандзіраў паўстанцкіх фарміраванняў, на якім быў створаны Палескі абласны рэвалюцыйны камітэт. Яго старшынёй быў выбраны накіраваны з Смаленска кіраўніцтвам Беларусі Рыгор Максімавіч Астроўскі (1893–1938), а яго намеснікам Кузьма Фёдаравіч Русакоў (1885–1938).

Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка была абвешчана праз тыдзень у Смаленску 1 студзеня 1919 года.

На Столінскім з'ездзе было вырашана размясціць рэўкам на станцыі Відзібор, а пасля вызвалення Лунінца перавесці яго туды.

Другім пытаннем было стварэнне народнай рэвалюцыйнай арміі шляхам мабілізацыі мужчын 20–40 гадоў праз сельскія рэўкамы. Была створана міліцыя ў колькасці трыццаці чалавек, якой была даручана ахова ўстаноў. Першым начальнікам міліцыі быў Іван Храпіцкі. Разглядалася пытанне аб узяцці на ўлік усіх маёнткаў і забароне вывазу з іх маёмасці. Была забаронена таксама высечка і вываз лесу мясцовым і прыезджым купецтвам з карыснымі мэтамі.

Праз два дні пасля з'езда рэўкам пераехаў на станцыю Відзібор, якую перад гэтым са складамі перадалі немцы. Тут працягвалася фарміраванне войска і яго ўзбраенне. Тут быў створаны і Першы Дубровіцкі паўстанцкі полк, які ўзначаліў Мікалай Якаўлевіч Лескавец. Пашыты ў Відзіборы сцяг гэтага палка захоўваецца ў Кіеўскім гістарычным музеі.

Для каардынацыі дзейнасці рэвалюцыйных сіл Палескай воласці супраць пятлюраўцаў быў створаны Ваенны савет камуністычных паўстанцкіх войск Беларусі і Заходняй Украіны. У яго ўвайшлі Фёдар Казубоўскі, Рыгор Астроўскі, Мікалай Лескавец, Кузьма Русакоў, Мікалай Яфімаў, Аляксандр Кананчук. Старшынёй Ваеннага Савета быў выбраны Аляксандр Мікалаевіч Ільін.

Кіраўнік дубровіцкіх паўстанцаў, сярод якіх былі нашы землякі з Давыд-Гарадоччыны, М. М. Лескавец расказваў пра ўбачанае на станцыі Відзібор:

"Сотни орудий разного калибра стояли на снегу. Сотни пулеметов в

складах, тысячи винтовок, миллионы патронов и снарядов, множество ящиков различных бомб, повозки – целый арсенал армейского корпуса. Мы их обходили и дивились богатству – можно армию вооружить. И все это оказалось в руках повстанцев без крови. Станция стала оружейной базой центра большевистского восстания на Полесье".

Камендантам станцыі быў назначаны актыўны паўстанец, ураджэнец вёскі Калоднае Іван Ігнатавіч Жук (1887–1919).

У захаваным архіве Другога Палескага палка значацца ўраджэнцы Плотніцы, якія былі камандзірамі рот і ўзводаў: Андрэй Фёдаравіч Качаноўскі, Пётр Антонавіч Некрашэвіч, Пётр Лукіч Трушко, а таксама чырвонаармейцы браты Васіль Міхайлавіч і Іван Міхайлавіч Вабішчэвічы, Сцяпан Васільевіч Качаноўскі, Мікалай Казлякоўскі, Іван Шаламіцкі, з вёскі Беразцы былі Іван Сямёнавіч, Ілля Фёдаравіч, Іван Паўлавіч і Рыгор Бут-Гусаімы, Мікалай Валчковіч.

Многа паўстанцаў было з Калоднага і сярод іх – камандзір узвода першай роты Якаў Паўлавіч Бойка, камандір узвода пятай роты Сцяпан Сільвестравіч Дзяшкевіч, камандзір восьмай роты Емельян Іванавіч Кавалевіч, намеснік камандзіра першай роты Лаўрэнцій Цімафеевіч Ляўковіч, пісар палка Рыгор Кандратавіч Тышук, чырвонаармейцы Яфрэм Сцяпанавіч Лецка, Васіль Данілавіч Рахмонька і іншыя.

30 снежня ў Лунінец, яшчэ заняты немцамі, прыбыў старшыня Палескага абласнога рэўкама А. М. Ільін. На перагаворах з імі было дамоўлена, што ў тыднёвы тэрмін немцамі будзе вызвалена ўся чыгуначная лінія.

Вось тэкст тэлеграмы Ільіна аб гэтых перамовах:

"Москва, Военный Совет Республики, Народному комиссару иностранных дел, редакции газеты "Известия"... Сегодня состоялось заседание Лунинецкого армейского Совета, на котором я предложил: германская дивизия, расположенная от Калинковичей до Лунинца включительно, приступает к немедленному эвакуированию своих частей, обязана использовать весь подвижной состав, предоставляемый для эвакуации, причем эвакуация должна закончиться не позднее 7 января 1919 года к 24 часам... Германский Лунинецкий Совет обязуется немедленно возвратить взятые германскими войсками замки и части от русских орудий и пулеметов... С 12 часов ночи 8 января разрешается перевозка красноармейских и повстанческих войск по всем направлениям через Лунинец"...

Германскі савет выканаў умовы дагавораў, і ўся чыгунка ад Лунінца да Ганцавіч і ад Парахонска да Сарнаў трапіла ў рукі паўстанцаў. Усюды былі назначаны ваенныя каменданты. Лунінец заняў Другі Палескі камуністычны полк, а камендантам станцыі стаў Апанас Міхайлавіч Кужалеў, настаўнік з Калоднага.

У пачатку студзеня 1919 года Украінская Дырэкторыя абвясціла вайну Савецкай Расіі. Пятлюраўцы разгарнулі наступленне ўздоўж Львоўскай чыгункі ў напрамку на Сарны.

А. М. Ільін спешна прыбыў у Відзібор. Ваенны савет вырашыў неадкладна рушыць насустрач ворагу. Паўстанцы хутка пагрузіліся ў эшалоны і накіраваліся на захад. У сувязі з цяжкім становішчам старшыня Ваенсавета накіраваў у Маскву 5 студзеня на імя Леніна і Свярдлова тэлеграму:

"Повстанческие коммунистические войска, оперирующие в районе Сарны–Лунинец и отражающие петлюровские и прочие белогвардейские банды, изнемогают в неравной борьбе. У них нет одежды, обуви и продовольствия, нет денег, нет руководителей – военных специалистов... Повстанцы-коммунисты до сих пор все продовольствие получали исключительно от крестьян и бесплатно, но нельзя злоупотреблять стремлением крестьян к созданию Советской власти.

Теперь мы обращаемся за товарищеской помощью к нашим братьям – рабочим Москвы и Питера: укрепите нам тыл, пришлите денег, одежды, обуви, дайте командный состав, и мы окажем помощь рабочим Киева и других городов и пришлем вам продовольствие, избытки оружия, снарядов и порох... Ждем вашей помощи".

На гэтай тэлеграме захавалася рэзалюцыя Леніна, напісаная сінім алоўкам:

"Склянскому. На отзыв. Что сделано".

Аб матэрыяльных цяжкасцях паўстанцаў у гэты час, звязаных з харчаваннем, адзеннем сведчыць захаваная ад 10 студзеня 1919 года запіска камандзіра Першага Палескага палка А. Ф. Разановіча:

"У нас в полку имеется три роты: одна в деревне Горыни, одной я отдал приказ перейти на станцию Видибор в распоряжение ее коменданта. Солдаты второй роты с оружием пошли в деревни Видибор и Теребежов до сегодняшнего приказа. Завтра будет в Видиборе первая рота, ее весь состав находится в Столине. Сегодня разосланы приказы по деревням о мобилизации. Ожидаем людей Столинского добровольческого отряда. Бывших в бою добровольцев имеется 350 человек. Они стоят на отдыхе в Горыни и отпущены домой на два дня. Завтра в 12 часов будут собраны. Резанович".

Вось так жыло тады Палескае паўстанцкае войска: байцоў адпускалі дамоў: падсілкавацца і падрыхтавацца да бою – свая база была слабой.

18 студзеня паўстанцы пачалі адступаць і адышлі да станцыі Гарынь. З-за шматлікіх страт Першы Палескі полк быў расфарміраваны, ім папоўнілі Другі Палескі. Сітуацыя была напружаная.

І вось у гэты час прыйшла дапамога – тэлеграма Ільіна ў Маскву падзейнічала, яму не маглі адмовіць – пасля ўдалага захопу ваенных складоў у Відзіборы.

У канцы студзеня на станцыі Гарынь выгрузіўся 125 стралковы полк, пазней прыбыло падмацаванне яшчэ. Адначасова з'явіліся камандзіры: прыбыло звыш дзесяці выпускнікоў Пецяргофскіх камандных курсаў.

Народная армія палешукоў перайшла ў наступленне! Двойчы Дубровіца пераходзіла з рук у рукі. Нарэшце пятлюраўцаў выбілі, а праз некалькі дзён былі заняты і Сарны.

Задаволены Ільін 7 лютага адбіў тэлеграму у Маскву: "С боем заняли Сарны. Петлюровские банды в панике бегут в Ровно. Продвигаемся на Ровно, Ковель, Коростень".

Адначасова вялося наступленне і на паўночным напрамку. 23 студзеня быў вызвалены Пінск. Адразу ж сюды з Лунінца пераехалі павятовыя ўлады.

Галоўным ў гэтай сітуацыі, калі становішча хісталася паміж мірам і вайною, было пытанне харчавання. Для забеспячэння горада хлебам на Століншчыну быў накіраваны харчатрад на чале з М. У. Палюховічам.

Вельмі цікавым з'яўляецца факт, які нельга абыйсці, узгадваючы той час. Гэта аднаўленне школ. Акрамя харчавання, аказваецца, людзей цікавілі і іншыя грунтоўныя праблемы, на гэты раз духоўнага плану. Сведчаннем пераходу грамадства да мірнага жыцця была школа. Калі дзеці ранкам ідуць на заняткі, а не хаваюцца па кутках ад пятлюраўцаў, значыць, у краі ўсё нармалізавалася. Школа была надзейным доказам перамогі і ўсталявання новай улады. Па вёсках вакол Давыд-Гарадка пасля выгнання пятлюраўцаў шукалі настаўнікаў. Некаторых настаўнікаў дэмабілізавалі для выхавання дзяцей прама з паўстанцкіх атрадаў. Напрыклад, у Плотніцкае народнае вучылішча вярнулася настаўніца Буракіна.

Аднак на Сарненскім напрамку абстаноўка зноў абвастрылася. Пераўзыходзячы ў два разы колькасна, пятлюраўцы зноў у пачатку сакавіка перайшлі ў наступленне, у выніку чаго захапілі Сарны, Дубровіцу, Столін і станцыю Гарынь.

Штаб баявога ўчастка на чале з І. Я. Сямёнавым адступіў і размясціўся на станцыі Прыпяць. Больш месяца буйных баявых дзеянняў на гэтым напрамку не адбывалася.

Насельніцтву ад такіх хістанняў то ў адзін, то ў другі бок было не салодка, але сіл адваяваць усё назад у паўстанцаў не было.

Да падыходу Чырвонай Арміі сітуацыя не змянілася. 20 красавіка чырвоны браняпоезд пад камандаваннем Д. І. Архіпава падышоў да станцыі Гарынь і агнём гармат знішчыў пятлюраўскую батарэю, якая прыкрывала іх пазіцыі. Гэта быў пачатак канчатковага вызвалення.

У сувязі з наступленнем войск Чырвонай Арміі з паўднёвага напрамку пятлюраўцы пачалі адступаць.

30 красавіка яны пакінулі Столін і Гарынь, узарваўшы чыгуначны мост. Войскі Пятлюры адступілі ў Галіцыю.

Палескае паўстанне закончылася. Агульная колькасць яго удзельнікаў складала каля 10 тысяч чалавек.

У жорсткіх баях загінулі многія паўстанцы. Гераічна загінуў камендант станцыі Відзібор Іван Ігнатавіч Жук, ураджэнец вёскі Калоднае.

Захавалася данясенне камандзіра батальёна Другога Палескага палка, ураджэнца Плотніцы Пятра Лукіча Трушко камандзіру палка аб стратах у баях. Сярод пералічаных загінуўшых байцоў– ураджэнцы вёскі Фядоры Емельян Карпавіч Мельніковіч і Мікалай Іванавіч Падвіцелька, ураджэнец вёскі Белавуша Лука Піліпавіч Апановіч і іншыя.

7 мая 1919 года загінуў і пасланец Леніна Аляксандр Мікалаевіч Ільін, які многа зрабіў для вызвалення Палесся і, менавіта, нашых месцаў. Разам са Шчорсам яны змагаліся пад Роўна. Каля Шапятоўкі Пятлюра вырашыў разбіць атрад Ільіна і выслаў на яго знішчэнне браняпоезд "Чарапаху".

Але байцы Ільіна паспелі разабраць чыгунку перад поездам, хаця пятлюраўцы і білі па наваколлю сваімі батарэямі. Калі яны выйшлі для рамонту дарогі, чырвонаармейцы падкраліся і пачалі бой. У час перастрэлкі яны змаглі раскідаць чыгуначнае палатно і з другога боку. "Чарапаха" была заблакіравана. Пятлюраўцы пачалі разлютаваную страляніну, у час якой і загінуў Ільін. Кажуць, што жалезны Шчорс не стрымаў слёз над целам смелага камандзіра.

А пахавалі Ільіна ў Мінску, на Беларусі.

❖

Нацыяналісты Украіны і Беларусі выкарысталі акупацыю германскіх войск амаль па адзіным сцэнарыі. З самага пачатку нямецкага захопу велізарнай тэрыторыі гэта падштурхнула розныя сілы на Украіне і Беларусі да вырашэння сваіх праблем: адных да актыўнага супрацiўлення, а другіх – да паслушэнства і прызнання германскага дыктата.

З самага пачатку нямецкай акупацыі беларускія нацыянальна-дэмакратычныя партыі 25 сакавіка 1918 года абвясцілі незалежную ад Расіі Беларускую народную рэспубліку. Яе прызналі толькі што створаныя маладыя еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку і Польшча.

Сама Германія, пад ценем штыкоў якой гэта адбылося, не прызнала БНР, аднак і дзейнасці яе ўрада не перашкаджала.

Рада БНР вырашыла скарыстаць такое становішча на сваю карысць. Яна пачала праводзіць некаторыя прагрэсіўныя сацыяльна-культурныя мерапрыемствы. Заўважым, што дзейнасць Рады не распаўсюджвалася на захад Палесся, на які прэтэндавала гетманская Украіна.

Рада БНР фактычна так і не паспела зрабіць нічога станоўчага, аднак скампраметавала сябе сувязямі з нямецкімі ўладамі. І таму ў канцы 1918 года ўрад БНР вымушаны быў эвакуявацца разам з адыходзячымі германскімі войскамі.

Новы год для беларусаў пачаўся з новай улады і сваёй, стагоддзямі чаканай, дзяржаўнасці. З пахам свежай хвоі і святочным застоллем і ў палескія хаты 1 студзеня ўвайшла БССР.

Новы ўрад на чале з З. Ф. Жылуновічам размясціўся ў Мінску. У адміністрацыйным плане рэспубліка была падзелена на шэсць раёнаў: Мінскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Гродзенскі і Баранавіцкі. Кожны раён складаўся з падраёнаў.

Атрымалася так, што ўсходняя частка Століншчыны разам з Давыд-Гарадком увайшла ў Мазырскі падраён Гомельскага раёна, а заходняя, са Столінам, – у Пінскі падраён Баранавіцкага раёна. Аднак у сувязі з вынікамі наступіўшай вайны гэтае дзяленне фактычна не было рэалізавана.

Значную ролю ў аднаўленні Савецкай улады на Палессі і арганізацыі барацьбы з контррэвалюцыяй адыграў ураджэнец вёскі Лахва, бальшавік, паручнік царскай арміі Іван Данілавіч Трусевіч (1894–1970). Назначаны ваенным камісарам Мазырскага павету, ён арганізаваў мясцовыя ваенкаматы, а праз іх і добраахвотныя атрады.

Трусевіч многа разоў бываў у Давыд-Гарадку, арганізаваў тут валасны ваенны камісарыят, які размясціўся ў Хорску. Ваенкамам зноў быў назначаны ўраджэнец вёскі Лядзец, былы унтэр-афіцэр Міхаіл Лявонавіч Ляшук (1892–1965).

Ваенкам Ляшук і яго памочнік былы афіцэр Дубок (імя не ўстаноўлена) былі дэлегатамі Першага Усебеларускага з'езда Саветаў у пачатку лютага 1919 года ў Мінску. На з'ездзе Я. М. Свярдлоў абвясціў пастанову ЦВК РСФСР аб прызнанні незалежнасці БССР. У час работы з'езда М. Л. Ляшук меў гутарку са старшынёй ЦВК БССР А. Ф. Мясніковым. Гэты факт у гісторыі Палесся, відаць, адзін з нямногіх, калі прадстаўнікі простага народа ўзыходзілі на дзяржаўны ўзровень.

З канцом Расійскай імперыі Польшча мірным шляхам атрымала незалежнасць, можна сказаць, з рук бальшавікоў. Магла б, як кажуць, і падзякаваць. Але вялікадушнасць гістарычна не ў характары Польшчы. А калі такое і бывала – на словах, то за велямоўнасцю і напышчанасцю паводзін заўсёды хаваліся эгаістычныя інтарэсы.

Так адбылося і на гэты раз. Замест таго, каб сядзець ціха і адраджаць сваю дзяржаўнасць і эканоміку знутры, Польшча, як заўсёды, пачала – звонку. І за кошт суседзяў. Апетыты ў палякаў і мэты засталіся тыя ж самыя, як і шмат стагоддзяў таму, у час уніі з Вялікім княствам.

Антанта падштурхнула Польшчу і паабяцала ёй тыл і дапамогу, і Польшча рынулася на Беларусь і Украіну сваімі старымі шляхамі. Толькі год прайшоў з таго часу, як Польшча стала незалежнай, а яна ўжо пачала ўтаржэнне на Беларусь і Украіну.

Вайна пачалася пад дэмагагічным лозунгам адраджэння Літоўска-Беларускай дзяржавы ў складзе Рэчы Паспалітай. Што гэта была за дзяржаўнасць для праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў, мы ўжо добра ведаем з гісторыі. Добра памяталі пра гэта і самі народы, якія не паспелі яшчэ надыхацца вольнасцю.

Польскія легіёны на чале з Юзэфам Пілсудскім пачалі рухацца на ўсход, здзяйсняючы свой бліц-крыг у панскіх канфэдэратках.

Пасля жорсткіх баёў 5 сакавіка палякі занялі Пінск, а 11 сакавіка – Столін. Установы з Пінска вымушаны былі перапраўіцца ў Лунінец, мясцовыя партыйныя і савецкія органы перайшлі ў падполле.

Давыд-Гарадок заставаўся яшчэ ў руках Саветаў. 30 сакавіка тут была падаўлена спроба змоўшчыкаў звергнуць савецкую ўладу.

15 мая ў раёне вёсак Фядоры і Нячатава адбылося першае сутыкненне 64 палка Чырвонай Арміі з палякамі, якія рухаліся з Пінска на Столін.

Новы бой адбыўся тут праз тыдзень, 21 мая, на гэты раз жорсткі і трохгадзінны, у выніку якога абодва бакі мелі страты. І на гэты раз палякі адступілі, нягледзячы на перавагу на полі бою.

У гэты ж дзень камандзір 64 палка А. Н. Новікаў і камісар В. А. Сулацкі накіравалі каменданту Плотніцы наступнае распараджэнне, у якім разлічвалі на дапамогу насельніцтва:

"Сегодня мобилизуйте население и направьте в деревню Ситицк для работ по возведению окопов. Просите содействия местного комитета. Людей для рытья окопов передайте в распоряжение заведующего полковой школой Родионова".

Палешукі зразумелі, што мір і спакой зноў адкладваюцца на незразумелы тэрмін, і трэба вяртацца да паўстанцкіх метадаў барацьбы і партызанства. І сяляне палезлі пад стрэхі, дзе, як руплівыя гаспадары, хавалі на ўсякі выпадак свае надзейныя прылады – трохлінейкі, карабіны і дзедаўскія самапалы.

Вынікам гэтага з'явілася праведзеная на другі дзень сумесна з партызанамі паспяховая баявая аперацыя. Атрад партызанаў налічваў 68 чалавек, сярод іх былі жыхары Плотніцы, Рухчы, Сіціцка, Радчыцка, Аўсяміраў і інш.

Была зроблена вылазка ў польскі тыл на лодках праз раку Стыр ля вёскі Вуйвічы, у выніку якой быў разбіты значны польскі атрад і адкінуты да вёскі Барычавічы. Былі захоплены вельмі патрэбныя для партызанаў трафеі. За гэту аперацыю камандзір атрада А. Дабракоў быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Аднак становішча палка было даволі цяжкім. Аб гэтым сведчыць рапарт яго камандавання, у якім у прыватнасці гаворыцца:

"Огромная утомленность людей, которые около полутора месяцев на позициях, все время в столкновениях с противником. В ротах всего по 30–40 штыков, но они занимают 10-верстные участки и стойко укрепляют их. Получаем всего один фунт хлеба и других продуктов в меньшем размере на одного человека.

Все время находимся в болотистых местах, а поэтому в последнее время это остро отразилось на здоровье и появлении массовых заболеваний цингой, тифом, малярией и другими. Особенно это наблюдается в деревнях Нечатово и Теребежов".

Самым напружаным днём баёў было 27 мая. Вельмі парадзелы, змучаны 64 полк вымушаны быў адступаць. Ён быў уключаны ў Столінскую

групу Т. І. Громава, якая выконвала загад утрымліваць пераправы праз Гарынь. Усе буйныя плаўсродкі з Давыд-Гарадка былі накіраваны ў Мазыр.

Для абароны паўднёвага ўчастка Заходняга фронту тут была створана Прыпяцкая ваенная флатылія пад камандаваннем П. І. Пашкіна. Яна была падначалена восьмай стралковай дывізіі. Давыд-гарадоцкія лоцманы былі запатрабаваны ў гэты час: гандлёвыя судны адмяняліся, прыйшоў час ваенных.

Актыўная роля ў арганізацыі абароны нашага краю належала ваенкаму Мазырскага павету І. Д. Трусевічу. Яму былі выдзелены тры судны, якія пайшлі па Прыпяці ў раён Давыд-Гарадка з мэтай набору добраахвотнікаў у Чырвоную Армію.

Адначасова была накіравана група баявых суднаў для падтрымкі абараняючыхся войскаў. Многія матросы на іх былі мясцовымі жыхарамі, рачнікамі і рыбакамі. Большасць экіпажаў складалі гарадчукі, рачныя прафесіяналы з Давыд-Гарадка.

Капітанам вартавога судна "Сокал" быў Піліп Іванавіч Кулага (1885–1955), лоцманам – Іван Антонавіч Місюра (1893–1983) – абодва – з Давыд-Гарадка.

Жорсткія баі адбываліся ў ліпені за Давыд-Гарадок і Альшаны. Некалькі дзён адбівалі чырвонаармейцы наступаючых палякаў. Іх падтрымлівалі два баявыя судны "Сокол" і "Трохтомиров". Сваім агнём яны выбілі з урочышча Хабішча (каля Гарадка) палякаў і далі магчымасць адысці сваёй нешматлікай вайсковай групе на Тураў. У гэтых баях загінулі каля 30 чырвонаармейцаў, якія былі пахаваны ў Альшанах.

У жніўні 1919 года ўся Століншчына была акупавана белапалякамі, як тады іх называлі ўслед за белагвардзейцамі.

Польскі ўрад Ю. Пілсудскага ставіў сваёй мэтай стварэнне Польскай дзяржавы ў межах 1773 года. Гэта была гістарычная помста не толькі Расіі, але і Беларусі, якая вырвалася са шчыльных польскіх абдымкаў. Беларусь палякі лічылі сваёй тэрыторыяй і, у адрозненне ад немцаў, адразу ж пачалі ўстанаўліваць свае польскія парадкі.

Сваімі ворагамі палякі ў першую чаргу лічылі прадстаўнікоў беларускай савецкай улады і пачалі на іх сапраўднае паляванне. З дапамогай правакатараў былі арыштаваны ў Бярэжным першы старшыня Столінскага валаснога савета Майсей Цярэнцевіч Лазнуха, а ў Століне яго намеснік Сава Паўлавіч Тарадайчык. Абодва яны былі расстраляны ў Століне 17 жніўня 1919 года.

Адначасова быў схоплены пакінуты для арганізацыі падпольнай барацьбы старшыня Давыд-Гарадоцкага рэўкама Трафім Васільевіч Савіцкі. Ён быў расстраляны ў Велямічах.

Для арганізацыі барацьбы з акупантамі 3 верасня 1919 года ЦК КПБ выдаў пастанову "Ад падпольнай рабоце". Нягледзячы на жорсткія рэпрэсіі, барацьба з акупантамі ў тылу ворага працягвалася, палешукі пайшлі

ў партызанскія атрады. Як адзначалася ў дакументах ЦК КПБ, у Пінскім павеце было каля 500 партызанаў, якія дзейнічалі невялікімі кампактнымі групамі. Такія "лятучыя" атрады рабілі напады і імгненна знікалі, няўлоўнасцю і нечаканасцю дзеянняў прычыняючы вялікую шкоду палякам.

У ліпені 1920 года войскі Заходняга фронту пад камандаваннем М. М. Тухачэўскага, узмоцненыя неабходнымі рэзервамі, перайшлі ў наступленне. Яно было выключна імклівым і пераможным.

23 ліпеня быў заняты Пінск, адначасова была вызвалена і Століншчына. Трэці раз менш чым за тры гады тут пачала аднаўляцца савецкая ўлада. Мясцовыя органы ўлады выйшлі з падполля. Дамоў вярнуліся былыя паўстанцы і партызаны. Аднак на гэты раз канчаткова пазбавіцца ад палякаў не ўдалося.

У кіруючых колах камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы ў той час лунала ідэя сусветнай рэвалюцыі. Лічылася, што ўвесь белы свет гатовы абрынуцца ў рэвалюцыю і трэба толькі ўзбудзіць масавыя хваляванні. Гэтыя абстрактныя і сляпыя ідэі прывялі да нечаканых падзей на прыкладзе Польшчы.

Чырвоная Армія пераможна разбіла ўшчэнт польскія войскі і на плячах белапанства ўварвалася ў Польшчу. Мэта была зноў жа ідэалагічная і канкрэтная: дынамізаваць сітуацыю і дапамагчы сваім польскім братам зрабіць польскую рэвалюцыю. Але жыццё ўнесла свае карэктывы – больш глыбіннага, гістарычнага характару.

Для палякаў Чырвоная Армія была той жа расійскай арміяй, толькі пад чырвонымі сцягамі. І гэта расійская армія раптоўна падышла да Варшавы.

Тут польскія пралетарыі і браты і далі сябе знаць. Насуперак схемам бальшавікоў Чырвоная Армія пад сценамі Варшавы выклікала патрыятычны ўздым і антысавецкі рух.

Пакуль знясіленая ад хуткага і велізарнага праз ўсю Беларусь паходу Чырвоная Армія безвынікова чакала пралетарскага польскага паўстання, там імкліва ішлі адваротныя працэсы. Папулярнасць маршала Пілсудскага, войскі якога былі разгромлены і літаральна ўбіты ў Польшчу, пачала расці. Антанта была напагатове і імгненна аказала Польшчы вялікую ваенную дапамогу.

Польскія войскі жвава перайшлі ў контрнаступленне. Не маючы рэзерваў і дапамогі, Чырвоная Армія панесла паражэнне на польскай тэрыторыі і паспешна адступіла. Гэта было амаль бегства. Перамога Чырвонай Арміі аказалася вайсковай авантурай, адказнасць за якую павінны былі панесці кіраўнікі ў Маскве, ды і сам Тухачэўскі. Але цярпець прыйшлося беларусам, да якіх зноў вярнулася польская паншчына.

28 верасня палякі занялі Пінск.

Леніна даволі позна занепакоіла такое становішча, і толькі на другі дзень пасля страты Пінска ён піша запіску сакратару:

"Запросить условия потери Пинска, штабов и материальных частей при этом.

Была ли опасность известна раньше?"

Але было ўжо позна. Палова Беларусі была страчана.

У сувязі з цяжкай унутранай і міжнароднай сітуацыяй, у становішчы вайны на многіх франтах, Савецкі ўрад запрасіў міру. У Мінску было заключана перамір'е, якое ўступіла ў сілу 12 кастрычніка. Ваенныя дзеянні на Заходнім фронце спыніліся.

А на Палессі разыгралася новая трагедыя. З'явіліся балахоўцы. Гэта была так званая руская народная добраахвотная армія, камандзірам якой быў генерал-маёр белай арміі Станіслаў Булак-Балаховіч – авантурыст, антысеміт-пагромшчык і грабежнік. Ён служыў цару, бальшавікам, белагвардзейцам, палякам, але, у першую чаргу, самому сабе, сваёй кар ысці.

Летам 1920 года, стварыўшы Беларускую нацыянальную армію (каля двух тысяч клінкоў кавалерыі), ён перайшоў пад польскае камандаванне і дзейнічаў супраць Чырвонай Арміі на Палессі. Гэта ён захапіў Пінск, а потым, рухаючыся ўздоўж Прыпяці, заняў Давыд-Гарадок.

У той час, калі было заключана перамір'е паміж Расіяй і Польшчай, Булак-Балаховіч устанавіў кантакты з эмігранцкім урадам Беларускай Народнай Рэспублікі, які прызнаў яго войска сваім, заключыў пагадненне з кіраўніком Рускага антыбальшавіцкага камітэта Б. В. Савінкавым: атрымаў ад Пілсудскага зброю і згоду на ўтаржэнне на тэрыторыю Савецкай Беларусі.

Так званая Руская народная армія налічвала звыш 20 тысяч чалавек. Яна складалася з трох пяхотных і адной кавалерыйскай дывізій, палка данскіх казакаў і інш. Яна размясцілася на лініі Лунінец–Мікашэвічы–Тураў. Штаб балахоўцаў быў у Давыд-Гарадку.

У Давыд-Гарадок прыбыў напярэдадні ўтаржэння вядомы тэрарыст і авантурыст Барыс Савінкаў. У той час Гарадок з ваеннага пункту гледжання быў месцам бяспечным, утульным – і на поўнач, і на поўдзень. Для штаба гэта было зручна.

Аднак дзіўна сёння ўяўляць, што па вулачках ціхага Давыд-Гарадка бадзяўся некалі завадатай экстрэмістаў і палітычных забойц, кілер і таленавіты пісьменнік Б. Савінкаў – вядомы антыгерой многіх славутых прыгодніцкіх тэлесерыялаў савецкага часу. Сапраўды, Савінкаў і Булак-Балаховіч сядзелі ў Давыд-Гарадку нездарма. Яны вырашылі зрабіць падарунак бальшавікам якраз напярэдадні дня Кастрычніцкага пераваeasy роту. Петраградскі бунт яны вырашылі ўславіць па-свойму.

Утаржэнне пачалося 6 лістапада 1920 года захопам Турава. Яно суправаджалася бесчалавечнымі адносінамі да насельніцтва, дзікім гвалтам. Балахоўцы і савінкаўцы былі з ног да галавы запэцканы ў крыві.

Дакументы сведчаць, што тут камандзір аднаго з атрадаў загадаў забяспечыць яго для асабістай разбэшчанасці трыма самымі прыгожымі

дзяўчатамі 20-ці, 16-ці і 14-цігадовага ўзросту. Гэтае патрабаванне было выканана пасля растрэлу некалькіх жыхароў.

А наогул за час знаходжання ў Тураве балахоўцаў былі забіты 71 чалавек, пакараны экзекуцыямі і катаваннямі 635 жыхароў, згвалтавана звыш 100 жанчын. Было абрабавана ўсё яўрэйскае насельніцтва – каля чатырох тысяч чалавек.

Удар Булак-Балаховіча быў неспадзяваным, і ўжо на пяты дзень, 10 лістапада, пасля цяжкага бою быў заняты Мазыр. Яго "бацька" аб'явіў сталіцай Беларускай дзяржавы, сябе – яе начальнікам і галоўнакамандуючым, а свайму брату Язэпу прысвоіў званне генерал-маёра і назначыў на сваё месца.

Урад нованароджанай бандыцкай дзяржавы ўзначаліў прыехаўшы з Варшавы польскі стаўленік Алексюк. Эмігранцкі ўрад БНР Вацлава Ластоўскага і савецкі ўрад Аляксандра Чарвякова аб'яўляліся новымі гаспадарамі – звергнутымі.

Армія Булак-Балаховіча несла страшэнныя бедствы для народа. Вось што пісала мінская газета "Звезда" ў лістападзе (№ 79) аб "сталіцы" атамана Мазыры:

"Во время налета банд Балаховича в Речицком уезде расстреляно и изрублено 250 человек, в том числе много детей. Было несколько случаев выкалывания глаз.

В Мозыре зарегистрировано 1500 изнасилованных балаховцами женщин, среди них есть 60-летние старухи и девочки в возрасте 12 лет. Город имеет опустошенный и разграбленный вид".

Працягваючы наступленне, балахоўцы падышлі да Рэчыцы і Хойнікаў, але тут пацярпелі паражэнне ад войск 16 арміі (камандуючы А. І. Кук), якая перайшла ў контрнаступленне. Тут была разбіта адборная "дывізія смерці" і кавалерыйская дывізія. 20 лістапада 17 дывізія 16 арміі выбіла балахоўцаў з іх "сталіцы" Мазыра.

Аднак асноўнай частцы арміі Булак-Балаховіча ўдалося прарвацца скрозь акружэнне 33-й Кубанскай казацкай дывізіі і перайсці праз раку Пціч. 26 лістапада праз Жыткавічы напалову парадзелае войска атамана выйшла на чыгуначную станцыю Сінкевічы. Так закончылася крывавая авантура Булак-Балаховіча, яка працягвалася 20 дзён.

План камандавання Чырвонай Арміі аб поўным знішчэнні балахоўцаў здзейсніць не ўдалося. Войска іх размясцілася ў раёне – Тураў–Давыд-Гарадок–Лахва.

Умовы савецка-польскага перамір'я прадугледжвалі расфарміраванне падобных вайсковых злучэнняў. Палякі вымушаны былі гэта зрабіць, але адбылося гэта фармальна.

Сам атаман быў залічаны як генерал ў рэзерв польскай арміі. А балахоўскія атрады па 100–150 чалавек размясціліся ў нейтральнай зоне ў раёне Пінска, Лунінца, Давыд-Гарадка, Стаўбцоў, Нясвіжа – і яшчэ доўгі час выкарыстоўваліся антысавецкімі сіламі ў Польшчы для правядзен-

ня крывавых тэрарыстычных актаў на тэрыторыі Савецкай Беларусі. У канцы 1920 года закончылася Грамадзянскай вайна на Беларусі, вынікі яе былі супярэчлівымі – беларуская зямля зноў аказалася падзеленай.

Пасля пяцімесячных перамоў 18 сакавіка 1921 года ў Рызе быў заключаны Савецка-польскі мірны дагавор. З савецкага боку ён быў падпісаны дэлегацыямі РСФСР (А. А. Іофе), БССР (Я. С. Ганецкі), УССР (Э. І. Квірынг). Савецкі бок уступіў Польшчы Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну.

Польшча абавязвалася даць беларусам, украінцам і рускім усе правы, якія забяспечвалі б свабоднае развіццё іх культуры, мовы, выканання рэлігійных абрадаў.

Аднак час паказаў, што Польшча не выканала ўзятых абавязацельстваў. Яна так і не змянілася за мінулыя стагоддзі, і з сярэдневечча засталася краінай уціску і двайнога стандарту ў дачыненні да другіх нацый, сваіх суседзяў.

Амаль дваццаць гадоў паступовa і метадычна праводзіла яна на так званых “крэсах усходніх” бязлітасную акупацыйную палітыку, галоўнай ідэяй якой былі старадаўнія мэты апалячвання і акаталічвання беларусаў і ўкраінцаў.

Уздоўж савецка-польскай граніцы былі расселены асаднікі-палякі, былыя ўдзельнікі вайны з Савецкай Расіяй. Яны атрымлівалі ад дзяржавы за бясцэнак асаду (участак зямлі ў 20–45 гектараў), крэдыты на ільготных умовах, будаўнічыя матэрыялы.

Асаднікі трымалі ў асадзе тутэйшае насельніцтва і межы Савецкай Беларусі і Савецкай Украіны. Узброеныя, яны выконвалі паліцэйскія абавязкі, дапамагалі ў ахове граніцы, былі актыўнымі праваднікамі варожага СССР польскага курсу і будучымі легіянерамі для паходу на Усход. Але вайна абрынулася на Польшчу з захаду, і хутка палякі на сваёй скуры зразумелі сэнс ўсеславянскага адзінства ў нямецкіх лагерах смерці разам з беларусамі, украінцамі, рускімі.

Да гэтага заставалася дваццаць гадоў. На Заходнюю Беларусь сышоў час смутку.

## ДАТЫ З ГІСТОРЫІ ДАВЫД-ГАРАДКА

| | |
|---|---|
| 980. | Першае ўпамінанне Турава. |
| | Перасяленне хатомлян на Гарынскае гарадзішча. |
| 1005. | Хрышчэнне жыхароў Тураўскай зямлі. |
| 1019. | Першае ўпамінанне Брэста. |
| Каля 1055--1112. | Гады жыцця князя Давыда Ігаравіча. |
| 1067. | Першае ўпамінанне Мінска. |
| 1080--1083. | Княжанне Давыда ў Тмутаракані. |
| 1088. | Пачатак княжання Давыда ва Уладзіміры-Валынскім. |
| 1097. | Першае ўпамінанне Пінска. |
| 1100. | Заснаванне Давыд-Гарадка князем Давыдам. |
| Каля 1113 – каля 1190. | Жыціе свяціцеля Кірылы Тураўскага. |
| 1116(?). | Жаніцьба князя Усевалада Давыдавіча з дачкой Уладзіміра Манамаха Агаф'яй. |
| 1127. | Першае ўпамінанне Гарадзецкага княства і Гарадка. |
| 1141(?). | Памёр Усевалад Давыдавіч, першы князь Гарадзецкі. |
| 1151. | Удзел Барыса Усеваладавіча ў абароне Кіева. |
| 1161. | Удзел у абароне Кіева Глеба і Мсціслава Усеваладавічаў. |
| 1183. | Удзел Мсціслава Усеваладавіча ў паходзе на полаўцаў. |
| 1240. | Першае абрабаванне Гарадка татарамі. |
| 1330. | Уваходжанне Гарадзецкага княства ў Вялікае княства Літоўска-Рускае. |
| Сярэдзіна XIV стагоддзя. | Упамінанне Гарадка у "Списке городов русских". |
| 1382. | Жаніцьба князя Гарадзецкага Давыда Дзмітрыевіча з дачкою Альгерда Марыяй. |
| 1410. | Удзел князя Гарадзецкага Міткі Давыдавіча ў бітве пад Грунвальдам. |
| 1432--1436. | Удзел князя Міткі ў паўстанні Свідрыгайлы. |
| 1440. | Гібель князя Міткі. Канец дынастыі князёў Гарадзецкіх. |
| 1445–1486. | Гарадком валодае князь Свідрыгайла. |
| 1490–1520. | Гарадком Давыдавым валодаюць князі Яраславічы. |
| 1503. | Разгром татар каля Гарадка князем Сямёнам Слуцкім. |
| 1521–1551. | Гарадком валодае каралева Бона. Правядзенне "валочнай памеры". |
| 1525. | Даравальная грамата каралевы Боны мастаку Навошы. |
| 1526. | Разгром татараў К. Астрожскім і рассяленне іх на Піншчыне, у тым ліку і ў Гарадку. |
| 1-я пал. XVI стагоддзя. | Дзейнасць мастака Навошы. |

1551. Гарадок Давыдаў стаў прыватнаўласніцкім горадам князёў Радзівілаў з Магдэбургскім правам.
1555. Першае ўпамінанне Століна.
1570. Першае абазначэнне Гарадка Давыдава на карце Артэлія.
1595. Захоп Гарадка Давыдава казакамі Налівайкі.
1605. Першы інвентар Замка Гарадка Давыдава.
1631. Упамінанне аб вырабе агнястрэльнай зброі, існаванне рудні, плывучага млына, утаймаванні Чартарыі ў Гарадку.
1648--1651. Паўстанне пад кіраўніцтвам Івана Багдашэўскага.
1651. Пакаранне смерцю 18 кіраўнікоў паўстання.
1655. Захоп Замка і яго разбурэнне расійскімі войскамі.
Сярэдзіна Адкрыццё Георгіеўскай (Юр'еўскай) царквы.
XVII стагоддзя. Росквіт іканапіснага мастацтва ў Давыд-Гарадку.
1670. Упамінанне аб існаванні Верхняга і Ніжняга замкаў.
1678. Канчатковае выгнанне ўніятаў з Плотніцы.
1696. Забарона беларускай мовы ў Рускай Літве.
1724. Стварэнне Царскіх варотаў Георгіеўскай царквы.
1760. Спыненне работ па ўмацаванню Замка.
1791. Скасаванне дзяржаўнасці Рускай Літвы ў Рэчы Паспалітай.
1793. Уваходжанне ў склад Расійскай дзяржавы.
1796, 22.01. Кацярынай II зацверджаны герб Давыд-Гарадка.
1800. Перавод мяшчан Давыд-Гарадка ў сялянскае саслоўе князем Радзівілам.
1816. Заснаванне ў Століне першай на Беларусі сельскагаспадарчай школы.
1836, 21.04. Сенат Расійскай імперыі пацвердзіў рашэнне Мазырскага павятовага суда аб вяртанні гараджан Давыд-Гарадка ў саслоўе мяшчан.
1863. Адкрыццё Давыд-Гарадоцкага народнага вучылішча.
1864. Паражэнне Р. Траўгута ад расійскіх войск ля вёскі Калоднае.
1866. В. І. Дунін-Марцінкевіч напісаў камедыю "Пінская шляхта" аб жыхарах вёскі Альпень.
1885. Заснаваны Столінскі парк ў Манькавічах.
1891–1955. Гады жыцця камбрыга К. С. Петраўца.
1906. Пачатак беларускіх вечарынак ў Давыд-Гарадку.
1908. Адкрыццё Давыд-Гарадоцкага гарадскога вучылішча.
1912. Адкрыццё Свята-Казанскай царквы.
1915–1917. Дзейнасць часовага ваеннага шпіталя.
1918--1919. Палескае паўстанне і барацьба з пятлюраўцамі і іншымі ўкраінскімі нацыяналістамі.
1919. Барацьба з польскімі захопнікамі.
1921, 18.03. На аснове Рыжскага дагавору Заходняя Беларусь (у тым ліку і Давыд-Гарадок) увайшлі ў склад Польшчы.


Гарадок Давыдаў
у Пінскім павеце Брэсцкага ваеводства ў XVI ст.
Умоўныя абазначэнні
– замкі
– цэнтры паветаў
– цэнтры валасцей
– другія населеныя пункты
БОБРУЙСК– гарады
БЫХОВ – мястэчкі
Буйничи – сяло
– асноўныя дарогі
–Пінскі павет
ПИНСК
ГОРОДОК ДАВЫДОВ
СЛУЦК
НЕСВИЖ
КЛЕЦК
СЛОНИМ
ЛЯХОВИЧИ
МОЗЫРЬ
ТУРОВ




МАЗЫРСКІ ПАВЕТ у 2-й палове XIX ст.

# Схема замка Гарадка Давыдава ў XVI – XVIII ст.




1. Горны замак
2. Дольны замак
3. Рака Гарынь
4. Рака Няволя
5. Рака Чартарыя
6. Ладзяны млын
7. Плаціна
8. Пад'ёмны мост
9. Абарончы роў
10. Камора ( мытня )

Работа
Кузьміча Л. М.



# Пасведчанне

## аб рэгістрацыі герба горада Давыд-Гарадка

Разгледзіўшы герб горада Давыд-Гарадка, які зацверджаны рашэннем Гарадскога выканаўчага камітэта ад 28 чэрвеня 1997 года, Дзяржаўная геральдычная служба Рэспублікі Беларусь прыйшла да высновы, што гэты герб адпавядае ўсім патрабаванням геральдыкі і гістарычным традыцыям горада Давыд-Гарадка і быў нададзены 22 студзеня 1796 года.

Герб уяўляе сабой так званы французскі шчыт: у чорным полі рака са срэбранай пристанню з дзвюма брамамі і залатым суднам з таварам у тры цюкі (1:2).

Рашэннем начальніка Дзяржаўнай геральдычнай службы Рэспублікі Беларусь ад 1 снежня 1997 года герб горада Давыд-Гарадка ўключаны ў Гербавы матрыкул Рэспублікі Беларусь, што з'яўляецца актам яго дзяржаўнай рэгістрацыі.

Начальнік Дзяржаўнай геральдычнай службы Рэспублікі Беларусь — Насевіч.

Пасведчанне аб рэгістрацыі герба горада Давыд-Гарадка, нададзенага 22 студзеня 1796 года



Гарыць Васкрасенская царква
на Замкавай гары
5 мая 1936 года.
Фота А. Зубея



Адкрыты Княжыя магілы.
1937 год.
Фота А. Зубея



Замкавая гара з боку Гарыні.
Сучасны выгляд.




Памятны знак на Замкавай гары.
Устаноўлены ў 1987 годзе.



Князь Давыд яшчэ ў майстэрні
скульптара Дронца А. В.



Навагодні карнавал.



Юр'еўская царква. 1648 год.
Сучасны выгляд.



Іканастас Юр'еўскай царквы.
Пачатак XVIII ст.



Асноўны абраз іканастаса “Тайная вячэра”.



Царскія вароты (пазалочаная разьба).1724 г.
Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.




Мяшчане Давыд-Гарадка. Канец XIX ст.
Рэпрадукцыя.




Удзельнікі Палескага паўстання 1918 – 1920 года – жыхары Століншчыны.
Фота 1939 г.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

Советская историческая энциклопедия, в 18 томах, М. 1961–1976.
Советская военная энциклопедия, в 8 томах, М., 1976–1980.
Беларуская савецкая энцыклапедыя, у 12 тамах. Мн., 1969–1975.
Беларуская энцыклапедыя. 1–9 тамы. Мн., 1996–1999.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. 1–5 тамы, Мн., 1993–1999.
Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, у 5 тамах, Мн., 1984–1988.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мн.,
т. 1. Брэсцкая вобласць. 1984.
т. 3. Гомельская вобласць. 1985.
Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993.

* * *

Татищев В. Н. История российская. Т. 3–4 , М., 1968 и 1972.
Карамзин Н. М. История государства Российского. Кн. 1, Ростов-на-Дону, 1989.
Соловьев С. М. История России с древнейших времен, кн. I и VI. М., 1959 и 1961.
Ключевский В. О. Курс русской истории. М., т. III, 1988.
Нечволодов А. Сказания о русской земле. Т. 2 и 4. Петроград, 1913.
Конисский Г. История Руссов или Малой России, СПб, 1846.
Афанасьев А. Н. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 1–3, М., 1866–1869.
Живописная Россия. Семенов-Тянь-Шанский П. П., т. 3. Литовское и Белорусское Полесье. СПб, 1882.
Очерки истории СССР, в 9 томах, М., 1957–1970.
История СССР с древнейших времен до наших дней. Т. 1–6, М. 1966–1972.
История Польши. Т. 1 и 2. М., 1956 и 1958.
История Украинской ССР. Т. 1–2. Киев, 1969.
Костомаров Н. И. Богдан Хмельницкий. М., 1984.

* * *

Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1–3., Мн., 1972–1973.
Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1., Мн., 1994.
Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі. Зб., Мн., 1992.
Смоліч Арк. Геаграфія Беларусі. Вільня. 1923.
Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.
Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн. 1991.
Юхо Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн. 1991.
Афанасий, архиепископ. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес. 1990.
Мельников А. А. Путь непечален. Мн., 1992.
Ширяев Е. Е. Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Мн., 1991.
Храналогія гісторыі Беларусі. Мн., 1992.
Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959.

* * *

Геродот. История. М., 1972.
Повесть временных лет., в 2-х томах. М., 1950.
Полное собрание русских летописей. Т. 32 и 35, М., 1975 и 1980.

Тихомиров М. Н. Русское летописание. М., 1979.
Слова пра паход Ігараў (пераклад М. А. Саскевіча). Мн., 1999.
Якімовіч Р. Давыд-Гарадок (на польскай мове). Пінск, 1939.
Ермаловіч М. І. Старажытная Беларусь. Мн., 1990.
Чаропка В. К. Імя ў летапісе. Мн., 1994.
Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Мн., 1974.
Лысенко П. Ф. Туровская земля. Мн., 1999.
Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии. Мн., 1975.
Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Мн. 1989.
Воспоминание о древнем православии Западной Руси. М., 1867.
Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб, 1857.
Бядуля З. Жыды на Беларусі. Мн. 1918.
Сагановіч Г. І. Невядомая вайна. Мн. 1995.
Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн. 1992.
Пирожник И. И., Аношко В. С., Кот И. С. Дорогами дружбы. Мн. 1985.
История гражданской войны в СССР. Т. 3–5. М., 1958–1960.
Селиванов П. А. Люди высокого долга. Мн., 1977.

Часопісы:

Спадчына – № 3, 1991 – № 6, 1996.
Беларуская мінуўшчына – № 1, 1991 – № 1, 1998.
Беларускі гістарычны часопіс – № 1, 1993 – № 1, 2000.

Навукова-папулярнае выданне

**Шэлехаў Міхаіл Уладзіміравіч**

**ДАВЫД-ГАРАДОК.**
**ЧАС І ЛЮДЗІ**

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Тамашэвіч.*
Рэдактары *С. П. Жлоба* і *Р. П. Пратасевіч.*
Рысунак на вокладцы художніка *М. М. Шэлехава.*

Здадзена ў набор 03.08.2000. Падпісана да друку 7.09.2000. Фармат 60x84 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Ум.-друк. арк. 17,67 + 0,93 укл.
Тыраж 2000 экз. Заказ 2440.

Падатковая льгота – Агульнадзяржаўны класіфікатар
Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.600.

Упраўленне па друку Брэсцкага аблвыканкама
ЛВ № 285 ад 22.04.1998.
224013, Брэст, пр-т Машэрава, 75/1.

Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня,
225320, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

## Шэлехаў Міхаіл Уладзіміравіч



Нарадзіўся 18 кастрычніка 1926 года ў вёсцы Бахаравічы Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Да вайны закончыў восем класаў Дудзіцкай ( Дудуткі ) сярэдняй школы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны з кастрычніка 1942 года — у партызанскім атрадзе імя Суворава 2-й Мінскай брыгады, пазней — у Пятай ударнай арміі Першага Беларускага фронта.

Дэмабілізаваны ў 1947 годзе з Германіі. Старшы сяржант. Тройчы паранены. Узнагароды: ордэны Айчыннай вайны I ступені, Чырвонай Зоркі, медалі "Партызану Айчыннай вайны" I і II ступеняў, "За ўзяцце Берліна","За перамогу над Германіяй", "За доблесную працу" і інш.

У 1951 годзе закончыў гістарычны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Працаваў у сельскіх школах Столінскага раёна, у 1962—1986 гадах —дырэктарам 2-й сярэдняй школы Давыд-Гарадка, з 1994 года — на пенсіі.

Выдатнік народнай адукацыі БССР і СССР, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Жонка Ніна Аляксандраўна Шэлехава — заслужаная настаўніца БССР, узнагароджана ордэнам "Знак Пашаны". Трое дзяцей, пяць унукаў.

Краязнавец. Друкаваўся ў газетах "Звязда", "Настаўніцкая газета", "Заря", "Народная трыбуна", "Навіны Палесся", "Жыткавіцкія навіны" і інш. Серыі гістарычных нарысаў выйшлі ў мясцовым друку і ў гісторыка-краязнаўчым зборніку "Берасцейскія карані-98"; выступаў па радыё і на тэлебачанні.

Кіраўнік арганізацыі ветэранаў Давыд-Гарадка, дэпутат Столінскага раённага Савета.

ISBN 985-6093-26-0